# Алесь Асіпенка

ТОМ 2

## ЖЫТА
## ПЯЦЁРКА АДВАЖНЫХ

АПОВЕСЦІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84Бел7
А90

Тэкст друкуецца па выданнях:
Асіпенка А. Выбраныя творы.
У 2-х т. Т. 1.— Мн.: Маст. літ., 1979.— 257—461 с.
Асіпенка А. Пяцёрка адважных.— Мн.: Юнацтва, 1985.— 160 с.

Во второй том Собрания сочинений вошли повести «Жито», «Пятерка отважных». Теме восстановления послевоенной белорусской деревни посвящена повесть «Жито». Повесть «Пятерка отважных» — о детях в военное лихолетье.

А $\frac{4702120201-111}{М 302(03) - 89}$ 98—89

ISBN 5-340-00304-3 (т. 2)
ISBN 5-340-00302-7

# ЖЫТА

АПОВЕСЦЬ

## 1

Апошнія сорак вёрст Язэп Каліна дабіраўся цягніком, які вёз на пераправу цераз Дзвіну маставую ферму. Сядзець давялося на гладкай, нешырокай бэльцы. Было страшнавата. Унізе, проста пад нагамі, мільгала зямля: часам жоўты пясочак, парослы чэзлай травой, а часам новыя шпалы з шэрым жвірам між імі. На паваротах ферма нахілялася, трэба было моцна трымацца рукой за стальны прэнт, каб не ўпасці пад колы.

Цягнік гэты быў першы, які адправілі па толькі што адноўленай чыгунцы, а ён, Язэп, вяртаўся са шпіталя, і яму не цярпелася як найхутчэй трапіць дахаты.

Летась пад Кіевам Язэп папаў пад агонь шасціствольнага мінамёта. З таго дня восем месяцаў вазілі яго па шпіталях, рабілі аперацыі і вось нарэшце выпісалі, адпусцілі дамоў. Інвалід першай групы.

Тым, чый дом быў яшчэ на акупіраванай зямлі, шпіталь не выдаваў праязных пасведчанняў, а ўладжваў на працу ў гарадку. Такі лёс чакаў і Язэпа. Але надарыўся чалавек з-пад Ярцава, таксама інвалід першай групы. Удвух яны схадзілі да начальніка шпіталя, упрасілі яго, каб даў праязное пасведчанне да Ярцава і Язэпу. Ім памагла тая акалічнасць, што інвалідаў трэба было суправаджаць каму-небудзь з медперсаналу, а людзей не было, і начальнік падпісаў Язэпаву просьбу.

У Ярцава яны прыехалі ў той дзень, як пачалося летняе наступленне нашых войск, і Язэп паехаў дамоў. За Смаленскам, у Рудні, яго быў затрымаў камендацкі патруль,— куды ты, маўляў, едзеш, калі там яшчэ ідуць баі? — але камендант адпусціў: дабраўся да Рудні, дык няхай ужо едзе.

Паравоз бег імкліва, нідзе не прыпыняўся. Неўзабаве ўдалечыні паказаўся горад — напрасткі вёрст дзесяць,— але адсюль чыгунка крута паварочвала на поўдзень, агінала аэрадром, каб потым, ужо з захаду, падысці да ракі, а адтуль на таварную станцыю.

Эшалон спыніўся ля Дзвіны. Маста цераз раку не было, і Язэп здагадаўся, што фермы гэтыя, на якіх ён прыехаў, везлі сюды. Ля пераправы бегалі людзі, па пояс голыя і чорныя ад загару,— салдаты будаўнічага батальёна. На самым беразе, ля вады, двое абчэсвалі свежае бярвенне. На траве густа жаўцелі трэскі. Яны пахлі жывіцай і яшчэ, здаецца, грыбамі, суніцамі, усім беларускім лесам, якога Язэп не бачыў ужо тры гады. Язэп узяў трэску, панюхаў і расчуліўся. Даўгалыгі салдат са светла-ружовымі шрамамі на загарэлай спіне, мабыць, заўважыў гэта:

— Ну што, сяржант, адваяваўся?.. А нам яшчэ — ого, колькі ісці да самай яго бярлогі!

Язэп адчуў, што салдат зайздросціць яму. Зайздросціць, хоць у яго, Язэпа, матляецца пусты рукаў гімнасцёркі. Ён ужо дома, а салдату трэба ісці да Берліна. Зрабілася крыху ніякавата.

— Не вытрываў, во — на бэльцы прыехаў. Думаў, жывы не дабяруся,— сказаў Язэп, бо нешта трэба было сказаць.

— Тут не ўтрываеш,— згадзіўся салдат.— Па гарачым вуголлі пайшоў бы, а ўсё не час. Ты сам адкуль будзеш?

— Недалёкі... Вёрст дванаццаць за горадам. Калі добрым крокам ісці, дык гадзіны дзве, не больш. Ды ў мяне, бачыш, нага параненая...

— Гвазданула цябе здорава, але затое дома. А дом — ён не франтавая зямлянка. Адным словам — дом. Закурыць, можа, ёсць? Нам, тылавікам, не дужа вялікі паёк даюць. Усё на фронт. Ды мы і не крыўдуем. Цяпер налёты рэдка бываюць, ды і вайне канец відзён — мо жывыя выбавімся.

Язэп выцягнуў капшук, прысеў побач з салдатам. Той не спяшаючыся круціў цыгарку.

— Тут, кажуць, немец усіх выгнаў у Германію. А хаты спаліў...

— Гэта ён умее,— адказаў Язэп і раптам спалохаўся: а што, калі і іх вёску спалілі немцы, а людзей вывезлі ў Германію?..

Салдат курыў кароткімі зацяжкамі, гаварыў:

— Дарогі тут замініраваны... Асцерагайся... Нашы паехалі ў лес — траіх забіла... Можа, у горадзе спынісся... Хоць і тут не соладка будзе... Горад, браце, таксама ў руінах.

— Не, трэба ісці. Не ўцярплю, брат... Можа, ліха нас абышло стараной.

— Яно так,— згадзіўся салдат.— Раіць лёгка — цярпець цяжка.

Ён памог Язэпу перабрацца на той бок ракі. Там пастаялі. Салдат папрасіў яшчэ махоркі і пайшоў назад. А Язэп усё не мог зрушыць з месца, бо неяк цяжка было зрабіць першы крок, асабліва цяпер, калі гэты доўгі, цыбаты чалавек пасеяў у душы трывогу...

Потым Язэп зрабіў адзін крок, другі і ўжо, забыўшыся на ўсе думкі, паволі пайшоў па горадзе.

Ісці было цяжка. Лямкі рэзалі плечы, а рэчавы мяшок спаўзаў на левы бок. Скрутак шыняля сціскаў шыю. Балела нага. Дарога праз горад здалася бясконцай.

Нарэшце Язэп выйшаў на Дзюндзеўскае поле. Спыніўся. Здзіўлена азірнуўся. Усё: дарога, невялічкі Тарчкоўскі равок з рэдкімі кустамі глухога алешніку, балацявінка на ўскрайку поля, жаўтаваты пясчаны кар'ер пад гарой — усё было знаёмае і нейкае чужое. Ілаўскі лес і сасновы бор зніклі. Вачам адкрывалася ўзгоркавая нізіна, перарэзаная рудымі равамі. Яна прападала ў бялесай смузе — і нідзе ніводнай хаты. Толькі дзе-нідзе пад узгоркамі тырчалі купкамі дрэвы — па тры-чатыры разам. То былі прысады ля хат. Язэп хацеў хутчэй убачыць сваю вёску, але адсюль яе закрываў Мішкаўскі пагорак.

Абапал дарогі то там то сям тырчалі калкі з наўскос прыбітымі да іх фанеркамі: «Асцярожна! Міны!» На шчасце, Язэп убачыў на дарозе танкавы след. Узрадаваўся яму і пасігаў. Хацелася хутчэй дабрацца да таго Мішкаўскага пагорка, з якога можна будзе ўбачыць сваю вёску.

Прыпадаючы на левую нагу, ён чыкільгікаў хутка, як толькі мог. Вось нарэшце і пагорак. Язэп спыніўся, доўга шукаў вачыма вёску і не пазнаваў родных мясцін.

Бурая, выгінастая дарога збягала крута ўніз, да рэчкі Паланіцы, а там, як бы наткнуўшыся на вялізны чорны камень, паварочвала ўлева, на луг. Дарогі гэтай да вайны не было. За лугам відаць былі тры курганы. Язэп здагадаўся, што на іх раней рос лес. Лес высеклі, і курганы цяпер здаваліся вялікімі і пляшывымі. Недзе за лесам, пад

гарою, была іх вёска. Недзе тамраслі тры бярозы, абвешаныя грачынымі гнёздамі, недзе там пад акном шумела чаромха, і пах яе кветак вясною кружыў галаву. Ні вёскі, ні бяроз, ні чаромхі — нічога не было.

Трэба было вяртацца назад, у горад. Але яго цягнула на стары бацькаў сэдас. І Язэп, адпачыўшы, паклыпаў упіз.

...Ад вёскі асталіся тры ці чатыры коміны — не разабраць чые. Затое сваё дворышча Язэп пазнаў адразу. І комін пазнаў. Калі пераклалі печ у хаце, дык яна дыміла — не хапала цягі, і тады пячнік прыладзіў зверху стары бітон. Расла і чаромха на дварышчы, але не тая, а іншая, маладзейшая, якую пасадзілі гады за тры да вайны.

Забыўшыся на засцярогу салдата, на міны, Язэп пайшоў да пажарышча напрасткі па агародзе, зарослым густым быльнягом. На дварышчы ён скінуў з плячэй мяшок, паваліўся на гарачую, прапахлую палыном зямлю.

Было вельмі ціха і жудасна. І яшчэ была нечалавечая злосць. Ад яе распірала грудзі ды вакол шыі ўсё тужэй і тужэй сціскаўся каўнерык. Язэп хацеў расшпіліць гузікі, але не мог паварушыцца. Усё цела балела, як тады, калі ён апрытомнеў у палявым шпіталі. Ён ужо не верыў, ці зможа ўстаць калі. І чаго было ехаць? Трэба было дачакацца лепшых дзён у тым заволжскім гарадку, дзе лячыўся. Было шкада сябе. Навошта гэтыя пакуты? І ці скончацца калі?.. Потым Язэп страціў адчуванне часу, месца. Ляжаў пад сонцам, на зямлі, што пахла травой, кветкамі, цеплынёй...

Ён ачнуўся ад жудаснага крыку. Нешта даўно чутае і як бы чалавечае, нейкая туга, а можа, роспач былі ў тым крыку. Язэп азірнуўся і ўбачыў на коміне старога крумкача. Той, пазіраючы на Язэпа, выцягваў шыю, крычаў: крум-м... крум-м-м...

«Як над мерцвяком крычыць»,— падумаў Язэп. Ён узяў кій, шпурлянуў ім у крумкача. Кій ударыўся аб комін. Крумкач паляцеў. «Пасып яму солі на хвост!.. А па кій трэба ісці»,— узлаваўся Язэп.

Кій ляжаў на бітай цэгле. Язэп палез па яго. Падняў, абапёрся. Навокал рос палын, высокі, белаваты, і густая зялёная сакавітая трава. Сярод яе дзе-нідзе чарнелі папялішчы. На адным з іх, здалося Язэпу, хтосьці ляжаў. Ён нават спалохаўся. Няўжо немец? Паранены? А можа, наш? Чаму наш? Нашага падабралі б. Пэўна — немец. Што ж з ім рабіць? Чалавек прыўзняўся на калені і ўпаў. Праз

палын дрэнна відаць, што ён там робіць. Чаму не ўстае? I раптам Язэпу падумалася, што нехта падарваўся на міне і, мабыць, гіне адзін сярод гэтай пустэчы. Цяпер ужо не было часу раздумваць. Чалавек трапіў у бяду...

Язэп кінуўся туды. Па густой траве ісці было цяжка, але Язэп ні на хвіліну не спускаў вачэй з чалавека. Потым, калі палыновыя зараслі не перашкаджалі зроку, Язэп убачыў, што гэта жанчына.

Яна ляжала на жываце і штосьці цягнула з ямы. Ён бачыў яе сагнутую ад натугі спіну і парэпаныя ступні, што ўпіраліся ў зямлю пальцамі.

— Пачакайце, я памагу вам,— сказаў Язэп, узрадаваны, што сустрэў жывога чалавека, што прыйшоў сюды недарма.

Жанчына скаланулася, выпусціла з рук мех. Абапёршыся на рукі, прыўзнялася, глядзела на Язэпа перапалоханымі ўшчэнт вачамі. Язэп адразу пазнаў яе — цётка Таццяна. Яна таксама пазнала яго, хоць, мабыць, з перапуду, ніяк не магла даўмецца, адкуль ён паявіўся.

— Авой, Язэпка, ці гэта ты, дзетка маё?..

У Язэпа трэсліся вусны. Ён не мог вымавіць ніводнага слова.

З Міхасём Іванёнкам — Таццяніным сынам — Язэп служыў у адной часці. Разам пачыналі вайну, разам адступалі, спалі пад адным шынялём, елі з аднаго кацялка, дзялілі напалам чэрствы сухар ды марылі пра той далёкі час, калі вернуцца дахаты. Потым здарылася так, што Міхась Іванёнак прапаў без вестак у часе разведкі боем. I вось цяпер яму, Язэпу, трэба будзе расказаць пра Міхасёву смерць.

«Няхай бы я сустрэў каго-небудзь другога і яму расказаў пра смерць Міхася,— падумаў ён.— Тады не я, а нехта іншы быў бы вешчуном смерці».

— Добры дзень, цётка Таццяна,— пачаў ён, каб неяк адцягнуць час і не даць цётцы запытаць пра сына.— А я стаю на дварышчы ды бачу — нехта корпаецца тут. Думаў, немец...

Цётка Таццяна паднялася з зямлі, абтрэсла пясок з падала і як бы пачала апраўдвацца перад Язэпам:

— Яму, во, адкапала... Жыць, дзетка маё, неяк трэба. Усё роўна людзей нямашака, і калі яшчэ вернуцца — адзін бог ведае.

Яна раптам загаласіла, захлынулася ад слёз. Язэп не ведаў, што рабіць, як суцяшаць цётку. Стаяў, нібы віна-

ваты ў тым, што вось ён вярнуўся, а яе Мішка загінуў. Цётка Таццяна перастала плакаць, падняла з зямлі сапёрскую рыдлёўку і неяк зухавата сказала:

— Во ўжо здзівіцца Даша. Яна цябе, дзетка маė, часта ўспаміналa, як ты яе яблыкамі частаваў.

Язэп ніяк не мог успомніць, калі ён частаваў Дашу яблыкамі. Яго бянтэжыла іншае: чаму цётка не пытае пра Мішку? А што, калі яна ўжо ведае пра яго смерць? Можа, даўно звыклася. Тады навошта яму ўсчынаць гаворку?

— Дзе ж мае? — запытаўся ён.

— Пагналі іх... Божачка, што ж мы нагараваліся тут. Ды і ты, во, без рукі, дзетка маё любае.— Яна зноў заплакала.— Дык што ж мы стаім? Ты ж, во, з дарогі... Пайшлі, Хвёдаравіч. Дзед мой табе ўзрадуецца. Хоць, як той казаў, абяднелі мы за вайну, але ж не зусім згалелі.

Язэп зайшоў на сядзібу па рэчавы мяшок. Хацеў быў несці сам, але цётка Таццяна не дазволіла. Закінула мяшок за плечы, пайшла паперадзе Язэпа.

— А мы тут, дзетка маё, напакутаваліся,— як бы здалёк далятaлі да Язэпа яе словы.— Анягож, хапілі гора поўніцай: то немцы, то паліцаі, то казакі нейкія прытаўкліся, каб іх немач. І ўсё дай ты дай, а ледзь што — страляюць. Думалі, і жывыя не вырабімся з гэтай калацечы.

Цётка Таццяна звярнула з дарогі на даўнюю сцежку, якой, бывала, хадзілі ў Папоўскі роў у арэхі і ягады. Сцежка зарасла і цяпер ледзь была відна сярод густой вахкаватай травы. Ісці па ёй было блага, і Язэп не мог ўгнацца за цёткай. Яна, прайшоўшы наперад, чакала яго і шкадавала, што такі хворы.

— Не пашанцавала табе, дзетка маё,— казала яна і выцірала вочы кулаком.— Хоць яно і так добра, што на сваіх нагах вярнуўся. Божа мой, наглядзеліся мы тут усяго. А што народу перацёрлася, дык і не пытай лепей. Петракову сям'ю вунь усю вынішчылі. Самога ў Тарчкоўскім рове застрэлілі, сына ў горадзе на базары павесілі, а яе, бедную Насту, людзі хавалі месяцы два, потым нехта падказаў паліцыі, дык ноччу забралі, і ніхто не ведае, што сталася.

— А Клава дзе?

— З-за яе ўсё і пачалося,— як бы ўзлавала цётка.— Тут у нас яшчэ на пачатку вайны палонец адзін атабарыўся. Відны такі малец. Потым знік быў, калі пачалі палонных лавіць. Шкадавалі, што загінуў, а ён у пачатку сорак другога аб'явіўся ў лесе. І не адзін, дзетка маё. Ну, Клаў-

дзя да яго і драпанула. У атрад, значыць. Во і пачалося пасля. Немцы трасуць, паліцыя само сабой. Потым пачалі заложнікаў хапаць і парцізанскія сем'і нішчыць. Нагараваліся — не давядзі божа... Ты ж, дзетка маё, здаецца, некалі гуляў з Клаўдзяй?

Яна запыталася так нечакана, што Язэп адчуў, як пачырванеў: зрабілася неяк сорамна, а чаму — і сам не мог зразумець.

— Дзе ж яна цяпер... Клаўдзя?

Цётка Тацяна неахвотна адказала:

— У сорак трэцім вясной яшчэ жывая была, а цяпер ужо і не ведаю.

А Язэпу вельмі хацелася ведаць пра Клаўдзю ўсё. На фронце, а потым у шпіталі ён не раз успамінаў яе. Тады, да вайны, ён, здаецца, не любіў яе так, як на фронце.

Клава была для яго і самая прыгожая, і самая разумная дзяўчына. Цяпер, калі цётка Тацяна расказала, што яна першай пайшла ў партызаны, Клава стала яшчэ і самая адважная. Было шкада, што цётка нічога не ведае пра яе. Але распытваць пра Клаву ён не адважваўся.

Нарэшце яны дайшлі да Папоўскага рова. Цётка Тацяна першая пайшла ўніз па кручы. Язэп за ёю. Каб не ўпасці, трымаўся за кусты.

Унізе было не так горача, як наверсе. Недзе ў кустах звінеў па каменьчыках ручай. Адтуль павявала халадком. Вузенькая сцежка вілася па кручы між кустоў, то лезла ўгору, то спускалася ўніз, ледзь не да самай вады. Кусты былі вельмі густыя, толькі над галавой сінела неба, чыстае, без хмурынкі.

Потым сцежка выбегла на маленькую палянку, якую з трох бакоў абступала круча. Тут, пад гарой, у густых хмызняках, і тулілася зямлянка. Ля зямлянкі стаяў сташок сена, а пад ім валяўся ўверх поўсцю кажух.

Мабыць, пачуўшы чалавечыя галасы, з зямлянкі вылез лысаваты, драбнатвары Даніла Іванёнак, Міхасёў бацька. Ён часта-часта заморгаў рудымі вейкамі — відаць, таму, што сонца біла яму ў твар. Потым падаў Язэпу закарэлую, чорную руку.

— Не пазнаў бы я цябе, Хвёдаравіч, каб дзе ў іншым месцы стрэліся. Выцягнуўся ты вунь як...— Ён крыху памаўчаў, мабыць не ведаючы, што яшчэ можна сказаць, і нечакана здзівіў Язэпа: — А мы ўжо цябе пахавалі. Маці твая абедню закупляла. Мішка казаў, што цябе ў баі пад Ельняй забілі...

Ён зноў часта-часта пачаў моргаць выгаралымі на сонцы вейкамі. Цяпер Язэп зразумеў, чаму цётка Таццяна не пытала пра сына. Значыць, Міхась жывы? Дзе ж ён? Цётка Таццяна перапыніла мужа:

— Авой, дзетка маё, у голад намруцца, а ў вайну налгуцца. Пойдзем, во, лепей у хату. Наш Міхась яшчэ ў пачатку сорак другога прыйшоў. Якраз перад грамніцамі.

— Нацярпеўся ён, браце ты мой, ого як! — падхапіў жончыну гаворку Даніла.— Ты паслухай, Хвёдаравіч, як было. Немцы яго, значыць, у палон схапілі. Да самай Гродні пёрлі, а там ён уцёк. Ледзьве адкармілі яго.

— Ладна табе,— махнула рукой цётка Таццяна.— Добра, што жывы астаўся.

— А ён хіба не дома? Можа, таксама ў партызанах?

Настала няёмкае маўчанне. Потым адказала цётка Таццяна:

— Нашаму вайны хапіла. Тут не да парцізанства было. Самі не ведалі, ад каго галаву хаваць.

— Ты думаеш, Хвёдаравіч, парцізаны — факт,— пачаў Даніла.— А я табе скажу, што вось тут, у вёсцы, страшней было. Парцізан пастраляў, пастраляў ды наўцёкі. А перад немцам мы адказ трымалі.

На сцежцы з каромыслам на плячы паявілася Даша — несла два кошыкі з леташняй бульбай. Размова спынілася.

За тры гады Даша падрасла і папрыгажэла. Было даўганогае дзеўчанё, а, бачыш ты,— цяпер дарослая дзеўка. Высокая. Зграбная і з твару нябрыдкая. Вось табе і Даша!..

Цётка Таццяна ўзялася знаёміць з Язэпам дачку:

— Гэта ж, Дашачка, Язэп, Хвёдара Каліны сын.

Даша спакойна і неяк па-сталаму падышла да яго, падала руку:

— А я вас адразу пазнала. Вы дык нікольні не змяніліся...— Раптам яна ўбачыла пусты рукаў гімнасцёркі, збянтэжылася: — Як жа вы жыць будзеце?.. Ой, ды што гэта я? З прыездам вас!

— Жыць і з адной рукой можна,— адказаў Язэп.— Галава ўцалела, а гэта галоўнае.

— Ото праўда,— падхапіла цётка Таццяна і пацягнула ўсіх у зямлянку.

Заходзілі туды па чарзе, прыгіналіся на парозе. Зямлянка была ўтульная і чыстая. Сцены абклеены нямецкімі газетамі, невялічкая печ пабелена, а падлога памыта.

Язэп аж разгубіўся ад гэтай чысціні і трохі здзівіўся, як гэта пашэнціла Іванёнкам астацца ў вёсцы. Яшчэ больш ён здзівіўся, калі селі за стол: Язэпа частавалі кансервамі, салам, праўда, крыху прапахлым зямлёй, але смачным, і нямецкім спіртам.

Пілі за шчаслівую сустрэчу, за хуткі канец вайны. Дзядзька Даніла з другой чаркі ап'янеў, а п'яны ён любіў пагаварыць.

— Чалавек, браце ты мой, да ўсяго прывыкае,— казаў ён, абдымаючы Язэпа.— Нашага мужыка за руп дваццаць не возьмеш. Хвігу ты яго возьмеш. Ты яго абстрыжы, сем шкур спусці, а ён вырвецца на волю і зноў аброс. А-а!.. Я не праўду кажу? Во чаму і сала ёсць і да сала ёсць. Ага, раскумекаў? Ну, давай вып'ем... Дык вось, браце ты мой, як было. У сорак другім нас выгналі на мароз, а хаты — на вецер. Фук — і няма іх. Нават галавешкі пагарэлі. А жыць трэба? Трэба. За зіму мы сяк-так адбудаваліся. Добра. Жывём. А тут хоп-лоп — фронт. Снарады проста на двары ўзрываюцца. Снарад, браце ты мой, сляпы. Яго выпхнулі — і ляці. А жыць кожнаму хочацца. Ну, і пачалі зямлянкі будаваць. У зямлі спакайней. Добра... Будуюць... А я гляджу... Смыслу няма. От у чым загвоздка. Людзі, значыць, у кучу ціснуцца. Яно і праўда весялей. А смыслу няма. Авечкі тожа ў гурт ціснуцца, як ваўка пачуюць, а яму толькі лягчэй іх душыць. Не, думаю, я немца перахітрую. Узяў і вось тут зямлянку выкапаў. Усіх пагналі, а я астаўся. А чаму я так зрабіў — бо жызню разумею. Я яшчэ тады прыглядаўся, як ад парцізан хаваліся...

— А чаго вы ад іх хаваліся?..

— Ты, Хвёдаравіч, не перабівай. Я табе пра адно, а ты пра другое. Дойдзе чарга і да парцізан. Я табе пра тое раскажу, як мы хаваліся. Думаеш, немцы пра нас не зналі? Зналі. Немец — ён тожа чалавек, каторы, вядома, не сволач. Жандары — тыя зладзюгі. Служба ў іх такая. Гэта разумець трэба, і таму лепей на вочы ім не трапляць. А салдат — іншая субардзінацыя. Яму, браце ты мой, дахаты хацелася. От як яно было аднаго разу...

У размову ўлезла цётка Таццяна. Яна спыніла Данілу, мабыць, на самым цікавым месцы.

— Авой, развёў анцімонію... Выпіце, во, лепей. Што было, тое мінулася. Дашачка, частуй госця.

Нейкі час гаворка ні гарэла, ні тлела. Потым Язэп запытаўся:

— Дык чаго вы ад партызан хаваліся?

— А-а-а, гэта асоб стацця,— узрадаваўся Даніла.— Ну, скажы ты мне, каму хочацца паміраць здуру, калі жыць можна?

— Не, ты, дзядзька пачакай,— заспрачаўся Язэп.— Партызаны — гэта героі, адным словам, народныя мсціўцы за слёзы нашых дзяцей.

— Мсціўца ён ці яшчэ хто, а калі зямля не ўзарана, хлеб не пасеяны, дык якая яна, браце, ахвота паміраць? Не, ты слухай. Каб гэта так было: усе разам падняліся — і давай немца біць. Тут і я пайшоў бы. Ты от без рукі, а другі ўсю вайну ля бабы праседзіць. Праседзець лягчэй. От і хаваліся таму.

— Тата, ну што вы гаворыце! І ваявалі людзі, і наш Мішка ваяваў, пакуль не паранілі.

— Ды хопіць ужо вам,— замахала рукамі цётка Таццяна, але Даніла не мог утаймавацца.

— Хто ваяваў, а хто, як Петракова Клаўдзя, свой інтарэс меў. За камандзірам бегала. А што з бацькам будзе, пра тое не думала. Яны, во, зямлю параць. Ага. Во, як яно было.

Цётка Таццяна пастаралася спыніць непрыемную размову. Язэп нічога не разумеў, чаму цётка не хоча, каб гаварылі пра Клаву. На што намякаў дзядзька Даніла, калі гаварыў, што Клава бегала за камандзірам?

...Язэп расплюшчыў вочы і ўбачыў над сабою нізкую столь. Балела галава, моцна білася сэрца. Язэп падхапіўся, апусціў босыя ногі на падлогу. Непакоіла думка: «Што яны пра мяне падумаюць? Набраўся як жаба гразі». Яму было сорамна не перад старымі, а перад Дашай. Трэба ж было гэтак напіцца!..

Ён не налаўчыўся яшчэ працаваць адной рукой, таму нават адзяваўся марудна, злаваў на сваё няўмельства, і гэтая злосць паступова разагнала нядаўнія прыкрыя думкі.

Адзеўшыся, ён выйшаў з зямлянкі, стаяў, уражаны хараством раніцы. Тут, пад кручай, было змрочна, таму раса здавался белай, а трава сівой ад яе, а там, дзе сонца асвятляла зямлю, усё зіхацела, было светла і весела. Крыху вышэй, над ровам, у рэдкія прасветліны між хмызнякоў відаць было неба, сіняе і нізкае, быццам прыціснутае да самай зямлі. Яно было тут, недалёка, за ляском. Варта толькі падняцца на гару — і можна пагладзіць яго.

Язэп сеў пад стажок, прыціх. Не хацелася варушыцца, нават думаць. Усё, што было: вайна, адступленне, атакі, шпіталь, бясконцыя аперацыі, цяжкая дарога дахаты — усё гэта здалося чымсьці далёкім, несапраўдным. Недзе далёка-далёка паявілася думка: «Во што трэба чалавеку — спакой. Лепшага нічога і не трэба. Абы не чуваць стрэлаў, выбухаў, не бачыць, як паміраюць людзі. Гэта самае дарагое».

Потым аднекуль паявілася цётка Тацццяна. Ён, пачуўшы яе голас, быў засаромеўся: раптам яна ўспомніць, як ён ап'янеў учора. Але цётка Тацццяна, мабыць, нічога не памятала. Яна паклікала Язэпа снедаць і, падаючы на стол, нібы між іншым, спыталася:

— Дзе ж ты, Язэпка, жыць збіраешся? Аднаму, дзетка маё, цяжкавата. А калі маці вернецца — толькі бог знае.

І Язэп першы раз за гэтыя суткі ўсур'ёз падумаў пра тое, як яму жыць на свеце, аднарукаму, з хворай нагой.

## 2

Яму было ўсё роўна, куды ісці,— абы не сядзець тут, у гэтым рове. Цётчына спачуванне нагадала яму, што ён інвалід, што нават здароваму чалавеку не вельмі лёгка зачапіць за што рукі, а яму ўжо дык зусім нявыкрутка — лажыся і памірай. Цётка спытала, куды ён пойдзе і калі чакаць яго на абед. А ён і сам не ведаў; можа, зусім не вернецца назад, хоць мяшка і шыняля не браў. Па іх можна прыйсці пазней.

Сонца паднялося ўжо высакавата, стаяла над могілкамі. На могілках блішчалі два мармуровыя помнікі, пад якімі ляжалі браты Зубковы, Цімох і Ігнат, невядома за што забітыя яшчэ ў дваццаць восьмым годзе.

Язэпу захацелася схадзіць на бацькаву магілу. «Пакланюся ёй,— думаў ён,— ды пайду ў горад. Тут мне рабіць няма чаго».

Сцежка вывела яго на дарогу з глыбокімі выбоінамі. Кволая, шорсткая трава, ніцы падарожнік ужо раслі ў каляінах — мабыць, па дарозе даўно не ездзілі.

Абапал яе, на месцы былых сельбішчаў, чарнелі грудкі цэглы, камення. Дзе-нідзе відаць былі вузенькія акопы-шчыліны.

Дарога прывяла Язэпа да могілак. Узгорак і гаёк за імі былі перакапаны траншэямі, але могілак немцы не кранулі. Ссеклі толькі дрэвы ды некалькі драўляных кры-

жоў — мабыць, на дровы. Бацькаву магілу Язэп знайшоў адразу і засмуціўся: жалезны крыж хтосьці прыгнуў да зямлі. Каму ён замінаў? Язэп паспрабаваў выпрастаць крыж, але сілы не хапала. «Пасля папраўлю,— падумаў.— Прынясу лом, дык лягчэй будзе папраўляць». Ён здзівіўся са сваіх думак: значыць, у горад ён раздумаў ісці. Ды і як ты пойдзеш? Тут, во, бацькава магіла, у вёсцы папялішча. Можа, хутка вернецца маці, дык хто ёй ускапае агарод? Куды ж ты пабяжыш з дому? Усё адно будзе цягнуць да яго.

З могілак Язэп пайшоў на Чысты бераг, дзе ля самага ручая біла з-пад зямлі крыніца. Вада там была заўсёды халодная і смачная. Калі ў саракавым годзе павымярзалі калодзежы, дык уся вёска піла з крыніцы Чыстага берага. Крыніца і цяпер біла ўгору белаватым струменем. Пясок асядаў адразу, а вада па жалабку сцякала ў ручай.

Язэп напіўся жменяй вады; горкая сухасць у роце знікла.

Крыху далей, у Астапаўскім рове, ён убачыў зямлянкі. Яны, як гнёзды стрыжоў, ляпіліся пад гарой. Здалёк уваходы ў зямлянкі былі падобны на норы.

Абапіраючыся на кій, памагаючы ім сваёй хворай назе, Язэп сяк-так дабраўся да гэтых зямлянак. З дзвярэй патыхала цвіллю і макрэчай.

Зямлянак было дзесяць, амаль усе аднолькавыя. І падыходы да іх былі пракладзены не знізу, а зверху, бо адтуль, з гары, лягчэй было дабірацца ў жыллё, ды і выбрацца было лепей. «Гэта добра,— падумаў Язэп,— бярвенне тут дай божа, так што калі выцягнуць, дык, глядзі, хат пяць можна паставіць».

Ён сеў, звесіўшы ногі з пакатай страхі, доўга глядзеў уніз. Там, на дне рова, прабіваўся між рэдкіх кустоў невялічкі ручай. Колькі гадоў ён цячэ вось так? Кажуць, што калісьці селянін прааў сахой баразну, а тут пачаўся лівень. Дождж размыў баразну, на яе месцы зрабіўся равок. Тады і ручай пабег па ім.

Язэп прыгадаў, як будаваўся іх пасёлак. У трыццаць восьмым годзе прыйшоў загад перанесці ўсе шэсць вёсак-хутароў да бальшака на лысыя, глiністыя пагоркі. Ніхто тады не хацеў пакідаць абжытых гнёздаў, перабірацца на новае, адкрытае вятрам, месца. Але загад ёсць загад, і будаўнічая брыгада пад лямант жанок і дзяцей бурыла хаты. Хочаш не хочаш, а трэба было будавацца на выдзеленым табе ўчастку.

За тры леты хутары зніклі, а ля бальшака вырас новы пасёлак. І людзі неяк прывыклі да яго, быццам жылі тут спрадвеку.

Яно і праўда — лепшае месца для пасёлка ў калгасе знайсці цяжка. Куды ні кінься — або роў, або імшара, і толькі тут, ля бальшака, мясціна была раўнейшая. У другім месцы дык і агародаў наразаць не было як.

За тры леты новы пасёлак азеляніўся. Чаромха, бэз, парэчкі перавандравалі з хутароў, прыжыліся. Колішняя пустка пераўтварылася, ажыла. І вось немцы зрабілі яе зноў пусткай, а жыццё загналі ў гэты Астапаўскі роў, у зямлянкі, што падобны на гнёзды стрыжоў.

Цяпер зноў давядзецца людзям адбудоўваць пасёлак, абжываць руіны. А што ты зробіш? Чалавек, мабыць, на тое і жыве на свеце, каб вечна што-небудзь будаваць.

Язэп хацеў быў ісці дамоў, але як выбраўся з рова — убачыў жыта. Яно было пасеяна на былых Войтаўскіх хутарах, зусім недалёка адсюль, за поплавам. Жыта стала ўжо бурае, і нават адсюль відаць, што колас наліўся: ён не тырчыць, а хіліцца на пругкай сцябліне. Слабы вецер не разгойдвае жыта хвалямі, як гэта бывае, калі яно красуе і лёгка паддаецца павевам, а толькі варушыць каласы. Язэпу здалося, што жыта як бы кліча яго да сябе. І ён надумаў пайсці на Войтаўскае поле.

Крыху ніжэй, на захад, Астапаўскі роў пашыраўся, берагі яго станавіліся спадзістыя, пакуль нарэшце зусім не знікалі — далей ішло Чорнае балота. Недзе там, на мяжы сухадолу і балота, пралягала калісьці дарога з Баркоўскіх хутароў на Войтаўскія. Язэп пайшоў берагам рова і неўзабаве выйшаў на дарогу, цяпер ледзь прыкметную. Ён быў рушыў па ёй, але раптам спыніўся і аж здрыгануўся. Акуратная нямецкая шыльдачка, ледзь відная з травы, папярэджвала: міны! Немцы, відаць, не паспелі зняць шыльдачак — так хутка яны адступілі адсюль. А нашы тут, пэўна, і не ішлі.

Давялося вяртацца назад па сваім следзе. Цяпер Язэп уважліва прыглядаўся, стараўся пазнаць, дзе канчаецца міннае поле. Па ўсім было відаць, што міннае поле пачыналася недзе на балоце і канчалася крокаў за дваццаць ад зямлянак. Паміж зямлянкамі і могілкамі ішла абарона немцаў. Язэп ніяк не мог зразумець, чаму немцы мініравалі за сваёй абаронай, а не перад ёю? Гэта здзівіла, і Язэпу захацелася высветліць, чаму так зроблена.

За могілкамі пярэдні край нямецкай абароны канчаўся. За ім таксама было міннае поле. Тут, праўда, не было шыльдачак, але Язэп без цяжкасці заўважыў пяхотныя міны на калючках. Цяпер ён усё зразумеў. Нямецкае камандаванне, мусіць, разлічвала стаяць тут насмерць, а каб іхнія салдаты не ўздумалі ўцякаць пры першым наступе нашых войск, зрабіла міннае поле за іх спіною.

Здагадка гэта засмуціла Язэпа, але не таму, што нямецкае камандаванне такім чынам прымушала сваіх салдат утрымліваць пазіцыі. Ён раптам яскрава ўявіў усе палі свайго калгаса і зразумеў, што яны, за выключэннем вузкай палосы, ад зямлянак у Астапаўскім рове да могілак, замініраваны. Значыць, замініраваны і жыта, і поплаў. Як жа тады пачынаць тут гаспадарыць? Выходзіць, не толькі нямецкія салдаты былі тут, як у пастцы, але і ён, і Іванёнкавы, і ўсе, хто вернецца, павінны таптацца на гэтай вузкай, з паўвярсты, не больш, паласе, што ляжыць паміж шырокімі міннымі палямі. Ды яшчэ, можа, і на ёй ёсць замініраваныя ўчасткі.

Язэп адчуў, як па яго спіне нібы забегалі мурашкі. Яму захацелася хутчэй дахаты, у Папоўскі роў, у зямлянку, дзе чыста і ўтульна. Па дарозе ён самотна думаў над тым, што, відаць, і дома не знойдзе спакою. Мінныя палі будуць доўга непакоіць яго.

У рове, ля зямлянкі, нікога не было. Ён асцярожна штурхнуў дзверы. Думаў, яны замкнёны, аж не — дзверы лёгка адчыніліся. Даша нешта рабіла, сагнуўшыся ў кутку. Яна спалохана ўздрыгнула.

— А мамы няма дома...— сказала яна і пачырванела.

Язэп разгубіўся. «Якія ў яе высокія грудзі,— падумаў ён.— Прыгожая дзяўчына і сарамлівая — не такая, як шпітальныя сёстры і санітаркі. Тыя ого смелыя і бессаромныя былі».

— Я, мабыць, напалохаў цябе? — пачаў ён, яшчэ не асвойтаўшыся як след.— Думаў, тут цётка, а не ты.

— Яна з бацькам у горад пайшла,— сказала Даша.

Язэп назіраў, як увішна, прыгожа ходзіць Даша, як стаўляе на стол міскі, кладзе лыжкі, яму і сабе.

— Я таксама не абедала. Вас чакала. Баялася, каб на міне дзе не падарваліся. Тут іх шмат. Летась да нас мінёры заходзілі. Ёган казаў, што гадоў дзесяць спатрэбіцца, каб усе міны пазнімаць.

— Ды я ўжо і сам пабачыў, што мін шмат. Усё навокал замініравалі, гады. Жыта вунь спее, а як яго сажнеш,

калі і яго замініравалі.— Ён памаўчаў, потым спытаўся: — А гэты Еган чаго сюды хадзіў?

— Я тады хварэла, дык ён мне цукар прыносіў. Ён малады яшчэ, а ўжо сівы.

Язэпу было непрыемна, што яна гаворыць пра немцаў без нянавісці і злосці. «Зжыліся тут,— падумаў ён.— Каб не партызаны, дык, мабыць, і не ўспомнілі б пра нас». У яго, у Язэпа, быў свой рахунак з немцамі, і мераў ён іх на адзін капыл — фашысты. Ён ненавідзеў іх, і гэтая нянавісць была заўсёды вострая. Таму і непрыязна слухаў Дашын расказ.

— Зімой дык мы не выпаўзалі адсюль. Снегу было многа, занесла ўсё. Страшна было. Дык таксама два немцы заходзілі. Адзін стары ўжо. У яго ўсю сям'ю забілі. Бомба проста ў дом папала. Плакаў, бывала. А другі малады, яшчэ зусім хлопчык. Той, бывала, забярэцца на печ і на гармоніку грае. Перад самай вясной яго снарадам забіла.

— Туды яму і дарога,— сакануў Язэп і ўбачыў, як Даша жахнулася.— Табе што, шкада яго?

— А ён хіба вінаваты? Людзі не вінаваты, што іх пасылаюць забіваць.

— Фашысты яны, вось хто,— узлаваўся Язэп.— Не давялося мне да Германіі дайсці, адвёў бы душу на га́дах. Я ўсяго наглядзеўся. Помню, у Малы Яраславец мы ўварваліся. Горад гарыць, падпалілі, сволачы, а на ўскраіне — сем шыбеніц, і на кожнай па два чалавекі. Ды гэта што! Вясной пад Вязьмай нашы супрацьтанкавы роў адкапалі. Паўнюткі трупаў. Дзеці там, старыя — усіх падрад стралялі. Вось такія, што тут плакалі, слёзы воўчыя лілі.

Даша, апусціўшы вочы ў міску, паціху сёрбала зацірку.

— Іхнюю Германію фашысцкую,— зноў пачаў ён,— мала спаліць, дык яшчэ попел па свеце развеяць, і тады яна не заплаціла б за нашы пакуты. Во, вярнуўся, а тут ні хаты, ні прыстанішча — пустка.

— Ды я не абараняю, а кажу, што і сярод іх былі добрыя людзі. Нашы паліцаі, ды яшчэ ўласаўцы, часам горшыя звяры былі. Нібы эсэсаўцы іхнія. Тыя галаварэзы, не давядзі бог. Іх самі немцы баяліся.

— Канечне, і сярод немцаў былі добрыя,— згадзіўся Язэп.— Але калі ты такі добры, дык у палон здавайся. Інакш ты вораг, і прысуд табе адзін.

Даша не адказала. Ёй, мабыць, не падабалася ўся гэтая размова.

Нейкі час яны елі моўчкі. Язэп крадком паглядаў на Дашу. Яму хацелася распытаць пра Міхася.

Учора ён так і не зразумеў, што здарылася з Міхасём. Даша сказала, што ён быў у партызанах, а потым яго паранілі. А цётка Таццяна пачала была расказваць, як немцы схапілі Міхася і пагналі немаведама куды, ды дзядзька Даніла чамусьці сыкнуў на яе, і яна сціхла.

Даша, калі ён спытаў пра Міхася, чамусьці збянтэжылася, адказала неахвотна:

— Не аднаго яго немцы забралі. Хапалі ўсіх. Каго на акопы, каго ў абоз, каго ў самаахову, а Паўлюка Хрытанёнка застрэлілі.

Язэп успомніў, як з гэтым Паўлюком калісьці ездзілі ў лес, бо не хапіла двух вянцоў на хату. А потым пілі барыш у зрубе, на сырых яловых трэсках. Паўлюк любіў выпіць. А Язэп тады яшчэ і не піў. Яму было дрэнна ад гарэлкі, і ён ляжаў на трэсках тварам уверх і бачыў, як зіхацяць зоркі.

— А чаму яны Паўлюка расстралялі? — запытаў ён.

— Дык ён жа таксама быў у партызанах. А пасля, як атрад разбілі дашчэнту, Паўлюк вярнуўся.

— Пачакай, як гэта вярнуўся? Партызан жа расстрэльвалі?.. Хіба ён не ведаў пра гэта?

— Не, тады ўжо не расстрэльвалі. Немцы лістоўкі такія скідалі. Калі хто сам прыйдзе, таго не чапалі.

— Але ж, во, зачапілі.

— Дык гэта потым ужо, як партызаны пабілі паліцэйскіх у Сенькаве.

— Чакай, чакай, нічога не разумею. Ты ж казала, што іх разбілі ўшчэнт.

Даша, здаецца, і сама разгубілася. Яна маўчала, мабыць, збіраючыся з думкамі.

— Які ты смешны,— сказала яна, памаўчаўшы.— Ну, гэты атрад, дзе былі Міхась, Паўлюк і яшчэ некаторыя з нашых, разбілі. На іх раптоўна напалі і разграмілі. Разбегліся яны. А другія атрады адступілі за Дзвіну. Потым ужо, калі цішэй стала, адзін атрад вярнуўся праз ноч і перабіў паліцэйскіх. Гэтыя партызаны тут адны суткі стаялі, потым зноў пайшлі.

— Чаго ж да іх Міхась з Паўлюком не далучыліся?

Даша зноў задумалася. Відаць, ёй было цяжка адказаць на Язэпава пытанне.

— У Міхася нага балела. Кульгаў ён яшчэ. А ў Паўлюка, сам ведаеш, дзяцей куча. Думалася, немцы не зачэпяць.

— Думалася, думалася. Факт, уцяклі з партызан.

— Не адны ж яны. Вунь і іхні ўзводны прыйшоў. Кастусь Верхавода з Хацеенак. Пайшоў адразу ў гарнізон, зарэгістраваўся, дык немцы яго не зачапілі. Паставілі самаахoвай кіраваць.

Язэп нічога не разумеў. Чорт ведае, што тут рабілася! Мусіць, і Міхась, і Паўлюк, і гэты Верхавода з Хацеенак, і іншыя проста дэзерціравалі з атрада. Ён так і сказаў Дашы:

— Ведаеш, як гэта называецца? Дэзерцірства, здрада. Кінулі атрад — і да немцаў. Шкуру сваю ратавалі.

— Не самахоць жа яны пайшлі,— пакрыўдзілася Даша.

— У цябе ўсё не самахоць. А так не бывае. Можа, і Міхась твой у гэтай самаахове?..

— Міхася вунь у турме ўсю вясну трымалі. Скажаш, сам захацеў туды?

— А пасля дзе ён быў?

— Пасля... пасля...— Даша запнулася.— Акопы капаць паслалі. У абозе рабіў. Па той бок Дзвіны. Потым мы ўжо не ведалі, дзе ён.

— Дзівак ён,— Язэп усё яшчэ злаваў,— трэба было зноў уцячы да партызан.

— Яшчэ невядома, як бы яго там сустрэлі. Вунь з Замошша адзін хлопец быў прыйшоў з партызан улетку сорак другога, а пад восень, як немцы хацелі яго забраць, зноў пабег у атрад. Дык яго там расстралялі.

— Слухай, Даша, нешта ты не тое кажаш. Як гэта расстралялі?

— Адкуль жа мне ведаць?

— Значыць, варты быў таго. Са здраднікамі не чыкаюцца. Вайна. І Міхася не абараняй. Падумаеш, кульгаў. У нас такія на перадавой аставаліся.

— Табе лёгка казаць. Там жа навокал свае. Калі што, дык падбяруць і ў шпіталь адправяць. А тут параненаму горай, як забітаму...

На гэтым і закончылася размова. Язэп вылез з зямлянкі, прылёг пад стажком на кажусе. Сонца сагрэла яго. Кажух пах поўсцю. Пах гэты напамінаў Язэпу даўнія гады маленства, калі, разаслаўшы кажух на двары, яны, малыя, песціліся на сонцы.

З галавы ўсё яшчэ не выходзіла размова з Дашай. Ён не мог зразумець, чаму мужчыны не ваявалі, а туляліся па хатах. Ну, хоць бы Міхась. Уцёк з палону і зноў да немцаў трапіў.

Праз усю вайну Язэп пранёс адну думку: «Давядзецца трапіць у палон — падарвуся на гранаце». І ён насіў лімонку ў запасе і цвёрда ведаў, што не пабаіцца падарвацца. «Мішка слабак! — падумаў ён.— Клава не вярнулася дамоў. Дзяўчына, а не вярнулася... Мішка — слабак. Цяпер, мусіць, раскайваецца».

Ён пачаў думаць пра Клаву. Дзе яна цяпер? Недзе, мабыць, па гэты бок фронту. А значыць — хутка вернецца сюды. Во хто раскажа пра тое, што тут рабілася. Даша — дзяўчо, ды і не шмат ведае.

У зямлянцы рыпнулі дзверы. Язэп павярнуў галаву, убачыў, што Даша назірае за ім. Яна, мабыць, хацела падысці, але не адважвалася.

— Куды ты сабралася? — запытаўся Язэп.

— Нікуды... Ціха як, аж страшна. Быццам нікога на свеце не асталося.

Яна села побач, падкурчыўшы босыя ногі. Чагосьці ўсміхалася нейкім сваім патаемным думкам.

— Чаго ты смяешся?

— Так. Смешнае ўспомніла. Нашы хлопцы аднаго разу немца прымарозілі...

— Забілі?..

— Не. Ён на пасту стаяў. Бывала, як стане, дык з месца не зварухнецца. А маразы тады моцныя былі. Дык хлопцы напасілі вады ды паціху з горкі льюць. Немец нічога не чуе. Сабраўся з паста змяняцца, а ногі да зямлі прымерзлі. Смеху было.

Яна і яшчэ расказвала розныя выпадкі з жыцця пры акупацыі. Язэп слухаў няўважліва. Яго цікавілі не гэтыя, падобныя на анекдоты, выпадкі, а другія, што раскрылі б перад ім таямніцы тутэйшага жыцця пры немцах.

Думкі, як тыя жорны, цяжка варочаліся ў галаве, і Язэп пачынаў адчуваць раздражненне і глухую, зацятую злосць. Дашын звонкі голас не даваў яму сканцэнтравацца, высветліць штосьці важнае, галоўнае. Ён проста нерваваў яго, гэты звонкі, вясёлы голас. «Хоць бы яна памаўчала»,— падумаў ён. Даша і сапраўды была замоўкла, а потым спытала:

— Дык што вы надумалі: ці тут астаняцеся, ці ў горад пойдзеце? Калі тут, дык трэба пра хату клапаціцца.

— З адной рукой не вельмі набудуешся,— буркнуў ён.

— Дык тата паможа, ды і мне няма чаго рабіць. Толькі не падумайце, што ў нас цесна. Жывіце, колькі захочаце.

— Ды ўжо ж, калі не вельмі замінаю, то яшчэ пажыву.

— Ой, што вы. Нават весялей. Мы тут, як ваўкі, на адзіноце жылі. Рады, што чалавека ўбачылі.

— За гэта — дзякуй,— сказаў Язэп.

— Тата казаў, што вам лепей у горадзе жыць. Толькі там усё пагарэла. А мама кажа, што вам лепей тут хату ставіць...

— Чаму лепей?

Даша апусціла вочы.

— Ну так, бо, можа, у вас хто ёсць ужо.

— Не, няма... акрамя маці...

— Ой, брэшаце... Хлопцы любяць маніць. Вы, мусіць, помніце Агаціну Нюрку... Ну, Смычонкаву. Дык яна тут у вайну замуж за казака выйшла. Халасцяком прыкідваўся, а пасля дазналіся, што ў яго трое дзяцей і жонка на Украіне.

— Я не казак, і хлусіць мне няма чаго,— адрэзаў Язэп.— Ды пакуль ні да каго не сватаюся. Ясна?

Дашын твар заліла густая чырвань. Язэпу стала шкада яе. Навошта пакрыўдзіў дзяўчыну? Сказаў, каб неяк згладзіць няёмкасць:

— Да цябе пасватаўся б... Толькі во, бачыш, без рукі я — інвалід. А ты сабе і з рукамі і з нагамі хлопца прычакаеш.

Яна яшчэ больш пачырванела і нібы спалохалася. Густыя доўгія вейкі ўскінуліся, адкрыўшы глыбокія чорныя вочы.

## 3

Тыдні праз два, калі сонца адкідвала самы кароткі цень, ля зямлянкі, якую будаваў Язэп, спыніўся загарэлы, жылісты чалавек у нямецкім кіцелі і шырачэзных галіфэ з найлепшага дыяганалю. Язэп здагадаўся, што гэта нехта з раённага кіраўніцтва, узрадаваўся.

Сядзелі на бервяне, курылі Іванёнкаў самасад. Кузьма Вышак працаваў інструктарам райкома партыі. Завітаў ён у Кляўцы выпадкова. Вяртаўся з калгаса, які быў вызвалены яшчэ летась, убачыў двух чалавек, якія будавалі

зямлянку, і прыпыніўся. У райкоме лічылі, што немцы выселілі з Кляўцоў усіх людзей, таму і не пасылалі сюды ўпаўнаважанага.

Каліна з цікавасцю прыглядаўся да Вышака. Як не кажы, а вось так упершыню з вока на вока ён размаўляе з цывільным начальствам. Вышак здаваўся яму звычайным вясковым дзядзькам, крыху скупаватым на словы, разважлівым і як бы зморaным сваёй работай. У Язэпа паяўлялася да гэтага чалавека прыхільнасць. І ён нават падумаў, што вось такому дзядзьку ні ў чым не адмовіш. Але як толькі Вышак павёў гаворку пра тое, каб Язэп стаў у калгасе за старшыню, думка гэта прапала. Язэп пачаў адмаўляцца:

— Бачыш, інвалід я,— сказаў ён Вышаку.— Які з мяне старшыня. Зямлянку вось будую, а сам усё думаю, што давядзецца яе кінуць тут, ды ў горад пайсці.

— У горадзе таксама не соладка. Работу, канечне, знойдзем. Арцелі трэба ствараць, прамкамбінат. Людзі патрэбны. Але ж, таварыш Каліна, галоўнае — калгасы. Іх трэба ў першую чаргу аднавіць...

— З кім аднаўляць? Во, я ды Іванёнкавы — чатыры душы на ўвесь калгас.

— Нашы, падзвінскія, недалёка. Хто ў Літве, а хто бліжэй. Хутка вернуцца. Так што бярыся, таварыш Каліна.

— Узяцца лёгка — везці цяжка,— адказаў Язэп.— Тут вунь усё замініравана.

— Гэта я ведаю. Але ж пачынаць трэба, і ты, як камуніст, сама лепш падыходзіш.

— Чаго там, станавіся старшынёй,— падтрымаў Вышака Даніла Іванёнак.

— Ну дык што, запішам?..— запытаўся Вышак.

— Пішы,— махнуў рукой Язэп.— Старшыня дык старшыня, усё адно кіраваць няма кім і няма чаго транжыраваць. Думаю, не праштрафлюся. Пішы!.. А калі па дапамогу прыйду, дык ужо не адмаўляйце.

Вышак дакурыў самакрутку, расціснуў недакурак абцасам.

— Памагаць будзем. Толькі, таварыш Каліна, зразумей, што з двухсот васьмі нашых калгасаў такіх, як ваш,— дзвесце пяцьдзесят. Ні хаты, ні хлява, ні жывёлы.

— У іх хоць не замініравана поле,— сказаў Язэп.

— Яно так,— згадзіўся Вышак.— Але і такіх калгасаў, што на мінных палях стаяць, шмат. Думаеш, што немцы

толькі тут міны ставілі? Адсюль на поўдзень аж да Сялют усё замініравана. І на поўнач да самай Дзвіны міны. А гэта ж землі нашага раёна.

— Нарабіў бяды немец...

— Нарабіў...

Вышак пайшоў. Цяпер Язэп ужо не думаў пра горад. Будаваў зямлянку. Ён і начаваў тут, падклаўшы пад бок кажух,— балазе ночы былі цёплыя. Ранічкай прыбягаў Даніла, памагаў у рабоце. Пазней прыходзіла Даша. Даніла адразу пакідаў іх — у яго заўсёды была нейкая свая, пільная справа. Язэп на яго не крыўдзіўся. Дзякуй, што раніцой памагае.

Даша ўмела працаваць не горш за бацьку. Сілы ў яе таксама хапала. Язэп з захапленнем наглядаў, як Даша паднімае бервяно, як спрытна абчэсвае яго. Яму ўсё давалася цяжэй. З адной рукой не вельмі назавіхаешся на будоўлі.

Напрацаваўшыся, яны садзіліся адпачываць. Ярка свяціла сонца, а лёгкі ветрык казытаў твары. Ім было добра сядзець побач. Асабліва Язэпу. Даша адносілася да яго спагадліва, ласкава.

— Цяжка табе без рукі,— гаварыла яна.

— Нічога, Даша. Я ўжо налаўчыўся...

Даша, пазіраючы яму ў вочы, пытала:

— Ці дужа яна балела, калі цябе параніла?

— А я і не памятаю. Прачнуўся і чую, што нагі няма. Спалохаўся. Цап-цап за ногі — абедзве ёсць. Тады толькі спахапіўся, што без рукі. Я і цяпер часам забываюся, што яе няма. Раптам засвярбіць далонь. Аж у пот кідае.

Даша заўсёды садзілася справа, і Язэп разумеў чаму: яна баіцца пустога рукава. «Я і сам яго доўга баяўся, пакуль прывык,— думаў Язэп.— Калекам вайна зрабіла. А ў шпіталі зайздросцілі — дамоў пойдзе». Тое, што Даша хінулася да яго, было прыемна, радасна. І ўсё ж часам думалася: «Няхай бы на яе месцы была Клава».

...Аднаго разу Язэп угледзеў натоўп. Ён ішоў па дарозе з горада. Прайшло не менш за гадзіну, пакуль натоўп паявіўся ў вёсцы. За вялізнай павозкай, у якую былі запрэжаны конь і дзве каровы, ішло чалавек пятнаццаць змучаных хадою людзей. Павозка спынілася на ніжнім канцы вёскі. Язэп пайшоў туды.

Людзі складвалі хатулі ў канаву. Язэп пазнаваў жанчын здаля, а яны, мабыць, не пазналі яго.

— Добры дзень,— павітаўся ён.— Ледзь дачакаўся людзей...

Жанчыны перасталі корпацца ля павозкі, а худзенькая, падобная на бабульку, дзяўчынка выгукнула:

— Ой, дык гэта ж цёткі Марыны Язэп!

Яго абступілі з усіх бакоў, дзівіліся, як гэта ён паспеў так хутка дабрацца дамоў.

— Маіх не бачылі ў адступленні? — запытаў Язэп.

— Марыну аж на Беласточчыну пагналі,— адказала за ўсіх Макарыха.— Іх там сямействаў восем з нашых Кляўцоў. Гэта ж нас на станцыі разлучылі.

— Майго Васіля ці не сустракаў дзе? Кажуць, што яго з партызан у шпіталь накіравалі,— спытала Петрачыха.

— Не, цётка, нікога не бачыў.

— З кім жа ты тут?

— Ды Іванёнкавы асталіся.

— А-а-а...

Макарыха выцягнула з воза пеўня, развязала ногі і крылы, пусціла на зямлю.

— Во, на развод прывезла, галандскай пароды.

Певень і сапраўды быў прыгожы. У яго, мусіць, здранцвелі ногі, бо ён ляжаў на баку і здзіўлена пазіраў на людзей жоўтым вокам.

— Ну, ты не адлежвайся,— падштурхнула яго Макарыха.

Певень залапатаў крыламі, прайшоўся цыбатымі нагамі па канаве і пабег на пажарышча. Ён разграбаў зямлю, клікаў курэй. Жанчыны ўсміхаліся: бач ты, які старанны — адразу за работу. Потым нечакана для ўсіх на тым месцы, дзе стаяў певень, выбухнуў слуп агню, дыму і попелу. Людзей закідала зямлёй.

Выбух напалохаў людзей. Як жа тут жыць? Ці варта прыпыняцца? Можа, трэба ехаць далей, дзе няма мін, дзе, можа, захаваліся хаты. Чаго астадольвацца на гэтым пажарышчы? Без пары, без часу загінуць?..

Язэп параіў жанчынам нікуды не ехаць далей. Ён сам бачыў, што аж да самай Вязьмы ўсё спалена. У Астапаўскім рове ёсць зямлянкі, дык лепей там і зіму пераседзець.

Ён сам павёў людзей у Астапаўскі роў, хоць яны і без яго ведалі, дзе тыя зямлянкі. Проста яму хацелася быць сярод людзей, якіх даўно не бачыў і па якіх сумаваў. Але здарожаныя людзі не надта ахвотна падтрымлівалі гаворку, і Язэп неўзабаве вярнуўся да сваёй зямлянкі. «Ну,

восі і прыехалі людзі,— думаў ён.— А што я павінен рабіць? Што? Мусіць, дарэмна я згадзіўся з Вышакам. Яму што? Не да яго людзі пойдуць, а да мяне...»

Назаўтра да яго прыйшлі жанчыны ўсім гуртам. Даша якраз прынесла снедаць, і Язэп сядзеў у засені, глытаючы гарачую ячную кашу, заскварaную здорам.

Верхаводзіла жанкамі Макарыха.

— Дык што, старшыня, нам рабіць? Якое распараджэнне будзе?

— Уладжвайцеся пакуль што...

— А далей?.. Мы наконт жыта. Як жаць будзем? Паасобку ці калгасам?

— Калгасам, вядома... Толькі, цётачка, яно замініравана. Так што не ведаю, як да яго падступіцца. Заўтра пайду ў горад па мінёраў.

Жанчыны загаманілі:

— Есці нешта трэба.

— Чакаць іх — часу няма...

— Усе спадзяванкі на жыта.

Язэп забараніў жанчынам жаць жыта. Яны пагадзіліся з ім, так яму здалося. Назаўтра раніцай ён пайшоў у горад.

Дарога да горада цяпер не здоўжылася. Затое пакуль прайшоў увесь горад — замарыўся: райком размяшчаўся аж на тым баку ракі, на Ленінградскай шашы.

За ракой горад быў не так зруйнаваны, як на ўсходнім беразе. Дзе-нідзе асталіся нават цэлыя вуліцы. А на Ленінгрдскай шашы ўцалеў увесь Ялагаўскі пасёлак.

Хаты тут стаялі цесна. Вуліцы былі вузкія, нямошчаныя. Трапляліся баракі, нізкія, пакрыўленыя, па самыя вокны акапаныя прызбай. З гэтых баракаў некалі і пачынаўся Ялагаўскі пасёлак. Язэп прыглядаўся да хат, да садоў на агародах. Здавалася, што вайна абмінула гэты пасёлак і людзі не ведаюць тут гора.

Ён звярнуў на шырэйшую вуліцу. Недзе тут павінен быў размяшчацца райком.

Направа, за плотам, узвышалася чырвоная цагляная будыніна без акон і дзвярэй. Ля яе ляжалі пад сонцам вялізныя драўляныя чаны. У адным з іх, сагнуўшыся, стаяла жанчына ў вайсковай спадніцы і ботах з кароткімі халявамі, мыла чан. Яна раптам выпрасталася і некага гукнула. Язэп пазнаў яе — Клава.

Трымаючы ў руцэ мокрую анучу, Клава стаяла спіной да Язэпа. На ёй была бэзавая вязаная кофта. Тая, у якой

яна праводзіла Язэпа ў армію. (Кофта за гэтыя гады здорава выгарала.) Але нават каб Клава была адзета ў гімнасцёрку ці ў сукенку, Язэп усё роўна пазнаў бы яе.

Язэп пазіраў на яе з захапленнем і любасцю ды адчуваў, як у грудзях разліваецца, запаўняе іх млосная цеплыня. Яму вельмі хацелася, каб Клава павярнулася да яго, убачыла яго. Ён калісьці асабліва любіў яе ўсмешку. Ніхто не ўмеў так усміхацца, як Клава. Спачатку на правай шчацэ паяўляецца ямачка, ад яе прабягае промнік і нібы запальвае ўвесь твар смехам. Вядома, цяпер яна спачатку здзівіцца, а потым усміхнецца яму.

Клава зноў гукнула:

— Улляна, ну дзе ты там? Хадзі сюды.

Аднекуль з будыніны пачуўся голас:

— Зараз іду...

Клава выкруціла анучу — на пясок зацурчала вада,— павесіла на плот, выцерла рукі. Кожны яе рух быў знаёмы. Язэп пераступіў цераз плот, пайшоў па двары. Клава, мусіць, пачула, што хтосьці ідзе, азірнулася. Яму адразу кінулася ў вочы, што твар яе паблажэў, стаў нейкі чужы, незнаёмы, толькі вочы былі тыя ж, вялікія, здалося, нават яшчэ большыя, як раней. Яны спалохана пазіралі на Язэпа. Клава, здаецца, не пазнавала яго. А ён не мог вымавіць і слова. Яму чамусьці было горача.

— Божа мой, Язэп, ці ты гэта?

Язэп глядзеў ёй у твар, схуднелы, у карычневых плямах. «Дасталося табе,— падумаў ён.— Бедная».

— Во як нечакана сустрэў,— пачаў ён, усё яшчэ задыхаючыся ад пачуццяў, што перапаўнялі яго.— Ну, як ты?..

Клава паспешліва сашчапіла рукі пад грудзямі, прыкрыла локцямі жывот.

— Нічога... А ты як? Адкуль ты? Як здань...

Толькі цяпер Язэп заўважыў, што Клава цяжарная. «Дык вось чаму яе твар у плямах»,— здагадаўся ён.

Яму зрабілася няёмка, сорамна і крыўдна. Пастараўся адвесці вочы. Клава апусціла рукі, быццам хацела сказаць: «Што ж, глядзі, а я і не хаваюся». Але і яна збянтэжылася, засаромелася.

Язэпу прыгадалася, як цётка Таццяна расказвала пра нейкага палоннага, што прытуліўся ў іхняй вёсцы, а потым пайшоў у партызаны. А за ім Клава. Мабыць, і дзіця ад яго. Мабыць, яны яшчэ тады, у сорак першым, сышліся...

Думкі былі як чужыя, яны не закраналі Язэпа. Хоць было чамусьці ніякавата, брыдка. Усю вайну думаў пра Клаву, а яна, выходзіць, не думала.

Цяпер Язэп хацеў хутчэй пайсці адсюль. Сустрэча, пра якую ён так часта марыў, адбылася непрыемная. Ды і Клава стаяла нейкая вінаватая, разгубленая.

— Дык я пайду,— сказаў ён, адводзячы ўбок вочы.— Можа, убачымся яшчэ.

Клава страпянулася:

— Пакалечыла як цябе!.. Божа!.. А ў нас казалі, што цябе забілі.

У Клавіных словах Язэп адчуў жаласць да яго, і гэта абразіла. Ён, як і ўсе інваліды, не цярпеў гэтай жаласці. Яшчэ Язэпу пачулася ў Клавіных словах як бы шкадаванне, што ён вярнуўся калекам, а не загінуў. Усё гэта балюча адгукнулася ў ім, узрушыла яго, абурыла. «Ты тут любоў круціла,— злосна падумаў ён.— Здрадзіла, дык табе сорамна цяпер. Табе лягчэй было б, каб я не вярнуўся...»

— Бачыш, не забілі... вярнуўся... калекам... Не рада, мусіць?

— Што ты?! Я цябе часта ўспамінала.

— Бачу... Не маленькі.

— Так здарылася... Я чакала цябе, а потым...

Язэп перапыніў яе. Хлусіць! Чакала! Ён раптам адчуў, як у скроні застукала кроў, а вочы заслала шэрая смуга. Клавін твар відаць быў як у тумане.

— Салдат табе — пустое месца. З пасадай знайшла. Церпяжу не хапіла дачакацца? Праўду на фронце казалі, што дзеўкі на чыны падкія.

Клава заплакала, па-бабску размазваючы слёзы па шчоках. Але Язэпу не было шкада яе. І сораму не было — яна вінаватая. Яна здрадзіла, а ён ёй толькі праўду кажа.

— Мішка казаў, што цябе забілі. Сам бачыў. Дык што я, вінаватая? — апраўдвалася Клава праз слёзы.

— Усе вы тут аднолькавыя.

— У мяне ўсю сям'ю забілі...

— Чуў ужо.

У дзвярах будыніны паявілася мажная жанчына. Яна адразу закрычала на Язэпа:

— Ты чаго да яе прычапіўся? Ану, матай адсюль. А то я цябе правучу. Мяне шалёны поп хрысціў.

Яна ішла на Язэпа і ўвесь час трэсла кулаком. Язэп адступаў на вуліцу.

— Чаго ўсхадзілася? — спалохана казаў ён.

Яна правяла яго лаянкай да вуліцы і супакоілася толькі тады, як ён завярнуў у завулак. Клава не спыніла яе, не паклікала яго. Яна стаяла як скамянелая, і толькі рука выцірала ражком хусткі вочы. Язэп убачыў яе такой, калі паварочваў у завулак. «Бач ты, абразіў яе!.. Плача... Табе яшчэ не такое трэба было сказаць...»

Ён ішоў па завулку шпарка, бо яго падганяла злосць. І ледзь не прамінуў райком. Аддыхаўся і на ганак узышоў паспакайнелы.

У цёмным калідоры панавала цішыня. Са святла не не ўдавалася разабраць, дзе дзверы, і Язэп шукаў іх рукою.

Яго ледзь не падбіў лысаваты вёрткі чалавек. Ён выбег на калідор і перахрысціўся аж тры разы. Здзіўлены гэтым, Язэп рашуча пайшоў туды, адкуль вылецеў гэты перапалоханы чалавек.

У пакоі было светла. За сталом сядзеў чорны пахмурны мужчына. Ён падняў галаву. Язэп убачыў злыя вочы і вялізны шрам на лбе. Хацеў быў адступіць за дзверы, але чалавек заўважыў яго:

— Што-о ва-ам, тава-а-арыш? — чалавек здорава заікаўся.

— Мне сакратара трэба,— адказаў Язэп.

— Слуха-а-аю вас...

Сакратар паклаў рукі на стол, чакаў, пакуль Язэп сядзе ў крэсла. «На мяне ён дужа не пакрычыць. Нораў свой дома хай паказвае»,— падумаў Язэп.

— Я з Кляўцоў,— пачаў ён.— Язэп Каліна. Старшыня. Вышак мяне на гэтую пасаду прызначыў. Дык вось я па ўказанні прыйшоў.

Сакратар сашчапіў рукі, схіліў набок галаву — так яму, відаць, лягчэй было вымаўляць словы.

— Дык вось, тава-а-арыш Ка-аліна, трэба спачатку а-акты са-аставіць, у-у-улік пра-а-авесці. Зойдзеш у выканком, та-ам цябе пра-ака-ансультуюць. Гэ-эта ра-аз. Па-а-другое...

Язэп перапыніў яго:

— Улічваць у нас няма чаго. Ні кала́ ні двара. Ды і не гэта галоўнае: жыта трэба жаць. А яно заміріравана.

— Тут скрозь мі-іны гэ-этыя. Дык я і ка-а-ажу, па-а-другое, жаць трэба і сеяць. Не па-а-асееш — не збярэш хлеба па-а-алета.

— Без мінёраў мы нічога не зробім...

— А-а-а дзе-е іх узяць? Да-а-арагі та-аварыш, мінёраў ня-а-а-ма. І не мы імі рас-па-арадждаемся... Ко-о-ожны ў райком ідзе. Поп і той прыпёрся... ну, дык я яго як шуга-ануў...

«Ага, вось хто гэта хрысціўся»,— падумаў Язэп і ўжо весялей сказаў:

— Папа вы гэта правільна шуганулі. Толькі я не поп. Жыта жаць трэба, а да яго не падступіцца... Мне б чалавекі тры мінёраў...

— Я ска-а-азаў та-абе: ня-а-ама мінёраў.

Гнеў спакваля захопліваў і неяк узбуджаў Язэпа.

— Дык што, хай жыта прападае?

— Чаму яно па-а-авінна прападаць? За жы-ыта мы-ы з ця-а-абе спытаем.

— Дык што я — людзей на міны паганю, як немцы ганялі?

— Га-а-аняць не-е-э трэба, растлумач ім, дык людзі самі пойдуць. За-а людзей мы ў ця-а-абе та-ак-сама спытаем.

Гэта канчаткова вывела Язэпа з цярпення. Сядзіць тут, як пень яловы, а таго не разумее, што людзі галодныя. Яны самі пойдуць і падарвуцца. Адчуваў, як падступае да горла гарачая, нібы кіпень, злосць. Ледзь стрымліваючы сябе, стараўся давесці сакратару, што мінёры яму патрэбны пазарэз.

— Не аднаму та-абе. Усім па-а-атрэбны. А дзе я іх ва-азьму? Ва-айна яшчэ...

— Дык якога чорта ты тут сядзіш? Гэтак распараджацца кожны здолее.

Сакратар заікнуўся надоўга. Язэп бачыў, як пабялеў ружовы шрам на лбе. Пакуль сакратар стараўся вымавіць слова, дык ягоная рука з усяго размаху ляпнула па стале. Шкляная чарнілка-невылівайка падскочыла ўгору, перакулілася набок. Некалькі кропель пырснула па паперы.

— А ты не грукай... Не такіх бачылі. І пайшоў ты...

Язэп зачыкільгікаў да дзвярэй.

— Па-ачакай, Каліна...

Але Язэп сам здурэў ад злосці. Выбег на вуліцу і яшчэ доўга не мог супакоіцца. Астываў памалу і тады пачаў заўважаць, што на яго азіраюцца прахожыя. «Чаго я ўскіпеў? — падумаў ён. — І праўда, дзе ён тых мінёраў знойдзе?»

Ідучы дамоў, Язэп думаў пра тое, што рабіць, калі мінёраў не прышлюць, лаяў сябе, што нагарачыўся, не вы-

светліў нават, хто ж распараджаецца мінёрамі. А чаго дамогся крыкам ды лаянкай? Нічога. А ўсё таму, што сустрэўся з Клаваю. Каб не яна, дык і з сакратаром райкома гаварыў бы спакойна. Ён, можа, і не такі благі чалавек, як здалося. Таксама інвалід. Параніла яго моцна. Відаць, у партызанах. Вышак казаў, што ўсё раённае начальства з партызан. Дзівак, што да Вышака не зайшоў. Той памог бы.

Язэп неяк непрыкметна дабраўся да сваёй вёскі...

Ля ягонай зямлянкі стаялі жанчыны. Ён падумаў, што яны прыйшлі сюды, каб даведацца, якія ён прынясе навіны з горада. А ён вяртаўся з пустымі рукамі. Стала брыдка: не мог дамагчыся свайго. Але калі ён падышоў бліжэй, дык убачыў на зямлі пад кавалкам парусіны жанчыну. У галавах гарэла тоненькая свечка.

Ён адразу здагадаўся, што тут здарылася без яго. Насцярожана акінуў натоўп паспешлівым позіркам, шукаючы, каго не хапае сярод жанчын. «Няўжо Фруза Макарышына?» — падумаў ён, прыглядаючыся да мёртвай. Пазнаць яе было цяжка.

— Хто ж вам дазволіў? — запытаўся ён з дакорам і зразумеў, што пытанне гэтае пустое, непатрэбнае. Жанчыны, дзеці стаялі маўклівыя ад гора. Ніхто не плакаў. Але гэтая маўклівасць была куды страшнейшая, чым галашэнне.

Язэп пастаяў крыху, успамінаючы, як раніцай сустрэў Фрузу з кошыкам грыбоў. Быццам тады прадчуваў, што нешта з ёю здарыцца, сказаў: «Не вельмі рызыкуй, Фруза». А яна ўсміхнулася ў адказ: «Я шчаслівая. Мяне Уда́чкай празвалі». Вось табе і Удачка! «І якога ліха пагнала іх на поле? Хоць бы мяне пачакалі!» — і раптам зноў успомніў, што вярнуўся без мінёраў. Яго ахапіла злосць на таго заіку, што не можа памагчы людзям.

Прыйшоў Даніла Іванёнак з сякерай і нажоўкай пад пахай. Запытаўся ў Язэпа шэптам:

— Як хаваць будзем? Дошак няма.

— Вазьмі, што я на падлогу прынёс,— гэтак жа шэптам адказаў Язэп.

Даніла моўчкі выцягнуў з зямлянкі дошкі, дастаў з кішэні драўляны складны метр. І вось тады звонкую цішыню абарвала галашэнне Макарыхі.

— Не дам... Не пушчу яе...— яна ўпала на зямлю, аб-

хапіла дачку аберуч.— А мая ты дачушка, а мая ты птушачка ранняя...

Жанчыны падхапілі Макарыху. А яна білася ў іх руках, крычала, пакуль зусім знясілела.

## 4

Язэп паціху, каб не разбудзіць старых, адзеўся, выйшаў на двор. Было ўжо светла, па-ранішняму волка і халадна. Яму не спалася ўсю ноч. Чамусьці хацелася пабачыць тое месца, дзе ўчора падарвалася Фруза. І ён не вытрываў, пайшоў.

За ім цягнуўся па траве шыракаваты цёмны след. Ногі хутка прамоклі, а на ботах наліп пух метлюжка. Ранішні халадок асвяжаў цела, зморанае духатой зямлянкі і бяссонніцай.

Спачатку ён ішоў краем замініраванага поля, вызначаў яго па акуратных шыльдачках з надпісам па-нямецку: minen! Зварочваць да жыта — а яно было зусім недалёка — Язэп пабойваўся. У густой траве цяжка заўважыць міну, яшчэ зачэпіш нагой дроцік і падарвешся. Як жа да жытнёвага поля дабраліся жанчыны? Шчаслівы выпадак?

Язэп ведаў, што немцы звычайна расстаўляюць міны ў строгім парадку, але так, што калі пойдзеш напрасткі, дык крокаў праз дзесяць — дваццаць абавязкова наступіш на міну. А Фруза, казалі, падарвалася на жытнёвым полі. Звязала першы сноп, нагнулася і толькі зачапіла сярпом жыта, як пачуўся выбух. Дзе ж жанчыны знайшлі дарогу між мін? Язэп прыглядаўся. Павінен жа быць след у траве.

Непадалёк ад Астапаўскага рова Язэп убачыў узгорак. Узышоў на яго. Мабыць, тут у немцаў стаяла батарэя. Навокал — варонкі ад бомбаў. Відаць, батарэю не раз бамбілі. А гарматы немцы хавалі ў зямлі, пад курганом. Таму і трымалася батарэя.

Язэп паглядаў навокал і раптам убачыў у траве след, тады здагадаўся, як жанчыны дабраліся да жыта. Мабыць, немцы хадзілі на былы Максімаў хутар па ваду ў калодзеж, і сцежка гэта або не была замініравана, або артылерысты размініравалі яе.

Гэтай сцежкай ён падышоў да жыта. Адразу ўбачыў некалькі снапоў, што ляжалі на полі, і ўбачыў чорнае абсмаленае ржышча і неглыбокую ямку ў жыце. Тут і загінула Фруза.

Язэп стаяў над ямкай. Усё цела яго было непаслухмя-

нае і чужое. І толькі адна думка непакоіла: трэба зрабіць так, каб больш ніхто не загінуў тут. Але што ён можа зрабіць? Жанчыны ўсё роўна прыйдуць сюды жаць. І ніхто іх не спыніць. Значыць, і яшчэ будуць ахвяры.

Ён адышоў, сеў на сноп. Перад ім высокай сцяной уздымалася жыта. Тоўстыя, з чырванаватымі каленцамі сцяблы стаялі густа адзін пры адным, як трыснёг ля рэчкі. Важкія, доўгія, вусатыя каласы ў дробнай расе згіналі сцяблы ў адзін бок, сюды, дзе сядзеў Язэп. Здавалася, яны так і прасяцца пад серп.

Але як ты падступішся? Язэп асцярожна падышоў да жыта, сарваў колас. Ён не ўмясціўся на далоні, такі быў доўгі. І зерне ў ім было буйное, жоўтае. Колькі ж хлеба зглуміцца тут, калі не сажнеш жыта! А зжаць, відаць, не давядзецца. У жыце прыхавалася смерць. І ніхто не дасць рады, хіба адны мінёры. Толькі іх не дачакаешся ні сёння, ні заўтра. А людзі чакаць не могуць. І жыта чакаць не будзе — асыплецца. Людзі прыйдуць жаць жыта. Прыйдуць і загінуць — усе, па адным.

Язэп раструшчыў колас, сыпануў зерне пад ногі. «Лепей няхай загіне жыта, чым людзі,— падумаў ён.— Якнебудзь пражывём. А жыта цяпер — як прынада ў пастцы».

— Чуеш, ты — смерць,— сказаў ён жыту. Жыта стаяла, схіліўшы калоссе.

Ён выцягнуў з кішэні запалкі — папяровы пакецік, у якім былі дзесяць кардонных палосак з чырвонымі галоўкамі. Адарваў адну. Заціснуў пакецік падбародкам, чыркануў запалкай раз, другі. Серны пах ударыў у нос, запалка загарэлася. Язэп паднёс яе да коласа. Кволы агеньчык абсушыў жытнёвыя вусікі, і яны абвугліліся, апалі. Колас выскаліўся зернем, як зубамі. Запалка патухла.

«Дзівак я,— падумаў Язэп,— трэба сноп падпаліць спачатку, тады жыта зоймецца агнём».

Гэтая разважлівая думка раптам здалася яму дзікай, страшнай. «Што ж я раблю? — падумаў ён.— А людзі што скажуць? Як жа яны жыць будуць? Гэта ж жыта, хлеб...»

Ён паклаў запалкі ў кішэню. Стаяў разгублены, пахмуры, не ведаючы, што рабіць цяпер. «Буду вартаваць тут,— вырашыў ён.— Не пушчу нікога на поле. Пакуль мінёраў не прышлюць. І начаваць тут буду».

— Ну што ж, пакуль жыві,— сказаў ён жыту, як чалавеку.— Жыві...

Ён захапіў рукой жыта і раптам убачыў міну і два вусікі, што тырчалі ў розныя бакі.

Ах, чорт! Баяўся адпусціць сцяблы — раптам зачэпяць вусік. Нагнуўшыся, доўга прыглядаўся да міны. Такія ён бачыў. Не хітрая штука.

Затаіўшы дыханне, адкруціў дрот, з асцярогай зняў міну. Аднёс на ўзмежак, выцер узмакрэлы лоб. Падумаў: «Мінёр памыляецца раз у жыцці». Вярнуўся назад, знайшоў яшчэ адну і зноў пачаў знімаць яе. Мільганула думка: «Добра, што правая рука асталася. Каб левая, дык не здолеў бы».

І другая міна была знята. Потым ён перастаў лічыць. Небяспека толькі выклікала радасць: «Нічога са мной не здарыцца».

У пошуках мін ён забіраўся ўсё глыбей у жыта. Страху не адчуваў — была цяжкая работа.

Ад работы яго адарвалі жаночыя галасы. Язэп разагнуўся і адразу ж убачыў жанчын. Яны ішлі ланцужком, след у след, а наперадзе ўсіх Макарыха. І яны ўбачылі Язэпа, спыніліся, забыўшыся на небяспеку, сабраліся ў гурт.

— Не бойцеся, там чыста,— гукнуў ён і пачаў знімаць міну. Нёс яе на выцягнутай руцэ.

Яго абступілі, дзівіліся, перамаўляліся:

— Маленькая якая, а сіла вялікая...

— Навыдумлялі на нашы галовы...

— Хай бы іхнія немачкі паспыталі таго, што нам даводзіцца.

— Дабяруцца і да іх.

— Куды ж ты з ёю цяпер? Яшчэ ўзарвецца!

Язэп размахнуўся, далёка адкінуў міну. Яна ўпала ў траву, і адразу ж на тым месцы паявіўся дым. Лёгкі выбух нагадаў удар пранікам па мокрай бялізне.

...Жанчыны пачалі жаць з асцярогай, бо хто ведае, што яшчэ маглі прыдумаць праклятыя гітлераўцы. Язэп сеў на першы звязаны сноп. Здаецца, і не хваляваўся, як здымаў міны, а цяпер чуў, што трымціць кожны мускул.

Ад снапа пахла паспелай збажынай — забыты за вайну і таму асабліва прыемны пах. Ціха жыкалі сярпы ў руках жанчын, ды чуўся шоргат калосся, калі жнеі перакідвалі цераз плячо аджатую жменю жыта. Гэтыя жаўтлявыя жмені ўвесь час мігацелі ў паветры, напамінаючы Язэпу старыя добрыя часы, калі, бывала, да вайны на жніво выходзіў увесь калгас. Тады было яшчэ шмат песень,

задушэўных жніўных песень, ад якіх звінела поле. Цяпер жанкі працавалі моўчкі. Злева, непадалёк ад таго месца, дзе адпачываў Язэп, жала Макарыха ў доўгай спадніцы з парусіны. Парусіна шалясцела, як, бывае, шалясціць пад ветрам толевая страха. На другім канцы жала Даша. У яе быў шырэйшы загон, і яна крыху адстала. Язэп добра бачыў яе твар у профіль. Яшчэ ён бачыў яе ногі, загарэлыя ад ступняў і белыя вышэй, пад каленямі. Вось яна разагнула спіну, хуценька зрабіла перавясла, потым, падняўшы яго ў руках над галавой, пацягнула ў бакі, распрамляючы стан і плечы. Язэпу было прыемна сачыць за Дашай, за тым, як яна спрытна жне. Здаецца, ён чуў, як шастае яе серп. «Добрая дзеўка, факт»,— падумаў ён.

— Ой, што гэта!..— пачуўся чыйсьці голас.

Усе кінулі жаць, абступілі Петрачыхіну Кацю, а яна паказвала сабе пад ногі:

— Талерка нейкая. Так напалохалася, думала — міна.

Язэп прычыкільгаў туды, нагнуўся над чорным круглым донцам.

— А то і ёсць міна, толькі супрацьтанкавая... Зараз мы яе выцягнем.

Ён стаў на калена, а потым ужо азірнуўся, каб загадаць жанчынам адысціся. Але яны самі кінуліся прэч, упалі за ўзгоркам, схаваўшы за ім галовы. Чарнелі толькі жаночыя спадніцы. Язэпу зрабілася смешна: пяхотных мін жанчыны як бы не баяцца, а супрацьтанкавай спалохаліся, хоць яе і не трэба асцерагацца.

— А ты чаго стаіш? — здзівіўся ён, убачыўшы за сваёй спіной Кацю. Яна стаяла, сашчапіўшы рукі, як бабулька на малітве.

— Вы, во, не баіцёся.

— Я што — інвалід. А табе няма чаго тут рабіць.

— Дык жа вам нязручна з адной рукой. Можа, я памагу?

Язэп разгроб зямлю, паціху выкруціў запал, падаў яго Каці.

— Патрымай запал. Толькі асцярожна, без рук можаш астацца.— Потым гэтак жа не спяшаючыся дастаў цяжкую чыгунную міну, круглую, нібы грэлка з пустой гарлавінай.— Ну, вось і ўсё. Цяпер яна, галубка, не страшная.

— А тыя, маленькія, таксама з запаламі? — запытала Каця.

— І тыя. Але там запал кволы, ледзь што — выбух. Іх звычайна на калках ставяць або на дроцікі вешаюць. Самае лепшае — зняць і адразу ўзарваць.

— То, можа, вы мне пакажаце, як іх знімаюць?

Язэп раззлаваўся. Не хапала, каб яшчэ гэтая падарвалася. Дзіця ж зусім. Але Каця прыстала да яго як смала, і ён вымушаны быў паказаць, як трэба знімаць маленькія супрацьпяхотныя міны.

— Толькі глядзі — і блізка да іх не падыходзь,— яшчэ раз папярэдзіў ён Кацю.

І, зноў забраўшыся ў жыта, разлічваючы кожны свой крок, Язэп шукаў міны, знімаў іх з дроту і выносіў на палянку. Грудок з мін рос. Язэп нават здзівіўся, што ён расце так хутка. Потым убачыў, што Каці сярод жней няма, і ўсё зразумеў.

— Вы, цётка, забаранілі б Каці брацца за гэтую работу,— сказаў ён Петрачысе.

Тая махнула рукой:

— Авой, Язэпка, ці ж яна слухаецца.

...Да вечара жнеі нямала зрабілі — як кінуць вокам ляжалі сноп на снапу. Жанчыны сабраліся ў гурт, пачалі раіцца, каму ісці дамоў, а каму аставацца ставіць бабкі.

На полі асталіся толькі дзяўчаты. Даша таксама не пайшла дамоў. Яна, здаецца, стамілася менш за другіх і цяпер лёгка бегала па ржышчы, збіраючы снапы.

Язэп заціскаў сноп між ног, падбіраў рукой яшчэ сноп, прыстаўляў да першага, потым, падтрымліваючы грудзьмі гэтыя два, браў трэці, чацвёрты, пяты. Калі «буданок» быў гатовы, прыстаўляў да яго яшчэ чатыры, потым накрываў бабку снапом — покрыўкай. Яму было нялёгка, таму то адна, то другая дзяўчына памагалі. Часцей за ўсё Даша. Калі яна прыгінала калоссе, каб не тырчала ўгору, Язэпава рука краналася яе шурпатых, агрубелых у рабоце рук. Гэта і бянтэжыла Язэпа і хвалявала неяк па-новаму, не так, як раней.

Яны абцямнелі яшчэ на полі. Туды, у Папоўскі роў, ім давялося ісці адным, бо астатнія жылі ў Астапаўскім рове ў старых зямлянках.

Над Гаравацкай гарой узыходзіў месяц, вялізны, чырвоны. На полі сям-там ляжалі цёмныя цені ад узгоркаў і кустоў. Здавалася, што нехта няўклюдны наслядзіў на ім.

У траве на ўсе галасы стракаталі конікі. З балота, ад-

туль, дзе Пітамка мірна спала ў чаротах, поўз сюды, у вёску, волкі туман.

Даша ішла наперадзе з сярпом на плячы. На выслізганай паверхні сярпа часам паблісквАў месячны праменьчык. Язэп стараўся не адстаць, кульгаў і ўсё больш абапіраўся на кій.

— Запарыўся я зусім,— нарэшце не вытрываў ён.— Як на пажар бяжым.

Даша спынілася, пачакала яго.

— Ой, а я загледзелася нешта на поле і бягу...

Ён падышоў да яе, працягнуў кій.

— Патрымай, хоць лоб вытру.

Яна ўзяла кій, абапёрлася на яго, глядзела, як Язэп выцірае рукавом лоб, твар.

— Ну, от і ўсё,— сказаў Язэп.— А праўда, добра як і прыгожа. І ціха. Але недзе ваююць. Недзе забіваюць вось такіх, як мы.

Даша, апусціўшы галаву, маўчала, паддаючыся самоце, што чулася ў яго словах. І Язэпу стала шкада яе. Там, на фронце, салдаты рэдка гаварылі пра смерць. Чаго ж ён раптам прыгадаў яе? Ноч хіба вінавата? Дык у такую ноч не пра смерць трэба гаварыць.

— А ты чаго замаркоцілася? — ён палажыў руку ёй на плячо, адчуў ласкавую цеплыню цела.— Калі разабрацца, дык у любы час нехта памірае, а нехта нараджаецца... А нехта, можа, мілуецца. Ноч такая... Бывала, самыя вясёлыя вечарынкі ў жніво.

— Мне не давялося гуляць. Дзяўчынка яшчэ была, дык маці не пускала. Ужо ў вайну пачала хадзіць на вечарынкі.

Яму захацелася спытаць, а ці гуляла тут Клава, пакуль пайшла ў партызаны. Дзіва, што гуляла. Той палонец, як казала цётка Таццяна, жыў у вёсцы, і, мабыць, Клава знюхалася з ім яшчэ тут.

Ён уявіў, як Клава з акружэнцам танцавала на вечарынках, прыціскаючыся да яго, як потым яны цалаваліся дзе-небудзь у цені прысад, і яго аж закалаціла ад рэўнасці. «Астаўся тут, гад, каб дзевак нашых мацаць. Такому не дужа хацелася выходзіць з акружэння. І яна добранькая дужа, адразу яму на шыі павісла».

Потым ён падумаў, што так і не запытаўся ў Клавы, хто яе муж і дзе ён. Можа, загінуў і яна цяпер адна. А што, калі і праўда адна? Што зрабіў бы ён, каб яна была адна? Падышоў бы і сказаў: «Ну што, выскачыла

замуж не ў пару? А я цяпер на цябе і глядзець не хачу. Хоць у ногі падай — не дарую».

Але ён разумеў, што Клава ў ногі яму не ўпадзе... Яна гордая і прасіць яго не стане. «Не, я ажаніўся б з ёю, калі б адна асталася,— падумаў ён,— няхай бы ўсё жыццё пакутавала за сваю памылку».

Яму чамусьці сёння хацелася быць жорсткім. Можа, таму, што ноч такая прыгожая, ціхая, а ён валачэцца з поля і да раніцы павінен ляжаць адзін у душнай зямлянцы. І ўсё праз Клаву. Праз яе няверпасць...

У роў спускаліся, трымаючыся за кусты. Унізе, пад кручай, было цёмна, а той бок рова светлы, у месячным ззянні. Па вузкай сцежцы ісці поруч было нязручна. Зноў Даша ішла паперадзе. Ступаючы следам, Язэп проста-такі адчуваў цеплыню яе цела, чуў пах валасоў, і ўсё гэта хвалявала яго.

Зямлянку асвятляла яркае сінявата святло карбідкі. Яно рэзала ў вачах, асабліва пасля панадворка, дзе і святло і цені былі мяккія.

— Што гэта вы так позна? — буркнула цётка Таццяна.

— У Язэпа нага баліць, дык ішлі памалу,— адказала Даша.

— Навошта табе жыліцца? — Даніла скаціўся з печы і, седзячы на бярозавым цурбалі, пачаў даводзіць, што Язэпу зусім не варта старацца.

Яго ніхто не падтрымаў — усе былі змораныя. Вячэралі моўчкі. Даніла разы са два спрабаваў усчаць гаворку:

— Дзверцаў у духоўкі я, браце мой, дастаў. У Цішкаўку хадзіў. Заўтра б нацямку яшчэ варта зматацца. У зямлянках сёе-тое асталося — прыгадзіцца. Пасля за ўсё грошы плаці,— разважаў Даніла.

— Еш, во, і маўчы,— параіла Таццяна, і ён змоўк.

Пасля вячэры жанчыны хуценька прыбралі са стала посуд, а Язэп з Данілам закурылі. І зноў маўчалі.

Даша ўзяла посцілку, кажух, падушку, згарнула ўсё ў вялізны ком.

— Я сёння на двары начаваць буду. Тут душна — сказала яна і выбралася з зямлянкі.

Даніла дакурыў цыгарку, зноў узлез на печ. Неўзабаве адтуль пачулася прыглушанае мармытанне, дзядзька ці то маліўся богу, ці то лаяўся, а на каго — не разабраць.

Цётка Таццяна паслала Язэпу на падлозе, і ён лёг не

распранаючыся. Потым і цётка лягла на тапчан, крактала, варочалася, мабыць, пасля жніва балела цела і яна ніяк не магла ўлегчыся.

Глухая цемра ахутала зямлянку, у змроку ледзь-ледзь шарэў квадрацік акна. Было душна, мулка і цяжка. Здавалася, на цела навалілася столь і прыціскае да падлогі.

Язэп заплюшчыў вочы і адразу ўбачыў перад сабой густое жыта і міны, чорныя, маленькія. Потым перад ім узнікла бурае воблачка з агню і пылу — адно, другое, трэцяе. Усё як наяве, толькі не было выбухаў. Затое гулка і надрыўна звінелі ў вушах бомы...

Сон асвяжыў сілы. Раніцай Язэп адчуў сябе бадзёрым, моцным. Даша памагла яму памыцца. Яна стаяла ля яго з ручніком цераз плячо, ліла з конаўкі халодную ваду на руку. Язэп фыркаў ад холаду, расціраў ручніком твар, шыю, аж пакуль яны не пачырванелі.

— Бачыш, без нянькі і памыцца не магу,— сказаў ён, аддаючы ручнік.

— Ой, і клопату таго,— адказала Даша.

— Давай цяпер я табе палью на рукі. Каб не думала, што зусім нічога не варты.

— А я і не думаю,— адказала яна, але ад яго дапамогі адмовілася.

Пасля снядання яны пайшлі на поле. Жанчын яшчэ не было. Язэп асцярожна пачаў заходзіць у жыта. Азірнуўся — Даша стаяла, прыціснуўшы рукі да грудзей.

—Ты чаго?

—Страшна мне. Глядзі, Язэпка, асцярожней... Не дай бог...

Язэп сумеўся. Як за свайго непакоіцца.

— Не бойся. Мне і не такое даводзілася перажываць,— і пайшоў па жыце, шукаючы міны...

Праз тыдзень жыта было зжата.

## 5

Жыта абівалі на полі. Даніла Іванёнак выкасіў круглявіну на пожні, дзяўчаты падчысцілі яе рыдлёўкамі — ток быў гатовы. Прыцягнулі сюды дзве калоды — і работа закіпела. Хто малаціў снапы пранікам, хто абіваў аб калоду. Увачавідкі расла гара акалоту і буйнога, як пацеркі, зерня. Ля самых калод яно было чыстае, амаль без мякіны, і нейкае залацістае на сонцы. Ад яго пахла свежай мукой.

Акалот пахнуў па-свойму: пустой саломай, з якой выбіта зерне, і мятліцай. Пах гэты быў гаркаваты і сыры, нават трохі прэлы, хоць снапы добра высахлі.

Язэп знайшоў работу па сабе. Браў ужо абмалочаныя пранікам снапы, яшчэ раз вытрасаў іх і складаў у кучу. Акалот залаціўся на сонцы. Добрыя стрэхі будуць на хаты!.. Язэп раскайваўся ўжо, што пачаў будаваць зямлянку. Хапіла б яму бярвення і на хату. Няхай маленькая, нізкая, а ўсё ж не ў зямлі.

Абедаць дамоў пайшлі толькі Іванёнкавы. Жанчыны прынеслі вялізны салдацкі кацёл, круп і мукі, нават некалькі лыжак шмальцу, зварылі зацірку. З катла падымалася гарачая пара, духмяная і смачная — мабыць, у шмальц немцы клалі нейкія спецыі. Было не дачакацца, пакуль варыва згатуецца.

Потым сядзелі з лыжкамі вакол вялізнай місы, падстаўлялі пад іх кавалкі праснакоў, каб ніводная кропля не прапала дарма.

Пасля няхай сабе нясытай, але гарачай і смачнай на полі стравы людзей ахапіла лянота, тая, калі не хочацца ні гаварыць, ні нават варушыцца. Жанчыны прылеглі на акалот, млява раскінуліся пад гарачым сонцам. Яно было ўжо не такое гарачае, як у ліпені, а лагоднае, мяккае, як пасталелая ў замужжы дзяўчына.

Язэп таксама ляжаў, крыху воддаль, падклаўшы пад галаву ababіты сноп. Глядзеў у неба, высокае і сіняе. Ён, праўда, не змарыўся так, як жанчыны, але ляжаць усё роўна было прыемна. Колькі гадоў ён чакаў гэтага часу, спакойнага і такога дарагога яму, бо толькі той, хто тры гады бадзяўся па свеце, хто таптаў гразь, снег, сухую выбітую стэпавую зямлю, хто зведаў бясконцыя бамбёжкі, артылерыйскія налёты, рукапашныя баі ў акуратненькіх нямецкіх траншэях, хто поўзаў па балотах і спаў пад елкай на сырой зямлі — толькі той можа адчуць, якое гэта шчасце ляжаць вось так пасля работы і нічога не баяцца. Божа мой, якое гэта салодкае шчасце, што здабыта ў пакутах! Потым Язэп падумаў, што і жанчыны, мабыць, не менш за яго цешацца адпачынкам. Ім таксама дасталося ў гэтую вайну. Ды і каму не дасталося? Каго не зачапіла вайна? Нават Данілу Іванёнка, які думае, што абхітрыў яе. Міхася няма дома, і невядома, дзе ён.

«Ах, Міхась, Міхась, дасталося і табе. Уцёк з палону, пайшоў у партызаны, вярнуўся паранены, зноў баяў-

ся, што схопяць немцы, ды так і не ўсцярогся. Ці жывы ты?..»

Язэп раптам забыўся на гэтыя думкі, бо паплылі другія. Успомнілася, як, бывала, на прывалах марыў пра вяртанне дахаты. Тады ўсё трызнілася іначай. Не, не чакаў ён, што так вернецца!.. Усё, здавалася, будзе не так. Мроілася нешта вясёлае, шумнае. А вось давялося вярнуцца... І ўсё роўна добра. Ціха. Гэта самае важнае.

Цішыня станавілася ўсё глыбейшая. Заміраў шэпт дзяўчат. Лёгкі вецер, што налятаў зрэдку, гладзіў твар, быццам дзявочыя пальцы краналіся шчок, вачэй, ілба...

Язэп сніў жыта. Яно хвалявалася пад ветрам, і над ім слаўся жаўтаваты рэдкі туман. Жыта красавала. Язэп ішоў па сцежцы. Было сонечна і цёпла. За рэчкай стаяла Клава і махала хусткай. Потым на месцы яе паявілася Даша. Яна распранулася і паплыла цераз раку. Язэпу было сорамна, што глядзіць, як Даша плыве, вылазіць на бераг зусім голая. Ён адвярнуўся, а калі азірнуўся зноў — Дашы не было. На зямлі ляжала мёртвая Фруза. «Чаму ж яе не пахавалі?» — падумаў ён. Нехта загаласіў. Язэп хацеў павярнуць галаву, каб паглядзець, хто галосіць. Але не мог. Галава як чужая. Ён напружыў усе сілы, павярнуў цяжкую галаву... І прачнуўся.

Жанчыны і дзяўчаты спалі. Было вельмі ціха, нават чуваць, як дыхаюць сонныя людзі. І ў гэтай цішыні асабліва ўражáла галашэнне, што здалося ў сне, нібы Язэп чуў яго наяве. Бывае ж такое...

Язэп падняўся, паправіў гімнасцёрку, што выбілася з-пад рэменя. І тады ўбачыў, як уздрыгваюць плечы ў Макарыхі. Яна ляжыць тварам уніз, занурыўшыся між снапоў. Галавы амаль не відаць, а плечы ўздрыгваюць. Можа, і яна глядзіць нейкі страшны сон? Язэп падышоў, асцярожна пакратаў Макарыху за плячо. Адчуў, што яно пачало калаціцца яшчэ мацней. Але галавы Макарыха не ўзняла, а яшчэ глыбей схавала ў снапы.

— Цётка, чаго вы? — Ён прысеў побач.— Не трэба, цётка...

Яна павярнулася на бок, села. Выцірала распухлыя ад слёз вочы. І не было слоў, каб суцешыць яе. Што ты скажаш чалавеку, у якога нікога не асталося? Фруза на міне падарвалася. Малодшы сын, Коля, загінуў у партызанах, яшчэ ў сорак другім годзе. Старэйшы, Васіль, кажуць, трапіў у палон. Перадаў вестачку з-пад Полацка, што сядзіць у лагеры і калі не выручыць яго, дык загіне.

Хадзіла тады Макарыха пад Полацк у той страшны лагер, але Васіля не знайшла, і ніхто не мог сказаць, ці ёсць ён тут. Дзе там знойдзеш чалавека, калі ў лагеры сядзела, можа, тысяч трыццаць. Пра самога Макара таксама няма чутак. Тут словам не паможаш. Словам толькі развярэдзіш душу.

Яны абое маўчалі. Макарыха сушыла ражком хусткі вочы, ківалася з боку на бок.

І ўсё ж трэба было пра нешта пачаць гаворку, каб адарваць Макарыху ад панурых думак. Зусім жа зойдзецца жанчына ад слёз.

— Што ў цябе хацеў запытаць, цётка...— ён сам нават здзівіўся, што яму ўзбрыло ў галаву запытаць у цёткі пра Клаву, потым здалося, што гэта няёмка пытаць, і ён спытаў зусім не тое, што хацеў: — Як вы тут жылі?

— Так і жылі,— памаўчаўшы крыху, сказала яна.— Усяк жылі. Хітрэйшыя лепш...

— А Іванёнкавы, во, асталіся,— напомніў ён.

— Бог ім суддзя...

Язэп насцярожыўся. Не хацелася, каб цётка сказала нешта дрэннае пра іх — з-за Дашы. Даша яму стала як бы родная. Але цётка і сама змоўкла. Яны маўчалі доўга, і Язэпу ўжо хацелася пачуць што-небудзь ад Макарыхі пра Іванёнкаў. Але яна пачала пра іншае:

— Во, і Марына, маці твая, недзе плача. Думае, што цябе ўжо на свеце няма. Тут жа ўсяго пра цябе напляўзгалі.

Язэп здагадаўся, што Макарыха гаворыць пра Міхася. Але Міхася ён не вінаваціў. Бой тады быў цяжкі, і Язэпа сапраўды параніла. Міхась мог падумаць, што Язэпа забілі.

Цётка Макарыха паднялася, узяла сноп і моўчкі пачала абіваць яго. Калоссе глуха падала на калоду, і з яго ляцела зерне, як пырскі дажджу.

Прачнуліся жанчыны, загаманілі.

— Авой, Хрысціна, табе ўсё болей другіх трэба.

— Паляжала б яшчэ...

— Да вечара яшчэ далёка, намахаемся.

Але жанчыны самі не маглі ўседзець. Руліла ім да працы.

— А чаго ты пра Данілавых пытаўся? — раптам здзівіла Язэпа цётка Макарыха.— Ці не ў прымы думаеш прыстаць?

Язэп збянтэжыўся. Даша яму падабалася, але яна маладая, ды ён і не думаў пра жаніцьбу. Які ён жаніх.

— Даша ў іх харошая,— адказаў ён.

— Адна яна ў іх. А Мішка — той ці вернецца. Такія, як ён, галаву не доўга носяць.

— А што ён?..

Цётка паглядзела на яго так, быццам не верыла, што Язэп нічога не ведае.

— Ды нічога... Скрытныя яны — і Даніла, і Тацюха. Мішка гэты тут чорта вырабляў. Ён жа быў папёрся ў паліцыю, як з палону прыбег. Пасля адтуль, у партызаны кінуўся. Нешта месяцы тры пабрындаў там. Усё на кані ездзіў. Бывала, прыляціць у вёску ўвесь рамянямі абчапаны. А пасля прыпёрся і адтуль. Цяжкавата там стала. Усе думалі, што заарыштуюць Мішку, аж адкупіўся. Даніла тады бургамістра ды начальніка паліцыі тыдні два паіў. Ну, і вымалілі у іх Мішку. Пагналі яго некуды за Дзвіну.

Язэп чакаў, што Макарыха раскажа яму пра Міхася больш падрабязна. Ён ніяк не мог зразумець, што тут, у вёсцы, рабілася ў акупацыю. Штосьці незразумелае. Як гэта магло быць, што Міхась і ў паліцыі служыў, і ў партызанах ваяваў? Але Макарыха змоўкла.

— Чаму ж Міхася пагналі за Дзвіну? — спытаў ён.

— А хто яго ведае,— адказала цётка.— Рознае гавораць. Можа, і хлусяць.

— А што гавораць?

— Ай, не варта казаць... А Даша ў іх гаспадарлівая. Добрая дзеўка. Ты, сынок, не сумнявайся, яна цябе глядзець будзе.

— Што вы, цётка, я і не думаў... Ды і яна — маладая... і ці пойдзе.

— Хіба ж не бачу... Любіць яна цябе.

Размова з Макарыхай запала ў Язэпаву душу. І праўда, дурань ён, думае пра Клаву, пакутуе. А згубленага не вернеш, ды і ці варта варочаць таго, каму ты не мілы. А Даша добрая, прыгожая. Яму было прыемна думаць пра яе.

...Збожжа з першага абмалоту дзялілі на душы. Так рашылі жанчыны, і Язэп падтрымаў іх, хоць Даніла Іванёнак быў супроць. Яму, магчыма, было і сапраўды крыўдна. Мабыць, з крыўды ён выпіў крыху, а калі Язэп вярнуўся з поля, дастаў пляшку, запрасіў і яго ўзяць «па маленькай», як ён казаў.

Язэп пасля таго выпадку, калі напіўся, цяпер стараўся лішне не піць. Даніла і не прымушаў яго асабліва. Ён усё скардзіўся, што хлеб дзялілі несправядліва, што іх сям'ю пакрыўдзілі. Даказаць яму што-небудзь было цяжка, і Язэп не спрачаўся з ім, ды і слухаў яго няўважліва.

— Хопіць ужо вам,— сказала цётка Таццяна.— Спаць кладзіцеся, а то заўтра не разбудзіш.

Дашы ўжо не было ў зямлянцы. Яна, як і ўсе гэтыя дні, спала на двары, пад стажком сена. Язэп распрануўся, лёг на падлозе. Заснуць доўга не мог. У галаву сляпіцай лезлі розныя думкі.

Чамусьці пачала балець левая рука, якой даўно ўжо не было. Дактары ў шпіталі казалі Язэпу, што ён доўга яшчэ будзе адчуваць гэтую руку, пакуль мозг не прывыкне да таго, што яе няма. «Мозг, можа, і прывыкне,— мільганула думка,— а я ніколі не прывыкну. І ніхто не прывыкне». Успомніў, як спалохана глядзела Клава на яго пусты рукаў. Вось так бывала часта: пачне думаць, а думкі і прывядуць яго да Клавы. «Ах, Клава, Клава, чаму ты так зрабіла? Клятвы я з цябе не цягнуў, сама клялася, што будзеш чакаць».

Успомніў той восеньскі вечар саракавога года, калі ён развітваўся з Клавай, не вельмі ўяўляючы, што такое два гады разлукі. Тады здавалася, што гэта імгненне. Год праляціць непрыкметна. Потым ён прыедзе ў водпуск, а там яшчэ год — і дома. У армію ён ішоў з ахвотай.

Яны сядзелі з Клавай на саломе пад стогам. Іх было шмат, гэтых стагоў, можа, штук пятнаццаць,— уся пляцоўка ля малацільнага пункта занята імі. Сярод стагоў вузкія вулачкі. У адной з іх яны з Клавай і знайшлі сабе прытулак, каб пабыць разам.

Ён трохі выпіў: так, ледзь-ледзь, бо яшчэ і піць добра не навучыўся. І гэтая кропля гарэлкі зрабіла яго, звычайна сарамлівага, смелым. Яны сядзелі абняўшыся і цалаваліся, упершыню не крадком, сарамліва, а так, што не хапала ўжо дыхання ад тых доўгіх, прагных пацалункаў.

Дзіўна, але Язэп усю вайну помніў тыя пацалункі. А цяпер чамусьці не мог успомніць. Было пуста. Чаму?

«Дурань я тады быў,— узлаваўся ён на сябе.— Цяпер было б не так. Цяпер бы ты была маёй». Яму аж брыдка стала за сваю тую нясмеласць. «Не трэба, Язэпка, не трэба»,— ён як бы цяпер чуў Клавін гарачы шэпт. Памятае, што шаптала гэта яна ў кароткія паўзы між пацалункамі і тулілася да яго. Яны сціскалі адно аднаго ў абдымках,

і калі яго рука нясмела апускалася ніжэй, Клава яшчэ больш прыціскалася да яго і прасілася: «Язэпка, родненькі, не трэба».

«Дурань! Той палонны, мусіць, не слухаў гэтых «не трэба»!» Успаміналіся салдацкія «казкі» на прывалах. На вайне любілі гаварыць пра жанчын, пра каханне. Часта выдумлялі прыгоды, але адно — праўда: дзяўчына толькі гаворыць — не трэба, толькі просіцца, а думае пра тое ж, што і хлопец. Чаго ж ты інакш ідзеш у салому?

Язэп думаў цяпер злосна. Думаў так, бо ляжаў у душнай чужой зямлянцы, бо хацелася жаночай ласкі, а яе не было.

Старыя ўжо спалі. На печы цяжка стагнаў Даніла і хроп, аж звінела ў вушах. Ціха, нячутна ляжала цётка. Адзін Язэп не мог заснуць. Душна і цесна ў зямлянцы. І галава пухне ад думак, толькі ўжо не пра далёкае, а пра вельмі блізкае. Распірае грудзі, і сэрца ледзь не вырвецца з іх. Даша як жывая стаіць перад вачыма, то з каромыслам на плячах, то на жніве, калі вяжа перавясла, пацягваючыся ўсім сваім здаровым, моцным целам. Дык вось чаму ён не можа ўспомніць Клавіных пацалункаў — перашкаджае Даша.

Язэп скінуў гімнасцёрку — проста згараў, задыхаўся ад духаты. Ляжаў, думаў пра Дашу. Уяўляў сябе з ёю побач то на полі, то ля іх зямлянкі, то на калёсах — едуць у горад. Потым нечакана адчуў, што яна вось тут, побач. «Чорт вазьмі, ашалеў, давёў сябе і не засну ўжо. Хіба пакурыць. Дык і так тут няма чым дыхаць... А на двары, мабыць, халадок...»

Устаў і басанож выйшаў на двор. Месяц стаяў над самым ровам, і ўсё зіхацела ад ззяння. Над ровам, на зямлі панавалі ўсяго два колеры — сіні і чорны. Дрэвы, хмызнякі, цені былі чорныя. А сярод іх паблісквалі светлыя сін响ватыя палоскі. Здавалася, гэта яны звінелі, як струны ад ветру. Потым ён здагадаўся, што звініць ручай. Ветру не было.

Халодная раса прыпякала ногі спаднізу — не ўстоіш, здаецца. Ды і за спіну залазіў волкі халадок. Але прыемна. Прасторна і вольна.

Язэп сеў на калоду, непадалёк ад стажка сена. Побач ляжаў кажух, асветлены месяцам,— чорная горка. Пад ім схавалася Даша і спіць, не чуе, што Язэп сядзіць побач. Ён закурыў, дыхнуў на ўсе грудзі і закашляўся. Чорная горка заварушылася. З-пад яе спачатку паказалася

нага, дакранулася расы і зноў схавалася пад кажухом. Тады з другога боку паявілася голая рука, адкінула кажух.

— Ой, хто йта? — Даша села, хуталася ў кажух.

— Я... Не спіцца нешта.

— А я дык адразу заснула. Ці позна ўжо?

Яна зноў лягла на бок, абапёршыся на руку, глядзела на Язэпа з насцярожанасцю і цікавасцю.

— Душна ў хаце,— сказаў Язэп,— ніяк не магу заснуць.

Даша не адказала. Яна толькі шчыльней захуталася ў кажух. Язэп дакурыў папяроску, затаптаў недакурак пяткай.

— Ну што ж, трэба ісці спаць...

Ён падняўся, але чамусьці не спяшаўся пайсці ў зямлянку. Холад паволі поўз па хворай назе, падбіраўся да спіны, да параненага пляча. Хацелася ўжо цяпла, але не таго, што ў зямлянцы, парнага, насычанага потам і пахам печы, а ўтульнага, ласкавага.

Прыпасці б, здаецца, да Дашы, прытуліцца і слухаць, затаіўшы дыханне, шэпт ночы. Як гэта добра — паляжаць на сене побач з Дашай. Не, гэта няможна. Даша зусім яшчэ дзяўчо. Калі ішоў у армію, дык яна дзіцем яшчэ была. «Дзядзечка, пачастуйце яблыкамі». Ага, вось калі гэта было!.. Ён толькі цяпер успомніў, як частаваў яе яблыкамі. Тады ён сказаў ёй: «Расці, Даша, як вярнуся з арміі — прыйду ў сваты». Тады ён жартаваў, бо ў яго была Клава, і Даша ведала пра гэта. Яна так і сказала яму: «Глядзіце, пойдзеце да мяне, а заблудзіце да Клавы».

Ну вось, ён быў забыўся пра той выпадак, а Даша памятала і ў вайну ўспамінала пра яго. Цётка Таццяна першая напомніла Язэпу, як ён частаваў Дашу яблыкамі.

— Дык, можа, лажыцеся тут, а я пайду ў зямлянку,— сказала Даша.

Ён запярэчыў:

— Не, ужо ляжы. Я вось яшчэ пабуду крыху і пайду.

— Холадна ж, яшчэ прастудзіцеся. Раса цяпер золкая, а вы басанож...

У яе голасе Язэп адчуў трывогу і намёк, што ён дарэмна стаіць на голай зямлі, калі за тры крокі стажок. «Ну і лапух я,— падумаў ён.— Як быў лапухом, так і астаўся».

— Калі дазволіш, дык я пад стажок на сена сяду.

— Садзіцеся, у сене цяплей... У вайну, як мы хаваліся

ад немцаў, дык часта начавалі на полі. Забяромся, бывала, у сена — цёпла.

Язэп сеў на валкаватае ад расы сена, сказаў:

— Нага азябла.

Даша моўчкі накрыла яе палой кажуха. Адчуўшы цяпло, Язэп пажартаваў:

— О, ды пад кажухом, як на печы. Усяму б пад яго зашыцца.

Даша мітуслівa ўскочыла на ногі.

— Лажыцеся, я пайду у хату...

— Не трэба, Даша...— Язэп схапіў яе за руку, прымусіў сесці.— Чаго гэта ты падхапілася?..

Ён раптам убачыў, што Даша глядзіць на пусты рукаў сарочкі. Дык вось чаго яна замітусілася. Зрабілася горача і цяжка на душы.

— Ты што, пустога рукава спалохалася? Ну, інвалід, калека. Дык чаго баішся? З'ем я цябе, ці што...

Даша збянтэжылася, неяк уціснулася ў стажок, нацягваючы кажух на голыя плечы.

— Я нічога... я так... Табе ж холадна...

— То пагрэй... Кажуха і на дваіх хопіць.

Ён рашуча адкінуў палу кажуха, абняў Дашу за плечы, палажыў галаву на яе плячо. Яго чамусьці біла ліхаманка, а пальцы моцна сціскалі круглае, халаднаватае плячо. Потым ён упаў галавой на яе калені.

«Як гэта хораша,— падумаў ён, цалуючы яе ногі.— Як гэта хораша».

Усё на свеце прыцішылася, і ўсё, што было, нават яго запальчывасць і нядаўная грубасць, было забыта, і ён ляжаў на яе каленях нейкі аслаблены, абяссілены гэтым нязведаным раней пачуццём вось такой харошай блізкасці.

Ён нешта шаптаў, гаварыў, але і сам не ведаў што. А Даша як бы скамянела. Сядзела ціха-ціха. І не вырывалася. А ён, абняўшы яе рукой, ляжаў, адчуваючы шчакой цеплыню праз тонкую тканіну сукенкі. Потым Дашына рука нясмела дакранулася да яго галавы, пальцы паціху перабіралі валасы.

— Даша!.. Даша!..

Ён пачаў цалаваць яе ў твар, шыю, амаль шалеючы ад хмелю.

— Язэпка, родны, што ты, не трэба...

Ён стараўся прымусіць яе змоўкнуць, яшчэ больш ашалела цалуючы і паціху змагаючыся з ёю.

— Ой, Язэпка, не трэба...— яна як бы аслабела, потым, сабраўшы сілы, адштурхнула яго, нямоцна.

Ён зазлаваў: з дзеўкай саўладаць не можа; сеў.

— Я па-харошаму, дурніца... Ну, а калі не любіш... насільна мілы не будзеш.

Язэп гаварыў зацята, сам верачы у тое, што кажа. Шкадаваў сябе, мянтрэжыў душу.

— Не крыўдуй, Язэпка. Мне ж сорамна зусім...

Ён усміхнуўся:

— Сорамна! Каму я патрэбны, скажы лепей...

— Што ты! Я цябе люблю...

Яна стала на калені, абхапіла яго за шыю рукамі...

## 6

У зямлянцы з вялікай печчу, невядома для якіх патрэб складзенай немцамі, пяклі на кляновых лісцях хлеб.

Яго пяклі па чарзе, бо тут, у Астапаўскім рове, была адна печ на ўсе зямлянкі. У астатніх — маленькія, нізкія пячуркі-плиткі. На іх можна было зварыць зацірку, але хлеба не спячэш.

Духата, пах хлеба і высушанага кляновага лісця вырываліся на волю праз адчыненыя дзверы.

Над усім ровам стаяў гэты салодкі пах.

Язэп пачуў яго здалёк. Ён нёс з сельсавета пачак пісьмаў і газет. Спяшаўся, бо ведаў, што ў пісьмах можа быць толькі радасць. Калі пісьмо напісана, значыць, чалавек жывы, значыць, ён, Язэп, нясе людзям прыемнае. Пра непрыемнае ён стараўся не думаць.

Яму ўсю дарогу карцела пачытаць якое-небудзь пісьмо. Але не хапала смеласці, хоць ён і ведаў, што на яго не пакрыўдзяцца. Многіх, каму нёс пісьмы, яшчэ не было. Гэтыя не грэх прачытаць. Але ўсё роўна было няёмка.

Язэп толькі прабег вачыма па газетных слупках. Узрадаваўся — наша армія ўсюды наступае. Эх, хутчэй бы канец вайне! Вярталіся б мужчыны. Сеяць трэба, а як ты з жанчынамі пасееш?

Ля Макарышынай зямлянкі сядзелі ўсе жыхары Астапаўскага рова. Малыя трымалі ў руках па лусце наздраватага, з жоўта-бурай скарынкай хлеба. Елі яго прагна, бо за год вандровак згаладаліся па цёплым свежым хлебе.

Першае пісьмо Язэп падаў Макарысе. Адчуваў, што гэта ад Макара. У цёткі трэсліся рукі, і яна ніяк не магла разарваць канверт. Петрачысіна Каця забрала ў Мака-

рыхі канверт, хацела была адкрыць, але Язэп падаў ёй ліст ад брата Васіля, і яна ўхапілася за яго. Тады Язэп сам разарваў канверт, дастаў лісток паперы ў клетку, прабег вачыма.

Пісьмо было пакрэслена цэнзурай, і Язэп усміхнуўся з дзядзькавай наіўнасці.

— Жывы дзядзька,— сказаў ён і пачаў чытаць пісьмо ўголас: — «Дарагая мая супруга Хрысціна Іванаўна, сыночак Коля і дачушка Фруза,— пісаў Макар каравымі вялізнымі літарамі,— у першых страках свайго пісьма шлю вам франтавы прывет з-за... Як вы там жывяце? Ці ёсць у вас што есці? Немцы ўсё нішчаць. Супруга мая Хрысціна Іванаўна, дужа я саскучыўся па дому. Можа, пра Васю што ведаеце. Я пісем ад яго не палучаў ні разу. Як было ў 41-м, дык нічога пра яго не ведаю. Хочацца дамоў дужа. Думаў, не дачакаюся, пакуль вас вызваляць. А цяпер ужо скора мы іх разаб'ём. За мяне не трэба непакоіцца. Начальства ў мяне харошае. Стаім мы цяпер у горадзе...

Беражыце сябе. Абнімаю вас і цалую.

Макар Кульба.

Чакаю ад вас пісьма. Няхай Фрузачка ўсё апіша падрабязна, як у вас усё ўстроілася, хто з людзей нашых жывы, а хто загінуў».

Макараў ліст слухалі ўсе. І толькі пасля, калі Язэп перадаў яго цётцы, а яна схавала за пазуху, загаманілі. І ва ўсіх на вачах былі слёзы.

— Параскідала людзей па свеце і ці сабяруцца калі,— пачала Петрачыха.

— Жывыя сабяруцца,— азвалася Макарыха,— а мёртвых ужо не вернеш.

І пайшла жаночая размова.

— Анягож, бабанькі, такая вайна пракацілася. У тую вайну з нашай вёскі двое не вярнуліся, а здавалася — гора на ўсё жыццё. А тут... У кожнай сям'і каго-небудзь не стала.

— Тады хоць салдаты ў сваю хату вярталіся, а цяпер куды прыйдуць?

— Нарабіў немец. Калі ж ты ўсё адбудуеш?

— Авой, было б ціха. А то, можа, не паспеем адбудавацца і зноў грымне.

— Не давядзі бог...

— Голад страшней за ўсё. Ад кулі паміраць лёгка.

— Можа, памогуць.

— А адкуль яна, тая помач, возьмецца?

— Зіму перазімаваць, а там на траву выйдзем — выжывем...

Язэп слухаў жанчын і ўспамінаў сваю сённяшнюю размову са старшынёй сельсавета.

Яны сядзелі ў бункеры, з якога нямецкія назіральнікі, мабыць, карэкціравалі агонь сваіх батарэй,— са столі яшчэ і цяпер тырчала стэрэатруба. Тут і размяшчаўся сельсавет.

Старшыня сельсавета — з выгляду маладая, але ўжо сівая жанчына, абапёршыся падбародкам на сашчэпленыя рукі, распытвала ў Язэпа пра калгас, пра тое, што асталося ў ім. Калі яна даведалася, што ўцалела жыта, дык узрадавалася:

— Ну, вам яшчэ пашчасціла. У астатніх калгасах і гэтага няма. Ім у першую чаргу і памагаць трэба.

— Дык мы, выходзіць, багатыя,— усміхнуўся Язэп.

— А ты не смейся,— сурова сказала жанчына.— Людзям ужо цяпер есці няма чаго.

— Значыць, нам дапамогі не чакаць? Так я вас зразумеў? — спытаў Язэп.

— Памагаць будзем, але не адразу. Складзі спісы, абгрунтуй просьбу — разгледзім. Толькі ўлічы: калі ў спісы лішніх людзей запішаш, ну, якіх цяпер у вёсцы няма, задумаеш на іх атрымаць дапамогу — пад суд трапіш.

Язэп, пасядзеўшы крыху, хацеў быў ісці, але старшыня спыніла яго:

— Пачакай, Каліна. Зараз сюды зойдзе старшыня мясцовага калгаса, пагаворым.

Старшынёй калгаса аказалася рухавая маладзіца з ордэнам Чырвонай Зоркі на гімнасцёрцы. Яна зайшла ў бункер, прысела ля стала і толькі тады павіталася з Язэпам.

— Гэта з Кляўцоў таварыш,— сказала старшыня сельсавета.— Каліна.

— Сябры па няшчасці. Ты — каліна, а я — бярозка, і абое старшыні калгасаў... Дык чаго ты, Насця, мяне клікала?

— А вось чаго,— пачала старшыня сельсавета.— Нас тут трое камуністаў, трое кіраўнікоў. І павінны мы вырашыць адну задачу... цяжкую. Ты, Варвара, ведаеш вёску Дуброва, ну, а таварышу Каліне, можа, і не даводзілася чуць пра яе. А славутая яна тым, што да вайны там жылі дзве жанчыны маці-гераіні, ды яшчэ чатыры з медалямі «Мацярынская слава». І вось учора дуброўцы

вярнуліся дамоў, усе мнагадзетныя маці таксама вярнуліся, а есці ў іх нічога няма. Што далі салдаты па дарозе — даелі. Цяпер хоць лажыся і памірай. Дзён праз сем — дзесяць мы ім дапамогу дамо...

Варвара Бярозка перапыніла Насцю:

— Мы самі галоўкі канюшыны ды таўкачыкі збіраем...

— Пачакай, Варвара, пра вас я ўсё ведаю. А вось у яго жыта ўцалела, і іхні калгас абавязан выручыць дуброўцаў.

Бярозка неяк здзіўлена, з зайздрасцю паглядзела на Язэпа — шчасліўцы! А Язэп аж успацеў ад Насціных слоў. Што значыць памагчы? Гэта ж не пазычыць, а аддаць зерне, якога не хопіць сваім на ўсю зіму. А калі раптам вернецца яшчэ хто з Кляўцоў, тады таго жыта і да каляд не хопіць. І сеяць трэба. Не пасееш сёлета, дык галадаць будзеш і на другі год.

— Ведаеце, гэта ўсё роўна, што адбіраць у жабрака кій,— памаўчаўшы, сказаў ён.

— А колькі жыта было пасеяна? — спытала Варвара Бярозка.

— Гектары, можа, чатыры,— адказаў Язэп, знарок утойваючы, што пасеяна больш.

— Пудоў пятнаццаць можаш даць. Не паміраць жа дзецям з голаду,— сказала Варвара Бярозка.

— І я так думаю,— згадзілася Насця.

Язэп раптам уявіў, як абурацца кляўцоўскія жанчыны, калі ён дасць згоду. Аддаць столькі хлеба!.. Не, пасля таго, як загінула Фруза, пасля таго, як усе яны рызыкавалі, жнучы жыта, гэтага Язэп не мог зрабіць.

— Жыта я не дам,— рашуча сказаў ён.— Не магу. Не я яго сеяў...

Насця пазірала на яго спакойна.

— Дасі... Не паміраць жа дзецям. Зразумеў, таварыш Каліна. Якія ж мы камуністы, калі не абаронім іх ад голаду?

— Няхай раённае начальства думае...

— Яно думае... Праз тыдзень мы паможам дуброўцам. Але праз тыдзень, не раней... Ты, Каліна, не шумі. Ідзі пагавары з людзьмі, а заўтра мы прыйдзем па хлеб.

І вось цяпер, паслухаўшы размову жанчын, Язэп зразумеў, што не можа сказаць ім пра рашэнне сельсавета. Не можа, ды і годзе. «Хай бы яны не прыйшлі заўтра,— думаў Язэп.— Хай бы як-небудзь так абышлося...»

Але назаўтра ў Кляўцы прыйшлі жанчыны і дзяўчаты з Дубровы, а з імі Насця, старшыня сельсавета. Яны трымалі пад пахай па скрутку — торбачкі на жыта. Калі Язэп убачыў гэты маўклівы натоўп, яму ледзь не стала дрэнна.

— Як, старшыня, ці пагаварыў ты з людзьмі? — спытала Насця.

Язэп пакруціў галавою. Яму было цяжка сказаць хоць бы адно слова, бо дуброўцы стаялі вельмі маўклівыя, і гэта бянтэжыла яго. Ён бачыў іх схуднелыя, учарнелыя твары, самотныя вочы, якія неяк сарамліва пазіралі ўніз, пад ногі.

— Што ж, будзем гаварыць самі,— сказала Насця.— Дзе людзі?

— На таку, малоцяць жыта,— сказаў ён і ўбачыў, як ў бялявай дзяўчынкі сутарга сціснула горла. «З голаду»,— мільганула ў Язэпавай галаве.

— Вядзі нас туды,— загадала Насця.

Дарога на ток здалася вельмі доўгай. Язэпу ўвесь час хацелася ўцячы, знікнуць або завесці гэтых людзей куды-небудзь далей ад тока. Але ён ішоў, ніяк не разумеючы, куды і чаму ён ідзе.

Іх заўважылі здалёк. Язэп бачыў, як людзі на таку кінулі абіваць жыта, збіліся ў гурт, нібы падрыхтаваліся адбіваць атаку. Адзін Іванёнак тырчаў збоку, трымаючы за перавясла сноп.

Насця павіталася гучна, бадзёра. Ёй адказалі халаднавата і напружана — зразумелі, чаго прыйшлі дуброўцы. Старшыня сельсавета нахілілася над кучай намалочанага жыта, зачэрпнула далонню зерне, яно пасыпалася праз пальцы.

— З просьбай, жанчынкі, да вас прыйшлі,— сказала яна і абвяла кляўцоўскіх жанчын уважлівым позіркам.

Язэп убачыў, як Петрачыха падштурхнула Макарыху і тая зрабіла крок наперад.

— Дарэмна людзей вяла,— ціха сказала Макарыха.— Дарэмна.

Па натоўпе прабег гоман, сцішаны, але грозны. Язэп азірнуўся, каб пабачыць, як паводзяць сябе дуброўцы. Яны стаялі моўчкі, нейкія амаль безуважлівыя да гоману. І зноў Язэп сустрэўся позіркам з той бялявай дзяўчынкай. Яе твар быў бледны, а на лбе буйнымі кроплямі выступіў пот.

— Калі дарэмна,— строга сказала Насця,— значыць, памылілася. У блакаду мы дзялілі апошні сухар на ўсіх. Во як было. Думала, што гэта не забылася.

— Не дадзім!..

— Самім есці нечага будзе.

— Не дадзім!..

— Знайшліся тут...

— Не дадзім!..

Язэп аглухнуў ад гоману. Ён бачыў злосныя, разгневаныя вочы жанчын і разумеў, што ніякая сіла не можа ўжо спыніць іх. Але Насця як бы не заўважала, не чула крыкаў.

— Ціха! Чаго крычыцё? — Яе голас перамог крыкі жанчын, прымусіў іх змоўкнуць. У цішыні, што раптам наступіла, пачуўся самотны, як не Насцін, голас: — Муж у мяне з голаду ў лагеры на Барвіным перавозе памёр. Немцы голадам замарылі. Дык то ж немцы...

Яна махнула рукой, адвярнулася. Язэп убачыў, што на вочы ў Насці накружыліся слёзы. Ён хацеў таксама штосьці сказаць жанчынам, але ў гэты час бялявая дзяўчынка падагнулася ў каленях і павалілася на зямлю.

Язэп спачатку не зразумеў, што з ёю, і толькі тады, як пачу: «З голаду яна»,— яму зрабілася страшна.

— Цётачкі, што ж мы?.. Як жа мы?.. Гэта ж не шмат... Пятнаццаць пудоў якіх. Хіба ж яны нас уратуюць?..

Ён схапіў вядро, пачаў насыпаць у яго зерне. Насыпаў ён чамусьці жменяй, хоць жыта можна было проста зачэрпнуць з кучы вядром.

— Падыходзьце, па адной падыходзьце.

Хтосьці падставіў яму торбачку. Ён высыпаў вядро. Жанчыны маўчалі. Гэта было жудасна. Апошняя падышла тая бялявая дзяўчынка, што страціла была прытомнасць. Яна падставіла торбачку. Язэп высыпаў зерне, сказаў:

— Не данясеш жа...

— Данясу, дзядзечка. Хлеб, ён не цяжкі...

Калі дуброўцы пайшлі, Язэп сеў на калоду, закрыў вочы рукой. Хтосьці пакратаў яго за плячо. Ён узняў галаву. Ля яго стаяла Макарыха.

— Во як людзі гаруюць, Язэпка. Не першы год...

## 7

У раёне склікаўся партыйны сход. Язэп збіраўся на яго, як на свята. Ды сход і быў святам. Упершыню за гэтыя дні жыцця на вызваленай зямлі камуністаў клікалі на сход, хацелі з імі гаварыць, раіцца. Гэта хвалявала Язэпа.

Ён папрасіў Дашу прышыць белы каўнерык, а сам да бляску начысціў гузікі, спражку на рэмені, зорку на пілотцы, медалі. З рэчавага мяшка ён дастаў пару новенькіх пагонаў, якія яму выдалі ў шпіталі, не палявых, а парадных, з яркімі нашыўкамі. Папрасіў, каб Даша прыладзіла іх да гімнасцёркі. Потым ён старанна галіўся, мыўся, доўга прычэсваўся. Хацеў быў папрасіць дзядзьку Данілу, каб той падстрыг яго, але пабаяўся — можа сапсаваць прычоску.

Калі ён апрануўся, туга зацягнуў рэмень, надзеў пілотку, прычапіў медалі і два баявыя ордэны, дык раптам адчуў сябе дужым, упэўненым і зусім здаровым. Ён доўга разглядаў сябе ў маленькае насценнае люстэрка.

— Ой, Язэпка, як табе да твару гэтая форма,— не стрымаўшыся, сказала Даша.

Язэп і сам бачыў — да твару. На фронце ён гэтага не заўважаў. Яму было прыемна, што Дашы ён падабаецца, і неяк нечакана прамільгнула думка: «Можа, Клаву ўбачу. Тады яна мяне ў старой гімнасцёрцы бачыла і ў палявых пагонах». Ён заспяшаўся з хаты.

Сход меўся адбыцца ў памяшканні выканкома. Язэп пайшоў адразу туды. Прыйшоў вельмі рана. У вялікаватым пакоі сядзелі тры чалавекі, як і Язэп, апранутыя пасвяточнаму. Лаўкі і крэслы стаялі ўздоўж сцен, і Язэп здзівіўся, што іх няшмат. «Няўжо так мала ў раёне камуністаў?» — падумаў ён.

Неўзабаве народ пачаў збірацца. Спачатку прыходзілі далёкія, з вёсак. Язэп пазнаваў іх па запыленым абутку. І Варвара Бярозка з Насцяй прыйшлі, падселі да Язэпа.

Насця Гародчанка яшчэ да вайны працавала сакратаром сельсавета і таму многіх ведала ў твар. Яна хутка падсела да тых трох, што прыйшлі сюды першыя. Язэп астаўся з Варварай.

У пакой адзін за адным заходзілі камуністы з райцэнтра. Яны аб нечым спрачаліся, дагаворваліся і таму трымаліся асобным гуртам. Адзін толькі Вышак павітаўся з Язэпам за руку, спытаў:

— Як справы? Чаму да нас не заходзіў?

Язэп адказаў:

— Заходзіў, ды так з Гаравым пагаварылі, што другі раз не захацелася.

— Чаму? — здзівіўся Вышак.

Язэп пачаў расказваць, але Вышака паклікалі, і ён, не даслухаўшы, пайшоў.

— Дарэмна ты з Гаравым так гаварыў,— Варвара Бярозка паківала галавой.— Ён чалавек помслівы.

— А што ён мне? — адказаў Язэп.— Я яшчэ сёння выступлю. Хіба можна так камуністу з камуністам гаварыць?

— Выступіць не пашкодзіць,— Варвара памаўчала крыху.— Шкада, наш стары сакратар райкома сёлетняй вясной загінуў. Во быў чалавек... А гэтаму цяжка будзе, і нам з ім нялёгка.

— Дык чаго яго прызначылі?

— Доўга расказваць,— як бы неахвотна пачала Варвара.— Адным словам, ён сёлетняй зімой нашага камандзіра злучэння ад смерці выратаваў. Ну і спадабаўся таму. Калі старога сакратара райкома забілі ў блакаду, камандзір злучэння і настояў, каб Гаравога на месца таго прызначылі. А датуль Гараваму вялікага разгарнення не было. Адмовіўся аднойчы ісці гарнізон граміць разам з суседнімі атрадамі. Хацеў сам разбіць яго. І паклаў сваіх людзей пад тым гарнізонам. Каб не гэты выпадак з камандзірам злучэння, дык яго ніколі сакратаром не прызначылі б. Быў у яго і яшчэ нейкі скандал з разведчыцай. Дамагаўся ён яе, а ў той дзяўчыны недзе жаніх у арміі ваяваў. Праўда, можа, і брэшуць пра гэта, бо яны пасля пажаніліся... Ды яна яшчэ з вашага боку: ці з Кляўцоў, ці то з Астроўны...

У Язэпа адразу прапала ахвота слухаць Варвару. «Няўжо гэта пра Клаву яна гаворыць? — падумаў ён.— Не, не можа быць».

У пакоі ўжо былі заняты ўсе месцы. Але народу няшмат. Большасць — з раённых устаноў. З вёсак зусім мала. «Вось і ўсё, што асталося ад раённай арганізацыі,— падумаў Язэп.— Мала... Мабыць, не ў кожным сельсавеце ёсць камуністы».

За сталом з'явіўся другі сакратар. Ён паклікаў Вышака і яшчэ аднаго чалавека — Летняка, загадчыка аддзела, як сказала Варвара, і яны пачалі аб нечым раіцца.

— Клаўдзя Пятроўна, хадзіце сюды,— пачуў Язэп чыйсьці голас і ўздрыгнуў ад нечаканай здагадкі — гэта ж Клава. Ён азірнуўся і ўбачыў яе. На ёй быў шэры касцюм, лодачкі на нагах, а на галаве хустка, якая вельмі была ёй да твару. Клава яго таксама ўбачыла, здзівілася, потым рашуча скіравала да яго, сказаўшы таму, хто клікаў яе:

— Я тут з земляком побач прысяду.— І, падышоўшы, спытала: — Можна?

Людзі расступіліся, даючы ёй месца. Яна села, прыціснуўшыся да Язэпа. Ён пачуў пах яе валасоў, такі знаёмы і прыемны. І ён усміхнуўся.

Клава прыгнулася да яго, прашаптала:

— Не злуешся? — І ўжо ўголас спытала: — Ну, як ты жывеш? Маці вярнулася?

— Не. А ты як?

— Ваюю. Пякарняй загадваю.

Язэпу не цярпелася ўведаць, хто ж яе муж. І ён, таксама шэптам, спытаў пра гэта.

— А вось пабачыш хутка...

Ён зразумеў: муж яе — Гаравы, і яму зрабілася непрыемна.

Гаравы паявіўся разам са старшынёй выканкома, начальнікам камітэта дзяржаўнай бяспекі і рэдактарам газеты. Усе яны прайшлі праз пакой да стала, селі. Другі сакратар райкома штосьці сказаў Гаравому, той нахмурыў бровы, падняўся з крэсла.

У пакоі зрабілася шумна. Людзі ямчэй усаджваліся на крэслах. Потым настала цішыня. Гаравы адкрыў сход.

— Прашу выбраць прэзідыум,— сказаў ён.

Хтосьці крыкнуў:

— Гаравога... Бярозку...

Гаравы падняў руку:

— Слова для прапановы мае таварыш Вышак.

Кузьма Вышак прачытаў спіс. Яшчэ два чалавекі — пяць ужо сядзела за сталом — занялі месца ў прэзідыуме. Потым выбралі ганаровы прэзідыум, і ўсе доўга пляскалі ў далоні.

Даклад рабіў Гаравы. Беручы з папкі аркуш за аркушам, ён чытаў даклад, у якім было спачатку шмат цытат, а потым лічбаў: колькі спалена хат, знішчана людзей, жывёлы. Язэпу даклад здаўся нудным, доўгім, але ён бачыў, што людзі слухаюць уважліва, і падумаў: «Яны тут усё гэта перажылі, для іх гэта блізка». Але ўсё роўна

яму хацелася пачуць нейкае жывое, простае слова, і не з паперкі, а вось так, як бывае, калі сыдуцца блізкія людзі.

Нарэшце Гаравы перайшоў да задач на сёння. Цяпер ён усё часцей пачынаў са слоў: мы абавязаны... мы павінны... нам належыць...

Яму паапладзіравалі, калі ён скончыў, і ўсе заварушыліся, быццам толькі і чакалі, калі ён скончыць чытаць свой даклад.

Старшыня абвясціў перапынак. Людзі ўсталі са сваіх месцаў, закурвалі, некаторыя выходзілі ў калідор. Клава ўзяла Язэпа за руку.

— Хадзем, я цябе з Гаравым пазнаёмлю,— сказала яна.

Яны падышлі да стала. Клава паклікала Гаравога і, калі той неахвотна падняўся з крэсла і падышоў да іх, сказала:

— Вось, Грыша, пазнаёмся. Язэп Каліна, з нашай вёскі.

Язэп заўважыў, што Гараваму не спадабалася жончына фамільярнасць. Ён сярдзіта паглядзеў на яе, але руку Язэпу падаў. Усе трое адчулі сябе няёмка.

— Я да вас па мінёраў прыходзіў,— напомніў Язэп.

Гаравы крыху пажвавеў.

— Ну, дык як вы — абышліся?

— Абышліся... А вось цяпер не абыдземся без вашай дапамогі...

Гаравы слухаў няўважліва. Язэп бачыў гэта і таму спяшаўся хутчэй расказаць, якая яму трэба дапамога. Але той раптам перапыніў яго:

— Прыходзьце ў райком, абмяркуем,— і пайшоў.

Язэп сумеўся. Чаму ў райком? Тут жа партыйны сход. Хіба не цяпер трэба гаварыць пра свой боль, пра свае патрэбы? Чаму Гаравы не сказаў: «Выступі, таварыш Каліна, ды і раскажы...»

Усё гэта не падабалася Язэпу. Але ён вырашыў, што, мабыць, ён навічок тут і многага не разумее. На фронце ўсё разумеў. На фронце было прасцей.

— Я яму сама напомню,— перарвала яго думкі Клава.— Мінёры будуць, не турбуйся. І дапамогу выдзеляць. Я да старшыні выканкома зайду. Ён чалавек добры, не адмовіць мне. У «Чырвоны Крыж» рэчы прывезлі — вопратку, абутак,— дык таксама атрымаеш. Ну, і прадукты, само сабою.

Язэп падзякаваў. Але на душы было прыкра. Выхо-

дзіць так, што зробяць яму ўсё па знаёмству. Клава папросіць — і ёй не адмовяць, бо яна жонка Гаравога. А яму, Язэпу, адмовілі б. «Вось зараз папрашу слова і выкажу ўсё, што набалела»,— падумаў ён.

Перапынак тым часам скончыўся. І ўжо адразу пасля яго Язэп зразумеў, што выступіць, бадай, не давядзецца. З прэзідыума ніхто не запрашаў удзельнічаць у спрэчках. Старшыня падымаўся, абвяшчаў чарговага прамоўцу, называў, хто будзе выступаць наступны. І прамоўцы, мабыць, рыхтаваліся загадзя. Яны даставалі паперкі з кішэні і чыталі іх. Толькі воплескі разганялі санлівасць.

Старшыня сходу абвясціў, што спіс прамоўцаў вычарпаны, і прапанаваў спыніць спрэчкі.

— Дайце мне слова,— гучна сказаў Язэп, і ўсе павярнуліся да яго. Ён убачыў, як у прэзідыуме чамусьці занепакоіліся, зашапталіся. Было відаць, што толькі другі сакратар райкома ды яшчэ рэдактар за тое, каб даць яму слова, астатнія глядзяць на Гаравога, чакаюць, што скажа ён.

— Няхай выступіць,— сказаў Гаравы.— Толькі карацей і не паўтарацца...

«Я не паўтаруся»,— падумаў Язэп, ідучы да стала.

— Таварышы,— пачаў ён і адчуў, што гаворыць празмерна гучна.— Мы, камуністы, першы раз сабраліся на сход. І мы павінны глядзець наперад. Я разумею, што ўсё, пра што тут гаварылася,— усе разбурэнні і ахвяры яшчэ доўга будуць нас хваляваць. Але што было б, каб на кожным партыйным сходзе там, на фронце, гаварылі б толькі пра ахвяры, а не пра тое, што павінны рабіць зараз, вось цяпер, калі пойдзем у наступленне. А мы тут вось ужо гадзіны чатыры паўтараем адно і тое ж: колькі спалена хат, колькі хлявоў, колькі людзей забілі фашысты, а пра тое, што рабіць і як рабіць, не гаворым. Мы заклікаем адзін аднаго аддаць усе сілы на аднаўленне гаспадаркі. Гэта смешна, каб камуніст камуніста агітаваў. А як сеяць? Вунь у калгасах нашага сельсавета няма ні грама жыта...

Гаравы, які дасюль неспакойна сядзеў, не ўтрываў:

— Вы разумееце, што ідзе народная вайна?

— Я разумею,— спакойна адказаў Язэп.— Але трэба і вам, таварыш сакратар, быць бліжэй да народа. Памятаеце, прыйшоў я да вас, каб высветліць, як нам быць з жытам. А размова ў нас не атрымалася. Мы, камуністы, павінны ў райком заходзіць як у свой дом. А вы кулаком грукаеце...

Язэп бачыў, што слухаюць яго ўважліва нават у прэзідыуме. Адзін Гаравы нездаволены. І ён гаварыў з захапленнем пра ўсё, што набалела.

— За гэты час у нашым калгасе адзін Вышак пабываў. А што ж астатнія робяць? Чаму не прыйдуць пагутарыць з людзьмі? Камісары, таварышы, заўсёды на пярэднім краі з байцамі размовы вялі. А тут хіба не фронт?

Ён закончыў, сеў на месца. І тады адразу падняўся Гаравы. Абвёў вачыма людзей, заікаючыся (дасюль не заікаўся, як чытаў даклад) пачаў гаварыць.

— Таварыш Каліна — малады камуніст, і толькі таму можна прабачыць яго няспелае, а па сутнасці дэмагагічнае выступленне. Райком, таварыш Каліна, не дом, дзе можна прыйсці, разваліцца, зубаскаліць або яшчэ што рабіць,— гэта штаб. І трэба весці сябе, як у штабе. Скажыце дзякуй, што мы вас не абмяркоўваем сёння за вашы паводзіны.

Ён яшчэ доўга абвінавачваў Язэпа. Чапляўся да кожнага слова, перайначваў іх па-свойму, падтасоўваючы пад яго выступленне нейкі зусім другі сэнс.

Людзі сядзелі моўчкі, угнуўшы галовы. Толькі калі ён кончыў гаварыць, старшыня сходу, другі сакратар райкома, мабыць, жадаючы змякчыць непрыемнае ўражанне ад выступлення Гаравога, закінуў за Язэпа некалькі слоў.

— Таварыш Каліна,— сказаў ён,— па нявопытнасці сказаў сёе-тое лішняе. Але нельга не ўхваліць яго добры намер, яго жаданне аднавіць калгас...

«Аднаго майго жадання мала,— падумаў Язэп.— Мяне ты крытыкуеш, а чаму баішся Гаравому праўду ў вочы сказаць?.. Ён хіба правільна выступіў? Дык адзін я вінаваты. І ўсё ж я не раскайваюся, што выступіў. І яшчэ выступлю».

Са сходу Язэп вяртаўся ў дрэнным настроі. Побач з ім ішла Клава. Ёй, мабыць, таксама было няёмка. Абое маўчалі. Толькі калі настаў час развітацца, Клава спытала:

— Можа, зойдзем да мяне? Чаем напаю.

— Дзякуй. Муж твой ужо напаіў.

— Ён, Язэпка, чалавек хворы. Але ён добры. Ты не сумнявайся, ён паможа табе ў рабоце. А наогул варта табе, Язэпка, у горад перабрацца.

Язэп пастараўся хутчэй з ёю развітацца.

## 8

Восень у той год трымалася сухая, цёплая, быццам хацела паспагадаць бяздомным, абяздоленым людзям. З раніцы разгараўся яркі ўсход, і асмужанае лёгкай хмарыстай павалокай неба ачышчалася, станавілася сіняе, празрыстае. Сонца ўсё яшчэ прыпякала ніштавата, хоць ужо хадзіла па небе нізка. І трава сохла ўвачавідкі, можа, не так ад гарачыні, як ад часу. Паплавы стаялі някошаныя, і дзе-нідзе другі раз зацвіталі кветкі, па-асенняму яркія, але без паху, як вясной.

Вечары дагаралі, як атухаюць вялікія пажары. Спачатку сляпуча свяціла сонца, потым, калі яно хавалася за чародкай узгоркаў, яркія барвы залівалі неба і цямнелі спакваля. Але яшчэ доўга свяціліся лёгкія перыстыя воблачкі, што паяўляліся пад вечар. Потым наставала ноч. Зорная. Халодная.

Часам недзе вылі ваўкі. Казалі, што гэта нямецкія аўчаркі, якія разбегліся па лесе, калі пачалося наша наступленне.

Седзячы на двары з Дашай, Язэп прыслухоўваўся да ваўчынага выцця. Успамінаў, як расказвала яму Клава пра блакаду ў пачатку сорак трэцяга года, калі немцы выпусцілі супроць іх атрада аўчарак. Было страшна.

Язэпу чамусьці не хацелася, каб Даша ведала, што ён бачыў Клаву, гаварыў з ёю. Было ў гэтым спатканні такое, што магло абразіць Дашу. Але Язэп не раскайваўся, што сустрэўся з Клавай. Яна сваё слова стрымала: калгас атрымаў дапамогу. І, вядома, таму, што не проста была Клава яго суседка, а таму, што мела такога мужа — сакратара райкома.

Заўтра ў калгас прыедуць мінёры. Гаравы загадаў у першую чаргу размініраваць іх поле. «А чаму наша, а не чыёсьці другое? Але ж нехта бывае першы,— думаў ён.— Зрэшты, можа, яно так і трэба. Знаёмыя выручаюць знаёмых... А як жа тады на фронце? Былі і там, што выручалі сваякоў. У тыл забіралі, у штабы, далей ад перадавой. Такіх ненавідзелі. Не тых, што выручалі, а тых, хто кідаў акоп і радаваўся: ён разумны, ён уцалее...»

Недзе над ровам са свістам праляцелі качкі. Язэп чуў, як яны рэжуць крыламі паветра. Было дзіўна, адкуль яны маглі паявіцца, калі ўсю вясну стаяў фронт.

З ручая поўз халодны туман. Даша, мабыць, азябла, хуталася ў кофтачку. Язэп абняў яе за плечы. Прыгарнуў

да сябе. Але думкі яго былі недзе далёка. Яны чамусьці скіроўваліся да Клавы. Разумеў, што ўсё ўжо страчана, што трэба забываць тое няўдалае сваё каханне, але не мог.

— І пра што ты ўсё думаеш? — перабіла яго Даша.— Жывуць жа людзі, і не такія, як ты. Вунь у горадзе да вайны чалавек без абедзвюх ног жыў. І зарабляў на хлеб. І хату меў.

Ён рады быў, што яна не разумее яго думак. Гэта добра. Яна пакрыўдзілася б. Клапоціцца аб ім, як аб самым дарагім чалавеку, а ён пра другое думае.

«Пара канчаць са старым,— падумаў ён.— Даша харошая. Душа ў яе мяккая».

— І не пра тое думаю,— пачаў ён, горнучы яе да пляча.— Трэба нам, Даша, пажаніцца. Вось прыйдуць мінёры, адсеемся — і пажэнімся.

Ён гаварыў і адчуваў, што словы — як камякі, сухія, чэрствыя. Не так уяўлялася яму ўсё гэта. Каб хоць не адчувала яна гэтай сухасці, прытуліў да грудзей, моцна сціснуў яе плячо.

— Я цябе хоць дзесяць гадоў гатова чакаць,— сказала яна, тулячыся да яго і цалуючы як ніколі смела.

Гэтак жа калісьці гаварыла і Клава. А вось не дачакалася. Сакратарша. Усе яны такія. Не, Даша не такая. А можа, такая, як і ўсе? Падвернецца хто лепшы — і пабяжыць замуж. Лепей бы яна не гаварыла пра дзесяць год, якія ўжо былі аднойчы паабяцаны яму.

— Ты от што, пакуль сваім не кажы. Тады і аб'явім, і ўвесь клопат.

— Божа, які ты... харошы. Язэпка мой, я ж цябе вось як любіць буду...

«Правільна я зрабіў,— падумаў ён,— а то нядобра выходзіла: ні дзеўка, ні баба».

Язэп адчуваў, што цётка Тацяна здагадваецца пра іх з Дашай каханне, хоць яны і хавалі яго. Апошнім часам цётка стала з ім асабліва прыветлівай, ласкавай. І цяпер, калі яны зайшлі ў зямлянку, цётка неяк пільна пагледзела на іх, потым паспешліва пачала збіраць на стол.

— Гляджу я на вас, дзеткі мае, і думаю: у якое нешчаслівае ўрэмя вы маладосць сваю гуляеце. Ні вечарынак, ні весялосці той, што ў вашы гады быць павінна, не ведаеце. Ды і калі яно, жыццё, яшчэ наладзіцца.— Цётка гаварыла самотным голасам, відаць, шчыра шкадуючы

абаіх.— Глядзіце ж толькі не крыўдзіце адно аднаго. Па-харошаму жыць трэба.

Язэпу ад яе слоў стала ніякавата. «Трэба ёй сказаць,— падумаў ён,— што мы збіраемся ажаніцца».

— Нешта вы, мама, такое гаворыце,—Даша не дала Язэпу выказаць сваю думку ўголас,— слухаць няма што. Чаго гэта мы будзем адно аднаго крыўдзіць?

— То і добра, дзеткі мае. Ты, Язэпка, нам як сын родны. У нас ад цябе, сам бачыш, ніякіх сакрэтаў няма. Таму я і гавару шчыра. Даша — дзеўчанё яшчэ. А ты, дзетка маё, свету пабачыў. Дык ужо і прашу цябе, па-харошаму каб...

Даша і Язэп пачырванелі. Ім абаім было няёмка і сорамна.

— Я, цётка, не злодзей які. Дзякую вам, што прытулілі. Ды каб я што дрэннае зрабіў...

З поля вярнуўся дзядзька Даніла, і няёмкая размова перапынілася. Але яна глыбока запала Язэпу ў сэрца. «Трэба жаніцца цяпер,— думаў ён, лежачы пад стажком сена (маці чамусьці забараніла Дашы начаваць на двары).— Няма чаго чакаць позняй восені. Папрашу дзядзьку хутчэй зрабіць сталярку ў зямлянцы, ды трэба перабірацца туды жыць. І не аднаму, а з Дашай».

Язэп ляжаў тварам уверх, глядзеў у чорнае неба, густа засеянае зоркамі. На душы ў яго было спакойна і лагодна ад таго, што прыняў такое важнае рашэнне. «А Клава? Што ж, была і няма. Чаго пра яе ўспамінаць. З Дашай мы зажывём. Яна любіць мяне. Клава не кахала; каб кахала, дык не здрадзіла б».

Яму думалася лёгка, бестурботна. Над галавой пціху трапяталі галіны, і пошум гэты як бы памагаў думаць, як бы зычыў шчаслівае жыццё.

На двор выйшаў дзядзька Даніла. Язэп пазнаў яго па яркім агеньчыку папяросы. Дзядзька пастаяў крыху, пазіраючы ўверх.

— Не спіш яшчэ? — спытаўся ён.

— Ляжу ды зоркі лічу,— пажартаваў Язэп.

— Золка ўжо становіцца. Глядзі не прастудзіся. Здароўе, ого, браце, як цяпер патрэбна. А яно ў цябе дрэнь.

— Прывык.

— Чалавек да ўсяго прывыкае.

Дзядзька Даніла прысеў на калоду. Хутаўся ў ватоўку, маўчаў. Але нават і гэтае маўчанне адгукалася ў Язэпавай душы чымсьці па-добраму знаёмым і дарагім. Язэ-

пу хацелася сказаць дзядзьку штосьці прыемнае. Але было лянотна ўсчынаць гаворку.

— Ну што ж, трэба спаць класціся,— сказаў дзядзька Даніла.— Хоць цяпер можна рана і не падымацца. Дзялоў няма.

— Можа, вы мне сталярку зробіце?..

— Ды ўжо ж... Старая таксама казала, каб падсобіў.— Ён памаўчаў крыху і раптам запытаўся: — Ці ведаў ты Лявона Міканорыка з Хацеенак?

— Здаецца, ведаў. Чорны такі, высокі.

— Ага, яго. Дык забралі сёння.

— Чаму?..

— Старастам быў...

— Туды яму і дарога,— адказаў Язэп.— Іх, хто немцам служыў, усіх выслаць трэба.

Даніла закашляўся. Сухі, дзірлівы кашаль доўга не даваў яму адказаць Язэпу.

— А што ён вінаваты?.. Сказалі — служыў.

— Не трэба было служыць.

— Дужа ты разумны. Табе, во, сказалі быць старшынёй — не хацеў, а стаў ім.

— Параўнаў неба з аўчынкай. Я сваім служу, а ён немцам.

— І ён не немцам, а людзям служыў.

— Якім людзям? Немцам служыў. Іхнія ж ён распараджэнні выконваў.

— А як ты іх не будзеш выконваць? Ого, паспрабуй! Немцы не чыкаліся. Ледзь што — расстрэл.

Размова станавілася непрыемнай. Язэп ведаў, што Іванёнку даказаць што-небудзь цяжка. Таму спрачацца з ім не хацелася.

— Чаго вы яго шкадуеце,— весела сказаў Язэп.— Няхай сваё адседзіць, калі вінаваты. Вам баяцца няма чаго.

— Яно так,— згадзіўся Даніла.— А толькі, як кажуць, сумы ды турмы не цурайся.

Ён пайшоў. Глуха зарыпеўшы, адчыніліся і зачыніліся дзверы. Язэп застаўся адзін. Але лагодны настрой прапаў. «Трэба было яму ўсчынаць гаворку,— падумаў Язэп і раптам здагадаўся: — Можа, ён за Міхася баіцца, каб яго не судзілі за тое, што трапіў у палон. Дзівак, такіх шмат было...»

І зноў ён глядзеў на мігатлівыя, яркія зоркі, але думкі не ліліся, як раней, плаўна, а скакалі, як завіруха.

3 Зак. 1950

Здаецца, ён заснуў, бо прысніў страшны сон — вайну. І ледзь не закрычаў, бо хтосьці, здалося, наваліўся на яго.

— Цішэй, гэта я...

Даша абняла яго, прытулілася, сціскаючы ў абдымках. Ён абрадаваўся, што яна прыйшла, хоць перад вачыма ўсё яшчэ стаяў страшны малюнак бачанай у сне атакі.

— Я крадком, ціха,— шаптала Даша.— Думаю, ну як ты тут адзін... Заснуць не магла.

— А мне і праўда страшна было.

— Ну вось бачыш! А гэта нічога, што я сама прыйшла?..

— Добра, дурненькая. Мы цяпер з табой як муж з жонкай. Чаго ж саромецца. Я заўтра тваім бацькам скажу.

— Не, Язэпка, не трэба вось так адразу. Счакаем крыху. Ну, з тыдзень.

Язэп быў згодны на ўсё.

Раніцай, калі ён прачнуўся, Дашы ля яго ўжо не было. Мусіць, яна пайшла ў зямлянку адразу, як ён заснуў, стомлены яе ласкамі. Ляжаў, думаючы пра тое, што нямка заходзіць у зямлянку — раптам цётка Таццяна падпільнавала дачку. Але, калі ён нарэшце адважыўся зайсці ў хату, па цётчыным твары было відаць, што яна дачку не ўпільнавала.

## 9

Мінёры прыехалі толькі праз тры дні. Васпаваты, з рэдкімі рыжаватымі бровамі старшы сяржант, разбіраючы на возе амуніцыю, строга сказаў Язэпу:

— Мне на ваша начальства напляваць. Мала што яны выдумляюць. У мяне свой план. А ў ім сказана: перш за ўсё размініраваць поле пад азіміну. Ясна? Сеяць усім трэба. Так я кажу? Ну, вось. Ён табе хто будзе — гэты, што загадвае? Сват? Брат? А ў мяне ўсе роўныя. Ясна?

— Мне ён таксама ніхто.

— Ну, гэта ты кінь. Чуў, як ён на дырэктара леспрамгаса крычаў: «Ду-уша во-он,— перадражніў старшы сяржант Гаравога,— а для Кляўцоў лесу выдзелі». Гэтак за прыгожыя вочы, старшыня, людзям не загадваюць. Ну, ды чорт з ім. Колькі жыта будзеш сеяць?

— Гектараў хоць бы пятнаццаць,— нясмела сказаў Язэп.

— Лады. Ачысцім трыццаць. А цябе дзе так драпанула?

— Пад Кіевам ужо.
— Спарадам?
— Шасціствольны рыпун накрыў.
— Гэты можа. Ну, ды нішто. Жывы, а гэта ў наш час галоўнае.

У той жа дзень прыехалі яшчэ шэсць сем'яў: Краснеўскія, Даўгялы, Мартысёнкавы, Гулько, Смычковы, Карняёнкавы. Гэтыя былі непадобны на абяздоленых бежанцаў. Прывялі кароў, свіней. Прывезлі скарб. Відаць, мужчыны недзе зазірнулі ў нямецкія склады.

Гэтыя, што прыехалі, не лезлі ў зямлянкі. Мужчыны адразу ж пачалі бурыць нямецкія бункеры, будаваць хаты, захопліваючы чужыя агароды. Жанчыны ўсе крыклівыя, нахабныя, патрабавалі перадзелу жыта.

Хаты будавалі абы-як, без належнага плана, і яны нагадвалі статак гусей, што разбрыўся па полі. Язэп спрабаваў прымусіць людзей будавацца на старых агародах, потым махнуў рукой: рабіце як знаеце.

Мінёры працавалі не спяшаючыся. Падганяць іх не было як. Язэп ведаў гэтую небяспечную, страшную работу. Ды і час яшчэ трываў. Паспееццa з сяўбой, абы добра размініравалі.

Аднаго разу Язэпа запрасілі паехаць на возера. Шчарбаты Макрэнін Лёшка, Ігар Піліпаў і чорны, як грак, Максім Карняёнак падрыхтавалі тол, бікфордаў шнур, невялічкі плыт на аўтамабільных камерах і некалькі сачкоў са шпагату. Язэп ніколі не глушыў рыбы, хоць аднойчы бачыў, як яна плыла па рацэ пасля нямецкага артабстрэлу. Ён доўга не ўпіраўся. Хацелася пакаштаваць гарачай юшкі, якой не еў ужо, можа, гадоў пяць.

Паехалі на Астравітае возера, што кіламетраў за шэсць ад Кляўцоў. Калёсы мякка каціліся па зарослай за вайну дарозе. Абапал яе калісьці шумеў лес, і ляшчыны выгіналіся над самай дарогай. Цяпер лесу не было — высечаны немцамі. Паўсюды тырчалі высокія пачарнелыя пні і рэдкі хмызнячок. Вялізныя варонкі то тут, то там сведчылі пра нядаўнія яшчэ баі. Было крыху страшнавата ехаць, бо немцы маглі пакінуць на дарозе міны.

Шчарбаты Лёшка ўсміхаўся, калі Язэп пачынаў непакоіцца, заўважыўшы на дарозе штосьці падобнае на прыхаваную міну, хваліўся:

— Мы тут папрывыкалі да гэтых мін і бонбаў. У вайну Ігнат Палудзетка з Астроўны замініраваў пасеку, каб

па мёд не лазілі, а мы размініравалі і дачыста абабралі калоды.

Максім Карняёнак, гледзячы ў неба, сіпата гаварыў Язэпу:

— Жызня, Хвёдаравіч, яна такая, што не ведаеш, калі твой канец наступіць і дзе. У сорак трэцім годзе нас ганялі па шашу шукаць міны. Запражэшся ў барану і цягнеш яе вярсты дзве. Ну, міны і ўзрываюцца. Людзей перабіла шмат, а я вось астаўся, бо не наступіў яшчэ мой судны час. Помню, з адной цішкаўскай бабай цягнулі мы барану. Я бліжэй да канавы ішоў, а яна пасярод шашы. Вот і кажа яна мне: «Табе, дзядзька, што. Табе нечага баяцца. Абочыны не мініруюць».— «Давай,— кажу,— памяняемся». Яна з радасцю перайшла на маё месца. Мажа, крокаў пяць зрабіла і ўзарвалася на міне. А я, бачыш, цэлы...

Дарога ўсё падымалася ўгару. Парослая травой, яна неяк адразу ўступіла месца пясчаным россыпам, якія не паспеў нават схапіць трыліснік. Збоч, на бугры, зелянелі маладзенькія, пры самай зямлі, сосны. Яны раслі густа, і Язэп падумаў, што год праз пяцьдзесят тут зноў будзе буяць лес. Толькі ці давядзецца пабачыць гэта?

Зямля была такая знявечаная, што, здавалася, бадай, не хопіць і двух пакаленняў, каб аднавіць яе былую прыгажосць. І ўсё ж было радасна і светла, што навала прамінула і зноў усё пойдзе як след. Як ні цяжка, а будуць засеяны палі і пабудаваны хаты, і калі-небудзь аб гэтай страшнай вайне застанецца адзін толькі невыразны ўспамін, як сон.

Задумаўшыся, Язэп не заўважыў, як воз узабраўся на гару. Адчуў толькі, што раптам падзьмуў валкаваты ветрык,— азірнуўся і ўбачыў возера, далёка ўнізе. Яно было густа-сіняе пасярэдзіне і светла-блакітнае ад берагоў.

Лёшка з Ігарам знялі з воза плыт, спусцілі яго на ваду. Максім выпраг каня, прывязаў яго лейцамі да кола. Потым падрыхтавалі запалы, шнуры. Усе чацвёра ўзабраліся на плыт, папіхваючы вяслом, паплылі.

Тол кідалі Ігар з Лёшкам. Падпальвалі кавалак шнура і кідалі брусочак, абматаны шпагатам, у возера. Падымаўся слупок вады, і аднекуль з глыбіні чуўся выбух. Але рыбы не было. Зрэдку ўсплывала плотка, паблісквала на вадзе белым жыватом.

Карняёнак тым часам скіроўваў плыт да вострава. Ён не спяшаючыся гроб вяслом і ўвесь час шморгаў носам.

Яго за гэта і звалі калісьці Шмаргун, і толькі маладзейшыя не ведалі гэтай мянушкі.

— Закінь тут тол,— сказаў Карняёнак Лёшку.— Па-мойму, возьмем нешта.

Лёшка адрэзаў ладны кавалак шнура, звязаў штук пяць брусочкаў толу, прывязаў груз і кінуў. Язэп бачыў, як тол знік пад вадой, як цягнуў у глыбіню шнур, як той гарэў і пырскаў іскрамі. Шнур знік, як тонкая, агідная вужака. Доўга не было ніякага знаку. Потым плыт падскочыў, а крокаў за дваццаць ад яго вада выпучылася, узнялася ўгору. Над вадой пракаціўся глухі, як з падзямелля, выбух. Неўзабаве там, і нават бліжэй, ля самага плыта, у неаселай яшчэ пене пачала ўсплываць аглушаная рыба. Усё навокал было засеяна буйнымі, перавернутымі ўверх жыватом рыбінамі і бясконцым касяком малечы.

Яе чэрпалі сачкамі, выкідвалі на плыт, проста пад ногі, яшчэ жывую, але насмерць кантужаную і таму бездапаможную. Карняёнак, шморгаючы носам, трасучыся, як у ліхаманцы, шкадаваў, што мала ўзялі толу.

— Хопіць вам,— сказаў Язэп, калі рыбу сабралі на плыт.— Мабыць, пуды са два будзе.

Але яго не слухалі. Рыбу выгрузілі на востраў, паехалі далей. І зноў, як і першы раз, выбух выкінуў на паверхню процьму рыбы.

Гледзячы на мёртвую рыбу, што пагойдвалася на хвалях, Язэп успомніў адзін выпадак з вайны.

Вясной сорак другога года яны стаялі перад занятай немцамі вёскай на крутым пагорку. Вёска тая панавала над імі, як арол-сцярвятнік над стэпам. Нечакана прыйшоў загад авалодаць вёскай. І камандаванне чамусьці павяло людзей лабавой атакай на штурм вышыні.

Пяць разоў за дзень хадзілі батальёны на доты і кулямётныя гнёзды, і было не зразумець — чаму вёску гэтую бяруць у лоб, калі яе можна захапіць у абход. Колькі там палягло салдат! А потым уначы разведрота зайшла ў тыл немцам і, не страціўшы ніводнага байца, выбіла немцаў з вёскі.

І цяпер, пазіраючы на аглушаную рыбу, і пасля, калі варылі ў вялізным катле, можа, на пятнаццаць чалавек, юшку, Язэп думаў, якімі неашчаднымі могуць быць людзі. Няўжо таму, што краіна такая багатая і неабдымная, аж кружыцца галава? Ніхто не лічыць ні вёрстаў у бяскрайных прасторах, ні багаццяў, ні людзей таксама. А хіба ж нельга быць разумнымі і ашчаднымі, бо ўсё, што

залішне, усё, што не мае сэнсу, выклікае боль, жывы і нясцерпны, які не адчувае толькі той, хто прыносіць яго?

Самае найлепшае — адчуць пакуты і зразумець іх. Тады паявяцца асцярожнасць і любоў, з якой кранаешся людзей, а не тая абыякавасць і грубасць, якую толькі што бачыў. Грубасць заўсёды там, дзе чалавек не паважае чалавека, дзе чалавек не шкадуе чалавека, не лічыць яго за чалавека. Сваім дабром раскідваецца дурань, а чужым, людскімі жыццямі — чарсцвяк і цынік, які жыве толькі для сябе.

...Юшка не ўдалася. Зварылі яе шмат, і таму не хапіла ні солі, ні спецый. Рыба, як трава, прэсная, не лезла ў горла. Лёшка дастаў спірту, і ён крыху нагнаў апетыту.

Язэп сп'янеў адразу, як і тады ў Іванёнкавых, пры сустрэчы. І ўсё тое, што нядаўна думаў, цяпер ірвалася з яго, але, апрача Максіма Шмаргуна, яго ніхто не слухаў.

— От, ты кажаш, Хвёдаравіч,— пачаў Карняёнак, шморгаючы носам,— што сядзелі мы тут як у бога за пазухай. Фронт, вядома, ёсць фронт — сам калісьці быў на ім; але там ты адзін. А тут сям'я ў кожнага, дзеці. Цяперашняя вайна не абышла хаты, як некалі. Хацеў бы чалавек ціха пражыць, глядзі — не выходзіць.

— Ціха жыць, калі вораг зямлю топча, тое ж здрадніцтва,— злосна адказаў Язэп.— Хто не з намі, той наш вораг, таго біць трэба.

— У душы ўсе былі з вамі, але ж і тое трэба ўлічыць: немцы — сіла. Вунь яны куды вас пёрлі. Дык у вас жа зброя. А нам што было рабіць?

— Нас пёрлі, гэта так. А во Лёшка, Ігар, маладыя хлопцы, дома сядзелі. Партызаны пад бокам былі, але ж не пайшлі.

Лёшка, лежачы на баку, выскаляў зубы. П'яная Лёшкава ўсмешка выклікала ў Язэпа злосць. Ім зноў авалодвала нянавісць да тых, хто адседжваўся тут па хатах, хто шукаў ціхенькага прытулку. «Бач ты, смяецца!.. З каго смяешся?»

— Ты не выскаляйся, Лёшка. Я вось інвалід, а калі б давялося зноў пачынаць усё спачатку, дык не задумваючыся кінуўся б у тое самае пекла, з якога вярнуўся калекам. Людзі жыццё сваё паклалі, каб выгнаць фашыста, а вы тут палец аб палец не ўдарылі. Мне нават чарку піць з вамі брыдка.

Лёшка павярнуўся на жывот. Яго твар пабарвовеў, вочы зрабіліся жорсткія, бязлітасныя.

— Чаго ж табе з Іванёнкамі не брыдка піць? Я, скажам, ні таму, ні другому не прыслужваўся, а дружок твой, Мішка, вунь разам з карнікамі вёскі паліў. І во п'еш, з Дашкай любоў круціш!

У Язэпа пацямнела ў вачах. Адразу ж прыгадаліся размовы ў Іванёнкаў — смутныя, няясныя, з недагаворкамі.

— Адкуль табе вядома гэта? — запытаўся ён у Лёшкі.

— Адкуль, адкуль... Усе знаюць, як ён ездзіў паліць партызанскія сем'і ў Рыжаброды. Кажуць, трафеяў адтуль на дзесяць гадоў напрывозіў.

Язэп папярхнуўся, змоўк. Толькі ў галаве гуло ды мітусіліся страшныя думкі.

— Распусціў ты язык, малец, во што я табе скажу,— накінуўся Шмаргун на Лёшку.— Да дабра гэта не даводзіць, сам знаеш... Ніяк не навучаць людзей не соваць носа, куды не просяць.

— А няхай і ён не лезе,— агрызнуўся Лёшка.

Максім не звярнуў увагі на Лёшкаву буркатню. Ён павярнуўся ўсім целам да Язэпа, пачаў расказваць:

— Тут у нас, Хвёдаравіч, на пачатку сорак другога года такое здарылася, што і прыдумаць цяжка. У Кратах, вёрст дванаццаць адсюль, ноччу, значыць, паявіліся ў вёсцы партызаны. Чалавек шэсць, кажуць. Зайшлі да Мітрафаненкаў. Я некалі з ім у адной часці служыў. Сідар Мітрафаненка. Языкаваты такі і злоснік. Што ён тым партызанам нагаварыў, ніхто, канечне, не знае. А мабыць, шмат такога, што партызаны забралі з сабой двух сыноў Піліпа Кужэлькі. Адвялі за вёску іх і застрэлілі. А праз тыдзень ці два стала вядома, што абодва хлопцы былі яшчэ з зімы з нейкім другім атрадам звязаны, таму і да немцаў хадзілі, і з паліцаямі дружбу завялі. А Сідар у гэты час, кажуць, акружэнцаў немцам выдаваў. Ну, дык яго і хлопнулі пасля. Тут, Хвёдаравіч, такое было, што і за сто гадоў не разбярэш, хто на каго служыў. Сваімі вачамі бачыў, як адзін хадзіў у нямецкай афіцэрскай форме. Шчыгульненькі такі. Па-нямецку гаварыў — дай божа. А калі вярталіся дамоў, гляджу — ён па станцыі ходзіць, толькі ўжо ў нашай форме. Во і разбяры тут. Так што маўчы і не рыпайся.

Язэп слухаў Карняёнка ўважліва. І праўда — нялёгка разабрацца. А што, калі Мішку партызаны паслалі з нейкім заданнем? Тады іншая справа. Тады Мішка герой, а не здраднік. Толькі ж, напэўна, Іванёнкавы зналі б пра

тое заданне і не маўчалі б. А калі Мішка не мог сказаць? Пэўна, што не меў права.

— Мішку ты да тых не раўняй. Мішку, каб партызаны злавілі, непаздаровілася б,— сказаў Лёшка.

— Мішка з паста ўцёк,— падтрымаў яго Ігар.— Кажуць, таму немцы партызан перабілі шмат. Без стрэлу ў вёску ўварваліся.

І зноў кола замкнулася. Язэп не ведаў ужо, што думаць.

Але Максім, калі Язэп астаўся адзін на адзін з ім, сказаў:

— За вайну людзі помслівыя сталі. Лёшка гэты з Іванёнкам заеліся яшчэ вайной. Кажуць, што Мішка пабіў Лёшку, калі той да Дашы іхняй прыставаў.

Язэп чамусьці больш верыў Максіму Карняёнку, хоць да вайны недалюбліваў яго.

Узваліўшы мяшок на плечы, ён пайшоў дамоў. Ужо было цёмна, і яркія, мігатлівыя зоркі густа гарэлі ў небе. З поўдня, проста ў твар, дзьмуў цёплы сухі вецер. Мабыць, таму не выпала яшчэ раса, і сухая трава шастала пад нагамі.

Спускаючыся ў роў, Язэп упаў. Мяшок пакаціўся кудысьці ўніз, прымінаючы траву, і нейкім цудам затрымаўся на сцежцы. Максім здагадаўся завязаць мех, таму рыба не рассыпалася. Але радасці гэта не прынесла. Навошта яму спатрэбілася столькі рыбы? Хіба яе з'ясі? А вось жа цягнуў сюды, ледзь не звярнуў шыю.

У зямлянцы было шумна. Нехта крычаў, лаяўся. Язэп штурхнуў нагой дзверы. Яны адчыніліся, і тады ў яркасінім святле карбідкі Язэп убачыў васпаватага старшага сяржанта. Барвовы ад злосці мінёр трымаў у руцэ пісталет, ахрыплым голасам крычаў Данілу:

— Выхадзі, табе кажуць, на двор!.. Выхадзі, здраднік, свалачуга пракляты!

Язэп скінуў мех з пляча, кульгаючы, падышоў да сяржанта, схапіў яго за руку.

— Ты што, здурнеў?

Сяржант задыхнуўся, з сілай вырваў руку.

— Заступнічак знайшоўся!.. Заадно з ім? Ён нашых лётчыкаў немцам выдаў. Я гэтага фашысцкага прыхвасня самасудам пакончу.

— Ну і дурань,— спакойна адказаў Язэп, хоць у яго ў грудзях бушавала злосць.— Табе хто нагаварыў?

— Людзі... Нашы. Тыя, што з немцамі не вадзіліся.

Язэп азірнуўся. Ён убачыў перапалоханы, але па-блазенску ўсмешлівы твар Данілы, заплаканы цётчын і абражаны Дашын. У Дашы балюча крывіліся вусны, а вочы прасілі дапамогі.

— Пайшлі да тых людзей,— сказаў Язэп.

Дзіўна, але сяржант пайшоў за ім, кінуўшы на развітанне:

— Ваша шчасце, што ён прыйшоў, але я да вас яшчэ дабяруся.

Яны ішлі моўчкі, цяжка дыхаючы: Язэп ад зморанасці, сяржант ад гневу.

На полі крыху пасвятлела. Язэп чыкільгікаў следам за сяржантам, не паспяваў. Потым сяржант спыніўся, пачакаў Язэпа.

— Слухай,— звярнуўся ён да Язэпа,— не хадзі. Ну іх. Пагарачыўся. Не наша гэта дзела. Добра, што ты прыйшоў, а то я хлопнуў бы яго.

Язэп ускіпеў. Не, цяпер ён не адстане ад гэтага сяржанта.

— Па кручах гэтых лазіць за будзь здароў я не хачу. Раз пайшлі, дык ужо няма чаго адступаць. Табе хто казаў?

— Доўгая такая, што пад бярозай будуецца.

— Мартысёнкава, мабыць?

— А ліха яе ведае. Думаеш, я прозвішча пытаў? У мяне ўсё ўсярэдзіне закіпела, як яна сказала, што ён лётчыкаў немцам выдаў. Самога вось так у сорак першым адзін гад да немцаў завёў. Мне напляваць, што ты за яго дачкой бегаеш. Для мяне праўда даражэй. А твой гэты Іванёнак, па вачах бачу, вінаваты. Такія, што дурнямі прыкідваюцца,— першыя зладзеі.

— А я што, абараняю яго? — сказаў Язэп.— Але спачатку высветліць трэба. Калі ён праўда выдаваў нашых, дык першы куды трэба заяўлю, і любоў мяне не спыніць. Ясна? Я крыж на ёй пастаўлю.

Далей яны ішлі поплеч і абодва маўчалі. У буданчыку Мартысёнкавых панавала цішыня. Людзі спалі. Ці, можа, прыкідваліся, што спалі, бо абое вельмі хутка вылезлі адтуль, як толькі Язэп паклікаў іх.

Доўгая, хударлявая Варка хавалася за сваім шыракаплечым Цімохам, які стаяў раскірэчыўшы ногі.

— От, цётка,— пачаў Язэп,— сяржант кажа, што вы ведаеце, як Іванёнак выдаў лётчыкаў немцам. Дык раскажыце, калі і як гэта было?

— Што я гаварыла? Нічога не гаварыла! — доўгая Варка махала за мужавай спіной рукамі, лямантавала.— Чаго прычапіліся? Вунь абодва п'яныя. Прывалакліся ў ноч. Дня вам мала. Людзям спаць не даяце?

Сяржант ступіў пару крокаў, адсунуў за плячо Цімоха. Цяпер ён стаяў перад жанчынай, якая была на галаву вышэй за яго. Варка спалохана адступала, а сяржант ішоў за ёю, трымаючы рукі ў кішэнях:

— Ты чаму, як рак, назад паўзеш? Расказвай, як Іванёнак выдаваў лётчыкаў?!

Цімох схапіў Язэпа за рукаў:

— Хвёдаравіч, што ж ты яго прывёў? Ён жа п'яны зусім. Яшчэ страляць пачне. Спыні ты яго.

Язэп вырваў руку, кульгаючы падышоў да сяржанта. Ён ужо раскайваўся, што пайшоў сюды. Усё роўна Варка цяпер не прызнаецца, што гаварыла пра Іванёнкаў. Чужому можна набрахаць, а вось пры сваім будзе трымаць язык за зубамі. Язэпу чамусьці хацелася, каб сяржант нагнаў страху гэтай языкатай бабе, але пабойваўся, што той у гарачцы наробіць лішняга. Таму Язэп стаў побач з ім.

— Кажы пры людзях, як ён выдаваў лётчыкаў! Апошні раз папярэджваю...— мінёр зрабіў выгляд, што хоча выцягнуць руку з кішэні.

Жанчына, напалоханая гэтым жэстам, плаксіва пачала апраўдвацца:

— І нічога я не казала... Хвёдаравіч, ты ж свой, павер, што не казала.

— Як жа вы, цётка, так маглі? Ён жа хацеў Данілу застрэліць.

— Дык жа, Хвёдаравіч, я толькі сказала пра тое, што ведала. Хлапчукі ў вайну расказвалі. Яны ў цагельні Сцепуржынскага пад вечар знайшлі двух лётчыкаў. Напалохаліся былі, а Даніла ім сказаў, што сам немцам заявіць. Назаўтра ўжо лётчыкаў тых не было, а да Іванёнкаў прыязджаў камендант з паліцыяй і гарэлку пілі. Вось і ўсё, што я сказала. Дык пра гэта ўсе ведаюць.

— Дык выдаў ён іх ці не? — ускіпеў сяржант.

Асмялелы Цімох нарэшце адважыўся заступіцца за жонку.

— Ты, марш у хату! — загадаў ён Варцы.— Мы тут без цябе разбяромся. Я, таварышы, так вам скажу. Ніхто дакладна пра тое не ведае, што з тымі лётчыкамі сталася. Факт, што іх бачылі, а потым яны прапалі. Ты, Хвё-

даравіч, не крыўдуй. Не нам разбірацца. На тое ўласць, каб разабралася. Во давайце лепей вып'ем. У маёй там бутэлечка прыпасена. Наліха нам сварыцца. Дзякуй богу, што немца праклятага прагналі. Цяпер баяцца няма чаго.

Ён пацягнуў хлопцаў у буданчык. Сяржант неяк адразу абмяк. Язэпу не хацелася ісці да Мартысёнка, але і дамоў вяртацца не хацелася. Неахвотна пайшоў у буданчык. Згрызалі яго пакутлівыя думкі. Ніяк не мог даўмецца — хто ж такі Іванёнак, хто яны ўсе?

## 10

Ранак быў шчодры на расу. Белыя, як зярняты проса, кроплі расы густа віселі на траве, абляпілі быльнёг, ад чаго ён здаваўся пасівелы. І ўсё навокал выглядала сівым, змрочным.

Далячынь яшчэ хуталася ў шэрую невыразную плёнку прадранішняй смугі. Толькі на ўсходзе ледзь прыкметна ружавела неба, абяцаючы сонечны дзень... «Цяпер бы лён добра вылежваўся,— падумаў Язэп.— Раса і цяплынь; тыдні два паляжыць — і падымай са сцелішча».

Язэп вяртаўся ад Мартысёнка зморany бяссонніцай, пустымі размовамі, выпіўкай, уласнымі думкамі і неакрэсленасцю свайго становішча: кватарант ён ці зяць? Калі зяць, дык чый? Здрадніка ці сумленнага чалавека?

Мартысёнак так нічога пэўнага і не сказаў. Выкручваўся, замаўляў зубы. Але за яго словамі адчувалася, што ён ведае штосьці, ведае і не хоча гаварыць. «Трэба ў Дашы спытаць,— падумаў Язэп.— Са старога нічога не выцягнеш».

Ісці цяпер дамоў не было як — рана. Язэп звярнуў са сцежкі на дарогу, пайшоў да сваёй зямлянкі. Ля яе хтосьці хадзіў. Няўжо Даніла? Чаго ён так рана прыпёрся?

Іванёнак, мабыць, таксама ўбачыў яго, чакаў.

— А мы думалі, дзе ты прапаў? Даша ўсю ноч не спала,— ён як бы папракаў Язэпа, што той прасядзеў недзе ноч, але далікатна, каб не пакрыўдзіць.— У той гамане дык і часу не было сказаць табе, што прыходзілі з сельсавета, наказвалі, каб сёння, як можна раней, накіраваў людзей у горад. Трэба па каровы ехаць аж некуды пад Польшчу.

— Хто прыходзіў?

— Сакратарка сельсавецкая. Дужа прасіла, каб ледзь на дзень возьмецца, адправіў двух чалавек.

— А вы чаго тут?

— Трэба ж сталярку кончыць...

«Цяпер вось прыйшоў,— падумаў Язэп.— Усё часу ў цябе не было. Усё аднекваўся, а цяпер, калі мінёр напалохаў,— час знайшоўся. Цяпер ты да мяне ласкавы. Вось я зараз запытаюся пра тых лётчыкаў. Калі не дакажа, дзе яны і ці праўда, што бачыў іх, дык не хачу ягонай работы».

Іванёнак тым часам зайшоў у зямлянку, гукнуў адтуль:

— Памажы мне, Язэпка, асаду аконную паставіць,— аднаму нязручна.

Удвух яны хутка паставілі асаду, прыбілі раму. Цяпер толькі трэба было асадзіць дзверы.

— Дык ты ўжо ідзі,— сказаў Даніла,— вушакі я сам прыладжу — вось і гатова хата. Жаніся ды дзецьмі абзавадзіся...

— Што я хацеў спытаць,— чамусьці адчуваючы няёмкасць, пачаў Язэп.— Праўда ці не, што хлапчукі бачылі лётчыкаў у цагельні Сцепуржынскага?

Язэп чакаў, што і Даніла пачне выкручвацца: чуў, але не ведаю пэўна. Але ён адказаў:

— Праўда, двaіх яны былі. Адзін паранены.

— Дык што, іх немцы забралі?

— Не, яны за фронт пайшлі.

— Як жа паранены мог пайсці?

— Дык ён ужо крыху падлячыўся. Ды ты што, не верыш? Як перад папом, кажу, што праўда гэта. Я пра іх раней за тых хлапчукоў ведаў. Есці ім насіў. Калі хлапчукі ўбачылі іх, дык лётчыкі заспяшаліся. Яны баяліся, што хлапчукі прагаворацца і да немцаў чутка дойдзе.

— А даказаць вы можаце, што яны за фронт пайшлі?

Даніла, здаецца, не зразумеў пытання. Ён доўга моргаў вейкамі.

— Пайшлі, і ўсё. Ноччу... Я іх на дарогу вывеў — яны і пайшлі.

Не верыць Іванёнку не было падстаў, але і верыць чамусьці не хацелася. А што Даніла можа цяпер сказаць, калі выдаў лётчыкаў? Самае найлепшае, што яны пайшлі за фронт. Паспрабуй дакажы...

У клопатах праляцеў дзень. Язэп так і не пайшоў дамоў — паабедаў у Макарыхі. І ўвесь дзень яго гнялі думкі. Выдаў ці не выдаў Іванёнак лётчыкаў? Здавалася, ад вырашэння гэтага пытання залежала ўсё жыццё.

Пад вечар ён усё ж пайшоў дахаты.

Цётка Таццяна нечага корпалася ля печы, павярнулася на Язэпавы крокі.

— Ну, во і прапажа знайшлася,— сказала яна і зноў занялася сваёй справай.

Даша з дакорам паглядзела на яго, адвярнулася, хаваючы слёзы. Даніла, быццам нічога не здарылася, весела спытаў:

— У сваю хату заходзіў? Работу прыняў? Тады з цябе належыць. Ну, а паколькі ты голы як бізун, дык давай у пазыку вып'ем. Таццяна,— гукнуў ён жонку,— падай тую пляшку, што ў ступе схавана.

Язэп не ведаў, крыўдаваць ці не за гэты «голы бізун». Сказана як быццам жартам, але абразліва.

Цётка Таццяна, звычайна скупаватая, калі гаворка заходзіла вось пра такія неспадзяваныя, ні да чаго, выпіўкі, на гэты раз паслухмяна дастала пляшку.

Даніла падпіхнуў Язэпа да стала:

— Садзіся, Хвёдаравіч, павячэраем... Я на гэтую бутэльку даўно ласым вокам пазіраў. Гэта ж, Хвёдаравіч, баба мая надумала зберагчы яе на Дашына вяселле. Ну, скажы, хіба два мужчыны могуць дачакацца таго вяселля, калі бутэлька ну проста спакою не дае. Дужа мяне цікавіць, што ў ёй за пітво такое. Ды ўсё прычыны не было...

«А цяпер якая прычына? — падумаў Язэп.— Ці не хочаш ты чаркай сумленне купіць?»

Цётка падала вячэру і сама прысела да стала. Сядзела падтуліўшы вусны, мусіць, усё ж шкадавала гарэлкі.

Язэп узяў у рукі бутэльку, доўга разбіраў надпіс на этыкетцы. Але прачытаць так і не змог. Паставіў.

— Ёган казаў,— азвалася Даша,— што гэта французскі каньяк. Ён з белага вінаграду вырабляецца.

«Можа, гэтым каньяком немцы заплацілі за тых лётчыкаў»,— падумаў Язэп.

Яго аж скаланула ад гэтай думкі.

— Дужа ён разбіраўся,— буркнуў Даніла. І растлумачыў Язэпу: — Ён мінёрам быў. Добры чалавек, я табе скажу, хоць і немец. У пана батрачыў, пакуль на вайну не ўзялі. Скажы ты, я думаў, што ў іх батракоў няма, бо

немцы хваліліся, бывала: у нас усе багатыя,— аж хлусілі. А пляшку гэту ён у афіцэра ўкраў.

Язэп слухаў, нахмурыўшы бровы. Даша, відаць, заўважыла гэта, крыкнула на бацьку:

— Змоўкні ты, вечна з-за цябе ніхто слова не скажа.

— Вып'ейце во лепей,— падтрымала яе і маці.

Вячэралі моўчкі, хоць Даніла ўсё памыкаўся ўсчаць гаворку. Пад строгім позіркам жонкі ён толькі пакрэктваў ды нешта бубніў сабе пад нос.

Ад каньяку соладка кружылася ў галаве. Цягнула на сон, мабыць, таму, што Язэп не спаў усю ноч і толькі ўдзень прылёг гадзіны на дзве. Яшчэ каньяк выклікаў нейкую млявасць думак. Яны хоць і паяўляліся, былі лагодныя. «Дурань я,— падумаў Язэп,— слухаюся ўсіх. Харошыя яны людзі, і ўсё. І дзядзька, і цётка, і Даша... Даша асабліва».

Яму хацелася абняць Дашу, якая сядзела побач, сказаць старым: «Благаславіце нас з Дашай». Ён толькі і чакаў зручнага выпадку, каб сказаць гэта, але цётка Тацццяна завяла пра тое, што вось ужо больш года, як не бачылі ў вочы малака, нават забыліся, якое яно на смак.

— Хутка пакаштуем,— адказаў Даніла.— Вось Карняёнак з Гульчыхай кароў прыгоняць — будзе табе малако.

Цётка Тацццяна наляцела, як каршун, на Данілу:

— Карняёнак прыгоніць. А ты во — дулю. Не мог разам з ім замест Гульчыхі паехаць. І ты, Язэпка, дзетка маё, быццам мы табе чужыя, не мог даўмецца, каб майго паслаць.

— Хопіць вам, мама,— пакрыўджана сказала Даша.— Што цяпер пра тое гаварыць.

Язэп не разумеў, чаго яго вінаваціць цётка. Ён хацеў было паслаць Данілу па каровы, але падумаў, што той не захоча ехаць у свет. Ды пасля той ранішняй гаворкі не хацелася прасіць старога. А выходзіць, на яго чамусьці пакрыўдзіліся.

Цётка Тацццяна ахвотна растлумачыла:

— Дзетка маё, як жа ты здагадацца не можаш? Даруй, Язэпка, але ты як бы і не гаспадар у гэтым свеце. А тут усё ўлічыць трэба, бо інакш — не пражыць, дзетка маё. Кароўку паблізу ні за якія грошы не купіш. А тут такая нагода выпала. Дарога бясплатная. А там у салдат во за такую пляшку можна было б кароўку набыць і прыгнаць разам з усімі. Ну, дык няхай ты, а гэты стары

пень пра што думаў? Учора ўвесь дзень дзяўбла яму, каб папрасіў цябе адправіць яго па каровы. Дык ён і не заікнуўся.

Выходзіла так, што ён, Язэп, кругом вінаваты. Мала таго што не здагадаўся адправіць дзядзьку па каровы, дык яшчэ цяпер выпіў каньяк, які каштуе столькі, колькі карова. Зрабілася чамусьці сорамна, брыдка.

— Як-небудзь будзе, цётка,— сказаў ён.— Што-небудзь прыдумаем.

— А ўжо ж, дзетка маё, паспрыяй. І табе малачка трэба, вунь як ты схуднеў. Калгас не збяднее, калі нам карову выдасі. Пагавары там з начальствам, няўжо ж яно табе адмовіць. А мы табе, як маці вернецца, цялічку аддамо. Свае ж людзі — трэба памагаць адно аднаму.

Язэп пэўна не паабяцаў, але Таццяна была і гэтаму рада.

Назаўтра Язэп загадаў калгаснікам выходзіць на касьбу. Збіраліся спакваля, не так, як на жніво, але прыйшлі ўсе, хто з касой, хто з сярпом.

Ніхто не ведаў, колькі кароў выдзеляць калгасу, колькі трэба накасіць сена. А трава даўно перастаяла. Касіць яе — адны пакуты. Затое сушыць не трэба шмат часу — на корані высахла.

Язэп пахадзіў ля касцоў, зайшоў да мінёраў. Адтуль пачыкільгікаў у вёску. Ля ягонай зямлянкі сядзеў на бервяне круглатвары, невысокі чалавек у шынялі наапашкі, курыў.

«Хто б гэта мог быць?» — падумаў Язэп.

Чалавек, не падняўшыся, падаў руку.

— Мальцаў,— сказаў ён.— А ты, па ўсяму відаць, Каліна?

— Угадаў,— адказаў Язэп, прыглядаючыся да чалавека.

— То сядай. Справа ёсць. Я, таварыш Каліна, з органаў. Вось мой мандат.

Ён на імгненне разгарнуў пасведчанне. Язэп заўважыў толькі фотакартку і каліграфічна напісанае прозвішча: Мальцаў.

— Слухаю...

— Я цябе паслухаць хачу,— усміхнуўся Мальцаў.— Раскажы, як жывеш, які настрой у людзей.

— Схадзі на поплаў — сам пабачыш... Жывём цяжка.

— Не лёгка,— згадзіўся Мальцаў. Паспачуваў: — Табе асабліва. Без рукі во...

— Без рукі ці без нагі, а ўсё лепей, чым без галавы.

— Яно праўда... Кульба вунь на міне ўзарвалася. Як гэта здарылася?

Мальцаў непрыкметна ўцягваў яго ў размову, і Язэп, крыху насцярожаны спачатку (думаў, што Мальцаў высвятляе абставіны Фрузінай смерці), хутка забыўся на ўсё. Яны проста і шчыра вялі гаворку пра жыццё, пра калгасныя справы, пра тое, як цяжка будзе аднавіць гаспадарку.

— А ты тут і жывеш? — спытаў Мальцаў.

— Пакуль яшчэ не перабраўся. У рове жыву, з Іванёнкамі.

— А-а-а!.. Сын іхні не піша пісем?

— Не...

— А людзі нічога пра іх не гавораць? Хоць табе не скажуць. Ты, чуў, за яго дачкой улёг. Ці, можа, хлусяць?

Язэп зразумеў, што цяпер толькі і пачалася тая справа, пра якую Мальцаў казаў на пачатку сустрэчы.

— Ты вось што,— рашуча сказаў Язэп,— давай начыстату гаварыць. Мне самому цікава ведаць, з кім я жыву і як мне трымацца. Адны кажуць, што Іванёнак лётчыкаў выдаў, а сам ён клянецца, што яны за фронт пайшлі. З Міхасём іхнім таксама не магу разабрацца. Хто ён? То ў партызанах быў, то, кажуць, у ахове нейкай. Заблытаўся я зусім.

Мальцаў яго не перабіваў. Капаў наском бота зямлю, жмурыўся ад сонца.

— Днём горача,— сказаў ён.— Шынель цяпер лішні, а ноччу не абыдзешся. Накрыцца ці пад бок палажыць... Усё гэта цікава, што ты расказаў. А ты як думаеш, можа, і праўда іх Іванёнак за фронт адправіў?

Язэп задумаўся. Маўчаў доўга. А калі ён хацеў сказаць Мальцаву, што Іванёнак казаў праўду, раптам зразумеў, што цяпер гэта ўжо не мае значэння.

— Ну, вось бачыш, Каліна... Сітуацыя!.. Ты пра нашу размову маўчы. Нельга. Пакуль што многае няясна. Хоць што там!.. Міхася Іванёнка, каб паявіўся, адразу арыштавалі б...

— Зразумела. Ты мне скажы, а дачка іхняя, яна — нічога...

— На яе кампраметуючых даных няма. Ну, бывай, Каліна...

Ён пайшоў, а Язэп доўга сядзеў, думаючы над тым,

што рабіць. Факт, Іванёнак выдаў лётчыкаў. Не сказаў жа ён пра Міхася. Дык хіба прызнаецца, што лётчыкаў выдаў?

## 11

— ...Я, Даша, да цябе нічога не маю,— пачаў Язэп, ведучы далей спыненую размову,— але як падумаю пра ўсё, аж моташна робіцца.

Язэп адчуваў, што голас у яго кволы. Такім голасам вінаватыя просяць прабачэння.

Ён глядзеў на барвовы захад і чамусьці тужліва думаў, што недзе там ягоная часць вядзе баі. Што там усё куды прасцей, як тут, на прыціхлай пасля вайны зямлі. Там няма такіх згрызот, як тут, і жывецца лягчэй, хоць смерць падпільноўвае на кожным кроку. Язэп успомніў, як ён радаваўся, што вяртаецца дамоў, што тут будзе цішыня і спакой. А цішыні, мабыць, няма на зямлі.

Пад імі ўнізе — яны сядзелі на кручы — цямнелі хмызнякі. Недзе там была зямлянка, у якой ён жыў гэтыя месяцы на чужых харчах. І гэта асабліва цяпер абражала.

— Цяпер ты, вядома, нічога не маеш. А мне як жыць? — Даша пазірала кудысьці ўніз на пажаўцелыя вяршаліны алешніку. Гаварыла яна ціха, быццам думала ўголас.— Табе, вядома, мала клопатаў. А куды мне вочы схаваць? Нядаўна вунь Каця пытала, ці праўда, што я з табой жыву...

— Ну і што ты адказала?

— Што праўда...

Язэп зазлаваў. «Навошта ж было вось так адразу? Прасіў жа яе маўчаць. Хоць чаго там хаваць? Сам вінаваты. Цяпер кусай сябе за локаць. Радня, хай на яе... Каб ведаў тады пра іх, на сто вёрст абышоў бы гэты пракляты роў. І людзі таксама добрыя: ведалі ж, а маўчалі... Хоць што там крыўдаваць на людзей. Сам вельмі добранькі. Хацеў толькі прыемнае чуць. Сяржант тады праўду казаў: «Размяк ты пад бабскім бокам, нянавісці ў цябе ні кроплі не асталося — выветрылася...»

На Язэпавых скронях, пасівелых ужо за час шпітальных пакут, набраклі сінія жылы. На лбе выступіў пот. Язэп правёў далонню па твары, выцер пот.

«Як жыць далей? — думаў ён.— Кінуць-рынуць усё — і ў свет як у капейку, каб ніколі сюды не вярнуцца?..

Але ж дзеўка не вінаватая, што сям'я такая. Ёй, можа, таксама нялёгка?.. А мне лёгка? Чаму я павінен пакутаваць за іх грахі? Яна ж не сказала пра Мішку. Ого, яна скажа! Адна хеўра».

Яму раптам прыгадалася, як іх шафёр Вася Лазараў у часе наступлення заскочыў на «вілісе» ў сваю вёску да бацькоў. А тыя ўцяклі з немцамі (бацька працаваў бургамістрам), і тады Вася расстраляў увесь аўтаматны дыск па роднай хаце.

Язэп тады добра разумеў Васю. За два гады ў акопах нянавісць напалілася, як у горне.

Ён хацеў ненавідзець Дашу, увесь іванёнкаўскі род, як ненавідзеў сваіх бацькоў Вася Лазараў, і чамусьці не мог. Растаў? Шкадаваў? Спалохаўся слёз?.. Чорт яго ведае чаму...

Даша выцірала падолам слёзы. Не саромелася, што відаць голыя вышэй каленяў ногі і караткаватая белая сарочка,— ён жа свой...

— Я табе казаў, Даша: пажэнімся, і ад сваіх слоў я не адмаўляюся,— панура пачаў Язэп, чамусьці заўважаючы толькі гэтыя стройныя, загарэлыя ногі.— Мне сумленне не дазваляе з табой не па закону жыць. Толькі вось што: навек са сваімі парвеш. Адкрыта парвеш, каб усе ведалі. Сама ты, канечне, не вінаватая, а бацька твой ды Мішка людзям насалілі, і знаць я іх не хачу. Ясна? Яны мне не радня — ніхто, чужыя і ворагі.

— Во-о-орагі,— заплакала ўголас Даша.— Ці мала што людзі навыдумляюць. Што мой бацька такое зрабіў? Ты вось скажы, хто табе нагаварыў і што?..

— Гэта не нагаворы. А хто мне сказаў і што — мой клопат. Але ведаць тваіх бацькоў не хачу.

— Што ж, мне і маці мамай нельга называць? — усё яшчэ плачучы, запытала Даша.

— Ты як хочаш... А я не хачу знацца. І на свой парог іх не пушчу. Ясна? А з Мішкам мы яшчэ сустрэнемся. Паявіцца ён — сам у кэгэбэ завяду.

Даша зноў заплакала — ціха, але шчыравіта на слёзы. Язэп нецярпліва павярушыў плячамі, як бы скідаючы з сябе цяжар.

— За што ты на яго?

— Сама знаеш. І во яшчэ што. Жыць у вас я не буду.

— А як жа я?

— Ты мне рэчы сюды прынясі,— заняты сваімі думкамі, сказаў Язэп.

— Кідаеш, значыць? Нагуляўся і кідаеш?..

— Я табе сказаў: любіш — прыходзь. Толькі на радню сваю забудзься. Ну, ідзі, а то позна...

Яна неахвотна пачала спускацца ў роў. Язэп глядзеў, як мільгае ўнізе белая хустка, і думаў: «Я яе на свой лад перараблю. Каб духу іванёнкаўскага не асталося».

## 12

Ля зямлянкі, дзе цяпер жыў Язэп, стаялі тры плугі з абгарэлымі ручкамі і кароткімі спрацаванымі лемяхамі. На гэтыя тры плугі былі адзін конь, шэсць кароў і два хамуты. «Вось і рабі тут,— думаў Язэп.— Якога тут ражна пасееш... Ды яшчэ і ці дадуць кароў... Гэта ж не калгасныя — не загадаеш. А паспрабуй угаварыць Мартысёнкаву, яна табе вочы выдзера...»

Яму хацелася кінуць-рынуць усё і пайсці, куды глядзяць вочы. Цяпер нішто ўжо не звязвала яго з Кляўцамі. Але нейкая ўпартая сіла не давала яму зрабіць апошняга кроку.

Язэпу ўспомнілася тое страшнае адчуванне, што было ў яго летам сорак першага года. Тады хацелася бегчы і бегчы, бясконца адступаць, быццам недзе там, далёка на ўсходзе, быў ратунак ад немцаў. Нават у сне тады ён усё кудысьці ўцякаў. Яшчэ ўспомнілася, як яны спыніліся пад Масквой на Варшаўскай шашы. Людзі ніяк не маглі прывыкнуць да акопнай абароны, і быў час, калі яны стрымлівалі сябе нечалавечым намаганнем. Здавалася, нехта адзін падхопіцца — і тады пабяжыць увесь фронт. Але ніхто не падняўся. Людзі як бы ўчапіліся за зямлю. І цяпер Язэпу здалося, што яму, як тады на Варшаўскай шашы пад Масквой, хочацца падняцца і пабегчы. А куды ты ўцячэш і дзе той ратунак?

Шэсць сем'яў, што вярнуліся з адступлення пазней, унеслі разлад у работу. Жанчыны ўжо не беглі так на працу, як калісьці на жніво. Каму хацелася працаваць, калі мужчыны — усе гэтыя Мартысёнкі, Даўгялы, Краснеўскія, Гулько — дзень пры дні будавалі сабе хаты? На калгасную работу ў іх не хапала часу, і Язэп нецярпліва чакаў, калі іх паклічуць у ваенкамат.

Цяпер, калі Язэп пайшоў ад Іванёнкаў, людзі часцей гаварылі з ім пра Данілу, пра Мішку і Таццяну. Асабліва стараліся старая Даўгяліха і Варка. Дашу яны, праўда, не чапалі. Хоць аднаго разу Даўгяліха намякнула, што

Даша тут ваўсю гуляла з паліцаямі і нават рабіла ад іхняга начальніка аборт. Язэп тады зазлаваў. Ён-то ведаў, што Даша ў гэтым граху не вінаватая, і ўсё ж было брыдка, што звязаў свой лёс з людзьмі, пра якіх нічога добрага не гавораць.

У апошні час Язэп хадзіў узнерваваны. Жыццёвая калатнеча, нікчэмныя звадкі і, нарэшце, тое, што не было як зачапіць рук,— усё гэта раздражняла, перашкаджала шырока і проста глядзець на свет, падмянялася дробненькімі, не вартымі ўвагі згрызотамі.

А сеяць трэба было.

Язэп пайшоў да Мартысёнкаў. Было дзіўна, што Цімоха чамусьці не відаць ля хлява, які ён пачаў будаваць. Неяк не верылася, што Цімох заспаў.

Яшчэ здалёк Язэп пачуў, як грае ў хаце гармонік і галосіць Мартысёнкава Варка. «Ну, мабыць, нарэшце і іх чарга настала ваяваць»,— падумаў Язэп і здзівіўся, што падумалася радасна, быццам Цімох быў вечны яго вораг.

За сталом з трох негабляваных дошак сядзелі ўсе мабілізаваныя. Рэдказубы Лёшка рыпаў на гармоніку, а Ігар, абхапіўшы далонямі галаву, спяваў п'яным голасам:

...А зыу-утра ры-а-ана чуць світо-о-чык
Запла-а-ачыць вся мы-а-я-а сім'я

Ля печы галасіла Варка, час ад часу выціраючы распухлы нос.

— А ты-ы ж мо-ой родненькі!.. А як жа я без цябе пражыву тут...

Язэп пастаяў у парозе. Яго як бы і не заўважылі.

— Добры дзень у хату,— сказаў ён.— Чаго гэта вы: хто плача, а хто песні спявае...

Шыракаплечы Цімох — гаспадар — падняўся з-за стала, пайшоў да Язэпа, шырока расставіўшы рукі.

— Хвёдаравіч... старшыня... браточак... ідзём, во, можа, ніколі ўжо не ўбачымся. Давай вып'ем,— ён схапіў Язэпа, падвёў да стала.

Гулько наліў поўную конаўку гарэлкі. Падаваў яе, пазіраючы на пусты рукаў:

— Табе, Хвёдаравіч, пашанцавала.

Язэп хацеў сказаць, што без рукі цяжка, але зразумеў, што не варта ў гэту мінуту пачынаць такую гаворку. Узяў конаўку, выпіў.

Закусваючы цыбулінай, сказаў:

— Вам ужо няшмат асталося. Можа, год які...

Варка зноў загаласіла. Цімох стукнуў кулаком па стале:

— Сціхні ты...

І неяк адразу стала ціха. Цімох узяў бутэльку, пачаўналіваць гарэлку.

— Жызня, растудыт яе,— сабой не можаш распараджацца. Ну, от, скажам, пайду я ваяваць, ну, хлопнуць дзе-небудзь немцы, і астанецца жонка з дзецьмі адна. Што ж яна рабіць будзе?.. Ты мне на гэта адкажы!

— Тое, што ўсе,— сказаў Язэп.

— А ўсе што будуць рабіць?.. Не, ты памаўчы... Я знаю, што ты скажаш... Ты старшыня і парцеец, табе інакш сказаць нельга. А ты з намі па-просту, па-мужыцку. Ну, добра, сёлета зіму перагаруеце неяк, а пасля?.. Да ты пачакай... Дай мне выказацца. Пасля, можа, не давядзецца мне гаварыць, а табе слухаць. Я сказаць хачу.

Цімох падняў цяжкую медную конаўку, выпіў, закусіў хлебам з соллю, аддыхаўся.

— Цяпер слухай. Гаварыў я з салдатамі, як дамоў вяртаўся. З Сібіры яны. Кажуць, што ў іх голад, бо ўсё на фронт ідзе. Дзіўнага тут няма. Палову Расіі немец забраў. А і гэтая палова, во, бачыш — у руінах. Цяпер скажы мне, з чаго ж жыць пачнем? Хто задарма на работу пойдзе?

Язэп не сцярпеў. Ён зразумеў, куды вядзе Цімох, пра што хоча сказаць. Усё, што ён гаварыў, было добра вядома і Язэпу — і голад, і холад. Але таму і трэба працаваць, каб хоць крыху стаць на ногі.

— Мы вось тут размовы вядзём,— пачаў ён,— а зямля нявораная ляжыць. Ад таго, што ты тут рукамі разводзіш, жыта не пасееш. Я і прыйшоў таму, што працаваць трэба.

— Гэта што — нам? — узгарэўся Лёшка.— Не маеш права!..

— Не, вы ідзяце на фронт,— спакойна адказаў Язэп.— Вам і гонар і ніхто слова не скажа. І Варка хай сёння пасядзіць дома. А от карову — дайце, бо няма каго ў плуг запрагаць. А не пасеем жыта — і налета не будзе чаго есці...

— Не дам! Не дам! А дзяцей чым я буду карміць? Нішчымніцай? Ты, можа, ім малака дасі?.. Скулле ў бок вам... Не маеш права!..

Варка перастала плакаць. Яе твар пабарвовеў, а вочы бліскалі злосцю.

— Ціха ты, ускудахталася,— крыкнуў Цімох.— Дык вось ты не даў мне дагаварыць, а я, можа, добрую думку хацеў выказаць... У вайну калгасы распусцілі...

— Хто? — насцярожыўся Язэп.

— Партызаны... Яны так сказалі: «Калі калгасам будзеце працаваць, дык немцы хлеб забяруць. А кожны паасобку калі пасее ды ўбярэ, дык будзе і нам, партызанам, значыць, і вам». І што ты думаеш — было. Хапіла і ім, і нам, ды яшчэ немцы колькі пабралі. А чаму хапіла?..

Цімох азірнуўся. У яго вачах Язэп прыкмеціў хітрасць. «Вунь куды ты цаляеш!..— падумаў Язэп.— Хату скідаў, цяпер хацеў бы, каб хутар далі. І яго засеяў бы. Абжыўся б. А цётка Макарыха як без людской помачы пражыве?.. Ах ты, гніда няшчасная! Усё толькі пра сябе думаеш...»

— Ну, ты вось што, языком не мянці. Я за гэты калгас кроў праліў,— строга сказаў ён Цімоху.— Ты з дабром дамоў вярнуўся, а Макарыха апошняга пеўня страціла. Ёй без калгаса — смерць.

— А ты пачакай, я не супраць калгаса іду. Тут, як кажуць, ход закрыты, у абход ехаць трэба.

— Мы ўсё жыццё ў абход ездзім,— падтрымаў Цімоха Гулько.

— Ага!.. Вось і я хачу з тылу падабрацца. Скажы, Хвёдаравіч, як жа цяпер: усё па-старому пойдзе ці, можа, змены якія паявяцца?

— Якія змены?..

— Да вайны, бывала, апошні мужычок бачыць, што сеяць рана — гразь, на поле не ўз'ехаць,— а ўпаўнаважаны кажа: «Сей, душа з цябе вон, бо па плану паложана...» І сеялі... Ды ты не перабівай... Помню, прыехаў нейкі хлюст. Загадаў лён сеяць. Далі нам семя, у пазыку, загадалі ўсё Глінішча ўзараць. Помніш, Ігнат?

— А чаму, помню... Я тады пачаў быў гаварыць, што лён не ўродзіць, дык на мяне чаго не ўзвалілі.

— Ага!.. А ці помніш, Ігнат, як нам давялі план гэтага... кок-сагызу. Як чэрці, у балоце корпаліся, гародніна пазарастала пустазеллем, а мы ўсё тыя дзьмухаўкі палолі ды матыжылі.

— Кок-сагыз патрэбны быў для абароны,— хмура адказаў Язэп.

— Ну, добра,— згадзіўся Цімох,— а цяпер скажы мне: наліха гэта было ў самы сенакос пачынаць перавозіць хутары ў пасёлак? Або такое. Спрадвеку мужык прывык спачатку ўсё ўбраць, а потым, як работы меней, за малацьбу браўся. А мы, бывала, усё адразу: жнём, сырое малоцім, веем і спяшаемся хутчэй нарыхтоўкі здаць ды з МТС разлічыцца.

— А ты хацеў, каб нарыхтоўкі не здаваць?..

— Збіваць мяне не трэба... Ад нарыхтовак мы не адмаўляемся. Але ж няўжо нельга было на пару месяцаў пазней хлеб здаць? Ці хіба не ўсё роўна, калі дзяржава хлеб атрымае — у жніўні або ў лістападзе?

— Мабыць, не ўсё роўна...

— Не, тут другая закавыка. Кожны хоча пахваліцца: во які я добры, во як я пра дзяржаву думаю. Ну, і стараюцца выставіцца адзін перад адным: калгасны старшыня перад старшынёй, раённы начальнік перад раённым. А мужыку няма перад кім выстаўляцца.

Цімох узяў бутэльку, пачаў наліваць гарэлку ў конаўку. Язэп, які дасюль з нейкай зацятасцю слухаў яго, адсунуў конаўку.

— Дык да чаго ты вёў?..

— А-а-а, зацікавіла!.. А казаў я да таго, што калі зноў усё пойдзе па-старому, дык з гэтай галечы мы не хутка выберамся. Ты, во, па кароўку прыйшоў, бо план ужо атрымаў. Колькі пасеяць, колькі хат да зімы пабудаваць, колькі зямлянак... А як план гэты выканаць, ты не запытаўся?.. А што людзі ядуць, яны там ведаюць?.. Ім план трэба...

— Каму ім?..

Далей ужо не было як стрымацца. Язэп устаў. У галаве гулка звінела, як заўсёды, калі раптам апаноўвала злосць.

— Карову ты не ім, а нам, людзям, дасі, каб маглі жыта пасеяць.

— А калі не дам?..

— То возьмем. Ты ўсю вайну тут адседзеў, а людзі галовы клалі. Дык хочаш, каб я няньчыўся? Сёння я пачакаю, а заўтра як у міленькага забяру карову і ў плуг пастаўлю...

У парозе галасіла Варка. Ламала рукі. А Цімох усміхаўся. Ён падняў конаўку, падміргнуў:

— Ну, дзякуй, што супакоіў. Цяпер з лёгкім сэрцам ваяваць буду...

Язэп паспешліва выбег на вуліцу. «На чорта я загаварыў пра гэтую карову,— падумаў ён.— Нядобра выйшла. Але ж і слухаць яго не было сілы».

## 13

Як тады, у жніво, на размініраваным полі працавалі жанчыны. Толькі цяпер у іх былі не сярпы, а рыдлёўкі. Жанчыны аднастайна згіналі нагу ў калене, з усёй сілы ціснулі ёю на тупы, загнуты край рыдлёўкі, потым увішна пераварочвалі чорны пласт зямлі.

Стаяў насуплены, імглісты дзень. Жаўтаватая шэрань палёў недзе на даляглядзе паволі злівалася з сівавата-шэрым небам. Усюды, як кінуць вокам, было пуста і няўтульна. І неяк маркотна шчымела сэрца.

Язэп стаяў на ўзгорку, адкуль відаць было куп'істае балота з астраўкамі вады і яшчэ аблыселая за вайну гара, на якой калісьці ён, Язэп, ляжаў і глядзеў у неба, вось такое, як і сёння, сівое і нямілае. Тады ў ім кружылі жураўлі. Хтосьці стрэлам разарваў іх роўны ключ, і яны пачалі кружыць над гарой і самотна плакаць.

Яму здалося, што і цяпер ён чуе гэты жураўліны плач. Прыслухаўся і тады зразумеў, што спяваюць жанчыны. Песня была невядомая яму. Такіх да вайны не спявалі. Адкуль яна ўзялася? Можа, склаў хто-небудзь за гэтыя гады?

Слабы вецер даносіў да яго жаночую жальбу. Язэп стараўся запомніць гэтую маркотную песню, але ў памяці асталіся толькі апошнія словы:

Не плач, матуленька, пры мне —
Наплачашся без мяне,
Наплачашся ўволю,
Як не ўвідзіш ніколі.

Цяпер жанчыны здаліся яму чародкай жураўлёў, якую патрывожыў стрэл. У Язэпа сціснулася сэрца, быццам гэта ён сам суцяшаў сваю маці.

Жанчыны перасталі спяваць. Цяпер яны працавалі не так суладна, як нядаўна. Але Язэп усё адно не мог адвесці вачэй. Здалёк жанчыны здаваліся стройнымі, прыгожымі і нейкімі вельмі кволымі. Аж было страшна, што ў іх не хопіць сілы, каб змагчы гэты зарослы травой кавалак поля. За імі чарнела толькі вузенькая палоска зямлі, хоць працавалі яны з раніцы. І было яшчэ крыўдна, што ён нічым не можа памагчы.

Добра прыгледзеўшыся, ён убачыў сярод жанчын Дашу і яе маці. Значыць, і яны выйшлі на ворыва.

Пасля таго, што адбылося, Язэпу не хацелася падыходзіць да жанчын, бо там былі Даша і яе маці.

А адбылося вось што.

Уранку, калі Язэп стараўся раскалоць палена, прыціскаючы яго нагой да зямлі, на двор заявілася Таццяна, Дашына маці. Часта шморгаючы носам і раз-пораз папраўляючы на галаве хустку, яна стаяла непадалёк і, мабыць, чакала, што Язэп загаворыць з ёю першы. Ён маўчаў, хоць і здагадваўся, чаго яна прыйшла.

— Глядзі, дзетка мaё, асцярожненька махай сякерай. Не дай бог, яшчэ нагу пасячэш.

Язэп перастаў калоць.

— Кажыце, чаго прыйшлі?

— Навошта ж, дзетка маё, так сярдзіта? Мы табе нічога дрэннага не рабілі.

— А людзям?..

— І людзям... Накляпаць на каго хочаш можна. Тады, як мы партызанам памагалі, дык тая самая Варка Мартысёнкава не давала жыць. Усё гразіла. І цяпер яна помсціць... Яна дараваць нам не можа, што Даніла перад вайной злавіў яе, як малако калгаснае крала... Ну дык няхай яна, а ты, дзетка маё, чаго на нас і на Мішку злосць трымаеш? Нядобра, дзетка маё. Раслі разам, у армію разам ішлі, а цяпер ты на яго бог ведае што пляцеш.

Язэп ускіпеў:

— Вы мне зубы не замаўляйце. Кажыце, чаго прыйшлі?

— Пра Дашу хацела пагаварыць... А цяпер, можа, і не варта.

— З Дашай мы самі, без вас дамовімся...

Таццяна выцерла ражком хусткі вочы, аблізнула сухія патрэсканыя вусны.

— Абдурыў дзеўку... Што ж, цяпер твой верх. Толькі не думай, як-небудзь пражывём. І дзіцятка выгадуем. Няхай ведае, які ў яго бацька. Мы-то пражывём, дзетка маё, а табе не будзе талану, паглядзіш, не будзе.

Яна пайшла, цяжка павалокшы ногі па сухой, патрэсканай зямлі.

Уночы Язэп не мог заснуць. Мабыць, на перамену надвор'я балела нага і ламала ўсё цела. Ён варочаўся на мулкіх палацях, бясконца думаў пра сказанае Таццянай.

Значыць, у яго будзе дзіця. Яго дзіця. Каліна, а не Іванёнак. Ні ў чым не вінаватае. А з першага дня — сірата.

Язэпу ўпершыню да ламаты ў скронях стала шкада гэтага дзіцяці, ягонага, кроў ад крыві, плоць ад плоці. Не было б дзіцяці, дык і думаць пра Дашу не варта. Каб любіла, дык прыбегла б, забылася б на сваіх. А так не дужа любіць. Яна, вядома, за сваіх цягне. А дзіця сіратой вырасце.

Чым больш ён думаў пра дзіця, тым больш было шкада яго. Успамінаў, як сам змалку жыў сіратой, як, бывала, маці суцяшала яго, калі ён прыбягаў скардзіцца на хлапчукоў: «А ты змаўчы, сыночак, змаўчы, бо ты сірата і няма каму цябе абараніць».

Ён ляжаў, моўчкі гледзячы ў цемру. Заснуў толькі пад раніцу.

Раніцай у яго балела галава, і ён не стаў гатаваць снеданне. Адрэзаў кавалак хлеба, крута пасаліў. Хлеб быў горкі і чэрствы. У роце таксама суха. Яшчэ больш, як уначы, балела нага. Гэта палохала. Няўжо зноў шпіталь? Не, цяпер бальніца. А дзе яна? Горад разбураны, а хворых шмат. Клава казала, што дваццаць бальнічных ложкаў заняты, і ўсе «мінёрамі» — хлапчукамі, што падарваліся на мінах.

Перамагаючы боль, ён усё ж пайшоў на поле. Сярод людзей не так маркотна і адзінока, як дома, дзе пахне сырасцю, свежай зямлёй, якая сыплецца на падлогу са сцен зямлянкі, нежывым, мярцвячым духам і пустатой. «Як было б добра, каб у зямлянцы жыў яшчэ хто. Клава?.. Не, яна таксама не патрэбна тут. Каб Даша ды была другой Дашай, не Іванёнкавай, а яшчэ чыёй дачкой. Тых, хто не заплямлены. Ну, што ты ёй скажаш? Хоць бы сама прыйшла, дык не, маці падсылае. А на старую я глядзець не магу».

Ён апіраўся на кій, які зноў узяў сёння ў руку. Кій глыбока ўлазіў у зямлю, і тады даводзілася моцна наступаць на хворую нагу.

Рыдлёўкі глуха шорхалі аб зямлю. Язэп неяк адразу пачуў гэтае нямоглае шорханне; вось толькі што не было яго і раптам паявілася. Потым ён пачуў, як пахне ворнай зямлёй, свежай, толькі што вывернутай чарназёмам дагары. Яшчэ пачуў, як скрыгатнула аб камень рыдлёўка, і па тым, як Макарыха выцягнула рыдлёўку, зразумеў, што гэта яна зачапіла камень.

Адразу ж прыгадалася, што Макарыха раіла яму жаніцца на Дашы. «Во з кім трэба пагаварыць»,— падумаў ён і паглядзеў на цётку Хрысціну з надзеяй.

Яна выпрастала плечы, выцерла ўзмакрэлы лоб.

— Ну вось, усе выйшлі... А ты баяўся... Толькі, сыночак, няскора мы пасеем. Адна надзея на Данілу Іванёнка. Гэта ж што ён на кані ўзарэ, дык мы і за два дні не ўскапаем...

Жанчыны абступілі яго. Старая Петрачыха разматала анучкі з рук, павярнула іх далонямі ўверх. На далонях — крывавыя мазалі.

— Во так, Хвёдаравіч, з самага сорак другога года хаджу з мазалямі гэтымі. Мне ўжо здаецца, што ўвесь свет у мазалях.

— Ай-яй-яй, ды што там казаць. Хапіла ўсяго. Помню, у вайну атрад быў ноччу спыніўся ў нас. Ну, от камісар і кажа мне: «Нічога, мамаша, пасля вайны мы вам усю жывёлу, што немцы ў гарнізон сагналі, назад прыгонім з усім прыплодам».

— Ах, прыгоняць,— улезла ў размову Даўгяліха.— Мы і ў вайну гаравалі і цяпер нагаруемся. Вунь, дзе не было парцізан, дык і хаткі захаваліся, і скацінка. Там не трэба будзе на пагарэлішчы жыццё пачынаць. І помачы прасіць не трэба. Ведама ж, хто просіць, таго не дужа любяць.

— Табе памаўчаць бы,— нахмурылася Макарыха.— У цябе за ўсю вайну адно што ўзялі — казу. Дык затое каня парцізаны далі.

— Пры чым тут партызаны,— сказала Петрачыха,— увесь раён спалены. Немцы, дзе паспелі, усё спалілі. Каб іх не турнулі як трэба, дык яны ніводнай сялібы не пакінулі б. Зладзеі, што ад іх чакаць.

Язэп зразумеў, што ўсчынаць гаворку пра свае справы няёмка, бо людзі заняты больш важным. Трэба было схадзіць паглядзець, як працуе Іванёнак. І ён пайшоў.

Яго дагнала Петрачысіна Каця.

— Пачакай, Язэпка,— пачала яна, спадылба пазіраючы на Каліну.— Я хачу пра Дашу пагаварыць...

Язэп узрадаваўся. З той пары, як Каця разам з ім знімала міны ў жыце, у яго з'явілася павага да гэтай разважлівай, не па гадах сталай дзяўчынкі.

Яны стаялі над самай ракой, ля кладкі, што яшчэ з вайны асталася тут. Кладка ўрасла ў зямлю, некалькі жэрдак зламалася, але хадзіць па ёй усё яшчэ было можна.

Пад кладкай паволі плыла чорная вада. Доўгія паскі водарасцяў ленавата пагойдваліся, распусціўшы косы на плыні.

— Яна цябе любіць, Язэп...

— Калі любіць, дык няхай пра сваіх забудзе. Мне яе любоў дзяліць папалам не хочацца.

— Думаеш, што лёгка гэта?..

— А мне лёгка, калі людзі вочы колюць?..

— Людзі, людзі... Калі нашу хату немцы спалілі, дык гэтыя людзі баяліся нам прытулак даць. Варка з Даўгяліхай на ўсю вёску крычалі, каб мы з Кляўцоў выбіраліся, бо іх могуць з-за нас перастраляць. Адзін Даніла не пабаяўся, пусціў жыць у лазню. А Даша, бывала, і хлеба, і капусты, і бульбы прыносіла. Мішка памагаў. Вось табе і людзі. Наталля цяпер Іванёнка папікае, што старастам быў. Дык і яе ж свёкар у старастах хадзіў. Усё нарыхтоўкі здаваў немцам. А Данілу партызаны паставілі. Стараўся ён, кожны скажа, але ж трэба было. Каб не шчыраваў, дык немцы яго завезлі б у Ілаўку і расстралялі.

Язэп спачатку слухаў Кацю прыхільна, але потым не сцярпеў:

— Такія, што і нашым і вашым служаць,— самыя нягодныя людзі. Такіх пад корань нішчыць трэба.

— Табе, Язэпка, лёгка гаварыць, бо ты нашага жыцця пры акупантах не ведаеш. Клава вунь у партызанах была, а бацька яе з паліцэйскімі гарэлку піў і ў карты гуляў. А каб не піў гарэлкі, дык яны яго яшчэ ў сорак другім годзе расстралялі б.

— Трэба было ў партызаны ісці...— сказаў ён.

— Кінуць-рынуць і пайсці? Але ж і жыць трэба.

— Ну, вось што, Каця, ты мне пра гэта не кажы. Я цябе не зразумею. Той, хто адседжваўся, немцу памагаў,— вораг мне.

— Даша ў тым, што тут было, не вінаватая. А вось што яна цяпер пакутуе, дык ужо ты вінаваты.

— Я ёй сказаў свае слова.

— Дык, можа, мне пагаварыць?..

Язэп падумаў: «Гэта найлепш. Неяк жа трэба выходзіць з чортавага кола».

— Добра, пагавары...

...Увечары Язэп адчуў гарачку. Не разуваючыся, лёг на палаці і адразу нібы праваліўся ў бездань. Усю ноч ён пакутаваў ад цяжкіх, кашмарных сноў. Усё ўцякаў ад самалётаў, якія, нібы груганы, віселі над ім, хаваўся ў

нейкіх сутарэннях, хадзіў у атаку, кагосьці біў, крычаў, лаяўся, але не мог прачнуцца. Толькі перад самым світаннем гарачка атухла. І тады ён прачнуўся. Балела галава, і моцна білася сэрца, але было добра ляжаць на палацях, адчуваць, што ўсе начныя страхі — звычайныя сны, якія, мабыць, будуць мучыць усё жыццё.

Праз маленькае акенца цадзілася мутнае світанне. Яно не разганяла змрокаў, а толькі прыглушала іх. І зямлянка здавалася не чалавечым жыллём, а звярыным логавам. Было не ўлежаць на палацях, хоць збалелае цела ўсё яшчэ прасіла адпачынку.

Перамагаючы ламоту, Язэп падняўся, адзеўся, у прыцемках вобмацкам знайшоў вядро на калодзе, выйшаў наверх. Яму пругка ўдарыў у твар вільготны і даволі халодны вецер. Адразу ж па целе прайшліся дрыжыкі, дабраліся да паранепага пляча, і тады Язэп адчуў, як зрабілася зябка ў пальцах, якіх даўно ўжо не было. Захацелася схаваць гэтую руку-прывід у кішэню. «Колькі ж яна будзе мяне мучыць?» — злосна падумаў Язэп і пайшоў па ваду па мокрым бадыллі.

За ноч надвор'е змянілася. Вецер гнаў па небе шэрыя нізкія хмары, і яны хаваліся недзе за Гаравацкай градой, дзе неба абапіралася на зямлю. Трава была мокрая, аслізлая.

У руцэ грэлася дужка, вядро разгойдвалася, звінела, калі чаплялася за якую-небудзь высахлую бадылінку. Кволы звон гэты ўсё ж радаваў, бо навокал стаяла мёртвая цішыня.

Вада ў калодзежы ўзбурбаленая дажджом, жоўтая, каламутная. Кроплі зрываюцца ўніз, звонка падаюць. Язэп, лёгшы грудзьмі на зруб, доўга пазіраў у калодзеж, слухаў нечуваны, а можа, забыты звон капяжу. Кожны раз, калі кропля падала, на вадзе паяўляліся кругі. «Вось такія, толькі большыя, кругі пабеглі б і самкнуліся, калі б кінуўся ўніз галавою,— падумаў Язэп.— І ніхто не пашкадаваў бы. Нават Даша. А Варка Мартысёнкава рада была б. Карову яе ніхто ўжо не паставіў бы ў плуг».

Ён чамусьці лічыў, што Мартысёнкавы рады былі б яго смерці, і падумаў, што ніколі не кончыць жыццё самагубствам, нават тады, калі яму будзе намнога цяжэй, як цяпер.

Дома ён пачаў паліць у печы, і ўсё, што было ўночы, усе дурныя думкі хутка развеяліся, а галава перастала балець.

Было прыемна стаяць перад зыркім полымем, што апякала твар, саргавала грудзі і параненае плячо. Яшчэ было прыемна кухарыць. Ад кашы-канцэнтрату пахла лаўровым лістам, тлушчам і прыемным яловым дымам.

Дровы гулка стралялі, і аж на падлогу вылятаці чырвоныя дымныя вугельчыкі, якія чымсьці нагадвалі запаленыя тэрмітныя шарыкі. Язэп браў у руку гэты гарачы вугельчык і зноў кідаў у печ. «Божа, як мала трэба чалавеку. Крыху спакою. Крыху паесці. Крыху адпачыць. Ну, яшчэ апрануцца. Хату. Работу па душы. Ды каб не было згрызот... А ці мала гэта? Мала... Чалавеку шмат чаго хочацца мець. Яго патрэбы не маюць межаў. Вопратка. Хата. Глупства гэта. Чалавеку ўвесь свет патрэбен. Дарогі. Акіяны. Паветра. Машыны. І каб вайны не было. Каб гітлераў на свеце не было...»

На адзіноце думалася лёгка, як ніколі. Паволі дагаралі дровы ў печы, і ўжо зусім светла было ў зямлянцы. Язэп хацеў выцягнуць чыгунок з кашай, як у зямлянку зайшлі цешча і цесць, абвешаныя хатулямі. За імі Даша.

Язэп убачыў яе, сарамлівую, збянтэжаную, і ўсміхнуўся, як бы падбадзёрваючы Дашу, але тут жа схамянуўся: «Няма чаго перад старымі радасць паказваць».

Яны распараджаліся ў ягонай зямлянцы, як у сваёй. Гэта было непрыемна. Каб прыйшла адна Даша, усё было б інакш.

Ён выйшаў на двор. Чакаў, калі старыя пойдуць, каб зайсці ў хату. У зямлянцы галасіла цешча. Нешта бубніў Даніла. Дашынага голасу не было чуваць. Гэта радавала.

Адчыніўшы нізкія дзверы, з зямлянкі першы выйшаў Даніла. Ён пачухаў патыліцу, кашлянуў у кулак:

— Ты, зяцёк, на бабскія слёзы не зважай... Баба плача не ад крыўды, а з радасці... Махорачкі, можа, дасі?..

Язэп падаў капшук. Адводзіў вочы, каб не сустракацца з Данілам.

— Эхе-хе, грахі нашы,— гаварыў Даніла,— ад іх чалавеку недзе схавацца. Хочаш, каб было як можна лепей, а выходзіць як не трэба горш. Я на цябе, Хвёдаравіч, не крыўдую. Ты тут не быў і знаць нічога не можаш. А жызня, я табе скажу, у такі вузёл звязалася, што ніхто ўжо не развяжа.

Было трохі дзіўна, чаму раптам Даніла пачаў гаворку пра акупацыю, пра тое, што было тут.

— Ты, вядома, думаеш, што мы пры немцах тут бог ведае што рабілі... Людзей пачкамі пад расстрэл прадавалі.

А можа так быць, што і не вінаваты ні ў чым, а даказаць не можаш...

— Праўды не схаваеш,— сказаў Язэп.

— Я табе скажу, Хвёдаравіч: каб ты тут быў, дык сам не ведаў бы, што рабіць. Тых, што ў партызаны пайшлі, адна смерць пільнавала. А нас на кожнай дарозе сорак смерцяў падсцерагала. Ну, от падумай, калі б партызана злавілі, дык што б з ім зрабілі? Расстралялі б... Ну, дык ён жа ўсё-такі ваяваў. А мяне маглі расстраляць за тое, што лістоўкі знайшлі, за тое, што палоннаму паесці даў, за тое, што немца хтосьці застрэліў. Што не так на афіцэра іхняга паглядзеў. Во, брат, якая жытка наша была...

З зямлянкі выбегла Таццяна, накінулася на Данілу:

— Стаіш, во, балясы точыш, а дачка вунь у вобмараку ляжыць.

Язэп паспешліва зачыкільгікаў да зямлянкі. Адчыніў дзверы. Даша сядзела на палацях, сашчапіўшы на каленях рукі. Усміхнулася:

— Ну во, цяпер маці паверыць, што ты мяне любіш.

Язэп збянтэжана змаўчаў.

## 14

Мінулі тры аднастайныя, нудныя тыдні.

Сяк-так пасеялі жыта. Наскублі нейкіх чатыры стажкі шорсткага сена. Жанчыны сабраліся ехаць па бульбу на Магілёўшчыну. Яны перáтрэслі свой небагаты скарб, выбралі з яго тое, што можна было абмяняць у вёсцы: хто кофту, хто ручнік ці абрус. Не абышлося без слёз, бо цяжка было расставацца з рэчамі, якія пранеслі праз усю вайну, праз блакады і адступленне. Але што ж ты паробіш, калі трэба есці.

Паехала ў мену і Даша. У яе быў самы большы клунак, і Язэп падумаў, што, мабыць, старыя насовалі ёй сваіх рэчаў. Во ўжо скваппыя людзі! Хоць бы дачку пашкадавалі, дык дзе там. Распеража́ыся, а цягні ў хату. Было балюча і крыўдна: Іванёнкі, відаць, ніколі не пакінуць іх у спакоі.

Язэп прыйшоў у зямлянку і, не ведаючы, за што зачапіць рукі, сеў на палаці. Было маркотна і вельмі сумна. Здавалася, асірацела хата і ён, як той бабыль, асуджаны на вечную адзіноту. Стаяла напружаная глухая цішыня. І ў ёй чамусьці асабліва востра адчувалася балючае торганне ў назе. Нібы хто калоў іголкай пад калена. Язэп не

хацеў прыслухоўвацца да болю, але і не было як адцягнуць увагу ад яго. І ён слухаў гэты то востры, то шчымлівы боль і ўжо адчуваў яго ва ўсім целе. Яму стала страшна і моташна. Здалося, што ён сядзіць не ў зямлянцы, а ў вялізнай труне, аброслай рудым мохам. Мох тырчаў клочкам між бярвення, звешваўся з чорнай нізкай столі. «Як гэта страшна застацца аднаму,— падумаў ён.— А Макарыха неяк жа жыве. Як яна пераадольвае адзіноту? Чаму я ніколі не зайшоў да яе, не пагаварыў па-людску. Дык усё няма часу. Забягу на хвілінку, скажу, каб ішла на работу, а запытацца, як яна жыве, не здагадаўся. Чалавек, відаць, тады пачынае разумець другога, калі сам трапляе ў бяду. А хіба ж так жыць трэба?»

Яму стала сорамна, брыдка. Думкі пра Макарыху прытупілі ўласны боль. Здалося, што нават перастала калоць пад каленам. І ўсё ж сядзець у зямлянцы не было сіл. Трэба было кудысьці ісці, абы не сядзець тут у зямлі, як крот.

Ён вылез наверх. Стаяў шэры асенні дзень. З захаду шпарка беглі бурыя касякі хмар, хвасталі зямлю касым дробным даждком. У рэдкія прасветліны між хмар часам выглядала сонца, няяркае, халоднае, ды было відаць неба, сіняе, густое і цвёрдае, як шкло.

Яго пацягнула да людзей. І хоць не было ніякай справы, ён надумаў пайсці ў Астапаўскі роў. Проста не хапала сіл быць аднаму.

Там было пуста. З гары Язэп бачыў мокрыя гарбы зямлянак, пад якімі недзе хаваліся людзі. Туды, да зямлянак, вяла сцежка, мокрая і выслізганая цяпер. Спускацца па ёй — бяда, таго і глядзі, шыю зломіш. Сяк-так ён дабраўся да першай зямлянкі, пакратаў дзверы — зачынены знутры. «Хто ж тут жыве? — падумаў ён.— А-а-а, Аксіння Заляпіха. Чаго яна зачынілася?»

Ён пастукаў у дзверы. «Можа, і яна паехала па бульбу,— падумалася яму.— А як жа дзеці адны?..»

У Аксінні трое дзяцей. Старэйшай гадоў дзевяць. Каб не вайна, бегала б у школу. А цяпер, мусіць, і чытаць не ўмее.

Ён яшчэ раз пастукаў — паўміралі яны ці не чуюць?

— Хто там? — нарэшце адгукнуўся дзіцячы голас.

— Мама дома? — спытаў Язэп.

— Яна хворая,— нехта падышоў да самых дзвярэй.— А хто вы?

— Я — Каліна, старшыня.

У зямлянцы забразгаў засаў. Язэп стаяў, чакаючы, што



Алесь Асіпенка — супрацоўнік газеты «Чырвоная змена», перад вылетам у камандзіроўку. 1949 г.



Алесь Асіпенка ў часе камандзіроўкі
ў былую Баранавіцкую вобласць. 1950 г.

яму адчыняць. Але дзверы не адчыніліся. Тады Язэп пацягнуў іх на сябе. Мабыць, ад сырасці дзверы разбухлі, і Язэп ледзьве адчыніў іх. У нос шыбанула спёртым пахам. Не было нічога відаць: зямлянка патанала ў цемры. Але дзяўчынку, што стаяла ля парога, апусціўшы рукі, Язэп убачыў. Яна была падобна на здань: праз жоўтую скуру на твары, здавалася, прасвечваліся косці. На дзяўчынцы — выліняла паркалёвае плацце, парванае на плячах. Яно вісіць на ёй, як на жэрдцы.

Язэп, прыгнуўшыся, зайшоў у зямлянку. Вочы павольі прывыкалі да змроку. З яго, як з туману, выпікалі рэчы. Іх было не шмат. Нейкая скрыня. Стол на бярозавых цурбалях. Палаці. На іх у кутку, прыціснуўшыся адно да аднаго, сядзелі хлопчык і дзяўчынка. Потым Язэп убачыў чыесьці ногі, што тырчалі з-пад коўдры пальцамі ўверх.

— Мамка ўсё крычала, а цяпер заснула,— сказала дзяўчынка.

Язэп падышоў бліжэй да палацяў. Аксінніна галава ляжала на скрутку нейкага рыззя, ледзь павернутая да сцяны. Твару не відаць.

— У яе жар моцны,— зноў азвалася дзяўчынка.— Учора цётка Макарыха заходзіла, травой паіла, дык было палегчала.

— А як жа вы адны? Не баіцёся?..

— Не, я не баюся. Волька баіцца толькі. Усё думае, дурная, што немцы прыйдуць. А яны праўда ўжо не вернуцца?

— Не вернуцца.

— Немцы забіваюць,— сказала Волька.

— Татка іх не пусціць,— азваўся хлопчык.

— А есці ў вас ёсць што? — спытаў Язэп.

— Мука ёсць і тушонка, цэлая банка,— адказаў хлопчык.

Старэйшая сястра чамусьці цыкнула на яго:

— Тушонку мамка забараніла есці,— сказала яна.

Язэп увесь час азіраўся на Аксінню. Яму здавалася, што яна не дыхае. Ён наблізіўся ўпрытык да палацяў, працягнуў руку, каб пакратаць лоб, ці гарачы ён,— і ў страху аддзёрнуў руку. Лоб быў халодны.

У Язэпа забегалі па спіне мурашкі, а сам ён стаяў, як здранцвелы, адчуваючы ліпучы мёртвы холад на пальцах. Мабыць, дзеці заўважылі яго страх, бо яны неяк наструнціліся, а Волька захліпала носам і раптам уткнулася ў матчыны ногі.

— Я зараз прыйду,— сказаў Язэп.— Не зачыняйце дзвярэй толькі.

Ён выбраўся на паветра, стаў, абапёршыся аб вушак, бо баяўся ўпасці.

«Трэба кагосьці паклікаць... Як жа яны там з мёртвай?.. Каго паклікаць?..»

Пракладзеная сцежка вілася ад адной зямлянкі да другой. Язэп ведаў, што ў кожнай зямлянцы цяпер адны дзеці. Да каго пайсці? Хто дапаможа? Ага, Каця Петрачыхіна засталася...

Кульгаючы, ён пайшоў па сцежцы аж да крайняй зямлянкі. Здалёк пачуў і нават не паверыў спачатку — у зямлянцы спявалі.

...До тебя мне дойти не легко,
А до смерти — четыре шага...

Гэта было так неверагодна і так уразіла Язэпа, што ён спыніўся, думаючы, ці не здалося яму. Не, сапраўды ў зямлянцы спявалі. Чуліся няўпэўненыя, уразнабой дзіцячыя галасы...

У Петрачыхі, відаць, сабраліся з усіх зямлянак малыя дзеці і падобныя на дзяцей сваёй худзізной падлеткі. Яны сядзелі хто дзе і спявалі. А Каця стаяла ля парога і кіравала гэтым хорам. Яна павярнулася на рыпенне дзвярэй ды так і замёрла з узнятай рукой.

— Каця, Аксіння Заляпіха памёрла,— сказаў ён і пабачыў, як яго нібы пранізваюць дзіцячыя вочы.

— Ой, а я тут занялася і не схадзіла да яе. Што ж цяпер будзе?

Каця накінула хустку, сказаўшы дзецям: «Сядзіце тут», выйшла следам за Язэпам.

— Цётка Хрысціна наказвала мне наведаць Аксінню, а я вось забылася,— апраўдвалася Каця, ідучы за Язэпам.

Язэп неяк не заўважыў, калі дайшлі да Аксіннінай зямлянкі. Адчыніў дзверы і ўжо з парога азірнуўся. Каця стаяла воддаль, склаўшы рукі на грудзях, як старая бабулька.

— Ты чаго?

— Баюся я. Мне Фруза дасюль сніцца.

— Глупства. Трэба ж дзяцей вывесці.— І раптам ён падумаў, што найлепш іх адвесці да яго.— Возьмеш іх і завядзеш да мяне. У цябе вунь і так хапае... Ды ідзі ты, не бойся...

Па сцежцы беглі сюды дзеці, хоць Каця і загадала ім не выходзіць на двор. Яны спыніліся непадалёк, засяроджана пазіралі на расчыненыя дзверы.

...Аксінню пахавалі на могілках побач з Фрузай. Як і тады, улетку, Іванёнак зрабіў труну, паставіў на курганку крыж.

— Царства ёй нябеснае,— сказаў ён, хрысцячыся на расшчэпленую снарадам яліну,— адпакутавала. А вось дзеткам яшчэ давядзецца... Ты іх, Язэпка, у дзіцячы дом здай. Казна, яна лепей паклапоціцца...

Назаўтра Язэп запрог каня, пасадзіў дзяцей у павозку, пад галашэнне жанчын павёз у горад. Ведаў, што дзецям там будзе лепш, што тут за імі няма каму глядзець, а ўсё роўна адчуваў сябе кепска. Здавалася, адрывае ад сэрца нешта роднае і дарагое.

Прыладзіць дзяцей аказалася справай нялёгкай. Загадчык райана, яшчэ малады, але лысаваты чалавек, папраўляючы штораз акуляры на вялікім мясістым носе, доўга тлумачыў Язэпу, якія патрэбны даведкі, каб дзяцей прынялі ў дзіцячы дом. Язэп слухаў яго, схіліўшы галаву набок, злаваў:

— Чакайце,— не вытрымаў ён,— якога ліха вы мне пра даведкі гаворыце. Хто іх збіраць павінен? Я вам прывёз сірат, і будзьце ласкавы прыняць. Не магу я іх пад плотам кінуць.

— А калі сваякі знойдуцца, тады што рабіць?

— Тады няхай забіраюць. Толькі няма ў іх сваякоў...

— Ну, вось што, Каліна, гэтак у нас не дзіцячы дом, а прахадны двор стане. І не трэба было дзяцей везці. Без даведак не прыму.

Грукнуўшы дзвярыма, Язэп выйшаў на двор. Што рабіць? Не везці ж дзяцей назад. Пайшоў да Клавы.

У мураванай будыніне хлебазавода яго сустрэла тая самая мажная жанчына, што ўлетку сварылася на яго. Яна змерала Язэпа недаверлівым злосным позіркам, але Клаву паклікала.

— Ды што ён там яшчэ выдумляе, пайшлі,— сказала яна, выслухаўшы Язэпаву скаргу.

Па гразкай вуліцы яны пайшлі ў райана. Язэп час ад часу кідаў на Клаву цікаўны ўважлівы позірк. Бурыя плямы на яе твары, здавалася яму, ужо не псавалі гэтак яго, як раней. Нават ішлі ёй, надаючы выраз мужнай жаноцкасці.

Клава ступала неяк асабліва асцярожна, і гэта расчу-

ліла чамусьці Язэпа. Даша, праўда, таксама мае прыгожую хаду, але не такую, як Клава.

— Цяжка табе, Язэпка, там,— раптам сказала Клава.

— Цяпер усім не лёгка...

— Гэта праўда... Можа, табе ў горад варта перабрацца?

— А жыць дзе? Я цяпер не адзін. А маці вернецца, куды яе вазьму? Там хоць зямлянка ёсць. Ды і прырос я да Кляўцоў.

— Глядзі сам. Я буду рада памагчы...

— Дзякуй...

Клава хутка дамовілася з загадчыкам райана. Сама вынесла накіраванне ў дзіцячы размеркавальнік. Яны яшчэ крыху пастаялі, больш моўчкі, бо не было пра што гаварыць.

Дзіцячы размеркавальнік знаходзіўся кіламетры за два ад горада ў былым манастыры. Але ехаць туды трэба было праз Елагі, бо шаша ўсё яшчэ была закрыта. За Елагамі на бальшаку Язэп пабачыў вялізны гурт кароў. Ён займаў усю дарогу, і Язэпу давялося звярнуць павозку на абочыну.

Гналі трафейных кароў. Здарожаныя, знясіленыя, яны пляліся, як палонныя. І Язэпа раптам агарнула злая радасць, быццам жывёла, а не людзі былі вінаваты ў гэтай вайне.

Да яго пад'ехаў на здаровым нямецкім біцюгу дзед, зараслы па самыя вочы рудой шчацінай.

— Закурыць, землячок, знойдзецца? — спытаў ён.— Во, гонім фрыцавак... Далікатныя, гадаўкі, і па-нашаму не разумеюць.

Яны закурылі. На тытунёвы дымок падбеглі яшчэ трое паганятых. Каровы адразу ж кінуліся праз канаву на поле, прагна хапалі старую, жорсткую асаку.

— Мужчыны, ну што ж вы,— пачуўся жаночы голас.— Цяпер іх не пазбіраеш у статак. Знайшлі час папяросы раскурваць.

Да воза ішла Гульчыха, цягнучы на паваду карову.

— А-а-а, Хвёдаравіч,— здзівілася яна,— адкуль ты тут? Во ўжо не спадзявалася пабачыць. Як там у нас дома? А дзеткі гэта чые? Далібог, ці не Аксінніны?

— Што, цётка, сабе кароўку агорала?

— Не задарма ж я ў свет ездзіла...

Ззаду напіраў гурт. Паганятыя, пераскочыўшы канаву, далучылі кароў да статка і пакінулі Язэпа.

«Ну, цяпер мне зусім жыцця не будзе ад Іванёнкаў»,— чамусьці падумаў Язэп, пазіраючы, як цягне на паваду сваю карову Гульчыха.

Ён заспяшаўся, бо падумаў, што трэба хутчэй вярнуцца ў горад, каб не праваронiць размеркаванне кароў. Але ў той дзень так і не вярнуўся ў горад. Пакуль даехаў, пакуль здаў Аксiнiных дзяцей, сцямнела, і дырэктар угаварыў пераначаваць. А назаўтра, вяртаючыся ў горад, ля таварнай станцыі ўбачыў Іванёнка. Даніла стаяў ля абгарэлага пакгауза, трымаў на паваду рабую карову і некага чакаў. Язэп хацеў праехаць міма, але не вытрымаў.

— Каго вы чакаеце?

Даніла спалохана ўздрыгнуў, але, пабачыўшы Язэпа, абрадаваўся.

— Вось, дзякуй богу, сустрэліся. Гэта ж Даша вярнулася. Дык, во, мая з ёй пабеглі цябе шукаць. Гульчыха казала, што бачыла цябе ўчора.

— А карова адкуль?

— Як адкуль? Купіў. Ну, шчыра прызнацца, не зусім купіў, а выменяў... Але ж ці не ўсё роўна. Малако, яно не толькі дзецям пальзіцельна.

— Во што, дзядзька, карову здай. Яна дзяржаўная. Зразумеў? І каб я яе не бачыў, а то сілай забяру і ў калгасны хлеў пастаўлю.

— То і ў Гульчыхі забяры, і ў Карняёнка. Тады і я здам.

Аднекуль паявіліся Даша і цётка Таццяна. Абедзве задыханыя, але шчаслівыя.

— Нагаравалася я, Язэпка,— сказала Даша, падыходзячы да яго і пазіраючы яму ў вочы вясёлымі, хоць і стомленымі, вачамі.— Як ты тут без мяне?..

Даніла з Таццянай адразу ж пабеглі па мяхі з бульбай. Даша падышла да Язэпа:

— Ссумавалася я па табе, Язэпка. А ты?..

І не дала яму адказаць, прыпала вуснамі да яго патрэсканых вуснаў.

**15**

Пад белаватым у смузе небам стылі палі: за ноч мароз скаваў зямлю, і цяпер яна была звонкая, як лёд на возеры. Над зямлёй вольна гуляў халодны вецер, глуха шастаў перамёрзлым быльнягом, гнаў па дарозе лісце і сухія былінкі.

Вецер усё мацнеў, але разгуляцца яму не было дзе: на Падзвінні — піводнай страхі, піводнай даваеннай будыніны.

Апоўдні белаватая смуга пацямнела. Сінявата-чорныя грыўкі пацягнуліся з поўначы, і неўзабаве над астуджанай зямлёй навісла чорная грывастая хмара. Яна займала аж паўнеба, апускалася на зямлю, нібы замятала на ёй сляды.

Потым адразу наляцеў вецер, шугануў калючай снежнай сечкай — і разгулялася ў полі завіруха. Вецер падвываў, вымятаў на ўзгорках дарогу, сыпаў у вочы ахапкі дробнага снежнага пылу, гнуў долу лозы.

Язэп зразумеў, што дамоў ён не дойдзе; з такой нагой нават у добрае надвор'е бывае цяжкавата адмераць пятнаццаць вёрст, а тут завіруха. Трэба было вярнуцца ў горад, балазе дайшоў толькі да Дзюндзеўскага поля. Але куды ісці?

Ускраіна горада, праўда, ацалела, хоць і прарэдзілі яе немцы здорава. Хаты цяпер стаялі рэдка, як калісьці на хутарах.

Усё ж Язэп рашыў паспрабаваць шчасця. Вярнуўся. Пад вечар завіруха разгулялася яшчэ больш. Вецер узрываў снег, і ён кружыў у паветры.

Маленькае акенца крайняй хаты свяцілася ў шэрай каламуці жаўтаватым вокам. Язэп завярнуў да гэтай хацінкі. Пастукаў у дзверы.

Яму адчыніла старая жанчына, абкрытая самаробнай коўдрай.

— Пераначаваць, можа, пусціце? — запытаўся Язэп.

— Заходзь.

Язэп увайшоў у хату. Вялізная печ стаяла ля самага парога, загароджваючы палову гэтага катушка. У кутку — стол. За печчу — жалезны ложак. Нікеліроўка абгарэла, і ложак быў сіне-чорны. Дзве старыя табурэткі стаялі пры стале. Больш у хаце ніякай мэблі.

— Адкуль жа ты будзеш, чалавеча? — спыталася жанчына.

— З Кляўцоў я. Прыходзіў у горад афармляць пазыку, ды вось, бачыце, завіруха.

— Куды табе...

Па хаце гуляў вецер, і полымя газнічкі мітусілася.

— А вы хіба адны жывяце?

— Не, кватаранткі ёсцека... Пайшлі на работу. Адна

ў бальніцы дзяжурыць, а другая на станцыі — стрэлачніца.

— Далекавата ім хадзіць на работу...

— Што ж паробіш... Цяпер у кожнай сям'і кватаранты... Дзеўкі, во, на ложку спяць, а я на печы. Не знаю, дзе і пакласці цябе. У нас холадна. К раніцы так выстудзіць, як на дварэ...

Усё ж тут было зацішна, і Язэп адчуваў, як саграваецца.

— Павячэраць бы табе трэба, ды няма чаго. Лажыся на іхні ложак. Зінка — тая нічога, а Клаўка — сцерва. Гатова з дому мяне выжыць.

— Чаго ж яна?..

— А от ты запытайся... На старым, бяскрыўдным чалавеку кожны можа злосць спагнаць.

— У вас хіба нікога з радні няма?..

— Было двое сыночкаў...

Язэп не стаў распытваць, што здарылася з сынамі. Вядома ж... Вайна!..

Старая палезла на печ, сказаўшы:

— Газнічку патушы, а то газы мала.

— Добра...

Язэп пачаў знімаць боты. Але нехта пастукаў у дзверы.

— Каго там яшчэ нясе? — азвалася жанчына.

Яна пачала злазіць з печы, лаючы таго, хто стукаў. Язэп зноў надзеў бот. Стаяў ля печы. Жанчына адчыніла дзверы.

— Хто тут?

— Свае... Можна ў хату?

— Авой, адкуль вы?.. А ў мяне пастаялец. Зайшоў пераначаваць.

Чалавек нібы раздумваў, заходзіць ці не. Праз адчыненыя дзверы ў хату ўрываўся вецер, намятаў снег. Нарэшце чалавек зайшоў.

Быў ён у скураной тужурцы з вялікім каўняром, у цёплай заечай шапцы. Язэпу кінуліся ў вочы яго крывыя, як абады, ногі. А потым, калі чалавек зняў шапку і абабіў яе ад снегу аб калена, Язэп убачыў лысаватую галаву і нахмураныя чорныя бровы.

— Добры вечар,— павітаўся ён.— Мяце, ледзь дайшоў. У полі вельмі лёгка збіцца з дарогі.

Язэп пазіраў за начным госцем з цікавасцю.

Чалавек прайшоўся па хаце, пасунуў нагой табурэт-

ку да стала, сеў. Старая паглядзела на яго ці то з павагай, ці то з баязлівасцю.

— А я ўжо думаў, што не дабяруся. Позна. Нарвешся дзе на патруль, дык усю ноч будзеш карміць клапоў у камендатуры... У цябе, Мартынаўна, чаго-небудзь на закуску знойдзецца? Пагрэліся б з таварышам...

— Адкуль жа яно возьмецца?

— Хоць бы хлеба...

Жанчына палезла пад ложак. Адтуль яна дастала кавалак сала і хлеб, палажыла на стол. Потым прынесла капусту і цыбулю.

— Во і ўсё...

Язэп зноў здзівіўся. Мабыць, чалавек гэты важны госць, калі старая нічога яму не шкадуе.

— Сядай, служывы, пагрэемся,— запрасіў Язэпа чалавек.— Мы сваё адваявалі...

— А мае сыночкі галовы склалі,— усхліпнула гаспадыня і пачала выціраць сухія вочы.

— Усе калі-небудзь складзём галовы,— адказаў незнаёмы і дастаў з кішэні пляшку.— Спірт. Дай нам, Мартынаўна, вады.

Яны выпілі. Язэп адчуў, што яму стала цяплей. Толькі пальцы на нагах, здавалася, ужо ніколі не сагрэюцца. Чалавек наліў яшчэ. Пасля трэцяй порцыі ён узняў жаўтаватыя вочы на Язэпа.

— Цябе дзе параніла? Хоць што там пытацца — на фронце. А яе сыны вось тут загінулі, абодва. Арлы былі!.. Хоць — шчыра я табе скажу, Мартынаўна,— дарэмна загінулі. А чаму — сама ведаеш...

— Вы, во, асталіся...

— А што я... Наша песенька спета. Бачыш, ссівеў зусім.

Язэп услухоўваўся ў незразумелую гаворку гэтых людзей. Не ўцяміць, пра што яны гавораць, і неяк няёмка было сядзець моўчкі.

— Дык завошта ж іх, сыноў вашых? — запытаўся ён у гаспадыні.

— А за тое, што горад ахоўвалі ад бандытаў. Тут іх хапала.

Язэп ашалела паглядзеў на гэтага дзіўнага чалавека. Трызніць ён, ці што?

— Штосьці я не зразумеў...

— Ну, паліцэйскія яны былі. Зразумеў?

Чалавек усміхнуўся, убачыўшы, як Язэп здрыгануўся.

— Ты чаму спалохаўся?

— Дык гэта ж... Выходзіць, яны здраднікі былі.— Язэп азірнуўся — жанчына спакойна стаяла, прысланіўшыся да печы, быццам і не чула іх размовы.— Як жа яны маглі на такое...

Чалавек ляпнуў Язэпа па плячы.

— Дзівак. Жызня — гульня ў ачко на вялікую стаўку. Ставіш на туза, а табе валет. Адчуваеш, што дзесятка наступная, а аставацца на трынаццаці боязна. Ну — і выходзіць перабор. Амба...

— Дык гэта ж не гульня, а радзіме здрада.

— А што радзіма. Дзе даюць жэрці, там і радзіма.

Чалавек, здаецца, гаварыў сур'ёзна. У яго вачах — стома і злосць загнанага ваўка. Язэп сумеўся. У галаве — віхура думак. Вось дык пераначаваў!

— Вы, мабыць, жартуеце?

Незнаёмы зарагатаў.

— Вядома... А ты ўжо спалохаўся? Ну, а каб я і праўда служыў у паліцыі, дык што б ты зрабіў?

— Пабачыў бы тады,— цвёрда сказаў Язэп.

— Усё правільна!.. Слухай, а ты дзе жывеш? Па якой справе ў горадзе?

Ён паліў яшчэ спірту. Выпілі, і Язэп пачаў расказваць пра сябе, пра справы. Незнаёмы слухаў, часам ківаў сваёй пяўклюднай лысаватай галавой.

— А ведаеш, Каліна, дзівак ты. Ну, чаго ты тут дачакаешся? — пачаў ён, калі Язэп кончыў расказваць.— Давай махнём у Сібір або на Алтай. Няўжо мы лепшага жыцця не заслужылі, га? Прападзеш ты тут... На вайне цярпеў, цяпер зноў галадаць трэба. Я табе шчыра скажу: тут і праз дваццаць гадоў пустэча будзе. Хто з вайны выйшаў, той з голаду зойдзецца. Кідай усё і паедзем. Свет вялікі.

Язэп задумаўся. Каб не Даша, напэўна, згадзіўся б адразу. А цяпер куды ты паедзеш? Было б добра, каб Даша згадзілася. Заехаў бы куды далей. Толькі хіба Даша згодзіцца?..

— Не, мне ехаць нельга... Жонка ў мяне...

— І ў мяне ёсць. Паехалі б спачатку адны, а пасля і яны да нас...

— Не ўжо, я тут астануся...

— Эх ты!... Баязлівец! У жыцці рызыкаваць трэба. Я люблю рызыкаваць. Як па лязе брытвы ходзіш... Во ў чым смак...

— А мае сыночкі ў зямлі ляжаць... — азвалася гаспадыня, і Язэп са страхам паглядзеў на яе.— А мне, старой, дзе падзецца?

— Сама вінаватая,— адказаў незнаёмы і падняўся з табурэткі.— Будзем спаць класціся. Мне заўтра рана трэба ўстаць.

Ён паглядзеў у акно, сказаў:

— Мяце... Дык гэта ў цябе кватаранткі?.. Казаў жа не браць!

— Дужа яны слухаюцца. Добра, што зусім не выгналі.

— Пачакай, будзеш ты яшчэ жыць у палацы. Усё будзе... Згублена толькі палова. Паглядзіш, усё з часам на сваё месца стане...

Ён падышоў да ложка, сеў на яго.

— Разбудзіш мяне нацямку. Пакуль твае дзеўкі на рабоце... Кладзіся, служывы...

Яныляглі з незнаёмым на шорсткі, каляны матрац. Гаспадыня патушыла газнічку, і адразу іх ахутала цемра.

Прачнуўся Язэп ад таго, што хтосьці наваліўся, прыціснуў да ложка. Потым успыхнуў адзін, другі ліхтарык. Зрабілася светла. Дзьмуў пранозлівы вецер, мабыць, з дзвярэй, але іх загароджвалі людзі, якія невядома адкуль з'явіліся тут. Язэпу здалося, што гэта сон, а можа, трызненне. У галаве шумела.

— Устаць.

Нарэшце Язэп змог падняцца. Яго павяло ў бакі, і хтосьці, як бы здаля, сказаў:

— П'яны, як сабака...

Язэп заўважыў пагоны. Потым, лепей прыгледзеўшыся, убачыў, што яны з блакітнай акантоўкай, і яму здалося, што прыйшлі арыштоўваць яго. Адзін з прышлых загадаў:

— Абшукайце...

На стале запалілі газніцу. Трое ў форме хадзілі па хаце, заглядаючы ва ўсе куткі. Язэп заўважыў, што на табурэце ўжо сядзіць гаспадыня, абкрыўшыся коўдрай. А лысаватага няма. Язэпу загадалі сесці на ложак.

Высокі сутулаваты маёр уважліва прыглядаўся да Язэпа.

— Дык хто вы і як сюды трапілі?

У Язэпа трашчала галава. Ён зусім здурэў ад выпіўкі і той нечаканасці, з якой усё адбылося. Было цяжка сабрацца з думкамі.

— Ну што ж, высветлім... — паабяцаў маёр.

Нарэшце вобыск быў закончаны. Маёр загадаў паднявцца.

— Мне дамоў можна пайсці? — запытаўся Язэп.

— Не, пойдзеце з намі...

## 16

Адпусцілі Язэпа толькі назаўтра пасля абеду. Той жа сутулаваты маёр, што і затрымаў яго, падаў дакументы, запальнічку і партабак, сказаў:

— Трэба, таварыш Каліна, быць асцярожным. Трапілі вы ў кампанію, шчыра вам скажу, непрыемную...

Язэп хацеў сказаць, што не вінаваты тут ні ў чым, але зразумеў, што лішнія размовы не патрэбны.

— Скажыце, калі ласка, а хто яны і куды я трапіў? — спытаў ён.

— Ну, гэта вас не датычыць,— сурова адказаў маёр.

Язэп выйшаў на вуліцу, адчуваючы знобкі холад ва ўсім целе. Тое, што адбылося, узрушыла яго. Хто той чалавек, з якім ён піў спірт, з якім разам спаў на ложку і які так нечакана знік? Усё блыталася ў галаве.

Вечарэла ўжо. Прысыпаны снегам, горад цяпер здаваўся не такім страшным, знявечаным, як раней. Нават было штосьці ў ім прыгожае, што ўзрушвала душу. Напэўна, гэтая чыстая бель, што ўкрыла пажарышчы. Потым Язэп прыгледзеўся лепш да будынкаў, да абгарэлых руін, на якія лёг снег, да роўных заснежаных вуліц, што праляглі між разбураных дамоў, і яму здалося, што горад абматаны бінтамі, пад якімі кроў і раны. Стала самотна і горка.

За горадам не было дарогі. Ён, Язэп Каліна, першы павінен быў пракласці след. Думалася — а што там дома робіцца? Як Даша? Хвалюецца, напэўна.

Неўзабаве сцямнела, зноў узняўся вецер. Пачало мясці. Ісці было цяжка.

Потым узышоў месяц. Ён паволі падымаўся па хмурным небе. Пад яго святлом іскрыўся, бліщчаў снег і з кожным крокам усё гучней рыпеў пад нагамі.

За рэчкай Язэп спыніўся, бо ўбачыў, як хтосьці бяжыць з вёскі, сюды, да яго. Спачатку ён не мог зразумець, хто гэта. Здавалася, хутка-хутка паўзе няўклюднае, доўгае страшылішча. Потым ён разгледзеў, што ў страшылішча гараць, як агеньчыкі, вочы. Насустрач яму па снезе

бегла ваўчыная зграя. «А можа, гэта нямецкія аўчаркі?» — падумаў ён, успамінаючы расказы пра іх.

Ваўкі цяпер былі добра відаць. Яны беглі след у след. Наперадзе, вялізны, падхірцісты выжляк, а следам меншыя і не вельмі падобныя на ваўкоў. Яны рухаліся, як цені, а Язэп стаяў, скамянелы ад страху. «Хоць бы не заўважылі, не пачулі»,— думаў ён.

Зграя выскачыла на дарогу. Важак стаў, панюхаў паветра, потым па-сабачы сеў на снег і, выцягнуўшы морду, завыў. «Ну, цяпер усё,— падумаў Язэп.— Была б другая рука, дык хоць бы закурыў, агню яны баяцца, а так — канец...»

Воўк выў адзін. Астатнія сядзелі вакол яго або ляжалі. Потым стары выжляк падняўся і пабег. Цяпер ён вёў зграю ў роў, і яна прабегла недзе крокаў за дзвесце ад Язэпа. Але Язэп не зрушыў з месца, пакуль ваўкі не схаваліся ў хмызняках, што раслі па беразе рова. Толькі пасля гэтага ён пашкандыбаў дамоў, думаючы, што шчасліва вырабіўся з бяды. Цяпер ён амаль быў упэўнены, што воўк вёў зграю аўчарак, якіх немцы выпускалі супраць людзей.

Дома на палацях сядзела цешча, а Даша ляжала, уткнуўшы галаву ў падушку. Цешча плакала. Убачыўшы Язэпа, яна загаласіла, заломваючы рукі:

— А мой жа ты зяцёк, а мой жа ты любы, на каго ж мы асталіся, да каго галаваньку прытулім?..

Язэп спыніўся ў парозе, пазіраў на цешчу, думаў: «Што тут магло здарыцца?»

Ад падушак падняла голаў Даша. Твар яе распух ад слёз, мокры.

— Язэпка, бацьку сёння забралі...

Цешча зноў загаласіла:

— А не вінаваты ж ён, не вінаваты!.. А з'елі ж яго свае зайздроснікі!.. А божа ж мой, божа, як жа нам жыць цяпер...

— Ціха вы!.. — зазлаваў Язэп.— Разабрацца трэба... І раптам падумаў, што разбірацца няма ў чым. Усё адбылося, як і трэба было чакаць... Ну і радня!..

Пазней, калі павячэралі і першыя слёзы ў жанчын высахлі, цешча нясмела дакранулася да пустога рукава гімнасцёркі, сказала:

— Язэпка, дзетка маё, ці не схадзіў бы ты ў горад, ці не дазнаўся б, чаго яны бацьку забралі?.. Не вінаваты ж ён...

— Не вінаватых — не бяруць,— адрэзаў Язэп.

Раніцай у зямлянку прыбегла Макарыха.

— Язэпка, бяда,— з парога пачала яна.—Ваўкі кароў парэзалі.

— Усіх?

— Не, тры нейкім цудам уцалелі. Я здалёк яшчэ пачула штосьці няладнае. Чую, кароўкі нема равуць, аж страшна. Адчыніла дзверы і вачам не веру. Думала, падохлі яны. Аж кроў... Пад сцяну падкапаліся і перарэзалі каровак, як на грэх, лепшых.

Язэп паспешліва апрануўся. Шынель спаўзаў з пляча, і не было як папасці рукой у рукаў. Даша падбегла, пасобіла апрануцца.

— Хто вартаваць павінен быў?..

— Данілы чарга,— адказала Макарыха.

Язэп толькі крактануў ад роспачы. А Даша з маці загаласілі на два галасы. Язэп, каб не чуць іх плачу, выбег на вуліцу.

Над Гаравацкай гарой у мітуслівым карагодзе сняжынак уставала яркае сонца. Ружавата пабліскваў пульхны, працяты марозам снег. Дзьмуў сухі, пякучы вецер. Ад яго аж заняло дыханне.

**17**

Пасля арышту бацькі Даша занядужала. Прыгорбілася, прыціхла, не было ўжо ў ёй і ранейшай шчырасці.

Язэп ведаў, што жонка часта бегае да маці, і не забараняў ёй. Як ты скажаш, каб не хадзіла туды? А раптам старая захварэе... Хто ж яе дагледзіць? Чалавек жа яна!..

Даша шыла распашонкі. Калі Язэп зайшоў, яна ўсхапілася, адклала работу. Моўчкі падала на стол заціркy. Язэп бачыў Дашын заплаканы твар. Яму было шкада жонку. Запытаўся, каб неяк памірыцца, каб не было гэтай надакучлівай маўклівасці ў хаце:

— Як там маці?

— Нічога...

І зноў настала агорклая цішыня. Хоць крычы.

— Табе тут пісьмо прыслалі...

Яна падала яму канверт з жоўтай тоўстай паперы.

«Ад каго ж гэта?» — падумаў Язэп.

Аказалася, што выклікаюць у райком. Пад позвай стаяў подпіс Лежняка, загадчыка арганізацыйнага аддзела. Язэпа гэта ўстрывожыла. Чаго раптам выклікаюць? Каб

якая нарада, дык выклікалі б праз сельсавет, як бывае звычайна.

Яму ў тую ноч не спалася. Ляжаў прыплюснуўшы павекі, успамінаў франтавых сяброў, чамусьці больш тых, што загінулі. Яркія былі ўспаміны. Быццам ляжаў не дома, а ў франтавой зямлянцы перад самым наступленнем. І Даша не спала. Язэп чуў гэта, але не мог адарвацца ад успамінаў.

— Мішка ліст прыслаў... — парушыла маўчанне Даша.

Язэп устрапянуўся. Напамінак пра швагра, што ўцёк калісьці з фронту, а потым з партызанскага атрада, балюча закрануў Язэпа.

— Дзе ён?.. Ад расплаты хаваецца?..

Даша заплакала. Язэпу было шкада яе, але ён падумаў: «Трэба быць бязлітасным. Яна вось плача, а таго не можа зразумець, што Мішка, магчыма, не адну сям'ю асіраціў. Паліцай, сволач...»

— Ён вунь паранены быў,— нарэшце сказала Даша,— а ўсё роўна з бою не выйшаў. Яго нават ордэнам узнагародзілі. А ты на яго злуешся...

— Яму і паложана крывёй віну выкупляць. А наконт узнагароды брэша.

Даша злезла з палацяў, запаліла газнічку.

— На, пачытай вось, калі мне не хочаш верыць,— яна падала яму газету.

З газетнай старонкі на Язэпа пазіраў Міхась Іванёнак. Галава задрана ўгору і ледзь павернута набок, быццам Міхась вось-вось узляціць над зямлёй.

Пакуль Язэп чытаў невялічкую заметку пра свайго былога сябра, Даша стаяла на падлозе, падкурчвала то адну, то другую нагу.

— Можа, і цяпер не верыш?..

— Ты лажыся, а то прастудзішся,— сказаў Язэп, а калі яна села на палаці, дадаў: — Гэта ён ад страху перад расплатай храбры быў.

Даша з дакорам паглядзела на яго.

— Які ты жорсткі, Язэп!.. Магло і з табой такое здарыцца. Забралі ж яго. Можа, прымусілі ў ахове служыць. Але ж ён не забіваў.

— Ну не,— узлаваўся Язэп,— са мной такога не магло быць... Выпадкова, кажаш?.. Вось што не забіваў — гэта выпадкова. А можа, і забіваў. Тут яшчэ разабрацца трэба.

— Дык што — ты ўсё жыццё будзеш злосць на ім спаганяць? — спытала Даша.

— Да самай магілы!.. А ты як думала?..

— Пачакай, можа, уся праўда паверх выйдзе... Тады пабачу, як ты ў вочы нам паглядзіш...

— А так, як вы мне цяпер гледзіцё,— адказаў Язэп і патушыў газнічку.

## 18

У калідоры Язэп сустрэў Лежняка. Той з папкай пад пахай бег як на пажар. Убачыўшы Язэпа, прыпыніўся.

— Зойдзеш, Каліна, да мяне. Цэтаво, пагаварыць трэба. А мяне, цэтаво, сам выклікае, хутка прыйду.

Ён пабег у канец калідора, да кабінета сакратара. «Чаго ён мяне выклікаў? — дзівіўся Язэп.— Цэтаво, цэтаво, а толкам нічога».

Яму зрабілася смешна, калі прыгадаў гэтае слова, якое ўстаўляў у гаворку Ляжняк. Уся трывога прайшла адразу.

У адным з кабінетаў Язэп убачыў Кузьму Вышака. Ён усё яшчэ хадзіў у тым касцюме, у якім яго першы раз убачыў Язэп улетку.

Павіталіся за руку. Вышак выцягнуў са стала вялізны пачак «Казбека».

— Бяры, вось. Круціць не трэба. Прыпаліў і куры,— сказаў ён, чамусьці стараючыся не глядзець у вочы.

— Не ведаеш, чаму мяне Ляжняк выклікаў? — запытаўся Язэп.

— Пакрыўдзіўся, што на вяселле не паклікаў,— пажартаваў Вышак і тут жа, адразу пасуровеўшы, спытаў: — А ў Кляўцах хіба другой дзеўкі не было?

— Мабыць, не было,— устрывожана адказаў Язэп.

— Здорава выходзіць. Ты, можа, пачакаў бы ды з дачкой якога рэйхслейтэра ажаніўся?..

— Ды што ты?.. Разбярыся спачатку. Пра радню сваю я шмат чаго чуў, а толкам — нічога. Адны толькі добрае гавораць, другія — дрэннае. Пакуль Іванёнка не забралі, дык хіба я ведаў, што ён лётчыкаў выдаў? Чуткі, канечне, былі. Але сам ён казаў, што адправіў іх за лінію фронту.

— А ты і паверыў! Прызнаўся твой цесць ва ўсім. Так што — сам разумееш, у якое балота ўлез...

У Язэпа ўзмакрэў лоб: «Што ж цяпер рабіць?»

— Жонка мая тут не вінавата, што бацька такі...

Вышак кінуў недакураную папяросу на падлогу, затаптаў ботам.

— Яно, вядома, дзеці за бацькоў не адказваюць... Але ж... сам падумай... Ну, што ж будзе, калі кожны сумленны пачне радніцца з нямецкімі халуямі?..

— Тут, разумееш, Кузьма, у такі вузел усё завязалася, што разблытаць цяжка.

— Вузлы рассякаць трэба... Адным махам.

— Табе лёгка сказаць... А мне як?.. Дзіця ў нас будзе... Маё дзіця... Так, дарагі Вышак, здарылася. А калі ўжо здарылася, дык ходу назад няма. Дзіця сіратой не павінна расці...

Вышак, нахмурыўшы бровы, маўчаў. Было відаць, што ён разгубіўся і цяпер не ведае, што сказаць. Маўчаў і Язэп. Потым Вышак узяў яшчэ адну папяросу, прыпаліў яе...

— Та-ак, вузел сапраўды. Ну, ты вось што: з Лежняком не вельмі спрачайся. Сам разумееш, час такі. Людзі нацярпеліся за вайну ад рознай погані. Так што табе не будуць спачуваць.

— А я адразу да Гаравога пайду...

— Гэтага не раю. Гаравы, дарагі мой Каліна, сам ледзь трымаецца. У яго ўжо шэсць вымоў, і тры з іх — з апошнім папярэджаннем. А гэта больш складана, чым твае асабістыя справы. У раёне, сам ведаеш, што робіцца. Гараваму без цябе хапае... Так што ты, брат, прызнавай памылкі, а то можа горш быць.

— Горш ужо не можа... А Дашу я не кіну, нават калі судзіць будзеце.

— Дзівак... Хто цябе судзіць будзе? Мы намячалі цябе забраць у раён, на сабес, а цяпер, сам разумееш, не зацвердзяць...

Далей размова ні гарэла, ні тлела. Язэп як бы ведаў, што ён тут лішні. Здавалася, што нават Вышак неяк асцерагаецца яго, як, бывае, асцерагаюцца хворага на сухоты.

Каб не замінаць чалавеку, Язэп выйшаў на калідор. І раптам ён надзіва востра адчуў сябе нейкім адшчапенцам. «Ну, вось ужо і не давяраюць,— падумаў Язэп, і зрабілася крыўдна.— Чаму? Хіба я змяніўся, хіба ад таго, што ажаніўся з дзяўчынай, якую выгадавалі злодзеі, я сам стаў злодзеем? А можа, Вышак наблытаў? Можа, гэта яго асабістая думка?»

Задумаўшыся, ён не заўважыў, як у калідоры паявілася Клава. Пачуў яе голас і крута павярнуўся на яго.

Клава спрачалася з нейкім незнаёмым чалавекам, тоўстым, у шырокім паліто з поясам. Чалавек махаў рукамі,

але не паспяваў сказаць ніводнага слова. Клава наступала на яго і ўсё крычала:

— Я цябе наскрозь бачу... Ты мне хвастом не круці... Ясна табе?.. Мне якая справа, дзе ты дастанеш?.. Каб заўтра вугаль быў... Ясна табе?..

— Клаўдзія Пятроўна!..

— Знаю, што скажаш... Я слухаць не хачу... Калі заўтра вугалю не будзе, білет паложыш... Зразумеў?

Яна заўважыла Язэпа.

— А ты чаго тут? — усё яшчэ сярдзітым голасам запыталася Клава.

Язэп усміхаўся, бо ніяк раней не мог уявіць Клаву такой узлаванай. Яна заўсёды была спакойная.

— Ты, мабыць, хутка на хрысціны паклічаш,— сказаў ён, пазіраючы на яе жывот.— Не дай бог, і дзіця такое крыклівае народзіцца.

Яна засаромелася, пачырванела. Вось такой ён і ведаў яе заўсёды. Такой і помніў яе ўсю вайну...

— Як ты жывеш там? — спытала Клава.— Я ўжо гаварыла Гаравому, каб выцягнуў цябе сюды. Працаваць табе старшынёй цяжка. Можа, таму і выклікалі.

— Здаецца, па другой прычыне. Вышак намякаў, што не зацвердзяць, бо жонка мая радня Іванёнкам. Ты штонебудзь пэўнае пра іх ведаеш? — запытаўся ён.

— Пра каго? Пра Іванёнкаў?.. Скрытныя яны людзі, Язэп. Сам ведаеш... Але і мне было навіною, што ён лётчыкаў выдаў. Я чула, пагаворвалі тады, але не верыла. Я думала, што зусім лётчыкаў не было. Здалося тады пастухам. Ну, а цяпер, як пачула, дык аж скаланула ўсю. Можа, ён і маіх бацькоў выдаў. Яны ж з маім бацькам ніколі не ладзілі...

— А Даша?.. Яна вінаватая?..

Клава разгубілася, так здалося Язэпу, і ён з нецярплівасцю чакаў, што скажа яна. А што, калі Клава ведае штосьці дрэннае пра яе? Чаму яна маўчала дасюль? Магла ж папярэдзіць...

— Даша нічога. Дзіця... Хоць не можа быць, каб яна нічога не ведала.— Клава памаўчала крыху, потым запыталася: — Ці зарэгістраваны ты? Калі не, дык гэта не страшна. Фармальнага повада няма...

— Зарэгістраваны,— паспешліва адказаў Язэп, думаючы пра тое, што заўтра ж трэба будзе зарэгістравацца з Дашай.

— Паспяшаўся ты, Язэпка. Яно, канечне, Даша нядрэнная, але сам разумееш...

— Ты таксама паспяшалася...

Клава ўзняла вочы, нейкія сумныя і, як здалося Язэпу, вільготныя, быццам збіралася заплакаць.

— Я цябе чакала,— яна ўзяла яго пад руку, правяла ў дальні куток.— Ты на мяне тады пасварыўся, але я не крыўдую. Усё вайна, Язэпка, вінаватая і наша жаночая спагадлівасць...

Язэп раптам разгубіўся. Што гэта? Прызнанне? Навошта? Цяпер, калі яму не да таго. А можа, Клава спачувае? Ён паглядзеў на яе. Убачыў вочы. Яны былі блізкаблізка, крыху разгубленыя і сумныя. Яны не маглі хлусіць. Клава яго кахала. Ён адчуваў гэта і хацеў што-небудзь сказаць, але не знайшоў слоў. Штосьці перашкаджала яму. Было няёмка ад гэтага запозненага Клавінага прызнання. Але і прыемна, што яна не саромеецца казаць пра сваё пачуццё.

— Я, Язэпка, цябе ніколі не забуду. Я знаю, што мяне чакае... Знаю... Думаеш, таму я трымаюся за яго, што ён сакратар? Доўга ён не напрацуе тут. Яму адпачываць трэба. Але і тады, калі ён хворы будзе, я ўжо не кіну яго.

Да Язэпа яе словы даходзілі як бы здалёк. Яму чамусьці было сорамна слухаць яе, бо сваім прызнаннем Клава як бы абражала яго, быццам намякала, што і Даша пашкадавала яго, як яна пашкадавала Гаравога.

— Што ж ты маўчыш, Язэп?..

Ён схамянуўся. «Пра што яна кажа? — падумаў ён.— Ага, пра нас... Але ж мы абое не вольныя птахі. Былі вольныя, а цяпер — не».

— Дзіцяці свайго я не пакіну. Не магу пакінуць...

— Шчаслівая яна... Ёй пашанцавала,— сказала Клава.

Ён зразумеў, што шчаслівая, відаць, Даша. А толькі ці шчаслівая яна? І хто можа разабрацца ў тым, што натварыла праклятая вайна? Дык няўжо можа разабрацца Ляжняк, які недзе сядзіць на прыёме ў Гаравога, які недарэчы прыплятае ў размове смешнае слова «цэтаво», які не любіць, калі яму пярэчаць. Ніхто не можа разабрацца ў чалавечым болю. І нават калі ён сціхне, усё роўна ён будзе напамінаць аб сабе.

— Я пайду, Клава... Дзякуй табе за ўсё, Клава!..

— А табе ж да Лежняка трэба...

— Ляжняк пачакае,— сказаў ён і пайшоў.

## 19

Грамніцы — зімы палавіца: палавіна зімы прайшла — палавіна хлеба з'едзена. Так кажуць на Падзвінні.

У той год хлеб з'елі да грамніц. Мукі, праўда, людзі пакінулі, каб варыць зацірку.

«Жыць па гэтай зацірцы будзем, толькі ног, бадай, не пацягнем»,— аднойчы падумаў Язэп, калі Даша падала на стол зацірку.

Язэп спадылба паглядаў на Дашу. Яна паблажэла за гэты час, павузела ў плячах, прыгорбілася. Твар і шыя ў бура-карычневых плямах, вочы пабляклі, і пад імі з ночы заўсёды сінелі кругі. Ногі апухлі, і Даша цяжка пераставўляла іх, быццам яны наліты свінцом.

Было балюча глядзець, як яна паволі ходзіць ад стала да печы, нейкая абыякавая да ўсяго на свеце. І чым ты паможаш ёй?

Ноччу, калі яны ляжалі на палацях і абое прыслухоўваліся, як паныла вые ў коміне вецер, Даша раптам прытуліла галаву да яго пляча, горка заплакала. Язэп падумаў, што яна зноў прыгадала бацьку і, як было ўжо не раз, хоча вырваць у яго згоду схадзіць да начальства, каб яно памагло вызваліць бацьку з турмы.

— Чаго ты? — спытаў ён, не вельмі хаваючы раздражненне, якое паяўлялася заўсёды, калі Даша пачынала плакаць.

— Памру я, Язэпка, не вытрываю... Баюся я...

У яе голасе Язэп адчуў страх.

— Выдумляеш нешта... Чаго табе паміраць?..

Язэп пяўмела яе ўгаворваў. Не хапала слоў, а можа, шчырасці.

— Язэпка,— крыху счакаўшы, зноў пачала Даша,— калі памру, пахавай мяне не на кляўцоўскіх, а на гаравацкіх могілках. А ў нагах пасадзі бярозку. Крыж згніе хутка.

Яна змоўкла, чакаючы, што ён скажа. А Язэп маўчаў, уражаны яе словамі і пакорлівым тонам, з якім яна гаварыла пра сваю смерць...

— Ты, Даша, не думай пра гэта... Я ўсю вайну прайшоў, можа, сто разоў у атакі хадзіў, а пра смерць не думаў. І во, бачыш, выжыў...

— Ты жыві...

— Не люблю такой гаворкі,— зазлаваў Язэп.— Не па тое мы жывымі з пекла вылезлі, каб паміраць. Спі лепей...

Але яны доўга яшчэ не спалі. Язэпу хацелася ведаць, пра што думае Даша. Сам ён адганяў думкі, што лезлі ў галаву.

Раніцай Даша прысела да стала, узяла лыжку. Але есці не магла. Яна пабляднела, на верхняй губе выступілі дробныя кропелькі поту.

Ён памог Дашы дабрацца да палацяў. Яна лягла тварам уверх, сашчапіла на грудзях рукі. Язэп глядзеў на яе засмяглыя вусны, на завостраны нос, і яго ахопліваў жаль. Ён раптам адчуў, што бясконца любіць Дашу, што яна даражэй яму, чым калі-небудзь раней. Хацелася зрабіць што-небудзь добрае, каб яна адчула, як ён яе кахае. Але што?..

Язэп узяў Дашыну руку і ўбачыў, што пальцы яе высахлі і скура на іх як бы прасвечваецца. Ён ужо даўно не браў яе рукі ў сваю, і цяпер яму здалося, што рука нейкая бязважкая.

— Даша, хочаш, каб я паклікаў тваю маці?.. Няхай яна жыве ў нас. Месца хопіць...

Даша прамаўчала. Яна толькі расплюшчыла вочы і, як здалося, з дакорам паглядзела на яго. Потым павекі зноў закрыліся; з-пад іх густа-густа пакаціліся па шчацэ слёзы.

— Я хутка прыйду,— сказаў ён і пачаў апранацца.

Даша не азвалася. Яна ляжала нерухома, шырока раскінуўшы ногі. Было балюча глядзець на яе, распасцёртую, бездапаможную, і Язэп хуценька выйшаў з зямлянкі.

На двары стаяла адліга. Волкі, цеплаваты вецер гнаў па небе шэрыя хмары. Снег за ноч асеў. Зблізку ён здаваўся пабіты рабаціннем, як бывае пабіты воспай твар чалавека. На снезе выразна адбіваліся сляды.

Язэп памалу ішоў да цешчы, адчуваючы нейкую няёмкасць перад ёю. «Зрэшты,— думаў ён,— было б смешна зусім забараніць маці прыходзіць да дачкі. А цяпер дык і зусім не па-чалавечы выходзіць».

Над кручай ён спыніўся.

Сцежку замяло. Спускацца ў роў было нязручна і страшна. Здавалася, што спаўзаеш уніз, як у магілу, што замяло снегам.

Трымаючыся за голле, Язэп сяк-так дабраўся да ручая. Пайшоў па лёдзе, які зрэдку лускаў пад ботамі. Убачыў: насупроць зямлянкі ў лёдзе прабіта палонка і зверху закрыта драўляным донцам, уцепленым пакуллем. «Іванёнкавы зроду такія — гаспадарлівыя»,— падумаў Язэп і па зробленых у снезе прыступках падняўся на пля-

цоўку перад зямлянкай. Дзверы ў зямлянку былі шчыльна зачынены. Праз іх не прабіваўся наверх ніводзін гук. «Яшчэ, чаго добрага, памерла старая»,— падумаў Язэп.

Дзверы ён адчыніў з асцярогай, а калі адчыніў, дык убачыў, што Даніліха, прысеўшы на кукішкі, корміць з рук беленькую козачку.

Убачыўшы зяця, Таццяна паднялася, спалохана спытала:

— Ці не з Дашай што?..

— Захварэла,— адказаў Язэп, прыціскаючы да грудзей шапку.— Прасіла, каб вы прыйшлі.

— Во, дзетка мае, як у жыцці бывае... То не хацеў, каб Даша да нас прыходзіла, а цяпер сам просіш, каб я да цябе ў хату пайшла...

— Па мне вы маглі і не прыходзіць. А Дашы помач ваша трэба, таму і прыйшоў па вас.

— Вам абаім помач патрэбна. Во схуднеў як... Адны косці ды скура... Ну, дык што там з Дашкай?..

— Нудзіць усё, і ногі апухлі. У галаве кружыцца... Кажа, што не выжыве...

— Усе так думаюць... А толькі пра дурное не тое што начач — удзень няма чаго ўспамінаць.

— Дык хадзем...

Даніліха здзіўлена паглядзела на Язэпа:

— Дык а хату, казу на каго мне кінуць?.. Тут жа толькі адвярніся, ураз усё расцягнуць... Хіба ты пабудзеш, пакуль я схаджу?

Язэп адчуў, як у галаву, нібы хмель, ударыла злосць. «Ах, жмінда праклятая, ёй на дачку напляваць, абы гаспадарка была ў спраўнасці». Але ён стрымаў сябе; павінен быў стрымаць, бо не мог вярнуцца без цешчы.

— Дык я думаў, каб вы зусім да нас перасяліліся... Адны вы тут, у рове... Страшна.

— Мы да страху прывыклыя. А перасяліцца да цябе сапраўды боязна. Сёння перасялішся, а заўтра ты скажаш: вяртайся назад. Дык і бацьку тут хачу дачакацца.

Язэпу так і рупіла сказаць, што дарэмна яна чакае Данілу. Не вернецца ён, гэты нямецкі паслугач і здраднік. Але прамаўчаў.

— Ну што ж, скажу Дашы, што не захацелі перасяляцца. Каза вам даражэй за дачку.

Ён адпіхнуў казу, што настырна лезла пад ногі. Хацеў пайсці, але цешча спыніла:

— Пачакай ужо... У мяне сэрца зла не помніць. Хто ж

вас пашкадуе, калі не маці... Толькі во што, дзетка маё: каб не папракаў болей.

— Добра,— сказаў ён.

## 20

Таццяна пакрысе перацягнула скарб з рова, і яго аказалася нямала. Зямлянку ў рове замкнулі на два замкі, акно забілі дошкамі. Ды і без гэтага туды ніхто не палез бы.

Дні цяпер пабеглі весялей. Даша стала жвавейшая. Язэп радаваўся, што нарэшце ў хаце запанавалі мір і спакой. І хоць па-ранейшаму яго злавала цешча са сваімі будзённымі надакучлівымі размовамі, Язэп стараўся не звяртаць на іх увагі. Дні цяпер пабольшалі, і можна было даўжэй быць на дварэ, сярод людзей.

Аднаго разу Макарыха зазвала яго ў зямлянку, дзе жыла цяпер з Петрачыхай, пасадзіла на бярозавы цурбан.

— Садзіся, старшынька, ды слухай, што я табе скажу. За вайну, Язэпка, мы нагаладаліся, так што голад хоць і страшны, але не самае горшае. Горшае тады бывае, калі людзі смак да жыцця губляюць. Жыве так, што пусці — і паваліўся. Залезлі мы ў зямлянкі і, як барсукі, у іх жывём. Толькі ж у барсука тлушчу на ўсю зіму хапае, і ён барсука ратуе. А чалавека надзея ратуе, во як яно.

— Гэта праўда,— адказаў Язэп.

— Дык вось што я хацела табе параіць. Бабы нашы, калі ў адступленні былі, бачылі там такія месцы, што зусім вайной не кранутыя. Хочуць туды перабірацца. А што ж яно, Язэпка, будзе, калі ўсе туды паедуць? Хто ж гэтую параненую зямельку залечыць? А чаго людзі едуць? Бо там хаты ёсць, ды і паесці чаго лягчэй купіць.

— Гэта, цётка, так... — сказаў Язэп.

— А ты яшчэ не ўсё пачуў,— перапыніла яго Макарыха.— Чаму ты, Язэпка, не падпісваеш людзям паперы на крэдыты?

— Бо, самі ведаеце, крэдыт даюць тады, калі хоць адзін вянец пад хату падкладзены. А так палучаць людзі крэдыт, ды і праядуць яго. А жыць дзе пасля будуць?

— Дзе жыць будуць, ты пра гэта не клапаціся. Пра гэта пазней падумаеш. Цяпер важна, каб людзі паверылі, што пра іх клапоцяцца, што тут ім жыць трэба, а не шукаць цёпленькай печы, бо яна хоць цёплая, ды не свая.

А вянцы гэтыя пакласці трэба, каб начальства да цябе не чаплялася. У рове яшчэ пнёў трыццаць лесу асталося. Берагчы яго няма чаго. Не тое за вайну страцілі. Хоць вытралюй яго з лесу. Усё людзям радасней будзе. Ды за работай яно не так самотна. А то во сяджу сама дома і ўсё думаю, думаю, ды найбольш пра дрэннае.

— Не, цётка, на гэта вы мяне не падбівайце, бо няма таго закону, каб браць грошы на хату, а траціць іх на хлеб.

Макарыха, неяк шкадуючы, паглядзела на Язэпа. Яму здалося, што яна падумала: «Блазнюк ты, блазнюк, людзям жа жыць трэба». І ён нават узрадаваўся, калі яна, крыху счакаўшы, сказала:

— Дык жа бывае і так, што хату людзі прадаюць, каб цяжкі час пераждыць, а пасля, калі зажывуцца, яшчэ лепшую зробяць.

— Добра, цётка, скажыце, каб прыходзілі... Падпішу паперы.

Назаўтра Язэп абышоў зямлянкі, загадаў браць сякеры і пілы. Сабралася дванаццаць жанчын і чатыры падлеткі — хлапчукі год па трынаццаць, самыя дзеці.

Да вечара працавалі ў рове, секлі апошнія, што ўцалелі ад немцаў, елкі. Потым выцягвалі іх на вяроўках наверх. Натаміліся ўсе, але ніхто не скардзіўся. Як і тады на жніве, а пазней на полі, калі жанчыны капалі рыдлёўкамі зямлю пад жыта, людзі забыліся на свае турботы.

Пасля работы ўсе прыселі на бярвенне, што пахла цёплым смалістым духам. Адпачывалі. Спакойна вялі размовы, успаміналі, якая ў каго была хата, што расло ў агародзе і як усё будзе, калі зажывуцца людзі. Размовы гэтыя падабаліся Язэпу.

Тыдні за два яны вытралявалі бярвенне з рова. Язэп быў сярод тых жанчын, што сваімі рукамі пачалі будаваць хаты. Тыдні праз тры паявіліся першыя вянкі пад хату на пяцёх пажарышчах.

Язэп напісаў даведкі. У сельсавеце заверылі пячаткай, і неўзабаве ўдовы атрымалі крэдыт на будаўніцтва. Назаўтра ж жанчыны адправіліся кудысьці пад Літву па хлеб. Паехала з імі і цётка Таццяна.

Вярнуліся яны толькі праз тыдзень. Прывезлі хлеб, бульбу, а цешча яшчэ і сала, масла, сыр — усё Дашы. Увечары яна расказвала:

— От жа, дзеткі мае, жывуць там людзі! Як і не было вайны. І кірмашы, як у нас даўней былі. Чаму нам так не пашанцавала?

— Бо тут фронт быў,— адказаў Язэп.— Але і мы разруху пераможам.

— Ой, не верыцца штосьці.

— Пераможам,— рашуча сказаў Язэп, але ў душы ён і сам сумняваўся. «Пераможам, толькі калі?» — падумаў ён.

## 21

У лютым круцілі завірухі, сакавік прынёс частыя адлігі і спорныя снегапады. Кожны дзень мянялася надвор'е: то густы снег па лапцю, то марасліваая халепа, якая змянялася часовым зацішкам без сонца. Тады апалы снег прасаваўся, асядаў, і з-пад яго вытыркалася чорнае бадылле асоту. Потым ударылі марозы. Звонкі, як жалеза, шэрань скаваў снег, хоць каціся па ім бокам. Днём шэрань блішчаў на сонцы, аж нельга было глядзець, не прыкрыўшы далонню вачэй.

Прачнуўшыся ўранку, Язэп падумаў, што самы раз цяпер пабываць у сельсавеце. За апошні месяц нідзе сам не быў, і ніхто не прыязджаў у Кляўцы; вёска нібы знаходзілася ў асадзе снежных заносаў.

— Во, дзетка маё,— пачала цешча, як толькі ўбачыла, што Язэп збіраецца кудысьці ісці,— чымся па свету брындаць, лепей пайшлі б з табою ў лес ды ламачча якога насеклі. Не дай бог зноў адліга прыйдзе — у лес не зойдзеш. А па шарапку яно і прыступна і лёгка будзе санкі везці. Я іх яшчэ ўчора з рова прывалакла.

Дроў на паліва хапала, але Тацляна вечна бедавала, што няма чым паліць у печы. Вось і цяпер яна зноў завяла сваю адвечную песню. Язэп ужо добра вывучыў цешчын характар. Яна і сама ніколі не сядзела без справы і другім не дазваляла такой раскошы. Рабі што хочаш, абы не гуляў.

— Мне ў сельсавет трэба,— сказаў Язэп.

— А чаго табе самому пнуцца? Не клічуць — сядзі, а калі ўжо паклічуць, тады можна і схадзіць.

— Мама, няхай ідзе,— азвалася Даша.— Яму родная хата ад роду нямілая.

Язэп паспрабаваў звесці спрэчку на жарт. Даша натапырылася, маўчала, хмура адводзячы вочы. Цешча бурчала нешта пад нос. Грукнуўшы дзвярыма, Язэп выйшаў на двор, заплюшчыў вочы ад яркай віднаты. Потым, калі

асвойтаўся зрок, азірнуўся і, хоць настрой быў сапсаваны спрэчкай, захоплена ўсцешыўся наваколлем.

Як кінуць вокам ляжала роўпае і нібы падзалочанае снежнае поле. Сонца і бялюткі снег нібы зраўнялі бугры і ўпадзіны; толькі то там, то тут тырчэлі чорныя хварасціны кустоў ды адзінокія бадыліны асоту.

Памацаўшы нагой шэрань, Язэп пайшоў нацянькі, не баючыся ні мін, што хаваліся недзе пад снегам, ні ямін, якія занесла ў завіруху, а зверху, як покрыўкай, скавала ледзяной коркай. Было хараша ісці: лёгка, прыступна. Шэрань быў такі моцны, што на ім амаль не заставалася слядоў ад ботаў. Было прыемна слухаць звонкую цішыню, у якой сакавіта парыпваў пад нагамі снег.

Ля сельсавецкага бункера, з якога ўжо знялі стэрэатрубу, Язэп сустрэў Варвару Бярозку. У дублёным кажушку, у шапцы-вушанцы, яна выглядала маладым хлопцам. Толькі на шчоках па-жаночаму ружавела чырвань.

— Як справы, старшыня? — замест прывітання спытала яна.— Табе нішто. Да Кляўцоў цяпер ні на кані, ні пеша не дабярэшся. А мы пры дарозе. Кожны дзень упаўнаважаны, а то і два... Мы пра цябе толькі што з Насцяй успаміналі.

Насця Гародчанка паклала перад Язэпам пульхны стосік папер. Пакуль Язэп праглядаў іх, распытвала пра жыццё-быццё.

Пастаноў набралася шмат. Было відаць, што ў раёне без разбору капіравалі іх, адсылалі па сельсаветах, а там, маўляў, разбірайцеся, што і да чаго. Язэп усміхнуўся, прачытаўшы рашэнне райкома камсамола аб вясновым лыжным кросе. Паказаў Насці.

— Пастаноў ды распараджэнняў і сапраўды шмат. Гаравы любіць паперы. Ён яшчэ, кажуць, у партызанах пачаў іх пісаць. Бывала, едзе куды, а за ім ад'ютант поўны партфель папер цягне. Пакуль аднаго разу на засаду не трапілі. Уляцела яму тады за той партфель здорава, а вось вывадаў не зрабіў. І смех і грэх. Аднаго разу прысылаюць мне рашэнне абкома, у якім чорным па белым напісана, што трэба менш папер пісаць. А разам з гэтым рашэннем кіпу пастаноў райкома, якія ніякага дачынення да нас не маюць. Зрэагаваў Гаравы.

Яна сумна ўсміхнулася.

— Выходзіць, Гаравому пастановы патрэбны для таго, каб схаваць за іх сваё няўменне кіраваць раёнам.

— Лічы, што так. Ну, ды не ў тым справа. Давай ле-

пей памазгуем, як будзем вясну сустракаць. Насеннага фонду ў цябе, канечне, няма.

— Ад сырасці яму быць, ці што?

— А я не жартую. Трэба рэзервы пашукаць...

— Хіба на дарозе з табою пашукаем.

— Варвара вунь знайшла. Пудоў сорак ярыны засыпала. Гектараў на пяць бульбяных вярхушак назбірала.

— Можа, і мне з ёй пахадзіць? Удваіх мы, можа, і больш чаго знойдзем.

Язэп жартаваў. Яму было лёгка і свабодна тут. Адчуваў, што і Насцю захапляе такая размова. Яна ўсміхаецца аднымі вачыма.

— Не чакала, што ты, Каліна, такі спрытны.

— Спрытны, а крытыкуеш. Не, каб пахваліць... Не дзеўчанё — ведаеш, мужчын ласкай заахвочваюць, а не сваркай.

— Хутка ж ты ўцяміў, што да чаго. Мусіць, жонка строгая?

— Жонка — што! Цешча дапякае.

— Можа, і мой зяць некалі так скажа — утаплюся тады.

— Ты будзеш харошай цешчай, спадзяюся.

Язэпа забаўляла лёгкая, без прынукі, гаворка. Так, бывала, вольна гаварылася толькі з Клавай. А з Дашай, пра што б яны ні размаўлялі, выходзіла іначай — усур'ёз. Даша як бы не разумела жартаў, не ўмела дасціпна адказваць, пра ўсё яна гаварыла стала і сумна.

У бункер прыбегла рыжаватая, тоўсценькая сакратар сельсавета Ліза. Яна на хаду развязала хустку, села на табурэт, пачала абедзвюма рукамі прыгладжваць валасы. Яны былі ў яе густыя, бронзавыя.

— Умора, дый годзе,— засмяялася яна і паглядзела на Язэпа карымі вачамі.— Варка бегае па вёсцы ды фінагента шукае. Кажа, які там вечар без мужчын. А фінагент у Станькава махануў.

— Дык чаго ты смяешся? — абурылася Насця.— Ён Варкінага мезенца не варты.

— А я нічога... Смешна.

Язэпу стала ніякавата, што так бесцырымонна Ліза адкрыла чужую тайну. Ён нават пакрыўдзіўся за Варвару Бярозку.

Фінагента Язэп бачыў усяго адзін раз. Здаровы такі, насаты мужчына, з пустымі блакітнымі вачамі. Дурнаваты. А яшчэ перабірае. Бярозка яму, бачыш, не пара.

— Доля наша бабская,— раптам уздыхнула Насця.— Сям'ю кожнай хочацца мець, а мужыкоў перапалавінілі.

— Па мне лепей ніякі, чым такі,— рашуча сказала Ліза.

— Бо ты — маладая. А Варцы пад трыццаць. Што яна прычакае? Пабачу, што ты год праз пяць заспяваеш...

— Тое, што і цяпер,— азвалася Ліза.

Яны гаварылі, нібы забыліся, што побач сядзіць Язэп. У іх голасе была туга. І Язэп у душы шкадаваў іх. А яшчэ яму было дзіўна чуць, што жанчыны гавораць пра ўсё гэта неяк па-будзённаму проста. Яны ні разу не ўспомнілі пра каханне, быццам яно не мае ніякага значэння. Можа, і Даша вось так, па разліку, спалохаўшыся, што застанецца ў дзеўках, пайшла за яго замуж? Дзіва што так!.. Іванёнкі адвеку разважлівыя.

Ён разумеў, што трэба пакінуць Насцю і Лізу адных, але чамусьці не мог падняцца з месца. А дома што? Зноў размовы пра гаспадарку, цешчыны скаргі на жыццё, Дашына нямогласць — страшны аднастайны сум.

— Ну, дык якія ўказанні будуць? — спытаў ён.

Насця страпянулася ад думак, неяк здзіўлена пагледзела на яго, быццам не разумела, пра што ён пытаецца.

— Пастановы чытаў? Вось і рабі вывады. Пагавары з людзьмі. Калі кожны са сваіх запасаў здасць у калгас па пуду збожжа, дык на першы час будзе чым сеяць.

— Дзе ж яны возьмуць? Людзі ў свет ездзяць па хлеб. Дык хіба з тых двух-трох пудоў, што прывязуць, хто-небудзь аддасць пуд калгасу? Дзіўна ты разважаеш.

— Другога выйсця пакуль няма.

Язэп падняўся. Сухі тон Насцінай парады яму не спадабаўся.

— Пагаварыць з людзьмі можна, а карысці з гэтага ніякай,— сказаў ён.

— Не зусім так,— адгукнулася Насця.— У панядзелак прыедзе Шугай. Ён па нашаму сельсавету ўпаўнаважаны. Тады і пагаворым.

З сельсавета яны выйшлі ўтраіх. Ліза, прыкрыўшы вочы, углядалася некуды ўдалячынь, дзе ў бліскучай віднаце чарнелі коміны на пагарэлішчах. Там хутка паявілася чалавечая постаць. Хтосьці на хвіліну як бы апусціўся пад зямлю (Язэп здагадаўся, што чалавек той зайшоў у зямлянку), потым зноў паявіўся і пашыбаваў сюды, да сельсавета.

— Адна ідзе,— азвалася Ліза.

Язэп пазнаў Бярозку і зразумеў, на што намякала Ліза: Варвара так і не знайшла фінагента. І яму зноў стала чамусьці сорамна і шкада гэтых адзінокіх жанчын.

— А-а-а, Каліна,— зухавата пачала Варвара,— я ўжо думала, што не застану цябе. Ёсць адна зусім дзельная прапанова. Ты, можа, і забыўся, які сёння дзень, а падружкі мае табе нябось і не напомнілі. Дык вось, Каліна, запрашаю цябе адзначыць з намі жаночы дзень. І не адвільвай...

Яна ўзяла яго пад руку, з выклікам паглядзела на Насцю.

— А што, Каліна, і праўда, пасядзі з намі, жанчынамі,— згадзілася Насця і запытала ў Варвары:— У цябе ўсё гатова? Тады пайшлі.

Язэп падумаў, што неяк няёмка будзе перад Дашай: пайшоў у сельсавет як бы па справе, а трапіў на гулянку. Думка мільганула і атухла. Адмовіцца ад запрашэння, здавалася, не было як.

У цеснай зямлянцы стаяў стол, накрыты абрусам. На ім у алюмініевай місцы вінегрэт. На талерцы селядзец, аздоблены кружочкамі цыбулі. Побач бляшанка свіной тушонкі, бутэлька з гарэлкай, закаркаваная папяровай затклай.

Іх сустрэла высокая, у вайсковай форме жанчына — урач, як здагадаўся Каліна. Яна неяк здзіўлена паглядзела на яго, быццам чакала пабачыць кагосьці другога, потым адбеглася ў куток, пачала падфарбоўваць вусны.

За стол селі ўпяцёх. Варвара, якая дасюль не пераставала гаварыць, раптам прыціхла. Ды і ўсе яны чамусьці адчувалі сябе скавана. Толькі ўрач з выглядам бывалага чалавека наліла ў шклянкі гарэлкі.

— Вып’ем, жанчыны, за наш бабскі дзень,— сумнавата ўсміхнуўшыся, сказала яна.— Бывала, у такі дзень нам кветкі прыносілі, цукеркі, падарункі, а цяпер, во, давядзецца гэтай шклянкай разбаўленага вадой сырцу абысціся. Крыўдна... І не на адзін год крыўда гэта прыйшла.

Яна выпіла, па-мужчынску панюхала скарынку хлеба. За ёй выпілі астатнія. У Язэпа чамусьці гуло ў галаве ды неадчэпна надакучала адна і тая ж думка: «А Даша незадаволена...»

Гарэлка толькі абвастрыла думку. Яму было шкада гэтых адзінокіх жанчын, і разбірала злосць, што Даша і цешча не цэняць яго, панукаюць ім. «Што ім яшчэ трэба? Хіба я не стараюся? А ім усё мала. Ненажэрныя Іва-

пёнкі. Маё жыццё знявечылі. Каб не яны, дык працаваў бы цяпер загадчыкам сабеса...»

Ад крыўды распірала грудзі. Хацелася адным махам парваць путы, што вяжуць яго з Іванёнкамі. Добрае не ўспаміналася. У галаву лезла адно благое.

— А ты, Каліна, чаго зажурыўся? — запыталася Насця.

Ён спахапіўся. Стала ніякавата, быццам Насця падслухала яго думкі.

— Я нічога...

— Ты — каліна, я — бярозка: давай вып'ем,— пацягнулася да яго са шклянкай Варвара і раптам заспявала высокім голасам:

...Но нельзя рябине к дубу перебраться,
Видно, сиротине, век одной качаться...

І заплакала, упаўшы галавой на стол. Ліза пачала суцяшаць яе, але Варвара плакала, уздрыгваючы вузкімі дзявочымі плячамі.

— Ненавіджу яго... ненавіджу... і цябе ненавіджу,— пакінулася яна на Язэпа.— Ты чаму тут? Ды я на месцы тваёй жонкі вочы выдрапала б табе...

Жанчыны супакоілі яе. Упрасілі Язэпа не звяртаць увагі: выпіла баба лішняе, дык ці варта слухаць. Але Язэпу было няёмка, горка і сорамна.

— Я пайду,— не вельмі рашуча сказаў ён.

Ліза і ўрач прасілі яго пасядзець. Ён аднекваўся, чакаючы, што Бярозка таксама закіне слова, каб ён застаўся.

— Няхай ідзе,— сказала яна.

Разам з ім выйшла Насця. Падала руку, не гледзячы ў вочы, сказала:

— Пасядзелі... Ты ўжо, Каліна, даруй. Яна такая, Варвара, бешаная. Ды і то сказаць — звар'яцееш. Яна гэтага фінагента ў вайну выратавала, вылечыла, у партызаны за ім пайшла. А ён цяпер на яе і глядзець не хоча. Ды каб хоць чалавек, а то дуб... А наша бабскае сэрца прыліпчывае.

— Я яму морду расквашу,— паабяцаў Язэп.

Насця паківала галавой.

— Любоў, мілы мой, кулакамі не вернеш. Ну, ідзі. Жонка, мабыць, чакае, хвалюецца...

Дома Язэпа чакаў Шугай. Мо таму ні Даша, ні цешча не папракнулі яго, што недзе праседзеў дзень.

Шугай падаў руку, пацягнуў носам паветра.

— А ты недзе на корак, чую, наступіў...

— Быў грэх,— прызнаўся Язэп.

— Садзіся, во, абедай, а то прастыла ўсё. І самі яшчэ не абедалі,— падала голас Даша.

Яна гаварыла ласкава, быццам і не было ніякага ранішняга разладу. І Язэпу зноў стала сорамна за свае думкі. «Яна мяне любіць... А я нягоднік... — думаў ён, пазіраючы на Дашу.— Сволач я, вось хто...»

— Я, Каліна, не так сабе прыехаў,— перапыніў яго думкі Шугай.— Ёсць справа, вялікай важнасці справа. Абедай, а тады пагаворым.

Язэп глядзеў на яго не разумеючы, якая справа прывяла Шугая ў Кляўцы...

## 22

Напрадвесні, калі прырэчныя вербы зацвілі жаўтаватымі, падобнымі на чмялёў, коцікамі, у раёне склікалі нараду старшынь калгасаў.

Язэп ішоў на нараду без усялякай ахвоты. Даша часта цяпер хварэла, скардзілася на болі ў галаве. Аднаго разу Язэп папрасіў урача прыйсці паглядзець жонку. Тая доўга слухала Дашу, хмурыла густыя, уразлёт, бровы. На трывожнае Дашына пытанне адказала стрымана і строга: «Дарэмна турбуецеся. Цяжарнасць ідзе нармальна». Урач папрасіла Язэпа правесці яе. А калі яны выйшлі з зямлянкі і крыху адышліся, пачала гаварыць зусім другое.

— Становішча вашай жонкі, Язэп Фёдаравіч, выклікае ў мяне трывогу. У мірны час такіх абавязкова кладуць у бальніцу.

— Што ў яе?..

— Мне здаецца, што ў яе хворыя ныркі. Ды і сэрца не вельмі... Баюся, што атручванне будзе ўзрастаць. І вы ведаеце, чым гэта пагражае? Пасляродавым псіхозам, а можа, і смерцю.

— Я даб'юся, каб яе паклалі ў бальніцу.

Урач паківала галавой:

— Гэта нялёгка, але паспрабуйце.

І вось, калі Язэп дамогся, каб Дашу паклалі ў бальніцу, цешча не дазволіла забіраць яе з хаты. Яна паіла Дашу нейкімі зёлкамі, і Язэп баяўся, што настоі гэтыя толькі пагоршаць Дашына здароўе.

Сёння ўначы Дашы было асабліва кепска. І тое, што ён кінуў жонку зусім хворую, і тое, што ісці па расхлябістай дарозе было нязручна і цяжка,— усё гэта раздражняла Язэпа.

Нараду праводзілі ў тым жа пакоі, дзе некалі адбыўся партыйны сход. На лавах цесна туліліся жанчыны — старшыні калгасаў. Мужчын было малавата. Такія ж, як і Язэп, інваліды або старыя ўжо дзядзькі, якіх не зачапіла мабілізацыя.

Язэп, прысеўшы ля дзвярэй на лаўку, прыглядаўся да старшынь калгасаў. Аднаго разу, да вайны, яму давялося быць на такой самай нарадзе старшынь. Тады ў прасторным клубе сядзелі адны мужчыны, здаравякі, як на падбор. З такімі людзьмі можна было варочаць горы. Але ж і тады парадкі не ўсюды ішлі добра.

Цяпер зала паціху шушукалася. Жанчыны баязліва і здзіўлена азіраліся, калі ўваходзіў хто-небудзь з раённага начальства. Было відаць, што не прывыклі да такіх пасяджэнняў, усё тут ім новае, незвычайнае, і яны куды лепш, мабыць, адчуваюць сябе дома.

«Пакуль мужчыны вернуцца з арміі, дык яны тут такога наробяць, што і за дзесяць год не паправіш,— думаў Язэп.— Працаваць няма каму, а без рабочых рук зямля зарасце не толькі палыном, а лесам».

Думкі ў яго былі невясёлыя яшчэ і таму, што ён не верыў сакратару райкома. Гаравы — не сакратар. І чаму чалавек трымаецца за гэту пасаду? Няўжо ён не разумее, што цяпер ён не ў партызанах? Чаму ён не скажа ў абкоме: дайце мне лягчэйшую работу?

Язэп ведаў, што Гаравога не раз ужо слухалі на бюро абкома і кожны раз запісвалі спагнанні. Але ён ведаў і другое, што спагнанні гэтыя не памогуць, што і ў абкоме добра ведаюць, які з Гаравога сакратар, і калі не вызваляюць яго ад работы, дык толькі таму, што шкадуюць яго. «Яго яны шкадуюць,— злосна думаў Язэп,— а людзей, якія церпяць бядоты, хто пашкадуе? Гаравы? Дык ён жа толькі ўмее крычаць. Дзе тут справядлівасць? Не можа чалавек працаваць, дык трэба вызваляць яго».

Да Язэпа падышоў Вышак, павітаўся. Перакінуліся некалькімі словамі.

— Чаму нараду не пачынаюць? — запытаў Язэп.

— У Гаравога дачка нарадзілася.

Язэп адчуў, як да твару прыліла кроў. Зрабілася горача. Потым ён падумаў, што дзяўчынка будзе падобна на

Клаву. Але яму было непрыемна чуць пра чужое шчасце, украдзенае ў яго, Язэпа.

— Ну і што? Людзі чакаюць,— сказаў ён.

Вышак здзіўлена паглядзеў на Язэпа, адказаў:

— Можа, з Мінска каго чакаюць. Павінен быў прыехаць хтосьці.

Маладзенькая, кірпатая дзяўчынка кончыла рэгістраваць старшынь калгасаў, сабрала са стала паперы і кудысьці знікла.

Вышак спакваля распытваў у Язэпа пра справы ў калгасе. Язэп расказваў неахвотна, бо спраў тых было няшмат. Гаворка ўвесь час скіроўвалася на тое, што цяжка жыць, што хутка вясна, а сеяць няма каму і няма чаго.

— Насенне, дарагі Каліна, пакрысе завозяць. Будзе насенне,— казаў Кузьма.— Наш раён лічыцца самым пацярпеўшым у акупацыю, таму і памагаць яму будуць больш, як другім. І трактары прыгналі ўжо. Бяда, дарагі Каліна, у тым, што мы тут, у раёне, акрэсленых пазіцый не маем.

— Як гэта? — здзівіўся Каліна.

— А так: Гаравы адно кажа, а старшыня выканкома — другое. Ды і ў райкоме адзінай думкі няма. Іншы раз на бюро такія спрэчкі ўзнікаюць, што аж боязна робіцца.

— Спрэчкі ніколі справе не шкодзілі.

— Гледзячы якія спрэчкі,— адказаў Вышак.— А мы часам так, па дробязях спрачаемся. Бяда наша, дарагі Каліна, у тым, што Гаравы, як бы табе сказаць, самаўпэўнены залішне. Усё сам ды сам. Ледзь хто слова скажа наперакор — крычыць: «Анархіст, дысцыпліну падрываеш!» Пачнеш пра цяжкасці гаварыць — яшчэ горш крычыць: «Капітулянт, у сілу партыі не верыш!» Разумееш, куды ён цаляе? А гэта яго бадзёрасць каму-небудзь падабаецца. Думаюць, яна ў яго таму, што моцны...

Вышак не паспеў выказаць усіх думак — у пакой увaходзіла начальства. Гаравы — наперадзе. Ён быў у кіцелі з высокім каўняром. Ішоў не пазіраючы на людзей. За ім памочнік нёс папку. Следам — старшыня выканкома, другі сакратар. Людзі чамусьці падняліся. Хтосьці, здаецца, загадчык сельгасаддзела выканкома Шугай, запляскаў у далоні. Астатнія падхапілі воплескі. Язэп бачыў, як другі сакратар паморшчыўся.

Усё было ўрачыста: цішыня ў пакоі, даклад Гаравога, выступленні старшынь калгасаў, апладысменты, якія ўзнікалі, як толькі пачынаў пляскаць у далоні Шугай. Але

якраз гэта больш за ўсё абурала Язэпа. Яму хацелася жывой гаворкі, шчырага абмену думкамі. «Няўжо Гаравы не можа сказаць проста і шчыра? Няўжо ён не разумее, што ў людзей бясхлебіца, што яны жывуць на адной зацірцы?» — думаў ён, слухаючы даклад. І раптам яму прыйшло ў галаву, што за гучнымі словамі Гаравога хаваецца звычайная абыякавасць, жаданне прыкрыць рэальныя беды бадзёрасцю, уцячы ад вырашэння тых жыццёвых задач, якія рашаюць самі калгаснікі.

Язэпу было балюча і сорамна, калі ён слухаў старшынь калгасаў. Яны чыталі прамовы надзвычай падобныя, як бы напісаныя адным чалавекам. Жанчыны даўно адвыклі ад кнігі, многія тыя кнігі бралі апошні раз ў школе гадоў дваццаць пяць назад і цяпер штораз збіваліся, чытаючы прамовы, як на смех, напісаныя кімсьці занадта па-вучонаму.

Пад канец нарады да Язэпа падсеў Шугай, зашаптаў:

— Табе, Каліна, трэба астацца пасля нарады. Ёсць адна важная справа. Хочам ваш калгас у перадавікі выводзіць. Ты як?

— Згодзен, канечне,— не задумваючыся, адказаў Язэп.

## 23

Гаравы прапусціў Язэпа ў кабінет паперадзе сябе. Пасля нарады ён выглядаў змораным і вялым. Язэп назіраў за ім. Гаравы не спяшаючыся скінуў скуранку, павесіў на цвік, паволі дайшоў да стала, сеў у крэсла і, абхапіўшы галаву рукамі, задумаўся, а можа, саграваў далонямі скроні, каб паменшыць боль. Ён здаўся Язэпу прыгнечаным, кволым чалавекам, якому надакучылі пасяджэнні, людзі, справы і нават сам сабе, такі хворы і бездапаможны. Было шкада яго, і ўсё, што накіпела раней на душы, цяпер адразу растала.

— С-с-сядай!.. Чаго ста-а-аіш?

Гаравы страпянуўся, выпрастаўся, жорстка паглядзеў на Язэпа. Такім Язэп прывык бачыць яго заўсёды, і нядаўняя жаласць да яго знікла. «За што яго пакахала Клава? За што?» — падумаў ён і сеў. Гаравы выклікаў сакратарку, загадаў запрасіць Шугая. Той зайшоў з папкай пад пахай, сеў на край крэсла насупроць Язэпа.

— Дык якія ты зрабіў вывады, та-а-арыш Ка-а-аліна? — спытаў Гаравы.

— Сеяць трэба.

— Гэ-эта ты правільна зразумеў.

— Толькі план сяўбы, які вы зацвердзілі нам, непасільны.

У Гаравога на момант як бы ашклянелі вочы. Звычайна пасля гэтага падыходзіў нястрымны гнеў. А цяпер сакратар стрымаў сябе.

— Няма такіх крэпасцей, якіх бы не бралі бальшавікі. Ты гэта ведаеш?

— Людзей малавата, коней няма, а сеяць трэба амаль даваенную норму.

— А я спа-а-адзяваўся. Ка-алі нашы хлопцы ха-а-ацелі цябе за жаніцьбу ра-азглядаць на бюро, супроць быў. Кажу: не ча-а-апайце Ка-аліны. Ён на-ам раён па-аможа ў людзі вывесці. Ён яшчэ пера-а-адавіком будзе...

— Перадавіком кожнаму хочацца быць, а толькі — як ты ім станеш, калі ў калгасе і сотні рабочых рук няма?

— Дык чаго ты спя-а-ашаешся? Па-а-аслухай нас, а тады ўжо спра-а-ачайся. Кажы, Шугай, пра свае планы.

Не па гадах рухавы Шугай палажыў папку, пасунуўся з крэслам да стала, потым усхапіўся, лёг грудзьмі на спінку крэсла.

— Дык вось, Каліна, ёсць такая думка, каб арганізаваць ад вашага калгаса заклік да ўсіх працаўнікоў сяла. Справа гэта, павінен табе сказаць, мае вялікае палітычнае значэнне. Мы тут у аддзеле ўсё прадумалі, табе толькі трэба сход правесці, каб, разумееш, ад народа ўсё гэта ішло.

Ён выцягнуў з папкі некалькі аркушаў, змацаваных вялізнай сашчэпкай. Падаў Язэпу.

— Чытай... Можа, якія заўвагі будуць.

Язэп хуценька прабег вачыма ўступ з агульных фраз, нібы ўзятых з даклада Гаравога, але на першым жа пункце абавязацельстваў спатыкнуўся:

— Дык гэта ж зусім нерэальна... За два гады асвоіць даваенныя плошчы! Папера — яна ўсё вытрымае і не пачырванее. А я ад сораму куды схаваюся?

— А-адзін ты, вядома, не асвоіш землі. А нас ты не ўлічваеш?

— Ты, Язэп Фёдаравіч, не турбуйся, паможам.

— Хіба што вы ў плузе пойдзеце,— усміхнуўся Язэп. Гаравому жарт не спадабаўся.

— З табой, Каліна, па-а-ас-ур'ёзнаму, а ты хаханькі

строіш. Ці, можа, у сілу партыі не верыш? Пад варожы ўплыў трапіў?

Намёк Язэп зразумеў. Быў узгарэўся, але астыў хутка.

— Я, Рыгор Барысавіч, у сілу партыі веру, не страчваў веры і ніколі не страчу яе. Але я партыю не хачу падводзіць. Калі я пад гэтай паперай падпішуся, дык кроў з носа, а павінен дамагчыся таго, што тут напісана. Трапачом быць я не хачу. Таму і выказваю вам свае думкі.

— Дык ты, Ка-а-аліна, не сумнявайся. Ваш калгас прыме абавязацельствы, яшчэ тры-чатыры падтрымаюць цябе... Зра-а-азумеў? Шугай да цябе паедзе. Каб у наступным нумары газеты абавязацельствы былі надрукаваны. А то я вас за зрыў мерапрыемстваў да партыйнай адказнасці прыцягну. А цяпер можаце ісці.

Шугай хуценька сабраў паперы, падхапіў папку пад паху і пабег, кінуўшы на развітанне Язэпу: «Дык заўтра каб сход сабраў. Прыеду з рэдактарам».

Дамоў Язэп прыйшоў, калі зусім сцямнела. Цешча паставіла зацірку, адышлася ў кут і, як заўсёды, завяла адтуль апрыклую ўжо гаворку:

— Ходзіш, во, дзетка маё, па гэтых нарадах. А з іх якая карысць? Дзіця, во, хутка народзіцца, дык хіба ж яго ў гэтай зямлянцы гадаваць? Калі ўжо з твайго старшынства ў хаце ніякай карысці, хоць бы лесу дамогся ды хату паставіў. А то знімуць з работы, дык і астанешся старац старцам.

Цешча гаварыла безупынку. Але сёння Язэп прамаўчаў. Яго з самага горада мучыла адна думка: чаму Гаравы выбраў іх калгас, каб цягнуць яго ў перадавікі па раёне? І, наогул, навошта цягнуць нейкія пяць калгасаў, калі астатнія сто пяцьдзесят так і астануцца без дапамогі і ўвагі? Ці правільна гэта?

Ужо лежачы ў пасцелі, Язэп знайшоў адказ на гэтыя праклятыя пытанні: «А вось чаму,— падумаў Язэп.— Гаравы хоча ўтрымацца на гэтых пяці калгасах. Мы яго падтрымаем сваімі плячамі, а ён нам будзе памагаць за кошт другіх... Ну, гэтак не выйдзе...»

Але, крыху падумаўшы, Язэп рашыў, што выйдзе ў Гаравога. Бо хіба сам ён, Язэп Каліна, не зацікаўлены, каб яго калгас хутчэй стаў на ногі?

А як жа будуць станавіцца на ногі другія? Нядобра выходзіць, але другога выйсця няма.

## 24

На запасных пуцях таварнай станцыі стаялі вагоны. Сяк-так адрамантаваныя, яны былі спісаны крэйдай, і па гэтых надпісах можна было даведацца, адкуль іх адправілі.

Язэп ішоў паўз вагоны, чытаў надпісы. Барнаул. Стаўрапаль. Чкалаў. Бугуруслан. Эліста.

Здавалася, уся краіна пасылала сюды вагоны з насеннем.

За вагонамі ля фанернай будкі стрэлачніка натоўпам стаялі жанчыны. У кожнай пад пахай мех.

Твары ў жанчын абветраныя, чорныя. І апрануты жанчыны дрэнна. Рэдка якая ў кажусе. Найбольш відаць зашмальцаваныя ватоўкі.

Жанчыны тупаюць на месцы, угінаюць галовы, каб схавацца ад ветру.

Вясна, а холадна. Вецер налятае аднекуль з-за Юр'евай горкі. Сыры, пранізлівы вецер.

«Колькі ж можа панесці жанчына? Пуд — найбольш. А то фунтаў трыццаць...— думае Язэп.— За адзін паход пудоў дванаццаць, больш не прынясём. На два гектары. А план вунь які! Калі кожны дзень прыносіць па дванаццаць пудоў, дык паловы плана не выканаем. А хіба ж вытрымаюць людзі кожны дзень насіць пуд за пятнаццаць вёрст... Чорт мяне падбіў падпісваць гэтыя абавязацельствы. Сораму цяпер не абярэшся. А Гаравому што? Абяцаў машыны. Ды дзе ён іх возьме? Коней таксама абяцаў, а іх няма».

У Язэпа мерзне адрэзаная рука. Здаецца, дубеюць пальцы і хочацца засунуць іх у цёплую рукавіцу. Звар'яцець можна!

Нарэшце прыходзяць вагаўшчыкі і Шугай. Шугай падыходзіць да Язэпа, вітаецца за руку.

— Прывёў сваю гвардыю?

— Прывёў...

— А падвод хіба не мог арганізаваць?

— Дык жа машыны абяцалі даць.

— Пад Берлінам баі, а ты машыны. Вайна кончыцца — машыны будуць.

Вусаты чыгуначнік памалу ідзе ля вагонаў, правярае пломбы. За ім дробна тэпае жанчына-вагаўшчык.

— Бабы! — крычыць яна.— Станавіся ў чаргу! Каб парадак быў...

Жанчыны, слухаючыся, выстройваюцца ў шарэнгу. Шугай аб'яўляе, што першых будуць адпускаць з далёкіх калгасаў. Чарга парушаецца.

— Цябе мы першага адпусцім,— кажа Язэпу Шугай.— Указанне Гаравога. Ясна?

Язэпу хочацца сказаць, што ён у гэтай пераваЗе не мае патрэбы, але маўкліва згаджаецца.

...Пуд — груз невялікі на першым часе. Жанчыны спяшаюцца дамоў і таму спачатку не адчуваюць цяжару. І Язэп, прывыклы да рэчавага мяшка за спіной, не адстае ад іх, мерае крокі, злёгку абапіраючыся на палку.

За горадам паступова сціхаюць размовы. Жанчыны замаруджваюць крок. Язэпу здаецца, што хтосьці цяжкі ўссеў на мяшок. Лямкі балюча ўразаюцца ў плечы. Не хапае паветра. І недзе ў горле балюча драпае, быццам дыхаеш вострым пылам.

— Заўтра і ног не пачуеш, і рук не падымеш,— кажа Мартысёнкава Варка і скідае мех на зямлю.

Жанчыны сядзяць на мяхах, выціраюць спацелыя твары. Язэпу здаецца, што ён ужо не ўстане. У яго мяху паўтара пуда, і гэтыя лішнія дваццаць фунтаў — цяпер непасільны цяжар.

— Я аднаго разу,— кажа Макарыха,— несла з мены два пуды бульбы. Аж з-за Глоданікаў несла. Во ўжо напакуталася. Баялася, што як скіну мех з плячэй, то ўжо не падніму. Пасля двое сутак ні рукой, ні нагой не магла паварушыць.

— Нагараваліся...

— Ды і яшчэ нагаруемся. Пакуль адсееешся, дык вочы на лоб вылезуць.

— Старшынька, можа, за нашу працу па кілаграмчыку выдзеліш... Галоднаму не дужа ў ахвоту кожны дзень па трыццаць вёрст рабіць.

Язэп ачнуўся ад думак. Дасюль ён слухаў размову неяк няўважліва. Адольваў яго свой клопат: дзе ссыпаць гэтае зерне, калі няма ні свірна, ні паветкі. Хіба ў зямлянцы якой. А калі ноччу ўкрадуць? Нават не зладзеі, а свае...

— Не, цёткі, гэтага я не магу зрабіць. Чым сеяць будзем?

— А калі мы цягаць мяхі перастанем, чым будзеш сеяць? Тут не пра заўтрашні дзень думаеш, а пра сённяшні.

— Не магу, цёткі,— упарта сказаў Язэп. Ён падняўся і, цяжка абапіраючыся на палку, пайшоў. Баяўся, што жанчыны ўгавораць яго падзяліць пуд пшаніцы.

## 25

Вясна прынесла забытыя за зіму пахі: волкі, гаркаваты водар зямлі і кіславаты заечай капусты. Вясна наступала дружна: шчодрыя цёплыя дажджы раптоўна пачыналіся ўранку, а к вечару выяснівала і добра прыпякала сонца. Зямля аж курылася парай. Лёгкі туман, ружаваты ў промнях сонца, сплываў у нізіны і равы.

У той год рана зацвіла лотаць. Як кінуць вокам жаўцелі паплавы, а на прыпёку рос сон, такі ж празрыста-сіні, як неба. На балотах цвілі белыя падснежнікі — здавалася, што там усё яшчэ ляжыць снег, што пасля кожнага дажджу яго прыбаўляецца ўсё больш і больш.

Кветак ніхто не рваў. Збіралі толькі дробнае шчаўе і заечую капусту, ды яшчэ смаржкі — самыя раннія грыбы.

Язэп пайшоў на Антонаўскія хутары, каб падсекчы бярозы. Вяршаліна адной з іх, у добрым ужо веку, была ссечана снарадам. Два вялізныя сукі, як рукі, высока працягваліся ў неба, нібы хацелі прыкрыць рану. Адтуль, з расшчэпленай вяршаліны, па гладкім ствале сцякаў на зямлю бярозавік. Кара была мокрая, як бывае мокры твар, калі чалавек моцна плача. Язэп не стаў падсякаць гэтай бярозы. Падсек дзве другія. Зрабіў лубкі, і першыя кроплі бярозавіку скаціліся па іх у прынесеную пасудзіну.

Язэп сеў на сухі грудок. Хацелася дачакацца, пакуль бярозы наплачуць хоць паўшклянкі соку.

Стаяла кволая цішыня. У вясновай сіняватай яснасці ярка відаць былі палі, пазарастаныя рыжаватым леташнім быльнягом, між якога зелянела маладая трава. Справа рунела жыта, аж сіняе ад сілы, якую набірала яно ў гэтыя цёплыя дні. Яно пачыналася адразу за бярозай, пад якой сядзеў Язэп. Сеялі жыта рэдка, а яно закусцілася, пагусцела і цяпер, як шчотка, было роўнае на ўсім полі.

Язэп успомніў, як летась мінёры выцягвалі з зямлі міны. Іх было шмат, розных: вялікіх, супрацьтанкавых, і малых, супрацьпяхотных. Мінёры склалі іх у кучу, і яна здалёк была падобна на грудок камення.

«Не поле, а пастка: куды ні ступі — смерць»,— казаў яму старшы сяржант.

І вось цяпер на гэтым полі жыта. Язэп углядаецца ў яго. За баразной, якую праклалі, каб вада не цякла на палетак, добра відаць кожны жытнёвы кусцік. Потым жыта будзе каласавацъ, цвісці, налівацца зернем.

Па руні прабег вецер. Узляцеў жаўранак, зазвінеў уверсе на адным месцы. Мёртвае поле зноўку ажыло...

Першы раз за доўгую зіму Язэп адпачываў, цешыўся цішынёй і яркімі фарбамі палёў. Было добра ляжаць на ўгрэтай зямлі, пад сонцам, што лашчыла твар, пад подыхамі паўднёвага ветру, які кратаў чупрыну.

У цішыні часта і звонка падалі кроплі бярозавіку ў бляшаны бачок ды ледзь чутна шапацела голле. Яно вісела, як косы, над самай Язэпавай галавой, ацяжаранае ўжо смалістымі пупышкамі.

Язэп успомніў, як калісьці хлапчукамі яны бегалі басанож у Давыдкаў гай, пілі там бярозавік, пераварочвалі, білі гладышы, а потым уцякалі. А за імі гнаўся проставалосы Давыдка ў белай, за калена, кашулі і крычаў: «Ату іх, ату, зладзеяў». На Давыдкавай кашулі звінелі тры Георгіеўскія крыжы.

Гэтыя крыжы, а не бярозавік былі той неадольнай сілай, што цягнула хлапчукоў у гай. З Давыдкі і яго крыжоў пацяшаліся не толькі малыя, але і старэйшыя. А дзед не зважаў на кпіны і, як бы знарок, нават у лазню ішоў з гэтымі крыжамі на грудзях.

Хлапчукі навучыліся ненавідзець крыжы і дзеда пасля таго, як настаўнік сказаў ім, што дзед ваяваў за крывавага цара Мікалая, што ён і цяпер спіць і ў сне бачыць, як зноў вяртаюцца паны з бізунамі. Хлапчукі ненавідзелі цара, паноў. Яны лёгка пачалі ненавідзець і дзеда з яго царскімі крыжамі.

Аднаго разу хлопцаў паклікаў бацька Мартысёнкавай Варкі, падхірцісты і слепаваты Захар. Было гэта вясной. Язэп прыгадаў вось такі ж сонечны дзень, цёплы і ціхі. Толькі тады і дрэвы стаялі ўжо ў зеляніне.

— Ну што, мальцы,— сказаў Захар, жмурачыся ад сонца,— слабакі вы з Давыдкам справіцца. Кажуць, што ён вас крапівой адхвастаў...

Хлапчукі абурыліся. Тады Захар ляпнуў па сцёгнах, зарагатаў:

— Хочаце, я навучу, як насаліць царскаму крыжаносцу? Ну, хто смелы?..

Смелымі аказаліся ўсе, але Захар выбраў Язэпа і Мішку, Дашынага брата. Ён завёў іх у сенцы, загадаў:

— Трымайце падалы, падшыванцы,— і пачаў насыпаць у падалы кашуль соль.

— Навошта гэта, дзядзька Захар? — спытаў Язэп.

— Каб насаліць крыжаносцу... Пойдзеце ў гай. Бярозавік ужо не цячэ, дык вы пасыпце соллю насечкі.

— А навошта? — здзівіўся Язэп.

— Тады пабачыш... Во смеху будзе.

Да гаю яны ішлі, не адчуваючы ніякіх сумненняў. Але ў гаі, калі да запаветных бяроз было некалькі крокаў, Язэп завагаўся. Раптам адчуў, што за ўсім гэтым стаіць штосьці агіднае, брыдкае, хоць і не мог зразумець што. Ну, яшчэ насыпаць солі ў бярозавік, дык гэта і праўда смешна...

Потым усё здарылася нечакана. Мішка крыкнуў: «Уцякай!» — і пабег. А ён, Язэп, на нейкую секунду затрымаўся і апынуўся ў дзедавых руках. Жылаватыя дзедавы рукі трымалі моцна.

— Ага, папаўся! — дзед схапіў Язэпа за вуха. Язэп адпусціў падол, і соль пасыпалася на зямлю. І адразу ж дзед перастаў круціць вуха.— Хто гэта даў табе соль? Бацька на такое цябе не пасылаў... Бацька ў цябе не такі...

І таму, што Давыдка пахваліў бацьку, Язэп прызнаўся, што соль даў Захар. Дзед паківаў галавой.

— Злодзеем быў, злодзеем астаўся,— сказаў ён.— Што ён — мне шкоду робіць? Не, дрэвам. Пасохнуць яны.

Давыдка перастаў трымаць Язэпа, але хлапчук не стараўся ўцячы. Яму стала страшна, што Давыдка раскажа пра гэта бацьку і той не пашкадуе дзягі.

— Дзед, не кажыце бацьку,— папрасіўся ён, хоць было сорамна прасіцца ў гэтага царскага халуя.

— Наробіце шкоды, а потым просіцеся... Ты як думаеш, чаму мяне Захар не любіць?

Язэп хацеў сказаць, што Давыдку не любяць таму, што ён царскі слуга, што ён ваяваў за цара, але чамусьці пабаяўся.

— Бо вы крыжы носіце,— сказаў ён і ўпершыню зблізку паглядзеў на крыжы.

— Дурань ты, дурань,— паківаў галавой дзед.— Хадзем, я цябе бярозавікам пачастую.

Язэпу не хацелася ісці да дзеда. Баяўся, што дзед расстаўляе яму пастку: заманіць у хату, а там заб'е або добра аддубасіць. Ведама ж, царскі паслугач. Але дзед узяў яго за руку і павёў.

У цёмных сенцах, куды прабівалася святло толькі праз адчыненыя дзверы, Давыдка ўзяў карэц, падышоў да вялізнай бочкі. Калі ён зняў дзяружку, Язэп убачыў у бочцы густую аўсяную рунь. Было дзіўна, што дзед вырошчвае авёс у бочцы, і Язэп падумаў, што мо і праўда дзед даўно страціў розум, як гэта сцвярджалі жанчыны. Але дзед схапіў рукою аўсяны чуб і прыпадняў яго. У нос ударыла чымсьці салодка-кіслым. Трымаючы адной рукой аўсяны чубок, спадыспаду белы ад пераплеценых карэньчыкаў, Давыдка другой рукой зачэрпнуў чагосьці карцом, падаў Язэпу.

— Выпі во, пакаштуй дзедава зелле.

Язэпу не хацелася піць, і карэц ён узяў у рукі толькі дзеля таго, каб не раззлаваць дзеда, але як толькі першы раз глынуў, ужо не мог стрымацца.

Гэта быў звычайны, але вельмі смачны бярозавік. Ён пахнуў вясною, бярозай і яшчэ чымсьці такім духмяным, што, здавалася, можна адразу выпіць усю гэтую бочку.

— Ну, смачна?.. Ага, бачыш, што ўмее рабіць дзед! Вы глуміце бярозавік, а з яго можна такое пітво рабіць, што язык праглынеш... Мне хіба бярозавіку шкада? Піце, бярозак у мяне многа. А навошта посуд біць?.. Старэйшых трэба паважаць, а дурняў, нават старых, не слухайся ніколі. Хочаш яшчэ?..

Язэп не мог адмовіцца. Ён піў і адчуваў, як уразаецца папружка ў жывот, але не мог адарвацца ад конаўкі. Дзед усміхаўся.

— А цяпер скажы ты мне, чаму табе мае крыжы вочы колюць?

У Язэпа тады балюча пачало ныць у жываце. Вось калі пачнецца расплата! Наліха было ісці за дзедам. Мог бы вырвацца. Дык не — пайшоў, як бычок на паваду...

— Бо яны царскія,— неахвотна сказаў Язэп.

Дзед як бы здзівіўся. Ён сеў на лаўку, пагладзіў крыжы рукой так, як звычайна маці гладзіць сваіх дзяцей па галоўцы.

— Іх я не толькі за цара палучыў, а за веру нашу і ацечаства. Цароў усякіх многа было, а ацечаства ўсягды адно. Што ж бы было, каб мы немца ў сваю зямлю запусцілі тады? Во і выходзіць, што я ўсіх ад чужаніцы абараняў, таму мне і крыжы далі. І не дай бог, каб вам, маладым, яшчэ калі давялося такое паспытаць, што мы на сваім вяку бачылі. Нам гора ў горле калючым комам сядзіць, і вы, маладыя, дзякаваць нам павінны, а не смешкі

строіць. Захару — таму ўсё роўна, якое ацечаства. Ён злодзей быў, ды і памрэ ім. У вайну Захар грабіў людзей у Ілаўскім рове і таму помсціць мне, што я брата ягонага застрэліў. А толькі няпраўдай век не пражывеш.

Даўно гэта было. Выпадак той быў забыўся і вось цяпер нечакана зусім прыгадаўся. Давыдкі, мабыць, ужо няма на свеце. І ніхто нават перад вайной не ўспамінаў пра дзеда з Георгіеўскімі крыжамі. Не было нагоды ўспамінаць, бо гай высеклі, хату хтосьці спаліў і яшчэ да вайны ад сельбішча не асталося і знаку. Толькі, мусіць, чалавечыя словы не знікаюць без следу. Вось жа праз многа гадоў успомніў іх Язэп, і яны ўразілі яго.

Язэпу было сорамна за дзіцячую сваю жорсткасць. «Чаму мы здзекаваліся тады са старога? Чаму смяяліся з яго крыжоў? Чаму помсцілі чалавеку, які, відаць, храбра ваяваў з тымі ж немцамі, з-за якіх цяпер я без рукі? Няўжо калі-небудзь вось такія самыя хлапчукі, як калісьці былі мы, будуць выскаляцца з нашых медалёў?»

У Язэпа сутарга сціснула горла. Ён успомніў, як чакаў, калі забяруць на фронт мужчын, якім была дадзена адтэрміноўка. Двух ужо няма. І чацвёра дзяцей Марыны Краснеўскай цяпер сіроты. Хай бы лепей тады не паяўлялася гэтая жорсткая думка. Цяпер было б лягчэй жыць на свеце. Здалося, што чацвёра дзяцей Марыны глядзяць на яго з дакорам. Язэп бачыў іх вочы, іх пакутлівыя твары, і яму захацелася ўцячы ад іх. Ён падхапіўся.

Свяціла сонца, а на латку весела дзыкалі восы, пілі салодкі бярозавік. Язэп не зганяў іх.

Напіўшыся бярозавіку, Язэп пайшоў дамоў. Але спяшацца не было чаго. Да вечара далёка, а тут выдалася такая нагода, што можна прайсціся па полі, пабыць на адзіноце са сваімі думкамі.

Недзе ў сінечы неба спяваў жаўрук. Яго трапяткая песня звінела над полем, як струна на скрыпцы. І ўсё навокал сцішылася, нават вецер стаіўся ў леташняй парудзелай траве.

Язэп, задраўшы галаву, доўга ўзіраўся ў неба; чамусьці вельмі хацелася ўбачыць жаўрука. Перад вачыма паплылі ружаватыя плямы, круглыя, як пятакі, але жаўрука ён так і не ўбачыў. Адтуль, з паднябесся, даляталі толькі трымклівыя, пяшчотныя гукі. Яны абуджалі ў Язэпа нейкія невыразныя пачуцці...

У вёсцы Язэпа чакалі мінёры і Шугай. Як і летась,

мінёрамі камандаваў той жа васпаваты, з рыжаватымі брывамі старшы сяржант.

Шугай узяў Язэпа пад руку, адвёў убок. У яго позірку Язэп убачыў нейкую трывогу.

— Прамахнуліся мы, таварыш Каліна,— сказаў ён,— але цяпер адступаць няма куды. Сам ведаеш, няма такіх крэпасцей, якіх бы мы не бралі...

Язэп здзіўлена пазіраў на яго. Пра што кажа Шугай? Пра абавязацельствы? Дык хіба ён, Язэп, не казаў тады, што абавязацельствы не пад сілу іх удовінаму калгасу? Добра, што Шугай зразумеў гэта цяпер...

Але Шугай загаварыў пра іншае:

— Землі вашага калгаса якраз ляжаць у зоне колішняй нямецкай абароны. Старшы сяржант, прынясі карту,— гукнуў ён васпаватаму.

— Ды я гэта і без карты ведаю,— сказаў Язэп.

— Тым лепш. Дык вось якая справа. На нас увесь раён глядзіць. Не толькі ж у цябе аднаго гэтыя міны. Па нашых разліках вось тут,— Шугай паказаў асцінай на карце ўчастак, што ляжаў паміж Астапаўскім ровам і вёскай,— мін няма. Так што сеяць пшаніцу прыйдзецца на гэтым полі.

— Я не згодзен,— крыху падумаўшы, сказаў Язэп.— Нам трэба засеяць урадлівыя землі, а не аблогі. І таму трэба абавязкова размініраваць бульбянішча. На тым полі, што паказваеш на карце, ніколі нічога не расло.

— Дрэнных земляў няма, ёсць дрэнныя гаспадары,— злосна сказаў Шугай.— Сеяць будзем тут. Ясна? Астатняе пасля размініруем, улетку.

Язэп разумеў, што Шугай баіцца, каб не сарваліся яго планы сяўбы. Яму гэта важней за ўсё. А Язэпу важней за ўсё ўраджай, і таму ён будзе сеяць на лепшых землях. Чым выкідаць насенне на пустэчу, дык лепей яго раздаць людзям.

— Людзі павінны спадзявацца на ўраджай, а калі мы будзем сеяць тут, дык спадзявацца няма на што. Давайце, хлопцы, спачатку вось гэтае поле размініруем,— сказаў Язэп мінёрам.

— Нам усё адно,— адказаў старшы мінёр.

— Ты, Каліна, не самавольнічай... За зрыў сяўбы сваім партыйным сумленнем адкажаш.

— І адкажу...— раззлаваўся Язэп.

## 26

Увечары з сельсавета прынеслі пошту. Язэп быў дома, калі па яго прыбегла Каця.

— Хадзем да нас,— сказала яна.— Макарыха ліст атрымала. Бяда ў яе.

Язэп ведаў, што ад Макара месяцаў пяць ужо не было пісьмаў. Цётка Хрысціна не раз хадзіла ў ваенкамат, і нарэшце ёй паведамілі, што Макар прапаў без вестак. У пачатку вайны такая вестка нікога не здзівіла б, а цяпер выклікае абурэнне. Як мог чалавек прапасці без вестак?

Язэп тады пісаў у часць, але яму не адказалі, і гэта было яшчэ больш дзіўна. І вось пісьмо...

Макарыха сядзела на падлозе ля печы, ківалася з боку на бок, як тады на малацьбе, калі плакала па сваіх дзецях. У яе былі сухія і нейкія абыякавыя да ўсяго, застылыя вочы. У руцэ яна трымала пакамечаны ліст. Язэп забраў яго.

Пісала нейкая не вельмі пісьменная жанчына, мабыць, нянька.

«...ішчо ён плачыць, калі спяць усе. Я гаварыла іму, каб напісаў, а ён не хочыць слухаць. Гаварыт, што нікому такі не патрэбны. Жалко іго дужа, і пішу я: калі у вас есць сэрца, дык прыедзеце мужа свайго праведаць...»

Язэп нічога не мог зразумець. Што здарылася? Каця растлумачыла:

— Калека ён... Відаць, страшны калека, калі не хоча дамоў вяртацца.

— Глупства якое...— сказаў Язэп.

Макарыха прыціскала рукі да грудзей і хісталася, як галінка пад ветрам.

— Язэпка, сыночак, паедзем мы з табой. Адна я не ўгавару яго. Ён жа калі што задумае, дык не адгаворыш.

Язэп толькі цяпер падумаў, што не пацікавіўся, дзе ляжыць Макар, куды па яго трэба ехаць. Але гэта не мела значэння.

— Добра, цётка, паедзем...

Макарыха адразу ж пачала збірацца ў дарогу. Зборы былі кароткія, і Язэп толькі паспеў забегчы дамоў, каб сказаць, што едзе з Макарыхай па яе мужа.

— Табе ўсё больш за другіх трэба,— нездаволена сказала цешча.— Пакуль калгаснае не пачыналі сеяць, хоць бы свой агародзік ускапаў.

— Мама!.. Ну што ты кажаш? — дакорліва сказала Даша і хуценька пачала збіраць харч у дарогу.

Шпіталь быў пад Мінскам на канцы невялічкай вёскі. Кіламетраў чатырнаццаць Язэп з Макарыхай ішлі вузкай разбітай шашой між маладога ельніку. У вайну немцы высеклі лес паўз дарогу, і цяпер на просецы буялі маладыя ялінкі. За просекай то тут, то там зелянеў бярэзнік з лазовай падсадай. Тут дрэвы распускаліся, відаць, раней, бо на Падзвінні яшчэ не было ніводнага лісточка. І птушак тут было больш. У лазовых кустах усё яшчэ цёхкалі салаўі, на ўсе галасы спявалі сініцы і лясныя шпакі...

Ісці было добра. Ранак выдаўся слаўны. Цёплы, сонечны, з першай нясмелай расой. Але Язэпа чамусьці не кранала гэта. Ён думаў, ці пазнае Макара і той ці пазнае яго. І як ён сустрэне жонку? І наогул, як усё гэта будзе, калі яны паявяцца ў палаце?..

На абочыне дарогі яны ўбачылі фанерны шчыт. Вялізнымі літарамі на ім надпіс: «Эвакашпіталь. в. Баравая. 14 км». Справа на ўзгорку стаяў рабы ад ваеннай маскіроўкі будынак, глухі і пануры. Да яго ляпілася некалькі баракаў. Навокал было пуста і няўтульна.

Язэп пасадзіў Макарыху на лаўку, а сам пайшоў высветліць, ці праўда, што тут ляжыць Макар Кульба. Пажылая жанчына ў акулярах сустрэла яго на двары, спытала:

— Вы па каго прыехалі?

— Я хацеў пра Макара Кульбу спытаць...

— А вы хто яму? Сваяк?

— Не... З адной вёскі мы...

— Ага... Вам да галоўнага ўрача трэба... Ён дазволіць...

Яна правяла Язэпа да нейкай хаты з марлевымі фіранкамі на вокнах.

— Заходзьце смела...

Язэп рашуча пастукаў у белыя, непафарбаваныя дзверы.

У кабінеце сядзеў стомлены падпалкоўнік медыцынскай службы. Пад вачыма ў яго — сіняватыя кругі, на пераносіцы — пучок маршчынак.

— Вы па каго прыехалі? — спытаў ён, і Язэп, пачуўшы гэтае пытанне другі раз, раптам зразумеў, якія клопаты трывожаць тутэйшы персанал.

— Па Макара Кульбу,— па-вайсковаму адрапартаваў Язэп.

Падпалкоўнік з цікавасцю паглядзеў на Язэпа.

— Вы сваяк?..

— Не. Я старшыня калгаса...

— Гэта добра. У яго нікога няма. А жонка кінула яго.

Цяпер здзівіўся Язэп:

— Жонка прыехала са мною,— сказаў ён.

— Нічога не разумею...

Язэп пачаў расказваць пра пісьмо са шпіталя, пра тое, як Хрысціна адразу ж пачала збірацца ў дарогу. Падпалкоўнік нахмурыў бровы.

— Яўны псіхоз,— сказаў ён.— Рыцарскае самаахвяраванне: я інвалід і таму не хачу псаваць сваякам жыцця... Мода!.. Так, мода!.. Выдумаў, што нават жонка адмовілася. Дзе яго жонка?.. Як завуць яе?.. Хто яшчэ ў яго з сям'і ёсць? Паклічце жонку.

Макарыха сядзела на лаўцы. Яна падхапілася, калі ўбачыла Язэпа, прыціснула рукі да грудзей.

— Ці тут жа ён?..

— Тут, цётка... Вас галоўны ўрач кліча.

Падпалкоўнік павітаўся з Макарыхаю, расказаў, што муж яе вельмі сумаваў па дому, але ўвесь час баяўся пападаць пра сябе голас. Сказаў, што Макарыха вельмі добра робіць, надумаўшы ўзяць мужа дамоў.

— Хадзем, я правяду вас да яго,— сказаў падпалкоўнік і павярнуў у калідор.

Язэп ішоў за падпалкоўнікам, азіраючыся на бакі. Дзверы былі зачынены, і ніводнага гуку не далятала з палат, быццам там ляжалі мерцвякі. І толькі ў самым канцы калідора Язэп убачыў прачыненыя дзверы. Ён зазірнуў у іх. На імгненне ўбачыў роўны рад ложкаў з нейкімі рагулінамі над імі і на падушцы васкова-жоўты твар з чорнымі вачыма.

— Пачакайце мяне тут,— сказаў падпалкоўнік і хуценька зайшоў у палату.

Адтуль даляцелі галасы і сярод іх глухаваты голас, які чамусьці пярэчыў падпалкоўніку. Язэп убачыў, як Макарыха хістанулася, быццам пад ёю здрыганулася зямля, потым выпрасталася і адчыніла дзверы. Яна ўвайшла ў палату, прамая і нібы адзеравянелая, спынілася ў парозе. Язэп убачыў той жа роўны рад ложкаў, галоўнага ўрача, які стаяў, згінаючыся над сівым, веліканосым чалавекам.

Чалавек, што ляжаў на ложку, з усяе сілы цягнуў на сябе карычневую коўдру, а падпалкоўнік трымаў яго за рукі і штосьці гаварыў. «Гэта ж Макар»,— падумаў Язэп

і здзіўлена паглядзеў на коўдру, што шчыльна прылягала да матраца там, дзе павінны былі быць ногі. У гэты час Макарыха ціха, прыглушана крыкнула, хатулёк мякка ўпаў на падлогу, а яна, распасцёршы, як крылы, рукі, кінулася на ложак, зграбла коўдру і пачала туліць яе да твару.

Гарачы камяк сціснуў Язэпавы грудзі. Было такое адчуванне, што зараз не хопіць паветра, закружыцца галава, і тады ён, Язэп, не здолее ўтрымацца на нагах.

Скрозь слёзы Язэп бачыў нейкія невыразныя твары, што ўздымаліся з падушак, нейкія здзіўленыя вочы і перакошаныя раты, але чамусьці нічога не чуў. Потым яго слых разануў кароткі, як перадсмяротны крык, жаночы плач. Язэп зноў убачыў Макарыху на каленях перад ложкам і пачуў яе галашэнне. Цётка білася аб ложак галавою і галасіла, паўтараючы адны і тыя ж словы:

— Не зберагла я іх, Макарка... А не зберагла ж я іх, Макарка... Не зберагла ж я іх...

Не маючы сіл стрымацца, Язэп выбег на калідор, падышоў да акна. З яго быў відаць лес, заліты сонечным ззяннем, зялёная палянка перад ім і двое дзяцей на ёй, якія бегалі басанож па траве — мабыць, лавілі матылёў.

І адразу Язэп успомніў адзін вось такі сонечны вясновы дзень.

Даўно гэта было, а запомнілася. Ён, Язэп, сядзеў у бацькі на карку, трымаўся за шыю. Бацька нёс яго на Валатоўкі, дзе ў яго быў шнурок пясчанай зямлі. На вузкай сцежцы ім сустрэўся доўгі чалавек у белых кужэльных штанах, падкасаных да каленяў,— Макар Кульба. Чалавек нёс таптуху і вязку карасёў, нанізаных на лазовы прут.

— Наследнічка нясеш? — запытаўся Макар у Язэпавага бацькі.

— Ды ўжо ж, хачу да зямлі прыручыць,— адказаў бацька.

— У цябе адзін, а ў мяне двое... Калі раздзялю хутар, дык абодва жабракамі будуць,— сказаў Макар.

— Калі тое будзе...

— Дзеці растуць хутка. Не паспееш азірнуцца, а яны ўжо мужчыны.

— Былі б мы жывы ды здаровы...

— Што праўда, то праўда... Пакуль ногі ходзяць, а рукі працуюць — не пампром...

Па лужку ўсё яшчэ бегалі дзеці. Язэп назіраў за імі, а сам думаў пра Макара. Што ён будзе рабіць? Як жыць

без ног? Можа, і Макару на шпітальнай койцы не раз прыгадвалася тая размова з Язэпавым бацькам. Селяніну без ног — магіла. Можа, таму ён і не хацеў пісаць дамоў? А ўсё вайна... Вайна, каб яна згарэла. Каму была патрэбна гэтая вайна? Гітлеру? А людзям хопіць пакут надоўга... Да самага таго часу, пакуль памруць апошні інвалід і апошняя ўдава, дзяцей якой асіраціла вайна. Дык як жа магло здарыцца, што адзін чалавек, які хацеў вайны, змог увесці ў зман цэлы народ? Чаму людзі пайшлі следам за злодзеем, а не за сумленным і добрым чалавекам?..

— Зайдзіце сюды,— пачуў ён голас і зразумеў, што гаворыць падпалкоўнік.— Калі вы забераце Кульбу? Лепей было б заўтра. У нас не гатовы пратэз...

«Які пратэз? — падумаў Язэп.— У яго ж няма ног. Які пратэз? Пра што ён?»

— Пераначаваць можна ў вёсцы. Я скажу, каб вас уладзілі з начлегам...

Язэп не адказаў. Яму хацелася аднаго: хутчэй пайсці адсюль...

## 27

Макар сядзеў на лаўцы ў кутку, паголены і свежы з твару. На падлозе стаяла каляска на чатырох роліках. Язэпа ўразілі Макаравы рукі, вузлаватыя і занадта доўгія. Здавалася, што яны падаўжэлі за вайну. Потым Язэп здагадаўся, што рукі не падаўжэлі — пакарацеў сам Макар.

Макар сядзеў на скураным пратэзе і з той самай мінуты, як яны селі ў цягнік, не пераставаў гаварыць. А Хрысціна сядзела маўклівая і строгая, з моцна сціснутымі вуснамі і тужлівым позіркам выцвілых вачэй.

У вагоне было тлумна і цесна. На кожным прыпынку заходзілі пасажыры, шумна рассаджваліся на лаўках, вялі бясконцыя размовы пра вайну, пра расстрэлы, пра смерць блізкіх людзей. І яшчэ спявалі то суровыя, то тужлівыя песні. Песні не заціхалі ні на мінуту. У іх людзі, мабыць, хацелі забыцца на гора, што падарожнічала з імі ўсе гэтыя гады.

Праз запыленае падвойнае акно вагона Язэп бачыў поле, зялёнае пасля першага дажджу, высокае пнёўе ў прыдарожнай паласе, рыжыя пагоркі і невялікія азёрцы веснавой вады ў нізінах. Вельмі часта трапляліся чорныя глыбы нямецкіх бункераў, абнесеныя дротам. Бункеры сляпа пазіралі вузкімі шчылінамі байніц і разяўленымі

дзвярыма. Воддаль былі вёскі. Ля адной з іх на лужку пасвіліся каровы, і Язэп пазайздросціў людзям гэтай шчаслівай вёскі. Божа, калі ж і ў іхніх Кляўцах з'явіцца жывёла і людзі вылезуць з зямлянак?

На нейкай станцыі цягнік стаяў доўга. Праз акно відаць былі перон і станцыйны будынак, ужо сяк-так адрамантаваны. За ім ішоў гандаль. Язэп бачыў, як пасажыры, не дачакаўшыся нават прыпынку цягніка, сігалі з падножак, беглі да белых драўляных сталоў, каб купіць порцыю бульбы, прыпраўленую рудой поліўкай, кавалачак сала, яйка або агурок. Мужчыны часам неслі, хаваючы пад палой, бутэльку самагонкі.

Макар, прыпаўшы тварам да шкла, нецярпліва сачыў за чужым, трапяткім жыццём. Язэп ведаў неспакойны Макараў характар і разумеў, што яму не сядзіцца на сваім пратэзе. Хочацца пабегчы на перон, пахадзіць сярод людзей.

Макар варушыў плячыма, быццам скідваў з сябе цяжар, што прыціскаў яго да лаўкі. А цяжар ляжаў на ім, навечна прыкаваны. І Макар горбіўся пад ім, як бы старэў увачавідкі.

— Можа, Хвёдаравіч, прынясеш бутэльку? — запытаў ён, не адрываючыся ад акна.

Макарыха паківала галавою, кволым голасам сказала:

— Чым жа я цябе карміць буду?.. У шпіталі вас не крыўдзілі...

Макар неяк спалохана сцяўся і доўга маўчаў, аж пакуль паравоз не вывез вагонаў у поле.

— Ільну, можа, Хвёдаравіч, пасееш? Я мог бы вяроўкі віць.

Язэп прамаўчаў. Успомнілася, як праводзілі яго самога са шпіталя. Перад выпіскай ён не знаходзіў сабе месца, хадзіў як ачмурэлы. Хацелася хутчэй паехаць дадому, і чамусьці да слёз было шкада пакідаць шпіталь, свой ложак у кутку. Яшчэ быў страх перад мірным жыццём, у якім трэба клапаціцца пра сябе, у якім ніхто не прынясе табе пайка, у якім няма атэстатаў, клапатлівых, хоць і сварлівых, старшынь, мітуслівых кватармайстраў, што турбаваліся аб салдацкім быце.

Язэп усю вайну чакаў, калі ж нарэшце вырвецца з-пад армейскай прынукі, а давялося выпісвацца — і спалохаўся.

Яго выклікаў да сябе намеснік начальніка шпіталя па палітчасці капітан Шыла.

— Можа, астанецеся ў нас? — запытаўся ён.

Ледзь стрымліваючы спакусу згадзіцца, Язэп адказаў, што хоча дамоў, і дадаў:

— Праз год-два шпіталі закрыюць, так што калі-небудзь вяртацца дамоў трэба. Тады будзе цяжэй...

Капітан задумаўся. Ён пазіраў кудысьці за акно, на ціхі гарадок з драўлянымі тратуарамі ля платоў і пясчанымі нямошчанымі вуліцамі. На ўскраіне, дзе пачыналася пясчаная круча, на вузкай стужцы лужка пасвіліся козы.

— Та-ак,— памаўчаўшы, сказаў капітан,— дэмабілізоўвацца давядзецца многім. А як яно сустрэне, гэтае забытае жыццё? Я, сяржант, да вайны загадваў хатай-чытальняй у сельсавеце. Другой спецыяльнасці няма. А цяпер у нас (я са Смаленшчыны) не тое што клубаў — хат няма. Куды ты, капітан Шыла, пойдзеш?..

Нампаліт, мабыць, спахапіўся, што гаворыць зусім не тое, што належыць яму казаць, праводзячы інваліда дадому. Ён раптам па-вайсковаму пачаў гаварыць:

— Таварыш сяржант, жадаю вам шчасця. Спадзяюся, што вы астаняцеся ў страі байцоў. Не забывайце вялікіх традыцый нашай арміі. Радзіма вас не пакіне...

Цяпер Язэп думаў пра тое, як часта да вайны і на першым часе адступлення ён чуў шмат прыгожых, тэмпераментных слоў, а па-сапраўднаму яны сталі ваяваць тады, калі пад раніцу ў іх траншэю прыйшоў камісар, папрасіў закурыць і нечакана сказаў: «Адступаць няма куды — усё... Хто хоча перад боем уступіць у партыю, прашу заявіць аб гэтым пісьмова або вусна...»

Тады Язэп і паступіў у партыю, неяк адразу зразумеўшы, што і праўда адступаць далей нельга.

І дагэтуль камісары гаварылі, што далей адступаць нельга. Але да гэтых слоў яны дадавалі столькі шумных і бадзёрых, што за імі гублялася адчуванне небяспекі.

Вялікія справы робяцца моўчкі. І цяпер Язэп думаў, што капітан Шыла мог бы знайсці тады не такія гучныя словы, якія гаварыў. Іх Язэп цяпер шукаў, каб сказаць Макару. Ён ведаў, што такія словы ёсць, што яны павінны быць, прачулыя і шчырыя, але ў галаве ўзнікалі тыя ж, што казаў яму капітан. «Радзіма не пакіне,— думаў ён.— А ў радзімы вунь колькі клопатаў. Кожны чакае ад яе, каб памагла. Дзвесце мільёнаў чакаюць. Не ад сябе, а ад яе. А чакаць трэба ад сябе. У гэтым сэнс. Бой выйграюць франты, а вядуць яго салдаты. У рукапашным адзін баец падстрахоўвае другога. Так і тут... Бой, выхо-

дзіць, не скончаны. Мір толькі таму мір, што снарады не рвуцца. А бой ідзе».

— А ты, дзядзька, хамуты здолееў бы рабіць? У нас ні хамутоў, ні лейцаў — нічога няма.

Макар не паспеў адказаць. Недзе ў канцы вагона надрыўным басам закрычаў чалавек:

— Брація і сёстры! Па-аможам няшчасным інвалідам. Хто колькі можа... У каго сэрца не камень, а рука — не пратэз.

Язэп выглянуў на вузкі, застаўлены скарбам праход. Ад дзвярэй павольна рухаліся два інваліды, совалі людзям шапкі.

«І гэта таксама дапамога?» — падумаў Язэп і паглядзеў на Макара. Той збянтэжана азіраўся. Вочы нецярпліва чакалі інвалідаў. А тыя памалу ішлі, выкрыкваючы жаласныя словы.

Нарэшце яны паявіліся там, дзе сядзелі Язэп і Макар. Высокі хударлявы чалавек у паношаным шынялі раптам запнуўся на паўслове, збянтэжана прамармытаў, убачыўшы бязногага на лаўцы:

— Са сваіх не бяром,— і, угнуўшы галаву, пайшоў на выхад.

— Бедныя,— расчулена сказала Хрысціна.

— І так бывае,— сказаў Язэп, крыху збянтэжаны тым, што адбылося.

Макар, пабялелы, маўчаў. Потым ён павярнуўся да Язэпа, сказаў:

— Дарэмна вы мяне везяце. Лепей бы я назусім там астаўся...

У Язэпа сціснула грудзі. Ён пракаўтнуў горкі камяк, паклаў руку на Макарава плячо.

— Што ты сказаў, дзядзька Макар? Як ты мог сказаць такое?!

## 28

Шугай, як толькі Язэп пераступіў парог зямлянкі, напаў на яго з папрокамі:

— Ну, брат, і дадумаўся! Ты ж старшыня калгаса, разумееш — старшыня, кіраўнік. А ты што робіш? Кінуў-рынуў і паехаў. Хіба не было каго паслаць па гэтага інваліда? Эх ты!..

За дарогу Язэп стаміўся і таму няўважліва слухаў Шугая. Ён сеў за стол.

Шугай, асядлаўшы табурэтку, пазіраў, як Язэп чэрпае драўлянай лыжкай зацірку.

— Ну, як там на свеце? — спытаў Шугай пасля.

— Сеюць ужо. Жыта ўсюды добрае.

— Жыта і ў цябе добрае. Трэба хутчэй яравыя сеяць. Ячмень пасееш ля Астапаўскага рова, дзе нямецкія батарэі стаялі. Мы поле гэтае ўзаралі. А пшаніцу за Астапаўскім ровам, на Валатоўках. Там цяпер мінёры працуюць, і трактар я туды паслаў.

Язэп так і не данёс лыжку да рота. Зацірка разлілася.

— Ты што, звар'яцеў? Ды там зроду нічога не расло!

Даша зрабіла выгляд, што нічога не чуе. Шугай збянтэжана азірнуўся на яе: мабыць, было няёмка, што старшыня калгаса крычыць пры жонцы на загадчыка аддзела.

— Зямля не такая дрэнная, як табе здаецца. Зноў жа — аблога. Канечне, каб гною падкінуць, лепей было б. Я вось табе яшчэ не сказаў: атрымана разнарадка на трафейных кароў. Табе выдзелена аж сто галоў. Хутка прыгоняць. Так што гной будзе, і як толькі ўсходы падцягнуцца — правядзеш падкормку.

— Ідзі ты з падкормкай... На Валатоўках, апроч зязюльчынага лёну, нічога не расло.— Язэп бегаў па зямлянцы з кута ў кут.— Не, ты разумееш, што кажаш? Мы гэтую пшаніцу на сваім гарбу за пятнаццаць вёрст насілі, а хочаш, каб яе ў пясок высыпалі! А ячмень на гліне хіба вырасце? Я тваіх загадаў выконваць не буду!..

— Гаравы загадаў, каб праз дэкаду адрапартавалі, што яравыя пасеяны. Гэта ты хоць разумееш? Ён, сам ведаеш, слоў на вецер не кідае.

— Няхай сам сее, такі разумны...

— Сеяць будзеш ты...

— На Валатоўках я сеяць не буду.

— Дзе ж ты пасееш?

— На старых агародах. Там, кожны ведае, уродзіць.

— Дык там жа міны!..

— А мінёры навошта?

— Я табе так скажу: мінёры па плану ў цябе яшчэ два дні папрацуюць і ў другі калгас паедуць. Дык яны хаця б тое поле, дзе мін мала, праверылі. І так усё табе ды табе. На ўсю МТС два трактары, дык адзін на цябе працуе. От узаром Валатоўку, засеем — і трактар забяром.

У Язэпа загуло ў галаве.

— Гэта ты ўсё вінаваты! — накінуўся ён на Шугая.— Адрапартаваў ужо, што сяўбу закончыў, цяпер выйсця

шукаеш. Не выйдзе. Я сам далажу, у якое ты нас становішча паставіў.

Шугай збянтэжыўся. Ён порстка падхапіўся з табурэткі, пачаў бегаць па зямлянцы. Яны сустракаліся на сярэдзіне, кідалі адзін на аднаго сярдзітыя позіркі.

— Слухай, Каліна,— нарэшце спыніўся Шугай.— Ну, давай цвяроза ўсё ўзважым. Гэтых тваіх агародаў і зямлі Антонаўскіх хутароў і за дваццаць дзён не размініруеш. А сеяць жа трэба. План жа ў нас. І не я, а ты прымаў абавязацельствы.

Язэпа гэта ўзарвала:

— Мне хлеб трэба, а не зводкі. І сеяць я буду там, дзе ён вырасце...

— Малады ты яшчэ і, як певень, задзірлівы. Не разумееш, што сяўбу зацягнеш. Ды цябе за такое Гаравы са свету зжыве.

— А хто ён такі? Сакратар,— дык не яму аднаму мой лёс вырашаць.

З печы азвалася цешча. Язэп нават не падазраваў, што яна тут.

— Чаго ты, дзетка маё, супроць ідзеш? Загадана, дык і рабі, не спрачайся. Жыта, дасць бог, уродзіць. Пераб'емся...

Каб не абвастраць і без таго вострай размовы, Язэп выбег з зямлянкі. Яго пацягнула на Валатоўкі, дзе цяпер, як казаў Шугай, працаваў трактар і дзе мінёры шукалі міны.

Валатоўкі — гіблае месца — знаходзіліся за Астапаўскім ровам, якраз на той нешырокай палосе, што не была замініравана фашыстамі. За імі, далей на поўнач, каліськці пачынаўся лес. Мабыць, лес быў і на Валатоўках, але яго высеклі, і тут утварылася пустка. Да вайны Валатоўкі спрабавалі асвоіць: сеялі лён, бульбу — нічога не радзіла. Прыжыўся тут толькі лубін.

З пагорка, за вайну аблыселага (раней на ім рос рэдзенькі алешнік, а на самай вяршыне раскашавала калматая, сукаватая яліна), відаць была вузкая палоска раллі і трактар на краі яе. Ля трактара ляжалі на зямлі трактарысты. Спалі, мабыць.

Язэп, пазіраючы на сонных трактарыстаў, спускаўся з пагорка.

Ногі грузлі ў пяску: увесь заходні схіл пагорка за вайну агаліўся, і чырвона-жоўты пясок праступаў з-пад рэдзенькай, чэзлай травы.

Адразу ж унізе пачыналася тая ўзараная палоска зямлі. Плугі вывернулі на паверхню жоўта-чырвоны пясок, часам дробны, як пыл, часам буйны, як жарства. Далей, к балоту, бялеў падзол. Язэп наступіў нагой на перавернутую трактарам скібу зямлі, і яна рассыпалася, як попел.

Пшаніца тут не ўродзіць. Нават насення не верне людзям такая зямля. Дык навошта сеяць? Здурэў Шугай, ці што? Людзі чакаюць першага мірнага ўраджаю. А з такой зямлі хіба можна чаго дачакацца! Проста Шугай нічога не разумее. Казаў, што зямля добрая, мяккая. Ну і дзівак. Збажыне не спаць трэба, а расці...

Дзяўчаты-трактарысткі, пачуўшы крокі, прахапіліся. Здзіўлена паглядалі на пусты Язэпаў рукаў, які гойдаўся ад ветру.

— Вы чаго разлегліся? Хіба рабіць няма чаго?

— Хіба і адпачыць нельга? — сказала старэйшая дзяўчына.

— Што ж вы пясок мне павыварочвалі?

— Мы па норме аром,— адказала маладзейшая трактарыстка.— Можаце праверыць.

Язэп сумеўся. Было дзіўна, што дзяўчына, сялянская дачка, думае пра нормы ворыва, а не пра тое, што вырасце на гэтых нормах.

— На пяску хіба што вырасце, галовы садовыя?

— Нам як сказалі, так і робім. Гэта вы з начальствам гаварыце.

Старэйшая дзяўчына паднялася, атрэсла са спадніцы траву і пясок. Было ёй гадоў дваццаць пяць, не менш. Пад вачыма і ля рота ўжо здрадліва праступалі маршчыны. Але было відаць, што да вайны яна была прыгожая. Карыя вочы. Доўгія вейкі. Роўныя, як стрэлы, бровы. Вялікаваты прыгожы нос і акуратны рот з прыпухлымі дзіцячымі вуснамі.

«Так у дзеўках і астанецца,— чамусьці пашкадаваў Язэп.— А можа, вернецца любы. Не можа быць, каб у такой дзеўкі не было ўхажораў».

— За начальствам мне няма калі хадзіць. А за такое ворыва я вам актаў не падпішу.

— Дык мы ж, дзядзечка, не вінаватыя. Нам як сказалі, так і робім,— пачала прасіцца маладзейшая.

— Па-гаспадарску рабіць трэба,— памякчэў Язэп. Што ты возьмеш з гэтых дзяўчат.— Ну, вось што, як толькі паладзіце трактар — ганіце яго ў вёску. Тут сеяць не будзем... Ясна? Ля Астапаўскага рова многа ўзаралі?

— Дваццаць тры гектары... Проста дзіва: адзін адно загадвае, другі другое. Начальнічкі, ліха на вас!..

Трактарыстка гаварыла злосна, і Язэпу чамусьці гэта спадабалася?

— Цябе як завуць? — запытаўся ён.

— Ліда.

— Малайчына, Ліда, так нам і трэба. Толькі я тут не вінаваты...

Воддаль працавалі мінёры. Яны ішлі па полі з доўгімі жэрдкамі — мінашукальнікамі. Язэп зняў шапку, памахаў ім. Мінёры спыніліся, чакалі, пакуль падыдзе старшыня.

— Ну як, шмат мін назбіралі? — запытаўся Язэп.

— Не, тут іх амаль няма. Іх немцы ставілі далей на ўсход, перад нашай лініяй фронту. І тылы свае міліравалі. А тут яны абарону трымалі.

Рабаваты салдат дадаў:

— От яшчэ два разы туды-сюды пройдзем — і ганяй трактар без страху.

— Ганяць попусту не варта,— адрэзаў Язэп.— Будзем канчаць з такой работай. Давайце там працаваць, дзе міны ёсць.

— Ты, старшыня, не дурэй,— узгарэўся старшы сяржант.— Трэба было з самага пачатку думаць. Нам па плану заўтра ў другі калгас ехаць.

— Хто такое ўказанне даў?

— Твой гэты ўпаўнаважаны — Шугай. Табе падмагнулі, цяпер да тых паедзем, хто тваю ініцыятыву падтрымлівае. Ясна? Ну дык вось, дэбатаў не будзе.

Язэп кінуў шапку аб зямлю, сеў. Факт, утрымаць мінёраў ён не можа, не мае права. Другім яны не менш патрэбны.

— Хлопцы,— пачаў ён і раптам зразумеў, што словамі тут нічога не дакажаш.— Вось, хлопцы, паглядзіце, што выходзіць...

Ён узяў палку, пачаў калупаць зямлю. Чэзлая трава лёгка паддавалася. Язэп вывернуў наверх руды пясочак.

— І так скрозь,— сказаў ён.— Цяпер вы разумееце?

Мінёры маўчалі. Язэп бачыў, што яны разумеюць усё, а маўчаць.

— Дык якога вы хрэна думалі раней? — абурыўся старшы сяржант.— Спачатку абавязацельствы бераце, а пасля галаву чухаеце. Нам што: загадана — робім. А вы, маць вашу, навошта тут седзіцё?

Язэп у душы радаваўся: наш чалавек такі — спачатку вылае, а потым зробіць. Сказаў, каб не аставацца ў даўгу:

— То ты і сам гаспадар, мог бы капнуць зямлю ботам ды і сказаць Шугаю, што тут нічога не вырасце.

Сяржантаў твар пабарвовеў, калючыя вочы праціналі Язэпа наскрозь.

— Ды я за вайну ўсяго пабачыў. Гэта ж як на злосць, бывала: як у наступленне ісці — перадавую мініруем. Але такога бачыць яшчэ не даводзілася...

— Слухай, сяржант,— перапыніў яго Язэп,— можа, мне людзей табе падкінуць? Тут адна дзяўчынка добра міны летась здымала, Каця. Ну, ты яе ведаеш...

— Пайшоў ты... Самі справімся.

Язэп паляпаў яго па спіне.

— Ну, брат, як збяром ураджай — прыязджай у госці.

Старшы сяржант моўчкі ўстаў, пачаў збіраць амуніцыю.

## 29

Язэп вярнуўся дадому раней, чым трактарысткі прыгналі трактар. І якраз у пару, бо Шугай збіраўся пайсці ў горад. Язэпу хацелася яшчэ раз пагаварыць з ім, пераканаць, што сеяць на Валатоўках нельга. Абодва спачатку пагарачыліся, а цяпер можна пагаварыць спакойна.

Шугай складваў паперы, калі Язэп зайшоў у зямлянку.

— Ты дзе ходзіш? — спытаў ён.— Трэба зводку падпісаць. Старшыня ж не я, а ты.

— Зводка пачакае,— спакойна адказаў Язэп.— Давай, таварыш Шугай, пагаворым як камуніст з камуністам. Пабываў я на Валатоўках. Сваімі рукамі зямлю мацаў — попел, а не зямля. А па гэты бок Астапаўскага рова — гліна. Калі год мокры будзе, дык на гліне што-небудзь вырасце. Але ж мы павінны напэўна атрымаць ураджай, а не рызыкаваць. Вось чаму я зноў пачынаю гэтую абрыдлую гамонку. Трэба мінёраў затрымаць на два дні. Будзем уночы поле размініраваць. Сам з мінёрамі пайду, але такое поле падрыхтуем, на якім у любое надвор'е збажына вырасце. Ну, а зводкі пачакаюць...

Ён стараўся гаварыць пераканальна, але хваляванне перашкаджала. І ўсё ж Язэпу здалося, што Шугай пачынае вагацца, быццам нават згаджаецца з ім. Гэта надало ўпэўненасці.

— Паглядзіш — і пасеем як людзі, і вырасце ў нас хлеб як у людзей. Тэрміны, таварыш Шугай, не галоўнае... Ну, дык як, згодзен?..

Шугай адсунуў палявую сумку, паклаў рукі на стол.

— Планы, Каліна, зацвярджаюць не для таго, каб іх не выконваць. Гэта дзяржаўнае заданне, зразумей. Яно — як загад на фронце. А хіба ты калі не выконваў загаду?

— План людзі складалі, і людзі могуць унесці ў яго папраўкі. А параўноўваць план з загадам — недарэчы. Тут не фронт.

Шугай узгарэўся:

— Як не фронт? Самы сапраўдны фронт мірнай працы! І дысцыпліна тут павінна быць такая, як на вайне.

— Пачакай, пра дысцыпліну я не кажу. Яна павінна быць. Але ж і плён з нашай працы павінен быць?

— Ён і будзе,— упэўнена адказаў Шугай.— Бальшавікі, таварыш Каліна, не чакаюць міласцей ад прыроды. Яны заваёўваюць перамогу. Сам ведаеш: пасееш рана — выйграеш.

— Але ж землі... ты падумаў пра іх? Спытай у любой калгасніцы, і яна табе скажа, што там ніколі нічога не расло.

— Адсталыя погляды, вось што гэта. Не расло, бо не было догляду. Ты і не аграном, і не вучоны — адкуль ты можаш ведаць, што дзе расло? Мы прышлём пасля агранома, ён вам падкажа, што і як рабіць, каб ураджай быў. Кажу табе, што падкормку зрабі — і вырасце твая пшаніца. А зрываць тэрміны сяўбы ніхто табе не дазволіць. Гаравы так і сказаў: «За тэрміны вы ўдвух перад партыяй у адказе». Зразумеў, чым гэта пахне? Я, Каліна, супроць лініі партыі ніколі не іпоў.

— Ды пры чым тут лінія партыі! Гэта не партыйная лінія, а твая і Гаравога.

— Давай так дамовімся,— Шугай падняўся, паклаў руку Язэпу на плячо.— Ты мне нічога не гаварыў, а я нічога не чуў. Бо скажу табе шчыра, што размовы твае апалітычныя і шкодныя па сутнасці.

Язэп абурыўся. Але Шугай прымусіў яго замаўчаць. Ён узяў сумку, павесіў яе на плячо, працягнуў руку:

— Раю табе, Каліна, не мудраваць, а сумленна выконваць рашэнні. Ты яшчэ малады і не бачыш за нашымі справамі вялікай палітыкі.

— Не бачу,— прызнаўся Язэп.

— Ну вось. А яна ў тым, што мы павінны паказаць усяму свету: нам не страшны ніякія нягоды; мы нават тут, дзе ўсё замініравана, сяўбу правялі ў час. Зразумеў? Няхай нашы ворагі ведаюць, што мы на злосць ім як ніколі маналітныя. А твае размовы скіраваны, хочаш ты таго ці не хочаш, супроць адзінства.

У голасе Шугая была такая перакананасць, што Язэп сумеўся, разгубіўся. Адчуваў, што Шугай гаворыць нешта зусім не тое, пра што павінна ісці размова, але не мог знайсці слоў, каб абвергнуць гэтыя бязглуздыя вывады. Іменна таму, што яны былі бязглуздыя, Язэп не мог запярэчыць.

Яны выйшлі на двор. Шугай убачыў трактар, які дзяўчаты прыгналі сюды, здзіўлена спытаў:

— Чаму трактар не на полі?

— Гэта я загадаў прыгнаць яго сюды.

Шугай шпарка пайшоў да трактарыстак.

— Зараз жа вярніцеся на поле,— закрычаў ён.— Да раніцы трэба ўзараць Валатоўкі.

Дзяўчаты пераглянуліся, але не спяшаліся завесці трактар. І тут Язэп цвёрда рашыў не сеяць на Валатоўках.

Не сеяць, хоць ёсць пастанова аб тэрмінах сяўбы, хоць на гэтым настойвае Шугай і пагражае яму.

Шугай прымусіў Ліду сесці за руль. Трактар загуў, скрануўся з месца.

— Стой!.. Ліда, стой! — закрычаў Язэп.

Дзяўчына спыніла трактар. Язэп падышоў да яе, перакрыкваючы гул трактара, загадаў:

— Выключы!.. Валатоўкі араць не трэба. Чуеш? А ты, таварыш Шугай, не самавольнічай. Пакуль я тут старшыня, а не ты.

Ліда заглушыла матор.

— Чаму не едзеш? — грозна спытаў Шугай.— Я загадваю табе ехаць на поле. Зараз жа.

Дзяўчына злезла з трактара, узяла ручку, пачала зноў запускаць матор. Яна злосна пазірала на абодвух. А яны стаялі абапал трактара, не спускаючы вачэй адзін з аднаго. Трактар зноў загуў. Ліда ўзабралася на сядзенне.

Язэп, кульгаючы, забег наперад трактару, стаў.

— Ты што, здурэў? — закрычаў Шугай.

— Здурэў,— задыхана сказаў Язэп.— На поле яна толькі цераз мяне паедзе.

— Пачакай, мы з табой яшчэ пагаворым,— пагразіў Шугай і пайшоў па дарозе ў горад.

Ліда выключыла матор. І раптам стала ціха-ціха на полі.

## 30

Усё гэта было падобна на трызненне, як тады ў шпіталі, калі Язэп то траціў прытомнасць, то зноў ачынаўся, нібы ад сну. Адзін, зусім нязначны па ваенным часе, выпадак у гарачцы не даваў супакою. У гарачцы тыя падзеі здаваліся страшнымі, трагічнымі.

Наяве ўсё было проста і не так трагічна. Іх часць, адведзеная з баёў пад Спас-Дзямянскам, спынілася на папаўненне непадалёк ад «гаспадаркі» палкоўніка Шыраева — таямнічай вайсковай часці, што замаскіравалася ў лесе. Неяк пад вечар камандзір роты адправіў Язэпа ў Спас-Дзямянск — атрымаць рацыю для іх разведгрупы.

Вяртаўся Язэп назад позна. Ноч была цёмная, глухая. Як праз сіта сеяўся дробны, золкі дождж. Ужо за горадам Язэп збіўся з дарогі, заблудзіўся. У лесе ён забраўся пад разгалістую хвою, спрабаваў задрамаць. Сон, як на злосць, не прыходзіў. Ад няма чаго рабіць ён дастаў рацыю — хацелася паслухаць Маскву.

Схіліўшыся, Язэп шукаў патрэбную хвалю. З рацыі даляталі то сухі трэск, то частае піпіканне марзянкі, то нямецкая мова. Маскву не мог знайсці.

Неяк нечакана і незразумела адкуль на яго галаву абрушыўся цяжкі, бязлітасны ўдар. У вачах заскакалі яркія жоўтыя іскры, і Язэпу здалося, што недзе побач разарваўся снарад. Ён адчуў, як штосьці навалілася на яго, цяжкае і вільготнае, сціснула абцугамі шыю.

Ачуўся ён у сырым паўзмрочным сутарэнні. Гуло ў скронях, і балюча было павярнуць галаву. У рэдзенькім світанні відаць былі яшчэ дзве постаці, што ляжалі непадалёк на земляным доле.

— Эй, хто вы?! — паклікаў Язэп.

— А ты хто? — спытаў ахрыплы мужчынскі бас.

— Дзе мы, у сваіх?

— Глядзі, чаго захацеў...

Цяпер Язэп спалохаўся не на жарт. Няўжо ён ноччу перайшоў цераз лінію фронту і яго схапілі немцы?

Тыя двое — мужчына і жанчына ў форме лейтэнанта

сувязі — былі звязаны таксама і па нагах спавіты вяроўкай, як дзіця павітушкай.

Цяпер Язэп зусім перакапаўся, што іх траіх схапілі немцы. Яму захацелася падтрымаць гэтую маладую сувязістку.

— Вас дзе схапілі? — спытаў ён дзяўчыну.

Яна прамаўчала. А мужчына сам запытаўся:

— Ты з якой часці?

Язэп хацеў адказаць, але нешта прымусіла яго стрымацца.

— Наша часць на папаўненні,— адказаў ён.— А вы ці не з «гаспадаркі» Шыраева?

— Адтуль,— згадзіўся мужчына.

Прайшло, можа, хвілін пяць панурага маўчання. За дзвярыма, недзе ўверсе, пачуліся крокі і людскія галасы. Язэпу здалося, што гавораць па-руску. «Напэўна, перакладчыкі»,— падумаў ён.

Дзверы адчыніліся. Па прыступках унізе пачалі збягаць аўтаматчыкі, і ўсе ў савецкай форме. Язэп ніяк не мог зразумець — дзе ён і што з ім?

Апошнімі увайшлі трое: маёр і двое ў плашч-накідках, пад якімі не было відаць знакаў адрознення.

— Развяжыце іх,— загадаў маёр.

Першую развязалі дзяўчыну-лейтэнанта. Яна ледзь стаяла на амярцвелых нагах.

— Ну што, сволач, папалася? — маёр неяк уважліва, з цікавасцю прыглядаўся да яе.— За гэты гузак прабачэння не просім — сама вінаватая. Ну, а ты што пазіраеш коса? Спадзяваўся абхітраваць нас?

— Думаеце, ігра праіграна? Не, маёр, дарэмна гэта; праз месяц-два за нас адпомсцяць.

— Кінь, чулі,— махнуў рукой маёр і павярнуўся да Язэпа.

Язэп памалу пачынаў здагадвацца, што адбываецца тут, і калі маёр павярнуўся да яго, Язэп казырнуў:

— Дазвольце звярнуцца, таварыш маёр...

— Гэ-э-эта-а што такое? — маёр быў узлаваны і разгублены.

— Радавы асобага сто семдзесят першага батальёна Каліна...

— Ану, усіх траіх наверх,— загадаў маёр.

Толькі на другія суткі Язэп вярнуўся ў часць. Толькі ў часці зразумеў, чым магло скончыцца тое яго падарожжа па рацыю. І яму зрабілася страшна. Мабыць, гэты

страх надоўга пасяліўся ў ім, бо праз два гады, калі ён ляжаў непрытомны, мозг паслужліва перайначыў і допыты, і вочныя стаўкі з дыверсантамі, і той недавер, які быў да яго, Язэпа, у першы месяц пасля прыгоды.

Але тады была вайна, і Язэп разумеў, што інакш не магло быць. Ды і разбірацца тады не хапала часу — армія адступала ў цяжкіх баях.

Цяпер спяшацца не было патрэбы. Але Язэпу здавалася, што яго справу разглядалі больш паспешліва, чым тады, калі немцы наступалі на пяты. І ў гэтай паспешлівасці ён адчуваў нейкую вялікую несправядлівасць, невядома каму патрэбную.

Гаравы нават не запрасіў Язэпа прысесці, калі ён увайшоў у кабінет. І Язэп чамусьці не сеў на крэсла, як тады, калі першы раз прыйшоў да Гаравога. Ён адчуваў сябе ніякавата пад пільным позіркам сакратара, быццам і сапраўды быў вінаваты.

— Ты што там вы-а-арабляеш? — нарэшце спытаў Гаравы.

— Таварыш сакратар, я не ведаю, што вам нагаварыў Шугай, але дазвольце мне расказаць па парадку...

— Ня-а-ма чаго гаварыць. Ча-а-му сяўбу зрываеш?

Гаравы пакуль гаварыў стрымана, спакойна, і Язэпу здавалася, што ён здолее даказаць неправату Шугая. Стараючыся не паддацца ўзбуджанасці, што памалу ліхаманіла, Язэп спакваля пачаў расказваць пра сваю спрэчку з Шугаем. Гаравы слухаў яго, схіліўшы галаву, барабаніў пальцамі па стале. Аднастайнае груканне гэта (нібы хто забіваў цвікі ў галаву) раздражняла Язэпа. І ён пачаў спяшацца, блытацца, быццам баяўся, што Гаравы не дасць яму дагаварыць.

— Усё? — спытаў Гаравы.

— Так, усё,— панура адказаў Язэп, раптам адчуўшы, што нічога не даказаў Гаравому.

— За Шугаем партыя стаіць. Зразумеў?.. А ты супраць яго выступіў. Зна-ачыць і супраць партыі.

— Вы з Шугаем не партыя,— адказаў Язэп.

Гаравы пабарвовеў, доўга не мог вымавіць ніводнага слова. Ён толькі раскрываў рот, як рыба, выцягнутая на пясок. І Язэп чамусьці спалохаўся. «Можа, і праўда я дарэмна заўпарціўся? — падумаў ён.— Хіба я для сябе раблю? Неяк жа было б...»

— Страшнага нічога не бачу, таварыш Гаравы. Вось разміпіруем поле і пачнем сяўбу. Крыху, вядома, запознімся. Але ж затое ўраджай будзе.

— Улетку сеяць збіраешся? — голас у Гаравога кпліві.

— Мы тут не вінаватыя...

Гаравы дастаў з шуфляды газету, кінуў на стол. Было не зразумець, навошта ён гэта зрабіў. Язэп узяў газету, разгарнуў, прабег вачыма па загалоўках і зноў паклаў на стол.

— А ты прачытай,— Гаравы тыцнуў пальцам у загаловак, набраны буйнымі латарамі.

У артыкуле пісалася пра Кляўцы, пра яго, Язэпа, і пра тое, як яны правялі сяўбу, як аднаўляюць гаспадарку. Унізе стаяў подпіс Гаравога.

— Што ты на гэта скажаш?..

— Не трэба спяшацца, вось што я скажу,— спакойна адказаў Язэп, а сам падумаў: «Цяпер зразумела, чаму ты непакоіўся».

— Дык вось, Каліна, зараз жа вяртайся дамоў і каб заўтра пасеяў там, дзе ўзарана.

— І не падумаю. Я насенне марнаваць не буду. Ды зразумейце вы, таварыш сакратар, што гэта нібы шкодніцтва.

— А-а-а, шкодніцтва, а мо-о-жа, саба-а-атаж? Ты, мо-ожа, за-а-абыўся? Дык я табе напомню. На дачцэ ворага народа ажаніўся — раз. Са шпіёнам нямецкім піў спірт і да-а-памог яму ад арышту ўцячы — два. А раней у арміі чаго цябе арыштоўвалі разам з дыверсантамі?..

— Ды то выпадкова,— абурыўся Язэп.

— Выпа-а-адкова? Можа, выпадкова не даў трактарыстам сеяць? Ды я, калі хочаш ведаць, па-а-дыму трубку, і толькі цябе бачылі...

Тое, што Гаравы прыплёў Іванёнкаў, Дашу, тых двух дыверсантаў і яшчэ чортведама што, не так абурыла Язэпа, як гэтая пагроза камусьці пазваніць. Гэта яго, франтавіка і інваліда, Гаравы хоча выставіць віноўнікам сваёй ганьбы, свайго неабачлівага рашэння. Не, не выйдзе!

Шалёная злосць заслала вочы. На імгненне зрабілася цёмна. Язэп утрымаўся за крэсла, і накоплены гнеў раптам выліўся ў страшэнную лаянку.

Яго падхапілі, кудысьці павялі. Апамятаўся ён на райкомаўскай павозцы. Ляжаў на сене. «Чаго я дамог-

ся? — падумалася яму.— Нервы. Усё вайна... Спакойна гаварыць развучыліся».

Вечарэла. Сонца паволі кацілася за высокія шпілі касцёла. З расчыненых акон райкома да Язэпа далятала гамонка. Людзі штосьці рабілі, аб нечым спрачаліся, турбаваліся, але іх турботы былі вельмі далёкія ад таго, што непакоіла Язэпа. Ці працуюць там, дома, трактарысты?

Да яго падышоў Вышак. Мабыць, убачыў з акна.

— Ты чаму ляжыш тут? — спытаў ён у Язэпа.

— Кепска чамусьці. З Гаравым пацапаліся.

— То, можа, пойдзем да мяне? Пераначуеш. Хоць у мяне і цесна, але неяк жа будзе.

Язэп згадзіўся.

Вышак займаў пакойчык у двухпавярховым драўляным доме з акном на паравозныя могілкі. Паравозаў тут ляжала шмат, пакарэжаных, разбітых і ўжо ржавых.

— Наша работа,— сказаў Вышак.— Немцы гэтыя паравозы сюды звозілі. Во колькі мы іх падарвалі за вайну...

— Хопіць ужо табе хваліцца. Сядайце вячэраць,— сказала жонка.

Язэпа ўвесь час мучыла пытанне, як гэта Вышак не баіцца сядзець разам з ім, калі яго, Язэпа, абвінавачваюць у сувязях са здраднікамі. Ён сказаў пра гэта Вышаку. Той зарагатаў.

— Ну і дзівак! Гаравы цябе проста палохае. Ён, брат, любіць, каб яго баяліся, бо сам усяго баіцца. Дзіўная рэч, чалавек у баі быў смелы, рызыкоўны, адзін калісьці хадзіў па чыгунку, цягнікі ўзрываў. У гарнізоны, у самае логава немцаў прабіраўся. Таму і вылучылі яго. А як вылучылі, ну, скажы, як падмянілі чалавека. Перад начальствам пачаў гнуцца.

— Хопіць табе,— спыніла яго жонка.

— А што, няпраўда? Гаравы любіць усё з наскоку рабіць, а так не заўсёды выходзіць. Памыляецца ён часта. Ведае гэта, таму і баіцца за сябе. Ну, а табе, Каліна, няма чаго непакоіцца. Канечне, ажаніўся ты з гэтай дзяўчынай дарэмна. Але цяпер ужо не паправіш.

— Гэта так,— згадзіўся Язэп.— Але сённяшняя гаворка ў Гаравога мне дужа не спадабалася. Штосьці трывожыць мяне.

— Дарэмна, Каліна. Ну, пагаворыць, пасварыцца на цябе, і толькі.

Язэп супакоіўся. Але назаўтра ўсё адбылося так, як не чакаў ні ён, ні Вышак.

Трэба ж было яму зноў заходзіць у райком. Хацелася яшчэ пагутарыць з Гаравым і ўжо спакойна давесці яму, што пагарачыліся абодва, што справу яшчэ можна паправіць, хоць на гэта і спатрэбіцца час.

Яго сустрэў Ляжняк. Паківаў галавой: нарабіў ты, маўляў, учора. Папрасіў зайсці да яго, пасядзець. Сам кудысьці пайшоў. Хутка Язэпа паклікалі да Гаравога.

— Дык вось, Каліна, прашу аддаць білет,— сказаў яму Гаравы, адводзячы вочы.

— Як гэта аддаць? — здзівіўся Язэп.

— А так, што ты не можаш быць у партыі.

— Чаму?

— Ну, гэта ты сам ведаеш.

— Білета я не аддам,— рашуча сказаў Язэп.— Яго мне дала партыя...

— Партыя ў цябе і адбірае,— сказаў Гаравы.

— Ты не маеш права без рашэння бюро адбіраць партыйны білет.

Ён устаў з-за стала, моўчкі падышоў да Язэпа, выцягнуў з кішэні білет і таксама моўчкі паклаў на стол.

— Усё... Можаш ісці...— сказаў ён.

Язэп ішоў, нічога не заўважаючы. Спыніўся. Дзе ён? Куды забраўся? Проста перад ім у канцы завулка высока ўздымалася шэрая гладкая сцяна без акон і дзвярэй. «Дзе я?» Ён азірнуўся. Завулак пуставаў. Дробны дарожны пясок, прыбіты нядаўнім дажджом, ляжаў у дзвюх каляінах, не крануты яшчэ коламі. Абапал расла чэзлая трава, сярод якой раскашаваў трыпутнік. Старыя пахілыя хаты сонна глядзелі на завулак падслепаватымі вокнамі. Людзей не відаць было. «Дзе ж гэта я?» Ён дайшоў да канца завулка і толькі тады зразумеў, што гэтая сцяна — элеватар. Ён абышоў яго, зайшоў на шырокі двор з пад'яznымі пляцоўкамі. У кутку двара на прыпёку каласавала жыта-самасейка. Яно было ў рост чалавека, адкаласавала, а па самай вяршыні каласоў жаўцелі тычынкі. Іх было зусім мала, жытнёвых кветак, і наўрад ці народзяць гэтыя высокія сцяблы зерне.

Элеватар пуставаў. Голыя абадраныя засекі пахлі цвіллю. Дзе-нідзе ў іх, проста з падлогі, прабіваліся да святла кволыя белаватыя парасткі. Язэп асцярожна ступаў па хліпкіх мастках. Штосьці цягнула яго ў пустэльны гулкі мур.

Аднекуль з-пад падлогі выбег вялізны сівы пацук з доўгім, як бізун, хвастом. Ён прыпыніўся, панюхаў паветра і не спяшаючыся пабег паўз сцяну. Язэп чамусьці скалануўся і спехам пайшоў назад. «Хто ж запоўніць гэты будынак збожжам? — падумаў ён, выходзячы на двор.— Гаравы? Шугай? Не, такія, як Макарыха, Петрачыха. Ад іх залежыць, каб элеватар быў поўны. А хіба будзе збожжа, калі стануць сеяць, як надумаў Шугай?»

Ён сеў на драўляны насціл перад здатачным пунктам, закурыў.

«Ну, так,— думаў Язэп,— я вінаваты, што ажаніўся з дачкой здрадніка. Але ж дзіця не вінаватае. Ды і не ў гэтым справа. Не, не ў гэтым. Каб я згадзіўся з Шугаем, Гаравы не ўсчаў бы гэтай справы. Не. Не ўсчаў бы!.. Мяне тады хвалілі б. І Гаравы — таксама. А элеватар пуставаў бы. Дык хіба такой работы партыя чакае ад нас? Людзям хлеб трэба. Хлеб, а не хлусня наша. Гаравы тады паспяшаўся, факт... Шугай сам казаў: трэба было другі калгас браць. Ну дык прызнайцеся, што самі памыліліся... Не, баяцца. За сябе баяцца. Не выйдзе! Хоць ты і адабраў у мяне білет, а не выйдзе. Праўда на маім баку...»

Сонца ў зацішку прыпякала бязлітасна. Язэп выцер рукавом узмакрэлы лоб, але не стаў хавацца ў цень.

Ён памалу ішоў сярэдзінай вуліцы, па прыбітым дажджом пяску. Хацелася піць. У роце сасмягла. Ён пашукаў вачыма калонку, але яе не было. Убачыў расчыненае акно ў хаце, падышоў да яго, каб папрасіць вады.

У пакоі нікога не было. Але аднекуль з-за прачыненых дзвярэй даляталі сюды, за акно, дзіцячы плач і нечы голас. Язэп хацеў быў пайсці, як у пакой зайшла Клава. Яна ўбачыла яго, як бы спалохалася.

— Ой, як ты заўсёды нечакана з'яўляешся! — сказала яна, захінаючы на грудзях кофту.

— Ці не падасі вады напіцца?

— Заходзь у хату. У мяне, праўда, не прыбрана... Ды ты нейкі як не свой. Ну, ідзі паглядзі дачку...

Клава трохі распаўнела, асабліва ў грудзях. Язэпа ўразілі яе спакойныя рухі. Яна падсунула яму крэсла. Ён сеў, стараючыся не глядзець ёй у вочы, сказаў:

— У мяне толькі што Гаравы адабраў білет...

Яму хацелася бачыць яе вочы, каб угадаць, як яна сустрэне навіну. Ці ведала яна, што рыхтуе Язэпу Гаравы?..

Не, мабыць, не ведала. Клава як бы скамянела, у яе вачах — разгубленасць.

6 Зак. 1950

— Як адабраў?..

— Вось так... Паклікаў і адабраў...

— Гэта ж не па статуту.— Яна збянтэжылася, бо зразумела, што сказала зусім не тое.

— Ах, Клава, ты — чыстае дзіця... Ён памаўчаў крыху, як бы збіраючыся з думкамі. Нешта важнае трывожыла яго, не давала спакою.— Не, ты разумееш, Клава, што здарылася... Ну вось, прыйду я дахаты і тая ж Даніліха з усмешачкай сустрэне мяне на парозе: «Што, зяцёк, стараўся, працаваў, а табе па карку? За глотку нас браў, калі табе казалі, што несправядлівасці шмат. Цяпер сам пераканаўся...» А што я ёй скажу?..

— Ты пачакай, я зараз,— Клава знікла за шырмай.

«Чаго яна?» — здзівіўся Язэп. Ён падняўся з крэсла, запытаў:

— Я, можа, пайду?

— Нікуды я цябе не пушчу, ясна? Мы зараз у райком пойдзем.

— Ты пра гэта нават не думай,— запярэчыў Язэп.— І не думай за мяне заступацца. Гэта партыйная справа...

— Я — камуністка і не па знаёмству за цябе заступаюся, дурань.

Яна апранула жакет, завязала касынку. Кожны яе рух зноў быў, як калісьці, рашучы, рэзкі. Відаць, тое, што яна пачула, абурыла яе.

— Пайшлі...

Язэп узяў яе за руку. Перамагаючы ўсхваляванасць, лагодна папрасіў:

— Не трэба, Клава. Ну, што там падумаюць?..

— А мне ўсё роўна. Я не прасіць іду. Я яму не як жонка, а як таварыш скажу. Шугая ён туліць да сябе, а тое забыў, як гэтага Шугая з-за печы ў партызаны цягнулі. Цяпер Шугай яму якія захоча кляўзы складзе...

— Клава, дзякуй табе, а толькі не трэба. Я сам якнебудзь.

— Як-небудзь! А трэба не як-небудзь, ясна? Ці, можа, табе і праўда партыя не дарагая?

— Што ты!.. Але райком цяпер не паможа. І ты сама гэта ведаеш. Атрымаецца так, што вы пасварыцеся з мужам, і толькі.

Клава задумалася, потым пачала здымаць жакет.

— На жаль, твая праўда... Трэба, Язэп, у абком ісці.

Ён перапыніў яе:

— А пра Гаравога ты ці падумала? Тут так — або мяне пакараюць, або яго...

Язэп чакаў, што Клава збянтэжыцца, разгубіцца, зразумеўшы яго намёк. За тыя абавязацельствы, што сталі вядомымі далёка за межамі вобласці, вакол якіх шмат шумелі і якія астануцца нявыкананымі, хтосьці павінен адказаць. Калі не Язэп Каліна, дык Гаравы.

Але Клава спакойна сказала:

— Рана ці позна, а Гаравому трэба саступіць сваё месца. Не па сіле яно яму. Ты думаеш, я не бачу, як ён працуе? У партызанах было проста... яму проста. Там ён быў і райком, і пракурор, і міліцыя... Усё разам. Хоць і там яго вайна высока ўзняла. Скажу я табе шчыра, што і камандзір ён быў сярэдні. А вось як камандаваў спачатку падрыўнікамі — сваю справу рабіў. Ну, убачылі, вылучылі... Я яму раіла не станавіцца камандзірам — не паслухаў. Паверыў, што можа арміяй камандаваць.

Язэпу чамусьці было няёмка слухаць, як яна гаворыць пра Гаравога, і ён сказаў ёй пра гэта.

— Ты, мілы мой, не думай, што я са злосці кажу. Кожны чалавек сваё месца павінен ведаць. Не па ім гэта ношка. Таму і кажу. Няхай старую сваю прафесію ўспомніць. Ён жа тэхнік, да вайны кіраваў торфазаводам. На сельскай гаспадарцы ніколі не працаваў.— Раптам яна пляснула ў далоні.— Што ж гэта я цябе загаварыла зусім! Ты ж, мусіць, не абедаў яшчэ?..

## 31

Не заходзячы дамоў, Язэп пайшоў на поле. Яшчэ з аблыселага кургана ён убачыў, як жанчыны, упрогшыся ў плуг, аралі размініраваныя ўчора калгасныя агароды. Непадалёк пасвілася чыясьці карова.

«А дзе ж трактар? — падумаў Язэп.— Зноў штосьці сапсавалася. Ды і не дзіва: трактар па частках збіралі».

Жанчыны спыніліся, выціралі спацелыя твары. Макарыха яшчэ здалёк павіталася з ім і, смеючыся нейкім сваім думкам, сказала:

— Паглядзі, Язэпка, колькі мы тут наварочалі. Не зямля, а масла. Дасць бог, уродзіць ячмень.

«Яны і не здагадваюцца, што я ўжо не старшыня»,— кальнула Язэпа крыўда.

Яшчэ ён падумаў, што не здолее сказаць жанчынам

пра тое, што з ім здарылася. Прыедуць прызначаць новага старшыню, тады і даведаюцца.

Язэп на хаду падняў камяк зямлі, расцёр у далоні. Зямля тут тлустая, чорная. Ведама, агароды, кожны год угнойваліся.

— А трактар дзе?

— Пагналі ў «Прагрэс».

— Та-ак...

— Карова во прыстала, дык выпраглі.

— А на сабе плуг цягнуць не варта. Лепей ужо рыдлёўкамі капаць,— сказаў Язэп.

— Плугам спарней. Ды хочацца хутчэй пасеяць.

Жанчыны зноў упрагліся ў плуг, угінаючы спіны, пайшлі ўздоўж баразны.

На вока Язэп прыкінуў, што жанчыны ўзаралі больш за гектар. Дык чаго Гаравы хвалюецца: хоць і позна, але будзе пасеяна ўсё, што намечана па плану. Проста Гаравы не любіць, каб яго не слухаліся. Вось чаму ён і расправіўся гэтак.

Да Язэпа падышлі мінёры. Васпаваты сяржант папрасіў закурыць. Скручваючы папяросу, падміргнуў Язэпу:

— Нам, брат, строгі загад ёсць пераехаць у другія калгасы, але мы цябе не кінем, ясна? Дужа ты мне спадабаўся, Каліна. Мы табе яшчэ такіх лапікаў пазнаходзім — сей. Давай акты падпішы.

Дамоў ісці не хацелася. Здавалася, што цешча ўжо ведае пра ўсё і, мабыць, кпліва ўсміхаецца: дастукаўся зяць. «А чаго, уласна, Гаравы ўз'еўся на мяне? Хіба не пасеем? Ну, вядома, у тэрміны не ўкладземся. Дык ці варта было выклікаць у раён, пагражаць?.. Хоць і сам пагарачыўся. Закаціў істэрыку, як баба».

Было сорамна, і таму хацелася кудысьці ісці, штосьці рабіць, каб забыцца на сваю ганьбу. «А можа, засеяць Валатоўкі — і спрэчцы канец? Ці канец? Толькі пачатак, бо Гаравы зразумее гэта як прызнанне памылак. А хіба я дапусціў памылку? Не, змагацца, дык да канца. Але з кім змагацца? З Гаравым? Яно, вядома, так, але ж Гаравы — сакратар. Вось і выходзіць, што як бы супраць партыйнага рашэння выступаеш».

Потым Язэп падумаў, што, бадай, яму не варта ламаць галаву, дзе сеяць, а дзе не сеяць. Можа, ён ужо і не старшыня калгаса. Ну, так, вядома, не старшыня.

Дамоў ён прыйшоў позна. Даша з дакорам паглядзела на яго, а цешча не стрымалася:

— Дзе гэта ты два дні прападаў? На каго хворую жонку кідаеш? Во, дзетка маё, які ты: мы тут непакоімся, плачам, а ён сабе недзе брындае.

— Не пытаецеся, што са мной здарылася, а сварыцеся,— раззлаваўся Язэп.

— Што з табой, Язэпка? — спалохана падхапілася Даша.

— А тое, што Гаравы білет адабраў, ды, пэўна, ужо і з пасады знялі.

Цешчын твар аж засвяціўся ўсмешкай.

— І ўся бяда? Авойці мне, дык жа няхай знімаюць, бо ніякай з таго карысці. Раней старшыня хоць нейкую выгоду меў, а цяпер толькі клопаты.

— І праўда, Язэпка, наліха табе гэтае старшынства,— падтрымала Даша маці.— Здароўе берагчы трэба.

— А білет гэта табе што? Я яго крывёю заслужыў,— сказаў Язэп, думаючы, што трэба было бараніцца, не аддаваць партыйнага білета Гараваму.

— І без білета пражывеш,— лагодна адказала Даша.— Мы ж, во, жывём.

— А яно з-за вас усё і пачалося,— не стрымаўся Язэп.— На сваю галаву я вас сустрэў. Каб ведаў, за сто вёрст абышоў бы. За ўсю вайну ніводнай плямы на мяне не лягло, а цяпер — зяць нямецкага паслугача. А што я магу ў абарону сказаць, што?..

Язэпу і самому здавалася, што віной усяму Іванёнкі. Каб не яны, каб не парадніўся з імі, хіба дазволіў бы Гараваму забраць партыйны білет. Цяпер усё жыццё пакутуй з-за гэтых Іванёнкаў.

Ён бачыў, як Даша, закрыўшы твар рукамі, уткнулася ў падушку, а цешча пачала ламаць рукі.

— Во, дачушка, дажыліся. Нас жа абняславіў, ды яшчэ і мы вінаватыя.

Яна раптам рассцяліла пасцілку, пачала скідваць туды скарб. Язэп глядзеў на ўсё гэта невідушчымі вачамі.

— Дачушка, не плач, дзетка маё. Пойдзем, як-небудзь пражывём... Пойдзем, калі яму замінаем.

Яна падняла Дашу, уклала ёй у рукі вузел, і тая, неяк пахіснуўшыся, падалася да дзвярэй.

«Няхай ідуць,— падумаў Язэп.— Усё роўна жыцця няма. І ў Гаравога козыр з рук выбіў...»

У зямлянцы стала ціха і глуха, як у магіле. Язэп доўга сядзеў за сталом, слухаў гэтую цішыню ды варочаў цяжкія панылыя думкі. У хаце зусім сцямнела, і толькі

ледзь шарэла акно. Недзе за печчу пачуўся лёгкі шолах, потым штосьці трэснула пад столлю. Было чамусьці страшна, жудасна сядзець у гэтай цемры. Здавалася, вось-вось абваліцца столь і пахавае яго, Язэпа, пад сабой. Не вытрымаўшы адзіноты, ён выйшаў на двор.

Цёплая зорная ноч атуляла зямлю. У імшарыне кумкалі жабы, палахліва, з асцярогай. Мусіць, і іх вайна навучыла не падаваць голасу. Далёка, мабыць у рове, цёхкаў салавей. Калісьці іх было шмат. Цяпер адзін. Таксама, як і Язэп, бабыль. А спявае... «Каб я быў крылатым птахам...» — раптам успомніліся яму радкі чыйгосьці верша, чытаныя ў дзяцінстве.— Каб жа можна было стаць птахам! Не ведаў бы гэтай мінтрэгі... На Дашу накіпуўся. Хіба яна вінаватая? А я што — вінаваты? Гаравы, во хто! А можа, і не ён? Таксама інвалід... Усе мы людзі. Толькі жорсткія. Вайна нас такімі зрабіла. Во хто вінаваты — вайна...»

Ён неяк узрадаваўся, што знайшоў прычыну сваёй бяды. Здаецца, як бы скінуў цяжар з плячэй. Думкі адразу акрэсліліся, паплылі спакойна і ўпэўнена. У галаву палезлі даўнія выпадкі з жыцця Кляўцоў, і як назнарок такія, што бурылі яго вывады аб вайне. «Не, не вайна прынесла жорсткасць,— падумаў ён.— Добрага і чулага яна не перайначыла. Няма чаго на вайну наракаць. Сам вінаваты...»

Ён здзівіўся, што прызнаўся сабе ў тым, у чым ніколі не мог прызнацца. «Тады ідзі і папрасі Дашу з цешчай, каб даравалі,— злосна падумаў ён.— Ага, не хочаш! Другіх абвінавачваць прасцей».

Балела галава. І ўсё ж хацелася дакапацца да нейкага вываду, штосьці зразумець у гэтым заблытаным жыццевароце. І не было як. Чагосьці не хапала. Можа, шчырасці.

Назаўтра ў Кляўцы прыйшоў Шугай. Язэп даведаўся пра гэта ад Петрачыхінай Каці. «Значыць, я ўжо не старшыня,— здагадаўся ён. Зрабілася горка і крыўдна.— Чаго дамогся? Ад работы вызвалілі, а Валатоўкі засеюць. Загадае Шугай — людзі паслухаюцца. Хай бы вызвалілі ад работы, але не зглумілі насенне». Упэўненасці ў Язэпа не было. Шугай зробіць па-свойму.

Таму Язэп нідзе не знаходзіў месца. У хаце пуста, няўтульна. А на полі няма чаго рабіць. Пайшоў у Папоўскі роў. Даша была адна. Узрадавалася, хоць выгляду не падала.

— Во што, Даша, вяртайся дамоў. Каб ты ведала, як цяжка. Пагарачыўся.

Даша не адказала. Але Язэп бачыў, што яна даруе. А вось цешча? Калі яна заўпарціцца, дык і Даша не пойдзе адсюль.

— Даша,— зноў пачаў ён,— давай забудзем на спрэчку. Люблю я цябе, Даша.

— Каб любіў, дык хіба казаў бы такое?

Яна заплакала. Язэп абняў яе за плечы, прытуліў да грудзей. Яму было шкада яе, такую бездапаможную, адыходлівую ў злосці.

— Ах, Даша, Даша, каб ты ведала, як я заблытаўся. Ехаў сюды, думаў адпачну ад франтавой калатнечы. А спакою няма. Хоць бы дома можна было адпачыць.

— Мы, значыць, табе перашкаджаем?

— Сам сабе... і крыўдаваць няма на каго.

Зайшла цётка Таццяна, падтуліла патрэсканыя вусны. Нешта рабіла, не звяртаючы ўвагі на Язэпа.

— Язэпка,— зашаптала Даша,— пагавары з ёй. Яна добрая. Яна ж цябе, як сына, любіць.

Цешча надзіва доўга не ўпарцілася.

Зноў неслі вузлы ў Язэпаву зямлянку, і Язэп думаў толькі аб адным, каб ніхто не бачыў гэтае перасяленне.

Пад вечар прыйшла Макарыха. Села на лаўку, заціснула між каленяў патруджаныя рукі. Язэп ляжаў на палацях, курыў. Шызыя кольцы дыму паволі падымаліся пад столь, расцякаліся там, як туман пад шатамі дрэў.

— Сход заўтра,— сказала Макарыха.— Перавыбіраць цябе будуць.

— Няхай,— адгукнулася Таццяна,— навошта яму, інваліду, такая пасада.

Язэп прамаўчаў. Неяк акамянела сэрца. Не хацелася ні слухаць, ні гаварыць.

— Каго ж нам выбраць старшынёй? Няма каго,— як бы раздумваючы, сказала Макарыха.

— Знойдуць каго. Карняёнка хай ставяць,— адказала Таццяна.

— Што ты, сястрыца, кажаш. Які з Карняёнка старшыня. Макар мой кажа, каб незгаджаліся, за цябе галасавалі. Так што ты, Язэпка, не ўпарціся.

— Мне ўсё роўна,— абыякава адгукнуўся Язэп.

Але яму было не ўсё роўна, каго выберуць старшынёй. І не адно самалюбства — прычына. За гэтыя месяцы мірнага жыцця Язэпу здавалася, што ён прыкіпеў сэрцам і

да замініраваных палёў, і да дзялянкі жыта, што набірала сілы, і да людзей, з якімі дзяліў нястачы.

— Табе, можа, і ўсё роўна, а людзям трэба, каб ты быў. Так што прыходзь на сход...

— Паклічуць — прыйду,— няпэўна адказаў Язэп.

На сход ён прыйшоў, калі Шугай ужо заканчваў даклад. Прысеў у парозе побач з Макарам. Той падаў руку, падміргнуў Язэпу.

— Ну і папала табе. Каб не ведаў, дык падумаў бы — і прайдзісвет жа ў нас старшыня.

Шугай сам рабіў даклад, сам вёў сход. Праўда, адчувалася, што людзей гэта не хвалюе. Яны цярпліва чакаюць, калі пачнуцца выбары.

— Дык вось, таварышы,—нарэшце прыступіў да асноўнага пытання Шугай.— Каліна вызвалены ад пасады старшыні. Райком прапануе выбраць старшынёй Варвару Мартысёнкаву. У каго ёсць пытанні?

Людзі маўчалі, уражаныя і разгубленыя. Мусіць, ніхто не чакаў, што Мартысёнкаву Варку прапануюць выбраць старшынёй.

— Няма пытанняў? Тады пачнём галасаваць.

— Хто за тое, каб таварыш Мартысёнак Варвару выбраць старшынёй?..

Шугай першы падняў руку. За ім Даўгяліха. Астатнія сядзелі, угнуўшы галовы.

— Хто супраць?

Макар Кульба высока падняў руку, каб Шугаю было бачна, што ён галасуе супраць. І яшчэ адна рука ўзнялася супраць — Каціна. Шугай на імгненне разгубіўся. Твар яго пабляднеў, потым пакрыўся яркімі чырвонымі плямамі.

— Таварышы,— хрыплавата пачаў ён,— я не разумею, чаму вы не галасуеце?

— У нас ёсць старшыня,— адзінокі з палацяў голас, здаецца, Петрачыхі.

І адразу, нібы прарвала плаціну, загулі жаночыя галасы:

— Каліну хочам!

— Каліну!

— Жанчына тут не справіцца!

— Другога не трэба!

Шугай ледзьве патушыў гоман. Выцер хустачкай узмакрэлы лоб.

— Я ўжо казаў вам, што Каліна вызвалены ад пасады старшыні, а яго справа будзе разглядацца на бюро. Мы не можам яму даверыць кіраваць калгасам.— Шугай стараўся гаварыць стрымана.

Але не паспеў ён кончыць, як жанчыны загулі зноў. Язэп бачыў, як Макарыха і Петрачыха падселі да Варкі, нешта гавораць ёй. Варка падымае руку і доўга трымае яе над галавой, пакуль гэтага не заўважае Шугай.

— Што ў цябе?..— пытаецца ён, не хаваючы раздражнення.

— Не буду я старшынёй. Няхай Каліна працуе,— кажа Варка і хаваецца за плечы жанчын.

— Але ж ты давала згоду,— здзіўляецца Шугай.

— Мала што было... Не хачу я, вось і ўсё.

Жанчыны зноў пачынаюць крычаць: «Каліну!.. Язэпа!.. Другога не хочам!..» Збянтэжаны Шугай затыкае вушы, доўга сядзіць, пакуль шум не сціхае. Ён падымаецца з лаўкі, суровы, з нахмуранымі брывамі.

— Таварышы,— гаворыць ён, нібы выстрэльваючы кожнае слова,— той, хто не хоча галасаваць за кандыдатуру Варвары Мартысёнак, той выступае супраць рашэння райкома, супраць Савецкай улады.

— А ты такімі словамі не кідайся! — крычыць з парога Кульба.

Ён, напіхваючыся рукамі, пад'язджае да самага стала на сваёй цялежцы. Позіркі Шугая і Кульбы сустракаюцца. У вачах Шугая разгубленасць.

— Вы, таварыш, хто будзеце?..— пытае ён.

— Кульба мае прозвішча... Дык вось, таварыш упаўнаважаны, я ад імя ўсіх людзей кажу: нам другога старшыні не трэба. Мы на вас самому Сталіну скардзіцца будзем. Знойдзем управу. Ваш Гаравы, кажуць, білет у Каліны забраў, а па якому праву?

— Вы што, член партыі? — пытаецца Шугай.— Ага, беспартыйны, дык чаго вы ў партыйныя справы лезеце? Макар грукае кулакамі па скураному пратэзу.

— Во хто мне даў права...

У хаце гоман. Не разабраць, хто і што крычыць. Шугай спрабуе супакоіць людзей, але дарма. І ён чакае, пакуль людзі накрычацца.

— Сход пераносім на паслязаўтра,— аб'яўляе ён, так і не дачакаўшыся цішыні.

Язэп першы выходзіць на двор. Закурвае. З хаты праз натоўп прадзіраецца Шугай. Падыходзіць да Язэпа.

— Твая работа? — пытаецца ён.— Ведаеш, як гэта называецца? Ну, то даведаешся. Ты яшчэ за гэта адкажаш.

Шугай зрываецца з месца, бяжыць праз агарод на дарогу. З хаты, праз высокі парог выкульваецца на панадворак Кульба. Папіхваючыся рукамі, пад'язджае на сваёй калясцы да Язэпа.

— Ну што, адстаялі цябе,— кажа ён і ўсміхаецца.

— Можа, і горш зрабілі,— адказвае Язэп, пазіраючы на Макара, што сядзіць ля ягоных ног.— Цяпер і гэты сход Шугай мне прыпіша.

Жанчыны ківаюць галовамі. Яны, відаць, чулі, як пагражаў Шугай, і разумеюць гэта па-свойму. Але Макара нічога не бянтэжыць.

— А ты галаву не вешай,— бадзёра кажа ён.— На вайне быў — не палохаўся, дык чаго цяпер замаркоціўся. Хіба ты адзін?

— Яно і праўда, Язэпка,— падтрымала мужа Макарыха,— няма чаго бедаваць ды рукамі махаць. І так шмат часу змарнавана. За гэтыя дні вунь колькі зрабіць можна было б. Давайце пойдзем ды паглядзім разам, дзе і што рабіць. Неабавязкова ж у адным кліне сеяць. Можна лапікаў панавыбіраць у полі, дзе мін няма.

І хоць Язэп не вельмі хацеў ісці ў поле, яго пацягнулі. Там ён і прабыў да вечара.

Дамоў Язэп вярнуўся позна. Сонца ўжо нізка вісела над небакраем, і доўгія цені кладіся на зямлю.

Даша сустрэла яго на двары. Ён убачыў яе ўзрадаваны твар, што аж свяціўся ад усмешкі. Яна проста не магла стрымаць радасці, калі ішла насустрач яму.

— Язэпка, а ў нас радасць. Бацьку выпусцяць. Лётчык па ордэны прыязджаў...

Язэп ніяк не мог уцяміць, які лётчык... па якія ордэны. Потым ён здагадаўся, што прыязджаў той лётчык, якога хаваў Даніла і якога «выдаў» немцам... Значыць, не выдаваў!.. Значыць, і ён, Язэп, не вінаваты!.. А як тады абвінавачванні?..

— Ты па парадку раскажы...

— Дык я па парадку... Мы з маці дома былі, як ён на матацыкле прыехаў. Зайшоў у зямлянку, пытае, дзе Даніла Іванёнак жыве... А мы перапалохаліся. Мама першая здагадалася, што ён... Ну, плакаць пачала, а лётчык кажа: «Нічога, матуля, мы яго з таго свету вярнулі б, вашага мужа».

— Даша,— Язэп узяў яе за рукі.— Даша, ты не можаш ведаць, як узрадавала мяне.

Назаўтра ў Кляўцы прывезлі Данілу. З кратамі на вокнах машына спынілася ля зямлянкі. З кабіны вылез маладжавы лётчык-палкоўнік, з кузава вылезлі спачатку два вартавыя, потым начальнік раённага КДБ — сіваваты падпалкоўнік, за ім Даніла. Ён амаль не змяніўся, толькі быў абстрыжаны пад машынку. Язэп бачыў, як падпалкоўнік паляпаў Данілу па плячы і, штосьці гаворачы яму, смяяўся.

Калі Язэп выйшаў на двор, дык пачуў, як галосіць цешча, абдымаючы Данілу. Язэп павітаўся стрымана. Даніліха пацягнула Данілу ў зямлянку, але падпалкоўнік спыніў яе:

— Нам, цётачка, спачатку трэба ў роў схадзіць... Так што прабачце ўжо. Можа, пасля зойдзем.

Упяцёх яны пайшлі па сцежцы, якую яшчэ ў леташнім годзе пратаптаў Язэп. Даніліха кінулася ў хату, каб згатаваць што на абед. А яны з Дашай асталіся на вуліцы.

— Ну от, Язэп, а ты не верыў,— сказала яна.— І на Мішку ўсё злуеш. А можа, і Мішка такі вінаваты, як бацька.

— Як дакажа, што не вінаваты, тады і памірымся... І не ўсчынай ты гэтай гаворкі... Мне сваіх клопатаў хапае...

З рова лётчык вярнуўся з Зоркай Героя на кіцелі. Усе ўпяцёх зайшлі ў хату і, мабыць, канчаючы пачатую ў дарозе размову, заспрачаліся.

— Кінь ты, падпалкоўнік,— гаварыў лётчык,— кінь. Ну, куды ён знікне?.. А дома яму работы во — па горла. Праўда, старшыня?..

Падпалкоўнік пакруціў галавой:

— Не магу, таварыш Герой Савецкага Саюза. Не магу. Усё разумею, але не магу. Рашэнне патрэбна...

— Ну і чакай яго, а чалавек хай жыве. Атрымаеш — падшыеш у папку.

— Не, таварыш палкоўнік, не ўгаворвайце. Не магу. Можаце спакойна ехаць, дні праз тры мы Данілу Ягоравіча адпусцім... А цяпер не маю права.

— Ах ты, душа судзейская...

— Як хочаце называйце, а не магу... А ты, старшыня, чаго нос павесіў?..

Падпалкоўнік яўна хацеў перавесці гаворку, і Язэп ахвотна падтрымаў яго:

— Нос павесіў, бо за сувязь са здраднікам, вось гэтым, партыйны білет адабралі.

Нейкі час у зямлянцы панавала цішыня. Усе здзіўлена пазіралі на Язэпа. Бадай, адзін падпалкоўнік успрыняў навіну без здзіўлення. Ён першы і парушыў маўчанне:

— Ну, гэта пагарачыліся... Да цябе прэтэнзій і не было. Зразумеў?..

Язэп кіўнуў галавой. Яму здалося, што на гэтым ужо ўсё скончылася. Пройдзе дзень, два — і яго выклічуць у райком, аддадуць білет. Але ішлі дні, і Язэпа не выклікалі. І ніхто чамусьці не прыязджаў прызначаць новага старшыню.

Аднойчы, калі жанчыны пайшлі з поля абедаць, да Язэпа прыбегла Макарыха:

— Язэпка, родны, мой жа стары знік. Не ведаю, што і падумаць. Мусіць, паехаў куды на сваёй калясцы. Баюся, каб не падарваўся дзе на міне.

Макара шукалі ўсім калгасам. Але нідзе не знайшлі. Вярнуўся ён назаўтра пад вечар. Закаціў на калясцы ў Язэпаву зямлянку, выцер пот рукавом.

— Ну, Язэп, пабываў у вялікага начальства. Так што гэтаму Гаравому цяпер пападзе. І варта. Знайшоўся мне асэсар. Сам чуў, як яго па тэлефоне прабіралі.

Язэп толькі цяпер зразумеў, дзе прападаў Макар.

— Навошта вы, дзядзька? — спытаў ён.

## 32

На полі каласавала жыта. Пучок кволага мяккага асця яшчэ толькі паказваўся з трубкі, але колас ужо самавіта сядзеў на пругкім тоўстым сцябле. Язэп пакратаў каласы. Яны былі слізкія і халаднаватыя.

Язэп і сам не ведаў, чаго яго цягне заўсёды на гэты палетак. Не туды, дзе сеялі яравыя, дзе яны ўжо ўзышлі і чакаюць цёплых дажджоў, без якіх могуць загінуць, а туды, дзе каласуе жыта. Штосьці было ў гэтым палетку. Ён як бы нагадваў Язэпу ягоныя маладыя гады.

Яму здалося цяпер, што ён зусім састарыўся. Быццам пражыў па свеце безліч гадоў. Язэп адчуў, што вельмі змарыўся. Усё, што было за гэтыя гады: вайна, шпіталь, праца ў калгасе,— стаміла яго. Але раней у турботах ён чамусьці не адчуваў зморанасці, а вось цяпер, калі ўсё абышлося, ён адчуў страшэнную стомленасць. «Гэта як

у паходзе,— падумаў ён,— пакуль ідзеш — нічога: а прысеў — і ўжо не хочацца падняцца».

Яму стала крыху самотна, што падбіўся ў дарозе, што шмат было нікчэмных згрызот, якія адбіраюць сілы. Хоць бы ўсё тое, што звязана з Гаравым. Спрэчкі, сваркі, апошні гэты выпадак, калі Гаравы забраў партыйны білет. Усё гэта было непатрэбнае і шкоднае. Бадай, яно найбольш і стаміла Язэпа. Яшчэ змарылі і не высветленыя дасюль адносіны з Дашынымі бацькамі.

Цесць з цешчай жылі яшчэ ў рове, не вельмі жадаючы вылазіць з той зямлянкі, што пабудавалі ў акупацыю. Яны прытаіліся там і неяк аціхлі апошнім часам, калі Даніла вярнуўся дамоў. А, здаецца, павінна было быць наадварот. Чалавек мог цяпер смела глядзець у вочы людзям і смела гаварыць з людзьмі. Язэпу здавалася, што Іванёнкі нечага баяцца, не вельмі ўпэўнена адчуваюць сябе і таму стараюцца схавацца ад яго, Язэпа. Усё гэта было дзіўна, незразумела. І Даша цяпер чамусьці не ўспамінала пра брата, які недзе таксама стаіўся, не даваў аб сабе вестак. Язэп не хацеў надакучваць жонцы. Яна ўсё хварэла. Яе цяжарнасць палохала Язэпа, але ён звыкся ўжо з хваробай, і яна здавалася яму не такой страшнай, як на пачатку.

Але ўсё гэта забірала сілы, так патрэбныя на іншае.

Чамусьці прыгадалася апошняя сустрэча з Гаравым. Непрыемная, непатрэбная сустрэча. Яна пакінула пасля сябе крыўду і адчуванне нейкай ніякаватасці.

Язэп зайшоў чаго-небудзь выпіць у ларок, якіх апошнім часам пабудавалі шмат каля калгаснага рынку. І першага ўбачыў там Гаравога. Ён сядзеў з куфлем піва, п'яншаваты і гаваркі. Язэпа гэта непрыемна кальнула: вельмі хутка Гаравы страціў сваю непрыступнасць, ганарлівасць. Язэп зрабіў выгляд, што не бачыць яго, таксама выпіў куфель піва і хацеў пайсці, але Гаравы спыніў яго.

— У пераможцах ходзіш? — спытаў ён.— Радуешся, што Гаравога скінуў? Ну, радуйся! Але не думай, што праз цябе. Ты, Каліна, аказаўся ўсяго толькі зброяй у руках маіх ворагаў. Памог ім... І ўсё таму, што я дзяўчыну ў цябе забраў.

«А ён нічога не зразумеў,— падумаў тады Язэп.— Не змог зразумець».

Успамін пра Гаравога на нейкі час заглушыў і спевы жаўранкаў, і прыцішанае шапаценне жыта.

Язэп зарадаваўся, калі ўспомніў, што заўтра трэба

ехаць у бор, аж за Дзвіну, у другі раён. Праца яго так не стамляла, як розныя клопаты, звязаныя з яго старшынствам. І ён з радасцю сам згадзіўся ехаць у бор, каб рыхтаваць там бярвенне калгасу. Там ён спадзяваўся адпачыць ад турбот. Цешча абяцала паглядзець за Дашай і, як здалося Язэпу, нават была рада, што ён паедзе.

Рэшта дня прайшла ў зборах у дарогу. Увечары Язэп прыйшоў дахаты ажыўлены, бадзёры. Даша падала вячэраць.

— Едзеш? — спытала ў яго.

— Трэба ехаць...

— Прыязджай хутчэй. Мне страшна будзе...

У яе голасе чуўся дакор. Вось ён едзе, а яна, можа, без яго будзе раджаць. У вялікіх Дашыных вачах была туга. Яму стала шкада Дашы.

— Праз тыдзень я вярнуся. Ты ж сама казала, што яшчэ не хутка рассыплешся...

Яна прамаўчала. А Язэп падумаў, што едзе ён дарэмна, што гэтыя дні варта было б пабыць ля жонкі. Але ўжо не было калі мяняць справу, ды ён і не любіў перайначваць, што надумаў.

Яны выехалі на золаку: дарога немалая, а трафейных коней не вельмі падгоніш. У бор прыехалі ў поўдзень. Тут, ля новай леснічоўкі, стаяла ўжо шмат падвод, на якіх сядзелі жанчыны. Язэп пайшоў у леснічоўку. Неяк праціснуўся на кут, дзе за сталом сядзелі іх новы сакратар Шаройка і мажная, рабаватая жанчына — ляснік.

Шаройка ўзрадаваўся, убачыўшы Каліну.

— От добра, што ты прыехаў. Бачыш, якое ў нас войска, а кіраваць няма каму.

Тое, што Шаройка прыехаў сюды амаль за сто вёрст, каб пабыць з людзьмі, распарадзіцца, спадабалася Язэпу. «Гэта не Гаравы,— падумаў ён,— той бы не прыехаў».

— Кіраваць згодзен, калі слухацца будуць,— сказаў Язэп, пазіраючы на жанчын, што цесна стаялі ў хаце.

— Вы тут Каліну не крыўдзіце,— пажартаваў Шаройка.

Ляснік адказала за ўсіх:

— Дык мы ж народ ціхі, памяркоўны, не бойцеся, прыласкаем.

— Ого, ціхі,— засмяяўся сакратар.— Калі ўсе такія ціхія, як ты, дык беражыся, Каліна. Ёсць што прыгадаць. Помніш, як нос разбіла нашаму камандзіру гаспадарчага ўзвода?

— То даўно было, ды і варта было не толькі пос...— Яна ўзяла сякеру, засунула за папругу.— Пайшлі...

Язэп зразумеў, што Шаройка і гэтая мажная жанчына знаёмы яшчэ з партызан. Калі прыгледзеўся да лесніка, то здалося, што ён ужо недзе бачыў яе. Потым успомніў, што яна вельмі падобна на іх франтавую медсястру, якая выносіла з-пад варожага агню адразу двух параненых.

Дзялянкі пад высечку былі адведзены па беразе рэчкі Усвячы. Шаройка растлумачыў, што хоць лес тут не вельмі добры, затое бярвенне можна будзе сплаўляць па Дзвіне, каб не вазіць з такой далечыні. Гэта таксама спадабалася Язэпу. Шаройка аказаўся разумным, прадбачлівым чалавекам.

— Ведаеце, Мікалай Мікалаевіч, можа, нам тады лепей тут і зрубы ставіць, а потым разбіраць і сплаўляць па рацэ. Ды і кожнаму калгасу не трэба будзе шукаць цесляроў.

— Твая праўда, Каліна. Трэба сюды прыслаць некалькі брыгад. І, ведаеш, што мне прыйшло ў галаву? У горадзе цяпер часова размяшчаецца некалькі воінскіх часцей. А што, калі мы дамовімся, каб падсабілі нам? Як ты думаеш?

— Думаю, што пойдуць насустрач,— адказаў Язэп.— Салдаты па мірнай рабоце таксама засумавалі.

— Ну, а цяпер давай зачын зробім,— прапанаваў сакратар.

Ён узяў сякеру, падышоў да гонкай хваіны. Папляваў на далоні, размахнуўся сякерай. Хваіна здрыганулася. Долу пасыпалася сухая ігліца. Па лесе пракацілася гулкае водгулле.

— Давай пілу,— загадаў ён Язэпу.

Яны абодва сталі на адно калена. Язэпу было нязручна трымаць пілу адной рукой, але ён хутка прызвычаіўся. Піла глуха шастала, з-пад яе на мяккую траву падала сырое белае пілавінне. Потым хваіна пачала хіліцца. Яны выцягнулі пілу, адышліся. Хваіна павольна хілілася, потым мільганула верхавінай і са стогнам упала на зямлю.

Язэп выцер пот. Зачын быў зроблены. Цяпер трэба было расставіць жанчын на дзялянцы. Ён развітаўся з Шаройкам і пайшоў, паказваючы кожнай брыгадзе адведзенае месца.

Язэпу трэба было паспець усюды, бо многія жанчыны першы раз у жыцці браліся за такую справу. Часцей за ўсё яны не з таго боку падсякалі дрэва, і калі пачыналі

пілаваць, дык у іх заціскала пілу і трэба было яе выслабаняць клінам. Потым некалькі зваленых з пня ялін павісла на дрэвах. Але пад вечар Язэп выявіў сярод лесарубак некалькі спрытнейшых, прызначыў іх адказнымі ў кожную брыгаду.

Бярвенне тралявалі на луг, да рэчкі. Тут жа табарам размясціліся лесарубы. Увечары жанчыны саставілі калёсы ў круг, пасярэдзіне расклалі кастры, гатавалі на іх ежу. Дым ад кастроў падымаўся ўгору, смалістае ламачча гарэла зырка, жанчыны сядзелі вакол кастроў, чакаючы, пакуль зварыцца вячэра, і маўчалі, змораныя цяжкай, непрывычнай працай.

Язэп схадзіў на рэчку, памыўся. За дзень вада была нагрэлася, і Язэпу здалося, што ніколі ў жыцці ён не мыўся з такой асалодай, як цяпер. Здавалася — змыў не толькі пот, а як бы ўсё недарэчнае, благое, што было апошнім часам. Потым ён паглядзеў, ці добра навязаны коні, і вярнуўся да кастра.

Ляснік збіралася дамоў. Жанчыны яе затрымлівалі, але яна стаяла на сваім. Казала, што будуць баяцца дома дзеці.

— Я запрагу каня і падвязу вас,— сказаў Язэп.— Бо ісці няблізка.

— Нацянькі вёрст пяць...

— От бачыце.

Язэп запрог каня. Яны селі на калёсы спіна да спіны, паехалі. Колы грукаталі па карэннях, што перавілі лясную дарогу, рыпелі, але гэта, здавалася, не парушала глыбокай цішыні ночы. Потым, калі яны выехалі на шырэйшую дарогу, дзе колы не грукаталі ўжо, а мякка каціліся па пяску, Язэп пачуў лёгкае, ледзь чутнае шапаценне лесу, нейкія кволыя шолахі, таямнічыя, загадкавыя, і яму, як некалі ў дзяцінстве, чамусьці стала жудасна. Абапал стаяў цёмны бор, і толькі дарога шарэла між яго, як між сцен. Часам яна знікала наперадзе, і тады Язэп здагадваўся, што яна крута паварочвала ўправа ці ўлева. Язэпу здавалася, што за імі нехта цікуе ў бары. У цемры раптам узнікалі абрысы кагосьці страшнага, а потым, калі пад'язджалі бліжэй, Язэп бачыў куст або вываранець, вельмі падобныя на чалавека ці на жывёлу.

Можа, яны так і не разгаварыліся б, каб Язэп на скрыжаванні дарог не завярнуў каня не ў той бок. Ляснік сказала:

— Не, тут налева трэба. Гэта дарога ў Ноўку, хай яна праклятая будзе.

— Чаму вы так? — пацікавіўся Язэп.

— Па ёй з Ноўкі заўсёды карнікі ездзілі,— адказала яна.— А пад Ноўкай нашых шмат палегла. Ды і мяне аднаго разу на гэтай дарозе злавілі. Думала, што прыйшоў канец.

— І як жа выратаваліся?

— Выратавалася...

Яна чамусьці гаварыла неахвотна. І ў гэтым нежаданні расказваць пра сябе Язэп адчуваў нейкую таямніцу.

— Вы, мабыць, з Шаройкам даўно знаёмыя? — спытаў ён, памаўчаўшы.

— З сорак першага. Ён у нашым раёне да вайны працаваў. Настаўнічаў.

— Дык вы з сорак першага ў партызанах?

— А я і не была ў атрадзе. Я так памагала. Часам хадзіла да іх у лагер.

— Далёка адсюль іх лагер быў?

— Вёрст дванаццаць па лесе. Гэта першы лагер. У сорак другім тут усюды была партызанская зона. Ну, а пасля тыя, хто тут з партызан астаўся, зноў у лагеры жылі. Але ўжо ў другім.

— І вы іх наведвалі?

— Трэба ж было. Увосень сорак трэцяга немцы сюды шмат паліцыі і самаахоўцаў прыслалі. Выгналі ўсіх людзей, хто яшчэ жывы астаўся. Ну, дык Шаройкава група тут бы зусім прапала.

— Дык вы ім есці насілі?

— Не. Я ім разведку вяла.

Нейкі час ехалі моўчкі. Лес парадзеў, стала святлей. У прасветліны відаць было неба з рэдкімі зоркамі. Ляснік раптам павярнулася да Язэпа:

— А ты адкуль будзеш?

— З Кляўцоў, Войтаўскага сельсавета.

— Можа, Міхайлу Іванёнка ведаеш?

Язэп разгубіўся. За словамі лесніка яму пачулася тая таямніца, якую ён хацеў даўно высветліць.

— Міхася?.. Калісьці ведаў.

— Дзе ён цяпер?

— Быў на фронце. А вы адкуль яго ведаеце?

— Даводзілася сустракацца.

Язэпу не цярпелася хутчэй дазнацца, што ведае пра Міхася ляснік. Адчуваў — нешта, мусіць, благое... А яму

чамусьці хацелася пачуць добрае, такое, што апраўдала б Міхася.

— Я чуў, што Міхась, пасля таго як вярнуўся з партызан паранены, быў мабілізаваны немцамі на акопы. Праўда? — спытаў Язэп.

— Якія там акопы. Ён у самаахове служыў. А вось што ў партызанах быў, я не ведала.

— Дык што ён — супроць нашых ваяваў? — спытаў Язэп.

— Памагаў немцам выганяць людзей у Германію. І ваяваў. Раз вінтоўку насіў — ваяваў. Але найбольш людзей рабаваў.

— Навошта? — здзівіўся Язэп і сам адчуў, што пытанне яго недарэчнае.

— Ён з тых лаўкачоў, што ўсюды сваю выгаду знойдуць. Людзі, калі іх выганялі адсюль, мелі права не ўсё браць з сабой. Ну, ён і карыстаўся, забіраў сабе, што лішняе ў людзей аставалася. А пасля бацькам завёз. Пропуск выпрасіў у каменданта і завёз. І сала, і мёд, і вопратку...

— Дык ён, можа, і расстрэльваў людзей?

— Не, тут не. Хіба калі б ведаў, хто я такая, дык не выпусціў бы жывой... Ды не ў гэтым справа. Такія на ўсё здатныя. А ён прагны быў і баязлівы. Бывала, пачне расказваць — агідна. Ён думаў, што я, гэтак як і ён, немцам служу. Пра бацькоў гаварыў, што яны багатыя былі.

Назад Язэп вяртаўся задумлівы, узрушаны тым, што пачуў. Усё ж Міхась дэзерцір, здраднік. І Іванёнкі ведалі пра гэта. І Даша ведала. А хлусіла. Можа, і яго, Язэпа, частавалі тым салам, што Міхась нарабаваў? Было брыдка, і Язэп раптам падумаў: як жа жыць далей з Дашай? І кінуць нельга, ды і жыць...

У лагеры ўжо ўсе спалі. Датлявалі кастры, чырванелі ў цемры, і рэдкі дымок віўся над імі. Язэп распрог каня, прывязаў на лейцы ля самага лесу. Лёг на калёсы і адразу заснуў...

Сніўся сон, быццам ён ідзе па вуліцы іх новай вёскі, адзін. Нідзе ні душы, і яму страшна, самотна. Такая вялікая вёска — і нікога няма. Усіх людзей вывезлі немцы, а ён астаўся. І не ведае, што рабіць цяпер. Ён хоча схавацца ў жыце і раптам трапляе ў яму. Яма неглыбокая, мабыць, варонка ад бомбы, і Язэп думае, што выбрацца яму адсюль няцяжка. Але тут аднекуль паяўляецца той чалавек, з якім яны калісьці спалі на ўскраіне горада ў халоднай хаціне ў завіруху і які тады ўцёк, а яго, Язэпа,

і старую арыштавалі. «Гэта ён з немцамі прыйшоў»,— падумаў Язэп.

Чалавек той раптам аказаўся Міхасём Іванёнкам. Міхась стаяў над ямай, смяяўся, быццам быў рады, што Язэп трапіў у яе...

На трэці дзень у лес прыехалі салдаты. Яны прывезлі з сабой палаткі і ўвесь дзень расстаўлялі іх на беразе рэчкі. Язэпа пацягнула ў салдацкі лагер. Ды трэба было пра сёе-тое дамовіцца з начальствам.

Па кладцы ў два бервяны ён перайшоў на той бераг і першага сустрэў таго салдата з будаўнічага батальёна, які абчэсваў бярвенне, калі Язэп прыехаў на маставой ферме ў горад. Салдат Язэпа таксама пазнаў.

— А-а-а, сяржант, бачыш, як бывае. Праўду кажуць, што гара з гарой не сходзіцца... Прыехалі вось памагчы... Ды трэба ўспомніць, ці не забыліся мы хаты будаваць. У вайну больш зямлянкі ды масты будавалі. А хутка дамоў. З дня на дзень чакаем дэмабілізацыі.

— Работы ў нас — непачаты край,— адказаў Язэп.— А ў калгасах адны жанчыны.

— Тое ж і мне піша жонка. Дом недалёка, а ісці да яго не час.

Салдат гэты завёў Язэпа да немаладых год капітана, сівога, ссутуленага і дужа зморанага з выгляду. Ён моўчкі слухаў Язэпа. Было не зразумець — згаджаецца ён з ім ці не. Потым ён паклаў рукі на стол, зроблены з жэрдак, сашчапіў пальцы. Рукі ў яго былі вялікія, вузлаватыя. Яны чымсьці нагадвалі рукі Язэпавага бацькі, калі ён, бывала, садзіўся за стол і вось так сашчэпліваў пальцы.

— Дык вось што я вам скажу. Працаваць мы будзем, а колькі дзён, гэтага ніхто не ведае. Сам разумееш, як толькі прыйдзе загад аб расфарміраванні, людзей тут не ўтрымаеш. Кожнага дома сям'я чакае.

— Я гэта ведаю.

— Колькі паспеем зрабіць — ваша. Так што самі рашайце, як пасля гэтыя зрубы дзяліць. Я раіў бы ставіць зрубы і адначасова вязаць плыты з бярвення. З жанчынамі табе плытоў не звязаць.

— Гэта вы правільна раіце.

— Ну, калі правільна, то так і будзем рабіць. І вось яшчэ што: выступі, брат, заўтра перад салдатамі. Раскажы ім, як жывяце, як працуеце. Згодзен?

— Калі трэба, дык выступлю. Толькі я не мастак гаварыць.

— А ты па-свойму скажы. Зразумеюць.

Разам яны выйшлі з палаткі. Было ціха, зорна. Недзе ў лазе цёхкаў салавей, а на тым беразе жанчыны спявалі старую, некалі ў дзяцінстве чутую Язэпам песню:

Ты не пой, салавей, у маім садочку,
Не будзі, салавей, мілага дружочка.
Я сама, малада, разбуджу дружочка,
Я сама, малада, выйду у садочак.

Тут, ля палаткі, раптам таксама нехта заспяваў:

Не плач, Лізавета,
К табе я прыеду,
К табе я прыеду
На гарачым вараным кані...

Здавалася, што дзве песні перагукаюцца цераз раку.

У тую ноч Язэп доўга не мог заснуць. Яго прыгняталі думкі пра Міхася. Раней жыла нейкая надзея, што Міхась нічога дрэннага не зрабіў. Цяпер яна знікла. Міхась, чалавек, з якім пачыналі вайну, аказаўся здраднікам. І Язэпу здавалася, што і ён у чымсьці тут вінаваты.

«Ніколі ўжо між намі не будзе ні дружбы, ні шчырасці. Так на ўсё жыццё астанемся чужымі. І гады не могуць нічога змяніць»,— падумаў ён.

Раніцай па Язэпа прыйшла ляснік Ніна Васільеўна. Трэба было адвесці новыя ўчасткі пад высечку.

Спачатку яны ішлі лесам, потым берагам рэчкі. Сонца толькі яшчэ паднялося, і з ракі падымаўся туман. Было росна. Пахла медуніцай і дзяцелінай, якая пачынала ўжо цвісці.

Ляснік ішла паперадзе, да чагосьці прыслухоўваючыся. Зрэдку спынялася, як бы чакала Язэпа, які ўвесь час адставаў.

Яны ўжо ішлі з гадзіну. Сонца паднялося над лесам, абсохла трава. На ўзгорку ляснік прыпынілася.

— Вось тут,— сказала яна,— увосень сорак трэцяга года ішоў вялікі бой. Карнікі спрабавалі акружыць партызанскі лагер.

— А ён што, недалёка адсюль? — спытаў Язэп.

— Вярсты тры.

— Можа, пакажаце? Вельмі хацелася б паглядзець, як ён выглядае.

— Ды яго немцы ўвесь спалілі. Лепей я табе пакажу зямлянкі, дзе Шаройка са сваімі людзьмі апошнюю зіму жыў. Гэта якраз па дарозе.

Рэчка адсюль крута заварочвала на поўнач.Ісці даводзілася нацянькі, па лесе. Недзе там, вышэй па рацэ, і былі новыя дзялянкі. Язэпа ўвесь час непакоіла думка, як жа сюды перавесці ўвесь лагер. Але ляснік супакоіла яго: ёсць сюды дарога, борам, праўда, даўжэйшая за тую, па якой яны ішлі.

Нарэшце балота кончылася. Густы бярэзнік падымаўся некуды ўгару. Ад белых ствалоў пярэсціла ўваччу.

— Вось тут злева, пад гарою, партызанскія зямлянкі. Іх так адразу і не ўбачыш. Замаскіравалі іх добра.

Сцежка да лагера ўжо густа зарасла маладзенькім, пры самай зямлі, бярэзнікам. Быццам яго хто пасеяў тут знарок. Было шкада таптаць нагамі гэтыя кволыя, далікатныя дрэўцы, і Язэп ступаў з асцярогай. Можа, гэта асцярога, ды яшчэ дзіўная цішыня, што панавала ў лесе, выклікалі ў Язэпа адчуванне насцярожанасці і нейкай унутранай сабранасці, аж калацілася ў грудзях сэрца.

Ён раптам добра ўявіў, як у акружэнні ворага жыў вось тут Шаройка са сваёй групай, як прабіралася ўначы да іх разведчыца Ніна Васільеўна. Вось гэта мужнасць! Дык як жа можна дараваць такім, як Міхась!

Ніна Васільеўна стаяла каля зямлянкі, замаскіраванай так добра, што Язэп не адразу разгледзеў жанчыну.

— Тут,— сказала яна,— у час блакады хаваўся партызанскі шпіталь. Дваццаць сем цяжкапараненых і медсястра Шура з імі. Хто мог пайсці — рушылі на прарыў. А гэтых тут схавалі. Яны чатырнаццаць дзён у зямлянцы жылі.

— Як жа яны не задыхнуліся? — здзівіўся Язэп.

— Вунь туды пад вывараценъ быў зроблены тунель,— адказала ляснік.— На паверхню выходзіла невялікая адтуліна. Але ўсё роўна, расказвала Шура, дыхаць не было чым. Сам разумееш — смурод быў страшэнны. Людзі заўжыва гнілі. А хто і памёр. Так і ляжалі жывыя і мёртвыя поруч. І Шура з імі. Калі іх адкапалі, у Шуры ўсе валасы пасівелі. А тады ёй было дзевятнаццаць гадоў.

Язэп прыгадаў сястру, якую ён бачыў, калі дамагаўся пакласці Дашу ў раённую бальніцу. Тады ён здзівіўся: твар у жанчыны яму здаўся юным, але пасівелыя валасы выдавалі сястру як сталую жанчыну. «Няўжо гэта яна? Што я тады нагаварыў ёй?! — Язэпу ад успамінаў стала горача.— Як я мог, не ведаючы, хто яна, так абразіць яе?!»

Ён прыгадаў кожнае сваё слова, якое гаварыў сястры, калі яна сказала, што месц няма. Чаго ён толькі не наплёў тады! Як толькі не абзываў яе!

Цяпер яму было сорамна. «Які я быў жорсткі,— падумаў ён і тут жа знайшоў апраўданне сваёй жорсткасці.— Але ж я не ведаў, хто яна».

Назад яны вярталіся маўклівыя і задуменныя.

## 33

Настала, бадай, самая цяжкая пара ў жыцці кляўцоўцаў — хоць зубы кладзі на паліцу. Такое здаралася і раней: адсеецца селянін і ў засеках ні зерня, ні бульбіны. Але тады можна было купіць, пазычыць і неяк дацягнуць да новага ўраджаю.

Цяпер ні хлеба, ні бульбы. Адно шчаўе ў полі. Нават таўкачыкі яшчэ не паспелі. Насоўваўся люты голад. І Язэп не ведаў, як памагчы людзям. Праўда, тыя, у каго засталіся мужыкі, сягды-тагды атрымлівалі пасылкі. Але такіх было не шмат.

Язэп хадзіў як учадзелы. Трэба вывозіць лес з ракі, ставіць хаты. Але як гэта зрабіць з галоднымі людзьмі? Усё было няміла. Нават сухое, сонечнае надвор'е, што ўсталявалася ў канцы чэрвеня.

Адно радавала Язэпа — сын. Маленькі Каліна, які пацешна пазіраў на свет, мабыць, нічога яшчэ не разумеючы ў ім. Сын прытушыў былыя звадкі і сваркі, што не так даўно не пераводзіліся ў хаце. Нават цешча цяпер амаль не бурчала і ўсё прыглядалася да ўнука, стараючыся ўгадаць, на каго ён падобны: на іх, іванёнкаўскую, пароду ці на калінаўскую. Даша казала, што сын падобны на бацьку, і гэта напаўняла Язэпа наіўнай, смешнаватай радасцю: яго сын не будзе такім, як дзядзька, Міхась Іванёнак, ад якога чамусьці даўно ўжо не было пісьмаў. Язэп чамусьці думаў, што Міхася арыштавалі. Гэта не прыносіла ні засмучэння, ні радасці. Здавалася, што Міхася не было ніколі на свеце.

Сонечнай чэрвеньскай раніцай Язэп пайшоў у сельсавет. Трэба было заплаціць членскія ўзносы. Хацелася пабыць на людзях, пахваліцца Насці і Бярозцы, што ў яго сын і цяпер ён не проста Каліна, з неўладкаваным жыццём чалавек, а бацька дзіцяці, якому, можа, дастанецца лепшая доля.

У сельсавеце сядзеў Гаравы. Ён змізарнеў за гэты час, стаў падобны на нехлямяжкага засцянковага шляхціца, які для форсу надзеў кіцель. Толькі вочы засталіся тыя ж, калючыя, злосныя.

Працаваў цяпер Гаравы нарыхтоўшчыкам, і Язэп, убачыўшы яго ў сельсавеце, усміхнуўся: ці не шчаўе прыехаў нарыхтоўваць былы сакратар.

Яны павіталіся стрымана. Абодва хавалі ў глыбіні душы непрыязнасць. Язэп спадылба паглядаў на Гаравога. Кіцель на ім зашмальцаваўся, правы рукаў абсекся па краях і ўскудлачаныя махры нітак тапырыліся вусамі. Штаны на каленях выцерліся, быццам Гаравы недзе доўга поўзаў на карачках. Але боты наваксаваныя, блішчаць. Яму раптам зрабілася няёмка, што Гаравы так неахайна апрануты. Можна ж было б зацыраваць рукаў і гузікі прышыць як след, каб не віселі на нітках, нібы тыя стручкі фасолі. «А ўсё таму, што Клава яго не кахае»,— падумаў ён. «Мілага пазнаюць па латцы, а немілага па прарэсе»,— прыгадаў Язэп даўнюю прымаўку. Яно і праўда, каб любіла Клава Гаравога, дык не выправіла б на людзі з гэтымі махрамі на рукаве.

Гаравы, нібы адчуўшы, што пра яго думае Язэп, пайшоў у парог, дзе стаяла вядро з вадой, доўга і неахвотна піў ваду.

— Перажывае,— шапнула Язэпу Насця.— На жонку скардзіцца, а хто з ім жыць стане — цяжкі чалавек, хоць плач.

Ад Насціных слоў у Язэпа нядобра заныла сэрца. Няўжо развяліся?.. От, Клава, як здарылася: і сваё, і маё жыццё загубіла... Ён спахапіўся, што падумаў штосьці абразлівае для яго самога. Навошта яму Клава? У яго ж сын.

Язэп пастараўся заглушыць думкі, нават раззлаваўся на сябе, але дзесьці глыбока-глыбока тлела подленькая надзея на больш шчаслівы лёс. Хацелася пабачыць Клаву, хоць бы здаля, быццам гэта магло штосьці змяніць у іх жыцці.

Сельсавецкая сакратарка падала Насці нейкія спісы. Насця, не чытаючы іх, падпісала, адсунула на край стала.

— От, Каліна, усё з гэтымі спісамі валаводзімся. Па сто разоў пераглядаем, а дзе ты той дапамогі набярэшся, калі ўвесь раён на галодным пайку. Зноў вось прыслалі муку, бульбу, кансервы. Трэба размяркоўваць, а як, калі кожнаму есці хочацца. Тваіх толькі шэсць сямействаў уключылі.

Насця як бы прасіла прабачэння, што не магла ўключыць у спісы ўсіх кляўцоўцаў. А Язэп думаў пра тое, якую буру ўзніме гэтая дапамога ў калгасе. Людзі будуць

наракаць на яго, што адны ўключаны ў спісы, а пра другіх забылі.

Гаравы хадзіў па зямлянцы, заклаўшы рукі за спіну, у размову не лез. «Чаго ён прыйшоў сюды?» — думаў Язэп, але спытаць было няёмка.

Неўзабаве паявілася Варвара Бярозка. Яны не бачыліся аж з таго сакавіцкага дня, калі разам адзначалі Жаночы дзень. Варвара загарэла, і пэўна таму на яе твары асабліва выразна відаць былі здрадлівыя маршчынкі ля вачэй. Яна па-мужчынску моцна паціснула Язэпаву руку, заглядаючы ў вочы, сказала:

— Чула, Каліна, што нашчадка займеў. Ну што ж, віншую. І, як заўсёды, дарэчы прыйшоў. Гаравы, мусіць, табе ўжо гаварыў?

Язэп здзіўлена паглядзеў на Гаравога. Той прадаўжаў дыбаць па зямлянцы, быццам яго не датычыла гэтая размова.

— Званіў Шаройка,— гаварыла далей Бярозка.— Паедзеш у заходнія вобласці. Куды? Яшчэ пытанне не вырашана. Ёсць дамоўленасць, што тамашнія сяляне памогуць нашаму раёну хлебам, бульбай, гароднінай. Але трэба ўсё гэта прывезці сюды. Сам разумееш, транспарту няма. Ад нашага сельсавета партыйная арганізацыя пасылае цябе. Думаю, справішся?

— Дзіва што,— азвалася Насця.

— Ну, вось,— звярнулася Варвара да Гаравога,— і справе канец. Каліна будзе табе добрым памочнікам.

Той прамаўчаў, і Язэп зразумеў, што Гаравы не хацеў чамусьці, каб ён ехаў з ім. Ды і сам Язэп, цяпер, калі даведаўся, што трэба ехаць з Гаравым, не вельмі быў у захапленні.

Дні праз два Язэп ішоў у горад з Данілам Іванёнкам. Як ні адбіваўся Язэп ад цесця, як ні даказваў яму, што ехаць не варта, цешча і Даша настаялі на сваім. Для іх не выкарыстаць такую нагоду здавалася неверагодным.

— Само шчасце ў рукі просіцца,— сказала цешча,— ды каб адапхнуць яго. Гэта ж, во, дзетка мае, можа, і не надарыцца такога выпадку з'ездзіць памяняць сякія-такія транты. Аднаму яно і страшна і нязручна, а разам весялей будзе, і нам не так клопатна.

Язэп нарэшце здаўся.

Да самага горада яны не прамовілі ні слова. Язэп, заняты сваімі думкамі, не звяртаў на Данілу ніякай увагі.

Ля райкома ўжо сабраліся прадстаўнікі ўсіх сельсаветаў. Некалькі жанчын і мужчын сядзелі на ганку, памалу вялі гаворку. Язэп прыслухаўся. Людзі гаварылі пра вайну, пра расстрэлы і аблавы, якія рабілі немцы. У іх голасе чулася абыякавасць. І Язэпу яна была зразумелая. За вайну людзі нагледзеліся жахаў. Расстрэлы і забойствы прытупілі пачуцці. Тым больш, гэта выклікала ў яго пякучы, нястрымны боль.

Шаройка падняўся насустрач яму, сустрэў сярод кабінета. Яго бадзёрасць і ўменне прываблівць да сябе развеялі Язэпавы панурыя думкі.

— Не хацеў цябе турбаваць, браце,— загаварыў ён да Язэпа, абдымаючы за плечы,— але нявыкрутка, ды і Вышак раіць. Кажа: лепшага, як Каліна, не знойдзеш. Мы тут доўга раіліся, як памагчы людзям. А калі шмат думаеш, дык нешта знойдзеш. Нам трохі грошай адпусцілі. Хацелі раздаць іх як дапамогу, а пасля цюкнула ў галаву: грашыма голад не заморыш. Бо дзе тая сялянская цётка на грошы хлеба купіць. У нас на станцыі кавалачак хлеба — дзесяць рублёў. Во і рашылі паслаць вас у заходнія вобласці. Там хлеб танны. Купляць будзеце. Ясна? Як купцоў вас пасылаем.

Язэп абрадаваўся. Яму чамусьці ўвесь час успаміналася, як прыходзілі ў Кляўцы дуброўскія жанчыны па жыта. Хай яно згарыць, калі трэба ехаць вось па такую пазыку.

— Вядома, на грошы гэтыя шмат не купіш,— сказаў Шаройка.

— Дык што, нам з мехам, як жабракам, хадзіць?

Шаройка зарагатаў.

— Ну і дзівак! А хто табе сказаў, што вы жабракі. Я, браце, гаварыў з таварышамі. Абяцаюць памагчы. А вам толькі трэба будзе выступіць перад народам, словам людзей запаліць. Зразумеў? Народ, браце, усё разумее. Нам, партызанам, памагаў. Вось як!.. Гаравы ў вас за старшага. Ты пачакай, ведаю, што скажаш. Лічы гэтае заданне як праверку Гаравога. Ды і тое ўлічы, што трэба яму хоць на месяц адсюль паехаць. Свету паглядзець, па дарогах злосць сваю растрэсці. Аброс ён ёю, як пень мохам. Цябе мы ў памочнікі да яго ставім. Глядзі за ім. Яму так і сказана: ты — старшы, але без Каліны нічога не рабі. Зразумеў?..

— Здаецца, уцяміў...

— Ну, тады шчаслівай дарогі. Паперы ў Гаравога. Давай руку, браце...

Яны развіталіся. Ад Шаройкі Язэп выходзіў з дзіўным пачуццём нейкага шчымлівага смутку. Не хацелася расставацца з гэтым прывабным, мілым чалавекам і зноў станавіцца пад уладу Гаравога.

## 34

Да Полацка дабраліся на вайсковым эшалоне, адтуль ехалі ў грукатлівым «цялятніку» пасажырскага цягніка, што надоўгу стаяў на прыпынках. Апошні дзень дабіраліся да раённага цэнтра на вайсковай крытай машыне. Пяцёра аўтаматчыкаў, пакуль ехалі па лесе, сядзелі ля задняга борта, трымаючы аўтаматы напагатове.

— Каго вы тут баіцёся? — спытаў у іх Гаравы. Маленькі салдат, падміргнуўшы, адказаў:

— Саюзнічкавых дармаедаў.

Аўтаматчыкі зарагаталі. Язэп не зразумеў, на што намякаў кірпаты салдат.

Была якраз нядзеля, калі яны прыехалі ў мястэчка, згубленае недзе сярод бясконцых лясоў. На брукаваным пляцы перад вялікім касцёлам поўна народу. У мястэчку фэст. На базарнай плошчы — кірмаш. З вазоў, якімі застаўлены пыльны пляц, ідзе бойкі гандаль. Гаравы, прабіраючыся між вазоў, бурчаў:

— Бачыш, як жывуць. Ска-ажы, нібы вайны не бачылі.

Слядоў вайны тут і сапраўды не было відаць. Мястэчка засталося некранутым, бо фронт пранёсся паўз яго па вялікіх дарогах. Падзвінцаў гэта напаўняла шчырай зайздрасцю. Ім не пашанцавала. Было непрывычна і радасна бачыць, што людзі тут жывуць някепска, як да вайны.

Паблукаўшы па базары, падзівіўшыся на невысокія цэны, падзвінцы пайшлі ў райком. Чакалі там застаць толькі дзяжурнага. Але райком працаваў, як і ў звычайны дзень.

Іх прыняў першы сакратар. Невысокі, моцны і нейкі западта рухавы, ён вызначаўся вайсковай выпраўкай.

Сакратар абяцаў памагчы. Але Язэп адчуў, што ён штосьці хавае, быццам саромеецца ў нечым прызнацца.

Дамовіліся хутка. Падзвінцаў размясцілі ў школе, але яны адпачываць не сталі, пайшлі на базар. Язэп з Гаравым засталіся ў пустым класе.

Праз акно далятаў сюды прыглушаны шум кірмашу і ярасны перазвон званоў. Сухі пах пылу казытаў у носе, а прахалода пустой школы цягнула на сон.

Язэп, здаецца, задрамаў, калі пачуў, што нехта асцярожна трасе яго за плячо. Расплюшчыў вочы — над ім стаяў Даніла Іванёнак.

— Язэпка, выйдзі на хвіліну, пагаварыць трэба.

Неахвотна падняўшыся (думаў, што цесць хоча пацягнуць яго на базар), Язэп выйшаў на калідор.

— Што табе?

Даніла азірнуўся, зашаптаў:

— Язэпка, тут жа навокал бандыты. Кажуць, сёння на кірмашы нават былі.

— Якія бандыты? — здзівіўся Язэп.— Нешта нічога не разумею. Ці не хапіў ты дзе чарку?..

— От не верыш!.. А яны ў лясах туляюцца. Як партызаны. Кажуць, нібы тут цэлая армія асталася. А кіруюць імі англічане, ці, можа, і не яны. Так што трэба адсюль матаць, пакуль не забілі.

Язэп зарагатаў. Яму было смешна бачыць напалоханага Данілу. Нават калі і ёсць некалькі бандытаў, дык чаго іх баяцца. Па сваёй зямлі ходзім.

Але ён тут жа і засумняваўся. Успомніў аўтаматчыкаў у машыне, сакратара райкома, які штосьці хаваў ад іх, і яму стала сумна. От, ліха на яе, няўжо людзям вайна не надакучыла. Вось табе і няма слядоў вайны. Не, яны, мабыць, ёсць усюды, толькі не адразу кідаюцца ў вочы.

— Ты ад каго чуў пра бандытаў? — спытаўся ён у цесця.

— На базары... Верны чалавек казаў... Ды ты не сумнявайся. Навошта яму хлусіць? Кажа: у раёне — дзве ці тры банды... Схадзіў бы ты, Язэпка, у райком, ды ўсё чыста і высветліў бы. Калі праўда, дык час і па аглоблях...

Язэп падумаў, што парада цесця, бадай, прыймальная — варта пагаварыць з сакратаром.

— Пакліч Гаравога,— папрасіў ён Данілу.

— Наліха?.. Толку з яго, як з казла малака...

«Што праўда дык праўда»,— падумаў Язэп.

У райком пайшоў адзін.

Кірмаш ужо раз'ехаўся. Мястэчка пусцела ўвачавідку. На яго апускалася ціхая, самотная стомленасць, у якой не было месца бандытам. На пляцы перад райкомам, стаяла грузавая машына — палутарка. У яе кузаве сядзе-

лі цывільныя людзі з вінтоўкамі. З райкома выйшаў вайсковец у афіцэрскім шынялі, сеў у кабіну. Машына загула маторам, пайшла па акружнасці, агінаючы пляц, нырнула ў вузкі завулак.

Сакратара ў райкоме не было. Немаладая жанчына — дзяжурная па райкому — так і не сказала, дзе сакратар. Яна наогул вяла сябе дзіўна. Калі Язэп спытаўся ў яе, ці праўда, што ў раёне дзейнічаюць банды, паглядзела на яго з падазронасцю.

— Чуткі правакацыйныя,— рашуча заявіла яна.

— Але ж мне вядома...

— Часам прасочваюцца з Літвы,— апярэдзіла яна Язэпа.— Зрэшты, чаму вы хвалюецеся? Райцэнтр ім не па зубах...

Язэп адчуваў яе няшчырасць, але ад далейшых роспытаў адмовіўся.

«Можа, і праўда больш балбочуць пра бандытаў,— падумаў ён.— У страха вочы вялікія».

Каля школы Язэпа чакаў Даніла. У яго быў перапалоханы выгляд.

— Во што,— звярнуўся да яго Язэп,— не трэба панікі...

— Гаравы цябе пытаўся, але я не сказаў, што ты ў райкоме,— зашаптаў Даніла.

— Чаму шукаў? — падзівіўся Язэп.

— Нараду праводзіць, а цябе няма. Лаяўся, аж страшна...

...Гаравы развіў кіпучую дзейнасць. Тут, удалечыні ад свайго раёна, ён неяк акрыяў, зноў пакрыкваў на прадстаўнікоў сельсаветаў, з якімі прыехаў. Язэп бачыў, што тутэйшняму сакратару райкома не дужа падабаецца, як дзейнічае Гаравы, але, мабыць, з пачуцця гасціннасці ён маўчаў. А Гаравы распараджаўся, як у сваім раёне.

Рашэннем райвыканкома падзвінцам бясплатна аддаваўся млынавы збор. Належным распараджэннем зерне гэта павінна было дастаўляцца ў мястэчка і тут перадавацца падзвінцам па акце. Гаравы доўга хадзіў пануры, нешта абдумваў. Увечары ён сказаў Язэпу:

— А-а-а як ты, Ка-а-аліна, думаеш, ці не абжуляць яны нас? Пра-а-ачакаем тут месяц, а зерне так і не прывязуць.

Язэп нават абурыўся: «Як можна не верыць людзям, якія так гасцінна прынялі іх і робяць усё, каб памагчы?!» Але Гаравы дамогся свайго. Назаўтра ён пайшоў у рай-

ком, дамовіўся там, каб падзвінцы самі паехалі па млынах і там разам з сельсавецкімі работнікамі арганізавалі дастаўку зерня ў мястэчка.

На нараду ў райком пайшоў і Язэп. Яны сядзелі ўчатырох у невялічкім кабінеце сакратара: Гаравы, Язэп, сакратар і старшыня выканкома. Яркія сонечныя промні прабіваліся ў акно праз гушчыню лісцяў ліпы, што расла перад будынкам райкома: на стале пярэсціў дзіўны ўзор з яркіх жоўтых кружочкаў і фіялетавых густых ценяў. Сакратар дастаў са стала страпаную, падклееную марляй карту, пакрэсленую нейкімі знакамі.

— Мая партызанская,— сказаў ён і папрасіў пасунуцца бліжэй да стала.— Давайце, таварышы, вызначым пункты, куды вашым людзям лепей паехаць. Мы і самі ўсё зрабілі б, але, калі таварыш Гаравы настойвае, кажа, што людзі хочуць нам дапамагчы, мы з удзячнасцю такую прапанову прымаем.

Ён дыпламатнічаў, і Язэп адчуваў гэта. А Гаравы ад яго слоў нібы вырастаў: як жа, ён дамогся свайго.

— Я думаю, Фёдар Антонавіч,— звярнуўся сакратар да старшыні выканкома,— мы даручым нашым гасцям пабываць вось у гэтых сельсаветах. Тут і недалёка, і дарогі нішто. Нельга ж злоўжываць шчырым жаданнем нашых сяброў памагчы нам.

— Бадай, так,— згадзіўся Фёдар Антонавіч,— у Жулянах, Пранцышках і Наскачове і без нашага ўдзелу ўсё зробяць.

Гаравога гэта як калола. Ён зрабіў выгляд, нібы пакрыўдзіўся, што іх назвалі гасцямі. Не, яны не госці, і таму ён просіць, каб яго людзей паслалі ў глухамань, туды, дзе цяжэй. Сакратар далікатна адгаворваў, жартаваў. Гэта толькі распаляла Гаравога.

— Разумееце, таварыш Гаравы,— неяк засаромеўшыся, нават пачырванеўшы, пачаў старшыня выканкома.— Справа яшчэ і ў тым, што ў гэтых сельсаветах не зусім ціха. Мы не можам рызыкаваць вамі. Самі мы туды ездзім, бо ведаем людзей і яны нас ведаюць. Ледзь што, папярэдзяць. А вашым таварышам будзе цяжка арыентавацца.

Некалькі хвілін Гаравы здзіўлена пазіраў на старшыню, потым, заікаючыся, запытаў:

— А адкуль яны, гэтыя ба-а-андыты? Можа, вы іх у сне прыснілі?

Сакратар стрымана засмяяўся.

— На жаль, не ў сне. Туташнія нацыяналісты ды розная іншая сволач дзейнічае,— сказаў ён.— Так што ў гэтыя сельсаветы мы вас не пусцім. А ў астатнія, калі ласка. Нашы людзі ўсюды вас сустрэнуць і памогуць вам усім, чым можна. Народ у нас добры, чулы. У сельсаветах ужо ведаюць, што вы прыедзеце, і чакаюць вас.

Ён падняўся, даючы зразумець, што размова закончана. Язэп з Гаравым выйшлі з райкома на невялікі пляц, спугнулі чародку вераб'ёў, што корпаліся ў смецці. Назіраючы за імклівым палётам вераб'ёў, Гаравы раптам усміхнуўся.

— Ты, Ка-а-аліна, як усё гэта зра-а-азумеў? — спытаў ён.— Напа-а-алоханы яны тут, як гэтыя вераб'і. Вось што. А хутчэй, па-а-алохаюць нас. Дума-а-аюць, я іхніх бандзюкоў ба-а-аюся. Га-а-аравы днём праз нямецкі гарнізон на ка-ані праехаў аднойчы. Яны нас не хочуць пусціць у гэтыя Жуляны, бо там, мусіць, многа хлеба. Шка-а-адуюць!.. Дык вось, Каліна, паедзеш туды...

Язэп разгубіўся. Яго абурыў гэты недавер Гаравога да мясцовага кіраўніцтва і тая ўпартасць, з якой ён вёў сваю лінію.

— Я падпарадкоўваюся ўказанням, якія нам далі ў райкоме,— спакойна адказаў Язэп.

— Ты мне падпарадкоўваешся,— злосна адказаў Гаравы.

Язэп спадзяваўся, што на гэтым размова закончылася. Але ўвечары Гаравы ўсчаў яе зноў. Ён настойваў, каб Язэп паехаў у адзін з трох сельсаветаў, якія назваў старшыня выканкома. Язэп адмаўляўся, і Гаравы злаваў, абзываў яго баязліўцам.

Даніла Іванёнак, седзячы ў кутку, слухаў спрэчку, моргаў парудзелымі вейкамі. Час ад часу ён падаваў нейкія знакі Язэпу.

— Ты па-а-аедзеш,— барвеючы, крычаў Гаравы,— я ця-а-абе прымушу па-а-аехаць. Я ця-а-абе прымушу пава-а-ажаць дырэктывы.

Язэпу надакучыла слухаць яго, і ён выйшаў у калідор. Курыў, пазіраючы за акно. На мястэчка апускалася ноч. Ціхая, светлая. Хутка з класа вышмыгнуў Даніла Іванёнак. Падышоў да Язэпа, папрасіў закурыць.

— Ну што ты з ім спрачаешся,— загаварыў ён.— Ты згаджайся, а сам па-свойму рабі. Наліха табе ў тыя Пранцышкі ехаць. Ад'едзем вярсты дзве, пажывём на хутары дні тры, ды і вернемся назад. Можа, дасць бог,

адтуль гэты гарцовы збор самі прывязуць. От як разумныя людзі робяць.

— Я хлусіць і ашукваць не ўмею.

— Не ашукаеш — не пражывеш,— падрахаваў размову Даніла.

Раніцай Язэпа разбудзіў Гаравы. Яшчэ не ўзыходзіла сонца, а ён ужо стаяў апрануты і панура-суровы.

— Уставай, едзем. Хопіць дрыхнуць. Машына чакае,— гаварыў ён, пацёпваючыся ад ранішняй прахалоды.

Якая машына?.. Чаму ехаць, калі Язэп адмовіўся? Спрасонку цяжка было ўсё зразумець. Прачнуўся Даніла Іванёнак. Чамусьці дастаў з-пад саломы сваю торбу, пачаў перабіраць у ёй рэчы, яшчэ не абмененыя на хлеб.

— Баішся? Ага, баішся,— казаў Гаравы.— Ты толькі на словах смелы. Ты мяне абвінавачваў, што я не дбаю пра людзей. Чаго ж ты цяпер пра іх не думаеш? Яны ж хлеба чакаюць. Дык вось, я адзін паеду. Можаш заставацца.

Язэп ускочыў як ашпараны. Хуценька сабраўся, выбег на вуліцу. На ўсходзе ружавела неба. Пачынаўся новы дзень. «А можа, і праўда я баюся? — падумаў Язэп.— Не, проста няёмка рабіць наперакор нашым гаспадарам, якія прасілі не ехаць. Але ж і Гаравога аднаго не адпушчу».

Яны ішлі па соннай вуліцы кудысьці за касцёл. Гаравы шыбаваў паперадзе. Толькі адзін раз ён азірнуўся, быццам хацеў упэўніцца, што Язэп ідзе следам.

На краю мястэчка, там, дзе плаціна перагароджвала рэчку і стаяў каменны млын, чакала ў прысадах машына. Шафёр, у збітай набакір пілотцы, сустрэў іх неахвочым «добры дзень» і зноў пачаў корпацца ў маторы.

— Начальства дзе? — спытаў Гаравы.

— Зараз выйдзе,— адказаў шафёр.

З хаты паявіўся вайсковец — старшына, сонны, з napпухлымі вачыма.

— А-а-а, не праспалі,— пазяхаючы сказаў ён.— А мяне ледзь разбудзілі. Перабраў учора лішку. Ну, давай у кузаў...

Залазячы на машыну, Язэп убачыў, што да іх бяжыць Даніла. Во яшчэ каго не хапала...

— Ты куды, чаго? — абурыўся ён.

Даніла Іванёнак спрытна залез у кузаў, прымасціўся ля кабіны і толькі тады адказаў:

— Віш ты, думаеш так аднаго цябе і пушчу. Бабы мне холку намыляць, калі што здарыцца.

— Што там здарыцца,— усміхнуўся Гаравы.— Думаеце, я з голымі рукамі езджу?

Ён выцягнуў наган, падкінуў яго на далоні і зноў засунуў у кішэню.

Дарога хутка запятляла па лесе. Вялізныя хвоі то падступалі да самай дарогі, то адступалі ад яе, тады абапал прасціраўся малады ельнік, густы і непралазны, або разгаты алешнік. Мокрыя ад расы галіны звісалі над дарогай, даводзілася хаваць галовы за барты, калі алешнік хвастаў галлём па кабіне.

На скрыжаванні дзвюх дарог іх высадзілі. Старшына сказаў, што адсюль да Пранцышак вярсты дзве. Гаравы мацюкнуўся, але спрачацца не стаў.

Старшына ашукаў, вядома. Ішлі не менш гадзіны, пакуль дабраліся да тых Пранцышак. Над хатамі ўжо віўся шызы, амаль сіні, дым. Недзе ў лесе мычалі каровы і крычалі авечкі. Мірнасцю і спакоем дыхала наваколле.

— Шкляначку б га-а-арэлкі зараз, каб смагу прагнаць,— сказаў Гаравы.

— Глядзі, каб вады напіцца далі,— пажартаваў Язэп.

— А-а-а тут, Ка-а-аліна, мы са-а-амі гаспадары.

З-за хаты раптам выйшла чацвёра. У аднаго на шыі аўтамат. «Вось табе і шклянка гарэлкі»,— падумаў Язэп. Уцякаць не было куды. Ды дзе ты ўцячэш? Людзі ішлі ім насустрач. Трое — маладыя хлопцы. Чацвёрты — сівавtotы ўжо чалавек. Язэп зірнуў на Гаравога. Той стаяў збялелы ад страху. У яго торгаецца шчака, а рот раскрыты, нібы Гаравы хоча нешта сказаць і не можа. «І пра наган забыўся»,— падумалася Язэпу. Страху ў яго не было.

— Хто такія? — спытаў сівываты чалавек з аўтаматам.— Дакументы.

«Свае,— здагадаўся Язэп.— Бандыты дакументы не спыталі б».

— Мы з Падзвіння,— адказаў Язэп.— Нам у сельсавет трэба.

— Я і ёсць старшыня сельсавета. Але ж Фёдар Антонавіч казаў, што вы да нас не прыедзеце.



Сустрэча з чытачамі часопіса «Маладосць»
(злева направа): Пімен Панчанка, Алесь Асіпенка,
Мікола Аўрамчык, Іван Ласкоў. 60-я гады.



Алесь Асіпенка за рэдактарскім сталом штотыднёвіка «ЛіМ». 1979 г.

— Пры-ы-ехалі,— нарэшце азваўся Гаравы.— А што гэта за ма-а-аскарад такі? Людзей палохаеце.

— У нас тут не дужа спакойна,—адказаў старшыня.— Грынчак з бандай па лесе ходзіць. Вось і ахоўваем вёску. Ну, пайшлі, таварышы, у хаце пагаворым.

Старшыня сельсавета Часлаў Рудчык жыў наводшыбе. Ды і ўсе Прансцышкі хутчэй нагадвалі хутары, чым вёску. У цэнтры, збіўшыся ў кучу, стаяла толькі некалькі будынкаў: сельсавет, невялікая школа, царква ды яшчэ тры двары. Астатнія хаты былі раскіданы па ўскрайку лесу і па той бок невялічкай рэчкі.

Рудчык, здаецца, быў рады гасцям. Пакуль снедалі, ён распытваў Язэпа і Гаравога пра жыццё на Падзвінні, расказваў пра сябе. Язэп усё хацеў запытаць, хто такі Грынчык і адкуль тут паявіліся бандыты. Але Рудчык толькі і сказаў: «Тутэйшы ён, кулацкая морда. Прамаргалі гада ў свой час». Адчувалася, што ён не вельмі любіць гаварыць пра бандытаў.

— Мы вам пудоў сто хлеба даём. Паслязаўтра і павязём. Так што можна было і не турбавацца, але дзякуем, што прыйшлі. Паглядзіце, як мы тут у лясной старане жывём.

— Чаму сто? — спытаў раптам Гаравы. І Язэпу зрабілася няёмка.— Мне казалі, што вы не менш трохсот дадзіце.

Язэп не чуў, каб у раёне пра гэта гаварылі. Наогул, пытаць пра такое было няёмка.

Рудчык, аднак, адказаў спакойна:

— Трыста, бадай, не назбіраем. А пудоў дзвесце маглі б. Мяне на Ухвалах Грынчак абабраў. Вось чаму і заміпка выйшла. А то б мы яшчэ ўчора адправілі зерне.

Ехалі яны сюды дарэмна. Язэпу гэта стала зразумела адразу. Але Гаравы ўсё нешта хмурыўся. З недаверам і падазронасцю пазіраў на старшыню. Калі яны засталіся ўдвух, Гаравы ашаламіў Язэпа словамі:

— Усе яны тут аднолькавыя. Думаеш, я яму паверыў. Бачыў, як яго лёгка купіў. Я цяпер з іх гэтыя трыста пудоў выб'ю. Самі паедзем на Ухвалы.

Язэп усміхнуўся, прыгадаўшы, як спалохаўся Гаравы, калі ўбачыў узброеных людзей. А цяпер зноў, як індык, нешта балбоча. Адказаў:

— Кінь ты, людзі для нас стараюцца...

— Стараюцца яны. З нейкім Грынчаком не могуць кончыць. Ды я адзін бы яго злавіў і пасярод вёскі на

асіне павесіў. Яны гэтым бандытам сваю бяздзейнасць прыкрываюць.

Дзень прайшоў у пакутлівым бадзянні без спраў. Адзін Даніла Іванёнак абмяняў свае пажыткі і цяпер пакаваў сала, мёд, вяндліну і пшанічную муку ў куль.

— Я табе так скажу, Язэпка, яно добра, што мы сюды прыехалі. Дзе б я столькі дабра на свае транты выменяў? Дзяшоўка тут казачная.

Язэпу здавалася, што людзі, шкадуючы старога, плацілі гэтак дарагa. І ён прамаўчаў.

Увечары, калі кладліся спаць, Гаравы шапнуў Язэпу:

— Заўтра ў госці едзем.

— Куды? — здзівіўся Язэп.

— Да аднаго знаёмага. Тут вярсты тры ўсяго.

— Спі ты...— адказаў Язэп, думаючы, што Гаравы жартуе.

Але назаўтра да Гаравога прыйшоў чырванатвары чалавек з вялікім глюгаватым носам — дарожны майстар Залоба. Чалавек гэты Язэпу не спадабаўся. А яшчэ больш не падабалася яму гэтая задума ехаць у госці. Куды, чаго?

— Ты вось што — не рыпайся. Раз кажу — трэба ехаць,— настойваў Гаравы.— Дзела не ў тым, каб выпіць. Па дарозе я табе ўсё раскажу.

Рудчыка не было. Ён з самага ранку кудысьці паехаў, паабяцаўшы вярнуцца к абеду. Язэп не ведаў, што рабіць.

— А калі мы назад вернемся? — спытаў ён.

— Гадзіны ў тры,— адказаў Залоба.

Язэп згадзіўся. Узялі з сабой і Данілу, бо той нізавошта не хацеў заставацца ў вёсцы.

Дарога агінала хутары. Яны чамусьці насцярожвалі Язэпа. Хутары здаваліся натапыранымі, таямнічымі. Залоба, не перастаючы, расказваў:

— Багатыя, чэрці. Тут на любы хутар заваліся — тыдзень піць будзеш.

— Дык чаго мы едзем? — спытаў Язэп, так і не дачакаўшыся, што Гаравы сам скажа пра гэта.

— Я табе што, Ка-а-аліна, казаў: не давярай. А ты вушы развесіў. У іх яшчэ адзін млын ёсць. У Саманішках. Вось туды мы і едзем.

— Ну, ведаеш, на рэвізіі ў нас ніякага права няма,— сказаў Язэп.

— Пра-авы, Каліна, са зброяй у руках заваёўваюць,— зарагатаў Гаравы.

Залоба ўзяўся растлумачваць, што за млын у Саманішках і чаму Рудчык пра яго не ўспомніў. Цяпер падарожжа гэтае здавалася Язэпу яшчэ больш бязглуздым, і ён не ведаў, як выбавіцца з яго.

Саманішкі — адзінокі хутар. На беразе рэчкі пахілая, пачарнелая будыніна — млын. Крыху воддаль — хата ў засені вербаў. Калёсы мякка падкацілі к самаму ганку. З хаты выйшаў гаспадар, худы, доўгі, як ляшчына.

— А-а, пан Залоба, проша, проша ў дом.

Праз цёмныя сенцы яны зайшлі ў хату. Чарнявая маладзічка стральнула па ўсіх быстрымі вачыма, схавалася за шырмай.

— Гасцей вось прывёз,— замітусіўся па хаце Залоба.

— Ах, пан Залоба, гасцям мы заўсёды былі рады. А цяпер вось, як таварышы млын адабралі — ніякага набытку ў хаце.

«Дык вось чаго Рудчык не ўспомніў пра гэты млын,— здагадаўся Язэп.— Трэба хутчэй адсюль ехаць».

— Я хачу пабываць на млыне,— набычыўшы галаву, раптам сказаў Гаравы.

— Проша, пана, проша. Але, можа, спачатку перакусіце чаго? Гэлька, хадзь на хвілінку.

Залоба штосьці шаптаў Гаравому. Той, відаць, згадзжаўся, ківаў галавой.

Неўзабаве на стале паявілася гарэлка, закуска. Гаспадар з гаспадыняй запрасілі ўсіх за стол. Язэп неахвотна прысеў з краю. Усё яму не падабалася. Разумеў, што Залоба знарок зацягнуў іх сюды, каб напіцца гарэлкі. Аднаго яго, мабыць, не частавалі б. Можа, ён нават навыдумляў, што Гаравы з Язэпам важнае начальства, таму так і стараецца гаспадар. Было брыдка.

Залоба піў шклянку за шклянкай, і, здаецца, хмель яго не браў. А Гаравы сп'янеў. Заікаўся, больш чым заўсёды.

Сядзелі за сталом доўга. Потым гуртам пайшлі на млын. Гаспадар адчыніў дзверы, прапусціў наперад Гаравога. Язэп толькі зазірнуў у млын. Запусценне, бруд, пыл, павуціна. Мусіць, і праўда гаспадара — млын не працуе.

З млына даляталі галасы. Гаравы, заікаючыся, п'яным голасам даказваў млынару, што хлеб трэба для галодных. Гаспадар штосьці адказваў. Потым зноў голас Гаравога.

— Вось гэта па-нашаму. А вы казалі... Каліна,— гукнуў ён,— хадзі сюды.

Язэп зайшоў у млын. Недзе ў паўзмроку відаць былі невыразныя постаці людзей.

— Бачыш, Каліна, недарма сюды ехалі. Таварыш аддае нам увесь хлеб, што вось тут у бакоўцы ляжыць. Гэта кулака аднаго збожжа. Ён яго прывёз сюды, а сам у лес збег. Забяром?..

Зноў пайшлі у хату. Зноў сядзелі за сталом. Язэпу ўсё надакучыла.

— Вось што,— сказаў ён Гаравому,— давайце, калі так, павязём збожжа. Рудчык хваляваццa будзе.

— Ён у мяне не так захвалюецца,— закрычаў Гаравы.— Кулацкі хлеб хавае.

— На чым жа вы яго павязеце? — здзівіўся Залоба.— Мая каняка не давязе. Вось што зробім. Вы адпачніце, а я падводы арганізую.

— Давай, Залоба,— распарадзіўся Гаравы,— каб коні праз гадзіну былі.

— Праз гадзіну будуць,— запэўніў Залоба.

Ён паехаў. Язэп выйшаў на двор, прылёг на леташнім сене. Ляжаў, адчуваючы сябе закінутым на край свету. Злаваў, што паддаўся на авантуру Гаравога. Нeяк непрыкметна заснуў.

Разбудзіў яго Даніла. Сонца ўжо вісела над лесам, і доўгія цені клаліся на зямлю.

— Уставай, Язэпка,— шаптаў Даніла.— Таго злыдня і след прастыў. Трэба неяк так дабірацца. Можа, ты ўгаворыш Гаравога. Хоць кол на галаве чашы — не слухаецца. Кажа, што дачакаецца таго Залобу, хай яму пуста.

Гаравы і слухаць не хацеў, каб пайсці адсюль без збожжа.

Мінула, мусіць, гадзіна. А Залобы не было. Ды Язэп і не спадзяваўся, што ён вернецца. П'е недзе на хутары. Знайшоў Гаравы паплечніка...

Яны выйшлі, калі вячэрнія змрокі пачалі ахутваць лес. «Толькі б выбрацца на поле, а там ужо не страшна»,— думаў Язэп.

Нарэшце наперадзе мільганула поле. Дарога тут ішла паўз ладную дзялянку жыта. Язэп сарваў колас.

— Цвіце,— сказаў цесцю.

— Добрае жыта,— адказаў той.

Наперадзе справа чарнелі хмызнякі. Язэп прыгледзеўся. Здалося, што там нехта, стаіўшыся, чакае іх. Гулка і палахліва затрапятала сэрца. Лозы туліліся да самай дарогі. Злева было жыта, высокае, у рост чалавека. Язэп ішоў ля самага жыта, востра адчуваючы яго салодкі пах.

— Стой, рукі ўгору!..

Усё адбылося так нечакана, што Язэп нават не адразу ўцяміў, хто і адкуль загадаў ім падняць рукі. Потым ён убачыў, як хтосьці імкліва кінуўся ў хмызнякі, і падумаў, што то, мабыць, Даніла. Аўтаматная чарга аглушыла Язэпа, і ён чамусьці заплюшчыў вочы. А калі адкрыў іх, дык убачыў, што Даніла стаіць з паднятымі рукамі. «Гаравы ўцёк,— радасна падумаў ён.— Гэта добра. У яго наган. Ён выручыць».

Бандытаў было чацвёра. Двое кінуліся ў лозы, мабыць, следам за Гаравым. Двое сцераглі іх. Язэп прыгледзеўся і раптам пазнаў аднаго з бандытаў. То быў той чалавек, з якім Язэп начаваў зімой у горадзе. І бандыт пазнаў яго.

— Сяржант? Вось не чакаў сустрэць. Ты як тут апынуўся?

— Па хлеб прыязджалі... А ты, выходзіць, вось хто, бандыт на лясных дарогах.

— Навошта ж так. Я і раззлавацца магу.

Вярнуліся тыя двое. Лаяліся. Гаравы ўцёк. Нехта ўдарыў Язэпа прыкладам. Даніла пачаў нясмела прасіць:

— Паночкі, за што вы яго? Не трэба, паночкі...

— Маўчы, хрыч стары.

— Значыць, заб'еце? — спытаў Язэп.

Адказаў той лысы, з якім начаваў у горадзе:

— Адпусціць цябе не магу. Прадасі нас. А можа, будзеш маўчаць?

— Міласці прасіць не стану,— адказаў Язэп.

Яму было крыўдна, што так бязглузда давядзецца паміраць. А што яго заб'юць, ён не сумняваўся.

— Канчай кірмаш,— сказаў адзін з бандытаў.— Я на камуністаў люблю глядзець толькі, калі яны мёртвыя. Ану, дзед, адыдзі...

Але Даніла кінуўся да Язэпа, стараўся засланіць яго сваім нямоглым целам.

— Паночкі, браточкі, таварышы, у яго ж дзіця... Ён жа інвалід. За што вы яго? Мяне лепш застраліце. Я сваё аджыў.

— Не трэба, бацька,— паспеў сказаць Язэп.

Здалося, недзе раптам ударыў пярун, бліснула маланка, і стала ціха. Хтосьці ўдарыў нагой у бок, сказаў:

— Каюк, царства ім нябеснае.

Язэп апрытомнеў ад знобкага холаду. Хацелася піць. Яму здалося, што ён ляжыць у зямлянцы, і ён паклікаў:

— Даша!..

Голас быў слабы. Язэп здзівіўся, што не можа грамчэй паклікаць жонку, і спалохаўся: можа, яна пайшла да бацькоў, а ён астаўся дома адзін і захварэў.

Ён расплюшчыў вочы. Як праз сіта ўбачыў шэрае неба і каласы на ім. Здавалася, што жыта расце на небе. Каласы згіналіся пад ім, і на кожным буйныя кроплі расы.

Цяпер ён успомніў усё і зразумеў, што жывы, толькі паранены. Пастараўся падняцца. Востры боль апёк усё цела. Але ён устаяў на нагах. Азірнуўся, шукаючы Данілу.

Той ляжаў у жыце тварам уверх, трымаў у руцэ жменьку каласоў.

Яго знайшоў Рудчык, калі ўзышло сонца. Ён меў яшчэ сілу, каб жыць і змагацца.

*1968*

## Данілка

### 1

Тыдні праз тры, пасля таго як Гітлер напаў на Савецкую краіну, ягонае войска дакацілася аж да Падзвіння. Калі стала вядома, што фашысты вось-вось захопяць мястэчка Веляшковічы, людзі сабралі жывёлу, пагрузілі скарб на калёсы, падаліся ў Данькаўскі лес. У мястэчку засталася, бадай, адна Данілкава сям'я.

Захар Іванавіч, Данілкаў бацька, лічыў, што фашыстаў у Веляшковічы нізашто не пусцяць, а таму няма чаго па лясах туляцца, бегчы ў свет ад роднай хаты. А Данілкава маці, Аксіння Сцяпанаўна, другі год ляжала прыкутая да ложка цяжкай хваробай, таму сама пайсці ў лес не магла.

Бацькаваму рашэнню Данілка абрадаваўся. Нарэшце на свае вочы можна будзе ўбачыць сапраўдную вайну. У лесе хіба ўбачыш? Праседзіш у гушчары і нават не пачуеш, як разаб'юць фашыстаў, пагоняць у далёкую Германію.

От здорава будзе! Вернуцца людзі з лесу, а насустрач ім ён, Данілка, перапераззаны кулямётнымі лентамі, абвешаны гранатамі, якія пакідалі фашысты, уцякаючы ад чырвонай конніцы. Няхай тады пазайздросціць Максімка!..

Раніцай, як толькі за мястэчкам пачалася страляніна, Данілка кінуўся да пажарнай каланчы. Па стромкай лесвіцы ўзляцеў на самую верхатуру і... ледзь не заплакаў ад расчаравання. На дарозе, што выбягала з лесу, гарэў фашысцкі танк, а ў канаве, ля самага мястэчка, дагары коламі ляжаў матацыкл. Фашыстаў жа нідзе не было відаць. Няйначай яны ўцяклі ў сваю фашысцкую Нямеччы-

ну. Не маглі пачакаць, пакуль Данілка ўзбярэцца на каланчу?!

Ад такой крыўды ў каго хочаш пацякуць слёзы, але не ў Данілкі. Ён адразу скеміў, што трэба рабіць. Вядома ж, бегчы да таго матацыкла, што ляжыць у канаве, захапіць трафеі. Ён ужо кінуўся ўніз, ды раптам пачуў, як недзе зусім блізка нешта вухнула, аж скаланулася каланча. Данілка зноў пабег па лесвіцы ўверх.

Нідзе нікога не было, а каля бальшака адзін за адным узнікалі чорныя кутасы дыму, грымелі выбухі, недзе стракаталі кулямёты, бабахалі адзінокія вінтовачныя стрэлы. Данілка зразумеў, што бой не толькі не закончыўся, а якраз пачынаецца, што бегчы па трафеі яшчэ вельмі рана. Тым часам снарады кладліся як пад лінейку і ўсё набліжаліся да мястэчка...

Спачатку пачуўся нейкі свіст, потым унізе ля самай каланчы ўзнік слуп дыму і так грукнула, ажно ў Данілкі заклала ў вушы. Ён кумельгам скаціўся з каланчы і, няйначай як ад паспешлівасці, апынуўся не на двары пажарнай, а ў сутарэнні, дзе ляжалі старыя помпы, пажарныя шлангі і ўсякі іншы хлам.

Данілку здалося, што ў сутарэнні ён праседзеў доўга-доўга, а калі вылез з яго, дык здзівіўся: сонца ўсё яшчэ стаяла над шпілем кармеліцкага касцёла. У небе плыла чорная хмара. Яна ўзнімалася ад самай зямлі: няйначай нешта недзе гарэла. Данілка вельмі напалохаўся. «Пападзе мне ад мамкі, ой, пападзе»,— падумаў ён і пабег дахаты.

Хаты сваёй ён не пазнаў. За той час, што яго не было дома, страха чамусьці асунулася на зямлю, сцяна вывалілася, а ўся хата як бы прысела на кукішкі. Асцярожна ступаючы, Данілка пайшоў вакол хаты і раптам спалохана спыніўся: з-пад страхі тарчалі бацькавы боты. Данілка ўзяўся за бот і зніякавеў: бот быў цяжкі. Сам таго не жадаючы, Данілка закрычаў і выскачыў на вуліцу.

— Чаго крычыш? Чаго?..— пачуў ён чыйсьці злосны, напалоханы голас.

Чалавека, які нёс на гарбу вялізны хатуль, Данілка пазнаў адразу — цырульнік Зылёў, якога ўсё мястэчка звала Зыль-Барадыль.

— Дзядзечка Зылёў,— кінуўся да яго Данілка,— татку бервяном прыціснула, памажыце...

— Заняты я, не бачыш? — адказаў Зыль-Барадыль, але скінуў хатуль пад плот, пайшоў у двор.

Цырульнік, прыгнуўшыся, зазірнуў пад страху, затым, абышоўшы хату, зглянуў у акно з панадворка.

— Царства ім нябеснае,— перахрысціўся ён.— Адным снарадам, і абаіх... Ну, ды ты, малы, не плач... Я сам сіратой рос... Нічога, выкарабкаешся...

## 2

Калі людзі вярнуліся з лесу, Данілка спачатку жыў ў дваюраднай цёткі, Максімкавай мамы. Ды аднаго разу ён пачуў, як ля калодзежа гаварылі жанчыны:

— У яе сваіх трое, а яшчэ гэтая сіраціна... Лішні рот у хаце...

Данілка падумаў-падумаў — сапраўды лішні рот. Як ні ўгаворвала Максімкава маці, Данілка перасяліўся ў сваю хату. Чужыя людзі яе крыху падрамантавалі, страху паднялі, вокны зашклілі — жыві сабе, Данілка. І ён стаў жыць — адзін.

Усё было як да вайны. Па сінім небе плылі белыя воблакі. У садах спелі вішні, наліваліся сокам яблыкі і грушы. Ціха плёскалася ў чаротах рэчка Касплі, а ў затоках пад вечар крычалі дзікія гусі.

Усё, ды не ўсё...

У школе жылі фашысцкія салдаты. На школьным двары дыміла іхняя кухня, і ўвесь ён быў зацярушаны курыным ды качыным пер'ем. На будынку пасялковага Савета вісеў ужо не чырвоны сцяг з пяцікутнай зоркай, а фашысцкі — са свастыкай. Як толькі цямнела, ніхто не мог выйсці на двор. Адны патрулі грукалі ботамі па апусцелых местачковых вуліцах. Фашысты баяліся партызан.

Пра партызан Данілку сказаў Зыль-Барадыль.

Аднаго разу ён завітаў да Данілкі ў двор, сеў на калоду, доўга маўчаў, азіраўся па баках.

— А скажы мне, Даніла,— прыцішаным голасам загаварыў цырульнік,— ці ўмееш ты трымаць язык за зубамі?..

— Умею,— не задумваючыся, адказаў Данілка.

— Дык і я так думаў,— пагадзіўся Зылёў.— Кожны сапраўдны мужчына павінен умець трымаць язык за зубамі. Хай яго на кавалкі рэжуць, а ён павінен маўчаць, як тая рыбіна...

— Дзядзька Зылёў, а чаму я павінен маўчаць, як рыбіна? — здзівіўся Данілка.

Зыль-Барадыль зноў азірнуўся.
— Партызаны аб'явіліся,— шэптам сказаў ён.
Данілка аж падскочыў ад радасці.
— Дзе аб'явіліся? — спытаў Данілка і тут жа зразумеў, што дапусціў недаравальную памылку.
— Дзе, дзе? — перадражніў яго Зылёў.— У лесе, во дзе... А лес вялікі... Можа, ты хацеў, каб я табе і лагер іхні паказаў?..
Данілку зрабілася сорамна. Выскачыў, не стрымаўся... А калі Данілку было сорамна, ён надоўга замаўкаў.
Зыль-Барадыль таксама замоўк.
— Пакрыўдзіўся? — паклаў руку на Данілкава плячо Зыль-Барадыль.— Не варта... Тайна гэта вялікая, сакрэтная, ваенная тайна, Данілка...
— Дзядзечка Зылёў,— прачула загаварыў Данілка.— Я і сам ведаю, што тайна сакрэтная. Але мне вельмі трэба пайсці ў партызаны. Таму і спытаў, дзе яны...
Зылёў зноў нечага ўзлаваўся.
— Цс-с-с,— па-гусінаму зашыпеў ён.— Пра нашу размову ні-ні... Каб ні адна жывая душа не ведала... Я табе не казаў — ты мяне не слухаў...
Данілка пакрыўдзіўся.
— Чаго ты, дзядзечка Зылёў, крычыш на мяне?.. Нідзе нікога няма, а ты нечага баішся... Няхай будзе патвойму: я цябе не бачыў і не слухаў...
— Маладзец, Даніла!.. Правільна!... Пра партызан я загаварыў не так сабе... Сам хачу пайсці да іх... Толькі як іх знайсці?
— Папытаць у каго трэба,— параіў Данілка.
Зылёў паківаў галавой.
— Яно так, але ж і пытацца трэба з асцярогай... Каб не западозрылі. Можа, ты з благімі намерамі распытваеш. А яшчэ горш, калі немцы дазнаюцца. Схопяць, дапытваць пачнуць...
— Што ж рабіць, дзядзька Зылёў? — з роспаччу ў голасе спытаў Данілка.
Зыль-Барадыль падсеў бліжэй, зашаптаў:
— Будзем памалу высвятляць, дзе партызаны, як да іх дабрацца і хто можа нас правесці да іх. Толькі высвятляць трэба асцярожненька, каб, не дай бог, немцы не дазналіся.
Ён узяў Данілкаву руку і моцна пацісну́ў.

## 3

Увечары таго ж дня Данілка лёг на печ і пачаў думаць. А калі моцна думаеш, дык абавязкова да нечага дадумаешся.

«Не будзе ў мяне зброі,— разважаў Данілка,— дык які з мяне партызан? Значыць, напачатку трэба раздабыць нейкую зброю. Добра было б знайсці кулямёт. Ці вінтоўку... Яшчэ гранат... Патронаў...»

Во да чаго дадумаўся Данілка! А калі ён да чаго дадумваўся, дык ужо не адступаўся.

Кіламетры за тры ад мястэчка ў лесе, на Калінавай градзе, да вайны размяшчаліся летнія вайсковыя лагеры. Тады, калі Данілка сядзеў у сутарэнні пажарнай, на Калінавай градзе разыграўся кароткі, люты бой. Данілка падумаў, што там няйначай засталося шмат зброі. Ляжыць яна ў лесе і чакае, калі па яе Данілка прыйдзе...

«Каго б узяць у таварышы? — задумаўся Данілка, бо аднаму ў лес ісці было не тое што боязна, а як бы сумна.— Хіба Максімку?..»

А тут лёгкі на памін і сам Максімка з вудамі на плячы.

— Хадзем рыбу лавіць,— сказаў Максімка.— Наловім рыбы — мамка юшкі наварыць. Ты, мабыць, даўно гарачага не еў?..

Максімка і не здагадваўся, што ягоная маці прыдумала гэтую рыбалку, каб зноў далучыць Данілку да сваёй сям'і, каб ён не адчуваў сіроцтва.

— Няма ў мяне часу па рыбалках хадзіць,— таямніча сказаў Данілка.— Мне трэба заданне выконваць.

— Якое заданне? — здзівіўся Максімка.

— А такое... Сакрэтнае... Ваенная тайна...

— Хлусіш? — не паверыў Максімка.

— Каб я з гэтага месца не сышоў,— стукнуў кулаком у грудзі Данілка.

Ён сапраўды лічыў, што не хлусіць. Дамовіліся ж яны з Зылёвым пайсці ў партызаны? Дамовіліся. Папярэджваў яго Зылёў нічога і нікому не гаварыць? Папярэджваў. Ідзе ён, Данілка, ці не ідзе здабываць зброю? Ідзе. Заданне гэта ці не заданне? Заданне. Значыць, і няма ніякай хлусні.

Максімка адразу ўзгарэўся.

— Вазьмі мяне на тое заданне,— пачаў ён прасіць Данілку.

Той крыху павагаўся ды і згадзіўся.

Данілка вынес з хаты кошык, паклаў у яго яшчэ даваенны самапал, прыкрыў зверху лопухам. А калі Максімка спытаў, навошта ім кошык, Данілка заўсміхаўся: «А рыбу куды пакладзем?»

Яны ішлі па бязлюднай пясчанай местачковай вуліцы. Людзі стараліся не выходзіць з хат. Яшчэ трапіш у рукі фашыстаў, а тыя адправяць цябе ў турму або ў сваю Нямеччыну.

— Давай, Данілка, пойдзем агародамі, папрасткі,— прапанаваў Максімка.— Спакайней...

Па шчырасці, Максімка хітраваў. Яму хацелася ўбачыць Гусцю.

З Гусцяй Максімка вучыўся ў адным класе. Яна яму вельмі падабалася. Але прызнацца ў гэтым Максімка мог хіба сабе. Хлопчыкі засмяялі б. А Данілка дык і наогул перастаў бы сябраваць.

Сцежку між платамі, хлявамі і дрывотнікамі Максімка ведаў добра. Не раз хадзіў па ёй, калі хацеў пабачыцца з Гусцяй. Максімка ішоў па сцежцы і ўсё пазіраў на Гусціна акно. Яно знаходзілася ў мансардзе, пад страхою. Акно было зачынена. На ім вісела беленькая фіранка. Вось жа не шанцуе!..

Каб выбрацца на вуліцу, трэба было пралезці праз дзірку ў плоце на Гусцін двор, а адтуль ужо праз брамку выбрацца на вуліцу. Максімка так рабіў не раз. Але раней яго заўсёды сустракала Гусця. Ісці ўдвух праз чужы двор было няёмка. Але і вяртацца назад не выпадала — Данілка адразу западозрыў бы нешта. А можа, і здагадаўся б пра Максімкаву хітрасць. Тады бывай, сакрэтнае заданне...

Яны сталі ў тупіку. Данілка здзіўлена азіраўся, а Максімка незадаволена соп носам.

— Чаго мы стаім? — спытаў Данілка.

— Тут у плоце ёсць дзірка,— сказаў Максімка.

— Палезеш у яе першы,— загадаў Данілка.

Максімка адсунуў дошку, палез у дзірку і адразу ўбачыў Іагана Карлавіча Клема, Гусцінага бацьку. Той стаяў у пакоі з намыленым тварам, правіў брытву на шырокай папрузе. Максімка чамусьці вельмі баяўся Гусцінага бацьку. Убачыўшы яго, Максімка памкнуўся назад, але Данілка даў яму каленкам ззаду, і Максімка апынуўся на Клемавым двары.

На шчасце, Гусцін бацька быў заняты праўкай брытвы, а таму не заўважыў няпрошаных гасцей. Максімка

кінуўся за вугал дома, Данілка за ім. Яны ўжо гатовы былі выскачыць за брамку, як невядома адкуль пад ногі кінулася калматае, белае з чорнымі вушамі сабачанё. Яно весела забрахала. Максімка замахнуўся на яго вудамі. Сабачанё забрахала яшчэ весялей. Мабыць, падумала, што з ім гуляюць.

Толькі сабачаняці і не хапала Максімку! Зараз на ганак выйдзе Гусцін бацька, спытае грозным голасам, ад якога душа хоча ўскочыць у пяткі.

— Хлопчыкі, што вам трэба на маім двары?..

Максімка пачуў, як рыпнулі дзверы. Ён быў гатовы сігануць куды вочы глядзяць, але на ганку паявіўся не Іаган Карлавіч, а Гусця.

— Кудлік, Кудлік,— паклікала яна сабачанё,— хадзі сюды... Як табе не сорамна, Кудлік? Гэта ж Максімка... І ты, хлопчык, не бойся Кудліка,— звярнулася яна ўжо да Данілкі.— Ён зусім не злы. Ён хоча гуляць.

— А я і не баюся,— адказаў Данілка, раптам неўзлюбіўшы гэтую чысценькую, беленькую, з бантам у валасах дзяўчынку.— Я і не такіх звяроў бачыў...

Гусця аднак не заўважыла злоснага позірку незнаёмага хлапчука.

— Вы хіба на рыбалку? — спыталася яна.— Вазьміце і мяне з сабой...

— Вядома, возьмем,— выпаліў Максімка.

— Я зараз, толькі ў таты папрашуся,— сказала Гусця і знікла за дзвярыма.

Данілка адразу ж накінуўся на Максімку.

— Давай змывацца, пакуль не позна,— сказаў ён.— Пачакай, дам табе дыхту... Знайшоўся мне дзявочы ўгоднік...

— Што ты, Данілка, хіба можна? Я паабяцаў узяць яе. Трэба трымаць слова...

— Ну, і трымай... Забыўся, што мы не на рыбалку ідзём?

Данілка яшчэ хацеў сказаць, што ніколі з дзяўчынкамі не сябраваў і сябраваць не будзе, але пачуў Гусцін голас: «А вось і я! Праўда, нядоўга збіралася?»

Гусця стаяла на ганку з вудачкай і вядзерцам у руках і пазірала на Данілку вельмі сур'ёзнымі і шчаслівымі вачамі. Яна пазірала на Данілку, а Максімка — на яе. Данілка, праўда, гэтага не заўважыў. Ён павярнуўся і пай-

шоў за браму на вуліцу. За ім пайшла Гусця, за Гусцяй — Максімка, а за імі — Кудлік, якому не было ніякай справы да таго, бяруць яго на рыбалку ці не бяруць.

## 4

Данілка ішоў па бязлюдных вуліцах мястэчка, не азіраючыся. Ён чуў за сабой Гусціны крокі. Яму так і карцела зрабіць нешта такое, што здзівіла б і ўразіла Гусцю. Ён і сам не ведаў, адкуль і чаму паявілася ў яго гэтае неадольнае жаданне. Але яно не давала Данілку спакою.

За мястэчкам, ужо на Баварскім шляху, Данілка дастаў з кішэні пачак папярос, закурыў. Курыць Данілка не ўмеў. І закурыў ён толькі дзеля таго, каб звярнуць на сябе Гусціну ўвагу.

Яна і сапраўды звярнула на яго ўвагу.

— Хлопчык,— дужа па-даросламу загаварыла Гусця,— хіба ты не ведаеш, што курыць шкодна?

— А табе што? — знарок груба спытаў Данілка.

— Ты захварэеш на сухоты,— адказала Гусця, як бы не заўважаючы Данілкавай непрыязнасці.

— А табе які клопат? Хачу і куру...

— Як сабе хочаш, але я раскажу тваёй маме,— сказала Гусця.

Тут ужо Максімка не мог змоўчаць.

— У яго няма мамы,— сказаў Максімка.— Яе забіла снарадам.

Гусця аж прыпынілася.

— Хлопчык,— сказала яна,— даруй, я не ведала, хто ты. А цяпер ведаю. Ты — Данілка з Пярэспы. Пра цябе мне гаварыў мой тата. Ён ставіў цябе ў прыклад. Ты застаўся адзін без бацькі і маці, але не разгубіўся...

Гусця ўзяла Данілкаву руку і моцна паціснула.

Нічога дзіўнага ў тым не было, што Гусця дасюль не ведала Данілку, а Данілка — Гусцю. Справа ў тым, што ў Веляшковічах было дзве школы. Тая, у якой вучыўся Данілка, мела толькі сем класаў і стаяла крыху наводшыбе, а тая, у якой вучыліся Гусця і Максімка, стаяла ў цэнтры і мела дзесяць класаў. У сямігодку хадзілі дзеці з Пярэспы і навакольных вёсак, а ў дзесяцігодку — местачкоўцы. Паміж вучнямі абедзвюх школ не было вялікай дружбы, хоць настаўнікі і рабілі ўсё, каб іх здружыць.

Данілка таксама быў уражаны тым, што дзяўчынка

пацiснула яму руку. Ён не ведаў, як да гэтага паставіцца. На ўсякі выпадак ён кінуў папяросу ў канаву.

— Гляньце, гляньце, што гэта? — закрычаў Максімка.

Данілка глянуў уздоўж Баварскага шляху. З-пад гары па ім рухаўся страшны натоўп.

Ён рухаўся вельмі марудна. Наперадзе яго выдыгваў фашыст з аўтаматам на расхрыстаных грудзях, па баках таксама ішлі фашысты з аўтаматамі, а паміж імі — палонныя байцы Чырвонай Арміі.

— Давайце ўцячом,— шапнуў Максімка.

Ні Данілка, ні Гусця не скрануліся з месца.

Палонныя, як адзін параненыя байцы Чырвонай Арміі, ішлі пасярод дарогі, падтрымліваючы адзін аднаго. Бінты на іх закарэлі, гімнасцёркі вылінялі і падраліся, боты развалiлiся. Выгляд у чырвоных байцоў быў не тое што непаглядны, а нават і вельмі няшчасны. Але як толькі яны ўбачылі пры дарозе дзяцей, дык усе, нават самыя хворыя і бездапаможныя, падцягнуліся, падбадзёрыліся. Адзін з іх падміргнуў дзецям: «Нічога, маўляў, не ўсё яшчэ страчана, не ўсё згублена. Будзе некалі і на нашай вуліцы свята». А другі чырвоны баец — немалады, па ўсяму відаць, камандзір, таўставаты такі і з вялікім носам, паднёс два пальцы да рота, цмокнуў іх і таксама падміргнуў. Данілка зразумеў так, што камандзір, няйначай, просіць закурыць. Ён выцягнуў з кішэні пачак папярос, пераскочыў канаву.

— Вазьмі, дзядзечка, вазьмі,— стараўся прабіцца да камандзіра Данілка.— Я і не куру зусім і ніколі курыць не буду...

Данілка амаль ужо дабраўся да чырвонага камандзіра, як руды, нібы медны таз, фашыст вырваў з ягоных рук папяросы, кінуў пад ногі. Затым ён схапіў Данілку за каўнер, даў ботам у спіну, нібы Данілка быў не чалавек, а футбольны мяч. Данілка пераляцеў зарослую быльнягом канаву, упаў у бульбяную баразну.

Калі Данілка ачомаўся, калоны нідзе ўжо не было. Каля яго на каленях стаяла Гусця, пырскала ў твар халоднай вадой.

— Табе вельмі баліць? — спытала Гусця, як толькі Данілка расплюшчыў вочы.

— Не,— не прызнаўся Данілка.

— Фашысты,— сказала Гусця.

— Вернемся,— прапанаваў Максімка.

— Не, пойдзем, абавязкова пойдзем,— адказаў Данілка.

Данілка падняўся, пастаяў крыху, шырока расставіўшы ногі, бо кружылася ў галаве, потым зрабіў адзін, другі крок і памалу пайшоў да лесу.

## 5

Тут, у лесе, на полі былога бою, відаць, пабывалі многія местачкоўцы. Стрэляных гільзаў, праўда, траплялася шмат, але ні гранат, ні вінтовак, ні іншай зброі, прыгоднай для вайны, ужо не было. Данілка аблазіў усе гушчары, забіраўся ў воўчыя ямы, якія даўно зараслі кустамі і травой, а знайшоў усяго два патроны з чырвонымі кулямі ды яшчэ скураны патранташ.

— Данілка, навошта табе гэтыя патроны? А што, калі яны стрэляць? — спытала Гусця.

Данілка толькі ўсміхнуўся з Гусцінай баязлівасці.

— А і стрэляць,— сказаў ён.— Так стрэляць, аж усе фашысты пабягуць у іхнюю праклятую Нямеччыну...

Данілка выцягнуў з патронаў кулі. Высыпаў порах у ствол самапала. Туды ж загнаў папяровы пыж, дзве шрацінкі, а паверх яшчэ адзін пыж. Рабіў ён усё не спяшаючыся, як і належыць вопытнаму самапальшчыку.

Трошкі пораху Данілка насыпаў на палічку самапала. Зверху паклаў дзве галоўкі ад запалак. Цяпер можна было страляць...

Па чым? Не паліць вось так, за будзь здароў, у белы свет? Данілка азірнуўся. Угледзеў у нізіне танк з адкрытым люкам. На танку стаяла нейкая скрыня. Вельмі добрая цэль!..

Данілка прыжмурыў левае вока, доўга цэліўся, потым націснуў спускавы кручок. Кручок саскочыў са спружыны, моцна ўдарыў па серных галоўках. Тыя ўспыхнулі. Над палічкай узвіўся шызы дымок, і адразу так вухнула, аж з вачэй пасыпаліся чорныя іскры.

— Вы што, звар'яцелі? Вам што, жыць не хочацца? — пачуўся з танка абураны голас. З люка вытыркнулася чорная кудлатая галава.— Маглі проста мяне застрэліць... Як гэта вам падабаецца?..

— Гэта ж Лёўка Гутман! — узрадаваўся Максімка.— Лёва, што ты тут робіш?

Гэты самы Лёва Гутман быў вядомы ў школе як вынаходнік і выдумшчык розных машын. Ягоная кудлатая

галава ўсё нешта вынаходзіла, прыдумвала, канструявала і будавала.

— Вы маглі проста мяне застрэліць,— яшчэ раз сказаў Лёва, калі Данілка, Максімка і Гусця падышлі да танка.

— Ты ж у танку сядзеў, а ён з брані,— нагадаў Данілка.— Цябе адтуль і снарадам не выкурыў бы...

— Як гэта вам падабаецца,— абурыўся Лёва.— Я мог проста высунуцца з люка і трапіць пад вашы кулі... Дужа мне патрэбна трапляць пад вашы кулі...

— Не трэба высоўвацца з танка, бо ідзе вайна,— пажартаваў Данілка.

— А чаго ты сядзеў у танку? Можа, шукаў зброю? — спытаў Максімка.

— Дужа мне трэба тая зброя... Я шукаю радыёпрыёмнік,— адказаў Лёва.

— Радыёпрыёмнік! — здзівіўся Данілка.— Навошта ён табе?

— Гляньце на яго,— аж абурыўся Лёва.— Ён не ведае, навошта мне радыёпрыёмнік! Каб слухаць Маскву... Каб ведаць, калі Чырвоная Армія разаб'е фашыстаў...

Тут нават Данілка напачатку адчуў над сабой Лёваву перавагу. Але толькі напачатку:

— Сядзець склаўшы рукі, слухаць радыё і чакаць, пакуль Чырвоная Армія разаб'е фашыстаў, кожны дурань умее,— важна сказаў Данілка.— Трэба шукаць зброю ды ісці ў партызаны, памагаць чырвоным байцам біць фашыстаў...

— Няма зброі, спазніліся,— махнуў рукой Максімка.

— Чаму няма? Ёсць зброя! Гармата на гары стаіць. Сам бачыў,— горача загаварыў Лёва.

— Маніш? — не паверыў Данілка.

— Дужа мне трэба маніць,— пакрыўдзіўся Лёва.— Хадзем, пакажу.

Гармата сапраўды стаяла на ўзгорку. Яе доўгі ствол, з прывязанымі да яго сухімі галінкамі, стромка пазіраў угору.

— Махіна! — выгукнуў Максімка.

— Зенітная,— разважліва сказаў Данілка і пайшоў да гарматы.

Гармата стаяла на пляцоўцы, якую акружала глыбакаватая канава. У ёй валялася шмат адстраляных гільзаў. Данілка абышоў вакол гарматы, пакратаў рукой, нібы хацеў прывучыць яе да сябе. Збоку ў гарматы было пры-

мацавана жалезнае крэсельца. Данілка сеў у яго, узяўся рукамі за адпаліраванае кола. Крутнуў. Гармата, хоць і павольна, пачала схіляць долу доўгі хобат. Данілка круціў кола не перастаючы, пакуль ствол гарматы не набыў гарызантальнага становішча. Зазірнуў Данілка ў ствол, падзівіўся — у ім відаць была школа-дзесяцігодка, над якой у сінечы неба трапятаў чорна-чырвоны фашысцкі сцяг.

Паглядзець на школу праз гарматны ствол захацелася ўсім. Кожны глядзеў колькі яму захочацца. Калі ўсе добра нагледзеліся, Данілка спытаўся ў Лёвы Гутмана, які ўсё ведаў:

— Як ты думаеш, Гутман, ці можна з яе страляць?

Лёва спачатку пахадзіў вакол гарматы, пачухаў кудлатую галаву і толькі пасля гэтага сказаў:

— Я магу, канечне, і памыліцца, але, мне здаецца, з гэтай гарматы можна страляць, калі знайсці снарады...

— Снарады ёсць,— адказаў Данілка і скочыў у акоп, напалову завалены зямлёй.

У акопчыку ляжала снарадаў дзесяць. Данілка паспрабаваў падняць адзін з іх — цяжка! Гукнуў Максімку:

— Чаго стаіш? Памажы!..

— Хлопчыкі, не трэба,— залямантавала Гусця.— Гэта вельмі небяспечна...

Ды дзе там! Данілка з Максімкам выцягнулі з акопа снарад, запіхнулі яго ў ашчэраную пашчу гарматы.

— Гэй, ты, механік, а як з яе страляць? — спытаў у Лёвы Данілка.

Лёва доўга прыглядаўся, прынюхваўся, чухаў кудлатую галаву, нарэшце загаварыў, хоць, можа, і не дужа ўпэўнена.

— Па-мойму, спачатку трэба пацягнуць за гэтую ручку...

— Ану, адыдзіцеся,— загадаў Данілка.— Я за вас не хачу адказваць...

Усе трое адбегліся. Гусця заціснула рукамі вушы. Максімка шырока разявіў рот, бо чуў ад некага, што так робяць усе артылерысты, каб не аглухнуць. А Лёва схаваўся за камель сасны.

Данілка і сам адчуваў страх, але цяпер адступаць не было як. Ён напружыўся. Заплюшчыў вочы. З усёй сілы пацягнуў ручку — гармата вухнула, здрыганулася ўсім корпусам. Данілку здалося, што яна разам з ім ляціць некуды ў прадонне. Ён хутчэй расплюшчыў вочы...

Гармата стаяла на месцы. Ён сам чамусьці сядзеў на зямлі. Зямля пад імі не праваліласяся, неба не раскалолася, нават школа, па якой ён страляў, засталася стаяць на сваім месцы. Затое па выгане расплывалася белаватае воблачка дыму.

Данілка падскочыў, закрычаў «ура!». Яму было вельмі радасна: ён застаўся жывы, не аглух і не аслеп, гармата страляе, як на сапраўднай вайне, і калі пашчасціць, дык наступным снарадам можна будзе патрапіць у самае асінае фашысцкае гняздо, якім стала іх школа.

— Эй, вы, аглухлі, ці што? — закрычаў Данілка.— Памажыце зарадзіць гармату...

Максімка з Лёвам таксама ачомаліся ад страху. Дапамаглі Данілку зарадзіць гармату. І на гэты раз гармата бабахнула што трэба. Нібы пярун у навальніцу.

— Папаў, папаў! — закрычаў Максімка, падскокваючы на месцы, як гумавы мячык.

Данілка і сам убачыў, што на гэты раз пацэліў — над самым уваходам у школу зеўрала дзірка, з яе валіў чорны дым.

І ўсе сталі падскокваць ад радасці, крычаць. А Кудлік, які не ўмеў падскокваць, клаўся на пярэднія лапы і весела брахаў.

Наскакаўшыся ды накрычаўшыся, усе захацелі пагля-дзець зноў, а што там дзеецца каля школы? Мусіць, фашысты здорава напалохаліся? Можа, ужо ўцякаюць з мястэчка?..

Глянулі ды і анямелі. З мястэчка ў лес імчалі матацыклы, а за імі неслася рабая аўтамашына, у якой сядзелі фашысты ў касках, з аўтаматамі на грудзях.

## 6

— Бяжым на могілкі! — загадаў Данілка, і ўсе пабеглі за ім да глыбокага рова, за якім і знаходзіліся могілкі.

Пра гэтыя могілкі хадзілі па людзях жудасныя паданні. Казалі, быццам даўным-даўно на могілках знайшоў сабе сталае прыстанішча разбойнік Воран, які нарабаваў у народа незлічоныя багацці. Яшчэ казалі, быццам багацці тыя схаваны ў падзямеллі, якое цягнецца ад царквы на могілках да Тадулінскага касцёла аж пятнаццаць кіламетраў! У падзямеллі гэтым і дасюль стаіць варта — Воранавы сябры-разбойнікі. Чатыры ночы ў годзе выхо-

дзяць яны пад зорнае неба, каб палічыць золата. Звон тады стаіць на ўсе могілкі і чуваць нават у Веляшковічах.

Але найбольш жудаснае паданне звязана не з разбойнікамі, а з шаўцом Ярошкам.

Расказвалі, аднаго разу ноччу выйшаў Ярошка на двор. Ноч была не тое што месячная, але і не цёмная. Глянуў Ярошка на могілкі, а на іх стаіць белая тройка, запрэжаная ў сані. «Каму гэта спатрэбілася на белай тройцы ехаць на могілкі? — падумаў Ярошка.— Яшчэ крыжы паламае». Падумаў так Ярошка ды і пайшоў паглядзець, якому дзіваку захацелася ехаць на могілкі на тройцы коней? Прыйшоў, глядзіць, аж сапраўды стаяць сярод крыжоў сані, а на іх сядзіць стары чалавек у кажуху поўсцю наверх і ў такой жа шапцы — таксама поўсцю наверх.

Чалавек-то ён чалавек, а чаму з-пад шапкі рогі тарчаць? Невялічкія такія рогі, але шапку на вочы не нацягнеш. Падзівіўся з рагоў Ярошка, а як глянуў на ногі, дык усё і зразумеў. Замест чалавечых ног у старога былі чорныя, падобныя на бычыныя, капыты. Цяпер хто хочаш здагадаўся б, што ў санях сядзіць чорт!..

Валасы ў Ярошкі падняліся дыбам, па спіне папаўзлі халодныя вужакі. Хацеў ён кінуцца наўцёкі, ды сцяміў — хіба ад чорта далёка ўцячэш? Зрабіў выгляд, быццам нічога не ўбачыў.

«Добры вечар, чалавеча»,— павітаўся Ярошка.

«Добры вечар, шавец Ярошка,— адказаў чорт.— Дзякуй, што прыйшоў. Мне якраз трэба табе боты заказаць».

«Ды я з дарагой душой гатовы дагадзіць вашай міласці, але без меркі боты не пашыеш, а тут яе недзе зняць — месца не дужа зручнае, ды і струменту я з сабой не ўзяў. Так што давай прыходзь да мяне ў хату заўтра, тады і пагаворым»,— паспрабаваў адбрахацца Ярошка.

«Нічога, Ярошка,— засмяяўся чорт,— інструмент я табе дастану, месца лепшага за гэта нідзе няма, ды і я заўтра буду вельмі заняты. Так што, Ярошка, бярыся за справу».

«Не магу я мерку знімаць,— стаяў на сваім Ярошка.— Я сёння з кумам крыху чымергесу выпіў. У галаве шуміць. Памыліцца магу».

Вось і заспрачаліся яны. Чорт на сваім стаіць, Ярошка на сваім. Слова за слова... Ярошка, калі пачынаў спрачацца, пястрымны быў. Схапіў ён павалены ветрам крыж, ды як урэзаў чорта па галаве, аж у таго іскры з вачэй

пасыпаліся, а левы рог напалам зламаўся. Набеглі тут, невядома адкуль, чэрці розных масцей і рознага ўзросту. Схапілі Ярошку. Трымаюць пад рукі, пад бакі штурхаюць. Зразумеў Ярошка, што пагарачыўся. Пачаў прасіцца, на чарціную жаласць націскаць.

«Як вам не сорамна,— кажа чарцям,— на аднаго натоўпам наваліліся. Вы,— кажа Ярошка,— паглядзіце на мае лапці. Зусім разваліліся. Мне ў першую чаргу трэба сабе боты пашыць. А тавару няма, часу таксама. Так што адчапіцеся ад мяне, бо іначай я за сябе не ручаюся».

Вельмі расхрабрыўся Ярошка. Яно і было чаму. Каму падабаецца чужыя капрызы задавальваць. Канечне, каб Ярошка не выпіў з кумам, дык, можа, і паасцярогся. А так яму і мора па калена. Пачаў чарцей дубасіць, аж вецер свішча. Раскідаў іх па могілках, а сам сабраўся дамоў пайсці, ды тут яго запыніў стары чорт.

«Пачакай,— кажа чорт Ярошку.— Пажартаваў я. Давай вып'ем міравую».

Ну, выпілі... А тут раптам у мястэчку пеўні заспявалі. Пачалі чэрці ў прадонне правальвацца. Ярошка сядзеў на санях, не паспеў на зямлю саскочыць — так разам з чарцямі і праваліўся на той свет. І стаў ён там чарціным шаўцом.

Хадзілі па людзях і іншыя паданні. Пра ўсё не згадаеш, ды і згадваць не варта — можна без пары пасівець...

Пакуль Данілка бег па полі, дык ніякага страху не адчуваў, а як ступіў за агароджу могілак — усе паданні ў галаву палезлі. Глупства, вядома, мана, а ўсё адно жудасна. Данілка бег з усіх сіл. Страх падганяў яго. Хутчэй бы перабегчы могілкі, схавацца ў Кешкі, унука бабы Ерафеіхі, якая да вайны вартавала могілкі.

На могілках панаваў змрок, бо дрэвы тут раслі густа. Навокал чарнелі крыжы, буяла трава ў чалавечы рост і стаяла такая пругкая цішыня, што сэрца стукала, як молат па накавальні.

Данілка дабег ужо да старых скляпенняў паноў Струмецкіх (ад іх да Кешкавай хаты рукой падаць), як здарылася нешта такое неверагоднае і страшнае, што Данілка скамянеў на месцы... З-пад мармуровай пліты на магіле пані Струмецкай паволі вылазіла жудасная здань.

Не, Данілка не трызніў. Ён добра бачыў тое, што можна пабачыць хіба ў кашмарным сне.

Спачатку з падзямелля паявілася вялізная, як цэбар, галава. У яе быў белы, нібы ў мерцвяка, лоб з чорнай

дзіркай пад левым вокам. На гэты белы лоб з чорнай дзіркай пасмамі звешваліся рудыя валасы. Па баках галавы тарчала пара свінячых вушэй, вялікіх, як лісты лопуха. Калматыя, рудыя бровы навісалі на вочы, закрываючы іх. Паміж вачамі ляпіўся вялізны чырвоны нос, пад якім — хочаце верце, хочаце не верце — рос адзіны доўгі руды вус, які звісаў аж на грудзі.

Убачыўшы такое страшылішча, кожны скамянеў бы. Але і гэта было не ўсё.

Пачварная здань выцягнула руку ў бок Данілкі. На руцэ ў яе не было пальцаў. Іх замяняў наган. Наган быў самы сапраўдны. Яго кароткае дула глядзела Данілку ў вочы...

— Стой!.. Ні з месца!— гаркнула здань, ды так моцна, аж захісталіся дрэвы.— Хэндэ хох!..

Данілка падняў рукі... А што зробіш, калі на цябе гыркае здань, загадвае падняць угору рукі ды яшчэ на нямецкай мове?! За Данілкам паднялі рукі і астатнія. Здань задаволена зарагатала і ўся вылезла з падзямелля. Цела ў яе было кароткае і зусім чалавечае.

— Што, субчыкі, напалохаліся? — спытала здань і... зняла галаву.

Цяпер усе ўбачылі, што ніякая гэта не здань, а Кешка, унук бабы Ерафеіхі. А на галаве ў яго маска.

— За такое па мордзе б'юць і здачы не бяруць,— сказаў Данілка, найбольш узлаваны тым, што адразу не здагадаўся, якую сустрэў здань.

— А ты ж хваліўся, што не пабаішся і ноччу пайсці на могілкі, аж днём перапалохаўся,— сказаў Кешка.

— Думаеш, цябе спалохаўся? — прыжмурыў вока Данілка.

— А каго ж?.. Мяне...

— За намі немцы гоняцца,— сказаў Максімка.

Ён мог і не гаварыць. Кулямётная чарга прайшлася па дрэвах, зразаючы галінкі і лісце. І адразу з кустоў выскачыў Кудлік, пра якога ўсе забыліся.

— Хлопцы, сабачаня фашыстаў прывяло,— сказаў Лёва.— Каб мне з гэтага месца не сысці...

— За мной,— скамандаваў Кешка і першы нырнуў у сутарэнне.

Пад мармуровай плітой былі, аказваецца, прыступкі. Дзеці адзін за адным спусціліся пад зямлю. Кешка пацягнуў за нейкую ручку, і цяжкая пліта памалу апусцілася на магілу. У сутарэнні зрабілася цёмна, хоць выкалі во-

ка. Нават Кудлік адчуў магільны страх. Ён заскуголіў і прыціснуўся да Гусціных ног. Гусця пагладзіла яго і спалохана адхапіла руку. З кудлікавай поўсці на зямлю пасыпаліся яркія іскры.

— Будзе навальніца,— сказаў Кешка.— Дужа многа электрычнасці ў поўсці...

Ён чыркнуў запалкай. Сутарэнне як бы рассунулася. Кешка запаліў свечку, і густыя цені разбегліся па закутках.

Сутарэнне, у якім яны апынуліся, было даволі вялікае, каменнае. Тры цагляныя калоны падтрымлівалі цяжкую і таксама цаглянуюю столь. За калонамі па трох кутах стаялі чорныя скрыні.

— А што ў гэтых скрынях? — спытала Гусця.

— Нябожчыкі,— адказаў Кешка.— Паны Струмецкія...

Гусця аж здрыганулася. Што ні кажы, а непрыемна стаяць побач з нябожчыкамі ды яшчэ панамі...

Кешка пайшоў па вузкім калідоры, абкладзеным каменем. Калідор адхонна спускаўся пад зямлю, увесь час мяняючы напрамак. То ён крута паварочваў управа, то гэтак жа крута браў улева, каб потым зноў павярнуць направа. Па баках калідора стаялі труны.

Нарэшце калідор пачаў паўзці ўгору, пакуль не ўпёрся ў каменныя прыступкі. Пераадолеўшы прыступак дваццаць, Кешка спыніўся на невялікай пляцоўцы з двума жалезнымі дзвярамі.

— Падымаемся спачатку на званіцу,— прапанаваў ён.— Трэба глянуць, дзе немцы...

Пярэчыць яму не сталі. Кешка адкрыў вузейшыя дзверы. За імі вілася ўгору вінтавая лесвіца. Яна прывяла дзяцей да дубовых дзвярэй. За тымі дубовымі дзвярамі аказалася яшчэ адна лесвічка — драўляная і вельмі рыпучая, якая і вяла на званіцу.

Са званіцы ўсё мястэчка, поле, рэчка Каспля і Калінавая града як на далоні. Па дарозе ад могілак ехалі фашысты. Матацыклы наперадзе, паласатая машына з аўтаматчыкамі за імі.

— Хлопцы, я забыўся ля гарматы кошык,— спахапіўся Данілка.

## 7

Тры дні не паказваўся Данілка на местачковых вуліцах. Баяўся, што фашысты падабралі вядро і кошык і цяпер шукаюць гаспадара. Нешта не заходзіў да Данілкі і

Максімка. Можа, маці не пускала, а можа, напалохаўся і таксама не хацеў выходзіць на вуліцу. Затое на чацвёрты дзень да Данілкі неспадзявана завітаў цырульнік Зылёў. Даніла якраз сек на калодзе хвораст, калі на двор зайшоў Зыль-Барадыль. Ён сеў на калоду, выцягнуў пачак нямецкіх цыгарэт.

— Закуры,— працягнуў ён пачак Данілку.— Я ў твае гады таксама смаліў. А махру ў бацькі краў...

— Я не куру,— сказаў Данілка.— У мяне грудзі слабыя...

— Ну, тады нельга,— пагадзіўся Зылёў.— Калі грудзі слабыя, дык нельга... А пра наш угавор не забыўся?

— Які ўгавор?

— Які, які? Пра партызан... Хіба нічога не чуў... Пра тых, што горад абстралялі... Прававоніў ты, брат, партызан. Зусім праваронiў... Былі б мы цяпер сярод мужных сыноў народа... А я на цябе спадзяваўся...

Зыль-Барадыль гараваў так шчыра, што Данілка адчуў поўную сваю віну перад ім. Хацеў спачатку прызнацца, што нямецкі штаб у школе абстралялі не партызаны, а яны з Максімкам, Лёвам і Гусцяй, як на двары паявіўся дзед Нічыпар.

Гэта быў вядомы на ўсе Веляшковічы дзед. Да вайны ён вазіў на брычцы старшыню местачковага Савета таварыша Якімчыка. Але славуты ён быў з другой прычыны: у дзеда быў свой звярынец.

— Дзень добры, гаспадару,— павітаўся ён з Данілкам, а на Зылёва паглядзеў недаверліва.— Я да цябе, малады чалавек...

Зылёў, мабыць, адчуў сябе лішнім.

— Дык я пайшоў, Даніла,— сказаў ён.— Калі што пачуеш, прыбяжы да мяне...

Дзед тым часам паставіў на калоду клетку з марской свінкай, рабой кошкай і чорным шпаком, а на зямлю чорную скрынку на трынозе.

— Чаго ён прыходзіў? — спытаў дзед.

— Справы ў нас розныя,— адказаў Данілка.

— Хіба справы,— азваўся дзед.— А я прыйшоў да цябе, малады чалавек, прасіцца на кватэру. Выгналі мяне немцы з памяшкання Савета. Хочуць управу там рабіць...

— Мне хаты не шкада,— адказаў Данілка.— Жыві! Усё весялей удвух будзе...

— Ну, во і дамовіліся,— узрадаваўся дзед.

У той жа дзень дзед Нічыпар перанёс у Данілкаву ха-

ту свой скарб: клетку з кошкай, марской свінкай і шпаком, катрынку, папугая Ару, куфэрак ды хатулёк з вопраткай.

— А дзе твой астатні звярынец? — пацікавіўся Данілка.

— Фашысты разрабавалі. Каго можна было з'есці — з'елі, каго дзеля пацехі застрэлілі, а хто ўцалеў, таго я сам у лес выпусціў. Хай жывуць...

Так і асталяваўся дзед Нічыпар у Данілкавай хаце. Кожную раніцу дзед кудысьці адпраўляўся, узяўшы з сабой марскую свінку, рабую кошку, шпака і папугая Ару. Прыходзіў ён позна. Прыносіў з сабой хлеб, бульбу, кавалак сала або яшчэ які харч. Бывала і так, што дзед не паяўляўся ў хаце дні два-тры. Данілка на гэта не звяртаў увагі.

Аднае раніцы Данілка прачнуўся ад таго, што нехта моцна штурхаў яго пад бок. Расплюшчыў вочы — Максімка.

— Бяжым хутчэй на пляц, там немцы ўправу будуць ствараць...

— Якую ўправу? — здзівіўся Данілка.

— Нямецкую, вядома,— адказаў Максімка.— Каб мястэчкам упраўляць... Бяжым, а то запознімся...

На пляцы, ля царквы стаяў невялікі натоўп людзей, найбольш жанчын, няйначай, сагнаных сюды фашыстамі, бо салдаты ў касках знаходзіліся і перад натоўпам і за ім.

Данілка з Максімкам прабраліся ў царкоўную агароджу, узлезлі на ліпу. Адсюль увесь пляц на віду. Пусты, як вымерлы. Затое на царкоўным цвінтары стаялі чатыры бабулі і хрысціліся на сельпоўскую краму з выбітымі вокнамі.

Да вайны ў царкве мясцовы калгас ссыпаў зерне. Таму і крыжа на ёй не было. Цяпер крыж паставілі новы. Бярозавы, белы-белы. І званоў на званіцы да вайны не было. Навошта зернясховішчу яны? Іх і цяпер не было. На званіцы вісеў вагонны буфер. Царкоўны стараста біў па ім жалязякай — буфер хрыпата блямкаў.

Нічога цікавага... Данілка хацеў злазіць з ліпы. Ці варта траціць час на глупства?..

Ды тут з пасялковага Савета раптам паявілася некалькі вайскоўцаў у высокіх шапках з арламі. Буфер на званіцы заблямкаў часцей. Дзверы царквы расчыніліся. З яе выйшла трое мужчын. Той, што ішоў пасярэдзіне, нёс на выцягнутых руках ручнік, на ім ляжала буханка хлеба, а на хлебе стаяла салонка з соллю.

Данілка ледзьве з ліпы не зваліўся — з хлебам-соллю ішоў Зыль-Барадыль.

— Максімка,— зашаптаў Данілка,— рагатку ўзяў?

— Узяў...

— Дай мне...

Такіх рагатак, якія рабіў Максімка, не было ва ўсіх Веляшковічах. Ды што там Веляшковічы. Каб праводзіліся ўсесаюзныя спаборніцтвы па рагатачнаму спорту, Максімка са сваімі рагаткамі займаў бы нязменна першае месца. Яны былі вельмі зручныя, вельмі трапныя і дасылалі каменьчыкі ў цэль з хуткасцю кулі.

Тым часам афіцэры, цяжка бухаючы ботамі, ішлі насустрач Зылю-Барадылю і ягоным памагатым, а Зыль-Барадыль з памагатымі ішлі насустрач афіцэрам. Данілка паклаў у скураны чэпчык рагаткі каменьчык, заціснуў яго між вялікім і ўказальным пальцамі. Узяў у левую руку выглянцаванае дрэўка рагаткі, адцягнуў гумку за вуха, прыцэліўся. Зыль-Барадыль якраз быў у профіль. Данілка добра бачыў ягонае вуха. Калі лінія ад Данілкавага вока праз каменьчык працягнулася да Зылёвага вуха, Данілка рэзка адпусціў гумку. Каменьчык з усяе сілы пстрыкнуў Зыля-Барадыля па вуху, аж той ледзьве ўтрымаў хлеб на ручніку.

Цяпер самы раз было сігануць з ліпы, каб не трапіць фашыстам у лапы. Але Данілка ўбачыў, што афіцэры не звярнулі на пстрычку ўвагі. Яны ўзялі хлеб разам з ручніком, нешта сказалі Зылю-Барадылю, нават паляпалі яго па спіне.

Данілка думаў, што на гэтым фашысты і закончаць ствараць управу. Аж не! З-за сельпоўскай крамы раптам паявіўся белы конь, якога вёў на повадзе Гусцін бацька Іаган Карлавіч Клем. Конь не проста ішоў на повадзе. Ён танцаваў, як запраўскі танцор з Веляшковіцкага ансамбля танца. Людзі так і ахнулі ад здзіўлення — Гром!..

Даўным-даўно, можа, яшчэ ў тым стагоддзі, пан Струмецкі трымаў у маёнтку стайню пародзістых коней. Прадаваў іх у Парыж і Вену, у Лондан і Мадрыд. Слава аб веляшковіцкіх скакунах абганяла і без таго быстрыя чуткі. А тут падаспела рэвалюцыя. Пан збег у Турцыю, коней забралі ў Чырвоную Армію. Стайня апусцела. Веляшкоўцы думалі — назаўсёды. Аж вярнуўся ў маёнтак з чырвонай конніцы Сямёна Міхайлавіча Будзённага былы панскі парабак і наезнік, ці, як яго іначай звалі,— жакей, Рыгор Якімчык. Прывёў ён у Веляшковічы дзвюх пародзістых

кабыл, ды і пачаў аднаўляць цяпер ужо не панскую, а дзяржаўную канюшню.

Для чырвонай конніцы тады патрэбна было шмат коней. Веляшковіцкі конезавод рос з году ў год, а ягоныя скакуны заваёўвалі прызы і дыпломы на самых розных спаборніцтвах. А найбольш медалёў меў Гром.

Калі фронт пачаў набліжацца да Падзвіння, конезавод эвакуіравалі. Грома таксама. І раптам Гром аказаўся ў Веляшковічах. Было чаму ахнуць веляшкоўцам. Але найбольш, бадай, уразіла іх, што Грома вёў не абы-хто, а паважаны ўсімі інжынер цагельнага завода Іаган Карлавіч Клем.

Клем падвёў Грома да фашысцкага афіцэра, пакланіўся і перадаў яго з рук у рукі фашысту.

— Здраднікі...

— Прадажнікі...

— Халуі фашысцкія...

Па натоўпе, як вецер па чароце ў халодную пару, пракаціўся гнеўны шэпт. Данілка таксама не мог заставацца абыякавым.

— Бачыў,— сказаў ён Максімку,— хто такі бацька тваёй Гусці.

— Такі самы, як твой сябар Зыль,— адказаў Максімка.

## Гусця

### 1

Бацька загадаў Гусці пільнаваць хату, нікуды не адлучацца, пакуль ён не вернецца дамоў. Гусця заўважыла, што бацька быў нечым усхваляваны.

Апошнім часам нешта незразумелае рабілася з ім. Бацька хадзіў задумлівы, пахмуры і нейкі прыгорблены, быццам нёс на плячах неймаверны цяжар. Гусця некалькі разоў спрабавала загаварыць з ім, але бацька толькі гладзіў яе па галаве і маўчаў.

Як толькі бацька выйшаў за браму, Гусця дастала з матчынага куфра старыя лялькі. Якіх толькі лялек не было ў Гусці! Золатавалосая Беласнежка ў шыкоўнай сукенцы і сярэбраных чаравічках. Шасцёра (сёмы прапаў) гномаў у чорных фраках з аксаміту і чырвоных каўпаках са званочкамі. Ружовашчокі Пятрушка ў доўгай кашулі — па белым полі сіні гарошак. Васіліса Мудрая ў квяцістым сарафане. Два галышы-спарышы. Плаксівая Дуня і вясё-

лы гарманіст Кузёмка. Усіх не пералічыш. А хоць бы і пералічыў?..

Такой вялікай дзяўчынцы, як Гусця, бадай, сорамна ўжо было гуляць у лялькі. Яна і сама гэта разумела, а таму даставала лялькі з куфра толькі тады, калі нікога не было дома і не было чаго рабіць па гаспадарцы.

Гусця так захапілася гульнёй у лялькі, што не пачула, як нехта зайшоў у двор. Адарвалася ад гульні тады, як забрахаў Кудлік. Яна выглянула ў акно і ледзь не самлела ад страху — трое фашыстаў вялі яе бацьку ў хату.

«Мусіць, дазналіся, што я была на Калінавай градзе, калі Данілка страляў з гарматы,— падумала Гусця.— Прыйшлі мяне арыштоўваць... Я нічога не скажу, нават калі мяне пачнуць біць...»

Уцячы ад фашыстаў было зусім проста: варта адчыніць акно, вылезці на прыбудову, адтуль саскочыць у агарод — шукай ветру ў полі! Але што тады будзе з яе бацькам? Фашысты забяруць бацьку, пасадзяць у турму... Не ўжо, калі паміраць, дык разам.

Гусця адышлася ад акна, стала каля лесвіцы, што вяла з мансарды ў прыхожую, стала слухаць.

— Прашу, прашу, гер камендант,— пачула яна бацькаў голас.

— Данке шон, данке шон,— падзякаваў у адказ дужа пісклявы голас, нібы гаварыў хлапчук, у якога ламаецца голас.

Гусця зірнула ўніз. У прыхожай стаялі немцы і яе бацька. Бацька ўзяў нізкага, тоўстага немца пад руку, павёў у залу.

— Будзьце ласкавы, гер камендант, праходзьце, адчувайце сябе як дома,— гаварыў бацька, прапускаючы камендапта паперадзе сябе ў залу.

Гусця не магла паверыць ні сваім вачам, ні вушам. Выходзіць, бацька зусім і не арыштаваны! Выходзіць, ён сябра фашыстаў! Такое не магло быць. Але такое ёсць! Гусця бачыла, як ён браў пад руку каменданта, чула, як запрашаў яго быць нібы ў сябе дома.

— Гусця, дзе ты? Сустракай гасцей, гаспадынька,— паклікаў яе бацька.

Гусця хацела не адгукацца, але яна была вельмі паслухмяная дзяўчынка, а таму, наперакор сваім адчуванням, сышла ўніз. Бацька ўзяў яе за руку, падвёў да каменданта.

— Гер камендант, гэта мая дачка Аўгуста...

— Вельмі слаўная дзяўчынка,— сказаў камендант і пагладзіў Гусцю па валасах.

— А цяпер, Гусця,— загадаў бацька,— засцялі стол, пастаў чаркі і астатняе начынне. А я займуся закускай. Прашу прабачыць, паны, што мушу пакінуць вас, але жонкі ў мяне няма, таму даводзіцца весці гаспадарку самому.

Калі стол быў засланы, Гусця спытала ў бацькі дазволу пайсці да сябе ў пакой. Бацька дазволіў. Гусця паднялася ў мансарду, села на ложак і задумалася. Чаму бацька на пачатку вайны лаяў фашыстаў, а цяпер сядзіць з імі за адным сталом? Чаму ён так перамяніўся? Што будзе далей? І ці стануць з ёй сябраваць Максімка з Данілкам, калі дазнаюцца, што яе бацька перакінуўся да немцаў?

Думала-думала Гусця, ды так ні да чаго і не дадумалася. Дачакалася, калі фашысты, набаляваўшыся, адправіліся ў сваю камендатуру, і пайшла да бацькі.

— Тата,—сказала яна бацьку,— навошта ты стаў сябраваць з немцамі?

— Я таксама немец,— адказаў бацька.

— Ты будзеш працаваць бургамістрам? А хто такі бургамістр?

— Бургамістр — гэта галава мястэчка, як да вайны старшыня пасялковага Савета. Толькі старшыня быў савецкі, ну, а бургамістр фашысцкі...

— Значыць, і ты стаў фашыстам?..

— Ідзі, дачка, пагуляй,— сказаў бацька.— Ты яшчэ маленькая, каб усё зразумець, ва ўсім разабрацца...

— Я не маленькая,— адказала Гусця.— І я хачу зразумець, чаму ты пайшоў на бок фашыстаў...

— Так трэба, да гэтага мяне паклікала маё сумленне.

— Бо ты немец,— падказала Гусця.

— Бо я немец,— падтрымаў яе бацька.

Крыўдна, вельмі крыўдна было Гусці. Навошта яе бацька нарадзіўся немцам? Усе людзі як людзі, а яе бацька бургамістр, служыць фашыстам, бо нарадзіўся немцам. Дасюль Гусця думала, што ў Савецкай краіне жылі толькі савецкія людзі, а выходзіць, былі і такія, што толькі прыкідваліся савецкімі... Дык што ж павінна рабіць яна, Гусця?..

## 2

Ноччу Гусці прысніўся прыгожы-прыгожы сон. Цёплы, сонечны дзень. Мама ў белым плацці з піянерскім гальштукам на шыі. Школьны двор. Урачыстая піянерская

лінейка і аж сто барабаншчыкаў старанна выбіваюць матыў паходнага марша. Гусцю прымаюць у піянеры. Мама завязвае на яе шыі гальштук. Барабаны б'юць усё мацней.

Ад іх грому Гусця і прачнулася. Быў ужо дзень — позняя раніца — і нехта бразгаў каструлямі.

Гусця надзела халацік, збегла ўніз, заглянула ў кухню. Там незнаёмая жанчына гатавала сняданне.

— Вы хто? — спытала Гусця.

— Твая мама,— адказала жанчына.— Можаш зваць мяне мамай Тоняй...

Каб раптам абваліўся дах або хата пайшла скакаць упрысядкі, ці на кухню забраўся мядзведзь, Гусця так не здзівілася б, як здзівілася з няпрошанай мамы.

— Мне не патрэбна другая мама,— сказала Гусця.— Мая мама памерла, і другую я не хачу...

— Нічога не зробіш,— спакойна адказала жанчына.— Твайму бацьку цяжка ўпраўляцца з гаспадаркай, бо ты яшчэ маленькая, вось ён і папрасіў, каб я глядзела за домам, была табе мамай... Ідзі памыйся, ды будзем снедаць...

Антаніна загадала так рашуча, што Гусця не стала пярэчыць, памылася, але снедаць не пайшла, а непрыкметна ўцякла з хаты, пабегла да Максімкі. Можа, ён што параіць?..

Максімкі дома не было.

— Ні свет ні зара пабег да Данілкі і вось яшчэ няма. Сама ўжо непакоюся,— сказала Максімкава маці.

— Можа, вы дазволіце пачакаць Максімку на двары? — спытала Гусця.

Ёй зусім не хацелася вяртацца дамоў, дзе гаспадарыць незнаёмая жанчына, якая задумала стаць яе мамай. Максімкава маці паглядзела на Гусцю жаласлівымі вачамі.

— Ты, можа, і не снедала? — спыталася яна.

Гусця хацела схлусіць, што снедала, але яна ніколі і нікому не хлусіла. Таму Максімкава маці здагадалася, што Гусця не снедала.

— Сядай за стол,— загадала яна Гусці.— Пакуль пасsnедаеш, Максімка прыбяжыць, узрадуецца...

Максімкава маці абняла Гусцю за плечы, павяла да стала. Ад яе дабраты ў Гусці на вочы набеглі слёзы.

— Ты чаго гэта? — спытала Максімкава мама.— Усё абыдзецца, усё будзе добра... Антаніна Паўлаўна цябе не стане крыўдзіць. Яна з тваёй мамай дружыла...

Гусці які ўжо раз было з чаго падзівіцца. Аказваецца, усё мястэчка ведае пра яе мачаху, адна яна ні пра што не

здагадвалася. Максімкава маці паставіла на стол бульбу з кіслым малаком, нарэзала хлеб. Гусцая стала снедаць. А тут і Максімка з'явіўся.

— А ты чаго тут? — з парога накінуўся ён на Гусцю.— Няма чаго табе тут рабіць...

Гусця аж зніякавела, аж кавалак хлеба засеў у горле. Ніколі не чакала, што Максімка абыдзецца з ёю вось так сурова.

— Сынок, як гэта ты размаўляеш з дзяўчынкай? — абурылася Максімкава маці.— Ай-яй-яй, як жа табе не сорамна?!

Максімку і праўда стала сорамна, але ён не хацеў прызнавацца ў гэтым — не дазваляла хлапчукоўская ганарыстасць.

— А чаго яе бацька ў немцаў служыць,— сказаў Максімка, пазіраючы сабе пад ногі.

— Дык жа бацька, а не яна,— нагадала маці.— А ты ж з Гусцяй сябраваў... Як жа можна вось так адразу дружбу касаваць? Можа, у дзяўчынкі і без таго на душы цяжка, а ты яшчэ яе дакараеш...

Максімка зусім збянтэжыўся. Ён не хацеў ірваць дружбу з Гусцяй. Не хацеў яе крыўдзіць...

— Я што,—пачаў апраўдвацца ён.— Я нічога... Гэта Данілка з Кешкам забаранілі мне знацца з Гусцяй.

— У цябе свая галава, свой розум,— сказала маці.— Чужым розумам нельга доўга жыць.

Маці рассудзіла як не трэба лепей. Максімка ўзрадаваўся. Цяпер у яго няма віны ні перад Гусцяй, ні перад Данілкам з Кешкам.

— Выйдзі на двор, калі паснедаеш,— сказаў ён Гусці.

— А я паснедала,— адказала Гусця і пабегла ў двор за Максімкам.

Яны селі на бервяно пад хлеўчуком.

— Дай чэснае піянерскае, самае-самае піянерскае, што нікому не выдасі тайну, якую я табе адкрыю,— шэптам сказаў Максімка.

— Самае-самае піянерскае, самае-самае чэснае,— паклялася Гусця.

— Тады слухай,— зашаптаў Максімка.— Мы пачынаем барацьбу з фашыстамі. Але для гэтага нам патрэбны чырвоны камандзір. Яго мы вызвалім з лагера палонных. Камандзіру патрэбен будзе конь. Без каня камандзіру нельга ваяваць. Каня мы ўкрадзем у каменданта. Аперацыя пад назвай «Гром» пачнецца праз тры дні...



З заслужанай артысткай БССР
Рымай Маленчанка. 1978 г.



У тэатральнай ложы. 1960-я гады

## 3

Ноч была па-летняму цёплая і як увосень — цёмная. Пад кручай, у малінавых кустах за кузняй стракаталі конікі. Перакрэсліўшы неба з чорнага аксаміту, мільгануў і патух над зямлёй метэор.

Данілка пастаяў, паслухаў — цішыня. Тады ён набраўся смеласці, адчыніў дзверы ў кузню. Яны зарыпелі, загаласілі ржавымі завесамі. Нешта чорнае сарвалася з-пад страхі, залапатала, засвістала, апісваючы кругі па кузні, як тая труна ў аповесці Гогаля «Вій». Данілка азірнуўся, шукаючы ратунку,— ад парога на яго вытрэшчваліся тры сінія вогненныя вокі.

Каб такое здарылася да вайны, Данілка няйначай самлеў бы. Цяпер ён не мог, не меў права баяцца. Які ты партызан, калі не ўмееш перамагчы страх!..

А як толькі Данілка перамог страх, дык адразу нічога страшнага не аказалася. Страшылішча з трыма вогненнымі вокамі ператварылася ў гнілы пень, які каваль дзядзька Спірыдон прыцягнуў у кузню, каб было на чым сядзець. А другое страшылішча, што лятала пад страхой, аказалася кажаном. Кажан, як толькі Данілка перастаў баяцца, сігануў у дзірку над горнам. А пень па-ранейшаму свяціўся. Данілка сеў на яго.

Першы прыбег Кешка. За ім паявіўся Лёва. Аднаго Максімкі не было. Пасядзелі, пачакалі — няма. Выйшлі ўтрох на двор, прыслухаліся — цішыня. Вярнуліся ў кузню. Няйначай нешта здарылася з Максімкам. Дасюль ніколі не спазняўся...

Канечне, выкрасці Грома ў каменданта яны маглі і ўтрох. Але без Максімкі ісці на іпадром, дзе камендант трымаў Грома, было проста не па-таварыску. Разам дамаўляліся, разам абмяркоўвалі аперацыю, дык трэба разам і ісці на яе.

— Што будзем рабіць? — спытаў Данілка.

— Прапаную выключыць яго з нашай партызанскай групы і неадкладна ісці на аперацыю,— рашуча сказаў Кешка.

Лёва запусціў пяцярню ў густую чупрыну, шмыгануў носам.

— З аднаго боку,— пачаў ён,— недысцыплінаванасць Максімкі павінна быць сурова асуджана, з другога боку, мы не ведаем прычын спазнення, а таму не маем права нешта рашаць.

— Тады пачакаем яшчэ крыху,— рашыў за ўсіх Данілка.

За сцяной кузні раптам пачуліся прыцішаныя галасы і асцярожныя крокі. Данілка першым шмыгнуў праз пралом у сцяне за горнам. За ім сіганулі Лёва з Кешкам.

Кузня стаяла над кручай. Схіл кручы зарос малінай, крушынай і травой. Хлопчыкі зашыліся ў кусты, прыслухаліся. Было ціха.

— Можа, нам здалося,— выказаў думку Данілка.

— Што здалося? — спытаў Лёва.

— А чаго мы ўцяклі з кузні? — спытаў Данілка.

— Ты першы кінуўся ў дзірку за горнам, мы за табой,— сказаў Кешка.

— Значыць, вы нічога не чулі? — спытаў Данілка.

— Мне здалося, што нехта гаварыў,— прызнаўся Лёва.

— А вы кажаце,— папікнуў іх Данілка.— Мы ўсе трое чулі, як нехта гаварыў.

— І што з таго? — спытаў Кешка.

— А тое, што трэба правесці разведку. Я першы пайду,— сказаў Данілка.

— Мы пойдзем усе разам,— не пагадзіўся Кешка.

— Я магу і тут пасядзець,— сказаў Лёва.

— Не, мы пойдзем усе трое,— вырашыў Данілка.

Яны паціху папаўзлі ўверх, дзе на светлым небе цямнела кузня. Прапаўзуць крок-два, прыслухаюцца. Адтуль, з кузні, далятала нейкае лёгкае шорганне, быццам хто капаў зямлю. Але гэта магло і здавацца...

Нарэшце Данілка выглянуў з-пад кручы. Ля кузні стаялі дзве фурманкі і нейкія людзі завіхаліся каля іх. Потым яны хуценька паселі і раз'ехаліся ў розныя бакі.

— Хлопцы, гэта былі партызаны,— выказаў меркаванне Кешка.

— Партызаны не паехалі б у мястэчка,— запярэчыў Данілка.

— А можа, нам здалося і нікога ля кузні не было,— сказаў Лёва.

— Ну і сказануў,— усміхнуўся Данілка.— Можа, мы трое спалі?..

Лёва ўшчыкнуў сябе за руку.

— Не, не спалі, бо я адчуваю боль,— сказаў ён.

— Цс-с-с,— падаў голас Кешка,— зноў нехта ідзе.

Усе трое паваліліся на зямлю. Сапраўды, да кузні ішлі двое. Данілка першы пазнаў іх — Максімка з Гусцяй!..

Ну і дзіва!.. Хто даваў такое права Максімку? Як ён мог

парушаць клятву не вадзіць дружбу з бургамістравай дачкой...

— Ты навошта яе прывёў? — грозна спытаў Данілка, трымаючы рукі ў кішэнях.

— Бо яна ведае нешта важнае,— адказаў Максімка.

— Ты, можа, забыўся пра наш угавор? — спытаў Кешка.— Спачатку ты павінен быў спытаць дазволу прывесці яе да нас.

— У мяне не было часу,— адказаў Максімка.— Вы маглі пайсці на іпадром...

Мала таго, што Максімка прывёў дачку здрадніка, дык ён яшчэ раскрыў перад ёй самую вялікую тайну! Абурэнню хлапчукоў не было мяжы. А Максімка нічога сабе... Быццам невінаваты.

— Без Гусці нам не вывесці Грома,— сказаў ён.

— Ха! — сказаў Лёва.— Я прыдумаў геніяльны план.

— Ха! — як рэха, адгукнулася Гусця.— Што твой геніяльны план!.. Грома на іпадроме няма.

— А дзе ж ён? — спытаў Данілка.

— У нас у хляве стаіць, во дзе,— адказала Гусця.— А ключ у сенцах вісіць... Таму я прапаную наш план...

## 4

Гусця баялася толькі аднаго, каб не заснуць раней за бацьку. А той усё нечага не клаўся спаць, сядзеў з Антанінай у кабінеце. З-пад дзвярэй выбіваўся на калідор белы касячок святла.

Гадзіннік прабіў дванаццаць разоў. Хлапчукі, мабыць, даўно сядзяць на пустыры за плотам, чакаюць яе, Гусцінага, сігналу, а бацька ўсё не кладзецца спаць.

Нарэшце дзверы бацькавага кабінета адчыніліся. Яркае святло хлынула з пакоя ў калідор.

— Добрай ночы, Іаган Карлавіч,— сказала мачаха.

— Добрай ночы, Тоня,— адказаў бацька.

Ён пачакаў, пакуль мачаха не зайшла ў спальню, вярнуўся ў свой кабінет.

Нарэшце!.. Цяпер як найхутчэй трэба падаць сігнал хлапчукам. Гусця запаліла свечку, паставіла на падаконнік. Тройчы закрыла агонь далоняй. У агародзе тройчы закаркала качка: кра, кра, кра... Хлапчукі сігналілі, што на месцы.

Гусця дастала з-пад ложка дзве пары валёнак: вялікія, бацькавы, і меншыя — матчыны. Потым яна сышла ўніз,

у прыхожую, зняла з цвічка ключ ад хлява. Зноў паднялася ў мансарду. Стоеную цішыню абудзіла мяўканне кацяняці. І адразу ж пад прыбудоўкай з'явіліся хлапчукі. Праз акно Гусця вылезла на страху прыбудоўкі, адтуль па лесвіцы спусцілася да хлапчукоў.

— Чаму ты так доўга? — спытаў Максімка.

— Бацька не клаўся спаць.

— Трэба было даць яму снатворнага,— параіў Лёва.

— Хопіць балбатаць, хімік,— спыніў яго Данілка.— Трэба абрэзаць у валёнках халявы...

— Іх жа пасля не абуеш,— разгубілася Гусця.— Ды такой і ўмовы не было, каб халявы абразаць...

— Але ж Грому валёнкі з доўгімі халявамі не нацягнеш,— сказаў Данілка.— А калі і нацягнеш, дык ён і двух крокаў не ступіць.

— Грома абуваць у валёнкі? — здзівілася Гусця.— Навошта?..

— Каб капытамі не грукаў. І следу не было.

Хлопчыкі дасталі сцізорыкі, і работа закіпела. Неўзабаве халявы былі адрэзаны. Данілка з Кешкам закапалі іх пад плотам. Цяпер заставалася вывесці з хлява Грома.

Адамкнуць замок было зусім не складана. Данілка пакінуў Максімку з Гусцяй на варце, а сам з Кешкам і Лёвам рушылі ў хлеў. Гром, пачуўшы людзей, захроп. Кешка пагладзіў яго, сказаў некалькі ласкавых слоў, і Гром супакоіўся. Можа, зразумеў, што хлапчукі прыйшлі выручаць яго з фашысцкай няволі.

Данілка хуценька абуў Грома ў валёнкі. Кешка ўзяўся за повад. Гром з непрывычкі хадзіць абутым спачатку заўпарціўся. Але нічога не зробіш — пайшоў.

Ужо за варотамі Данілка загадаў Гусці:

— Ключ павесь на месца. Вароты зачыні на крук. Заўтра прыйдзеш да Максімкі, раскажаш, як тут было, калі даведаліся, што Грома няма. Бацьку скажаш, калі будзе пытацца, што спала моцна, нічога не чула. Зразумела?

Гусці ўсё зразумела, але ёй было вельмі крыўдна, што вымушана заставацца дома. Ёй так хацелася быць побач з хлапчукамі. Ды нічога не зробіш — загад ёсць загад...

## 5

На двары пехта так моцна загаманіў, што Гусця ўраз прачнулася. Яна хуценька адзелася, але ўніз сышла не спяшаючыся. У хаце як быццам нікога не было. Галасы даляталі з панадворка. Гусця хацела пайсці туды, як на парозе ўзнікла Антаніна Паўлаўна. Яна была вельмі ўсхваляваная.

— Не хадзі туды,— схапіла мачаха Гусцю за руку.— Там жандары з фельдкамендатуры. У нас бяда — Грома ноччу ўкралі. Ты нічога не чула?

— Я рана легла спаць,— першы раз за сваё жыццё схлусіла Гусця і пачырванела.

Антаніна Паўлаўна прывяла Гусцю на кухню, пасадзіла на ўслончык.

— Калі ў цябе стануць пытаць, ці чула ты што ноччу, дык так і адказвай, як гаварыла мне: нічога не чула, бо рана легла спаць...

«Во дзіва! — падумала Гусця.— Як згаварыліся. Мачаха вучыць казаць так, як і Данілка. Быццам і яна памагала красці Грома».

У сенцах загрукалі ботамі. У хату ўваліўся натоўп рознага люду. Папраўдзе, дык натоўп быў і не вельмі вялікі. Гэта толькі напачатку так здалося. Бацька, камендант Ляпке, нейкія тры афіцэры і паліцэйскі Зыль-Барадыль. Ляпке ўбачыў Гусцю, заўсміхаўся:

— А-а-а, фройлен Аўгусціна!.. Рад вас бачыць... Гутэн морген, фройлен...

Мачаха падштурхнула Гусцю: маўляў, трэба ветліва адказваць на прывітанне, а не куксіцца...

— Гутэн морген, пан камендант,— адказала Гусця.

— Вельмі лепшая дзяўчынка,— пахваліў камендант і пайшоў у залу.

У прыхожай застаўся Зыль-Барадыль. Ён нечага корпаўся, нечага пераступаў з нагі на нагу. Але як толькі немцы зайшлі ў залу, звярнуўся да Гусці з нечаканым пытаннем:

— Як жывеш, Гусця? Падружылася з мачахай? Ноччу нічога не чула?

Гусця не ведала, на якое пытанне трэба адказваць у першую чаргу.

— Я рана легла спаць,— адказала яна чамусьці адразу на апошняе пытанне.

— Ну, так, так,— пагадзіўся Зылёў,— паслухмяныя

дзеці заўсёды рана кладуцца спаць. А бацька таксама рана лёг спаць?..

Гусця ледзьве стрымалася, ледзьве не сказала, што бацька лёг позна.

— Не ведаю,— сказала яна.— Можа, тады, як я спала...

— Ну, так, так,— пагадзіўся Зылёў і пайшоў у залу. Гусця чула, як ён сказаў немцам: — Я ўпэўнены, што Грома вывеў вельмі вопытны злодзей. Заўважце, пан камендант, замок адамкнуты і замкнуты, вароты адчынены і зачынены, і ніякіх слядоў. Што вы на гэта скажаце? Не разумееце? А ўсё проста. Дужа проста. Злодзеяў было двое. Яны абвязалі капыты анучамі ці абулі Грома ў лапці. Таму і няма следу. Адзін з іх павёў каня, другі замёў усе сляды. Так рабілі вопытныя канакрады. А раз гэта так, я знайду Грома.

— Пан Зылёў спецыяліст па конскіх кражах. Яму можна верыць,— сказаў бацька.

— Прашу, панове, за стол,— перапыніла іх гаворку Антаніна Паўлаўна.

Гусця, вызваліўшыся, адразу пабегла да Максімкі. Ну і пасмяюцца яны з гэтага следства!..

У Максімкавай хаце нехта галасіў. Гусціна сэрца сціснулася моцна-моцна: пяйначай якая бяда з Максімкам.

— Дзе Максімка? Можа, ты ведаеш? З учарашняга дня няма,— плачучы, гаварыла Максімкава маці.

— Можа, у Данілкі,— выказала меркаванне Гусця.

— І яго няма,— адказала маці.

## Лёва

### 1

У школе Лёву дражнілі «канструктарам», «хімікам», «прафесарам», а яшчэ «дужа мне трэба». Калі Лёву клікалі гуляць у футбол або цягаць яблыкі з чужых садоў, дык Лёва звычайна казаў: «Дужа мне трэба». Ну, яго і празвалі — «дужа мне трэба». Але найчасцей Лёву клікалі «канструктарам», «хімікам» і «прафесарам». «Канструктар», памажы рашыць задачу, «хімік», дай спісаць хатняе заданне, «прафесар», падкажы... Лёва нікому не адмаўляў. «Дужа яму трэба» адмаўляць!

Жыў Лёва за ручаём Вішка. Ручай той быў па калена ў паводку, а ўлетку дык і следу не заставалася. Але ўсё

адно тых, хто жыў за ім, клікалі заручэўцамі. Жыў Лёва не ў бацькоў, а ў цёткі Малкі. Чаму ў цёткі, Лёва не ведаў. Ва ўсіх дзяцей былі бацькі, а ў Лёвы не было. Некалі яны, можа, і былі, а куды падзяваліся, пра гэта Лёва не ведаў і ніхто яму не гаварыў. А Лёва і не пытаўся. «Дужа яму трэба» пытацца, калі гэта тайна!..

У цёткі Лёву жылося добра. Яна яго любіла і шкадавала, а таму і не дацінала дысцыплінай. Рабі сабе што хочаш. Гуляй дзе хочаш. Лёва, праўда, вольнасцю гэтай не злоўжываў.

У тую ноч, калі было прызначана выкрадаць Грома, цётка нечакана занядужала.

— Лёва,— сказала яна,— калі ты не хочаш маёй смерці, дык не станеш позна швэндацца па горадзе. У мяне слабое сэрца, і яно не вытрымае гора...

Лёва паабяцаў доўга не затрымлівацца. І праўда, як толькі Грома вывелі за мястэчка, Лёва сказаў сябрам:

— Мне, хлопцы, дамоў трэба, бо мая цётка, мусіць, выпіла ўсю валяр'янку. Дужа мне трэба, каб яна бралася за сэрца і казала, што я даканаў яе.

— Ідзі,— дазволіў Данілка,— і чакай нас з Максімкам раніцай. Прыйдзем па прыёмнік...

Радыёпрыёмнік, пра які ішла гаворка, Лёва знайшоў на двары машынна-трактарнай станцыі. Ён быў цалюткі, але не меў батарэй.

— Буду чакаць,— пагадзіўся Лёва.— Але і вы не затрымлівайцеся. Дужа мне трэба чакаць вас да паўдня...

У хаце пахла валяр'янкай і ландышам. Цётка Малка не спала. Яна сядзела на ложку, абхапіўшы рукамі галаву, раскочвалася, нібы яе хістаў вецер. Лёва далей парога не пайшоў; хлопчык адчуваў сябе бясконца вінаватым. Ён гатовы быў выслухаць любыя папрокі. Але цётка сядзела моўчкі, нібы скамянела за гэты час, пакуль чакала Лёву. Хай бы пачынала ўжо сварыцца!.. Маўчыць і маўчыць!.. А Лёва мусіць стаяць і чакаць, калі яна пачне сварыцца. Вінаваты ж!..

— Лёва,— нарэшце загаварыла цётка,— ты бегаеш увесь дзень і нават ноччу, хоць ты ўжо вялікі хлопчык і мог бы больш сядзець дома. Каб ты сядзеў дома, дык ведаў бы, якое да нас прыйшло гора.

Лёва зразумеў, што цётка сварыцца, бадай, не будзе. Яна, няйначай, пачне скардзіцца на Нохіма і на ягоную абродлівую казу, якая ўлезла ў агарод і нарабіла шкоды. Каза гэта не давала спакою ўсяму Заручэўю, і цётка не

раз казала, што Нохімава каза — гора, якое паяўляецца, калі яго менш за ўсё чакаеш.

— Дык што нарабіла Нохімава каза? — адчуўшы, што навальніца мінавала, спытаў Лёва.

— Дайце рады,— пляснула ў далоні цётка Малка.— Ён жа зусім дурненькі і не ведае, што робіцца на свеце.

— Ну, і што там робіцца? — кпліва спытаў Лёва.

— А тое робіцца,— не заўважаючы кплівага Лёвавага тону, сказала цётка,— што заўтра нашаму Заручэўю загадана перабрацца ў бaракі на старую цагельню. У гета, каб яго век ніхто не ведаў.

— Якое гета? Што ты выдумляеш? — узгарэўся Лёва.— Хто стане перасяляцца з добрых дамоў у гнілыя баракі?..

— Лёва,— сказала цётка, пранікліва пазіраючы на Лёву, як на хворага чалавека,— перастань гаварыць глупства. Хто ў цябе будзе пытацца, хочаш ты ці не хочаш перасяляцца?..

— Але там у страсе дзіркі, а вуглы павывальваліся, так што па бараках гуляе вецер. У іх не хочуць сяліцца нават вераб'і...

Цётка пахітала сівой галавой.

— Лёва, няўжо ты не разумееш, што нас таму і высяляюць туды, каб мы ўжо ніколі не вярнуліся ў мястэчка?..

— Вернемся,— бадзёра выгукнуў Лёва.— Хутка Чырвоная Армія пагоніць фашыстаў, і мы яшчэ да халадоў вернемся дамоў.

Цётка глянула на Лёву самотнымі вачамі, але прамаўчала.

## 2

Было вельмі рана, калі жыхары Заручэўя рушылі на пляц, дзе да вайны раз у тыдзень збіраўся кірмаш.

Людзі неслі на плячах скарб, гналі кароў і коз, кацілі тачкі і ручныя каляскі, вялі і неслі дзяцей.

Цётка Малка цягнула на плячах вялізны хатуль. Побач з ёю тэпаў Лёва, таксама з хатулём за плячамі і стосікам кніг у руцэ.

За гэтыя кнігі ў Лёвы з цёткай адбылася кароткая лютая схватка. Цётка хацела, каб Лёва замест кніг узяў прымус і бітончык з газай, але той заўпарціўся. Яны заспрачаліся. Лёва, безумоўна, перамог, даказаўшы цётцы, што

зварыць абед можна і на кастры, а вось без кніг яму ніяк не абысціся.

— Каб ты здароў быў і табе спатрэбіліся гэтыя кнігі,— здалася цётка і заплакала.

Калі Лёва з цёткай прыйшлі на пляц, там ужо сабралася ці не ўсё Заручэўе. Вакол пляца стаялі салдаты. Яны ўсіх прапускалі на пляц, але з яго нікога не выпускалі. Лёва з цёткай далучыліся да заручэўцаў, паклалі хатулі на сталы, з якіх ішоў некалі бойкі гандаль. Цётка адразу пачала шаптацца з такімі ж заручэўскімі жанкамі, як сама, а Лёва далучыўся да хлапчукоў, каб пра тое-сёе распытаць...

Неўзабаве з мястэчка прыкаціла машына. Даўгалыгі начальнік паліцыі стаў пра нешта гаварыць, сярдзіта выкрыкваючы на сваёй мове кожнае слова. Людзі адразу заціхлі. Нават малыя дзеці перасталі плакаць. Калі ён кончыў сваю прамову, узяў слова сівы фашыст у чорным фрэнчы.

— Слухайце мяне ўважліва,— пачаў ён.— Нямецкае камандаванне перасяляе вас на новае месцажыхарства ў гета. Вы павінны аднавіць цагельню і рабіць цэглу. Многа цэглы. Хто будзе дрэнна працаваць, таго чакае суровая кара. Хто пакіне месца жыхарства без дазволу, будзе расстраляны без суда. Зараз вы пакінеце рэчы і жывёлу на гэтым пляцы і пойдзеце пеша ў гета. Рэчы вам прывязуць на машыне. Можаце не турбавацца, нічога з рэчаў не прападзе. Па дарозе ў гета вы павінны захоўваць парадак. Хто паспрабуе ўцячы, будзе расстраляны на месцы. Даю на зборы тры хвіліны...

Фашыст у чорным фрэнчы выцягнуў з кішэні гадзіннік, пачаў адлічваць тры хвіліны, быццам вельмі спяшаўся.

Лёва дык з радасцю пакінуў свой хатуль. Але кнігі ўзяў з сабой. Затое цётка ўсё баялася, што яе хатуль можа прапасці ў дарозе.

Тры хвіліны скончыліся. Чорны фашыст загадаў строіцца. А калі людзі пастроіліся, скамандаваў ісці наперад. Шарэнга калыхнулася, нястройна пакрочыла па пыльнай дарозе.

Па баках калоны, уперадзе і ззаду ішлі ахоўнікі з вінтоўкамі і аўтаматамі, не шмат, чалавек дзесяць. Лёва з цёткай апынуліся ў сярэдзіне калоны. Цётка не пераставала плакаць. Ды і астатнія жанчыны плакалі, развітваліся з Заручэўем, у якім пражылі ўсё жыццё.

Вузкая вулачка, перад тым як выбрацца на палявую

дарогу, агінала пагорак, на якім стаяў будынак прамкамбіната. Лёва падумаў, што ён так і не паспеў прынесці з прамкамбіната адмысловыя цісочкі, на якіх можна было выточваць любыя дэталі. А хоць бы і прынёс? Усё адно не забраў бы іх у гета. Радыёпрыёмнік і той застаўся схаваны. Трэба ж было сказаць Данілку, дзе стаіць прыёмнік... Дзе ты ўсё прадугледзіш. А цяпер хлопцы застануцца без прыёмніка...

Крыўдна і горка было Лёву. Так усё недарэчна атрымалася...

Глянуў Лёва на прамкамбінат у апошні раз і вачам сваім не паверыў — на схіле пагорка, у малінніку, стаялі Данілка з Максімкам, махалі яму рукой — рады, што ўбачылі.

— Лёва, куды ты? — крыкнуў Данілка.

— У гета,— адказаў Лёва.

— Куды, куды?..

— На новыя кватэры,— растлумачыў Лёва.

— Дык мы цябе праводзім,— сказаў Данілка.

Не паспелі людзі агледзецца, як Данілка з Максімкам шмыгнулі ў калону.

— Ах, хлопчыкі, каб вы здаровы былі, навошта вы сталі ў калону? Нельга вам з намі,— занепакоілася цётка Малка.

Астатнія таксама спалохана пазіралі на Данілку з Максімкам. А тыя не звярталі на гэтыя спалоханыя позіркі ніякай увагі.

— Чаго вас раптам перасяляюць на новыя кватэры? — запытаўся Данілка.

— Цэглу рабіць,— адказаў Лёва.

— А навошта ім цэгла? — падзівіўся Максімка.

— Дужа мне трэба ведаць, навошта ім спатрэбілася цэгла,— сказаў Лёва.— Гэтыя немцы няйначай дурныя, бо з чаго мы будзем рабіць цэглу, калі гліна з кар'ераў даўно павыбірана.

— Можа, яны будуць вазіць гліну з Германіі,—выказаў думку Максімка.

— Не брашы,— абарваў яго Данілка.— Ну, вось што, Лёва, уладжвайся на новай кватэры ды прыбягай на могілкі. Ёсць справа. А цяпер кажы, дзе радыёпрыёмнік. Мы па яго і прыходзілі.

— Прыёмнік на гарышчы, пад венікамі,— сказаў Лёва.— А прыйсці на могілкі я не змагу. Нам забаронена адлучацца з гета...

— Ха,— рагатнуў Данілка.— Мала хто і што забараняе...

Лёва не стаў пярэчыць Данілку. Дужа яму трэба пярэчыць, Данілка пацінуў Лёву руку, сказаў:

— Ну, мы пайшлі... Будзем чакаць цябе, як сцямнее...

Яны пачалі выбірацца з сярэдзіны калоны і зусім нечакана апынуліся твар у твар з канваірам.

— Вэк, юда,— замахнуўся на іх канваір.

Данілка дык не вельмі нават спалохаўся. Адкуль канваіру ведаць, што Данілку не трэба перасяляцца ў баракі цагельнага завода?..

— Пан, пан,— загаварыў ён,— нам з Максімкам дамоў трэба... Мы не з Заручэўя...

Канваір страшна вырачыў вочы, пачырванеў ад злосці і моцна штурхануў Данілку.

Нехта з дарослых паспрабаваў заступіцца за Данілку з Максімкам, канваір кляцнуў затворам і, не падняўшы стрэльбы, стрэліў пад ногі людзям. Шарэнга хіснулася, як лес ад ветру. На ўвесь голас загаласіла цётка Малка:

— Што ж вы, дзетачкі, нарабілі? Цяпер жа вас не выпусцяць, пакуль вашы бацькі не прыйдуць па вас. А як жа яны прыйдуць, калі не ведаюць, дзе вы? Як жа ім перадаць пра бяду вашу?

Цётка Малка галасіла так жаласна, што ў Максімкі пырснулі слёзы. А Данілка толькі нахмурыўся і моцна задумаўся. А калі ён моцна задумваўся, дык абавязкова да нечага даходзіў.

— Не падабаецца мне гэта перасяленне на новыя кватэры,— сказаў ён Лёву.— Трэба ўцякаць...

— Як ты ўцячэш? — засумняваўся Максімка.— У канваіраў — вінтоўкі...

— А ты ведаеш, што будзе за ўцёкі? — спытаў Лёва.— Расстрэл, во што! Так сказалі нам. Дужа мне патрэбны гэты расстрэл... У цёткі слабое сэрца, і яна не перанясе такое гора...

— Баязліўцы няшчасныя,— раззлаваўся Данілка.— Вось калі мы не ўцячом, дык абавязкова расстраляюць. А таму слухайце, што я вам скажу... У мяне ёсць план...

## 3

План у Данілкі быў геніяльна просты, як сонечны дзень, і рызыкоўны, як скачок у студню. Але іншага выйсця не было.

За калгасным полем, злева, паўз дарогу, густа рос алешнік, пераплецены лазой і травой у рост чалавека, з якой местачковыя хлапчукі рабілі свісткі і пырскаўкі. Справа ж разлегліся пясчаныя пагоркі, якія Веляшковіцкае лясніцтва гадоў дзесяць назад засадзіла маладымі сасонкамі і елачкамі. Увосень тут расло столькі казлякоў, што хоць ты іх касой касі.

У камендатуры, мабыць, загадзя ўсё прадугледзелі, усё разлічылі. Злева, там, дзе густа рос алешнік, канваіраў ішло ўдвая больш, як справа. Хіба дурань пачне ўцякаць па сасонніку, які ледзь дасягнуў чалавечага росту. Таму Данілка якраз і выбраў для ўцёкаў сасоннік.

— Як толькі параўняемся вунь з той бярозай ля дарогі, я кінуся пад ногі ахоўніку, а вы сігайце ў сасоннік і што ёсць сілы бяжыце да кручы...

Усе трое памалу выбраліся на край шарэнгі, ішлі не болей як у двух кроках ад канваіра.

Дарога тым часам звузілася. Ахоўнік яшчэ бліжэй падышоў да калоны.

— Шнель, шнель! — крычаў ён на людзей і падштурхоўваў руляй вінтоўкі тых, хто ішоў марудна.— Хутчэй, хутчэй!..

Данілка ведаў, калі каго неспадзявана штурхнуць пад калені ззаду, дык той ніколі не ўстаіць на нагах, хай сабе будзе чэмпіёнам па боксу. Данілка знарок крыху адстаў і, калі канваір не чакаў, кінуўся яму пад ногі.

Салдат, як тое падсечанае дрэва, хістануўся і грымнуўся на зямлю. Але і Данілка не ўстаяў на нагах. На ягонае шчасце, канваір выпусціў з рук вінтоўку. Гэта і выратавала Данілку.

Салдат, як вядома, прывучаны найперш за ўсё хапацца за зброю. Таму канваір, як толькі ўскочыў на ногі, замест таго каб схапіць Данілку, найперш кінуўся па вінтоўку. Некалькі гэтых імгненняў і хапіла Данілку, каб сігануць у сасновыя зараснікі. Яшчэ некалькі імгненняў былі затрачаны канваірам на тое, каб стрэліць наўздагон Данілку. І зноў салдат дзейнічаў па прывычцы — калі ў руках вінтоўка, трэба страляць... А куля не магла дагнаць Данілку. Яна была разрыўная — як толькі чаплялася за галінку, дык лопалася, нібы той нераспелы гарохавы стручок.

Данілка ляцеў па сасонніку так шпарка, што вецер свістаў у вушах. І канваір не адставаў ад яго. Мусіць, ён —

гэты канваір — зусім звар'яцеў ад злосці. Мусіць, яго гнаў наперад звярыны нюх, што бывае ў ганчака, калі ён бяжыць па следзе. Данілка добра чуў, як недзе зусім блізка гокаюць каваныя боты канваіра. Ён думаў толькі пра адно — як найхутчэй дабегчы да кручы.

То быў вельмі высокі і дужа круты бераг Каспці, такі высокі і круты, што толькі падышоўшы да самай кручы, можна было ўбачыць супрацьлеглы бераг ракі.

Першымі выбеглі да кручы Максімка з Лёвам. Выбеглі ды і спыніліся ў нерашучасці: што рабіць далей?

— Скачыце,— крыкнуў Данілка, падбягаючы да іх.

Жарты сказаць — скачыце! Куды? У прадонне? Галаву зломіш!..

Абодва стаялі, не адважваючыся скочыць з такой верхатуры.

— Эх, вы! — Данілка першы сігануў уніз.

За ім, заплюшчыўшы вочы, скочыў і Максімка. А Лёва ўсё стаяў, і не таму, што баяўся. Ён рашыў для сябе дужа важную задачу. Як яму скакаць: з кнігамі ці без іх? Без кніг скакаць было б зручней, але кінеш іх уніз, шпагаціна лопне, кнігі рассыплюцца. Паспрабуй пасля збяры...

Пакуль Лёва рашаў такую складаную задачу, канваір выбраўся з сасонніку, убачыў Лёву.

— Хэндэ хох! — закрычаў ён.

Цяпер Лёва не стаў думаць. Ён скочыў, прыціснуўшы да грудзей кнігі. Метраў сем ляцеў у паветры, а калі ногі кранулiся пяску, не ўтрымаўся, паваліўся на бок і яшчэ метраў дзесяць каціўся па пяску, пакуль не дасяг вады.

— Бяжым! — загадаў Данілка.

Ды тут раптам да іх ног упала вінтоўка, Данілка схапіў яе і толькі цяпер убачыў, як па кручы коціцца ўніз канваір. Ён паспрабаваў падняцца і тут жа паваліўся на пясок. Мабыць, пашкодзіў нагу.

— Бяжым! — яшчэ раз крыкнуў Данілка, і ўсе трое пабеглі па беразе ракі да кустоў, што раслі крыху воддаль.

## 4

Спачатку хлапчукі беглі па сцежцы, што вілася па кручы. Потым бераг абарваўся проста ў раку. Хлапчукі трохі прабеглі па вадзе. І зноў выбраліся на сцежку, што хавалася ў буйной зеляніне травы і хмызнякоў. Сцежка то па-

дымалася ўгору, то апускалася да самай вады і нарэшце вывела іх да затокі, якую даўно называлі Чорным вірам.

Затока гэта славілася тым, што вада выцякала з яе ў раку праз нешырокую гарлавіну, але затока ад гэтага ніколькі не мялела. Мабыць, паілі яе падземныя крыніцы. І сапраўды, вада ў Чорным віры заўсёды была халодная, нават у самыя гарачыя летнія дні. Таму ў Чорным віры ніхто ніколі не купаўся і ніхто не ведаў, якая глыбіня ў тым віры.

Казалі, нібы адзін веляшковіцкі рызыкант некалі паспрачаўся, што нырне ў Чорны вір, дастане са дна жменьку ілу. Нырнуць-то ён нырнуў, але дна не дастаў ды і сам ледзьве вынырнуў. Яму так скруціла ногі, што і праз дзесяць гадоў не адпусціла. Так ён і поўзаў, валочачы за сабой непаслухмяныя, адзервянелыя ногі.

Берагі затокі скрозь зараслі ніцымі вербамі. Схіліўшы доўгае голле над вадой, вербы цісануліся адна да адной, як бы баючыся Чорнага віру і не маючы сілы адарвацца ад ягонай прадоннай глыбіні.

Старыя людзі расказвалі, што ў Чорным віры жывуць русалкі, якія вельмі любяць халодную ваду, што кожную летнюю месячную ноч, калі настае поўня, русалкі выходзяць з вады на бераг і да самай раніцы водзяць карагоды. Здаля можна падумаць, што на беразе весяляцца вясковыя дзяўчаты. Ды гора таму, хто адважыцца ў такую ноч падысці да Чорнага віру. Русалкі абступяць яго, закружаць у скоках і зацягнуць на дно.

Расказвалі пра адзін дужа даўні выпадак, такі даўні, што цяпер ужо ніхто не ведае, калі гэта было — сто гадоў назад ці трыста, а можа, і ўсе пяцьсот...

Жыў у Веляшковічах вельмі прыгожы багаты хлопец па прозвішчы Лядзень. Закахалася ў яго дзяўчына Насця. Была яна таксама прыгожая, але зусім бедная. Ды каханне не разбірае, хто багаты, а хто бедны. Насця закахалася ў Лядня, і Лядзень закахаўся ў Насцю. Толькі каханне ў яго было нялюдскае. Не хацеў, каб аб ім ведалі. Сустракаўся з Насцяй потайкам, каб, барані божа, не згледзеў іх хто разам. Ці доўга яны так сустракаліся, ці не доўга, пра тое ніхто не ведае, але аднаго разу Насця сказала Лядню, што няма чаго далей ад людзей хавацца, калі нічога ўжо не схаваеш.

Накрычаў на яе Лядзень, насварыўся, сказаў, што больш яны ніколі не ўбачацца. Кінулася Насця ў Чорны вір і стала русалкай.

Ішоў неяк Лядзень берагам ракі, бачыць, сядзіць на камені дзяўчына прыгажосці незвычайнай. Прысеў Лядзень ля яе, стаў гаварыць пра сваю адзіноту, а дзяўчына і кажа яму:

— Пачнём вадзіць з табой карагод, можа, весялей будзе.

Сталі яны вадзіць карагод. Не заўважыў Лядзень, як апынуўся на дне Чорнага віру.

— Ну, во,— кажа яму дзяўчына,— хацеў ты, каб нас ніхто і ніколі не бачыў, каб ніхто і ніколі не ведаў пра наша каханне... Спраўдзілася тваё жаданне — тут нас ніхто не ўбачыць...

Прыгледзеўся Лядзень да дзяўчыны, а то Насця. Страшна стала яму. І падумаў ён яшчэ раз абмануць Насцю.

— Кахаю я цябе, Настачка,— загаварыў ён з нечуванай прачуласцю ў голасе,— але ніяк мне не абысціся без майго гармоніка. Адпусці дамоў на дзянёк. Вазьму гармонік і вярнуся да цябе.

Паверыла яму Насця. Адпусціла з віру. А Лядзень і не падумаў вяртацца да яе.

Можа, праз год, а можа, праз тры пайшоў Лядзень паглядзець жыта на далёкім палетку ля ракі. Ідзе сабе памалу сцяжынкай у жыце. А яно ў самай красе. Аж пылок курыцца. Раптам бачыць Лядзень — дзяўчына ў жыце з васільковым вянком на галаве.

— Адкуль ты і чаму сядзіш у маім жыце? — спытаў дзяўчыну Лядзень.

— Здалёку я прыйшла,— адказала дзяўчына.— Адтуль, дзе крыніцы халодныя, дзе схаваны дыяменты, якім цаны няма, дзе золата і серабро, накшталт камення ў полі, ніхто не падбірае, дзе ўладаром мой бацька.

Загарэліся ад прагнасці вочы ў Лядня.

— Як мне там пабываць? — спытаўся ён у дзяўчыны.

— Надзень мой вянок з васількоў,— прапанавала яна,— і давай тваю руку...

Надзеў Лядзень вянок на галаву, узяла яго дзяўчына за руку, і пайшлі яны па жыце да ракі. Вось тут і зразумеў Лядзень, што гэта Насця, пакрыўджаная ім. Ірвануўся з яе рук, пабег па жытнім полі наўцёкі. Бяжыць, а жыта яго за ногі хапае, як бы ўтрымаць хоча. Закрычаў Лядзень на ўвесь голас, каб выратавалі яго. Ды ніхто, апрача ворана, не пачуў. Каркнуў воран у небе, нібы прысуд вынес Лядню. Ад страху перад немінучай расплатай

спыніўся Лядзень, скамянеў ды так і застаўся ляжаць на полі чорным каменем.

Данілка неаднойчы бываў у гэтых мясцінах, часцей за ўсё з бацькам. Звычайна дабіраліся яны сюды на чоўне, бо да Чорнага віру з сушы не вельмі падступішся. А нідзе не было столькі арэхаў, як па строме над Чорным вірам.

Хлапчукам заставалася прабегчы яшчэ метраў трыста, а там — шукайце, фашысты, ветру ў полі!.. Праз трыста метраў да ракі падступаў глыбокі роў, за якім рос бярозавы гай, а ўжо за тым гаем было рукой падаць да могілак. А могілкі такое схованішча, дзе і днём з агнём не знойдзеш.

Данілка сігаў наперадзе з нямецкай вінтоўкай у руцэ, за ім — Максімка, а апошнім бег Лёва з пакункам кніг. Праўда, Лёва крыху адстаў. Непрывычна яму было бегаць такія кросы. Таму, калі ён што ёсць сілы крыкнуў: «Хлопцы, пачакайце!» — Данілка моцна зазлаваў. Мала таго, што Лёва адстае, дык яшчэ крычыць, нібы рэзаны. А калі фашысты пачуюць?

— Чаго крычыш? Сціхні! — накінуўся Данілка на Лёву.

— Дык жа лодка там, каб мне з гэтага месца не сысці,— ужо шэптам загаварыў Лёва.— Мы на ёй можам на той бок пераплысці...

— Якая лодка? Што ты вярзеш? Хто мог прыгнаць сюды лодку? — не паверыў Данілка.

Сапраўды, хто і калі мог прыгнаць сюды лодку? З самага пачатку вайны ніхто з веляшкоўцаў на лодках не хадзіў. Як толькі прыйшлі фашысты, іхні камендант загадаў усе лодкі зарэгістраваць і надалей без яго, камендантыцкага, дазволу па рацэ не плаваць. Лодкі, канечне, рэгістраваць не сталі, а пахавалі ў хлявах ды адрынах, а хто не паспеў схаваць, нарабілі ў днішчах дзірак, каб і фашысты на іх не плавалі.

— Адкуль мне ведаць, хто прыгнаў сюды лодку,— сказаў Лёва,— але яна стаіць вунь пад той ніцай вярбой...

Сапраўды, пад вярбой была прывязана лодка і добра замаскіравана травой і голлем. Значыць, недзе побач маглі быць і людзі, якія яе пакінулі. Іншым разам Данілка абавязкова высветліў бы, чыя яна і як тут апынулася. Цяпер пра гэта не было часу думаць. Зусім нечакана наперадзе, там, куды яны беглі, прагучала доўгая аўтаматная чарга. Ёй адгукнулася другая ў тым баку, адкуль хлапчукі прыбеглі.

— Хутчэй у лодку,— загадаў Данілка.

Адвязаць лодку, забрацца ў яе было мінутнай справай. Яшчэ дзвюх хвілін хапіла на тое, каб лодка выскачыла на рачны прастор.

— Ой, Данілка, угледзяць нас на рацэ фашысты, адкрыюць агонь,— сказаў Максімка.

Ён разам з Данілкам сядзеў на вёслах, а Лёва — на карме, як пасажыр.

— Пакуль яны нас заўважаць, дык мы схаваемся за востраў,— адказаў Данілка.

Востраў гэты ляжаў крыху ніжэй Чорнага віру. Ён дзяліў раку на два рукавы. Той рукаў, што за востравам, быў шырэйшы і з запаволенай плынню, а гэты — вузейшы і з вельмі імклівай.

Данілка з Максімкам веславалі што ёсць сілы. Лодку зносіла, так што востраў набліжаўся ўвачавідкі.

— Яшчэ разы тры добра падналяжам і аўфідэрзэйн, фрыцы,— сказаў Данілка.

Ды нездарма ў народзе кажуць: не кажы гоп, пакуль не пераскочыш. Мабыць, фашысты ўсё-такі заўважылі лодку, бо з берага засакатаў аўтамат, а на рацэ метраў за паўсотні паявіліся фантанчыкі вады.

Лёва з Максімкам з перапуду паваліліся на дно лодкі. А Данілка так моцна запусціў вясло ў ваду, што лодка крутнулася па месцы, стала носам да таго берага, адкуль стралялі.

Толькі цяпер Данілка спіной адчуў усю сваю безабароннасць і страх.

— Максімка! На вёслы! — закрычаў ён.

А лодку тым часам зносіла, і яна вось-вось магла праскочыць міма верхняга мыса вострава. Тады ўжо не будзе ніякага ратунку.

Максімка перамог страх, сеў на вёслы. Удвух з Данілкам яны паспелі развярнуць лодку, заплысці за востраў. І ў самы час паспелі, бо толькі схаваліся за востраў, як фашысты прайшліся па рацэ кулямётнай чаргой. Не на жарт, відаць, усхадзіліся яны! А хлопчыкам адна пацеха. Страляйце сабе, калі патронаў не шкада!..

Данілка з Максімкам скіравалі лодку да чароту, які густа рос на гэтым пакатым беразе. Неўзабаве знайшлося і месца для лодкі — зручная такая затока сярод алешнікаў і бузіны.

А фашысты ўсё яшчэ стралялі, аж заходзіліся кулямёты і аўтаматы. Адно толькі дзівіла, што стралялі як бы

воддаль, а не каля Чорнага віру. Зрэшты, на гэта не сталі звяртаць увагі. Трэба было дабірацца дамоў. Вось тут і паявілася нечаканая задача.

Уцячы ад фашыстаў хлапчукі сапраўды ўцяклі, а пра тое не падумалі, як будуць дамоў вяртацца. Неяк жа трэба зноў на той бераг перабрацца. А як?..

Пераплываць раку небяспечна: даплывеш да сярэдзіны, а цябе фашысты на мушку!.. Ды і яшчэ была адна немалаважная абставіна — Лёва не ўмеў плаваць.

Заставалася адно выйсце — дайсці да Баварскага шляху, а там праз мост цераз раку і... лічы, дома. Круг, вядома, дай божа, але ж і выйсця іншага няма...

Да Баварскага шляху кіламетраў пяць. Нарэшце і ён. Між бярозавых прысад ляжаў бальшак. Збоч яго за канавай стаялі тэлеграфныя слупы. Пяць тоненькіх драцінак чапляліся за іх, як чапляецца павуціна за ржышча ў бабіна лета.

Сунуліся хлапчукі да моста ды хуценька павярнулі назад — збочылі ў хмызнякі. На мосце стаяла варта — фашысцкія аўтаматчыкі.

Дасюль на мосце варты не было. І калі цяпер паявілася, дык няйначай, каб упільнаваць Данілку, Максімку і Лёву.

Чаго ж яшчэ?..

Падумаўшы гэтак, хлапчукі, не згаворваючыся, сіганулі ў хмызнякі. Зашыліся ў гушчар, прыслухаліся. Ціха!..

— Трэба ўзабрацца на Лысую гару ды паназіраць,— выказаў меркаванне Данілка.

— Нічога ты з яе не ўбачыш,— засумняваўся Максімка, і меў рацыю.

Лысая гара гэтая ўзвышалася сярод лесу метраў за трыста ад моста. Чаму яе назвалі Лысай, ніхто ў Веляшковічах не ведаў. Яна скрозь зарасла ельнікам, арэшнікам, крушынай, і ніякіх лысін на ёй ніколі не было. Што-небудзь убачыць з яе было гэтак жа немагчыма, як і з нізіны, дзе прытаіліся хлапчукі. Але Данілка ведаў, што гаворыць. На вяршыні гары стаяла вышка, якую называлі то гэадэзійнай, то трыганаметрычнай, а то проста трохкутнікам. Яна складалася з трох слупоў, укапаных у зямлю. На добрай вышыні між слупоў была пляцоўка з дошак. З яе і спадзяваўся Данілка паназіраць за фашыстамі, што ахоўвалі мост.

Па прыступках, прыбітых да аднаго са слупоў, Данілка ўскарабкаўся на пляцоўку.

Ну і прастора адкрылася ягоным вачам!..

Проста пад нагамі распасціраўся лес — вастраверхія вяршаліны старых ялін, карычневыя купалы соснаў, зялёныя стагі дубоў і ліп,— а далей, у стромкіх берагах Каспля, за ёй мястэчка, кармеліцкі манастыр...

Данілка ледзьве адарваў позірк ад такога хараства. Не за гэтым жа ён лез на верхатуру. Ягоны клопат — мост. А вунь і ён. Стары драўляны мост. Хоць і далекавата да яго, але ў Данілкі зоркія вочы і без бінокля ўсё бачаць.

Ля моста на абочыне — матацыкл. На ім сядзеў фашыст, а другі стаяў побач. Яны пра нешта гаварылі — той фашыст, што стаяў, нечага ўсё размахваў рукамі.

— Ну, што там, што? — нецярпліва спытаў Максімка, стоячы ўнізе.

Данілка ў адказ толькі махнуў рукой — адчапіся.

Максімка падумаў, што Данілка, няйначай, бачыць нешта такое цікавае, якое абавязкова трэба ўбачыць і яму. Хіба ўцерпіш, стоячы ўнізе, адкуль можна ўгледзець хіба варону ў небе?.. І Максімка таксама пакарабкаўся па слупе.

— Уф ты! — сказаў ён, азірнуўшыся навокал.— Высока, аж галава закружылася...

Данілка прамаўчаў, бо ля моста адбывалася нешта нечаканае. З-пад насыпу адзін за адным пачалі выпаўзаць салдаты і строіцца ў шарэнгу. «Няйначай, мост мініравалі»,— падумаў Данілка. А салдаты тым часам пашыбавалі ў мястэчка. За імі пакаціў і матацыкл.

Выходзіць, дарэмна адседжваліся. Выходзіць, зусім і не іх чакалі салдаты, а колькі часу загублена, і цяпер невядома, ці дома Кешка.

### 5

Бабуля Ерафеіха выбірала агуркі ў агародзе. Вялізныя, аж бурыя, яна клала шнурочкам на паліцу пад страхой, каб даспявалі, каб потым можна было намыць з іх насення, а маладзенькія, зялёныя складала ў кошык — на засол.

Кешкі, па ўсяму відаць, дома не было, а таму, хочаш не хочаш, трэба пытацца ў бабулі, дзе ён?

— Няма яго,— злосна адказала бабуля, нават не зірнуўшы ў бок хлапчукоў.

Лёва з Максімкам аж зніякавелі, а Данілка і вухам не павёў.

— А ён нам вельмі патрэбны,— сказаў Данілка і стаў памагаць бабулі несці кошык з агуркамі.

— А гэта чые агальцы будуць? — спытала бабуля, чамусьці залішне ўважліва прыглядаючыся да Лёвы. Данілка адказаў, што і Максімка, і Лёва сябры Кешкі, а таму маюць да яго пільную справу.

Бабуля высыпала агуркі ў вялізныя начоўкі, заліла двума вёдрамі вады і толькі пасля гэтага запрасіла хлапчукоў у хату...

— Сядайце за стол,— сказала яна,— бо па вачах бачу, што вы яшчэ і не абедалі.

Максімка з Лёвам пачалі аднеквацца: яны, маўляў, толькі што вылезлі з-за стала, а таму есці не хочуць. Але Данілка прадаў іх.

— Мы яшчэ і не снедалі,— прызнаўся ён.

— Ну, то заадно і паснедаеце,— сказала бабуля і выцягнула з печы адзін гаршчок з гарачай капустай і другі — з тушанай у алеі бульбай з лісічкамі і сыраежкамі, а да бульбы накрышыла маласольных агуркоў і белай, як цукар, рэдзькі, паклала перад кожным па лусце ржанога хлеба, спечанага на кляновым лісці.

— Ешце на здароўе...

Ад такіх прысмакаў і сыты не адмовіўся б. А калі ў жываце з самай раніцы макавага зерня не было, дык будзеш уплятаць, як за сябе кідаць. Поту з твару і то няма калі выцерці.

Бабуля Ерафеіха стаяла ля печы, пазірала на хлапчукоў з самотай у выцвілых вачах. Але яны гэтага не заўважалі.

Хвілін, можа, праз дваццаць на стале нічога не засталося, крошкі і тыя падабраныя, талеркі і тыя вылізаныя. Данілка хацеў ужо даваць каманду вылазіць з-за стала, як у сенцах нехта моцна затупаў.

Можа, Кешка?

Аж не!..

У хату ўваліліся два фашысцкія салдаты. Адзін быў руды, рабацiністы, кірпаты, на расхрыстаных грудзях яго матляўся кароценькі варанёны аўтамат. Другі выглядаў зусім па-свойску, нібы вясковы дзядзька, якому невядома нашто нацягнулі вайсковую форму.

— Партызан... Бальшавік... Камсамол! — як уджалены закрычаў руды, не паспеўшы яшчэ пераступіць парог.

У хлапчукоў аж дрыжыкі пайшлі па целе: няйначай па іх прыйшлі, бо ў хаце толькі яны і маглі лічыцца партызанамі. З бабулі Ерафеіхі, вядома, які партызан.

Але якраз бабуля Ерафеіха і не спалохалася. Яна, як той каршун, накінулася на рудога:

— З перапою ты, ці што? Дзе ты тых партызан угледзеў? Хіба не бачыш, што гэта дзеці, кіндэры па-вашаму...

Рудому, мабыць, стала сорамна, ён адразу згубіў ваяўнічасць і спакойна стаў у кут, дзе вісела паліца з начыннем. Затое ў салдата, падобнага на вясковага дзядзьку, паявілася ахвота да гамонкі.

— О-о-о-о, кіндэр! — выгукнуў ён, быццам пазнаў сваіх дзяцей.— Кіндэр гут!.. Зэр гут! Матка гут! Партызан шлехт... Партызан то ёсць плёха...

На большае ў яго, відаць, не хапіла слоў, і ён перапыніў сваю гамонку, чакаючы, што скажа бабуля Ерафеіха.

— Папугай чортаў,— сказала бабуля Ерафеіха.— Быццам я не ведаю, чаго ты прыпёрся. Яйка, млека, масла...

— О, я, я... Так, так... Отчэнь хорошо, отчэнь лутшэ — яйка. Купляць буду...

Салдат зняў з галавы пілотку, а з яе дастаў жоўтую каляную паперку, складзеную пакецікам.

— Айн, цвай, драй, фіер, фюнф,— адзін за адным салдат загнуў пальцы на руцэ.— Пяць яек, матка, мне, а гэта — табе...

Салдат працягнуў пакецік. У ім было дзесяць картонных запалак.

— Ах ты, гандляр саплівы,— сказала бабуля.

— О, я — саплівы,— пагадзіўся салдат.— Отчэнь лутшэ саплівы...

Данілка не стрымаўся, зарагатаў і тут жа заціснуў рот рукой — чорт яго ведае гэтага гандляра, на што ён здатны. А Максімка з Лёвам не маглі стрымацца. Яны аж заходзіліся ад смеху.

Салдата, відаць, пакрыўдзіў гэты іхні смех. Ён раптам вырачыў вочы, закрычаў, як псіх:

— Юда!.. Эр іст юда! — і пайшоў да стала, за якім сядзелі Максімка і Лёва.— Ён ёсць яўрэй!..

Салдат працягнуў руку, каб схапіць Лёву за чупрыну, але тут перад ім паўстала бабка Ерафеіха.

— Ты што чаўпеш?.. Які ён яўрэй?.. Нават вельмі праваслаўны, каб табе вочы павылазілі, а каршуны іх пакляvalі...

Надзіва, салдат адвёў руку, хоць усё яшчэ з недаверам паглядаў на Лёву.

— Хрысціся ты, горачка маё,— загадала Лёву бабуля Ерафеіха.

Лёва хацеў сказаць, што ён ніякім багам не верыць, ды бабуля так тузанула яго, што ў Лёвы адразу адпала ахвота спрачацца.

Дужа яму трэба спрачацца з Кешкавай бабуляй, калі нейкі псіхаваны немец ледзь не ўчапіўся яму ў валасы, а бабуля тузае яго, як той аўсяны сноп.

Лёва ледзь было не перахрысціўся левай рукой, ды бабуля своечасова заўважыла:

— Правай, правай хрысціся,— падказала яна.

Лёва размашыста тыцнуў пальцамі ў лоб, у пуза, потым яшчэ па разу ў плечы. Гэта сапраўды зрабіла ўражанне. Псіхаваны немец паляпаў Лёву па плячы:

— Гут, кіндэр, гут, самы ёсць малайчына,— пахваліў ён Лёву.

Але яму не дала балбатаць бабуля Ерафеіха.

— Ну, чаго балабоніш, чаго?.. Хадзем, бяры яйкі, гандляр саплівы... Каб ты імі падавіўся...

Салдат пайшоў за бабуляй у парог. Бабуля адкрыла шафку. У ёй ляжала тры яйкі.

— Больш няма,— развяла рукамі яна.

— Гут, гут,— пагадзіўся салдат.

Ён спачатку паклаў яйкі ў кішэню, а потым забраў у бабулі і пакецік запалак, каб яшчэ дзе гандляваць ім.

Калі ў акне прамільгнулі іхнія шэрыя постаці, Лёва першы падняўся з-за стала.

— Вы сабе як хочаце, а я павінен ісці ў гета, бо там цётка, відаць, ляжыць без прытомнасці,— сказаў ён.

Данілка з Максімкам не адказалі, а бабуля Ерафеіха адразу ўсё зразумела.

— Хадзі сюды,— паклікала яна Данілку і павяла таго на двор.

На двары бабуля спытала:

— Лёва гэты ці не з Заручэўя будзе? Чый?

— Ён у цёткі Малкі жыве... Лёва Гутман...

— Бедны хлопчык,— сказала бабуля.— Не трэба яму ў тое гета ісці.

— Дык а я што кажу,— пагадзіўся Данілка.— Ды хіба ён паслухаецца? Ён такі ўпарты, такі ўпарты...

Бабуля Ерафеіха ражком хусткі выцерла вочы.

— Няма Лёвавай цёткі,— ціха сказала бабуля.— Пастралялі заручэўцаў... Усіх чыста пастралялі...

Ад яе слоў па Данілкавай спіне прабег холад, балюча кальнуў у патыліцу.

«Выходзіць, і нас пастралялі б, каб не ўцяклі»,— прамільгнула ў Данілкавай галаве страшная здагадка.

## Кешка

### 1

Кешка нарадзіўся ў вялікім горадзе з мноствам заводаў і фабрык, з шырокай ракой, па якой хадзілі белыя параходы, з вузкімі брукаванымі вуліцамі, па якіх весела бегалі чырвоныя, сінія і зялёныя трамваі.

Ягоная мама Капіталіна Ерафееўна працавала на іголкавым заводзе і вучылася ў гарадскім аэраклубе. А тата, Платон Лістападзенка, служыў у Чырвонай Арміі, і не абы ў якой часці, а ў вельмі славутай дывізіі, пра якую нават спявалася ў песні, што дывізія тая ў Вісле коней паіла.

Мама з татам пазнаёміліся на свяце вызвалення Беларусі ад белапалякаў, якое праводзілася кожны год у ліпені. Мама ў той дзень скакала з парашутам за пасёлкам Елагі, а тата там жа браў нейкія перашкоды на матацыкле. Яны абое заваявалі першае месца. Пасля свята тата пасадзіў маму на матацыкл і павёз у Веляшковічы да бабулі Алімпіяды, каб тая дазволіла ім жыць усё жыццё разам і ніколі не разлучацца.

Зразумела, што Кешка не мог гэтага памятаць, бо яго тады яшчэ і на свеце не было. Пра ўсё гэта расказала Кешку бабуля Алімпіяда Захараўна, ці проста бабуля Ерафеіха, якая ўмела расказваць так цікава, што Кешку часам здавалася, што і ён быў на тым свяце ў Елагах і разам з татам і мамай ехаў на матацыкле ў Веляшковічы.

Горада, дзе ён нарадзіўся, Кешка таксама не памятаў, бо яму не было і двух год, як тату перавялі служыць на Далёкі Усход. Толькі летась Кешка пабываў у горадзе, дзе нарадзіўся, бо зноў ягонага бацьку перавялі з Далёкага Усходу ў Літву, вызваленую ад паноў і буржуяў.

Кешку вельмі хацелася хоць адным вокам зірнуць на тых паноў і буржуяў, пра якіх ён толькі чытаў у кнігах, але бацька загадаў ехаць да бабулі і жыць у яе, пакуль па яго не прыедуць.

Кешка спачатку ўзбунтаваўся. Не хачу, дый годзе, жыць у бабулі, хачу жыць з татам і мамай у іх палку.

— Ну, вось што, Інакенцій,— сказаў тата,— ты, брат, не маленькі, павінен усё разумець. Там, куды мы едзем, можа, яшчэ і школ няма. Ды і нельга табе туды ехаць, і гэта ўжо не мой загад, а наркома абароны.

Перад наркомам абароны Кешка здаўся.

— Добра, пажыву ў бабулі,— сказаў ён.— Толькі глядзіце, каб наступным летам забралі да сябе...

— Ну, вось і дамовіліся,— узрадаваўся бацька і ў знак дамоўленасці паціснуў Кешкаву руку.

Да бабулі Алімпіяды Захараўны Кешку павезла мама. Вось тады ён і пабываў у горадзе, дзе нарадзіўся.

Горад называўся Віцебскам.

Быў ён чысценькі, акуратны, раскіданы па ўзгорках, з якіх адкрываліся прыгожыя краявіды. І рака спадабалася Кешку. Шырокая, у стромкіх берагах. Па ёй гналі плыты, якія мама называла ганкамі. У рацэ купаліся дзеці і дарослыя.

А па горадзе бегалі трамваі. Іх вадзілі маладыя вясёлыя дзяўчаты, якія ўвесь час нястомна званілі. У кожнага трамвая быў свой асаблівы голас. Адны задзірыста і гулка блямкалі, другія тоненька звінелі, трэція нязлосна выгаворвалі пешаходам, дзе трэба пераходзіць вуліцу: там, там, там...

За рубель Кешка з мамай наездзіліся ў трамваях, аж у галаве пачало гусці.

У такім горадзе і пажыць не блага. Але не доўга. Кешка ніколі не прамяняў бы сваё жыццё ў вайсковых гарнізонах нават на гэты прыгожы горад. У вайсковых гарадках на Далёкім Усходзе было куды цікавей.

Там горы называліся сопкамі. Там расла тайга. Там была граніца... Ды не толькі гэта вабіла Кешку. Ён, колькі сябе памятае, жыў сярод смелых, вясёлых хлопцаў, якія вельмі любілі яго. Хлопцы гэтыя называліся чырвонаармейцамі.

Яны дазвалялі Кешку залазіць у браніраваныя баявыя машыны, брацца за рычагі, ціснуць на педалі, сядзець у крэсле стралка або радыста.

Хто з хлапчукоў можа пахваліцца, што ўмее кіраваць баявой машынай? Хто мог сабраць не толькі затвор вінтоўкі, але і замок кулямёта?

Толькі Кешка! Ды і страляў ён дай божа!

— Быць табе, Інакенцій Лістападзенка, чырвоным ге-

нералам,— сказаў яму аднаго разу камдыў таварыш Супрун.— Добра толькі вучыся...

Наконт генерала камдыў, можа, і жартаваў, але якому хлапчуку не сніцца генеральская форма? Толькі ад хлапчука да генерала вунь колькі тых прыступак. Па іх як на неба ўзбірацца. Але ж кожны генерал некалі быў хлапчуком. Трэба толькі добра вучыцца.

Кешка стараўся вучыцца на «выдатна». У канікулы з кнігай не расставаўся.

А цяпер вучоба перапынілася — вайна.

У Кешкі цяпер іншы клопат. Пра яго ўголас і не скажаш. Але думаць можна, думаць нікому не забаронена. Кешку пазарэз патрэбны чырвоны камандзір.

Навошта?..

Сядзе камандзір на баявога каня, выцягне шаблю з ножнаў ды як крыкне грамавым голасам: «А што, баявыя сябры-таварышы, хіба зброя наша прытупілася ці самі мы знемаглі ў баях?» — «Не,— адкажуць сябры,— і зброя наша не прытупілася, і самі не знемаглі, а гатовы ісці на свяшчэнную бітву з праклятым ворагам, які топча нашу зямлю».— «Дык ударым па іх, баявыя мае паплечнікі, пагонім з роднай зямлі, як гналі некалі белую контру, як білі хцівых самураяў і іншую фашысцкую погань, што тачыла прагныя зубы на краіну рабочых і сялян».

І пагоняць чырвоныя байцы фашыстаў спачатку з Веляшковіч і навакольных вёсак, потым з горада Віцебска і ўсёй Беларусі. Будуць гнаць іх аж да самай Нямеччыны і яшчэ далей, пакуль не скінуць у халоднае мора.

І ва ўсім гэтым паходзе будзе ўдзельнічаць Кешка, як самы верны і смелы памочнік таго камандзіра, што павядзе свае войска на праклятых фашыстаў. Дзе знайсці чырвонага камандзіра ў тыле ворага. Кешка адразу здагадаўся, як толькі ў кармеліцкім манастыры размясцілі захопленых у палон параненых байцоў Чырвонай Арміі. Напэўна, сярод іх знойдзецца і камандзір...

А як вывесці з фашысцкага лагера камандзіра, Кешка не толькі ўяўляў, але і меў дасканалы план...

## 2

За леташні гарачы жнівень, сёлетнія вясновыя канікулы і два месяцы гэтага сонечнага лета Кешка аблазіў скляпенні і сутарэнні не толькі на могілках, але і ў кармеліцкім манастыры.

А вінавата ў гэтым была ягоная бабуля Алімпіяда Захараўна. Гэта яна расказала Кешку і пра незлічоныя багацці разбойніка Ворана, і пра шаўца Ярошку, і пра змрочныя скляпенні, якія злучаюць царкву на могілках з кармеліцкім манастыром і нават з Тадулінскім касцёлам, што стаіць ад Веляшковіч кіламетраў за дваццаць. Пра многія і многія паданні пачуў Кешка. Ад усіх іх павявала таямнічасцю і жудой.

Кешка не дужа верыў у тыя паданні, але лазіць па сутарэннях было цікава, ды і меўся выпадак праверыць сваю вытрымку і мужнасць.

У часе адной з такіх вандровак па ваколіцах кармеліцкага манастыра Кешка знайшоў у лесе старую капліцу і дзіўны ля яе калодзеж.

Было гэта ў маі. Стаяў сонечны дзень. Кешка пайшоў у лес, каб дастаць грачыных яек. Хацеў пакласці яйкі пад курыцу, каб яна вывела грачанят. Кешка чуў, нібы такія грачаняты дужа здатныя да вучобы, іх нават можна навучыць гаварыць па-чалавечы. А каму не хочацца мець вучоных гракоў?

Вось тады Кешка і наткнуўся на капліцу і калодзеж. Капліца яго не зацікавіла. А калодзеж уразіў. Глянуў Кешка ў яго і вачам не паверыў — у чорным прадонні зіхацелі два яркія агеньчыкі.

Кешка працёр вочы і зноў глянуў у калодзеж. Агеньчыкі гарэлі на тым жа месцы...

Што за дзіва?

Кешка знайшоў камень, кінуў у калодзеж. Доўга-доўга нічога не было чуваць. Потым агеньчыкі пагаслі, а з калодзежа нехта як зарыкае. Кешка задам, задам ды наўцёкі. Праўда, не бегма, а памалу — бо ён зусім не спалохаўся, а толькі адчуў небяспеку.

— Бабуля, а чый гэта калодзеж у лесе за кармеліцкім манастыром? — спытаўся ён, вярнуўшыся з лесу дамоў.— Я ў яго камень кінуў, а нехта як рыкне: што ты робіш, навошта каменем кідаешся? — і пачаў уверх страляць, няйначай з гарматы...

Кешка трохі дадаваў страхаў. Бабуля аж узлавалася на яго.

— Усюды ты свой нос усунеш, усюды ўлезеш,— засварылася яна.— А той калодзеж не мае дна, бо ён зусім і не калодзеж, а магіла Змея Гарыныча, які абманам і хітрасцю загубіў Параску-Пяцінку ды і сам праваліўся ў падзямельнае царства.

Кешка адчуў, што за бабулінымі словамі тоіцца нейкае паданне, і не памыліўся. Бабуля спачатку наадрэз адмовілася што-небудзь расказваць пра Змея Гарыныча перад саменькай ноччу, а пасля здалася і расказала.

Даўным-даўно, калі тутэйшы народ яшчэ не ведаў вайнаў, жыў мірна і ціха, араў зямлю, пасвіў жывёлу, лавіў рыбу ў глыбокіх азёрах і рэках ды збіраў мёд дзікіх пчол, паявіўся з-за высокіх гор, з-за цёмных лясоў люты Змей Гарыныч са сваім войскам.

Не стала жыцця людзям. Не паспеюць хлеб зжаць, як стаяць Змеевы слугі, каб забраць ураджай. Не паспеюць жывёлу адгадаваць, як хапаюць яе і вядуць на Змееў двор.

А далей — горай.

Пачалі праклятаму Змею маладзенькіх дзяўчат на забаву аддаваць, а маладых хлопцаў на згубу. Калі ж хто асмельваўся слова наперакор сказаць, таго чакала лютая смерць. Па загаду самога Змея Гарыныча такога чалавека раздзявалі пры ўсім народзе дагала, прыгіналі самую гонкую бярозу да зямлі, прывязвалі да яе вяршыні асуджанага на смерць нябогу ды і адпускалі бярозу — памірай, чалавеча, пад сінім небам, хочаш ад спёкі нясцерпнай, хочаш ад сцюжы лютай, хочаш ад камароў ці іншай заедзі, хочаш ад голаду.

Пачалі людзі ў лясы ўцякаць.

А лясы тады густыя былі. Пеша прайсці цяжка, а на кані і не паткніся. Змеевы ж служкі з коней не злазілі. І спалі на іх, і паміралі на іх.

Затравелі палі, апусцелі вёскі. Шныраць Змеевы слугі, каб сабраць дань Змею, а набытку — кот наплакаў. Задумаліся яны. Нешта рабіць трэба, каб прымусіць людзей вярнуцца з лясоў, працаваць на Змея. А не то самім трэба будзе за працу брацца, а працаваць ім не хочацца. Прывыклі ваяваць ды рабаваць, а рабіць нічога не ўмеюць.

Хацелі яны спачатку лясы высекчы, у стэпы ператварыць. Ды паспрабуй — высечы. Надумалі хітрасцю людзей з лесу выманіць. Пачалі Змеевы слугі распускаць па наваколлі чуткі, нібы Змей Гарыныч толькі пра тое і дбае, дзеля таго толькі і жыве, каб рабіць людзям дабро і радасць, што ён кожнаму чалавеку і родны бацька, і мудры дарадчык, і справядлівы пастух, і сонца яснае, і паветра чыстае. А пра зло, якое па ўсёй зямлі чынілася, Змей Гарыныч зусім і не ведаў, бо быў заняты дужа важнымі і неадкладнымі справамі. А калі даведаўся, дык вельмі засмуціўся і раззлаваўся на сваіх паслугачоў. Загадаў пака-

рацьіх і надалей караць будзе, хай толькі людзі выходзяць з лясоў ды пачынаюць працаваць сабе на карысць, а Змею на славу.

А каб хлусня выглядала больш верагодна, па загаду Змея Гарыныча сапраўды пакаралі смерцю некалькі Змеевых прыхвасняў, быццам гэта яны вінаваты былі ў людскіх нягодах.

Дайшлі гэтыя чуткі да людзей. Адны не хацелі верыць, другія засумняваліся, а трэція дык і зусім паверылі.

Першы падаў голас адзін з тых разумнікаў, якія заўжды былі і цяпер не пераводзіліся, якія ў чужым воку гатовы парушынку за бервяно палічыць, а ў сваім і слана не заўважаюць, якія гатовы абы-каму прыслужваць, толькі б выгада была.

«Яно,— кажа,— і праўда, пад Змеевым уладараннем усякае здаралася: і дзяўчат на забавы бралі, і хлопцаў на згубу, і людзей смерцю каралі. Але ж Змей у тым невінаваты. Затое і парадак тады быў. А цяпер што? Няма парадку. Людзям жа цвёрдая рука патрэбна, бо яны, як статак авечак без пастуха. Разбрыдуцца хто куды. А Змей Гарыныч здольны і парадак навесці, і шчасце прынесці, бо самі ж чулі, што пакараў ён тых слуг і цяпер не будзе нам крыўды. А ў лесе мы нічога не выседзім. Таму пойдзем да Змея Гарыныча і будзем з ім жыццё ладзіць...»

«А што, можа, і праўду кажа»,— пагадзіліся адны.

«Але ж Змей застаецца Змеем»,— нагадалі другія.

«Прыкусіце языкі, бо, можа, гэта знарок чуткі пускаюць»,— пачалі засцерагаць трэція.

«Дакладна ведаем, што Змей,— закрычалі чацвёртыя,— хацеў нам добрае жыццё наладзіць, а вы на яго плявузгаеце. Вас даўно на бярозе трэба было пакараць».

Слова за слова — пачалася бойка. Лютая. Смяртэльная. Дзень б'юцца, два, тыдзень, год... Аб'явілі пераміp'е. Думалі, гадалі і вырашылі ісці да Змея.

Толькі выстраіліся ў шарэнгу, аж бачаць — выехаў з лесу коннік. Падзівіліся людзі, як гэта ён мог па лесе праехаць, калі там і пеша цяжка прабрацца. А яшчэ болей падзівіліся, калі ўгледзелі, што на кані дзяўчына сядзіць.

— Куды вы сабраліся ісці? — спытала яна.— Няўжо ашуканства не бачыце?..

— А ты хто такая, што нам пытанні задаеш? — накінуліся на яе.

— Я — Параска-Пяцінка, пятая дачка Дабра і Праўды, якія па вашай віне томяцца ў Змеевай сястры — Бабы-

ягі. А пра тое, як я з палону выбавілася,— не пытайцеся. Доўга расказваць трэба.

— Чулі мы пра цябе, Параска-Пяцінка. Людзі цябе яшчэ Надзеяй завуць. Толькі нам ужо спадзявацца няма на што, таму і ідзём да Змея.

— Не спяшайцеся галовы ў пятлю самахоць сунуць,— сказала Параска-Пяцінка.

— А чаго нам чакаць,— адказалі ёй,— калі між намі згоды няма, у руках сілы, а ў сэрцах мужнасці?

— А каб была? — спытала Параска-Пяцінка.

— Тады о-го-го!..

Ударыла Параска-Пяцінка кап'ём аб зямлю, і хлынула з яе нетраў гаючая вада.

— Змыйце гэтай вадой ачмурэнне, ачысціце душы вашы, а тады рабіце тое, што падкажа вам сумленне, і спадзявайцеся, спадзявайцеся...

Памыліся людзі той вадой, і вочы іхнія нібы адкрыліся. Самі з сябе дзівяцца, як маглі той лухце верыць, якую Змеевы слугі распусцілі. Не мяняўся Змей, ды і не мог змяніцца. Гэта ён пакуль добранькім прыкідваецца, а пройдзе час, і яшчэ горай стане. Зразумелі людзі, што адно выйсце ў іх — прагнаць Змея. Пайшлі яны на Змея вайной і перамаглі ягонае войска.

Кінуўся Змей Гарыныч наўцёкі. Зашыўся ў гушчар. Сядзіць, а злосць разбірае яго. Спадзяецца Змей, што нейкім чынам яшчэ да ўлады прыйдзе, а тады ўжо пакажа ўсім дзе ракі зімуюць. Стаў ён клікаць Надзею.

Паявілася Параска-Пяцінка. Пытае, чаго клікаў яе?

— Шкада мне цябе,— кажа Змей.— Ніколі ў цябе адпачынку няма. Цяпер спачыць можаш, бо перамаглі мяне людзі.

— Не магу я адпачываць, калі Дабро і Праўда ў тваёй сястры Бабы-ягі ў палоне.

— Тады я лягу адпачыць, а ты мяне пасцеражы...

Дзень спіць, два спіць, тыдзень, год... Паспадзявалася Параска-Пяцінка, што Змей ужо і не прачнецца. Дай, думае, хоць трошкі адпачну. Толькі вочы заплюшчыла, як падхапіўся Змей і засек яе. Толькі душа паспела з цела вылецець. Ператварылася душа ў лясную галубку і дасюль крычыць, людзям пра сябе нагадвае, што жыве надзея на свеце.

А Змей Гарыныч, вядомая справа, узрадаваўся. Цяпер у людзей ніякай надзеі няма, слухацца яго будуць. Вырашыў ён крыніцу тую знішчыць, што людзям вочы ад-

крыла. Ударыў ён кап'ём з усяе сілы, каб зямлю наскрозь праткнуць і на той бок крыніцу выліць. Ды не разлічыў сваіх сіл, разам з кап'ём у прадонне і сам паляцеў. Вось і цікуе адтуль вогненнымі вачамі. І хто ягоныя вочы ўбачыць, той не міне бяды.

Даслухаў Кешка паданне і ўсміхнуўся — нічога з ім не здарыцца.

Ажно і праўда — здарылася.

За тыдзень да пачатку вайны Кешка сустрэў Данілку. Разам пайшлі ў кармеліцкі манастыр. А там пачалі гуляць у хованкі — хто лепей схаваецца, той і выйграе.

Спачатку схаваўся Данілка. Ён, мабыць, спадзяваўся, што Кешка яго не знойдзе. Але Кешка знайшоў яго хвілін праз дваццаць. Настала Кешкава чарга хавацца. Пабег ён у часоўню, дзе ў сцяне была трэшчына ці, можа, які лаз. Данілка ніколі не здагадаецца, дзе ён схаваўся.

Залез Кешка ў гэтую трэшчыну, чакае, калі Данілка пачне шукаць. Ад нечага рабіць пачаў мацаць вакол сябе рукой. Намацаў нейкі рычаг, штурхнуў ад сябе, нешта грукнула, ляснула, і Кешка паляцеў потырч у прорву.

Вось табе і схаваўся!..

Ачнуўся ён ад холаду, які праняў яго да самых касцей. Навокал панавала цемра, хоць выкалі вока. Паварушыў Кешка адной рукой — цэлая. Другой — таксама. І ногі не паламаны. Памацаў рукой — знайшоў ліхтарык. Вясялей стала, хоць весяліцца не было ад чаго. Штаны парваў, кашулю таксама. Пападзе ад бабулі. І нікому не паскардзішся, бо вінаваты. Але і гэта было не самае горшае. Кешка ніяк не мог даўмецца, дзе ён? Проста перад ім была каменная сцяна з нішай, у якой стаяў драўляны чалавек, мабыць, святы, і злосна пазіраў на Кешку. Ззаду Кешкі таксама была сцяна, па якой вілася лесвіца-вітушка. Лесвіца ўпіралася ў каменную столь. А направа і налева ад Кешкі ляжаў калідор. Кешка пасвяціў ліхтарыкам спачатку ў адзін бок, потым у другі. Белы промнік ліхтарыка праглынула непраглядная цемра.

Калі куды-небудзь падаеш, дык, вядома ж, не ўгору, а ўніз. Падумаўшы гэтак, Кешка палез па лесвіцы. Павінен жа быць у столі нейкі сакрэтны рычаг, або лаз, праз які можна зноў трапіць у часоўню.

Лесвіца ўпіралася ў столь, але колькі Кешка ні шукаў тайных лазаў, іх не было. Пастка! У падзямелле трапіў, а назад ходу няма.

Тут можна было звар'яцець.

Ды Кешка не спалохаўся, не разгубіўся.

Трэба па калідоры пайсці. Толькі ў які бок падацца? Зрэшты, ці не ўсё роўна? Тут, відаць, як у казцы: направа пойдзеш — ад мяча загінеш, налева пойдзеш — жывы не вернешся.

Кешка пайшоў налева.

Калідор некалькі разоў крута паварочваў то ў адзін, то ў другі бок, пакуль не вывеў у вялікі круглы пакой з цяжкай столлю, з бэлек якой звісалі нейкія дзіўныя і жудасныя прылады. У цагляныя сцены былі ўмураваны жалезныя кольцы, якія даўно паржавелі, тоўстыя ланцугі, а пасярод пакоя стаяў на трынозе чорны кацёл.

Кешка здагадаўся, што некалі тут катавалі людзей. Адсюль яны, бадай, ужо ніколі не выходзілі на божы свет. Ён аж здрыгануўся ад сваёй здагадкі і хутчэй пайшоў назад.

Што чакае яго направа ад лесвіцы-вітушкі?

Направа калідор, здавалася, цягнецца бясконца. Але не гэта палохала Кешку, а мёртвая цішыня. Яна была жудасная. Нават уласныя крокі недзе прападалі, быццам Кешка ішоў па ватнай падлозе. Дзе-нідзе са сцен прабівалася вада. Часам яна капала проста са столі, але зноў жа бязгучна.

Кешка колькі разоў хацеў павярнуць назад. Але і там не было ратунку, каб выбрацца з гэтай жахлівай падземнай пасткі. І Кешка ішоў і ішоў наперад.

Нарэшце промнік ліхтарыка ўпёрся ў драўляную сцяну. Яна перагароджвала калідор.

Вось табе і маеш! І гэты калідор прывёў у нікуды. Хоць плач, а яшчэ лепш — кладзіся на падлогу і памірай. Зрэшты, памерці ніколі не позна. Трэба перш за ўсё агледзець драўляную сцяну, што паўстала на шляху перашкодай. Можа, у ёй якая загадка схавана.

Кешка ішоў, асцярожна намацваючы нагамі падлогу. І добра, што лішне не рызыкаваў. Падлога раптам абарвалася перад нейкай прорвай. Кешка нават адхіснуўся, так нечакана кончылася падлога. Пасвяціў ліхтарыкам — вада. Чорныя дубовыя плашкі хаваліся пад ёю, як хаваюцца вянцы калодзежнага зруба пад вадой. Глянуў Кешка ўверх — у недасяжнай вышыні сінеў кавалачак неба. Сапраўды, калодзеж нейкі. Прыгледзеўся лепей, аж па плашках зруба віецца ўгору лесвіца.

Ёсць усё-такі выйсце з падзямелля!..

Кешка ступіў нагой на прыступку лесвіцы — здаецца,

вытрымае. Палез угору, кожны раз уважліва прыглядаючыся да прыступак, каб не натрапілася гнілая — паляціш, чаго добрага, у ваду, тады ўжо не выбрацца адсюль.

Доўга выбіраўся Кешка з калодзежа, а калі выбраўся, дык здзівіўся — калодзеж аказаўся тым, што лічылася магілай Змея Гарыныча.

Можа, і цяпер гараць Змеевы вочы? Зірнуў — гарапь.

Тут і зразумеў Кешка, што ў вадзе калодзежа адбіваюцца дзве зоркі, а сам калодзеж — патаемнае выйсце з манастыра.

Пра сваё адкрыццё Кешка не сказаў нават Данілку. Ён яшчэ раз прарабіў шлях ад часоўні да выхаду з калодзежа ў лесе. Усю механіку спасціг. І не было яму цяпер ніякіх цяжкасцей пранікаць у манастыр і выходзіць з яго праз калодзеж, які лічыўся магілай Змея.

Во як збіраўся Кешка вызваліць палонных байцоў Чырвонай Арміі, якіх фашысты трымалі ў кармеліцкім манастыры.

Хай фашысты стаяць на сваіх вышках з кулямётамі ды аўтаматамі. Хопяцца, а ў палоне ўжо нікога няма. Як скрозь зямлю праваліліся. Дудкі яны здагадаюцца, як Кешка іх з манастыра вывеў.

## 3

Калі хто падумае, што Кешку было дужа проста спускацца ў калодзеж, што кожны на ягоным месцы змог бы гэта зрабіць, што не было тут ніякай адвагі, той няйначай хвалько.

Добра так думаць, калі няма вайны і няма вялікай патрэбы спускацца ў той, Змееў, калодзеж. Але ў кожнага затрэсліся б паджылкі, каб давялося прайсці небяспечны шлях, які давялося адолець Кешку.

У Кешкі таксама дрыжэлі паджылкі. Што праўда, то праўда. Ён гэтага і не хаваў. Бо Кешка ніколі не быў хвальком.

Спусціўшыся па калодзежным зрубе ў падземны калідор, Кешка запаліў ліхтарык і пайшоў па ім. Цяпер дык калідор аказаўся зусім кароткі. Вось і лесвіца-вітушка. Кешка падняўся па ёй да самай столі. Знайшоў пад прыступкай невялікую ручку, пацягнуў на сябе. Паміж прыступак утварылася пустата. Кешка засунуў руку, узяўся за рычаг, з сілай пацягнуў — над галавой адкрыўся даволі вялікі люк. Лезь, Кешка, у яго, а з яго ў часоўню.

Спачатку Кешка прасунуў галаву, паглядзеў уважліва — у часоўні нікога не было.

Кешка вылез з падзямелля. На ўсякі выпадак люк не стаў зачыняць. Калі што якое, дык шмыгнуць у яго прасцей простага.

Асцярожна ступаючы, Кешка падышоў да дзвярэй, выглянуў на двор. І на двары нікога. Хіба ў царкве пахаваліся палонныя?

Цяпер трэба хуценька заскочыць за вугал часоўні. Адтуль перабегчы да царквы. Заскочыў Кешка за вугал і... аслупянеў. Ля сцяны ўпокат ляжалі мёртвыя.

Кешку апанаваў жах. Аж валасы на галаве сталі дыбам. Ён, не помнячы сябе, кінуўся ў царкву. Забег і адступіў назад. Уся царкоўная падлога заслана мёртвымі. Яго ахапіла паніка. Ён не ведаў, куды кінуцца, дзе схавацца ад гэтай жуды. Хіба назад, у часоўню? Ды раптам пачуў чужую гаворку і рогат. Смех найбольш уразіў Кешку. Хто можа смяяцца, калі ўсюды мёртвыя людзі?

Ад манастырскіх варот, па галоўнай сцежцы, сюды, да царквы, ішлі фашысты з чорнымі бітонамі за плячамі і доўгімі хобатамі чырвоных жалезных трубак. Яны ішлі, размаўлялі і рагаталі.

Кешка кінуўся да часоўні.

Фашысты падышлі да царквы, накіравалі жалезныя хобаты ў вокны і дзверы царквы. З трубак ударыла полымя, аж стала плавіцца цэгла. А ўся царква ператварылася ў адзін вялікі касцёр.

Цяпер заставалася адно — як найхутчэй уцякаць адсюль. Кешка азірнуўся. Абапіраючыся рукамі аб сцяну часоўні, да яго ішоў скрываўлены чалавек у вайсковай форме. Кешку здалося, што чалавек той мёртвы. Ягоныя вочы былі заплюшчаны, а сам ён быў белы-белы.

Кешка так і прыстыў да зямлі. Ногі адняліся.

— Уцякай, хлопча, бо цябе спаляць агнямётамі,— сказаў чалавек, і Кешку адразу адпусціў страх.

Цяпер Кешка разгледзеў, што перад ім стаіць няйначай чырвоны камандзір, немалады ўжо, у камсастаўскіх галіфэ і парванай гімнасцёрцы, надзетай на голае цела.

— Дзядзечка,— усхвалявана загаварыў Кешка,— вы — камандзір?

— Адкамандаваў... Бяжы, бяжы, хлопча,— сказаў ён.

— Разам бяжым... У часоўню,— прапанаваў Кешка.

— Якая розніца, дзе паміраць, у часоўні ці пад чыстым небам,— асуджана адказаў той.

9 Зак. 1950

Кешка, нядоўга думаючы, схапіў яго за руку, падставіў сваё плячо, каб паранены мог абаперціся на яго. Той, мабыць, адчуў сілу Кешкавай волі, не стаў упарціцца.

Прайсці трэба было крокаў дзесяць. І яны неяк дакавылялі да дзвярэй. Але тут іх заўважылі фашысты. Аўтаматная чарга прайшлася над іх галовамі, толькі цэгла пасыпалася. Яны паспелі заскочыць у часоўню.

— Дзядзечка, хутчэй забірайцеся ў гэты лаз,— падпіхнуў Кешка параненага камандзіра.

Ледзьве Кешка паспеў памагчы чалавеку схавацца ў лаз, як на парозе часоўні ўзнік агнямётчык. На шчасце, ён спачатку азірнуўся направа, каб угледзець Кешку і спапяліць, а Кешка быў злева. Кешка хуценька шмыгнуў у лаз і з усяе сілы рвануў рычаг.

## 4

Кешка баяўся запаліць ліхтарык — а раптам фашысты неяк убачаць яго святло,— таму яны спускаліся па лесвіцы-вітушцы ў чорнай, непрагляднай цемрадзі. І абодва маўчалі.

Нарэшце Кешка намацаў нагой каменную падлогу калідора, узрадаваўся, быццам настаў канец іхняму падарожжу.

— Хай цяпер, гады, шукаюць ветру ў полі,— весела загаварыў ён.

— Дзе мы? — спытаў палонны.— І як мы выберамся з гэтага пекла?

— А вы не хвалюйцеся,— супакоіў яго Кешка.— Мы ў падзямеллі... Адсюль вядзе калідор да Змеевага калодзежа. А калодзеж той у лесе.

Палонны раптам адпусціў Кешкаву руку, сеў.

— Як цябе завуць, хлопчык? — спытаўся ён.

— Кешка я... Інакенцій Лістападзенка,— адказаў Кешка.

— А мяне Кардзі... Сяргей Іванавіч Кардзі... Ну, вось і пазнаёміліся. А цяпер паслухай, што я табе скажу, Інакенцій Лістападзенка. Дзякуй табе, што выратаваў мяне ад фашысцкіх агнямётаў... Але мне адсюль не выбрацца...

— Не, не! — закрычаў Кешка.— Я не кіну вас...

— Дзівак ты, Інакенцій Лістападзенка. У мяне сіл і на два крокі не засталося,— самотна сказаў Сяргей Іванавіч.— Усё, брат, фініта!..

Што азначае слова «фініта», Кешка не ведаў, але зразумеў — кепскае слова, якое няйначай азначае канец.

— І не думайце пра гэтую фініту,— рашуча запратэставаў Кешка.— Трэба ўсе сілы сабраць, да апошняй кропелькі і да апошняй хвіліны змагацца. А калі давядзецца падаць, дык і то галавой наперад, як казаў наш камдыў таварыш Супрун. Нам і ісці — глупства. Кіламетр, не болей...

— Кіламетр,— як рэха адгукнуўся Сяргей Іванавіч і замоўк.

Кешка запаліў ліхтарык. Сяргей Іванавіч ляжаў на прыступках. Ягоны твар стаў аж шэры, на ім у промнях ліхтарыка блішчэлі кроплі поту. Кешка падалом кашулі выцер пот з твару.

— Дзядзечка... Сяргей Іванавіч,— узмаліўся ён,— што мне рабіць? Як памагчы вам?

— А ты ўжо дапамог,— сказаў Сяргей Іванавіч,— бо нагадаў мне, хто мы такія з табой. А мы — савецкія... Таму не маем права паддавацца слабасці і бязвольнасці, а як тая спружына заўсёды павінны быць гатовы выпрастацца... Я толькі адпачну, Кеша...

Кешка прысеў поруч.

— Дзядзечка,— звярнуўся да Сяргея Іванавіча Кешка,— а якое ў вас званне: маёр ці палкоўнік?

— Званне ў мяне, Кешка, самае генеральскае, хоць я, можа, і не сігануў далей палкоўніка,— ажывіўся Сяргей Іванавіч.— Так некалі сказаў мне сам Клімянцій Яфрэмавіч, таварыш Варашылаў.

Кешка аж вушам сваім не паверыў.

— Вы бачылі Варашылава?..

— Як цябе бачу,— з гордасцю адказаў Сяргей Іванавіч.— Падышоў ён да мяне, паціснуў руку і кажа: «Даўно я чуў пра вас, а бачыць не даводзілася. Па майму разуменню, дык вы няйначай генерал і званне ў вас генеральскае». Я тады ў Сочы, курорт такі ёсць, працаваў, а ён адпачываў там. Эх, Кешка, Кешка, якое жыццё было!.. Колькі радасці людзям прыносіла!.. А мы часам не цанілі... А цаніць яго трэба, бо яно наша, савецкае жыццё, самае прыгожае, самае лепшае... Давай руку, Кеша, і пойдзем... Пойдзем, Кеша, усім чарцям на злосць...

Сяргей Іванавіч працягнуў руку. Кешка памог яму падняцца. Сяргей Іванавіч абапёрся на Кешкава плячо. Яны ступілі адзін крок, другі, трэці... Пайшлі памалу.

Той няшчасны кіламетр падземнага калідора яны адо-

лелі гадзіны за тры. Пройдуць крокаў дваццаць і доўга адпачываюць. Потым зноў ідуць, ледзьве перастаўляючы ногі. Але ж ідуць, не стаяць на месцы.

Яшчэ больш гадзіны паўзлі яны па стромкай лесвіцы калодзежа. Ну, а потым трэба было абыходзіць мястэчка, каб не трапіць злыдням-фашыстам на вочы.

## 5

Было вельмі позна, шчарбаты месяц ужо вылез на неба і сеяў адтуль цьмянае святло на прыціхлую зямлю, калі яны з Сяргеем Іванавічам дабраліся нарэшце да хаты на краі могілак.

Пакуль выбіраліся з падзямелля, пакуль абыходзілі мястэчка, у Кешкі быў адзін клопат — давесці Сяргея Іванавіча дадому. Цяпер Кешку апанавалі другі — як паказацца на вочы бабулі.

Хоць бабуля Алімпіяда Захараўна і не была вельмі строгая, Кешка яе пабойваўся. Асабліва тады, калі недзе бавіўся, а бабуля яго чакала і хвалявалася. Тады яна магла не толькі насварыцца, а і агрэць дубцом, які нейкім чынам заўсёды аказваўся ў яе пад рукой. Таму Кешка, калі ведаў сваю віну, падыходзіў да бабулі толькі на адлегласць гэтага дубца.

Сёння Кешка адчуваў асаблівую віну. Ён адпрасіўся на тры гадзіны, а затрымаўся да позняй ночы. Пакуль паспееш слова сказаць у сваё апраўданне, дык атрымаеш дубца. Ды ці зразумее бабуля, якая толькі і ведае, што корпацца ў агародзе, высакародны Кешкаў учынак? Яшчэ прагоніць выратаванага камандзіра...

Кешка спадзяваўся прабрацца ціхенька ў хату, прыхапіць хлеба, агуркоў, накарміць Сяргея Іванавіча, а тады ўжо весці ў царкву, што на могілках. Добра было б, каб бабуля моцна спала...

Сяргея Іванавіча Кешка паклаў пад капешку сена. Ціхенька пайшоў дахаты. Хацеў зайсці ў хату праз сені, ды ў час прыгадаў, што дзверы ў сенях верашчаць так моцна, што нават у Веляшковічах чутно. Самае лепшае залезці ў хату праз акно.

Яно адчынілася ціха, нібы было ў змове з Кешкам. Прыслухаўся — цішыня. Спіць бабуля. Кешка перакінуў адну нагу цераз падаконнік, другую. Пад столлю загулі патрывожаныя мухі і замоўклі, мусіць, здагадаліся, што свой лезе.

На дыбачках Кешка дайшоў да парога, дзе ў шафцы ляжаў хлеб. І шафка адчынілася без адзінага гуку. Кешка ўзяў бохан хлеба, разламаў яго напалам.

Нехта моцна ўхапіў яго за вуха і крутнуў так, нібы хацеў вырваць з коранем.

— Дзе ж ты, галубок, бадзяешся? — сказаў нехта бабуліным голасам.

Так і ёсць — папалася жучка ў бабчыну ручку!..

— Бабулечка, я больш не буду,— пачаў прасіцца Кешка.

Бабуля яшчэ раз крутнула Кешкава вуха, але ўжо не так балюча. Можа, вуха прызвычаілася, а можа, у бабулі на сэрцы адлегла — усё ж не прапаў унук.

— Во што, галубок, цяпер ты ўсю вайну ў хаце праседзіш, далей двара носа не высунеш,— паабяцала бабуля.— Што ж будзе, калі я цябе не ўберагу, што твае бацькі скажуць, як з вайны вернуцца? А цяпер садзіся ды вячэрай... Бачыш, як прагаладаўся, вунь колькі хлеба адламаў...

— Дык я не сабе,— нечакана прызнаўся Кешка.

— Тады вядзі і агальцоў сваіх у хату,— загадала бабуля.

— Там не агальцы, а палкоўнік паранены,— сказаў Кешка.

— А божачкі! — пляснула рукамі бабуля.— Які палкоўнік? Адкуль?

— З лагера манастырскага... Там усіх палонных фашысты пастралялі, адзін ён застаўся... Галодны зусім...

— Што ж ты дасюль маўчаў? — накінулася на Кешку бабуля.— Дзе ён? Ах ты, горачка наша...

Бабуля выбегла на двор. Кешка за ёй.

Сяргей Іванавіч ляжаў нерухома. Нават Кешка спалохаўся — ці не памёр? Бабуля стала на калені, прыклала вуха да грудзей.

— Знепрытомнеў ён... Бяры за ногі, панясём,— загадала яна.

Сяргея Іванавіча паклалі на ложак. Ён так і не ачуняў.

Бабуля завесіла вокны, запаліла лямпу. Доўга глядзела на непрытомнага чалавека.

— Добра, што ты яго хлебам не накарміў,— сказала яна.— Тады ўжо не было б ратунку. Галоднаму гэта як атрута.

Бабуля расклала на прыпечку агонь, паставіла на яго чайнік. Сама пайшла ў сені. Адтуль прынесла пучкі траў. Калі вада закіпела, паклала травы ў чайнік.

— Памажы мне,— папрасіла яна Кешку.— Трэба раны абмыць, перавязаць, а потым адварам напаіць...

Сяргей Іванавіч быў паранены дзвюма кулямі, на шчасце, не дужа цяжка. Але крыві страціў шмат.

Бабуля абмыла раны, перавязала палатном. Потым напаіла Сяргея Іванавіча адварам.

— Выжыве,— сказала яна.— Моцнага здароўя чалавек. Іншы на ягоным месцы даўно аддаў бы богу душу... Цяперака яму трэба добра выспацца. І ты кладзіся, бо позна ўжо...

Кешка раздзеўся, нырнуў у ложак ды раптам як закрычыць.

— Чаго ты? — здзівілася бабуля.

— Там нехта ляжыць... Цёплы,— заікаючыся ад страху, сказаў Кешка.

— То Лёўка Гутман,— адказала бабуля.— Ён сёння таксама з-пад расстрэлу ўцёк...

## Максімка

### 1

Сярод веляшковіцкіх хлапчукоў Максімка быў самы прыкладны вучань. Ён ніколі не меў заўваг ад настаўнікаў і вучыўся добра. Але да круглага выдатніка недацягваў. У Максімкавым табелі заўсёды красаваліся дзве тройкі: адна — па спевах, другая — па фізкультуры. Ды ў тым ягонай віны не было.

Як ты заспяваеш, калі ў цябе голас, нібы ў маладога пеўніка, які ўпершыню спрабуе закукарэкаць — ломкі, пісклявы, хрыпаты, аж самому брыдка. На ўроках спеваў Максімка толькі рабіў выгляд, што спявае — шырока разяўляў рот. Ды ашукаць такім чынам настаўніка спеваў Наркіса Сіланцьевіча было немагчыма. Наркіс Сіланцьевіч раптам стукаў дырыжорскай палачкай па стале, а калі клас змаўкаў, звяртаўся да вучняў:

— А цяпер, дзеці, паслухаем, як спявае Савік... Максім, праспявай, калі ласка, ноту «рэ».

Максімка спрабаваў выцягнуць гэтую праклятую ноту «рэ». Выходзіла нешта несусветна фальшывае, казлінае, аж Наркіс Сіланцьевіч заціскаў вушы далонямі і ставіў у класны журнал маленькую тройку, нібы хацеў падкрэс-

ліць гэтым, што здольнасці да спеваў у Максімкі вось такія ж мізэрныя, як і гэтая тройка.

Наркіс Сіланцьевіч, можа, закаціў бы Максімку і двойку, ды не хацеў засмучаць Максімкаву маці Хрысціну Кліменцьеўну.

Максімкава маці працавала настаўніцай у той жа школе, дзе вучыўся Максімка і якую яна некалі скончыла сама ды засталася працаваць у ёй. Хрысціну Кліменцьеўну вельмі засмучалі сынавы адзнакі па спевах. А што возьмеш з безгалосага? Яму хоць сто двоек закаці, спяваць не навучыш...

Не лепей у Максімкі было і з фізкультурай. Па-першае, Максімка ніяк не мог навучыцца хадзіць у страі. Настаўнік фізкультуры Даніла Іванавіч, бывала, камандуе: левай, левай, левай — і ўсе пад ягоную каманду ідуць левай нагой, а Максімка, хоць плач,— правай... Даніла Іванавіч тады церабіў чорны вус, грозна пытаў:

— Хто там ступае правай?..

Вучні адказвалі хорам:

— Савік ступае правай... Савік ступае правай...

Па-другое, у Максімкі не выходзілі фізічныя практыкаванні. Дзяўчынкі і тыя выконвалі іх лепей за Максімку. Ці то сіл у яго не хапала, ці то спрыту, а можа, рост замінаў. А Данілу Іванавічу да гэтага ніякай справы. Ён заўсёды ставіў Максімку тлустую, вялізную тройку, каб і сляпы бачыў, які Максімка недарэка.

Усё тое было да вайны. Цяпер Максімкавы табелі з тройкамі па спевах і фізкультуры ляжалі на дне матчынага куфра. Тата, як пайшоў на вайну, так дасюль і не адгукнуўся. А як ён адгукнецца, калі Максімка з мамай і сёстрамі засталіся ў варожым тыле, а тата па той бок фронту.

Цяпер у доме за гаспадара Максімка. Гаспадарыць, вядома, мама, але адказнасць ляжыць на Максімку. Тата, калі адыходзіў у Чырвоную Армію, так і сказаў:

— Ну што, брат Максімка, ты цяпер адзін у хаце мужчына і на табе ляжыць уся адказнасць за маму і сясцёр...

Адказнасць сапраўды ляжала, і вялікая, і не толькі за маму і сясцёр, але яшчэ і за карову, якой да вайны не было і якая паявілася цяпер. Навошта ім да вайны была тая карова, калі малако, масла, тварог можна было купіць у сельпоўскай краме або на калгасным рынку. Ды і не было каму глядзець за той каровай. Мама з татам увесь дзень на працы, а яны, дзеці — у школе.

Максімкаў тата быў не абы-хто, а доктар, загадчык Веляшковіцкай амбулаторыі. Да яго прыходзілі лячыцца не толькі веляшкоўцы. Ды і сам ён ездзіў па вёсках, наведваў хворых. Такія паездкі называліся візітамі.

Для візітаў у таты быў казённы конь Гуля, брычка на рысорах для лета і вазок для зімы. Раз у тыдзень тата запрагаў Гулю, браў з сабой скураны партфель-баул, у якім захоўвалася markeroзнае медыцынскае начынне і лякарствы, і ехаў на візіты.

Каб не конь Гуля і не брычка, дык дужа цяжка дасталося б Максімкавай маме Хрысціне Кліменцьеўне, калі ўсе веляшкоўцы кінуліся ў адступленне. Ды і потым, калі вярталіся з яго.

У адступленні мама і абзавялася каровай. А надарылася гэта так.

Пад вечар, на другі дзень, што яны хаваліся ў лесе, там паявіліся рэшткі вайсковай часці, якой камандаваў палітрук Кубасаў. Ён і прынёс горкую вестку: галоўныя сілы фашыстаў абышлі Веляшковічы з поўдня і поўначы, далёка прасунуліся на ўсход.

Максімкава мама вельмі спалохалася, заплакала. Яна ўсё яшчэ спадзявалася, што фашыстаў спыняць і вайна хутка скончыцца, а тады з арміі вернецца тата і ўсё наладзіцца. Цяпер мама не ведала, што рабіць. Вяртацца дамоў яна баялася, а таму стала прасіць палітрука Кубасава, каб узяў яе з сабой за лінію фронту.

— Я і сам, Хрысціна Кліменцьеўна, настаўнік,— паспачуваў ёй палітрук.— Толькі ў вайну стаў вайскоўцам, а таму вельмі вас разумею. На жаль, узяць з сабой за лінію фронту не магу. Мы пойдзем няходжанымі сцежкамі, будзем прабівацца да сваіх з баямі, а ў вас трое дзяцей... Так што раю вяртацца ў Веляшковічы...

— На смерць вяртацца? — самотна спытала мама.— Калі не заб'юць фашысты, дык усё роўна загінем ад голаду, бо ў нас прыпасаў і на тры дні няма.

Кубасаў горача запярэчыў:

— Не трэба так змрочна глядзець у будучыню, Хрысціна Кліменцьеўна. Свет не без добрых людзей. Неяк перачакаеце, перажывяце, а там і мы хутка вернемся. А пакуль, каб вам было нешта есці, я дам крыху мукі.

Мама не хацела браць тую муку, але Кубасаў не адступіў. Ён паклікаў салдат, і тыя пагрузілі муку на брычку. Якраз у гэты час да іх пад'ехала трое коннікаў. Адзін — мужчына, з ордэнам Чырвонага Сцяга на фрэнчы,

а дзве — жанчыны. Мужчына спрытна саскочыў з каня, па-вайсковаму казырнуў.

— Дазвольце звярнуцца? — спытаў ён дазволу ў палітрука.

— А вы хто будзеце?

— Старшыня калгаса Краўчук,— адказаў мужчына.— Гонім калгасную жывёлу ў савецкі тыл. Сёння мае пагапятыя праскакалі на конях кіламетраў пятнаццаць на ўсход, і на поўнач, і на поўдзень — усюды фашысты... Вось я і хачу запытацца ў вас, як прадстаўніка Чырвонай Арміі, які нам будзе загад на далейшае?..

Палітрук моцна задумаўся. Відаць, цяжкую задачу задаў яму старшыня калгаса Краўчук.

— Вось што, таварыш Краўчук,— падумаўшы, адказаў палітрук.— Фашысты сапраўды прасунуліся наперад, так што мы знаходзімся ўжо на акупіраванай зямлі. За лінію фронту вам не прабіцца. Трэба вяртацца дамоў.

— Дамоў?.. Да фашыстаў?.. Ды як вы маглі такое сказаць? Каб я жывёлу фашыстам аддаў?.. Нізавошта!..— дужа сярдзіта закрычаў старшыня калгаса Краўчук.— Хіба вы пра загад не чулі?.. Нічога не пакідаць ворагу... Калі ўжо нявыкрутка будзе, дык я ўсю жывёлу знішчу і разам з пагапятымі пайду з вамі за лінію фронту...

Краўчук гаварыў з такой зацятасцю, што здавалася, з ягоных вачэй іскры ляцяць.

— Вы, таварыш Краўчук, няправільна ацэньваеце абстаноўку,— запярэчыў палітрук.— Вы, таварыш Краўчук, у загадзе пачулі толькі тое, што трэба знішчаць каштоўнасці, якія могуць памагчы фашыстам у вайне, а на галоўнае не звярнулі ўвагу. Загад жа гэты скіраваны на стварэнне партызанскіх атрадаў у тыле ворага. Дык я хачу спытаць вас — патрэбны партызанам хлеб, мяса? Ці яны, можа, святым духам жыць будуць?..

— Партызанам я хоць зараз гатоў аддаць жывёлу,— закрычаў Краўчук.— Але дзе яны?..

— Таго і я не ведаю,— усміхнуўся палітрук.— А вы жывёлу раздайце людзям. Хай пакуль карыстаюцца. Многія на першым часе нічога не маюць, хоць з голаду памірай, як і вось гэтая настаўніца з Веляшковіч. Дайце ёй карову, парсючка. У яе трое дзяцей, а муж на фронце... А як будзе патрэба, яна карову партызанам аддасць.

У тую ноч Максімкава мама вярнулася дамоў у Веляшковічы. У брычцы ляжаў ладны падсвінак, два мяхі мукі, а за брычкай тупала карова Зорка. Цяпер Максімкавай

маме не страшны быў голад. Абы толькі фашысты да іх саміх не чапляліся.

Пакуль што гэтае ліха абмінала Савікаву хату.

## 2

Хтосьці асцярожна пакратаў Максімку за нос. Ну, вядома, хто — мама! Толькі яна ўмее вось так пяшчотна будзіць Максімку. Ганначка і Алёнка — Максімкавы старэйшыя сёстры — з ім абыходзяцца без аніякага далікацтва. Калі ён не дужа хутка прачынаецца, дык могуць коўдру сцягнуць, а то і кухталёў надаваць.

Максімка расплюшчыў адно вока. Ён заўсёды так рабіў, калі яго будзіла мама. Гэта ў іх такая гульня была: Максімка адно вока расплюшчыць, а мама ўсміхаецца і пытае: «Чыё гэта вочка нясмела выглядае?» — «Максімкава»,— адказвае Максімка. «А дзе другое?» — «Спіць»,— адказвае Максімка.

Дык вось, расплюшчыў Максімка адно вока. Што за дзіва? Ля ягонага ложка стаяла зусім не мама, а... Гусця. На ёй было сіняе ў белы гарошак плацце і пышны бант у валасах.

Максімку аж няёмка зрабілася: ну, што пра яго падумае Гусця? Вядома, што Максімка соня. Сарамата! Сонца вунь са сцяны на падлогу злезла, а ён у ложку песціцца.

— Ты чаго прыперлася? — знарок злосна спытаў Максімка, каб хоць неяк прыхаваць сваю збянтэжанасць.

Іншым разам Гусця абавязкова выказала б Максімку абурэнне за ягоную грубасць («Як табе не сорамна? Культурны хлопчык, а гаворыш, як хуліган!»), а сёння нібы і не заўважыла яе.

— Мая мачаха зусім не мачаха,— сказала Гусця.

— А хто яна? — здзівіўся Максімка.

— Яна — шпіёнка...

Максімка адчуў, як яму перахапіла дыханне, бо ён вельмі спалохаўся за Гусцю. Мала таго, што Гусцін тата перакінуўся да фашыстаў, прывёў дамоў злую мачаху, дык тая яшчэ аказалася шпіёнкай!..

— Можа, табе здалося? — спытаў Максімка.— Хто і за кім паслаў яе шпіёніць?

— За намі,— адказала Гусця.

— За намі? — зноў спалохаўся Максімка.

— Я сама чула, як яна казала тату, што знойдзе тых падпольшчыкаў, якія стралялі па штабе, укралі Грома,

а сёння ноччу расклеілі лістоўкі і вывесілі на званіцы чырвоны сцяг... Значыць, абяцала знайсці нас...

— Так і сказала?

— Так і сказала...

— Адвярніся, мне трэба адзецца,— сказаў Максімка.— Зараз пойдзем да Данілкі, і ты яму ўсё раскажаш...

Максімка адзяваўся паспешліва. Цяпер ён ні кропелькі не сумняваўся, што Гусціна мачаха шпіёнка. Данілка нешта прыдумае. Данілка — галава. Можа, неадкладна трэба ўцякаць у мястэчка, а можа, хавацца ў падполле. Вось будзе здорава, калі яны схаваюцца ў падполле. Ніхто іх тады не знойдзе!

— Паслухай, Гусця, а пра якія лістоўкі ты гаварыла? — раптам прыгадаў ён Гусціны словы наконт чырвонага сцяга на званіцы і расклееных лістовак.

— Пра тыя, што вы ўчатырох сёння ноччу расклейвалі,— усміхнулася Гусця.— Думаеш, не ведаю, чаму ты заспаў? Таму, што лістоўкі расклейваў.

— Гусця, я ноччу спаў,— прызнаўся Максімка.— Я лістоўкі не расклейваў...

— Не хлусі!.. Табе загадалі нічога не гаварыць мне, бо мой тата служыць фашыстам... Але я ніколі, ніколі не выдам вашай тайны, нават калі мяне будуць катаваць...

— Я табе веру,— сказаў Максімка.— Але, каб мяне сорак ведзьмаў схапілі, калі я табе схлусіў...

Максімка хацеў яшчэ прысягнуць галавой, як раптам убачыў на стале згорнутую ў чатыры столкі паперку. Няйначай запіску пакінула мама!..

Узяў Максімка паперку — так і ёсць, запіска...

«Максімка! Сыночак! Мы з Ганначкай пайшлі жыта жаць. Яго нам выдзелілі ў калгасе. Алёнка пагнала карову пасвіць. Як прачнешся, хуценька паснедай і падмяні Алёнку. Добранька, сынку?»

Максімка прачытаў запіску і вельмі засмуціўся.

Ну, чаму дарослыя людзі нічога не разумеюць? Ім абы перашкаджаць дзецям рабіць іхнія вельмі важныя справы. Не паспееш задумаць нешта, як мама тут жа знаходзіць табе абрыдлую працу. Дзе тут справядлівасць? Што будзе рабіць Алёнка, калі Максімка пойдзе пасвіць карову? Нічога важнага. А Максімку, можа, сёння давядзецца хавацца ў падполлі, ісці ў партызаны. Ну, хто возьме Алёнку ў партызаны, калі яна стрэлаў баіцца; хто возьме яе ў падполле, калі яна мышэй баіцца?.. Жаб і то баіцца... Хай і пасе карову...

Падумаўшы так, Максімка рашуча сказаў Гусці: «Пайшлі».

Сказаць яно сказаў, але сумленне тут жа загаварыла: нядобра, Максімка, маму не слухаць. А што табе наказваў тата, як у Чырвоную Армію адыходзіў?.. Слухаць маму. Ну, во!.. А ты?.. Сорамна, браце!..

«Але ж гэта апошні раз. А надалей я заўсёды буду маму слухаць» — прыняў Максімка такое рашэнне і з лёгкім сэрцам выбег на двор.

Максімка двойчы свіснуў — умоўны знак, каб Данілка ведаў, што прыйшоў Максімка і што ў яго важная справа. Данілка не абазваўся. Але ж дзверы ў сені былі адчынены. Значыць, Данілка дома. Тады чаму не выходзіць? Няйначай робіць выгляд, што не мае патрэбы.

— Я зараз. Пачакай мяне тут,— папрасіў Максімка Гусцю.

Гусця села пад плот, а Максімка пабег у хату. Зараз ён як завые ваўком!.. Во спалохаецца Данілка!

## 3

Максімка адчыніў дзверы, хацеў завыць па-ваўчынаму, але язык нібы здранцвеў. І не дзіва. На покуце за сталом сядзеў дзед Нічыпар, а насупраць яго Гусціна мачаха Антаніна Паўлаўна, шпіёнка!..

Абое, пачуўшы, як зарыпелі дзверы, нечага здрыгануліся, але тут жа і супакоіліся. А ў Максімкі сэрца ледзь не выскачыла ды, на шчасце, неяк затрымалася ў пятках.

— Што табе патрэбна, хлопчык? — спытаў дзед Нічыпар.— Данілка? Дык яго няма.

Максімка тым часам не спускаў вачэй з Гусцінай мачахі. Ну, проста як гіпнозам цягнула. Ён першы раз у жыцці бачыў жывую шпіёнку.

— А ты чый будзеш, ці не Савікаў? — раптам спытала Гусціна мачаха.— Ці не Хрысціны Кліменцьеўны сынок?..

Толькі гэтага і не хапала! Максімка, ні слова не кажучы, куляй вылецеў на двор. На ляту крыкнуў Гусці:

— Бяжым! — і метраў, можа, трыста часаў не азіраючыся. Звярнуўшы ў завулак, прыпыніўся, пачакаў Гусцю.— А ведаеш, хто ў Данілкі сядзеў? Ніколі не здагадаешся... Твая мачаха, во хто!

Навіна гэтая ўразіла і Гусцю.

Чаму Антаніна Паўлаўна апынулася ў Данілкавай хаце? Мусіць, высачыла Данілку. Але як яна здагадалася, што Данілка страляў з гарматы па штабе?.. Хіба дзед Нічыпар навёў на след? Усё можа быць. Вайна перайначыла людзей, і цяпер ужо цяжка здагадацца, хто свой, а хто чужы...

Максімка выслухаў Гусцю, сказаў:

— Гэта ты праўду кажаш, Гусця. Дарослых зусім нельга зразумець. Яны гавораць адно, а робяць другое, а нас вучаць быць праўдзівымі і сумленнымі...

Яны абое задумаліся. Крокаў колькі ішлі моўчкі.

— Я адразу здагадалася, што мачаха зусім не мачаха,— парушыла маўчанне Гусця.— Скажы, Максімка, твая мама гаварыла твайму тату «вы»?

— Не...

— А яшчэ скажы, твае тата з мамай жылі ў розных пакоях?..

— У адным,— адказаў Максімка.— А чаму ты пра гэта пытаешся?

— Бо мачаха кажа тату «вы», называе яго Іаган Карлавіч, і яны жывуць у розных пакоях...

— А можа, яны пасварыліся? — сказаў Максімка.

— Не, Максімка, не пасварыліся,— горача адказала Гусця.— Яны вельмі ветліва размаўляюць.

— Значыць, шпіёнка,— пагадзіўся Максімка.— Толькі хто яе паслаў шпіёніць?..

— Крэсендорф, во хто,— адказала Гусця.— Начальнік фашысцкай паліцыі. Я сама бачыла, як мачаха хадзіла ў паліцэйскае ўпраўленне. Напэўна, каб атрымаць ад Крэсендорфа загады...

Размаўляючы, Максімка з Гусцяй не заўважылі, як дайшлі да могілак.

Бабуля Ерафеіха сядзела на прызбе, вязала лекавыя травы ў пучкі. Імі бабуля лячыла ўсе хваробы, якія вядомы на белым свеце.

Максімка пакінуў Гусцю ля веснічак, а сам зайшоў у двор, павітаўся:

— Добры дзень, бабуля... А Кешка дома? — спытаў ён.

Бабуля перастала вязаць траву ў пучкі, спадылба глянула на Максімку, потым на Гусцю.

— Нямашака Кешкі,— сказала яна.

Вось незадача!..

— Можа, Данілка да вас прыходзіў? — спытаў Максімка.— Можа, вы ведаеце, куды яны пайшлі?

Ерафеіха прамоўчала, нібы не пачула Максімкавага пытання.

— Чыя ж гэта дзяўчынка будзе? — спытала яна ў Максімкі.— Ці не Іагана Карлавіча дачка?..

Максімка падзівіўся: і як дарослыя ўмеюць угадваць, у каго і хто бацькі?..

— Ага,— пацвердзіў ён.

— Слаўная дзяўчынка, слаўная,— пахваліла бабуля Ерафеіха Гусцю.— А Кешкі дома няма... Нікога дома няма...

— І Лёвы? — спытаўся Максімка.

— Якога Лёвы? — здзівілася бабуля Ерафеіха.— У нас з роду ніякага Лёвы не было...

Максімка аж рот разявіў ад нечаканасці. Няўжо бабуля забылася, як яны ўчора прыйшлі да яе пасля ўцёкаў з-пад канвою?

— Таго Лёвы, які ўцёк з-пад расстрэлу і якога ўчора ў вас пакінулі,— нагадаў Максімка.

Бабуля замахала рукамі.

— Перахрысціся, хлопча!.. Ці табе нешта прыснілася, ці, можа, трызніш?..

Максімка вушам сваім не мог паверыць.

— Гэта вы, бабуля, на ўсё забыліся. Мы з Данілкам учора пасля абеду прыходзілі да вас з Лёвам Гутманам. Вы нас абедам частавалі, а тут фашысты ў хату ўварваліся. Вы яшчэ ім яйкі давалі. Потым мы пайшлі, а вы Лёву пакінулі. Сказалі, што яму дужа небяспечна на вуліцы паказвацца...

Бабуля Ерафеіха задумалася. Максімка рашыў, што яна і праўда пра ўсё забылася. Максімкаў тата, бывала, казаў, што ёсць такая хвароба склероз, ад якой чалавек ўсё начыста забывае, што рабіў або казаў. Можа, бабуля Ерафеіха і захварэла на гэты склероз. Каб Максімкаў тата не быў на фронце, дык ён адразу вылечыў бы бабулю. Яму гэта раз плюнуць. Ён і не такія хваробы вылечваў. А цяпер давядзецца бабулі чакаць, калі Максімкаў тата вернецца з фронту.

— Слухаю цябе, хлопча, і дзіўлюся,— раптам загаварыла бабуля,— пра што ты гаворыш?.. Выдумляеш нешта, а Іагана Карлавіча дачушка бог ведае што можа падумаць. Мяне ж учора ўвесь дзень дома не было. Як жа ты мог да мяне прыходзіць і як я магла карміць цябе абедам, калі я таго абеду і не варыла. Так што ідзі, дзетка мая, дамоў, ды

няхай маці цябе ў ложак пакладзе, пакуль жар не пройдзе...

Бабуля падштурхнула Максімку ў спіну, і ён пайшоў, нічога не разумеючы.

— Думаеш, я маню? — пачаў ён апраўдвацца перад Гусцяй, калі яны адышліся ад могілак.— Каб мне з гэтага месца не сысці, калі маню. Усё чыста так і было, як я табе расказваў. Чаму тады бабуля кажа, што мы да яе ўчора не прыходзілі. Нехта ж з нас хлусіць? Або яна, або я...

— Паслухай, Максімка,— раптам спынілася Гусця,— а што, калі фашысты ўчора вярнуліся, схапілі Лёву, а бабулі загадалі маўчаць? А можа, яна сама выдала Лёву фашыстам!..

— Не, не! — запратэставаў Максімка.

— Але ж ты сам казаў, што дарослыя кажуць адно, а робяць другое,— нагадала Гусця.

Што мог сказаць Максімка!

## 4

— Пачакай, я маме раскажу,— прыгразіла Алёнка, калі Максімка нарэшце прыйшоў падмяніць яе, як і прасіла маці.— Дзе гэта ты швэндаешся?.. Чаму дома не сядзіш?.. Трэба ж, прыбягаю — хата наросхліст, а яго нідзе няма...

Алёнка грымнула Максімку ў плечы кулаком, сунула павадок у рукі — пасі, Максімка, карову і не ўздумай пярэчыць, бо Алёнка мала таго, што паскардзіцца маці, дык яшчэ адлупцуе як след. Мама, канечне, не стане сварыцца, але яна паглядзіць на Максімку такімі тужлівымі вачамі, што хоць памірай ад сораму. Максімка ўсё гатоў стрымаць ад Алёнкі, абы яна не скардзілася маме...

Стаў Максімка пасвіць карову, а сам усё пра Лёву думае. Дзе ён?.. Няўжо фашысты схапілі? Трэба ж такое сірочае шчасце: з-пад расстрэлу ўцёк, а ўратавацца не змог. Калі Лёва ў паліцыі, дык трэба ж нешта рабіць?.. Але за каровін повад трымаючыся хіба што зробіш? Хутчэй бы адвесці карову ў хлеў.

Максімка глянуў на неба. Для яго, як і для ўсіх мястэчковых хлапчукоў, сонца было самым дакладным гадзіннікам. А каб вызначыць, колькі зараз гадзін, асаблівай мудрасці не трэба. Найперш неабходна стаць тварам на ўсход. Сагнуць правую руку ў локці і прыўзняць яе на ўзровень вачэй так, каб кончык сярэдняга пальца прыхо-

дзіўся між бровах. Калі сонца паспела прайсці па небе шлях ад кончыка пальца да трэцяй костачкі, значыць, пара гнаць карову дамоў. Гэта кожны хлапчук ведае.

Стаў Максімка спіной на захад, а тварам акуратненька на ўсход, сагнуў руку ў локці, задраў галаў уверх... Дзе там! Сонца, як на злосць, усё яшчэ стаяла ў зеніце, быццам яму дужа падабалася глядзець з верхатуры і смаліць зямлю гарачымі промнямі. Можа, яно трохі і спаўзло на заходні бок, але ледзь-ледзь. Максімку аж злосць разабрала. Калі, бывала, на рэчку пойдзеш або яшчэ якую забаву знойдзеш, дык сонца тут жа, як па масле, на захад пакоціцца. А цяпер, калі ў Максімкі, можна сказаць, неадкладная справа, яно і не думае з верхатуры злазіць. Што будзе, тое хай будзе, але Максімка больш не мог цягаць Зорку за повад. Хопіць! Напасвілася!

Папраўдзе, дык Зорка ўжо не скубла траву з той прагнасцю, як раней. Напасвілася, аж бакі раздуліся, хоць па сваёй каровінай прагнасці ўсё яшчэ гнула галаву долу.

Максімка наматаў повад на руку. Пераймаючы местачковых пастушкоў, крыкнуў на Зорку строгім басам:

— Ну, ты, абжора,— і тузануў повад.

Зорка, здаецца, толькі гэтага і чакала. Ёй таксама надакучыла смылець пад сонцам ды адганяць хвастом розную заедзь. Яна без прынукі скіравала на сцежку і была вельмі здзіўлена, што Максімка не ідзе за ёй. А Максімка стаяў як укопаны і зніякавела глядзеў у поле.

Па полі бег Данілка і пагражаў Максімку кулаком. Максімка ведаў, калі Данілка пагражае кулаком, значыць, нешта здарылася па ягонай, Максімкавай, віне, а таму не чакай літасці. Данілка спярша аплявушыць, а потым скажа за што. Максімка ніяк не мог зразумець, што ён благое зрабіў Данілку. На ўсякі выпадак Максімка падрыхтаваўся да адпору.

Данілка, падбегшы да Максімкі, сунуў кулак пад нос

— Гэта нюхаў? — спытаўся ён.

Максімка Данілкаў кулак «нюхаў», хоць і не так часта. Данілка найбольш абараняў Максімку.

— У мяне таксама кулак ёсць,— сказаў Максімка і таксама сунуў свой кулак Данілку пад нос.

Канечне, Максімкаў кулак не ішоў ні ў якое параўнанне з Данілкавым. Данілкаў кулак, хоць і не вялікі, але касцісты, шышкаваты. Ён як з жалеза адліты. А Максімкаў кулак пухленькі і беленькі, нібы недасмажаны пончык. Таму Данілка не звярнуў увагі на Максімкаў кулак.

— Дужа спалохаўся,— сказаў Данілка.

— І я не спалохаўся,— адказаў Максімка.

— Не задавайся,— папярэдзіў Данілка.

— А чаго задзіраешся? — сказаў Максімка.

Яны пахадзілі адзін перад адным, як маладыя пеўнікі, пакуль у абодвух не астыў запал.

— Ты навошта Гусцю да Кешкавай бабулі прыводзіў? — нарэшце спытаў Данілка.

— Бо яе мачаха — шпіёнка,— выпаліў Максімка.

Ён меў усе падставы спадзявацца, што дашчэнту ўразіць Данілку. Аж дзе там! Данілка не толькі не здзівіўся, а здзекліва рагатнуў.

— Ну, давай, брашы далей,— падбухторыў ён Максімку.

— Не верыш? — аж захліпнуўся ад крыўды Максімка. Ды і было чаго крыўдаваць: Максімка за ўсё сваё жыццё ніколі не схлусіў, нават тады, калі хлусня магла ўратаваць яго ад непрыемнасцей.— Ды каб мне з гэтага месца не сысці, калі я хлушу,— стукнуў Максімка кулаком у грудзі.— Начальнік паліцыі Крэсендорф паслаў яе за намі сачыць. Яна страшную клятву дала, што знойдзе нас. Не верыш?.. Яна во з такім наганам ходзіць,— Максімка шырока развёў рукамі.

— Ну, і брахун ты, Максімка,— ужо без насмешкі сказаў Данілка.— Мабыць, дарэмна я цябе перад хлопцамі абараняў. Думаў, што ты сур'ёзны чалавек. А ты... Манюка і хлус... Трапло несусветнае. Як ты мог пры Гусці пытацца пра Лёву, калі яго, можа, па ўсім мястэчку шукаюць. Бабуля Ерафеіха вельмі на цябе ўзлавалася. А што, калі Гусця скажа бацьку, дзе хаваецца Лёва? Тады ні яму, ні Кешкавай бабулі не ўратавацца...

Данілка чакаў, што давядзе гэтымі вымовамі Максімку да слёз. І варта. Трэба быць асцярожным, абачлівым, а Максімка гатоў кожнаму на слова верыць. Так і да бяды недалёка... Але Максімка нечаму ўзрадаваўся, аж заззяў, як той новенькі пятак.

— Данілка,— радасна спытаў Максімка сябра,— дык ты ў Кешкі быў, калі мы прыходзілі?.. І Лёва фашыстамі не схоплены?.. А мы з Гусцяй падумалі, ці не выдала яго Кешкава бабуля...

— Эх ты, галава яловая,— сказаў Данілка,— як ты мог такое падумаць?.. Бабуля Ерафеіха ведаеш які чалавек?.. Самы аддзаны савецкай уладзе!.. А ты?..

— Ага, ёй, выходзіць, можна пра Гусцю дрэнна ду-

мацьь, а мне пра яе нельга? Гусця таксама адданая... Хіба яна вінаватая, што бацька фашыстам служыць, а мачаха шпіёнка...

— Кінь ты, завёў адно і тое ж... Якая яна шпіёнка... Лепей гані карову дамоў, ды пайшлі... Справа ёсць... Прысягу прымаць будзем...— сказаў памяркоўна Данілка.

— А не маніш? — засумняваўся Максімка.

— Вельмі трэба,— адказаў Данілка.

— Тады забяжым спачатку за Гусцяй,— прапанаваў Максімка.— Было б несправядліва яе не ўзяць...

Данілка задумаўся. З аднаго боку, сапраўды несправядліва адлучаць Гусцю ад кампаніі, з другога — Данілка сам, без прынукі пагадзіўся з бабуляй Ерафеіхай і Кешкам, што Гусця можа прагаварыцца і тады не мінаваць бяды.

— Вось што, Максімка,— па-даросламу разважліва сказаў Данілка,— я не бяруся сказаць, ці можна ўзяць з сабой Гусцю, бо апошняе слова цяпер належыць нашаму камандзіру. Як ён загадае, так і будзе.

Максімка здзівіўся.

— Чакай, чакай, Данілка, пра якога камандзіра ты кажаш? Калі пра Кешку...

— А пра такога... сапраўднага,— нечага загадкава ўсміхнуўся Данілка.

## 5

Могільнікавая царква стаяла над самай кручай. Па кручы, між зараснікаў крушыны, баліголову, дзікай маліны і кашкі, вілася сцежка, па якой не баяліся хадзіць хіба козы ды... дзеці. Дарослыя яе абыходзілі.

Даўней, расказвалі старыя людзі, царква стаяла крокаў за дзесяць ад рова. Але неяк вясной здарыўся апоўзень, бераг рова па самы царкоўны падмурак асунуўся, агаліўшы каменнае сутарэнне з даўгаватай і шырокай шчылінай. Скляпенне тое называлася Страхавым. У ім з незапомных гадоў стаяла пустая труна з чорнага цяжкага дрэва, з акенцам у вечку, якраз над вачамі нябожчыка.

Пра гэтую труну хадзілі па Веляшковічах легенды-паданні.

...Дужа-дужа даўно, калі і народу на зямлі было яшчэ няшмат, па лесе, у лютую завіруху брыў адзінокі падарожнік. Чалавек як чалавек, але з твару чорны, калі наогул можна было назваць тварам чэрап, трохі абцягнуты скурай. Ды і вочы ягоныя мала паходзілі на чалавечыя.

Яны хутчэй нагадвалі два ліхтарыкі, якія свяціліся зялёным нежывым святлом. Апрануты падарожнік быў у нейкі доўгі балахон з вялізным башлыком, падпяразаны вяроўчынай з кутасамі. А на вяроўчыне нават у цемры ззяў вялізны дыямент. Ён таксама свяціўся халодным, мёртвым святлом.

Падарожнік не спяшаўся, а можа, яму і спяшацца асабліва не было куды. Стаяла самая поўнач. А даўно вядома, хто да поўначы не знайшоў прытулку, той прабрындае па зямлі да першых пеўняў, а потым сігане ў прадонне. Так кажуць у народзе.

Неўзабаве ён убачыў у гушчары хатку. Яе адзінае акенца свяцілася жывым святлом у змроку завірушнай ночы.

Падарожнік падкраўся да таго акенца, якое зашклёна было не шклом, а бычыным пузыром.

У хаціне, на прыпечку, гарэла лучына, цьмяна асвятляючы беднае ўбранства жытла. У кутку стаяў стол. За печчу насцелены палаці. Паўз сцяну грувасцілася шырокая лаўка. На сцяне вісеў стары заячы кажух і заячая шапка. Бадай, і ўсё. Не, не ўсё. Ля парога, насупраць печы, стаяла яшчэ лавачка на чатырох ножках, якую па-тутэйшаму называлі казюлькай.

На шырокай лаўцы ляжаў чалавек. Не малады ўжо, але, здаецца, і не стары — без пэўнага ўзросту на першы погляд. Чалавек той, здаецца, канаў ад цяжкай хваробы. На ягоным бледным, аж пазелянелым твары блішчэлі кропелькі халоднага поту. Вырачаныя вочы пакутліва глядзелі ў нізкую столь. Ён увесь дрыжэў, як той асінавы ліст, які дрыжыць нават у ціхае надвор'е.

Крыху пастаяўшы, падарожнік рашуча адчыніў дзверы. У хату ўварваліся клубы марознага паветра. Чалавек спалохана ўскочыў, закрыўся рукамі, нібы хацеў абараніцца ці прыкрыць сябе ад небяспекі. Ён хацеў закрычаць, паклікаць каго на дапамогу, але абяссілеў, у роспачы паваліўся на лаўку.

— Што табе трэба, Смерць? — спытаў ён падарожніка.— Хіба ты не ведаеш, што я бессмяротны?

Смерць усміхнулася.

— Во, во, бессмяротны,— з іроніяй у голасе сказала яна.— Пра гэта я і хачу пагаварыць з табой, Страх. Чаму ты павінен быць бессмяротны? Бессмяротная толькі я — Смерць. Усё астатняе мае свой пачатак і свой канец. Нішто не вечнае: ні гора і шчасце, ні боль і асалода, ні зло

і дабро, ні мана і праўда, ні багацце і беднасць, ні слава і невядомасць, ні надзея і безнадзейнасць — усё паміраे.

— Няпраўда! — закрычаў Страх.— Вечная яшчэ Адвага...

Смерць задумалася на хвілінку.

— Я не ведаю, хто гэта такая,— сказала Смерць.

— Мая сястра,— адказаў Страх.

— Ты хлусіш,— усміхнулася сваёй агіднай усмешкай Смерць.— Але, калі ты гаворыш праўду, я забяру і яе. Цяпер жа я прыйшла па цябе. Скажу па шчырасці, ты мне даўно надакучыў. Жывеш сабе непрыкметна і ціха, кволы і хворы, але кожны раз, калі я прыходжу па каго-небудзь, ты тут як тут. Я бачу цябе ў вачах асуджаных падарожнічаць са мной. Думаеш, гэта вельмі прыемна кожны раз бачыць цябе? Ты мне надакучыў, і я прыйшла забраць цябе. Апранайся...

— А ты, і праўда, сляпая і дурная,— сказаў Страх.— Калі мяне не стане, я не ўяўляю, што будзе далей...

— Ніхто па табе не заплача,— адказала Смерць.— Цябе саромеюцца, праклінаюць, табой пагарджаюць. Дык на што ты спадзяешся?..

— Гэта праўда,— пагадзіўся Страх.— Мяне саромеюцца. Але я не наракаю на свой лёс. Побач з Адвагаю я паводжу сябе сціпла і ціха. Але і яна побач са мной вядзе сябе абачліва і разумна. Ты хочаш разлучыць нас. Ну, што ж, забірай мяне...

Страх накінуў на плечы заячы кажушок, насунуў на галаву заячую шапку.

— А можа, пачакаем,— спытаў ён Смерць,— пакуль кончыцца завіруха? Вельмі ўжо страшна выходзіць на двор у такую непагадзь.

Смерць зарагатала.

— Не спадзявалася, што ты яшчэ каварны і хітры,— сказала яна.— Хочаш неяк выкруціцца? Не выйдзе!

Яна схапіла Страха за руку і павяла на двор. Яны пайшлі без дарогі па глыбокім снезе. Ішлі доўга. Па звонкім лёдзе ракі перайшлі на другі і вельмі круты бераг. Падняліся па кручы на роўнядзь невялікага поля. За ім быў глыбокі роў. Чатыры сасны вартавалі глыбокі каменны склеп. Яны апусціліся ў яго. На дне склепа стаяла чорная, цяжкая труна.

— Тут я і пасялю цябе,— сказала Смерць.

— Назаўсёды? — спытаў Страх.

— На векі вечныя,— адказала Смерць.

Яна прыўзняла вечка. Агледзела труну.

— Залазь,— сказала Страху.

Страх забраўся ў труну. Смерць хацела закрыць вечка, але нехта моцна схапіў яе, паваліў на падлогу, стаў душыць, аж пасыпаліся іскры з вачэй-ліхтарыкаў.

— Хто ты? — спытала Смерць апошнім намаганнем волі.

— Адвага я... Даўно хацела сустрэцца з табой, ды Страх перашкаджаў. А цяпер няма каму... Вось я і распраўлюся з табой, акаянная Смерць!..

І хоць Страху было дужа боязна выглядваць з труны, ён усё ж не стрымаўся, асцярожна вылез, калоцячыся ўсім целам, назіраў, як Адвага змагаецца са Смерцю. Не ўцярпеў Страх.

— Што ты робіш, Адвага? — залямантаваў ён.— Што будзе з намі, калі Смерць памрэ?..

На імгненне задумалася Адвага. А Смерць толькі таго і чакала — кінулася наўцёкі.

Пабегла Адвага за Смерцю, а той і след прастыў. Затаілася недзе кашчавая да пары да часу. Узнялася Адвага шызым сокалам у неба, каб адтуль, з вышыні, усё бачыць і прыходзіць, калі неабходна каму, на дапамогу. Страх жа застаўся адзін, пасядзеў, пасядзеў на труне, ды і паклыпаў у сваю лясную хаціну. Труна ж і дасюль стаіць у склепе. Людзі яе Страхавай называюць.

Легенда, вядома,— выдумка цёмных, непісьменных людзей. Так гаварыла Максімку мама. Выдумка выдумкай, а можа, і праўда нешта ў далёкія часы было. Дыму ж без агню не бывае.

У Максімкі аж ёкнула сэрца, у грудзях пасялілася зябкая пустата, калі Данілка па дарозе да Кешкі сказаў, што прысягу яны будуць прымаць у Страхавым скляпенні. Быццам Кешку іншага месца не знайшлося? Трэба ж такое прыдумаць — партызанскую прысягу прымаць у Страхавым скляпенні, дзе стаіць чорная Страхава труна. Адзін яе выгляд можа чалавека на векі вечныя зрабіць заікам. А Кешка хоча, каб там прысягу прымалі.

Максімку адразу затрэсла, як толькі яны спусціліся ў падзямелле. А Данілку хоць бы хны! Ідзе сабе ў цемрачы ды пасвіствае.

Максімка спачатку зайздросціў Данілкавай мужнасці, а потым падумаў: можа, Данілка таму і свішча, што сам баіцца, а выгляду паказаць не хоча? Данілка такі! Ён умее трымаць сябе. А хіба ён, Максімка, горшы? Ён таксама

перасіліць страх. Ён, Максімка, не горш за Данілку свістаць умее.

Максімка склаў губы трубачкай, хацеў засвістаць, як раптам недзе глыбока ўнізе як сто чарцей заскрыгаталі зубамі, і водгулле ад іхняга скрыгатання прыкавала Максімку да каменных сходак, а на галаве сама сабой узнялася шапка. Максімка з усяе сілы ўцягнуў галаву ў плечы, чакаў, што нехта схопіць яго кашчавай рукой, пацягне на той свет, у чарцінае царства.

Але ніхто яго не хапаў, і Максімка адважыўся, расплюшчыў спачатку адно вока, потым другое.

Во дзіва!..

Унізе, у няяркім святле, што струменілася аднекуль зверху, стаяў хлапчук — выліты Лёва. Дзіва было не ў тым, што ў скляпенні стаяў выліты Лёва,— у гэтага Лёвы былі зялёныя валасы, як у маладога вадзянога. А ў таго, сапраўднага Лёвы, валасы ад роду былі чорныя, як восеньская ноч. Дык хто ж тады стаяў у падзямеллі? А можа, усё гэта прытрызнілася?

Каб праверыць, трызніць ён ці не, Максімка заплюшчыў вочы. А калі расплюшчыў, дык ні Данілкі, ні здані з зялёнымі валасамі нідзе не было, а з падзямелля даляцеў сярдзіты Кешкаў голас:

— Ну, дзе ты там дзеўся?..

Забыўшыся на ўсе страхі, Максімка рашуча ступіў у Страхава скляпенне. Ён спадзяваўся ўбачыць нешта жудаснае. Аж нічога страшнага! Звычайнае каменнае сутарэнне са шчарбінай-адтулінай у столі. Справа ад увахода стаяла шафка-аналой, паточаная шашалем. Над ёй спускаўся са столі ланцужок, на якім вісела цяжкая, груваздкая лампада. Злева, на ўсю даўжыню сцяны, чарнела Страхава труна. На ёй стаяў прыёмнік. А ля яго сядзела тая самая зеленавалосая здань.

— Што, не пазнаеш? — рагатнуў Кешка.

Максімка прыгледзеўся лепей. Здань усміхнулася знаёмай Лёвавай усмешкай.

— Чаму?.. Пазнаю... Лёва... Толькі галава на ім не Лёвава... Чаму яна пазелянела?

— Ад страху,— смеючыся, пацвельваўся Данілка.

— Дужа мне трэба зелянець ад страху,— пакрыўдзіўся Лёва.— Кешка фарбу пераблытаў.

Максімка нічога не мог зразумець. Якую фарбу? Навошта?

— Гэта ўсё бабуля,— пачаў апраўдвацца Кешка.— Гэта яна параіла перафарбаваць Лёву валасы, каб фашысты не пазналі яго. Ну, мы і пачалі перафарбоўваць. На пакецiку напiсана: фарба залацiстая, а яна аказалася зялёная.

— Такой бяды,— махнуў рукой Лёва.— І з зялёнымі валасамі можна жыць. А вось што будзем рабіць без батарэек да прыёмніка?..

## 6

Сурова нахмурыўшы бровы, Кешка ўважліва выслухаў Максімку, як чалавек старэйшы, няхай не па гадах, дык затое па абавязку.

— Усё? — спытаў ён, калі Максімка замоўк.— Тады слухай, што я табе скажу. Я — супраць. Катэгарычна, як сказаў бы наш камдыў таварыш Супрун.

— Чаму? — спытаў разгублена Максімка і паглядзеў на Данілку.

Той адвёў вочы, быццам не заўважыў Максімкавага позірку, які прасіў падтрымкі.

— Чаму? — перапытаў Кешка.— А таму што яна дзяўчынка. Раз. А ты бачыў, каб дзяўчат у армію бралі? Не, не бачыў! Значыць, і ваяваць ім нельга. Па-другое, бацька ў яе бургамістр, а мачаха, пра што ты сам казаў, шпіёнка, значыць, і Гусці давяраць нельга. Зарубі сабе на носе, Максімка, што мы павінны памятаць пра залатое правіла перамогі: пільнасць, пільнасць і яшчэ раз пільнасць. Так гаварыў наш камдыў, таварыш Супрун. А ён ніколі не памыляўся. А ты, Максім Савік, прапануеш увесці ў наш атрад падазроную асобу і гэтым парушаеш гэтае залатое правіла.

Кешка гаварыў так горача, так пераканаўча, што Максімка пабаяўся сказаць нешта супраць. Затое зусім нечакана яго падтрымаў і не абы-хто, а Лёва.

— Дужа ты разумны, Кешка,— сказаў ён.— Ну, так, у мірны час сапраўды жанчын у армію не бяруць, але нідзе не сказана, што ім забаронена ваяваць. І яны заўсёды ваявалі, калі вораг нападаў на радзіму. Цяпер ты абвінаваціў Гусцю за яе бацькоў. А хіба іх выбіраюць? Хіба Гусця вінавата, што ў яе бацька бургамістр? Ты вось пра пільнасць гаварыў. Але якая гэта пільнасць? Гэта недавер сваім жа таварышам, падазронасць. А падазронасць, Кешка, чалавека абражае.

— Ха! — абурыўся Кешка.— Можаце мяне падазраваць. Я не пакрыўджуся. Кажы, у чым ты мяне падазраеш? Я табе адказ дам.

— Дужа мне патрэбны твой адказ. Я табе і так веру. Як сябру.

Максімка ўзрадаваўся.

— Верна! Калі дружба, дык і давяраць трэба,— горача сказаў ён.— Каб не Гусця, хіба мы вывелі б Грома? А цяпер раптам засумняваліся. Несправядліва гэта. А таму без Гусці прымаць прысягу не буду. Можаш мяне падазраваць, у чым табе захочацца.

— Так,— сказаў Кешка.— Значыць, двое за тое, каб прыняць Гусцю ў наш атрад і дапусціць яе да прысягі? Добра. А ты, Данілка, на чыім баку?

— Я не ведаю,— адказаў Данілка.

— Значыць, ты ўстрымаўся? — спытаў Кешка.

— Устрымаўся...

— Тады дамовімся так. Няхай Гусця выканае яшчэ адно заданне. Толькі якое?..

— Няхай батарэйкі дастане,— падказаў Лёва.— Якія мы партызаны без прыёмніка.

Максімка паспрабаваў запярэчыць: дзе Гусця дастане тыя батарэйкі?

— У немцаў,— рагатнуў Данілка.

— А што, правільна,— падхапіў Кешка.

## Пастка

### 1

У начальніка паліцыі і СД гаўпштурмфюрэра Крэсендорфа была лысая, нібы адпаліраваная, як більярдны шар, галава. На ёй ляпіліся пара вялізных, па добраму лапуху вушэй, таўставаты нос, абапал якога сінелі жорсткія вочы. Па рудых бровах можна было меркаваць, што гаўптштурмфюрэр некалі меў рыжую чупрыну, якая невядома чаму вылезла. А па шчоках і шырокаму падбародку, спрэс пасечаных шрамамі, можна было лічыць, што начальнік паліцыі і СД у маладыя гады быў задзірлівы, ці як цяпер кажуць, меў хуліганскі нораў.

Пан Крэсендорф сядзеў у крэсле з высокай спінкай за вялізным сталом, на якім стаяла скрынка, абабітая чорным аксамітам. У той скрынцы захоўваліся лялькі-марыянеткі, бо цяперашні гаўптштурмфюрэр некалі быў бадзяж-

ным артыстам тэатра марыянетак. Пан Крэсендорф кінуў былое рамяство, якое не прыносіла яму прыбытку, але скрынку з лялькамі вазіў з сабой.

Пан Крэсендорф лічыў, што цяперашняя прафесія паліцэйскага-ката надзвычай дрэнна адбіваецца на ягоным такім патрэбным фюрэру і Германіі здароўі. Таму ён зрэдку забаўляўся лялькамі-марыянеткамі, якія вярталі яго ў бадзяжную маладосць, даволі галаднаватую, але і не вельмі турботную.

Папраўдзе, дык гаўптштурмфюрэр быў вельмі задаволены і нават ганарыўся цяперашняй сваёй пасадай і тым жыццём, якое яна абяцала. Раней, калі ён быў артыстам тэатра марыянетак, яму падпарадкоўваліся толькі лялькі. Трымай іх на нітачцы, варушы пальцамі, і яны, паслухмяныя, хочаш скачуць, а хочаш плачуць. Цяпер пан гаўптштурмфюрэр займеў магчымасць упраўляць жывымі людзьмі гэтак жа, як лялькамі-марыянеткамі. Ну, хіба не можа ганарыцца гэтым былы бадзяжны артыст тэатра марыянетак? Можа, і ён ганарыўся, але ж адначасова быў і засмучаны. А як не засмучацца, калі жывыя людзі, у адрозненне ад лялек, не хочуць слухацца пана гаўптштурмфюрэра. Плююць ім і на ягонае званне і на высокую пасаду...

Можа, таму пан Крэсендорф усё часцей браўся за скрынку з лялькамі-марыянеткамі. З імі, прынамсі, ніякага клопату. Яны падпарадкоўваюцца пану гаўптштурмфюрэру безагаворачна.

«Што трэба рабіць,— думаў пан Крэсендорф,— каб людзі слухаліся мяне, як гэтыя марыянеткі?.. Іх трэба забіваць, забіваць, забіваць. Мёртвыя маюць дзве асаблівасці: яны не супярэчаць і наводзяць жах на жывых».

Ягоныя думкі раптам перапыніў дзяжурны, які паявіўся ў пакоі і, выцягнуўшы руку ўгору, прывітаў свайго шэфа:

— Хайль Гітлер!..

Крэсендорф адарваў позірк ад марыянетак, незадаволена глянуў на дзяжурнага.

— Што табе?..

— Пан гаўптштурмфюрэр, паліцэйскі па вашаму загаду з'явіўся і чакае ў прыёмнай...

Крэсендорф склаў лялькі ў скрынку, закрыў вечка.

— Хай заходзіць,— сказаў ён.

Дзяжурны выйшаў, а на ягоным месцы ўзнік, як з-пад зямлі, Зыль-Барадыль.

— З'явіўся па вашаму загаду,— няўмела казырнуў ён.

Крэсендорф уперыўся жорсткім позіркам у твар паліцэйскага. Той няёмка пераступаў з нагі на нагу, цяжка, аж з прысвістам дыхаў ад страху і прадчування нейкай бяды.

— Якую брыду ты п'еш? — памахаўшы перад сабой рукою, спытаў гаўптштурмфюрэр Зыля-Барадыля.

— Самагонку, пан капітан... Сапраўды брыда, але лепшай гнаць не навучыліся,— растлумачыў Зыль-Барадыль.

— Самагонку? — перапытаў Крэсендорф.— Мы будзем даваць табе шнапс. Лепшы нямецкі шнапс, пан Барадыль.

— Я, пан начальнік, не Барадыль,— стаў тлумачыць паліцэйскі.— Я — Зылёў. Барадыль — гэта мянушка, дражнілка, значыць.

— О, я добра разумею... Садзіся, пан Зылёў-Барадылёў.

Зыль-Барадыль сеў. Крэсендорф пасунуў пачак цыгарэт. Зыль-Барадыль ніяк не мог даўмецца, навошта ён спатрэбіўся самому начальніку паліцыі і СД. Крэсендорф пазіраў на паліцэйскага жорсткім, бязлітасным позіркам сініх арыйскіх вачэй.

— Пан Зылёў,— нарэшце перапыніў ён маўчанне,— хто, па-твойму, абстраляў наш штаб, украў у пана каменданта каня, вывесіў чырвоны сцяг на званіцы, расклеіў па горадзе лістоўкі, а ў Данькаўскім лесе абстраляў калону машын?

— Не ведаю... Не магу ведаць! — разгубіўся Зыль-Барадыль.— Хутчэй за ўсё — адтуль,— Зыль-Барадыль паказаў пальцам за вуха, даючы зразумець, што мясцовыя да гэтых спраў не маюць ніякага дачынення.

— Так, так,— сказаў Крэсендорф і паставіў чорную скрынку на стол, дастаў з яе адмыслова зробленую шыбеніцу, а затым барадатага чалавечка-ляльку.

Трымаючы ляльку на нітачках, Крэсендорф памалу павёў яе да шыбеніцы. Зыль і вокам не паспеў міргнуць, як лялька-чалавечак матлялася ўжо на шыбеніцы.

— Як табе, пан Зылёў, спадабалася пакаранне гэтага нягодніка? — усміхаючыся, спытаў Крэсендорф.

Ад страху ў Зыля адняўся язык. Паліцэйскі хацеў нешта сказаць і ніяк не мог, толькі ківаў галавой, як і той чалавечак-лялька, якога Крэсендорф толькі што павесіў на шыбеніцы.

— Давай дамовімся, Зыль-Барадыль,— выкрасаючы кожнае слова сказаў Крэсендорф,— калі ты не дапаможаш

пам знайсці бандытаў, я адпраўлю цябе на шыбеніцу, як і гэтую марыянетку. Калі ж дапаможаш, мы дамо табе цыгарэт, спірту і грошай.

Зыль-Барадыль ад страху захацеў перахрысціцца. Пашукаў у пакоі ікону — не знайшоў. Убачыў на сцяне вялізны партрэт Гітлера. На ўсякі выпадак перахрысціўся на яго.

— Пан начальнік, дзе ж я павінен іх шукаць?..

— А гэта ўжо твая справа,— адказаў Крэсендорф.— Захочаш жыць — знойдзеш.— Ён паклікаў дзяжурнага, загадаў яму: — Ганс, выдай пану паліцэйскаму бутэльку шнапсу, два пачкі цыгарэт і плітку шакаладу.

Зыль-Барадыль быў так напалоханы, што забыўся падзякаваць пану гаўптштурмфюрэру. Успомніў пра гэта ўжо на вуліцы. Хацеў вярнуцца, але падумаў-падумаў, плюнуў са злосці і паплёўся дамоў.

## 2

Гусця адчувала сябе вельмі адзінокай і бездапаможнай. Ёй здавалася, а можа, так было і на самой справе, што мачаха ўвесь час цікуе за кожным яе крокам. Бацька, як назнарок, ходзіць нечым заклапочаны, і яму няма ніякай справы да яе, Гусці. А Максімка абяцаў прыйсці і не прыходзіць. Няйначай Кешка з Данілкам забаранілі яму вадзіць дружбу з ёю, Гусцяй. А што? І правільна! Каму патрэбна такая сяброўка, бацька якой аддана служыць фашыстам, а мачаха заядлая шпіёнка?

І ўсё ж Гусця крыўдавала на Максімку. Мог бы зайсці наведаць...

На вачах у Гусці выступілі слёзы.

Няхай бы хутчэй чырвонае войска прагнала фашыстаў, настаў даваенны час з піянерскімі лагерамі, паходамі, начнымі кастрамі і вясёлымі песнямі.

Гусця дастала з запаветнага месцейка чырвоны піянерскі гальштук, падышла да люстэрка, каб прымераць яго. Хоць колькі хвілін адчуць тое даваеннае, непаўторнае жыццё, калі яшчэ была жывая яе мама, калі можна было насіць гальштук, нікога не баючыся.

— Маё вам найадданейшае шанаванне, пан бургамістр,— пачула Гусця чыйсьці няшчыры голас.

Яна выглянула ў акно. На двары бацька запрагаў каня ў калёсы, а праз адчыненую браму заходзіў Зыль-Бара-

дыль. Ён падышоў да бацькі, працягнуў руку. Бацька, мусіць, не заўважыў працягнутай рукі.

— Што скажаце, Зылёў? — спытаў ён.

— Я да вас за парадай,— адказаў паліцэйскі.

— Гаварыце...

Зыль-Барадыль азірнуўся, даючы зразумець, што на двары гаварыць не зусім зручна.

— Можа, пан бургамістр, знайшлі б хвілінку пагаварыць са мной у пакоі?..

— На жаль, я павінен зараз жа ехаць,— адказаў бацька.— Пан камендант загадаў пабываць у Данькаве...

— Ну, так, так, вядома, пан бургамістр,— нечага паспешліва пагадзіўся Зыль-Барадыль.— І не баіцёся вы, пан бургамістр?.. У Данькаўскіх лясах, чутно, аб'явіліся партызаны. Можа, ахову ўзялі б?..

— Глупства,— адмахнуўся бацька.— Чуткі, як заўсёды, перабольшаныя... Дык што вы хацелі мне сказаць?

Зыль-Барадыль яшчэ раз азірнуўся.

— Крэсендорф выклікаў,— прыглушаным голасам сказаў Зылёў.— Такога страху нацярпеўся, аж дасюль паджылкі дрыжаць...

— У паліцэйскага не павінны дрыжаць паджылкі,— насмешліва азваўся бацька.

— Зараз і вы, пан бургамістр, задрыжыце,— пакрыўджана паабяцаў Зыль-Барадыль.— Ведаеце, што сказаў Крэсендорф? «Калі,— кажа,— вы з панам бургамістрам — самі, значыць,— не знойдзеце бандытаў,— так ён называе партызан,— дык я абодвух павешу на царкоўнай браме». Абодвух, пан бургамістр: мяне і вас. І павесіць, будзьце ўпэўнены.

Мабыць, Зыль-Барадыль спадзяваўся ўбачыць, як пан бургамістр задрыжыць, але той зусім спакойна сеў у калёсы.

— Мне вельмі шкада вас, пан Зылёў,— сказаў бацька.— Дзе вы будзеце шукаць тых партызан, калі яны, як вецер у полі — сёння тут, а заўтра там і не пакідаюць свайго адраса? Што датычыць мяне, дык я пастаўлены кіраваць раёнам, а не ганяцца за партызанамі. Так што, калі Крэсендорф і павесіць каго, дык перш за ўсё вас, пан Зылёў.

Бацька тузануў лейцы. Конь лёгка скрануў калёсы, выкаціў іх за браму. Зыль-Барадыль злосна крыкнуў услед:

— Чакайце, пан бургамістр! Няўжо не разумееце, што мы адной вяровачкай звязаны?

Ён і яшчэ штосьці крычаў, але Гусціна ўвага была адцягнута нечым больш важным. Нехта, няйначай мачаха, памалу падымаўся па лесвіцы ў Гусціну мансарду. Гусця хуценька схавала гальштук у патаемнае месца, лягла на ложак, прытварылася, што спіць. Можа, мачаха не будзе чапаць яе.

Антаніна Паўлаўна спынілася ў парозе.

— Што з табой, Гусця? Чаму ты ляжыш? Ці не захварэла? — з трывогай у голасе спытала яна.

— Не,— адказала Гусця.— Я адпачываю...

Мачаха паклала руку на Гусцін лоб. Лоб быў халодны, а рука цёплая.

— Тэмпература нармальная,— сказала мачаха.— Чаму ты сядзіш дома? Хіба ў цябе няма сяброў?

— Ёсць,— адказала Гусця.

— Тады чаму яны не прыходзяць да цябе? Хто яны? Я хацела б з імі пазнаёміцца...

Гусця адразу насцярожылася. «Хітрая шпіёнка! Але так я табе і скажу пра сваіх сяброў».

— Яны — нашы вучні,— сказала Гусця.— А не прыходзяць таму, што вельмі зараз занятыя.

Яна хацела сказаць, што сябры не прыходзяць таму, што бацька ў яе бургамістр, а мачаха — шпіёнка, але падумала, што лепей прамаўчаць, хай мачаха думае, што Гусця ні пра што не здагадваецца.

Мачаха як бы ўгадала Гусціну думку.

— А можа, іх не пускаюць бацькі? Можа, не хочуць, каб яны сябравалі з табой?

Здагадлівасць мачахі збянтэжыла Гусцю. На шчасце, адказваць не давялося. Нехта асцярожна пастукаў у дзверы.

— Заходзьце,— дазволіла мачаха.

Дзверы нерашуча адчыніліся. Максімкава галава прасунулася ў пакой і спалохана замёрла. На Максімкавым твары адбіліся разгубленасць, страх і неадольнае імкненне даць дзёру.

Гусця і ўзрадавалася, што прыйшоў Максімка, і спалохалася за яго. А раптам і Максімку мачаха пачне выпытваць. Максімка можа і прагаварыцца.

— Праходзь, праходзь, хлопчык, я не Баба-яга і не ведзьма з Лысай гары. А ты мяне, бачу, нечага баішся...

— І зусім ён не баіцца,— пайшла на выручку Гусця.— Ён проста вельмі сарамлівы... Дзякуй, Максімка, што ты зайшоў. Мне трэба з табой пагаварыць.

Максімка дужа неахвотна, баязліва зайшоў у пакой, сеў на крэсла, умольна паглядзеў на Гусцю: маўляў, мне таксама пагаварыць з табой трэба, але без мачахі.

Антаніна Паўлаўна ці здагадалася, што перашкаджае дзецям, ці, можа, надумала падслухаць, пра што будуць гаварыць Гусця з Максімкам.

— Я пайду завару чай, а вы пасядзіце, пагаварыце, бо даўно не бачыліся,— сказала яна і пайшла.

Як толькі мачаха выйшла з пакоя, Гусця на пальчыках падбегла да дзвярэй, прыслухалася. Не, мачаха не стала падслухоўваць, пра што яны будуць гаварыць з Максімкам. Было чутно, як яна бразгае на кухні начыннем.

— Ну,— сказала Гусця.

Максімка так і замалаціў языком, расказваў, як яны сабраліся прымаць прысягу, як ён, Максімка, запатрабаваў, каб прысягу прыняла і Гусця, як вырашылі даручыць Гусці важнае заданне — раздабыць сілкаванне для прыёмніка.

— А як толькі мы раздабудзем яго,— заключыў ён,— дык адразу прымем прысягу і схаваемся ў падполлі. Дзе толькі знайсці гэтыя праклятыя батарэйкі?

Гусця на хвіліну задумалася.

— Здаецца, я ведаю, дзе знайсці,— сказала яна.— У двары банка стаяць машыны. Тата казаў, што гэта штабная радыёстанцыя. А калі радыёстанцыя, дык у ёй павінны быць батарэйкі. Ты як лічыш?..

— Так яно, вядома, так, але ж, мусіць, радыёстанцыя моцна ахоўваецца?..

— Ну і што? — запярэчыла Гусця.— Важна высветліць, ці ёсць там батарэйкі.

— Ты прапануеш спачатку правесці разведку? — спытаў Максімка.— А што, праўда!..

— Тады няма чаго сядзець. Пайшлі,— і Гусця пацягнула яго да акна, што выходзіла на агароды.— Праз дзверы нельга — там мачаха.

Праз акно яны вылезлі на страху вазоўні, адтуль па драбіне спусціліся ў агарод і пабеглі да дзіркі ў плоце, праз якую не адзін раз лазіў Максімка.

Яны не бачылі, як у пакой зайшла мачаха, стала назі-

раць за Гусцяй і Максімкам, аж пакуль тыя не схаваліся за плотам. Тады мачаха пачала ўважліва аглядаць Гусцін пакой і, вядома ж, неўзабаве знайшла чырвоны гальштук...

### 3

Банк размяшчаўся ў доме былога веляшковіцкага нэпмана Яршонка, які на самым пачатку дваццатых гадоў разбагацеў, скупляючы і прадаючы жывёлу. Тады прыватнае прадпрымальніцтва часова было дазволена Савецкай уладай і называлася гэта новай эканамічнай палітыкай — скарочана нэпам. Людзей жа, якія разбагацелі, называлі нэпманамі.

Яршонак быў нэпман. Ён пабудаваў у Веляшковічах двухпавярховы дом-кантору з чырвонай цэглы, абнёс яго сцяной, а зямлю перад домам засадзіў садам.

Нядоўга панаваў Яршонак. Гадоў сем. Потым яго выслалі на Салаўкі — астравы на далёкай Поўначы — за нявыплату падаткаў, а дом-кантору перадалі Дзяржаўнаму банку.

У банка хапала клопатаў. Ён выдаваў рабочым і служачым зарплату, калгасам і саўгасам — пазыкі і крэдыты, прымаў грошы з сельпоўскіх лавак і крам. Шмат якімі грашовымі справамі даводзілася займацца банку. Таму яму было не да саду. Затое веляшковіцкія хлапчукі-гарэзы не спалі ў шапку. Яны па цаглінцы разабралі сцяну на задворках, каб не было перашкоды лазіць у сад па яблыкі і грушы. Не адно пакаленне хлапчукоў ведала сцяжынку ў Яршонкаў сад. Ведаў яе і Максімка.

Але спачатку, як і належыць заўзятаму разведчыку, Максімка вырашыў прайсціся паўз банкаўскі дом па вуліцы. Ці мала што можа ўгледзець пільнае вока разведчыка. А Максімка лічыў сябе неблагім разведчыкам.

Нічога асаблівага Максімка не заўважыў. Усе чатыры акны, што выходзілі на вуліцу, былі шчыльна завешаны. Цяжкая металічная брама наглуха зачынена. Ля яе стаяў вартавы. Ён глянуў на хлопчыка з дзяўчынкай, падміргнуў ім, нібы падбухторваў нічога не баяцца.

— Так... Ясненька! — сказаў Максімка.

Мінуўшы два двары, Максімка звярнуў на трэці, дужа няўходжаны. Адтуль выбраўся на агароды. На іх буяў кроп, цягнуўся ўгору бульбоўнік, лапушылася капуста і бурачнік, ва ўсе бакі распаўзаўся агурочнік і гарбузнік, а па самай мяжы цягнуліся зараснікі парэчак, агрэсту і ма-

ліны. Калі троху прыгнуцца, дык хацеў бы хто заўважыць, як Максімка з Гусцяй прабіраюцца да банкаўскага дома, але так нічога і не ўбачыў бы.

Максімка падаў знак, паваліўся на зямлю пад куст парэчак. Гусця прылягла побач. Банкаўскі двор быў перад імі як на далоні.

Найперш ім кінулася ў вочы крытая брызентам машына. У брызенце прарэзаны дзверы. Яны расчынены наросхліст. Праз іх відаць нейкая апаратура і жанчына ў белай блузцы з навушнікамі на галаве — мабыць, радыстка. Побач з машынай, але бокам да яе, схаваўшыся пад грушу, стаяў фургон. Адзінае акенца ў ім акавана кратамі. Дзверы ў фургоне, няйначай, з другога боку, бо адсюль, дзе ляжыць Максімка з Гусцяй,— глухая сцяна.

Апроч радысткі, што сядзела ў машыне і нешта старанна пісала ў сшытак, нікога на двары не было. Навокал панавала цішыня. І таямнічасць. Гэтая таямнічасць выклікала ў Максімкі неадольнае жаданне нешта рабіць, дзейнічаць.

— Батарэйкі хутчэй за ўсё ў машыне,— шапнуў ён Гусці.

— А па-мойму, у фургоне,— заспрачалася Гусця.

— Чаму ў фургоне?

— А таму, што прыёмнік у машыне можа працаваць ад аўтамабільнага матора...

— Я пра гэта не падумаў,— прызнаўся Максімка.— Але як нам высветліць, ці ёсць хто ў фургоне?

— Будзем чакаць і назіраць,— рашуча сказала Гусця.

Яны сталі чакаць. А даўно вядома, што горшага на свеце няма, як чакаць і даганяць. Ды паспрабуй яшчэ ўлежы, калі аднекуль прыляцеў камар, пачаў звінець над вухам.

Максімка паспрабаваў адагнаць камара. Той на хвілінку знік. Мусіць, злётаў за падмацаваннем, бо неўзабаве над Максімкавым вухам звінелі ўжо два, а можа, і тры камары. Але і гэта не ўсё. Нехта папоўз па назе пад калашыну. Добра, калі чорная мурашка. А калі рудая? Гэтая не пашкадуе, ушчыкне, аж у вачах пацямнее. Максімка злаўчыўся, пачухаў нагу. Тое, што паўзло, прыціхла, затое на спіне, між лапатак пачало так свярбець, хоць па зямлі качайся.

Максімка хацеў махнуць на ўсю гэтую разведку рукой ды адправіцца дамоў, як з фургона — адкуль жа яшчэ!— паявіўся белабрысы салдат. Салдат быў у фрэнчы, зашпі-

леным на ўсе гузікі, і ў зялёных штанах, запраўленых у салдацкія боты. Ён спыніўся ля машыны, нешта сказаў радыстцы і зарагатаў. Радыстка зняла навушнікі, пачала, па ўсім відаць, адчытваць салдата, бо той раптам стаў смірна і зноў нешта сказаў радыстцы, але ўжо сур'ёзна.

— Я, я,— адказала радыстка, што нават Максімка зразумеў: радыстка згаджалася з салдатам, сказаўшы: так, так...

Салдат выцер пілоткай твар, памалу пайшоў у далёкі закутак двара.

— Эх, мовы я іхняй не ведаю,— сказаў Максімка.— Цікава, пра што яны гаварылі.

— Ён прасіў радыстку папільнаваць фургон,— адказала Гусця.— А яшчэ... яшчэ... Брыдка слухаць...

Максімка не стаў дапытвацца, чаму Гусці было брыдка слухаць. Яго захапіла адважная думка.

— Кажаш, прасіў папільнаваць фургон?.. А ты разумееш, што гэта азначае?.. А тое, што зараз у фургоне нікога няма. Во! — узрадавана сказаў Максімка.

— Магчыма, і так...

— Не магчыма, а дакладна нікога няма... Тады чакай мяне,— Максімка раптам падхапіўся і, не паспела Гусця дацяміць, што задумаў Максімка, як ён, прыгнуўшыся да зямлі, пабег да фургона.

Затаіўшы дыханне, Гусця сачыла за тым, як Максімка бег да фургона, як схаваўся за вугал.

А далей...

А далей Гусці здалося, што час раптам спыніўся, а калі і не спыніўся, дык непрыкметна папоўз, як той слімак па пяску. Максімка завазждаўся ў фургоне. Што ён там рабіў, было немагчыма ўявіць. За той час, што Максімка схаваўся за вугал фургона, можна было не толькі высвятліць, ці ёсць там батарэйкі, а забраць іх і прыбегчы сюды. І чаго ён там корпаецца?! Таго і чакай, салдат вернецца. Каб можна было, Гусця пабегла б у той фургон, глянула б, што там робіць Максімка. Але трэба набрацца цярплівасці і мужнасці. На шчасце, і салдат затрымліваўся. Хутчэй, Максімка, хутчэй!.. Не трэба выпрабоўваць цярплівасць...

Тым часам з банкаўскага дома выйшла маладая дзяўчына ў вайсковай форме з паперамі ў руцэ. Яна ішла цвёрдай хадою, чаканячы кожны крок.

Не спыніўшыся нават каля машыны, дзяўчына скіравала ў фургон.

Цяпер усё!..

Гусця закрыла твар рукамі. Ёй здалося, што недзе побач прагучаў стрэл. Яна адкрыла твар. Па сцежцы да дома ішла дзяўчына, вяла за вуха Максімку, ды яшчэ падштурхоўвала яго ў спіну.

Гусця падхапілася і пабегла.

## 4

Няйначай ад бабулiных лекаў Сяргей Іванавіч як заснуў, так і спаў дасюль моцным, неабудным сном. Сонца ўзышло і паднялося над лесам, пастаяла ў зеніце, пакацілася сабе памалу на захад, а палкоўнік, на якога Кешка ўскладаў столькі надзей, усё спаў, быццам на свеце не было вайны, быццам фашысты не захапілі Веляшковічы.

Кешку з Данілкам і Лёвам надакучыла чакаць, калі ён нарэшце выспіцца. Так можна і вайну праспаць. А што, вельмі нават проста! Можа, чырвоныя байцы ўжо гоняць фашыстаў у іхнюю Нямеччыну. Прачнецца заўтра Кешка, а фашыстаў і след прастыў...

Яны ўтрох сядзелі на прызбе пад акном. Кешка праз кожныя хвілін пяць ускокваў, заглядваў у акно — можа, палкоўнік прачнуўся. Не. Спіць.

— Глянь, хто сюды бяжыць,— сказаў Данілка.

Кешка глянуў, падзівіўся.

— Гусця?.. Чаго яна?..

Ад стомы і моцнага хвалявання Гусця цяжка дыхала, шырока раскрываючы рот, як тая плотка, выцягнутая з вады. Па яе шчоках цяклі слёзы. Хлапчукі разгублена пазіралі на яе, чамусьці баючыся спытаць, чаго яна плача.

— Максімку схапілі,— нарэшце сказала Гусця.

— Ну-у! А што я казаў?.. Уцяклі з-пад расстрэлу і швэндаюцца па вуліцах, нібы нічога і не было...

Пры гэтым Кешка дужа выразна паглядзеў на Данілку. Той і без таго напалохаўся, бо гэтак жа, як і Кешка, падумаў, што Максімку пазнаў на вуліцы канваір.

— Дзе яго схапілі? — спытаўся Лёва, які заставаўся надзіва спакойны.

— На банкаўскім двары,— адказала Гусця.— Там цяпер радыёстанцыя.

— Так я і думаў,— сказаў Лёва.— І няма чаго табе, Кешка, выдумляць. Бачыш, што мы нарабілі?..

— Што нарабілі? — узлаваўся Кешка.

— А тое, што Максімка пайшоў даставаць батарэй-

кі... Дужа мне трэба было высоўвацца, каб Максімка трапіў да фашыстаў. І ты таксама добры.

Цяпер простая гэтая ісціна дайшла нарэшце і да Данілкі, і да Кешкі. Але яны пачалі нападаць на Гусцю.

— Хіба мы Максімку давалі заданне?

— Чаму сама не пайшла на батарэйкі?

Гусця зноў заплакала:

— Хлопчыкі, пра што вы? Цяпер трэба думаць, як выручыць Максімку. А вы!.. Як вам не сорамна?.. Нешта трэба рабіць, хлопчыкі.

— А ўжо нарабілі,— раптам пачуўся з-за вугла хаты бабулін голас.— Папругі на вас добрай няма...

Ад такой незаслужанай абразы Кешка аж не сцярпеў,

— Ніколі ад цябе, бабуля, не чакаў такога. Ты ж сама казала, што падслухоўваць брыдка.

Бабуля аднак анічуць не збянтэжылася.

— Скажы дзякуй, што падслухала,— сярдзіта адказала яна,— бо вы нарабілі б яшчэ якога глупства. А тут і так справа дужа сур'ёзная. Можа, ваш гэты сябар бог ведае чаго нагаварыў фашыстам...

— Няпраўда!.. Няпраўда! — горача запярэчыла Гусця.— Максімка зусім не такі, як вам здаецца...

Бабуля Ерафеіха толькі паківала галавой, але злосці ў яе паменшала.

— Э-э-э, унучачка,— самотна сказала яна,— на фашысцкіх допытах і не такія, як ваш Максімка, прызнаваліся ў тым і што рабілі, і чаго не рабілі. А Максімка — дзіця горкае. Будзем спадзявацца, што вытрымае катаванні. А калі не вытрымае?.. Тады гора нам усім. Таму слухайце, што я вам скажу. Разбягайцеся па хатах ды дзянькі тры не паказвайцеся на вуліцы. А калі што якое здарыцца, не прызнавайцеся, што бывалі ў нас, і пра Максімку нічога не гаварыце.

— Але ж несумленна Максімку кінуць цяпер, калі яму асабліва патрэбна наша дапамога,— запярэчыла Гусця.

— Яно, можа, і так,— пагадзілася бабуля,— але нічым вы Максімку не дапаможаце, а горш зрабіць — зробіце. Трэба, каб нехта з вас схадзіў да Максімкавай мамы, каб ведала, якое гора прыйшло да яе ў хату, ды добранька падумала, як сына з турмы выбавіць. Хай да камендканта сходзіць. Ды не з пустымі рукамі. Камендант, кажуць, дужа ласы на чужыя каўбасы. А цяпер бяжыце дамоў...

Нічога не зробіш — Данілка з Гусцяй адправіліся дамоў.

— Данілка,— звярнулася да яго Гусця,— мы не маем права пакідаць Максімку ў бядзе.

— Само сабой,— адказаў Данілка.

— Але як памагчы яму, Данілка?

— Можа, тваййго бацьку папрасіць? — падаў думку Данілка.— Ён жа некалі з Максімкавым бацькам дружыў...

— Я пагаварыла б, але раптам Кешка раззлуецца. А ў цябе няма знаёмага, які памог бы?

— Быў,— нявесела адгукнуўся Данілка.— Паліцэйскі адзін усё падбіваў разведаць, дзе партызаны. Казаў, што і сам партызан. А потым падносіў каменданту хлеб-соль.

— Ці не Зыль-Барадыль?

— Ён самы...

— Яго ты больш за ўсіх асцерагайся,— папярэдзіла Гусця.— Я сама чула, як ён тату расказваў, што начальнік паліцыі загадаў яму знайсці партызан. Лепей я з татам пагавару. Хай ён каменданта папросіць...

## 5

Як толькі Данілка з Гусцяй выйшлі з хаты, бабуля схапіла Кешку за вуха і так моцна закруціла, што яно ўраз пачырванела.

— Цяпер бачыш, што ты натварыў? — сварылася яна.— Усё пра пільнасць балбочаш, а сам вушы развесіў. Што цяпер з Сяргеем Іванавічам рабіць будзем? У хаце яму ні адной хвіліны заставацца нельга.

Канешне, Кешку было і крыўдна, і сорамна перад Лёвам, што бабуля гэтак непаважна яго асарамаціла — і за вуха накруціла, і насварылася. Але ён добра разумеў — бабуля на ўсе сто працэнтаў мае рацыю, як казаў іхні камдыў, таварыш Супрун.

— Можа, схаваем Сяргея Іванавіча ў Страхавым скляпенні,— падаў ён думку.

— Я нічога кепскага не хачу сказаць пра Максімку, але ён ведае Страхава скляпенне не горш за нас з табой,— нагадаў Кешку Лёва.

Бабуля аж пляснула ў далоні.

— Ах, каб вас!.. Усюды вы, дзе трэба і дзе не трэба, лезеце. Можа, і ў летапісцавай келлі пабывалі?

Кешка з Лёвам пераглянуліся. Пра летапісцаву келлю яны зроду не чулі.

— А дзе яна, тая келля? — спытаўся Кешка.

— Потым, Кеша, потым,— нецярпліва адмахнулася бабуля.— Няма часу бары растабарваць. Бяжы ў вазоўню ды выцягні цялежку, а я Сяргея Іванавіча падрыхтую.

Кешку двойчы загадваць не трэба. Хвіліны праз дзве цялежка на двух гумавых колах стаяла каля ганка. Цяпер засталося толькі вынесці з хаты Сяргея Іванавіча і адвезці ў бяспечнае месца — у загадкавую летапісцаву келлю.

Цікава, дзе яна? Няйначай недзе далекавата, калі спатрэбілася цялежка.

Бабуля ўзяла Сяргея Іванавіча пад пахі, Кешка з Лёвам за ногі. Хоць Сяргей Іванавіч быў дужа схуднелы — адна скура ды косці,— але ўсё адно несці чалавека, які так і не прыйшоў у прытомнасць, і цяжкавата, і нязручна. Кешка з Лёвам моцна саплі насамі, кракталі, як тыя старыя дзяды, але ж памаглі бабулі вынесці Сяргея Іванавіча на двор. Там яго паклалі на цялежку. Бабуля схадзіла ў хату, прынесла падушку, коўдру, вялізны, мабыць, яшчэ дзедаў, кажух.

— Вось што, дзеткі мае,— сказала яна Кешку з Лёвам,— станавіцеся па баках, падтрымлівайце, каб чалавек, крый божа, не зваліўся, а я ўпрагуся ў аглоблі.

Бабуля паплявала на далоні, памалу скранула цялежку з месца і пакіравала да форткі ў могільнікавай агародджы, якая знаходзілася амаль насупраць іхняй хаты. Ад гэтай форткі сцежка вяла толькі да пачарнелай ад даждждоў і слоты часоўні.

Во дзіва! Дзе-дзе, але там ніякай келлі не было. Можа, бабуля хоча схаваць Сяргея Іванавіча ў часоўні? Але ж у ёй няма ні дзвярэй, ні акон, ды і страхі, лічы, не засталося. Адны дзіркі.

Часоўню Кешка агледзеў у першую чаргу, калі застаўся ў бабулі. У ёй ляжалі крыжы, што падалі на могілках ад старасці, і сякі-такі рыштунак, каб не цягаць яго з мястэчка, калі каму трэба выкапаць яму, паправіць магілу або паставіць новы крыж ці помнік. Больш нічога цікавага ў часоўні не было. Знадворку, праўда, да часоўні ўшчыльную прымыкала таўшчэзная сцяна, якая падпірала часоўню.

Ля сцяны яшчэ ляпіліся тры каменныя крыжы, пастаўленыя на магілах братоў Крайскіх, якія жылі ў Пецярбургу, але паміраць чамусьці прыязджалі ў Веляшковічы. Гэтыя браты Крайскія збіралі і запісвалі ў ваколіцах Веляшковіч розныя паданні, старыя песні, прымаўкі

і выслоўі, малявалі запаветныя мясціны, выразалі з дрэў дзіўныя рэчы ў самых глухіх закутках Данькаўскага лесу.

З таго часу, як памерлі браты Крайскія, прайшло, можа, гадоў пяцьдзесят, а да самай вайны ў Данькаўскім лесе, казалі, знаходзілі іхнія выразанкі. Пад кручай глыбокага рова, сярод кустоў крушыны і маліннiку, перад вачамі раптам паўставала маладая русалка з распушчанымі валасамі; на краі балотнай азярыны, дзе па зямлі слаўся вербалоз, нехта бачыў драўлянага пачварнага лесуна, які хадзіў у госці да вадзяного; а з вяршаліны старога дуба цікаваў за ўсім, што робіцца на зямлі, дзівосны птах.

Старыя людзі расказвалі, што і сцяну ля часоўні ўзвялі Крайскія. Але бабуля на Кешкава пытанне, ці праўда гэта, адказвала коратка і выразна: мана.

Кешка яшчэ раз акінуў вокам часоўню, якая была ўжо відаць між ствалоў дрэў, падумаў: «Мабыць, бабуля так сабе ўспомніла летапісцаву келлю, бо ў гэтым закутку могілак ніякай келлі няма і не можа быць».

Тым часам бабуля падкаціла цялежку да ганка з трох прыступак, што вялі ў часоўню. Кешка вельмі здзівіўся, раней дзвярэй у часоўні не было, а цяпер і, мусіць, зусім нядаўна паявіліся. Затое старыя, спарахнелыя крыжы, што некалі тут валяліся, кудысьці зніклі. Рыштунак аднак застаўся. У кутку злева ляжалі ламы і рыдлёўкі, дзве сякеры, вязка вяровак, а ў скрыні малаткі, абцугі, кельма і яшчэ розная дробязь. Сярод капліцы стаяў столік на трох ножках, на ім ляжаў вялікаваты, жалезны, пафарбаваны чорнай фарбай крыж. І яшчэ Кешку кінулася ў вочы адна перамена. Сцяна насупраць дзвярэй нагадвала вечка куфра — уздоўж і ўпоперак яе апярэзвалі металічныя стужкі на заклёпках, да іх невядома дзеля чаго мацаваліся два латунныя шары, над якімі шчэрылі зяпы казачныя істоты — дык вось на гэтай сцяне цяпер віселі тры закураныя іконы ў простых рамках, але пад шклом.

На здзіўленне Кешкі і Лёвы, бабуля выцягнула з кішэні вялізны ключ, сунула яго ў зяпу той пачвары, што сядзела над латуннымі шарамі, і тройчы павярнула яго. Потым яна зняла адну з ікон, павярнула латунны шар, і адразу на тым месцы, дзе вісела ікона, утварылася квадратная адтуліна. Бабуля сунула руку ў адтуліну — нешта жалезнае ляснула, заскрыгатала, нібы хто правёў рашпілем па патэльні.

— А цяпер, дзеткі мае, памажыце адчыніць дзверы,— папрасіла яна Кешку з Лёвам.

Утраіх яны ўзяліся за латунныя шары, і дзверы, хоць і неахвотна, адкрылі вачам каменны схіл сцяны і крутаваты спуск у падзямелле. Злева ад увахода ў падзямелле, у нішы, схаванай ад цікаўных вачэй, стаяў ліхтар «лятучая мыш». Бабуля запаліла яго.

— Пойдзем цяпер па хворага,— сказала яна.

## 6

Максімку завязалі вочы. Нехта ўзяў яго за правую руку, яшчэ хтосьці — за левую. Павялі.

Куды? Можа, у сакрэтную турму — Максімка недзе чытаў, што такія турмы ёсць на белым свеце,— а можа, на расстрэл. Перад расстрэлам — Максімка ведаў пра гэта таксама з кніг — асуджаным заўсёды завязваюць вочы.

Расстрэлу Максімка не баяўся. Чаго яго баяцца, калі ёсць верныя сябры. А ва ўсіх кнігах пішацца і ва ўсіх фільмах паказваецца, што верныя сябры прыходзяць на выручку ў самую апошнюю хвіліну, не трэба толькі губляць надзею. Максімка надзею не губляў, верыў — сябры нешта прыдумаюць.

Спалохаўся Максімка толькі тады, у фургоне, калі раптам пачуў за спіной чужы голас, азірнуўся і ўбачыў перад тварам ствол парабелума — фашысцкага пісталета.

Каб не гэты парабелум, дык Максімка кінуўся б пад ногі жанчыне, што трымала пісталет, і — шукай ветру ў полі. Але ад кулі далёка не ўцячэш. З ёй жартачкі дрэнныя.

Таму Максімка не стаў уцякаць. Ён асуджана падумаў: «Папаўся» — і адчуў, як пахаладзела пад лыжачкай, а ў жываце нешта балюча забурчэла.

— Ком, ком,— паманіла яго пальцам жанчына, але парабелума не апусціла.— Хадзі сюды, хлопчык...

Максімка зрабіў тры нясмелыя крокі. Дзяўчына схапіла яго за вуха. У Максімкі адразу прапаў страх. Падумаеш, хай сабе круціць вуха. Яму, Максімку, не прывыкаць. Ці мала яго круцілі за вушы родныя сёстры. Выцерпеў! І цяпер выцерпіць.

Канваіры спачатку цягнулі яго па сходках угору, затым — уніз. Максімку здалося, што сходкі апускаліся глыбока пад зямлю.

Нарэшце канваіры спыніліся. Развязалі Максімку вочы. Па іх балюча секанула яркае святло. Максімка вытрымаў сляпучую віднату, азірнуўся.

Пасярод пакоя стаяла крэсла з высокай пазалочанай спінкай. На ім, скрыжаваўшы рукі на грудзях, сядзеў мажны мужчына з лысай галавой, вялізнымі вушамі і сінімі жорсткімі вачамі. За ягонай спіной ярка гарэлі тоўстыя свечкі. Агонь свечак адбіваўся ад люстэрка, што стаяла за свечкамі, сек па вачах Максімку.

— Як цябе зваць, хлопчык? — спытаўся лысы.

— Максімка... Савік...

— А мяне — Крэсендорф... Фрыц Крэсендорф,— сказаў чалавек у пазалочаным крэсле.— Я — начальнік паліцыі і СД Веляшковіцкай акругі.

Максімка адразу здагадаўся, што гэта той самы Крэсендорф, пра якога казала Гусця і які загадаў Гусцінай мачасе знайсці падпольшчыкаў. «Ну і страшыдла,— падумаў Максімка.— Агіднае страшыдла!..»

Крэсендорф працягнуў руку, чамусьці пстрыкнуў пальцамі.

«Можа, ён да ўсяго яшчэ і вар'ят»,— зноў падумаў Максімка. Але тут з-за Максімкавай спіны вынырнуў сыценькі, нізенькі, кругленькі чалавечак у чорным гарнітуры. Ён падаў начальніку паліцыі бакал з шапкай пены і залацістай вадкасцю пад ёю. Крэсендорф паднёс да рота і падміргнуў Максімку.

«Мусіць, гэты начальнік неблагі дзядзька,— трэці раз падумаў Максімка.— Ён таму і падміргнуў мне, што хоча адпусціць дамоў. І правільна, хопіць таго, што тая фашыстка накруціла мяне за вушы...»

Крэсендорф дапіў бакал, аддаў таму ж сыценькаму фашысту.

— Дык вось, Максімка,— сказаў ён,— мы з табой і пазнаёміліся. А цяпер за справу. Я спадзяюся, што ты хлопчык разумны, кемлівы, а таму не станеш хлусіць. І ўсё ж давай адразу дамовімся. Калі ты будзеш гаварыць праўду, я пачастую цябе цукеркай, а калі няпраўду — бізуном.

Максімка аж пакрыўдзіўся.

— Я ніколі і нікому не хлусіў,— з годнасцю адказаў ён.

Хацеў яшчэ дадаць, што піянеры наогул ніколі не хлусяць, але падумаў, што не варта, бо начальнік паліцыі, можа, ніколі не чуў пра піянераў.

— Брава! Брава! — двойчы пляснуў у далоні Крэсендорф, адабраючы Максімкаву заяву.— Вось ты і дакажаш гэтую сваю сумленнасць. Я буду пытаць у цябе, а ты адказваць на мае пытанні хутка, не задумваючыся і праўдзіва.

Максімка ў знак згоды кіўнуў галавой.

— Добра...

— Тады пачалі,— сказаў Крэсендорф.— Чаго ты забраўся ў фургон.

— Мне патрэбна была батарэйка,— не задумваючыся, адказаў Максімка.

Мабыць, Крэсендорф не чакаў такога адказу. У яго-ных жорсткіх вачах адбілася здзіўленне.

— А навошта табе спатрэбілася батарэйка?

— Бо мой ліхтарык перастаў свяціць,— зноў жа, не задумваючыся, адказаў Максімка і тым самым зусім збянтэжыў Крэсендорфа.

— Які ліхтарык?

Максімка выцягнуў з кішэні ліхтарык — бляшаначку з круглай адтулінай для лінзы. Некалі гэтая бляшаначка сапраўды была ліхтарыкам, але яшчэ да вайны перастала ім быць. Максімку яна служыла капілкай.

Крэсендорф адчыніў покрыўку, на падлогу пасыпаліся манеткі.

— Гэта і ёсць ліхтарык? — сярдзіта спытаў Крэсендорф.— Ах ты, нягодны хлапчук!..

Крэсендорф выхапіў з-пад сябе бізун, балюча, не разбіраючы па чым, сekануў Максімку.

Той не паспеў нават спалохацца, пачуў толькі, як апякло плячо і спіну, аж зрабілася млосна.

— Хто паслаў цябе красці батарэйкі? — пачырванеўшы ад злосці, закрычаў Крэсендорф.

— Ніхто...

Крэсендорф зноў выцяў Максімку бізуном.

— Ты будзеш гаварыць праўду, ці я засяку цябе,— начальнік паліцыі схапіў Максімку за каўнер, прыўзняў адной рукой.— Кажы, а не, дык задушу...

— Я кажу праўду,— не здаваўся Максімка.

— Усыпаць яму як след,— загадаў Крэсендорф.

Нехта ўвайшоў у пакой, сказаў:

— Пан гаўптштурмфюрэр, вас просіць да тэлефона пан камендант...

— Пачакайце мяне,— сказаў Крэсендорф і выйшаў.

Вярнуўся ён, можа, хвілін праз дваццаць.

— Дайце яму пяць бізуноў і хай ідзе дамоў,— загадаў ён сыценькаму фашысту.

## 7

Данілка і так і гэтак прымерваўся, як бы выручыць Максімку. У галаву лезла рознае глупства, і нічога талковага. Ды і што прыдумаеш, калі Данілка не ведаў нават, дзе зараз Максімка і што з ім. Можа, няма ўжо сярод жывых.

Найперш за ўсё Данілку, вядома, трэба было пайсці да цёткі Хрысціны. Хто ж раскажа ёй, у якую бяду трапіў Максімка? Ды і Кешкава бабуля раіла схадзіць да Максімкавай мамы. Але на гэтую, здавалася б, самую простую справу ў Данілкі не хапала смеласці.

Данілка ўяўляў, як загалосіць Максімкава мама, цётка Хрысціна, як заплачуць Максімкавы сёстры, калі пачуюць, што Максімку схапілі фашысты. Данілка не цярпеў чужых слёз. Сам ён не плакаў ніколі.

Здаецца, каб быў у яго поўны мех золата, не пашкадаваў бы таму, хто сходзіць да цёткі Хрысціны з сумнай весткай пра Максімку. Золата ў Данілкі не было з роду. Хочаш ці не хочаш, а ісці да цёткі Хрысціны трэба самому.

Толькі Данілка адважыўся пайсці, як на парозе, няпрошаны, узнік Зыль-Барадыль.

— Здароў, Даніла,— яшчэ не зачыніўшы дзвярэй, павітаўся паліцэйскі.— Сто гадоў цябе не бачыў! Дай, думаю, зазірну... Ну, як жывеш-маешся? Пра што марыш, на што спадзяешся?..

Зыль-Барадыль, весела жартуючы, скінуў з пляча вінтоўку, паставіў у качарэжнік.

Данілка ў адказ на прывітанне невыразна прамармытаў ці то «здароў быў», ці то «пайшоў да д'ябла». Не хацелася адразу кідацца з паліцэйскім у рожкі.

З таго дня, калі Зыль-Барадыль падносіў фашысцкаму каменданту хлеб-соль, Данілка перахрысціў іхнюю кароткую дружбу вялізным чорным крыжам. Сёння Гусця толькі нагадала, што Зыль-Барадыль прадаўся фашыстам канчаткова.

Зыль-Барадыль, відаць, зусім не здагадваўся пра Данілкавы адносіны да яго. Ён прайшоў да стала, сеў на лаўку, дастаў з кішэні шакаладку, паклаў на стол.

— Табе,— растлумачыў ён Данілку.— Бяры. Кажуць, дужа карысны для здароўя прадукт.

— Нямецкі? — падказаў Данілка.

— Французскі,— удакладніў Зыль-Барадыль.— Немцы ў французаў спёрлі, а я ў іх. Вока за вока, зуб за зуб, як кажуць святыя ўгоднікі і грэшныя зладзеі.

Зыль-Барадыль весела зарагатаў. Данілка, аднак, Зылевай весялосці не падтрымаў.

— Ай-яй-яй,— скрушліва паківаў галавой Зыль-Барадыль.— Ай-яй-яй, Даніла, Даніла, якія мы з табой лапухі!..

— Чаму?..

— А таму, што канчаецца на «у»,— пажартаваў Зыль-Барадыль.— Справа вельмі адказная... Не ведаю, сказаць ці прамаўчаць?.. Во задача!.. Во красворд!..

Данілка адразу здагадаўся, што Зыль-Барадыль зноў павядзе гаворку пра партызан і падпольшчыкаў. Стане прыспешваць яго, Данілку, каб хутчэй знаходзіў іх. І ў Данілкавай галаве пачаў выспяваць дзёрзкі план, не дужа, праўда, акрэслены, але затое спакуслівы.

— Я з матэматыкай не вельмі дружыў, таму задачы рашаць не ўмею. А красворды наогул ніколі не разгадваў. Так што кажы, чаму мы лапухі?

Зыль-Барадыль азірнуўся, паглядзеў у акно, махнуў рукой:

— Партызаны ў Данькаўскім лесе. Во!..

— Ну, і...

— А тое, Данілка, што трэба ісці ў лес неадкладна, але спачатку нарабіць грукату ў Веляшковічах.

— А кажаш, лапухі,— сказаў Данілка.

— Ну, так,— не здаваўся Зыль-Барадыль.— Чырвонае войска разбіла фашыстаў пад Смаленскам. З дня на дзень тут будзе. Зразумеў цяпер?.. Даўно трэба было ў лес ісці. А ты нешта марудзіў... Эх ты, разведчык!..

Вестка ўразіла Данілку. Нарэшце настала жаданая пара. Цяпер і Максімку нічога не пагражае. Ад Смаленска да Веляшковіч, можа, кіламетраў дзевяноста. Калі на танках, дык чырвонае войска якраз заўтра падаспее ў Веляшковічы.

— Зылёў, а з кім ты хочаш нарабіць грукату? — спытаў Данілка.

Зыль-Барадыль спачатку разгубіўся, але тут жа асвойтаўся, зарагатаў.

— Ну і малайчына!.. Проста пракурор!.. На кожным

слове ловіць!.. Нікуды ад яго не схаваешся, нідзе не дзенешся... У мяне вока вострае. Я адразу скеміў, што ты за хлопец, што ты за малоец... Слухай цяпер, што я табе скажу... Запамінай, на вус матай, але язык за зубамі трымай так моцна, каб яго адтуль ні шылам, ні мылам не выцягнуць... Барані божа, прагаворышся — на сябе наракай. Ёсць табе, Даніла, заданне найвялікшай адказнасці.

— Кажы, не дражніся,— падагнаў Зыля-Барадыля Данілка.

— Я цябе, Данілка, падкіну да Данькаўскага лесу, а ты пашукаеш у ім партызан. Інструкцыі пасля атрымаеш, як дасі згоду. А што ты яе дасі, дык я таксама ўпэўнены.

— Ну, вядома, дам,— сказаў Данілка, бясконца радуючыся, што Зыль-Барадыль сам ідзе насустрач ягонаму дзёрзкаму плану.— Толькі, Зыль, ты так і не адказаў на маё пытанне, з кім хочаш нарабіць грукату, а потым пайсці ў Данькаўскі лес?

Зыль-Барадыль злосна нахмурыўся.

— А табе гэта навошта?.. Можа, гэта найвялікшая тайна... Можа, гэта канспірацыя...

— А вось гэта, Зыль, несумленна,— сказаў Данілка.— Або ты мне поўнасцю давяраеш, або будзь здароў, шукай дурняў на другой вуліцы...

Данілка зрабіў выгляд, што хоча пайсці з хаты, і Зыль-Барадыль не на жарт спалохаўся.

— Дзівак-чалавек,— схапіў ён Данілку за руку,— не магу я табе зараз усяго сказаць. Ці мала што можа здарыцца. Людзей адказных падвядзём. Адно скажу: ёсць у нас баявая група... Болей — ні-ні!.. Хоць агнём палі — не скажу...

— І бургамістр у вашай групе? — спытаў Данілка.

— Бургамістр? — разгублена спытаў Зыль-Барадыль.— Бургамістр?.. А ты чаму спытаў пра бургамістра?..

— Думаў, і ён у вашай групе!..

— Іш ты! — хмыкнуў Зыль-Барадыль, узважваючы сказанае Данілкам.— Ну і разведчык!.. Ну і следчы!.. І як ты здагадаўся?.. Ніякіх для цябе канспірацый...

— Нічога дзіўнага,— адказаў Данілка, разыгрываючы з сябе гэтакага прасцячка.— Гэта ж ён перадаў Грома партызанам...

Зыль-Барадыль ледзь не захлынуўся ад нечаканай радасці.

— Хлусіш?! — не стрымаўся ён.

— Абуў Грома ў валёнкі, вывеў з двара. А халявы ад валёнак закапаў у агародзе... За хлеўчуком... Пад дзічкай...

Зыль-Барадыль узрадавана пацёр рукі.

— Ну і малайчына!.. Ды табе, як разведчыку, цаны няма!.. Толькі ты, Даніла, вось што... Пра гэта — ні-ні!..

— Само сабой, Зылёў,— паабяцаў Данілка.— А калі трэба ў Данькаўскі лес ехаць?.. Я хоць зараз гатоў...

— Скажу... Скажу, Даніла!.. Чакай і маўчы... Галоўнае, маўчы...

Зыль-Барадыль схапіў Данілкаву руку, пацiснуў і пабег.

«Клюнуў»,— усміхнуўся Данілка.

## Прысяга

### 1

Веляшковіцкая акруга спрадвеку славілася майстрамі-ўмельцамі. Тут і печы клалі адмысловыя, а з гліны і дрэва майстравалі такія рэчы, што не толькі ў Віцебску і Смаленску знаходзілі попыт, а ў самой Маскве і нават у Парыжы.

А якія брычкі кавалі ў Веляшковічах! Лёгкія, зграбныя, з прыгожымі выразанымі загагулінамі, лакіраванымі закрылкамі і сядзеннямі. Якую збрую шорнічалі! Узорыстую, з накладной аздобай і вязанымі кутасамі. Якія посцілкі ды ручнікі ткалі! Заглядзенне! Любата!..

Ды ці толькі гэтым славіліся веляшкоўцы! Рэдкая хата ў мястэчку не аздаблялася разьбой, не распісвалася ўзорамі. На што ўжо калодзеж — будзённая з'ява,— дык і той веляшкоўцы вянчалі такім зрубам, такой покрыўкай, што стаяў бы ды глядзеў на яго. Вачэй не адарваць!..

Жыў некалі ў Веляшковічах каваль Анціпа. Залатыя рукі былі ў чалавека. За што ні браўся, рабіў трывала, прыгожа і з густам. Яшчэ дасюль па Веляшковічах хапае ягоных вырабаў. Бывала, стукне-грукне разы тры — глядзіш, гатова чапяла. Не патэльню ёю з агню даставаць, а пакласці на покут і любавацца з раніцы да вечара. А якія вілы рабіў Анціпа!.. Якія сцізорыкі выкоўваў!.. Бывала, наварыць лямех, дык яму і зносу няма.

Дык вось гэты самы Анціпа пабудаваў у Веляшковічах на Пярэспе вятрак. Кажуць, на свеце да гэтай пары было

ўсяго сем цудаў. Анціпаў вятрак стаў восьмым цудам і, можа, самым адметным.

Найперш таму, што Анціпа зрабіў млын без аніводнага цвіка, без аніводнай металічнай скабы ці шасцяронкі. І бэлькі, і сцены, і махавыя колы, і розныя там падшыпнікі, і зубчатыя перадачы,— усё было выстругана з дрэва. Жорны і тыя з дрэва, толькі каменьчыкамі падбітыя.

Але не толькі гэта ўражвала. Анціпаў млын-вятрак не меў звычных для такіх ветракоў крылаў. На вялізным вале мацаваліся два колы з мноствам лопасцей. Яны і круцілі жорны. Здалёк вятрак быў падобны на цялежкудвухколку, якая каціласа па небе.

У гэтым Анціпавым млыне і сабраў Кешка сяброў, каб прыняць прысягу.

Па стромкай лесвіцы яны падняліся на трэці паверх, дзе некалі засыпалі зерне ў драўляны коўш. Тут стаяла разна́я шафка, у якой Анціпа трымаў запісы, хто і колькі прывёз на мліва зерня.

Кешка загадаў сябрам сесці на шырокую лаўку, а сам стаў за шафку. Ён быў вельмі падобны на фокусніка-ілюзіяніста Бен-Бахара, які перад самай вайной выступаў у Веляшковічах.

Фокуснік той даў усяго два спектаклі: дзённы, для дзяцей, са скідкай на білеты аж на пяцьдзесят працэнтаў, і вячэрні, для дарослых, без скідкі, але таксама недарагі, а гаворак і спрэчак было на тры тыдні. Асабліва сярод вучняў.

Адны казалі, што фокуснік-ілюзіяніст — ашуканец, спрытнюга, дзялок, а можа, і таго горай. Другія ж, наадварот, абаранялі артыста, сцвярджаючы, што Бен-Бахар пражыў аж дзесяць гадоў у індыйскай пячоры без ежы і вады, чытаючы дванаццаць гадзін у суткі кнігі па чорнай і белай магіі. Таму і навучыўся ператвараць ваду ў віно, звычайныя паперкі — у чырвонцы, здабываць агонь без запалак, глытаць доўгія шпагі і перакусваць тоўстыя цвікі.

Каб не пачалася вайна, дык веляшковіцкія хлапчукі і дасюль бы спрачаліся, хто ж такі на самай справе фокуснік-ілюзіяніст Бен-Бахар?

Дык вось і Кешка, нібы той фокуснік, стаяў за шафай і невядома адкуль, з якіх патаемных сховішчаў, вывуджваў самыя розныя рэчы.

Спачатку Кешка паставіў на шафку чарніліцу-невылівайку, але не такую шкляную, з зеленаватага шкла, якія

стаялі на школьных партах, а шырокую, фарфоравую, з дзвюма сіненькімі кветачкамі, якую чамусьці не дазвалялі насіць у школу.

Потым на шафцы апынулася ручка з пяром «Рандо», зноў жа не звычайная школьная, а адмысловая, у выглядзе гусінага пяра, з пазалочаным абадком і забароненым для школьнікаў пяром — марай усіх хлапчукоў.

Затым Кешка паклаў на шафку сшытак. Сшытак быў звычайны, школьны. І ўсё-такі не зусім звычайны. Яго вокладка пярэсціла яркімі малюнкамі ўсіх відаў войск Чырвонай Арміі.

Апошнім з шафкі Кешка выцягнуў вялікаваты пакунак, загорнуты ў белую анучку, перавязаны суравой ніткай.

Усё гэта Кешка рабіў моўчкі, засяроджана, але ўрачыста і таму крыху таямніча. Данілка, Максімка, Лёва і Гусця, якія затаіўшы дыханне сачылі за Кешкам, аж прыўзняліся з лаўкі, каб лепей разгледзець, што за пакунак дастаў Кешка.

Кешка мог бы і сказаць, што ў тым пакунку, але ён няйначай важнічаў, задаваўся, як той шляхціц, у якога задужа многа гонару і замала клёку. Канечне, Кешка не шляхціц. Кешка адзіны сярод веляшковіцкіх хлопцаў ведае, як у Чырвонай Арміі прымаюць прысягу, бо адзін Кешка бываў на гэтай цырымоніі.

Не спяшаючыся, Кешка дастаў з кішэні сцізорык з мноствам ножычкаў, адвёртак, пілачак і іншых прылад, разрэзаў суравую нітку.

Пад белай анучкай аказалася яшчэ адна — палатняная, а пад ёю нешта чырвонае з залатымі кутасамі. Кешка ўзяў гэтае чырвонае, страсянуў і... усе аж ахнулі ад здзіўлення. У Кешкавых руках палымнеў чырвоны сцяг з залатой зоркай, гербам Савецкага Саюза і залатым надпісам вакол яго: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!»

— Лёва, падай мне вунь тую жэрдку,— папрасіў Кешка Лёву.

Удвух яны прымацавалі сцяг да жэрдкі, а жэрдку да шафкі.

— Цяпер будзем прымаць прысягу,— сказаў Кешка і ўжо зусім па-вайсковаму скамандаваў: «Да прыняцця прысягі на вернасць Сацыялістычнай Айчыне прашу пастроіцца...»

Данілка, Лёва, Максімка і Гусця сталі ў шарэнгу. Кешка ўзяў са стала сшытак, разгарнуў.

— Зараз я буду чытаць тэкст прысягі, а вы паўтарайце за мной... Слова ў слова... Потым кожны з вас распішацца пад прысягай,— Кешка кашлянуў у кулак, не спяшаючыся, выразна вымаўляючы кожнае слова, стаў чытаць напісаную ім самім прысягу. Той, армейскай, якую прымалі ў войску, у яго не было: — «Я, грамадзянін Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, уступаючы ў рады чырвоных партызан, клянуся, не шкадуючы жывата свайго, змагацца з ненавісным ворагам, які топча нашу свяшчэнную зямлю. Я буду смелым, мужным, дысцыплінаваным у гэтай барацьбе. Буду свядома выконваць загады маіх камандзіраў. Калі ж я спалохаюся або здраджу, няхай агульная пагарда народа будзе мне страшнай карай».

Дачытаўшы прысягу да канца, Кешка ўзяў пяро, распісаўся пад прысягай: Інакенцій Лістападзенка. Потым Кешка падышоў да сцяга, стаў на калені, пацалаваў край сцяга.

— Цяпер твая чарга, Даніла Чупрынец,— сказаў ён.

Па-вайсковаму грукаючы пяткамі аб падлогу, Данілка падышоў да шафкі, старанна вывеў подпіс: Чупрынец Даніла Захаравіч, і таксама пацалаваў краёчак сцяга. За ім і астатнія замацавалі прысягу подпісамі і цалаваннем сцяга.

— Цяпер я нешта вам пакажу,— таямніча сказаў Кешка.

— Чакай, Кешка,— перапыніў яго Максімка.— Скажы, ты нічога не наблытаў, калі чытаў прысягу?.. Чаму мы павінны былі клясціся, што не пашкадуем жывата, а не галавы?.. Ва ўсіх кнігах пішацца, што героі не шкадуюць галавы або жыцця. А ты чытаў «не пашкадуем жывата...».

Знянацку зададзенае пытанне збянтэжыла не толькі Кешку.

— Чаму? Чаму? — разгублена сказаў ён.— Я сам чуў, як гаварылася ў прысязе.

— Можа, дзе і гаварылася, але нам лепей бы пакляcціся, што не шкадуем галавы,— упарціўся Максімка.— Галава важней за жывот.

— Годзе вам,— спыніў іхнюю спрэчку Данілка.— Ты, Кешка, нешта хацеў паказаць?..

Кешка вельмі ўзрадаваўся, што Данілка выручыў яго. Ён пачынаў сумнявацца: можа, і праўда памыліўся.

— Цяпер пойдзем на могілкі,— аб'явіў Кешка.

## 2

Зылю-Барадылю пашанцавала.

Не, не адразу.

Спачатку ён падумаў, што Данілка яго ашукаў. Ад Данілкі чаго хочаш можна дачакацца.

Аж не. Зыль-Барадыль капнуў сапёрскай рыдлёўкай бліжэй да хлява і пачуў, як яна наткнулася на нешта мяккае. Засунуў руку, выцягнуў адну за адной чатыры халявы ад валёнак. Двое чорных шырокіх — Клемавых. Зыль-Барадыль сам бачыў у Клема валёнкі з такімі халявамі. Двое халяў былі белыя, вузкія. Няйначай нябожчыцы Клеміхі.

«Ага,— сказаў у думках Зыль-Барадыль,— папаўся, пан бургамістр! Цяпер не я, а ты будзеш вісець на шыбеніцы. Дзе табе і належыць быць...»

Зыль-Барадыль не тое што не любіў Клема, ён усёй душой ненавідзеў яго. І за тое, што Клем вучоны, інжынер, а ён, Зыль-Барадыль, навучыўся толькі распісвацца ды чытаць. І за тое, што Клем пагарджае ім. А чаго пагарджаць? Абое рабое. Абодва служаць аднаму богу — фашыстам.

Зыль-Барадыль акуратна загарнуў халявы ў анучу і пашыбаваў да начальніка паліцыі пана Крэсендорфа.

«Цікава,— думаў па дарозе Зыль-Барадыль,— колькі заплаціць мне Крэсендорф?.. Грошы іхнія мне непатрэбны. Што за іх можна купіць? Дзірку ад абаранка?.. Хай гэтую дзірку сам Крэсендорф спажывае з усёй ягонай фашысцкай зграяй».

Перад кабінетам Крэсендорфа — даволі вялікаватая прыёмная. У ёй за сталом сядзеў шарфюрэр Хенрык Шцюк — дзяжурыў.

Шарфюрэр, як і належыць малодшаму фюрэру, піў сырыя яйкі, якія ляжалі перад ім на стале ў пілотцы.

— Гутэн таг!.. Добры дзень!.. Прыемнага апетыту пану,— павітаўся Зыль-Барадыль, пры гэтым падумаўшы: «Каб ты, паразіт няшчасны, падавіўся гэтымі яйкамі».

Шарфюрэр Шцюк дасмактаў яйка, выкінуў шкарлупіну за акно і толькі пасля гэтага скоса паглядзеў на Зыля-Барадыля. Шарфюрэр хоць бы і хацеў паглядзець не скоса, ды ніяк не мог. Па-першае, у пана Шцюка былі рознакаляровыя вочы. Адно ярка-блакітнае, другое — жоўтае, з сінім абадком. Па-другое, адно ягонае вока глядзела налева і ўніз, а другое тым часам направа і ўверх.

— Ты ёсць — швайн... паганая свіння,— замест падзякі сказаў шарфюрэр.— Ты хіба не бачыш, што я заняты?.. Ці, можа, ты дрэнна бачыш?.. Дык я магу прыпаяць на твой дурны лоб дзве фары.

Зыль-Барадыль зрабіў выгляд, што нічога дрэннага не пачуў.

— Ты вось што, Генрых,— нахабна пазіраючы шарфюрэру ў рознакаляровыя, касыя вочы, сказаў ён,— хуценька далажы пану гаўптштурмфюрэру, што так, маўляў, і так, па вельмі важнай справе прыйшоў старшы паліцэйскі пан Зылёў. Фарштэйн?.. Ага, зразумеў, значыцца... Зэер гут, пан шарфюрэр.

Хенрык Шцюк раптам ускочыў, як падсмалены, ускінуў руку над галавой.

— Хайль Гітлер! — гаркнуў ён.

Цяпер толькі Зыль-Барадыль зразумеў, што шарфюрэр ускочыў не таму, што спалохаўся ягонага нахабства. У прыёмнай стаяў камендант Веляшковіцкай акругі Ляпке.

Не адказаўшы на вітанне шарфюрэра, Ляпке тыцнуў рукой у бок Зыля-Барадыля, спалохана спытаў:

— Вас іст дас?.. Што гэта?..

Зыль-Барадыль адразу скеміў, што каменданта напалохаў ягоны пакунак з халявамі. Мабыць, камендант падумаў, што Зыль-Барадыль трымае пад пахай бомбу.

— А-а-а!.. Гэта, пан камендант, рэчавы доказ...

— Які доказ?.. Чаго доказ?..

— Доказ таго, што я выявіў, хто кіруе партызанскім падполлем. Хто ўкраў каня, пан камендант, якога падаравала вам удзячнае насельніцтва мястэчка Веляшковіч.

— Ты ведаеш, хто ёсць галоўны бандыт?..

— А як жа, пан камендант... Таму і прыйшоў сюды...

Не паспеў Зыль-Барадыль апамятацца, як Ляпке штурхнуў яго да дзвярэй гаўптштурмфюрэра.

— Гаўптштурмфюрэр,— з парога закрычаў камендант,— вы шукаеце бандытаў, а пан Зылёў-Барадылёў сядзіць у вашай прыёмнай і не можа дачакацца, калі вы яго прымеце. Гэтак мы ніколі не ачысцім акругу ад бандытаў і бальшавікоў.

Такая вымова, вядома, прыйшлася не па нутру пану Крэсендорфу. Ён уперыў жорсткія сінія вочы ў паліцэйскага, нібы той удаў, які хоча праглынуць труса.

— Я даваў яму заданне,— сказаў Крэсендорф.— Ну?..

Пакуль што для Зыля-Барадыля ўсё ішло як нале-

жыць. Таму ён вырашыў паказаць сваю незалежнасць. Не мітусіцца, рабіць усё спакваля, як чалавек, які добра ведае сабе цану. Ён памалу разгортваў пакунак, а калі разгарнуў, уважліва паглядзеў на начальства. Якое зрабіў на іх уражанне?

Уражанне было самае непрадбачанае.

Пан камендант расчаравана плюнуў, а пан начальнік паліцыі і СД раптам размахнуўся і з усяе сілы заехаў Зылю-Барадылю ў вуха. Ды так моцна, што той, хапаючыся рукамі за паветра, адляцеў да сцяны.

— Пан гаў... гаўфюрэр... Пан гаў... гаўфюрэр,— заікаючыся, стаў прасіцца Зыль-Барадыль.— Дазвольце, за што?.. Па вашаму загаду я знайшоў партызанскага кіраўніка. А халявы — рэчавы доказ.

Крэсендорф схапіў Зыля-Барадыля за каўнер, паставіў на ногі.

— Хто ён?

Зыль-Барадыль не стаў другі раз дражніць свой лёс.

— Клем... Бургамістр Клем...

Цяпер камендант аплявушыў Зыля-Барадыля.

— Паны, злітуйцеся,— застагнаў паліцэйскі.— Я не ведаю, што трэба гаварыць.

— Будзеш адказваць на мае пытанні хутка, не задумваючыся і праўдзіва,— загадаў Крэсендорф.

— Буду,— пагадзіўся Зыль-Барадыль, забыўшыся на плату, якую чакаў атрымаць.— Дайце толькі глыток вады.

## 3

Кешка прывёў іх у той самы вузкі, абкладзены камянямі, з мноствам нішаў калідор, дзе стаялі саркафагі паноў Струмецкіх.

— Пасвяці,— перадаў Кешка ліхтарык Лёву.

— Што ты будзеш рабіць? — спытала Гусця, са страхам пазіраючы, як Кешка ідзе да чорнай труны аднаго з паноў Струмецкіх.

— Зараз убачыш,— зухавата адказаў Кешка і стаў падымаць покрыўку труны.

Максімка з Гусцяй і нават Данілка спадзяваліся ўбачыць у труне нешта страшнае, можа, нават жудаснае — адзін Лёва нічога не чакаў убачыць: дужа яму патрэбна загадзя ламаць галаву,— але тое, што яны ўбачылі, вельмі ўразіла дзяцей.

— От гэта здорава! — не стрымаўся Данілка.

— Цэлы склад,— выказаў сваё захапленне Максімка.

— Не склад, а арсенал,— удакладніў Лёва, які ва ўсім любіў дакладнасць.

— Хлопчыкі, а дзе ж нябожчык? — расчаравана спытала Гусця.

У труне сапраўды ніякага нябожчыка не было. У ёй ляжалі вінтоўкі, скрынкі з патронамі і дзве ленты да станкавага кулямёта.

— Нябожчык даў драла за мяжу разам з усімі буржуямі ў грамадзянскую вайну,— дужа сур'ёзна, каб нават самому паверыць у гэта, адказаў Кешка.

Ён хацеў разыграць Гусцю, а на розыгрыш трапіў Максімка, як той дурненькі карась на голы кручок.

— Дык гэтыя вінтоўкі ляжаць аж з грамадзянскай вайны? — спытаўся ён.— Глядзі, і ніводная не заржавела...

Максімкава наіўнасць развесяліла хлопцаў. Іхні смех спачатку абразіў Максімку, потым ён зразумеў, што крыўдаваць няма на што, і сам зарагатаў са сваёй някемлівасці.

— Не хлусі,— сказаў ён Кешку,— не ўсе паны Струмецкія збеглі за мяжу.

З гэтымі словамі Максімка падскочыў да труны, што стаяла ў супрацьлеглым куту, ссунуў покрыўку... Пад ёй аказаліся ручныя кулямёты, дыскі да іх і чатыры дзесяцізарадныя вінтоўкі «СВТ».

— І ў трэцяй труне зброя? — спытаў Максімка, крыху разгублены сваім адкрыццём.

Цяпер ужо Данілка падняў покрыўку. У трэцяй труне ляжалі ручныя гранаты: круглыя, з глыбокімі насечкамі лімонкі, доўгія з бляшанымі ручкамі «эргэдэўкі», падобныя на бочачкі, супрацьтанкавыя гранаты, бліскучыя, як вока гадзюкі, запалы да іх.

Данілка быў не толькі ўражаны, але больш за ўсё прысаромлены. Во ўжо дзе ён лапухнуўся дык лапухнуўся! Гэта ж трэба, Кешка Лістападзенка, які ў Веляшковічах жыве нядаўна, здолеў знайсці столькі зброі, а ён, Даніла Чупрынец, які тут нарадзіўся, можна сказаць, кожную кратовую нару ведае, нават іржавай падковы не знайшоў.

— Кешка... Скажы, Кешка, дзе ты знайшоў столькі зброі? — спытаўся ён, хоць наперад ведаў, што Кешка не скажа.

— Дзе знайшоў, там ужо няма,— не стрымаўся, каб не пазадавацца, Кешка.

Так Данілка і думаў. Вядома, калі маеш гэтульки

зброі, дык чаму не пазадавацца? Данілка не пакрыўдзіўся. Ён цяпер марыў пра іншае: як бы атрымаць ад Кешкі вінтоўку?..

Хоць адна вінтоўка ў Данілкі была — тая, якую яны займелі, калі ўцякалі з калоны. Новенькая нямецкая вінтоўка. Карабін. Толькі карысць з яе невялікая — усяго чатыры патроны ў магазіне.

Кешка нібы падслухаў Данілкавы думкі.

— Вось што, хлопцы,— сказаў ён і прысеў на край труны з гранатамі.— Ёсць важная справа. Назавём яе аперацыя «Выбух».

— Можа, лепей «Піянерскі касцёр»,— падказаў Максімка.

— Не перашкаджай,— абарваў яго Данілка.

— Я і кажу,— нібы ніхто яго не перапыняў, працягваў далей Кешка.— Назавём аперацыю «Выбух».

— Але чаму? — не здаваўся Максімка.

— А ці ведаеш ты, Савік, што зараз у кармеліцкім манастыры?.. Не ведаеш!.. Дык магу табе сказаць: там зараз бензасховішча і склад авіябомб.

— Ой, не брашы, Кешка,— адмахнуўся Данілка.— Навошта фашыстам трымаць бензін і бомбы ў такой глухамані?

— Навошта, навошта... А калі ў іх тут аэрадром будзе...

Што ні кажыце, а пераспорыць Кешку немагчыма.

## 4

Да таго, як людзі навучыліся друкаваць, яны пісалі і перапісвалі кнігі ад рукі. Было гэта даўным-даўно, калі ледзь не кожны горад быў княствам, а кожнае княства імкнулася мець свайго летапісца. Канечне, калі ў князя хапала сродкаў на такую дарагую справу, як напісанне кніг.

Звычайна летапісцы жылі ў манастырах, далей ад мітуслівага свету. Запісвалі яны падзеі, на іхнюю думку, найважнейшыя, старанна выводзілі кожную літарку, кожны знак. Адну кнігу тады пісалі доўгія гады. Затое нашчадкам заставалася трывалая памяць аб мінулым і добрая навука на будучае, як жыць папраўдзе, у міры ды згодзе.

З незапомных часоў існуе паданне, што на месцы цяперашняга могільніка стаяла ў лесе адзінокая келля. Ка-

жуць, нібы нейкі манах, родам з Полацка, які жыў гадоў гэтак восемсот з гакам таму назад, перасяліўся сюды, калі Ефрасіння Полацкая вымушана была паехаць у далёкую Візантыю, бо не паладзіла з князямі полацкімі і манастырскім сваім начальствам, а перапісчыкі кніг самі разышліся хто куды. Прыйшоў манах у Веляшковіцкія лясы, пабудаваў тут келлю, спадзяваўся пражыць рэшту дзён у малітвах. Ды, мабыць, кожны чалавек, які паспытаў кніжнай мудрасці, ужо не зможа забыць кнігу або памяняць яе на малітвы.

Неўзабаве манах засеў у сваёй келлі за летапіс. Нямала знайшлося ў яго і ахвотнікаў памагаць ствараць той летапіс. Вакол летапісцавай келлі павыраслі другія келлі, а пры іх — цэрквы і цэркаўкі з рознымі гаспадарчымі пабудовамі, без якіх і манахі не могуць абыходзіцца.

Князі тады часта ваявалі. Простаму люду ад тых войнаў толькі гора. І нівы іхнія коньмі вытоптвалі, і скаціну забіралі, і хаты дымам у неба пускалі, і саміх хапалі, у другія княствы вывозілі.

Пасля смерці манаха-летапісца якраз і ўсчалася вайна паміж трыма князямі суседніх княстваў. Адзін год рабавалася адно княства, другі — другое, трэці — трэцяе. Паўтаралася гэта не год, нават не пяць. Неўзабаве землі вакол манастыра апусцелі. Некаму было ні зямлю засяваць, ні жывёлу гадаваць, ні рыбу ў рэках лавіць, ні на звяроў у лясах паляваць, ні мёд дзікіх пчол збіраць. Апусцелі і келлі манастырскія. А кнігі, што былі напісаны, што перапісалі манахі за доўгія дні і ночы, расцягалі хцівыя князі па сваіх удзелах. Кажуць, некалькі кніг з таго манастыра захавалася да той пары, як запанаваў на царкоўным Полацкім прастоле Іасафат Кунцэвіч. Быў такі архіепіскап, поп над папамі, які нішчыў усё мінулае: і кнігі, і веру, і нават цэрквы, хацеў на каталіцкі, рымскі лад людзей павярнуць. Хацеў, ды не ўдалося. Паўсталі людзі віцебскія і скінулі яго з кручы ў Дзвіну. Але летапісы ён спаліў і попел па ветры развеяў.

Вось што расказала Кешкава бабуля пра Летапісцаву келлю. Раней Кешка, бадай, і не паверыў бы ніводнаму бабулінаму слову. Але цяпер не толькі ўважліва выслухаў, а і вырашыў для сябе, што абавязкова пасля вайны, як прагоняць фашыстаў, добранька павучыць гісторыю. Праўду кажа бабуля: гісторыя не толькі людская памяць, але і навука, як жыць папраўдзе, у міры ды згодзе.

— А цяпер, хлопчыкі,— загадала яна Кешку з Данілкам і Лёвам,— занясіце чалавеку чаго паснедаць.

Хлопцы з радасцю на гэта згадзіліся. Кешка паслаў Данілку па Максімку, каб той забег за Гусцяй, узяў у яе бацькаў будзільнік і найхутчэй прыходзілі ўсе ў летапісцаву келлю. Разам з Сяргеем Іванавічам трэба было распрацаваць аперацыю «Выбух».

Данілка вярнуўся адразу, бо па дарозе сустрэў Максімку, і той з радасцю пабег па Гусцю.

Кешка, Данілка і Лёва масціліся на кароценькай, вельмі тоўстай лаўцы, якая захавалася, можа, з тых далёкіх часоў, калі на ёй сядзеў сам летапісец. Над імі, падобная на купал будана, нізка вісела чорная патрэсканая столь. Там, дзе столь абапіралася на сцяну, свяцілася вузенькае, як прорэзь, акенца. Праз яго на мураваны столік з драўлянай стальніцай падала няяркае сонечнае святло.

На стале цяпер стаяла гліняная паліваная міска, распісаная па краі белымі пялёсткамі.

Па той бок століка, таксама на лаўцы, толькі крыху даўжэйшай і з узгалоўем, сядзеў Сяргей Іванавіч, чэрпаў драўлянай лыжкай малако з тварагом — еў ці не першы раз па-чалавечы з таго часу, як трапіў у палон да фашыстаў.

— Дык гэта ты мяне вывеў з таго свету? — спытаў Сяргей Іванавіч Кешку.— Цяпер я твой даўжнік.

Сяргей Іванавіч часта-часта заміргаў, не саромеючыся, выцер рукавом камандзірскай гімнасцёркі слёзы, што нечакана набеглі на вочы.

— Свае людзі — разбяромся,— паабяцаў Кешка.— Вы нам во як патрэбны!

Кешка рабром далоні чыркануў сабе па горле, што павінна было азначаць: Сяргей Іванавіч патрэбны Кешку пазарэз.

— Я? — трохі здзівіўся Сяргей Іванавіч.— Ну, давай, Інакенцій Лістападзенка, выкладвай...

Сяргей Іванавіч і сам, мабыць, не здагадваўся, што сказаў гэта так, як, бывала, гаварыў камдыў, таварыш Супрун. Кешка аж уздрыгнуў, пачуўшы гэтае: «Ну, давай, выкладвай». Мабыць, усе камдывы Чырвонай Арміі падобны адзін на аднаго. А што Сяргей Іванавіч меў пасаду не ніжэй камдыва, Кешка мог прысягнуць. Набраўшыся духу, Кешка секанув, як кажуць, з пляча:

— Таварыш палкоўнік, прапануем вам камандаваць нашым атрадам...

— Хто?.. Я?.. Чаму палкоўнік?..

Сяргей Іванавіч не хаваў свайго здзіўлення, але якраз гэта і падбадзёрыла Кешку.

— Не бойцеся, таварыш палкоўнік,— памяркоўна сказаў Кешка,— тут усе свае, усе адданыя нашай вялікай справе... Я вас добра разумею, але...

Але да канца выказацца Кешка не паспеў, бо якраз у гэтую хвіліну ў летапісцаву келлю ўвайшлі Гусця з Максімкам.

— Прынеслі,— радасна абвясціў Максімка, а Гусця разгарнула анучку, паклала на калені Лёву будзільнік, які цікаў, абсалютна не зважаючы на тое, што яго знялі з прывычнага месца на камодзе ў пакоі Іагана Карлавіча Клема.

— Ну як, падыдзе? — адразу забыўшыся на палкоўніка, спытаўся Кешка ў Лёвы.

— Падыдзе... Самы цот!.. Зараз праверым... Давай сваю гранату...

Кешка засунуў руку пад кашулю, выцягнуў гранату, падаў Лёву. Той, прыжмурыўшы спачатку адно, потым другое вока, агледзеў гранату з усіх бакоў, нібы яна была заморскім дзівам, не спяшаючыся выкруціў ручку з бляшанага цыліндра.

— Дзеці, што вы робіце? — занепакоена спытаўся Сяргей Іванавіч.— Вы можаце падарвацца...

— Дужа мне трэба падрывацца на гэтай бляшанцы,— спакойна адказаў Лёва.

— Дзядзечка, вы не бойцеся,— супакоіла палкоўніка Гусця.— Лёва ў нас якую хочаш машыну разбярэ і збярэ. Ён, дзядзечка, канструктар.

Палкоўніку нічога не заставалася рабіць, як моўчкі назіраць, што будзе далей. Ручку, дзякуй богу, канструктар выкруціў без прыгод.

Тым часам Лёва дастаў з кішэні маточак вельмі тонкага дроту, прымацаваў адзін канец драцяной ніткі да спускавога механізма гранаты, а другі стаў прыстасоўваць да стрэлкі будзільніка. На гэтую справу Лёву спатрэбілася, можа, хвілін пяць. Нарэшце ўсё было зроблена, як трэба. Лёва паклаў устройства на столік.

— Зараз праверым,— сказаў ён.— На колькі гадзін паставім завод?..

— На тры,— сказаў Максімка.

— Трэба ставіць не на круглую лічбу,— параіў Кешка.— Давай, стаў стрэлку на тры гадзіны сем хвілін...

— Можна на тры і сем,— адказаў Лёва і перавёў стрэлку званка на тры гадзіны сем хвілін.

Пасля гэтага Лёва стаў памалу падганяць мінутную і гадзіннікавую стрэлкі. Калі гадзіннікавая стрэлка стала насупраць лічбы тры, а мінутная на лічбе пяць, Лёва паставіў будзільнік побач з ручкай гранаты.

— Дзве мінуты будзем чакаць,— сказаў ён.

У летапісцавай келлі настала цішыня, якая заўсёды панавала тут. Было чутно толькі дыханне дзяцей і гулкае ціканне будзільніка. Будзільнік цікаў крыху хрыпата, нібы быў прастуджаны, а можа, са страху: што з ім будзе?

Дзве хвіліны, якія раней праляцелі б незаўважна, цягнуліся з хуткасцю слімака, якому ўсё адно няма куды спяшацца. Дзеці схлупіліся вакол прыстасавання, не зводзілі вачэй з будзільніка. А ён сабе хрыпата цікаў ды цікаў.

Нарэшце мінутная стрэлка дасягнула стрэлкі званка. Зачапіўшыся адна за адну, яны амаль нячутна шчоўкнулі, і адразу баёк гранаты сарваўся, ляснуў аб бляшаную перагародку.

— Ура! — дружна крыкнулі дзеці.

— Дзеці... Інакенцій Лістападзенка,— усхвалявана загаварыў палкоўнік.— Я забараняю вам гэта... Я ўсё зразумеў. Вы хочаце зрабіць гадзіннікавую міну?.. Так?.. Але гэта надзвычай небяспечна. Мінёры памыляюцца толькі адзін раз... А вы не мінёры... Вы дзеці, і вам нельга займацца такімі небяспечнымі справамі. Гэта не проста гульня ў вайну. Гэта сама вайна, страшная, бязлітасная.

Мусіць, палкоўніку цяжка далася доўгая прамова. Яго ны лоб пакрыўся мноствам дробных кропелек поту. А голас, напачатку магутны і цвёрды, пад канец зусім аслаб.

— Дзядзечка,— падбегла да палкоўніка Гусця,— не трэба так хвалявацца. Усё будзе добра. Кешка вам зараз усё растлумачыць. А вы кладзіцеся, адпачніце. Вам нельга доўга сядзець...

Гусця дапамагла палкоўніку легчы, накрыла яго коўдрай.

— Вам, напэўна, здаецца, што мы нічога не разумеем, нічога не ведаем і нічога не ўмеем,— сказаў Кешка. Ён ніяк не мог зразумець, чаго так устрывожыўся вайсковы чалавек, палкоўнік, чырвоны камандзір.— Мы ўсё ўмеем. І мы хочам помсціць фашыстам, якія расстралялі палонных, і толькі вы адзін выратаваліся ад смерці...

— Я сказаў ужо, што буду ўдзячны табе ўсё сваё жыц-

цё, але, Кеша, Інакенцій, паўтараю зноў,— вайна не забава. А вы не дарослыя, а дзеці.

— Таму мы і прапануем вам камандаваць намі. Мы хочам узарваць бензасховішча і склад бомб, якія зараз знаходзяцца ў манастыры. Нам патрэбны план...

Палкоўнік на імгненне задумаўся. Няйначай абдумваў, як лепей ажыццявіць гэты план.

— Чакайце, чакайце, дзеці... Я, здаецца, пачынаю разумець... Вы палічылі мяне за чырвонага камандзіра?.. Палкоўніка?.. Але я не камандзір...

— А гімнасцёрка? — нагадаў Кешка.

— А-а-а?.. Гімнасцёрка... Яна сапраўды аднаго палкоўніка, які перад смерцю аддаў яе мне...

— А хто ж вы, дзядзечка? — спытала Гусця.

— Хто?.. Чалавек... Якая ў мяне прафесія?.. Зараз пакажу...

Сяргей Іванавіч падняўся з лаўкі, узяў у рукі будзільнік і ручку ад гранаты.

— Цяпер уважліва сачыце за мной,— прапанаваў ён і, патрымаўшы абедзве рэчы на выцягнутых руках, паклаў на стол перад сабой. Затым накрыў іх падушкай.

Усё гэта Сяргей Іванавіч рабіў спакваля, урачыста. Працягнуўшы над падушкай рукі, ён пачаў шаптаць нейкія незразумелыя словы: лабор омнія віціт імпробус ін омнібус аліквід ін того нігель...

Вымавіўшы апошняе слова, Сяргей Іванавіч падняў падушку — пад ёй нічога не было.

Лёва з Максімкам заглянулі пад стол. І там нічога.

— Дзядзечка, вы — фокуснік,— здагадалася Гусця.

— Здорава! — захоплена сказаў Максімка.

— Вы — ілюзіяніст,— сказаў Лёва.— Лоўкасць рук, праўда?

— Я — клоун,— прызнаўся Сяргей Іванавіч.— А клоун у цырку павінен умець рабіць і фокусы, і па канаце лазіць, і па дроце хадзіць — усё, што можа спадабацца гледачу...

Калі на Максімку, Лёву і Гусцю прызнанне Сяргея Іванавіча зрабіла самае моцнае ўражанне, дык Кешка з Данілкам былі расчараваны. Сапраўды, спадзяваліся знайсці чырвонага камандзіра, які павёў бы іх у бой на фашыстаў, а прывялі цыркача... клоуна, можа, такога, як Бен-Бахар, што выступае толькі ў глухамані.

— Я заўсёды казаў, з дарослымі лепей не звязвацца,— вынес прысуд Данілка і безнадзейна махнуў рукой.

— Данілка, як табе не сорамна,— папракнула яго Гусця.— Хіба Сяргей Іванавіч вінаваты, што ён не палкоўнік, а клоун?

— Правільна, дзяўчынка, правільна! Ты развражаеш па-дзіцячы шчыра і па-даросламу разумна. Абяцаю табе пасля вайны кантрамарку на ўсе цыркавыя спектаклі,— сказаў «палкоўнік» і паціснуў Гусці руку.

— Вы хоць будзільнік нам вярніце,— паніклым голасам папрасіў Кешка.

— Гэта мы зараз,— адказаў Сяргей Іванавіч і паклаў падушку зноў на столік.— Раз, два, тры, чатыры, пяць... Вось вам і будзільнік з ручкай,— сказаў Сяргей Іванавіч, падняўшы падушку.

На століку стаяў будзільнік, а побач з ім ляжала ручка ад гранаты.

Кешка ўзяў будзільнік, ручку, загадаў:

— За мной,— а калі выйшлі з келлі, рашуча заявіў:— Бяру камандаванне на сябе...

## 5

Абыходзячы мястэчка, Кешка зрабіў круг кіламетры на тры, затое без аніякіх прыгод прывёў сваю баявую групу да калодзежа, які называўся Змеевай магілай.

Кешка мог бы і раней расказаць пра таямнічы калодзеж у лесе: так, маўляў, і так, праз гэты калодзеж можна прабрацца ў кармеліцкі манастыр, але ён адмоўчваўся, калі ў яго пыталіся, куды яны ідуць. Нібы зберагаў хто ведае якую тайну.

Па шчырасці, дык Кешку вельмі хацелася расказаць, як і куды можна дабрацца праз лясны калодзеж. Але паспрабуй раскажы, дык ужо ніякай нечаканасці не будзе. А на вайне ўсё павінна быць нечакана. Такая яна ўжо вайсковая справа. Загадкавая, таямнічая, зусім, зусім сакрэтная.

— Ну, і чаго ты прывёў нас да гэтага калодзежа? — не сцярпеў Данілка, які не любіў таямнічасці.

— Зараз даведаешся,— адказаў Кешка.

Тым часам Максімка падышоў да калодзежа, зазірнуў у яго і адхіснуўся. Зрабіў крокі чатыры назад. Ягоны твар быў белы, як крэйда.

— Уф ты,— сказаў ён.— Адтуль нехта глядзіць вогненнымі вачамі.

Паглядзець на вогненныя вочы захацелася і Гусці з

Лёвам. Ад недасягальнай глыбіні, з якой сапраўды свяціліся два вокі, у Гусці таксама закружылася галава, але яна не паказала выгляду. Толькі пастаралася не глядзець больш у прорву. Затое Лёва нібы прымёрз да зруба. Не мог адарваць вачэй ад тых двух агеньчыкаў, што гарэлі глыбока ўнізе. Яму дужа хацелася разгадаць іх тайну.

— Слухай, Кешка, каб мне з гэтага месца не сысці, але там сапраўды сядзіць нейкі звер, а можа, якая рыбіна. Ёсць такая, называецца ліхтаром,— сказаў Лёва.

Кешка аднак на Лёвавы словы не звярнуў ніякай увагі. Замест яго да калодзежа падышоў Данілка, зазірнуў уніз.

— Эх ты, хімік!.. Гэта ж зоркі адбіваюцца ў вадзе,— сказаў ён.

— Годзе вам,— прыкрыкнуў на іх Кешка.— Вы хіба за гэтым сюды прыйшлі?..

— А ты не цягні лыка,— папракнуў яго Данілка.— Кажы, чаго мы сюды прыпёрліся?..

— Чаго?.. Бо калодзеж гэты зусім і не калодзеж,— пачаў Кешка.— Гэта патаемны лаз у падзямелле, з якога вельмі нават проста можна прабрацца ў манастыр. Цяпер кумекаеце, што і да чаго?.. Ну, во!.. Я гэтым самым ходам вывеў Сяргея Іванавіча... Зараз мы па адным палезем у калодзеж, па падзямеллі выберамся ў манастырскую часоўню, паставім міну і назад. Зразумелі баявую задачу?

Задача, вядома, была зразумелая, як табліца множання, але ў Максімкі яна не выклікала ніякага натхнення.

— Кешка,— звярнуўся Максімка да Кешкі,— я баюся лезці ў калодзеж. У мяне галава кружыцца...

З якой пагардай Кешка змераў Максімку! Нібы Максімка і не чалавек, а самы апошні баязлівец. Максімку стала вельмі сорамна і агідна за сваю слабасць, ён угнуў галаву ў плечы, а вочы апусціў долу. Хоць бы Гусці не было з імі. Асаромеўся, зусім асаромеўся! Што цяпер Гусця падумае пра яго, Максімку?

— І няма чаго на Максімку так глядзець,— заступілася Гусця.— Ёсць такія людзі, якія баяцца. Я сама чула...

— Ну, і чакайце нас тут,— вырашыў Кешка.— Мы і ўтрох справімся.

— Не, я пайду з вамі,— рашуча заявіла Гусця.— А Максімка будзе чакаць нас тут.

Паспрачаўшыся крыху, на тым і парашылі.

— Значыць, так,— пачаў распараджацца Кешка.— Першая палезе Гусця. Чакай, Данілка, не перашкаджай...

Я ведаю, што раблю. Я яе падстрахую на ўсякі выпадак вось гэтай вяроўчынай. За мной палезе Лёва. Апошні — ты, Данілка. Цяпер, хто і што панясе...

Максімка са слязамі на вачах назіраў, як Кешка размяркоўваў гранаты: Данілкаву супрацьгазавую сумку напакавалі гранатамі «эргэдэўкамі», сабе Кешка паклаў дзве супрацьтанкавыя гранаты, а Лёва атрымаў будзільнік і запалы.

Максімка не адзін раз хацеў закрычаць: вазьміце і мяне, і я пайду з вамі, але тут жа ў ягоных вачах паяўляўся жудасны малюнак. Ён, Максімка Савік, раптам яскрава бачыў, як зрываецца ў прадонне, ляціць насустрач тым зоркам, што блішчэлі ў калодзежы. Адчуванне гэтае было такое яркае, жудаснае, што ў Максімкі слабелі ногі, а сэрца ледзьве не выскоквала з грудзей.

Максімка ненавідзеў сябе, але перамагчы ўласны страх ніяк не мог. І чаму ён нарадзіўся такім недарэкам, такім баязліўцам?..

Гусця падышла ўжо да калодзежа, перакінула цераз зруб нагу. Кешка хацеў памагчы ёй, падтрымаць за руку, але Гусця адштурхнула Кешкаву руку і перакінула другую нагу. Намацаўшы сходкі, памалу пачала спускацца ў калодзеж. Максімка ад страху аж заплюшчыў вочы. Яму раптам здалося, што Гусця сарвалася і паляцела ў прадонне. Ён нават пачуў, як яна закрычала. А калі расплюшчыў, дык убачыў, што ў калодзеж ужо залазіць Данілка.

«Данілка, пачакай, я перадумаў, я не баюся болей,— хацеў крыкнуць Максімка, але язык нечага адзервянеў. Тым часам Данілка схаваўся з галавой у калодзежы.— Ну і ўсё, няшчасны баязлівец!.. Нічога з табой не здарылася б. А цяпер з цябе і куры будуць смяяцца. І варта!.. Каб чаго, калодзежа спалохаўся!..»

Максімка яшчэ колькі часу сварыўся на сябе, абзываў самымі горшымі словамі. А калі ўсе словы і папрокі былі сказаны, Максімка падумаў, што варта яшчэ раз без сведкаў зазірнуць у калодзеж.

— Ага-га-га! — крыкнуў Максімка, нагнуўшыся над зрубам.

Доўга нічога не было чуваць. Потым з прадоння даляцеў чужы басавіты голас: а-а-а-а!

— Данілка! Кешка!.. — паклікаў сяброў Максімка.

Няхай ведаюць, што ён, Максімка, адважыўся і глядзіць у калодзеж.

З калодзежнай глыбіні зноў даляцела рэха: а-а-а-а!..

— Ты чаго гэта раскрычаўся, як недарэзаны певень? — пачуўся за Максімкавай спіной чыйсьці голас.

Максімка азірнуўся. Каля яго стаяў Зыль-Барадыль з вінтоўкай на плячы. Максімка хацеў даць драла, але Зыль-Барадыль спрытна злавіў яго.

## 6

— Бач ты яго, які спрытны,— сказаў Зыль-Барадыль, трымаючы Максімку за каўнер кашулі.— Ты чый будзеш такі шустры?...

— Нічый,— адказаў Максімка.

— Так, значыцца... Нічый?.. Ні бацькі, ні маці,— у крапіве вырас?..

— Чаму ў крапіве? — пакрыўдзіўся Максімка.— У мяне дом ёсць...

— Тады, можа, назавеш сваё прозвішча, а да яго імя і імя па бацьку.

Навучаны Крэсендорфам, што гаварыць фашыстам праўду, усё роўна што біць галавой у сцяну, Максімка ўхапіўся за першае прозвішча, якое прыйшло яму на памяць — іхняга вучня — вечнага другагодніка і парушальніка дысцыпліны.

— Дземідзенка,— адказаў ён.

— Дземідзенка? — перапытаў Зыль-Барадыль.— Гэта ж якога Дземідзенкі?.. Ці не Уласа сынок?..

— Ага, Уласа,— пагадзіўся Максімка.

Зыль-Барадыль схапіў Максімку за валасы, балюча дзерганyў за іх.

— Ах ты, нягоднік!.. Брэша і не чырванее,— сказаў Зыль-Барадыль.— Гэта ж ты каго абдурыць надумаў?.. Мяне, Зылёва, які сам каго хочаш абдурыць.

— Я не хлушу,— паспрабаваў стаяць на сваім Максімка.— Я сапраўды Юра Дземідзенка... Юрка Уласавіч...

Зыль-Барадыль яшчэ раз дзергануў Максімку за валасы.

— Ах ты, шпачок!.. Ды Уласавых сынкоў я як свае пяць пальцаў ведаю. Мы разам з Уласам па адной справе праходзілі. А ты мне хлусіць надумаў. Ану, адказвай, каго ты гукаў, звесіўшы галаву ў калодзеж?.. Якога Данілку?.. Ці не Чупрынца?.. Чаго ён, нягоднік, у калодзеж палез?.. Зараз жа паклічаш яго і тых, хто з ім...

З гэтымі словамі Зыль-Барадыль падштурхнуў Максімку да калодзежа, загадаў клікаць Данілку.

Можа, хвілін дзесяць Максімка драў горла, крычаў што было сілы: Данілка! Данілка!..

Вядома, Данілка яму не адгукаўся. Максімка спадзяваўся, што Зылю-Барадылю надакучыць тарчаць каля калодзежа. Аж не.

— Добра. Не адгукаецца — нідзе не дзенецца,— сказаў Зыль-Барадыль.— Я і пачакаць магу. Дужа мне цікава ведаць, чаго ён у калодзеж палез твой гэты Данілка-Мурзілка.

Зыль-Барадыль адышоўся ад калодзежа, паваліўся на траву і Максімку прымусіў сесці побач.

А што зробіш? Хочаш ці не хочаш, а мусіш сядзець, як прыкаваны да ланцуга. Зыль-Барадыль не спускаў вачэй з Максімкі.

Цяжкія, да немагчымасці горкія думкі апанавалі Максімку. Што будзе, як Кешка з хлопцамі і Гусцяй паставяць міну і будуць вылазіць з калодзежа?.. Вядома, трапяць у рукі Зылю-Барадылю. А калі ў гэты час прагучыць выбух, дык тут і дурань здагадаецца, чаго лазіў у калодзеж Кешка з сябрамі.

А ўсё ён, Максімка, вінаваты. Каб не збаяўся, пайшоў разам з усімі, дык нічога не здарылася б. А так!..

Зыль-Барадыль курыў. А Максімка ўсё думаў, ламаў галаву, як бы адвесці яго ад калодзежа. Можна, вядома, кінуцца наўцёкі. Але ж у Зыля-Барадыля вінтоўка. Падстрэліць, як таго зайца, а ўсё адно дачакаецца Кешку з хлопцамі.

Мусіць, і паліцэйскаму надакучыла чакаць з мора надвор'я.

— Ты як думаеш, хутка яны вылезуць з гэтага калодзежа? — спытаў ён Максімку.

— А яны і не будуць вылазіць,— сказаў Максімка.— Яны надумалі пайсці да самага Тадулінскага манастыра. Вы хіба не ведаеце, што ход з гэтага калодзежа вядзе ў Тадуліна?

— Брэшаш?..

— Каб мне з гэтага месца не сысці, калі брашу...

— Дык што ж ты мне адразу пра гэта не сказаў? — заззлаваў Зыль-Барадыль.

Ён хацеў аплявушыць Максімку, але якраз у гэты час у карmеліцкім манастыры ўзнялася страшэнная стралянiна. Яна ўсё ўзмацнялася. Зыль-Барадыль насцярожыўся, потым падхапіўся, нібы яго падкінула спружына.

Гэта і выратавала Максімку. На нейкую хвіліну ён застаўся без нагляду, а потым, не задумваючыся, даў такога драпака, што яго і на кані не дагнаў бы.

Ужо далекавата адбегшыся і не чуючы за сабой пагоні, Максімка спыніўся, аддыхаўся, хацеў ісці ў мястэчка, як глухі, але магутны выбух скалануў наваколле. Максімка азірнуўся: над векавымі ліпамі кармеліцкага манастыра шугануў у неба клуб чорнага дыму, перавітага чырвонымі языкамі полымя.

Толькі цяпер Максімку працяла жахлівая здагадка. А што, калі Зыль-Барадыль застаўся ля калодзежа?.. Зусім верагодна!.. Значыць, ён дачакаецца, калі Кешка з сябрамі пачнуць вылазіць з калодзежа. Значыць, ён здагадаецца, што гэта яны ўзарвалі бензасховішча!..

Ад гэтай здагадкі, ад свайго бяссілля памагчы сябрам Максімка паваліўся на траву і горка заплакаў.

## Аперацыя «Выбух»

### 1

Гэтым падземным калідорам Кешка ішоў чацвёрты раз. Батарэйка ў ягоным ліхтарыку была на зыходзе. Кешка на секунду ўключаў яго і зноў выключаў. Ад яго ўспышак у падзямеллі рабілася яшчэ больш цёмна. Мусіць, таму для Данілкі, Лёвы і Гусці яно здавалася бясконцым. Праз кожныя пяць — дзесяць крокаў яны пыталіся, ці не заблудзіўся Кешка?..

— Замрыце і чакайце,— нарэшце сказаў Кешка, дайшоўшы да лесвіцы ў часоўню.— Я хутка вярнуся...

Ён знік у цемрадзі. Данілка, Лёва і Гусця засталіся адны. Усё было б нішто, але Кешка забараніў ім размаўляць. Стой на месцы і маўчы!.. Хай бы сам паспрабаваў вытрымаць такую пакуту.

Яны прыціснуліся адно да аднаго і цярпліва чакалі. Кешкі ўсё не было. Можа, трапіў фашыстам у лапы?.. Чакаць было цяжка. Немагчыма цяжка. Здавалася, яны стаяць у цемрадзі ўжо некалькі гадзін, сутак, месяцаў...

— Усё ў парадку,— нарэшце пачуўся аднекуль зверху Кешкаў голас, і адразу промнік ліхтарыка асвяціў змрочнае падзямелле з крутой лесвіцай, на якой пад самай столлю стаяў Кешка.— Падымайцеся па адным,— загадаў ён і патушыў ліхтарык.

Першая паднялася Гусця. Праз люк у сцяне Кешка

дапамог ёй вылезці ў часоўню. За Гусцяй такім жа чынам выбраліся ў часоўню і астатнія.

— Кешка, а навошта тут паліцы? — спыталася Гусця.

Сапраўды, уся часоўня была застаўлена паліцамі, можа, метры на чатыры ўвышыню. Між паліцамі знаходзіўся праход, па якім выбягала за дзверы чыгуначная каляя.

Папраўдзе, Кешка і сам не ведаў, што намерваюцца размяшчаць у часоўні фашысты. Тады, як Кешка выводзіў Сяргея Іванавіча, паліц гэтых не было. Яны пастаўлены нядаўна. Аднак паказаць сваю недасведчанасць Кешка не мог, не меў права, бо ён камандзір, а камандзіры павінны ўсё ведаць, як ведаў таварыш Супрун, камандзір дывізіі, дзе служыў Кешкаў бацька.

— Навошта тут пастаўлены паліцы і пакладзены рэйкі, на гэта табе маглі б адказаць толькі самі фашысты,— разважліва сказаў Кешка.— Можаш не сумнявацца, што зроблена гэта для важных вайсковых мэт. Таму наш свяшчэнны абавязак перашкодзіць фашыстам.

Шчыра кажучы, дык наўрад ці растлумачыў бы лепей, для чаго часоўня абсталявана паліцамі, сам таварыш Супрун, каб апынуўся на Кешкавым месцы.

— А цяпер за мной і ніякіх размоў,— загадаў Кешка і першы сігануў з часоўні ў кусты маліннiку.

Па ім яны выбраліся на пагорак, адкуль добра праглядаўся манастырскі двор.

Злева ад іх, за раўчуком, узнімалася пачарнелая ад часу манастырская сцяна. На самым версе яе раслі крапіва і маладая бярозка. Унізе, там, дзе раўчук рабіў круты паварот і хаваўся пад сцяной, у выкладзенай з цэглы трубе біла з-пад зямлі нястомная крыніца. Некалі на ёй стаяў зруб, ад якога цяпер засталіся толькі дзве пачарнелыя дубовыя плашкі.

Па гэты бок раўчука насупраць пагорка стаяла старая манастырская будыніна з велікаватай перад ёю пляцоўкай, забрукаванай пілаваным каменем. Ад пляцоўкі і да галоўнай прысады, ці, як называлі яе ў Веляшковічах, цэнтральнай алеі, размяшчаліся цыстэрны. Большасць з іх была закапана ў зямлю, астатнія ляжалі на баку.

Цыстэрны гэтыя завезлі ў кармеліцкі манастыр гадоў за восем да вайны, калі недзе тут, пад Веляшковічамі, меркавалася распачаць нейкае дужа важнае, вельмі сакрэтнае будаўніцтва ці то аэрадрома, ці то палігона, а можа, нейкага завода, якое чамусьці так і не распачалі. Перад самай вайной цыстэрны перадалі мясцовай МТС. Але га-

ручага МТС мела не так ужо і многа. Заліваць яго ў вялізныя цыстэрны аказалася справай нявыгаднай. Яны так і пуставалі.

Цяпер да цыстэрнаў падыходзіла чыгуначная каляя. Па ўсяму бачна, што фашыстам цыстэрны прыгадзіліся.

За цэнтральнай алеяй стаяла царква з прылягаючымі да яе келлямі. Туды таксама былі пакладзены рэйкі.

Быў, мабыць, час абеду, пляцоўка пуставала. Толькі з царквы даляталі людскія галасы. Неўзабаве адтуль выкацілася дрызіна з невялікай платформай, а следам выйшлі салдаты, няроўным ланцужком пацягнуліся да крыніцы.

— Ясненька,— сказаў Кешка.— У царкве — бамбасховішча. Што ты на гэта скажаш, Гутман?..

— А што я павінен сказаць? — спытаўся Лёва.

— У нас адна міна, і мы павінны рашыць, дзе яе лепей ставіць: у царкве ці ў бензасховішчы?..

— Вядома, у царкве,— азваўся Данілка.— Як грохне, дык і бензасховішча разнясе на трэскі.

— Гэта яшчэ як сказаць,— запярэчыў Лёва.— Я, напрыклад, не магу паручыцца, што адна міна ўзарве ўсе бомбы. Затое прысягаю галавой, што адной мінай можна спаліць бензін ва ўсіх цыстэрнах. Вы ўяўляеце, што будзе, калі пачнецца пажар хоць бы ў адной цыстэрне?.. Гэта будзе феерверк...

Апошняе слова зрабіла на Данілку і Кешку належнае ўражанне.

— Тады будзем падрываць цыстэрны,— вырашыў Кешка.

— Але там побач салдаты,— нагадала Гусця.

Сапраўды, салдаты стаялі каля крыніцы, ажыўлена размаўлялі і весела рагаталі. Ад крыніцы да бліжэйшай цыстэрны самае большае метраў сто.

— Ты застанешся тут і падасі нам сігнал, калі што якое,— распарадзіўся Кешка.

Гусці зусім не хацелася заставацца адной, але загад камандзіра ёсць загад і аспрэчваць яго ні ў якім разе нельга.

— А як мне падаць вам знак, што небяспека? — спытала яна Кешку.

— Крыкнеш пеўнем,— не падумаўшы, сказаў Кешка.

— Ага, каб фашысты кінуліся шукаць гэтага пеўня,— не пагадзіўся Данілка.

— Тады як? — разгубіўся Кешка.

Данілка дастаў з кішэні невялікую дудачку.

— Падзьмеш у яе, толькінямоцна,— сказаў ён.— Яна свішча, як шпак.

Хлопчыкі папаўзлі да цыстэрнаў, а Гусця засталася на пагорку.

## 2

Адна з цыстэрнаў нібы назнарок выкацілася насустрач Кешку і ягоным сябрам. Яна ляжала на баку, закрываючы сабой ледзь не палову бензасховішча.

Кешка па-пластунску папоўз да яе. Любы чырвонаармеец — што там чырвонаармеец! — самы прыдзірлівы чырвоны камандзір сказаў бы, што Кешка паўзе па-пластунску абсалютна бездакорна. Затое Данілка з Лёвам добра пасаплі, пакуль дабраліся да той цыстэрны. У абодвух цурком ліўся па твары пот, а штаны спаўзлі ледзь не да каленяў.

Зблізку цыстэрна выглядала непадступным страшыдлам, яна абрасла луской-іржаўчынай. Каля яе, мусіць, даўно дажджы вымылі канаўку, якая густа зарасла палыном, піжмай, дзядоўнікам і яшчэ розным бур'янам.

— Давай, ладзь міну,— шэптам загадаў Кешка.

Уголас размаўляць было небяспечна: што ні кажы, а фашысты знаходзіліся метраў за сто — сто пяцьдзесят.

— Гэта раз плюнуць,— пахваліўся Лёва.

Ён дастаў будзільнік з прымацаванымі да яго правадкамі, гранату, да пускавога механізма якой трэба было далучыць правады. Лёва наладжваў міну спрытна, не спяшаючыся, нібы ўсё жыццё толькі і займаўся мініраваннем.

Кешка тым часам ставіў запалы ў гранаты. Далучаныя да міны, яны павінны былі ўзарвацца ад так званай дэтанацыі — імгненнага выбуху.

Кешкава работа таксама была вельмі адказная. Запал — рэч далікатная, ледзь цюкнеш па ім, дык і костачак не збярэш. Кешка ўвесь занурыўся ў работу.

— Кешка, а Кешка,— паклікаў яго Данілка.

— Ну, што табе?..

— Мне здаецца, гэтая цыстэрна пустая...

— Прысніў?..

— А ты паслухай...

Данілка падняў каменьчык, пастукаў ім па выпуклым баку цыстэрны. Тая звонка адазвалася, нібы вагонны буфер, што вісеў замест звана на царкве.

Кешка аж разгубіўся. Трэба ж, паўзлі, рызыкавалі,

стараліся, а бензіну ў цыстэрне няма!.. Можа, і ў астатніх тое ж?..

— Я і казаў, трэба міну ставіць у бамбасховішчы, дык гэта ўсё ты,— злосна зірнуў Кешка на Лёву, тым самым перакладаючы ўсю віну на яго.

— А што я? — здзівіўся Лёва.— Можа, у царкве столькі бомб, колькі ў цыстэрне бензіну. Ты хіба не правёў разведку?..

А як Кешка мог правесці яе?.. Ды і калі было праводзіць? Пра тое, што немцы стварылі ў манастыры склад бомб і бензасховішча, Кешка пачуў ад бабулі. Гэта яна ўчора ўвечары, калі вячэралі, сказала Кешку пра тое, што фашысты робяць у манастыры. Папраўдзе, дык яна нават і не сказала. Яна нібы разважала сама з сабой.

«Кадук іх пахапай гэтых фашыстаў,— бубнела яна пад нос.— І што яны толькі задумалі на нашы галовы. Не, нездарма!.. Ну, бензін у цыстэрны заліваюць — зразумела!.. Шлях побач, запраўляць машыны трэба... А бомбы ў царкву навошта завозяць?.. Няўжо самалёты будуць садзіцца?..»

Кешка слухаў ды на вус матаў, а ў галаве строіў план, як адным махам усе фашысцкія старанні перакрэсліць. І надумаўся... Цяпер яго працяла трывожная думка: а што, калі бабуля ўсё выдумала, як яна ўмее прыдумваць розныя казкі пра чарцей, шаўцоў і яшчэ розныя дзівосы на калёсах?..

— Будзем вяртацца назад,— маркотна сказаў Кешка.

— Глянь на яго,— абурыўся Данілка.— Чаму вяртацца?.. Хіба я сказаў, што ўсе цыстэрны пустыя?.. Ці, можа, на двары толькі адна гэтая цыстэрна?..

— Ну, вядома,— азваўся і Лёва.

Кешка нібы ажыў.

— Давай міну, папаўзём,— узрадавана сказаў ён Лёву.— Ты яшчэ падарвешся. Бачыў, як ты поўзаеш — носам зямлю арэш...

Лёва не пакрыўдзіўся і не стаў пярэчыць. Дужа яму трэба пярэчыць.

Па канаўцы яны абагнулі цыстэрну. За ёй, амаль ушчыльную, ціснуліся цыстэрны, укапаныя ў зямлю. Да адной з іх цягнуўся чорны шланг. Ён узбіраўся на шырокую гарлавіну цыстэрны з адкінутай цяжкай пакрыўкай.

— Бензін,— радасна паведаміў Лёва.

Кешка цяпер і сам бачыў, што ў цыстэрну зусім ня-

даўна залівалі бензін. Ад яго на гарлавіне і покрыўцы аблезла ржа. Сляды ад бензіну былі відаць яшчэ на дзвюх цыстэрнах.

Усё ж удача!.. Цяпер толькі добранька прыладзіць да цыстэрны міну з гранатамі, каб ірванула дык ірванула, усім фашыстам на страх!..

— Тры «эргэдэўкі» пакінем сабе на ўсякі выпадак. Раптам давядзецца адбівацца,— распарадзіўся Кешка.— Хопіць і супрацьтанкавых...

— Вядома, хопіць,— сказаў Лёва.

— Хопіць дык хопіць,— пагадзіўся і Данілка.

Звязку гранат прысыпалі пяском, а міну — гранату з будзільнікам — не сталі прыкрываць нават травой, а раптам нейкая былінка пашкодзіць стрэлкам будзільніка, які не меў засцерагальнага шкла.

— Больш як на паўгадзіны не стаў,— параіў Кешка Лёву, калі той заводзіў будзільнік.

— Хопіць і пятнаццаці хвілін, а то яшчэ фашысты спахопяцца,— засцярог Данілка.— А нам абы да часоўні дабрацца.

— Тады стаўлю на дваццаць хвілін,— прымірыў іх Лёва.

Будзільнік зацікаў, адлічваючы секунды. Лёва тут жа падлічыў, што да выбуху засталося роўна тысяча дзвесце секунд.

Яны збіраліся вяртацца назад, як з-за цыстэрны пачуўся Гусцін устрывожаны голас:

— Хлопчыкі, бяда!..

— Ты чаго?..

— Фашысты ў часоўні... Нешта прывезлі на дрызіне...

Вось цяпер было ад чаго разгубіцца. Але, узрадаваныя сваім поспехам, хлопчыкі не адразу скемілі, якая іх напаткала бяда. Яны адпаўзлі за цыстэрну, што ляжала на баку.

— Нечага панікаваць,— сказаў Кешка.— Перачакаем...

— Ды тут як грымне,— запярэчыў Лёва, але яго не сталі слухаць.

Кешка прыўзняўся, каб паглядзець, дзе лепей ім перачакаць, і тут жа паваліўся на зямлю.

— Чаго ты? — спытаўся Данілка.

— Глянь, толькі асцярожна,— шапнуў Кешка.

Данілка прыўзняўся на локцях. Праз манастырскую браму руліла ў двор калона машын. Адны з іх спыняліся

на пляцоўцы перад будынінай, другія выстройваліся ўздоўж алеі.

Пастка!.. Усе дарогі адрэзаны!.. Але ж і тут сядзець не выпадала...

## 3

Кешкава бабуля Алімпіяда Захараўна секла куранятам крута зваранае яйка, калі ў хату зайшоў дзед Нічыпар.

— Здарова ў хату,— павітаўся ён і паставіў катрынку з папугаем у парозе.

— Здарова ў хату,— павітаўся з бабуляй і папугай Ара.— Як жывеш-маешся?..

Бабуля дастала з мяшэчка гарбузікаў, пасыпала на катрынку.

— Частуйся,— сказала папугаю.

— Дзякуй,— адказаў папугай.— Ара добры... Ара разумны,— пахваліў ён сябе і стаў лускаць гарбузікі.

— Адна дома? — спытаўся дзед Нічыпар.

— Адна... Вельмі дарэчы зайшоў... Параіцца з табой хацела...

— За парады грошай не бяру,— пажартаваў Нічыпар.

— Страху я тут нацярпелася,— пачала бабуля.— Кешка, унук мой, з лагера ваеннапалонных палкоўніка прывёў... У той дзень, як бедалаг тых расстрэльвалі... Усіх расстралялі, а палкоўнік неяк уцалеў. Ну во, Кешка яго і вывеў, выратаваў...

— І дзе ж ён? — пацікавіўся Нічыпар, азіраючыся наўкол.

— Чакай, я табе яшчэ не ўсё сказала,— перапыніла Нічыпара бабуля.— Перад тым, як ноччу Кешка прывёў палкоўніка, калі заручэўцаў на расстрэл гналі, з калоны ўцёк унук Малкі Гутманіхі... Ты ж яе ведаў?..

— Тая, што сын яе гадзіннікавых спраў майстар?.. Якога ў трыццаць першым выслалі?..

— Не ведаю, можа, бацька і вінаваты, а дзіця адказваць за яго не павінна... Ды і не пра тое гаворка, Нічыпар. Хлопчык гэты таксама ў мяне.

— Ну і ну! — паківаў галавой Нічыпар.— Па фашысцкіх законах цябе належыць два разы расстраляць. Тут і праўда страху нацерпішся. Дык наконт чаго ты хацела параіцца?..

— Схавала я іх пакуль надзейна. А што далей рабіць?.. Раптам вайна зацягнецца. Маразы пачнуцца. Куды мне з імі?..

— Задала задачу,— задумаўся Нічыпар.— На такое пытанне адразу не адкажаш. Але... Але, Захараўна, выйсце з кожнага становішча бывае. Нешта прыдумаецца... Тым больш што і я да цябе не так сабе прыйшоў. Прывітанне табе прынёс...

— Ад каго ж гэта? — падзівілася бабуля.

— Ад самога Рыгора Іванавіча,— сказаў Нічыпар і ўважліва паглядзеў на бабулю: як яна сустрэне гэтае прывітанне?

— Гэта ад якога такога Рыгора Іванавіча? — спыталася бабуля, ніяк асабліва не зрэагаваўшы на словы Нічыпара.

— Вядома, якога... Таварыша Якімчыка, старшыні пасялковага Савета...

— А-а-а!.. Хіба ён тут?.. Я думала, ён у адступленне падаўся...

Дзед Нічыпар усміхнуўся ў пракураныя вусы.

— Ну, і Алімпа! — весела выгукнуў ён.— Ну, і Захараўна!.. І гэта ты мне, старому, галаву дурыш?..

— Чаму дуру? — пакрыўдзілася бабуля.— Я з ім пахарошаму, з даверам, а ён мяне ў вочы абражае...

— Так ужо і абражаю,— усміхнуўся Нічыпар.

— Калі па справе прыйшоў, дык і кажы,— зазлавала бабуля.

— А справа, Захараўна, у тым, што таварыш Якімчык не проста прыслаў прывітанне, а сказаў перадаць, што сёння ўночы прыедзе па маёмасць, а па якую маёмасць, дык ты добра ведаеш. Цяпер фарштэйн, як кажуць немцы?

— Цяпер фарштэйн,— заўсміхалася бабуля.— Так бы адразу і сказаў, што прыедуць па маёмасць...

— Але ж ты!.. Канспіратарка!.. Як пра палкоўніка ды яўрэйскага хлапчука, дык усё адразу выклала, нібы на духу. А пра тое, што таварышу Якімчыку памагаеш,— маўчок!.. Выходзіць, не зусім мне давяраеш?

— Чаму? Давяраю... Але ж і ты зразумець павінен. Пра сваю тайну я магу без дазволу гаварыць. А гэтую тайну, што даручыў мне Рыгор Іванавіч, роднаму бацьку не маю права расказваць. Дазволіць Рыгор Іванавіч, тады іншая справа. Так што не крыўдуй, Нічыпар Ягоравіч.

— Я не крыўдую,— азваўся Нічыпар.— Цяпер некаторыя стараюцца пад фашыстаў падладзіцца, абы выжыць, а ты во якая!..

— Колькі іх такіх, што падладжваюцца,— запярэчыла бабуля.— Можа, хто і пра нас з табой думае, што падладжваемся... А вырадкі і ў добрай сям'і бываюць... Ты мне лепей скажы, ці сам Рыгор Іванавіч прыедзе, ці яшчэ хто па яго загаду?..

— Пра гэта я табе не скажу, бо не ведаю,— адказаў Нічыпар.— Загадана перадаць пароль. Значыць, такі — запамінай, Захараўна...

— Кажы...

— Ці захавалася ў вас маёмасць Рыгора Іванавіча?.. Хочам забраць.

— Зразумела. Значыць, сам не прыедзе,— падвяла рыску бабуля.— Сядай, Ягоравіч, к сталу, пакармлю...

— Не, Захараўна, часу няма. Трэба ісці...

— Калі трэба, дык трэба,— пагадзілася бабуля.

Дзед Нічыпар накінуў на шыю рэмень ад катрынкі, пасадзіў на плячо папугая.

— Бывай, Захараўна... А наконт тваіх кватарантаў я пагавару з кім трэба. Нешта прыдумаем...

— Дзякуй... Пагаворы...

Бабуля выйшла праводзіць дзеда Нічыпара, як і належыць добрай гаспадыні. Яны яшчэ трохі пастаялі, прыгадваючы нядаўняе жыццё.

— Шчасліва табе заставацца,— сказаў на развітанне Нічыпар і пакрочыў па сцежцы.

Раптам нешта так грукнула, так бабахнула, аж абое здрыгануліся ад нечаканасці.

— Глянь ты, над карməліцкім манастыром дым,— сказала бабуля.

— Нехта апярэдзіў,— сказаў Нічыпар.

— Пра што ты? — не зразумела бабуля.

Нічыпар вярнуўся. Сказаў, панізіўшы голас да шэпту:

— Гэтае бензасховішча разам з бомбамі павінны былі ўзарваць сёння ноччу... А нехта апярэдзіў...

— Самі фашысты і ўзарваліся,— адказала бабуля.— Бензін, а яны кураць...

— Не, Захараўна, у немцаў строгасць... Тут нейкая яшчэ група дзейнічае...

## 4

— Папаліся ў нерат — ні ўзад ні ўперад,— пажартаваў Данілка, прысеўшы на кукішкі.

Але ні яму, ні ягоным сябрам было не да жартаў. Пастка зачынілася.

— Трэба хоць стрэлку будзільніка перавесці на пазнейшы час,— прапанаваў Лёва.— Узляцім у неба разам з цыстэрнамі...

То была разумная прапанова ў гэтых жахлівых умовах.

— Не лезь,— затрымаў Лёву Кешка.— Спачатку трэба глянуць...

Кешка выглянуў з-за цыстэрны. Во жах!.. На той цыстэрне, пад якую яны паставілі міну, сядзеў фашысцкі салдат.

Цяпер заставалася адно: як найхутчэй бегчы адсюль, пакуль не рванула міна. Але куды і як уцякаць?..

— Пасядзіце тут, я зараз,— сказаў Кешка.

Да Кешкі, як гэта бывала неаднойчы, вярнулася развага і спакой. Ён лёг на зямлю і, нібыта тая яшчарка, папоўз між цыстэрнаў.

Яго не было, можа, хвіліны тры-чатыры.

— Выйсце адно,— сказаў ён, вярнуўшыся з разведкі,— прабівацца праз браму. Шафёры на пляцоўцы. Перад брамай нікога. Мы, хаваючыся за машыны, падбярэмся да брамы, закідаем ахову гранатамі і бягом да рова. Як-небудзь праб'ёмся.

Спрачацца не было калі, ды і ніхто не меў ахвоты. Кожнаму рупіла як найхутчэй выбрацца з пасткі, у якую трапілі.

Кешка паставіў запалы. Паказаў, як трэба карыстацца гранатай. Данілка пакрыўдзіўся, але нічога не сказаў. Хай вучыць.

Забраўшыся пад надзейную ахову манастырскіх сцен і варты, шафёры, відаць, адчувалі сябе ў поўнай бяспецы. Яны пакідалі машыны з адчыненымі дзверцамі, нават з нявыключанымі маторамі. Самі яны сабраліся ў далёкім кутку пляцоўкі, дзе для іх было абсталявана месца і пакурыць, і пагаварыць.

Кешкаў план таму напачатку здаўся вельмі прыдатным, каб выбрацца з пасткі.

Спачатку, хаваючыся за цыстэрнамі, потым у канаве, Кешка вывеў сяброў да алеі. Паўз яе густа раслі кусты

кашкі, так што неўзабаве Кешка прывёў сяброў ледзь не да самых варот. Заставалася, можа, якіх дзесяць метраў прабегчы, кінуць гранаты, вартавыя пападаюць, і яны апынуцца на волі. Да рова ад варот рукой падаць. Але калі не пашанцуе, дык ужо не пашанцуе.

Па той бок брамы, ледзь не насупраць яе, разлегліся на траве салдаты. Кешка адразу сцяміў — гранату да іх не дакінеш!.. Значыць, далёка не адбяжышся. У салдат вінтоўкі і аўтаматы.

— Уліплі! — сказаў Данілка, вельмі дакладна вызначыўшы іхняе становішча. Сапраўды ўліплі! Заставалася адзінае сховішча, пра якое падумалася ў самым пачатку — схавацца за царквой. Ненадзейна, але ўсё ж нейкі ратунак. Кешка хацеў ужо бегчы да царквы, як Лёва схапіў яго за штаніну:

— Дрызіна!..

Аднаго слова хапіла, каб Кешка зразумеў, адкуль насоўваецца яшчэ адна небяспека.

Дрызіна ішла сюды ад часоўні, цягнучы, як на павадзе, кароценькую платформу. На платформе стаяў аўтаматчык. Як толькі дрызіна з платформай вынырне з-за павароту, аўтаматчык адразу ўбачыць іх на манастырскім двары. Не, можа не заўважыць!.. А ім і дзявацца няма куды. Яны навідавоку...

Заставалася схавацца за вялікае кола грузавой машыны. Яны, усе чацвёра, прыціснуліся да пыльнага кола машыны, з жахам прыслухоўваючыся, як грукоча на рэйках дрызіна з пустой платформай. Цяпер ужо іхняя схованка выглядала зусім ненадзейнай.

— Хлопцы, у машыну,— раптам скамандаваў Кешка.

Іншым разам да Гусці, Данілкі і Лёвы, бадай, і не дайшоў бы сэнс сказаных Кешкам слоў. Машын стаяла шмат, дык у якую яны павінны хавацца? Але цяпер, няйначай, ад безвыходнасці, што навісла над імі, усе трое адразу зразумелі, што хавацца трэба не ў высокія кузавы крытых машын, а ў браніраваны аўтамабіль, які стаяў між дзвюх шарэнгаў калоны.

То быў гусенічны бронетранспарцёр з адкрытым корпусам і строеным кулямётам у ім. Мабыць, машына гэтая была дадзена калоне для аховы.

Бронетранспарцёр стаяў якраз насупраць брамы. Матор працаваў на малых абаротах. Дзверцы ў кабіну былі прыадчынены, мусіць, дзеля таго, каб ветрык прадзімаў яе.

Кешка з Данілкам забраліся ў кабіну, а Гусця з Лёвам перакуліліся цераз невысокі борт у жалезны корпус машыны.

— У самы раз паспелі,— задыхана сказаў Кешка, праводзячы вачамі дрызіну, якая вырульвала ўжо за браму.

— А што далей? — спытаўся Данілка.

— Нешта прыдумаем,— узрадаваны, што прамінула бяда, бесклапотна адказаў Кешка.

— Можа, на машыне махнём? — падкалоў яго Данілка.— Ты ж хваліўся, што ездзіў на машынах і на танках...

— Дык жа на савецкіх, а гэта фашысцкі,— паспрабаваў апраўдацца Кешка.

— Брахун ты,— кпіў з яго Данілка.— Прызнайся лепш, што тыя машыны з танкамі ты і ў вочы не бачыў. Хто цябе да баявых машын дапусціў бы?

— Не верыш? — ускіпеў Кешка.

— І не паверу...

— Ага, значыць, не верыш?..

Кешка паспешліва зірнуў на панель, націснуў нейкую педаль, пацягнуў на сябе нейкі рычаг і... о, дзіва!.. Бронетранспарцёр раптам падскочыў, нібы той казёл, якога напалохаў сабака, ірвануў і, набіраючы хуткасць, памчаў у манастырскія вароты...

Данілка, які хацеў яшчэ нечым падкалоць Кешку, ад нечаканасці ледзь не адкусіў сабе язык. Глянуў на Кешку, а той сядзіць сабе, быццам вядзе не фашысцкі бронетранспарцёр, а дзіцячую каляску.

## 5

— Ганс, Ганс, глядзі, твая машына здурэла — сама на фронт прэцца,— даўгалыгі шафёр у акулярах штурхануў кароценькага таўсцячка, які, скінуўшы кіцель і споднюю кашулю, загараў на траве за манастырскай брамай.

Ганс аж вачам сваім не паверыў. Ён вытарашчыў іх, нібы той рак, што трапіў у кіпень. Сапраўды, ягоны бронетранспарцёр пёр проста на іх, шафярню, што разлеглася на траве, узрадаваная кароткім адпачынкам.

— Стой! — крыкнуў Ганс бронетранспарцёру, нібы той быў жывой істотай і разумеў чалавечую мову.

Ганс растапырыў рукі, перагароджваючы дарогу бронетранспарцёру. Нехта схапіў яго ззаду за штаны, адцягнуў убок. І вельмі своечасова, бо бронетранспарцёр

задушыў бы яго, як шчаня, што безразважна кідаецца пад машыну. Бронетранспарцёр праляцеў міма і, не зварочваючы ні налева, ні направа, памчаў далей.

Толькі цяпер шафярня ачомалася ад здзіўлення, пачала паліць услед звар'яцелай машыне з вінтовак і аўтаматаў. А тая працягвала бегчы па прамой, нібы добра ведала аксіёму, што паміж двума кропкамі найкарацейшая адлегласць прамая лінія.

— Курт, ці бачыў ты каго ў кабіне? — спытаўся Ганс у даўгалыгага шафёра.— Мне здалося, у кабіне нікога не было...

Курт задумаўся. Пакруціў галавой, нібы яго апляўшылі дубінкай.

— Сапраўды не бачыў... Але, Ганс, як машына магла ісці без вадзіцеля?

— Не ведаю, Курт... Каб у мяне лопнулі вочы, калі я каго-небудзь бачыў у кабіне. Там нікога не было!..

— Таму яна і бяжыць па прамой,— здагадаўся Курт.— Паглядзі, яна не зварочвае ў бакі...

— Тады, можа, яе вядзе д'ябал?..

— А што! — пагадзіўся Курт.— У гэтай таямнічай Расіі ўсяго можна дачакацца...

Тым часам бронетранспарцёр апошні раз узляцеў на пагорак і схаваўся за ім.

А з манастырскага двара ўсё падбягалі салдаты, пыталіся, што тут здарылася, а выслухаўшы расказ відавочцаў, не маглі паверыць сваім вушам. Але і не верыць было нельга. Бронетранспарцёра, які суправаджаў калону, не было на сваім месцы. Сапраўды, яго нібы схапіў д'ябал. А гэта ўжо вельмі дрэнная прыкмета, калі сам д'ябал пачынае хапаць баявыя машыны. Ці мала ён можа нарабіць шкоды.

У кабіне бронетранспарцёра ў гэты час падзеі разгортваліся па-свойму. Кешка з Данілкам былі напалоханы не на жарт. Машына раптам адмовілася падпарадкоўвацца Кешку. Ён не ведаў, ні як спыніць яе, ні як кіраваць ёю, хоць Кешка і спрабаваў націскаць на педалі, кратаў то адзін, то другі, то трэці рычаг.

— Няйначай заела,— прамармытаў Кешка, апраўдваючыся перад Данілкам.

— Тады спыняй,— параіў Данілка.

Абодва яны бачылі, што машына ляціць як тая страла, выпушчаная з лука — па прамой. Добра, што пакуль на шляху не страчаліся вялікія дрэвы. Кусты, маладзень-

кія бярозкі і алешыны бронетранспарцёр падмінаў пад сябе. Але ж бясконца шанцаваць не будзе... Наперадзе — і гэта таксама ведалі абодва,— не проста якая-небудзь рака ці рачулка, а вельмі глыбокае вадасховішча перад плацінай вадзянога млына. Бронетранспарцёр, калі не здарыцца якога цуда, імчаў якраз на гэтае вадасховішча.

— Памаўчы,— агрызнуўся Кешка.— Я не ведаю, як спыніць яе.

А з пагорка ўжо відаць было вадасховішча — блакітная, як неба, прастора, пясчаны пляж перад ёй, зялёны дыван атавы на поплаве за ім.

— Будзем выскокваць на хаду,— прапанаваў Данілка. Ён паспрабаваў адчыніць дзверцы — дзе там!.. Бронетранспарцёр нібы задумаў паздзекавацца з іх. Бяжыць, куды яму захочацца, ды яшчэ не выпускае. Жалезная клетка!..

Мабыць, Гусця з Лёвам таксама адчулі небяспеку, забарабанілі кулакамі ў абшыўку кабіны. Маўляў, здурэлі вы там, ці што?.. Хопіць дурэць!.. Спыняйцеся!..

Бронетранспарцёр ускочыў на пагорак перад вадасховішчам, кульнуўся ўніз. Па дарозе знёс ружовенькую альтанку-грыбок, якіх летась панаставілі на пляжы, але за зіму іх засталося толькі дзве.

Данілка заплюшчыў вочы. Усё! Крышка!

Кешка ашалела хапаўся за рычагі, ціснуў з усёй сілай на педалі. «Фініта!» — падумаў ён словамі Сяргея Іванавіча. Бронетранспарцёр нястрымна ляцеў да вады, як тая жывёліна, якую не паілі месяц.

Нейкім бакавым зрокам Кешка раптам убачыў на плаціне Максімку. Той стаяў, нібы акамянелы, мабыць, не разумеючы, чаму бронетранспарцёр не зварочвае ўбок. Утапіцца захацеў, ці што?..

«Ён і не здагадваецца,— падумаў Кешка,— што ў машыне сядзім мы».

Узняўшы хвалю вады і пырскаў, бронетранспарцёр шугануў у вадасховішча.

### 6

Мабыць, хваляванне, якое перанёс Сяргей Іванавіч, калі назіраў, як дзеці ладзяць міну, а яшчэ больш тады, калі Кешка рашуча вывеў з келлі дзяцей, зусім знясіліла яго. Сяргей Іванавіч адчуў немагату, у яго закружылася галава. Ён прылёг на лаўку, заплюшчыў вочы.

«Што я павінен рабіць? — падумаў ён.— Я павінен папярэдзіць бацькоў. Павінен... Але хто іхнія бацькі?.. І як мне выбрацца адсюль?..»

Сяргей Іванавіч напружыў сілы, падняўся на ногі. Здаецца, можна ісці. А там будзе відаць. Кешка казаў, што ягоная бабуля жыве ля могілак. Гэта арыенцір. Можна запытаць у любога чалавека, дзе могілкі?..

Зрабіўшы крокі тры, Сяргей Іванавіч адчуў, як захісталася пад нагамі зямля, раптам выкаўзнулася з-пад ног, і ён паляцеў у прорву.

Ачнуўся Сяргей Іванавіч ад холаду, які пранізаў усё ягонае цела. Холад ішоў спадыспаду, ад каменнай падлогі, і, як было ўжо не раз, калі ён прыходзіў да прытомнасці, Сяргей Іванавіч ніяк не мог зразумець, дзе ён, што з ім, чаго ён ляжыць нерухома і бездапаможна. Потым неяк адразу падзеі аднавіліся ў сваёй паслядоўнасці, а галава пасвятлела.

Сяргей Іванавіч адарваў непаслухмянае цела ад падлогі, абапіраючыся на рукі, стаў на калені. На каленях і дацягнуўся да сцяны, каб лепей было падняцца, стаць на ногі, якія дзіўным чынам дрыжалі.

Але, як толькі ён стаў на ногі, яны і дрыжаць перасталі. Сяргей Іванавіч адчуў дужасць ва ўсім целе. Вядома, не тую, што была некалі. Але прыемную.

— Мне трэба адсюль выбрацца,— сказаў ён уголас, каб было весялей, каб падбадзёрыць сябе.

Ён пашукаў вачамі дзверы. На яго здзіўленне, дзвярэй не было.

«Але ж я неяк сюды трапіў,— падумаў ён.— Ды і дзеці прыходзілі і выходзілі адсюль праз дзверы. Значыць, яны ёсць. Проста я не бачу іх. Яны, мабыць, добра замаскіраваныя».

Ён пайшоў паўз сцяну, шукаючы дзверы, абмацваючы кожную няроўнасць, кожны выступ. Нейкая ніша, падобная на камін, з адтулінай-комінам уверсе, прыцягнула ягоную ўвагу. Ён стаў абмацваць кожную цаглінку, кожны камень, кожную дужку і раптам пачуў, як задняя сцяна нішы памалу адступае перад ім.

Па той бок нішы аказаўся вялікаваты пакой з чорнай трубой і дзіркай у высокай столі. Ні вокан, ні дзвярэй у пакоі ці скляпенні не было. Сяргей Іванавіч вярнуўся назад, зачыніў патаемныя дзверы. Паспрабаваў яшчэ раз адчыніць і зачыніць іх, каб не забыцца, у якой паслядоўнасці трэба дзейнічаць.

Падарожжа і гэтае закрыванне і адкрыванне дзвярэй адняло ў яго неакрэплыя сілы. Ён дайшоў да тапчана, прысеў, пакпіў у думках з сябе: «Зусім знясілеў, цыркач, зусім, а хваліўся некалі, што табе сам чорт не сват...»

У ягоным сховішчы было дужа ціха. Можа, ён аглух, таму не чуе гукаў, якія існуюць побач з ім. Сяргей Іванавіч заціснуў далонямі вушы і рэзка адняў. Зрабіў так некалькі разоў.

Во дзіва! Цяпер да ягонага слыху сапраўды данеслася лёгкае шорганне за сцяной. Потым у ёй паявілася трэшчына. Яна пашырэла, і тады ў ягонае сховішча ўвайшла жанчына, старэйшая за яго, высокая і кашчавая, з добрым тварам. Сяргей Іванавіч адразу прыгадаў, што бачыў ужо гэты твар, калі прыходзіў на кароткія імгненні да прытомнасці.

— Не змаркоціўся тут на адзіноце, Сяргей Іванавіч? — спыталася жанчына.

Цяпер у Сяргея Іванавіча не засталося сумнення, што гэта і ёсць Кешкава бабуля Алімпіяда Захараўна.

— А Інакенцій Лістападзенка дома? — спытаўся ён дрыготкім голасам, які ўсхваляваў Алімпіяду Захараўну.

— Што з ім? — спалохалася бабуля.

— Яны пайшлі ўзрываць склад,— адказаў Сяргей Іванавіч.— Іх трэба спыніць...

— Хто яшчэ быў з ім?..

— Тры хлопчыкі і дзяўчынка...

— Бялявенькая?.. Гусця?..

— Можа, і Гусця... Аднаго хлапчука звалі Данілка...

— Так я і думала...

— Яшчэ адзін з зялёнымі валасамі...

— Лёва!.. Хто ж яшчэ...

— І кругленькі такі, культурны хлопчык... Што ж вы седзіцё?.. Яны могуць трапіць у бяду...

— Яны ўжо ўзарвалі склад...

— А самі?

— Каб жа я ведала...

— Вам трэба пайсці да іхніх бацькоў,— трохі падумаўшы, параіў Сяргей Іванавіч.— Разам хутчэй нешта можна прыдумаць...

Алімпіяда Захараўна слаба махнула рукой.

— Усё магу зразумець... Аднаго не разумею, дзе яны раздабылі ўзрыўчатку?..

## 7

Узняўшы хмару вады і пырскаў, бронетранспарцёр шугануў у вадасховішча.

Кешка надзіва выразна бачыў гэты вадзяны фантан пырскаў. Ён чакаў, што вада хлыне праз усе шчыліны і пропразі ў кабіну, але туды трапілі толькі халодныя пырскі. Насуперак усім законам фізікі, бронетранспарцёр не тое што не патануў, не тое што нейкім цудам трымаўся на вадзе, дык ён яшчэ спакойненька плыў да таго берага, разразаючы зыбкае люстэрка вады магутным сталёвым корпусам. Цяпер толькі Кешка здагадаўся і закрычаў што было моцы:

— Данілка! Данілка! Ура! Ура! Гэта ж амфібія! Амфібія!

Данілка расплюшчыў вочы і таксама закрычаў ад радасці і шчасця, што яны плывуць сабе па вадасховішчы на бронетранспарцёры, як на драўлянай лодцы.

Нешта крычалі і Лёва з Гусцяй, малацілі па абшыўцы кулакамі. Яны ўсе чацвёра як здурнелі...

Дзіва што здурнееш! Такая нечаканая ўдача! Як у казцы! А яшчэ кажуць, што ў казцы адны выдумкі. Раскажы каму, як яны ўцякалі на бронетранспарцёры, як ён бег па прамой і шугануў у ваду, але не патануў, а паплыў дык хто табе паверыць? Ніхто!.. Але ж было такое, было, і чацвёра схлусіць не могуць...

Бронетранспарцёр даплыў да другога берага, бязлітасна падмяў пад сябе густы чарот, няўклюдна, нібы тая чарапаха, вылез на адхонны бераг, разы тры чмыхнуў, прабег метраў, можа, дзесяць і, ткнуўшыся тупым носам у вялізны, апалены маланкамі дубовы камель, заглух.

Лёва першы саскочыў на зямлю, адчыніў дзверцы кабіны, накінуўся на Кешку з Данілкам:

— Вы што, звар'яцелі?.. Мне вашы жартачкі ў пячонках сядзяць.

— А пячонка дзе сядзіць,— пажартаваў Данілка,— у пятках?

— Давайце ўцякаць хутчэй адсюль,— загадаў Кешка.

— Хлопчыкі! Хлопчыкі! — крычала ў кузаве Гусця.— Максімка на плаціне... Максімка!.. Максімка!.. Бяжы сюды!..

Задыханы, падбег Максімка.

— Уф ты! — захоплена выгукнуў ён.— Дужа быстры...

Гусця саскочыла на зямлю, абняла Максімку, і яны заскакалі, як тыя маладыя казляняты. Да іх далучыліся і Данілка з Лёвам.

Быстры-трысты, трысты-брысты
Праваронілі фашысты,
Праваронілі фашысты
Трысты-брысты, брысты-трысты.
Трулі, трулі, тру-ля-ля,
Нам ура! Ура! Ура!..

Яны былі бясконца шчаслівыя ад таго, што іхняя прыгода закончылася гэтак слаўна, а таму зусім забыліся на небяспеку. А яна даганяла іх па пятах.

...Пачуўшы страляніну, да брамы прыбеглі камендант, начальнік аховы з нарадам дзяжурных салдат, афіцэры калоны і многія з салдат, што ехалі на фронт.

— Што здарылася? — спытаўся камендант, пазіраючы на разгубленых вадзіцеляў баявых машын.— Партызаны?..

Салдаты загаманілі, перабіваючы адзін аднаго, так што немагчыма было зразумець, што здарылася.

— Маўчаць! — крыкнуў начальнік аховы.— Хансман, дакладвайце...

Каржакаваты, у гадах ахоўнік, зрабіў два крокі, запыніўся, не спускаючы вачэй з начальства, адрапартаваў:

— Адна з баявых машын раптам сарвалася з месца, выбегла за браму і памчалася ў паўночна-заходнім кірунку...

— Сама памчалася? — іранічна запытаўся камендант базы.

— Яволь... Так точна, сама...

— Дзе яе вадзіцель? — спытаўся камендант, мабыць, падумаўшы, што вадзіцеля сярод салдат няма.

Голы па пояс таўсцячок выкаўзнуў з натоўпу.

— Вадзіцель — я...

— Што за маскарад? — узлаваўся камендант.— Дзе твая форма?

— Дазвольце далажыць? Форма ў машыне... Я спрабаваў спыніць яе, але яна пёрла, як шалёная. Мяне ледзьве выратавалі...

Камендант змераў фельдфебеля з ног да галавы.

— Машыны самі не ходзяць, ідыёт ты гэтакі... Спалохаўся!..

— Ганс — не баязлівец,— заступіўся за свайго салдата фельдфебель.

Камендант змераў фельдфебеля з ног да галавы.

— Тады растлумачце, як магла машына скрануцца з месца, набраць хуткасць і пайсці?..

— Нехта староннi знаходзiўся на базе, ён i ўгнаў машыну...

— Гаўптман,— звярнуўся камендант да старэйшага калоны,— зараз жа арганiзуйце пагоню за ўкрадзеным бронетранспарцёрам. Узначалiце яе самi. Астатнiя — за мной. Трэба агледзець базу.

Пакiнуўшы каля брамы ахову, камендант павёў усiх, хто знаходзiўся тут, аглядаць ягоныя ўладаннi.

...Кешка першы ўбачыў, як на пагорку за вадасховiшчам узнiк бронетранспарцёр.

— Фашысты! — што ёсць сiлы крыкнуў ён.— У лес!.. Ён першы кiнуўся ў малады хвойнiк.

Бронетранспарцёр, выскачыўшы на пагорак i, мабыць, угледзеўшы сваю баявую машыну пад дубам, на ўсякi выпадак сцебануў з кулямёта па ўзлеску разрыўнымi кулямi. Кранаючыся галiнак, кулi рвалiся i нарабiлi такога ляскату, што дзецi без аглядкi беглi, можа, хвiлiн пятнаццаць, пакуль фашысты церабiлi з кулямёта ўзлесак.

Нарэшце кулямётная страляніна аціхла. Мусiць, фашысты адважылiся падысцi да бронетранспарцёра, якi спакойненька стаяў сабе, упёршыся носам у камель дуба. Кешка спынiўся, паваліўся на густы брусніцнік з гронкамi спелых ужо ягад. Побач пападалi на зямлю i астатнiя. Аддыхвалiся аж са свiстам у натруджаных грудзях.

— Савiк, а як ты апынуўся на плацiне? — спытаўся Кешка, калi дыханне ўлеглася, а зморанае цела зноў падужэла.— Ты ж павiнен быў чакаць нас каля калодзежа...

З аднаго боку, Кешка меў рацыю: калi цябе паставiлi на пасту, дык самавольна пакiдаць яго ты не маеш права. З другога боку, Кешка i сам толькi цяпер успомнiў, што пакiдаў Максiмку вартаваць выйсце з калодзежа. Так што ў яго не было нiякага права папракаць Максiмку за тое, што ён кiнуў свой пост.

— Дык жа мяне Зыль-Барадыль схапiў,— пачаў апраўдвацца Максiмка.— Я толькi тады i вырваўся, калi ў манастыры бабахнула.

— Зыль-Барадыль? — насцярожыўся Кешка.— А чаго ён там апынуўся?

— Ну, вядома чаго,— падзівіўся Максімка з Кешкавай нездагадлівасці.— Хацеў дачакацца, калі вы вылезеце з калодзежа...

— Нас? — абурыўся Данілка.— Гэта ты прабалбатаўся, што мы палезлі ў калодзеж? Можа, яшчэ сказаў, чаго палезлі?..

— Хіба я дурны,— пакрыўдзіўся Максімка.— Ён падышоў і загадаў: кліч, кажа, свайго Данілку, каб хутчэй вылазіў з калодзежа. Што я, па-твойму, павінен быў рабіць? Я стаў клікаць цябе, бо ты ўсё роўна не адгукнуўся б. Тады ён кажа: пачакаем, недзе дзенецца, вылезе. А тут як бабахне! Я наўцёкі. Гляджу, нейкая машына прэ. Проста ў ваду. Думаў, фашысты здурэлі. Аж гэта вы...

Максімкаў расказ выклікаў моцную заклапочанасць у Кешкі.

— Цяпер нам заставацца ў мястэчку ніводнага дня нельга,— падвёў ён рыску.

— Правільна,— падтрымаў яго Данілка.— Рызыкаваць не варта. Самае найлепшае, запрэгчы Грома і — у Данькаўскі лес. Не можа быць, каб мы не знайшлі там партызан.

— А ты запрагаць каня ўмееш? — спытаўся Лёва, які ўмеў рабіць усё на свеце, а запрагаць каня так і не навучыўся.

— Цябе не папрашу,— агрызнуўся Данілка.

— А кіраваць канём умееш? — не адставаў Лёва.— Я спадзяюся, ты разумееш, што Гром не проста конь і ездзілі на ім не абы-хто, а наезнікі, жакеі. Ты хіба жакей?..

Сказаць папраўдзе, дык Лёву не так ужо і непакоіла, умее Данілка запрагаць каня ці не ўмее, зможа кіраваць Громам ці не зможа. Лёва пабойваўся глухога Данькаўскага лесу і тых баёў, у якіх абавязкова давядзецца ўдзельнічаць. Не, Лёва не быў баязліўцам. Не пабаяўся ж ён лезці ў калодзеж, ставіць міну пад носам у фашыстаў. Але ж гэта зусім не тое, што ваяваць у партызанах. Лёва не адзін раз у думках ставіў сябе на месца чапаеўскага ардынарца Пецькі, калі белыя пайшлі ў псіхічную атаку. А ці вытрымаў бы ён, Лёва Гутман, вось такую псіхічную атаку? І, паклаўшы, як кажуць, руку на сэрца, вымушаны быў сам сабе прызнацца, што не вытрымаў бы. Лёва загадзя баяўся гэтага і гатоў быў выконваць любыя заданні, толькі не ўдзельнічаць вось у такіх баях.

Зусім па-іншаму аднёсся да прапановы Данілкі Максімка. Данілку, Лёву, ды і Кешку з лёгкім сэрцам можна пайсці ў партызаны. Ім што? Яны самі па сабе. У іх бацькоў няма. А што рабіць Максімку, якому бацька загадаў быць за гаспадара? Гэта ж не жартачкі, вось так проста ўзяць і не прыйсці дамоў! Мама з гора зойдзецца. А тата хіба пахваліць, калі вернецца дамоў?

У Максімкі сэрца разрывалася на часткі. Разумеў, што заставацца ў мястэчку нельга, але не было як і пакідаць яго.

А Кешка тым часам таксама задумаўся. Але з іншай прычыны. Дзе ў тым Данькаўскім лесе шукаць партызан? Не сядзяць жа яны пад кожным кустом. Ну, а калі і знойдзеш? Ці прымуць іх партызаны? А што, калі скажуць вяртацца дамоў? Забяруць зброю і адправяць з лесу. Каму захочацца важдацца з пяцярымі школьнікамі? Іншая справа, каб Сяргей Іванавіч быў сапраўдным палкоўнікам. Ён мог бы і загадаць, каб іх прынялі ў партызаны. А хто паслухае клоуна, нават калі ён і валодае гіпнозам? Ніхто!..

Кешкавы прычыны былі, згадзіцеся, вельмі нават важкія. Але і ён разумеў, што цяпер адзін ратунак у іх — ехаць у Данькаўскі лес.

Што ж датычыць Гусці, дык яна вельмі ўзрадавалася, што паедзе да партызан. Не можа быць, каб там не было школьнікаў. А калі так, дык, напэўна, будзе і школа, і піянерскія атрады. Вось здорава!..

Канечне, Гусця шкадавала бацьку, хоць ён і пайшоў служыць фашыстам, хоць і прывёў у хату злую мачахушпіёнку. З ёю, Гусцяй, тата быў ласкавы і добры.

Раздумваючы над тым, чаго тата пайшоў служыць фашыстам, Гусця знайшла яму апраўданне. Ва ўсім вінавата мачаха. Гэта яна чымсьці запалохала тату. Прымусіла яго ісці на службу да яе гаспадароў. Гусця спадзявалася, што партызаны дапамогуць ёй вызваліць тату ад мачахі-шпіёнкі.

— Хлопчыкі,— звярнулася яна да сяброў,— я вельмі рада, вельмі рада, што мы паедзем да партызан. Толькі, хлопчыкі, я павінна збегаць дамоў па піянерскі гальштук. Няёмка ехаць да партызан без піянерскага гальштука.

Кешка з Данілкам прыкусілі языкі. Яны якраз і не збіраліся браць з сабой у лес Гусцю. А цяпер як ты яе не возьмеш, калі яна піянерскі гальштук захавала і хоча з сабой узяць.

— Добра, бяжы,— адразу пагадзіўся Кешка.— Толькі хутчэй вяртайся. Мы будзем чакаць цябе ў Страхавым скляпенні...

— Але ж я не ведаю, дзе яно,— сказала Гусця.

— Можна, я яе правяду,— папрасіўся Максімка.— Мы асцярожненька.

— Валяйце,— пагадзіўся Кешка.

## 8

Навучаны горкім вопытам Зыль-Барадыль цяпер не спяшаўся да Крэсендорфа. «Спачатку,— думаў ён,— трэба давесці справу да канца — застукаць чырвоных падпольшчыкаў на месцы злачынства, а потым ужо заявіцца да гаўптштурмфюрэра і патрабаваць плату».

Хто-небудзь іншы, больш здагадлівы і разумнейшы, вядома ж, звязаў бы разрозненыя падзеі ў адзін ланцуг, і тады вакол Кешкі і ягонай баявой групы немінуча захліснулася б мёртвая пятля. Зыль-Барадыль на такія высновы не быў здольны. Адна справа красці коней, другая — лавіць людзей, якія не дурнейшыя, а разумнейшыя за цябе.

Калі Зыль-Барадыль убачыў, што Максімка знік, ён не дужа і засмуціўся. Куды гэты жэўжык дзенецца! Хай сабе хоць трое сутак у хаце праседзіць, усё роўна захоча нос на вуліцу высунуць. А як высуне, дык і трапіць у рукі.

Перш за ўсё Зыль-Барадыль задумаў узяцца за Чупрынца. Даніла гэты добры вісус. А што, калі ён памагаў партызанам пранікнуць падземным ходам за манастырскую сцяну?..

Зыль-Барадыль падышоў да калодзежа, зазірнуў у чорную прорву. Глыбока, як у люстэрку, блішчалі два яркія агеньчыкі, нібы нябесныя зоркі. Зыль-Барадыль знайшоў каменьчык, кінуў у калодзеж. Доўга нічога не было чуваць. Потым выпырхнуў з калодзежа гулкі ўсплёск.

«Ну і глыбіня! — падумаў Зыль-Барадыль.— Наўрад, каб хто адважыўся лезці ў гэты калодзеж. Галаву можна скруціць».

Але ён не адступіўся, а пастараўся разгледзець, ці не ёсць у калодзежы якая лесвіца. Не, лесвіцы нібы і не было. Праўда, да зруба былі прыбіты нейкія плашкі і жэрдкі, але яны зусім не былі падобны на лесвіцу. Так, прынамсі, здалося Зылю-Барадылю.

Трызніцца мне нешта,— падумаў ён,— і няйначай з перапою. Хапіў учора лішку, таму галава трашчыць, а ў вачах лесвіцы мрояцца. Ну іх! Але чаго усё ж крычаў у калодзеж гэты пацан?.. Сам жа чуў, як ён клікаў Данілку...»

І тут Зылю-Барадылю стукнула ў галаву вельмі простая здагадка: хлапчук, што так спрытна ўцёк ад яго, няйначай блазнаваў, забаўляўся, крычаў у калодзеж, каб пачуць рэха. Але як праверыць такую здагадку? Вельмі проста, рашыў Зыль-Барадыль, трэба збегаць да Данілы Чупрынца, калі той дома, значыць, ніхто ў калодзеж не лазіў.

Данілкі дома не было. Па хаце ўсхвалявана паходжваў дзед Нічыпар, а на лаўцы сядзела вартаўніца з могілак Ерафеіха. Зыль-Барадыль коса зірнуў на Ерафеіху, злосна падумаўшы: «А гэтай старой качарзе што тут спатрэбілася?»

— А дзе гаспадар, Даніла Чупрынец? — спытаўся ён у Нічыпара.

— Пабег глядзець, як гарыць у манастыры нямецкі склад,— адказаў Нічыпар.

— Дык ён што, дома ўвесь час быў? — зноў спытаўся Зыль-Барадыль.

— А толькі перад табой пабег,— адказаў Нічыпар.— Я яму казаў, каб пачакаў, не ляцеў, а ён не паслухаўся. А ты, пан паліцэйскі, чаму не там? Можа, немцам твая дапамога вельмі патрэбная...

— Ну, гэта не твая справа,— крыкнуў на дзеда паліцэйскі.

Апынуўшыся на вуліцы, Зыль-Барадыль задумаўся. Мо і праўда, трэба зайсці ў паліцэйскае ўпраўленне. Раптам ён там патрэбны.

Да паліцэйскага ўпраўлення найбліжэй было прайсці агародамі. Праз двор Зыль-Барадыль выйшаў на агарод. Там расла яблыня. Чырвоныя сакавітыя яблыкі так і прасіліся ў руку. Зыль-Барадыль страсянуў яблыню. З яе градам пасыпаліся яблыкі. Ён выбраў два. Адзін паклаў у кішэню, другі пачаў есці.

Ягоную ўвагу прыкавалі двое дзяцей, якія, відаць, ад некага хаваліся. Яны беглі, нізка прыгнуўшыся да зямлі, часта спыняліся і азіраліся, ці не сочыць хто за імі.

Зыль-Барадыль прыгледзеўся лепей і ледзь стрымаўся, каб не закрычаць ад радасці. У хлапчуку ён пазнаў таго

самага жэўжыка, што абдурыў яго ля калодзежа, а ў дзяўчынцы — дачку бургамістра Гусцю.

— Ну і ну? — сказаў сабе Зыль-Барадыль.— Вельмі нават цікава...

Зыль-Барадыль таксама прыгнуўся і заспяшаўся ўслед за Максімам і Гусцяй. Доўга ісці яму не давялося. Неўзабаве дзеці пралезлі праз дзірку ў плоце на Клемаў агарод. Гусця палезла па драбіне ў мансарду, а хлопчык застаўся чакаць яе пад дрывотнікам.

— Зусім цікава,— сказаў сабе Зыль-Барадыль і стаў цярпліва чакаць, што далей будзе.

## 9

Па драбінах Гусця ўзабралася на страху дрывотніка, адчыніла акно ў мансарду і скокнула ў пакой. Зараз яна дастане піянерскі гальштук, вылезе праз акно на страху, і яны дадуць драла ў Страхава скляпенне. А там і ў партызаны...

— Сядай і расказвай,— раптам даляцеў да Максімкі Клемаў голас.— Дзе ты была?..

Максімка, хоць і баяўся, што яго могуць убачыць, падняўся па драбінах прыступкі на тры, каб лепей чуць, пра што там пойдзе гаворка. Нешта моцна затрывожыла яго.

— Гуляла,— адказала на бацькава пытанне Гусця.

— З кім ты гуляла і што вы нарабілі, гуляючы такім чынам? — У бацькі быў дужа строгі голас.

— Нічога не нарабіла,— апраўдвалася Гусця.

— Мы з Антанінай Паўлаўнай усё ведаем,— сказаў бацька.— І пра валёнкі, і пра Грома, і пра ўзрыў нямецкай базы...

— Я нічога не ведаю,— стаяла на сваім Гусця.

— Не хлусі!.. Я не вучыў цябе хлусіць,— прыкрыкнуў на яе бацька.

— Я не хлушу...

— Гусценька,— пачуўся голас мачахі,— ты ўжо дарослая дзяўчынка і павінна разумець, што ваша гэтая гульня ў вайну можа нарабіць непапраўнай шкоды. Дзе зараз хаваюцца твае сябры?..

— У мяне няма сяброў,— адазвалася Гусця.

— Ну, хопіць! — рашуча сказаў бацька.— У нас няма часу.

Максімка саскочыў з лесвічкі, кінуўся праз агароды да могілак. Наўздагон пашыбаваў і Зыль-Барадыль. Па-

праўдзе, дык угнацца за Максімкам было не дужа лёгка. Ды што ні зробіш, калі трэба апраўдваць сабачую службу, а заадно і ратаваць сваё жыццё.

Максімка сігануў у роў перад магілкамі. Зыль-Барадыль не кінуўся за ім на злом галавы. Ён прытаіўся за кустом крушыны, стаў цікаваць, у які бок пабяжыць Максімка?

На здзіўленне Зыля-Барадыля, Максімка выбег на той бераг, як тое дурное казляня, і шмыгануў у кусты па-над стромай, аж у паліцэйскага пабеглі па спіне дрыжыкі: над кручай вілася такая вузенькая сцежачка, што на яе боязна ступіць. Максімка тым часам беспераашкодна прабег сцежку, схаваўся ў царкве.

«Бач ты, жэўжык,— падумаў Зыль-Барадыль.— Хоча ў царкве пераседзець. Дык я цябе зараз заганю на званіцу і прымушу скакаць адтуль. Гэтак будзе лепей — ніякіх улік».

Зыль-Барадыль, не спяшаючыся, перайшоў на той бок рова. Хацеў пайсці ў абход, але паленаваўся. Падумаў: «Калі гэты пацан прайшоў па сцежцы, дык я тым больш...»

А Максімка, як і дамаўляліся, кінуўся ў Страхава скляпенне. Данілка з Лёвам не трацілі дарэмна часу. Пад наглядам Кешкі яны вучыліся збіраць і разбіраць вінтовачны затвор.

— Хлопцы! Гусцю схапілі! — закрычаў Максімка нямым голасам.

— Дзе?..

— Хто?..

— Калі?..

— Дома... Клем з мачахай... Зараз павязуць у паліцыю. Я ўсё бачыў. Яны яе звязалі, а рот хусткай заткнулі...

— Давай, брашы па парадку,— загадаў Кешка, які не паверыў ніводнаму слову Максімкі.— Сядай...

Кешка падштурхнуў Максімку да труны, на якой ляжалі тры гранаты і вінтоўка без затвора. Максімка аддыхаўся, толькі пачаў расказваць па парадку, як раптам твар у яго збялеў, а вочы зрабіліся па яблыку. І хлопцы пачулі, што за іх спінамі нехта шлёпнуўся на падлогу. Яны, як па камандзе, павярнуліся: тое шэрае, што звалілася са столі, няйначай праз дзірку ў ёй, раптам ператварылася ў паліцэйскага Зыля-Барадыля.

— Рукі ўгору! — сказаў паліцэйскі, наставіўшы на іх рулю вінтоўкі.

І тое, што Зыль-Барадыль зваліўся са столі, і тое, што ён трымаў вінтоўку напагатове, прымусіла ўсіх чатырох падняць рукі. Зыль-Барадыль адштурхнуў іх руляй вінтоўкі ад труны, убачыў на ёй гранаты і вінтоўку, злосна зашыпеў, як той Змей Гарыныч:

— А-а-а, піянерчыкі... Бальшавіцкія выкармышы!.. Папаліся, карасікі! Думалі мяне, Зылёва, абхітрыць?.. І ты, Чупрынец, з імі?.. Можа, яшчэ за галоўнага?.. Не зыркай, гадзянё. Твая песенька спета... На, трымай вяроўку...

Зыль-Барадыль кінуў пад ногі Данілку вяроўчыну.

— Навошта яна мне?..

— Будзеш вязаць іх.

— Не буду,— рашуча заявіў Данілка.

— Ну, тады вось гэты з зялёнымі валасамі звяжа,— Зыль-Барадыль паказаў руляй на Лёву.

— Дужа мне трэба,— агрызнуўся Лёва.

— Тады я вас па аднаму, як курапатак, буду страляць,— Зыль-Барадыль ляснуў затворам вінтоўкі.

— У цябе ў руках гадзюка,— раптам пачуўся глухі, як з падзямелля, голас.— Яна атрутная. Кідай яе! Яна хоча ўкусіць цябе. Кідай яе!

На здзіўленне дзяцей Зыль-Барадыль кінуў вінтоўку на падлогу. Цяпер дзеці ўбачылі некага ў чорным адзенні, які ішоў да паліцэйскага з выцягнутымі наперад рукамі.

— Працягні рукі,— сказаў чалавек у чорным.— Табе адзенуць на іх вянок. Ты хацеў мець такі вянок.

Зыль-Барадыль працягнуў рукі, чалавек у чорным падняў вяроўку з падлогі, звязаў ёю рукі паліцэйскага.

— Хлопчыкі, падыміце вечка труны,— голасам Сяргея Іванавіча сказаў чорны чалавек.

Цяпер усе ўбачылі, што ў Страхавым падзямеллі сапраўды стаіць Сяргей Іванавіч у кажуху.

Хлопчыкі ссунулі покрыўку. Сяргей Іванавіч загадаў паліцэйскаму залезці ў труну.

— Так будзе лепей,— сказаў ён.— Але ж які нягоднік!..

— Дзядзечка, вы яго загіпнатызавалі? — выказаў здагадку Лёва.

— Слабы тып, зусім бязвольны,— адказаў Сяргей Іванавіч.— Але я змарыўся... Як жа нам зрабіць, каб ён не вылез?..

— А мы да покрыўкі прымацуем гранату,— прапанаваў Лёва.— Калі пачне вылазіць, дык як бабахне!..

Сяргей Іванавіч задумаўся. Нешта не падабалася яму ў прапанове Лёвы.

— Пра нас саміх трэба падумаць,— сказаў ён.

— А мы падумалі ўжо,— адказаў Кешка.— Сёння ноччу махнём да партызан.

— Тады іншая справа,— пагадзіўся Сяргей Іванавіч і падышоў да труны.— Ачніся, няшчасны,— сказаў ён Зылю-Барадылю.— Ты прыйшоў, каб аддаць смерці дзяцей. Таму і сам заслугоўваеш смерці. Але мы не станем караць цябе. І ўсё ж мы вымушаны засцерагчы сябе ад тваёй подласці. Бачыш гэтыя гранаты? Мы прымацуем іх да покрыўкі труны. Калі ты надумаешся вылезці, яны заб'юць цябе. Таму ляжы і чакай. Раней, чым мы дабяромся да партызан, цябе ніхто не выручыць...

## 10

На самым прыканцы лета змрокі бываюць мяккія, нібы аксамітныя. Яны спакваля апускаліся на мястэчка. А на могілках ужо добра сцямнела.

Кешка з сябрамі і Сяргеем Іванавічам спыніліся на царкоўным цвінтары — каменным, вышчарбленым ад часу ганку з трыма прыступкамі. У мястэчку стралялі. Няйначай фашысты, якія ўсё яшчэ не маглі супакоіцца пасля таго, як узляцелі ў паветра іхнія базы. Стрэлы гэтыя цешылі хлапечыя сэрцы.

Неўзабаве вячэрні змрок адна за адной асвяцілі тры чырвоныя ракеты. І адразу замоўклі стрэлы. Над мястэчкам завісла пругкая цішыня. Стала чуваць, як ашалела стракочуць у траве конікі, а на званіцы ляніва буркаюць галубы.

— Дзе ж ваша хвалёная сіўка-бурка вешчая кавурка? — спытаўся Сяргей Іванавіч.

— Пайшлі,— сказаў Кешка, які пачуў у словах Сяргея Іванавіча недавер.

Гром стаяў у прыбудоўцы да царквы. Зрабіў яе некалі дзячок Халімон Ляцяга, які ўшчэнт рассварыўся з веляшковіцкім папом і перайшоў на службу да папа могільнікавай царквы, такога ж, як і дзяк, п'яніцы.

Прыбудоўка зарасла кустамі бэзу, язміну, так што прабрацца да яе было зусім не проста. Кешка якраз гэта

і ўлічыў, калі ставіў туды Грома. Каму захочацца лезці праз гушчэчу ў закінутую прыбудоўку?

Кешка зайшоў у прыбудоўку і знямеў ад здзіўлення. Грома ў ёй не было. Стаяў цэбар з вадой, ляжала прывяленая трава. А Грома не было.

— Што будзем рабіць? — спытаўся Данілка.

— Пойдзем у Данькаўскі лес пеша,— адказаў Кешка.

— А зброя тут застанецца,— нагадаў Максімка.

— Чаму тут? Колькі здолеем — возьмем,— адказаў Кешка.

Ім не хацелася вяртацца ў царкву. Прасцей было залезці ў сховішча праз склеп паноў Струмецкіх. Яны памалу — бо Сяргей Іванавіч ледзьве перастаўляў ногі — пайшлі да сцежкі, што вяла да таго склепа. Выйшлі на сцежку і аслупянелі. Кінуліся пад кусты. Адтуль сталі цікаваць, што робіцца на могілках.

А рабілася там нешта несусветнае. Нібы ў той казцы пра шаўца Ярошку. На дарозе між двума радамі надмагільных крыжоў стаяла... не, не тройка, а павозка з канём. На суку каржакаватай сасны вісеў ліхтар. У яго цьмяным святле гойсалі нейкія постаці...

— Хлопцы, гэта — чэрці,— горача зашаптаў Максімка.— Якраз стаяць на тым месцы, дзе схапілі Ярошку.

Кешка штурхануў яго пад бок, каб маўчаў.

— Мы з Данілкам у разведку, а вы чакайце тут,— сказаў ён.

— Нізавошта,— запярэчыў Максімка.

— І я з вамі,— сказаў Лёва.

Учатырох яны папаўзлі да павозкі.

— Глянь,— зашаптаў Максімка Данілку.— Твой кватарант, дзед Нічыпар...

Данілка і сам разгледзеў, што гэта дзед Нічыпар. Але чаго ён тут? Не паспелі хлопцы ачомацца ад гэтага дзіва, як выявілася другое. Уласнай персонай з цемры выйшаў Гусцін бацька, бургамістр Клем. За ім двое паліцэйскіх неслі станкавы кулямёт.

Кешка ледзь не завыў ад роспачы. Значыць, Гусця выдала бацьку ягонае сховішча! Што цяпер рабіць? Эх, каб былі гранаты!..

— Татка!.. Татка! — раптам залямантаваў Максімка, ускочыў і кінуўся туды, дзе паліцэйскія грузілі станкавы кулямёт на павозку.

Данілка з Кешкам не паспелі ўтрымаць яго і цяпер не ведалі, што ім рабіць.

Тым часам Максімка падскочыў да высокага чалавека ў фрэнчы з накладнымі кішэнямі, сінім галіфэ і хромавых ботах. Той падхапіў яго на рукі, стаў цалаваць.

Кешка хацеў даць каманду наўцёкі, ды тут адкуль ні вазьміся ягоная бабуля падышла да Максімавага бацькі і спытала ў Максімкі:

— А мой верхаводзец, дзе?.. От я яму ўсыплю...

Цяпер ужо нічога нельга было зразумець. Кешка разоў пяць праціраў вочы, а малюнак усё адзін і той жа.

— Ану, хлопцы, вылазьце,— весела гукнуў Клем.

— Вось я іх зараз дубцом адтуль выкуру,— паабяцала бабуля.

— Хлопцы, выходзьце,— закрычаў і Максімка.

Кешка першы падняўся, пайшоў да бабулі. Яму спачатку здалося, што з цемры выйшаў ягоны бацька, Платон Лістападзенка, але гэта быў незнаёмы камандзір з трыма кубікамі ў пятліцах. Кешка падумаў, што няйначай скончылася вайна, раз тут аб'явіліся чырвоныя камандзіры.

— Дык гэта ты, Інакенцій Лістападзенка,— звярнуўся да Кешкі Клем,— агледзеў нашы хованкі са зброяй? Не шкодзіла б табе ўсыпаць папружкай за гэта, але ўзрыў бензасховішча ўсё спісаў з рахунку... Так што, дзякуй табе. Вы пачалі, а мы, падпольшчыкі і партызаны, закончылі вызваленне Веляшковіч ад фашыстаў. Цяпер вам нікуды не трэба ехаць.

— А што са здраднікамі рабіць? — спытаўся Лёва.— Там адзін у труне ляжыць...

— А здраднікаў на ўсе Веляшковічы — адзін, ды і той канакрад Зылёў.

— Дык гэта ён і ляжыць у труне,— аб'явіў Лёва.— Яго Сяргей Іванавіч загіпнатызаваў, а мы да труны гранаты прыладзілі. Нікуды не ўцячэ...

Тут увагу ўсіх прыцягнуў тупат конскіх капытоў. Глянулі хлопчыкі — Гром! А на ім сам старшыня пасялковага Савета таварыш Якімчык.

— Дзе тут нашы героі? — спытаўся ён.

— Тут нашы героі,— адказаў Клем.

Таварыш Якімчык саскочыў з каня, паціснуў кожнаму руку. І Сяргею Іванавічу, які якраз падышоў у гэты час.

— Гэта вам трэба дзякаваць,— сказаў Сяргей Іванавіч таварышу Якімчыку.— Пасля вайны запрашаю вас у цырк на сваё выступленне...

— Чаму пасля вайны? — спытаўся таварыш Якімчык.— Прызначаю вас кіраўніком Веляшковіцкага партызанскага цырка.

— Вы лічыце, што фашысты больш ніколі не ўварвуцца ў Веляшковічы?

— Не! Ніколі!

— Значыць, вайне канец? — уздыхнулі Кешка з Данілкам.

— А вайне не канец,— адказаў таварыш Якімчык.— Толькі цяпер пачынаецца.

— Ура! — закрычалі Кешка з Данілкам.

— Во дурненькія,— паківала галавой бабуля.— Вайна — гэта гора...

— Вось што, хлопцы,— сказаў таварыш Якімчык.— Вайна будзе працягвацца. Але вы павінны вучыцца. З верасня мы адкрываем партызанскую школу... Ды не вешайце насы. Будзе патрэба ў такіх адважных хлопцах, як вы,— паклічам...

*1985*

# ЗМЕСТ

**Асіпенка А.**

А90 Збор твораў. У 3 т. Т. 2. Жыта; Пяцёрка адважных: Аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 350 с., [4] л. іл.

ISBN 5-340-00304-3.

Осипенко А. Собрание сочинений. Т. 2. «Жито»; «Пятерка отважных»: Повести.

У другі том Збору твораў увайшлі аповесці «Жыта», «Пяцёрка адважных». Тэме аднаўлення пасляваеннай беларускай вёскі прысвечана аповесць «Жыта». Аповесць «Пяцёрка адважных» — аб дзецях у ваеннае ліхалецце.

А $\frac{4702120201-111}{М\ 302(03)-89}$ 98—89 **ББК 84Бел7**

Литературно-художественное издание
ОСИПЕНКО
Александр Харитонович
СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ТРЕХ ТОМАХ
Том 2
Повести
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне
АСІПЕНКА
Аляксандр Харытонавіч
ЗБОР ТВОРАЎ
У ТРОХ ТАМАХ
Том 2
Аповесці

Рэдактар Г. В. Роліч. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Я. Ф. Харко.

ІБ № 3134

Здадзена ў набор 01.11.88. Падп. да друку 20.03.89. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,48+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 19,32. Ул.-выд. арк. 20,33. Тыраж 5600 экз. Зак. 1950. Цана 1 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.